# ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

## Выбраныя творы

Мінск
"Беларускі кнігазбор"
1997

## ВЯРТАННЕ З НЕМАТЫ

Чала я не хіліў прад сілай…

*В. Ластоўскі*

На цэлае паўстагоддзе імя Вацлава Ластоўскага было кінута ў бяспамяцтва.

Паплечнік Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, якія прысвяцілі яму свае вершы, гэты волат духу стаяў у самым цэнтры беларускага нацыянальнага руху, народжанага на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму 1905–1907 гадоў. На працягу амаль чвэрці стагоддзя імя Власта не сыходзіла са старонак перыядычнага друку (не кажучы пра «Нашу ніву», дзе з 1909 года ён працаваў адказным сакратаром). У тых больш чым трох сотнях публікацый Ластоўскі паўстае як выдатны пісьменнік, публіцыст, гісторык, мовазнаўца.

У нашай гісторыі Вацлаў Ластоўскі застанецца і як актыўны грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Ён з'яўляўся прэм'ер-міністрам абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі, быў адным з першых акадэмікаў Акадэміі навук Беларусі, працаваў яе неадменным сакратаром…

Параскіданыя па розных, мала даступных цяпер крыніцах шматлікія творы Вацлава Ластоўскага вяртаюцца сёння да чытача, вяртаюцца, каб заняць сваё пачэснае і законнае месца ў нашай літаратуры.

Вяртаецца з беспадстаўнага выгнання, з пакутнай нематы гвалтоўна адарваны ад нас верны сын Беларусі.

* * *

Глухой восенню 1883 года, 27 кастрычніка паводле старога стылю, а паводле новага 8 лістапада, у засценку Калеснікава, што на Дзісеншчыне, у сям'і Юстына і Ганны Ластоўскіх нарадзіўся сын Вацлаў. Вольнае і трохі галаднаватае маленства падлетка праляцела ў адным з найпрыгажэйшых куткоў Беларусі — на Віцебшчыне. У родным засценку Вацлава ў 1866 годзе стаяла ўсяго адна хата і жыло 14 душ.

Паводле веравызнання — усе каталікі. Жылі ў асноўным з раллі. Акром хлеба сям'ю Ластоўскіх падкормлівалі Дзісна-Дзісенка і бліжэйшыя азёры. У азёрных глыбінях, месцамі да 20 метраў, брохалі серабрыстыя, з залацістым адлівам ляшчы і падлешчыкі, цяжкія шчупакі, гуляла порсткая плотка і жвавыя акунькі, у цёплых старыцах задуменна грэліся тоўстыя ліні і язі, у халоднай крынічнай вадзе ці ў норах пад карчамі стаялі аліўкава-зялёныя ментузы. Доўгімі восеньскімі вечарамі незацугляныя ляснымі верхавінамі вольныя вятры гайдалі бяссонныя азёрныя і рачныя хвалі, а ў хаціне пад чаратоваю страхою патрэсквала лучына, спявала верацяно ці гудзеў калаўрот, і разам з доўгаю кудзеляю цягнуліся бясконцыя казкі азёрнага краю. Ці не ў бацькоўскай хаціне заслухаецца ўпершыню малы Вацік паданнямі пра волатаў, з якіх пачне пазней свой славуты, а цяпер зусім забыты, «Беларускі радавод».

Чары сівой даўніны і адначасова дзівосны чын нараджэння з чорных казюрак-літарак новага цуду — зразумелых (і не зусім) слоў — агарнулі ў маленстве дапытлівага лабатага падлетка. Першую навуку чытаць-складаць хлопчык лёгка адолеў дома, і бацькі аддалі сына ў бліжэйшае мястэчка Пагост. Дакладней, яно называлася Стары Пагост, дзе месціліся належныя ўстановы. У ліку іх значылася парафіяльная школа. Пасля заканчэння парафіяльнай школкі ў 1894 годзе здольны падлетак спрабаваў, па няпэўных звестках, атрымаць адукацыю ў Дзісенскай павятовай вучэльні. Ці скончыў яе, — невядома. Юнацтва Ластоўскага праглядаецца пункцірна і непаслядоўна: хлопчык на паслугах у адной з віленскіх вінных крамак, дзе атрутным смогам вісеў цыгарэтны і спірытусавы чад, у якім плавалі разнамоўныя мацюкі падпітых кліентаў; канцылярыст нейкай казённай установы ў Шаўлях… Але да ўсяго гэтага душа аніяк не гарнулася. Па-ранейшаму вабіла навука. Юнак дапяў да Пецярбурга — найбуйнейшага культурнага асяродка Расійскай імперыі пачатку XX стагоддзя, дзе ўладкаваўся бібліятэкарам прыватнай студэнцкай бібліятэкі, адначасова крадком зазіраючы ў аўдыторыі універсітэта паслухаць лекцыі славутых прафесараў. Наведваўся «зайцам», бо належнай капейчыны, каб плаціць за універсітэцкую адукацыю, не меў.

Пэўнымі застаюцца два факты: у 1902 годзе дзевятнаццацігадовы юнак стаў сябрам Польскай сацыялістычнай партыі Літвы і Беларусі, а налета, у 1903 годзе, Вацлаў узяў шлюб з Марыяй Іваноўскай (Іванаўскайтэ), пазней вядомай пад агульным са старэйшай сястрой Зосяй псеўданімам летувіскай пісьменніцай Лаздзіну Пяледай. Ішоў ёй тады трыццаць першы год, і для дваццацігадовага мужа, за плячыма якога засталося нялёгкае маленства, што прайшло ў пошуках асветы і хлеба, яна сталася аднačасова нібы другой маці. Марыя таксама працавала ў Пецярбургу, у чытальні польскіх сацыялістаў, зарабляючы ў асноўным на хлеб як швачка. Нейкі час маладыя жылі на жончынай радзіме ў мястэчку Парагяй (поўнач Летувы). Пажыў Вацлаў і ў Рызе.

Там у 1906 годзе спрабаваў здаць экзамены на атэстат сталасці, аднак, паводле ўласных слоў, «зрэзаўся» на рускай мове. Рыжская няўдача паклала канец безвыніковым спробам атрымаць пацверджанне сваім ведам у выглядзе дыплома ці хоць нейкага атэстата. Хлопец моўчкі і зацята працягвае паглыбляць веды нястомнай самаадукацыяй.

Зрэшты, у маладыя гады адбылася яшчэ адна, на першы погляд малапрыкметная, падзея ў лёсе няўрымслівага маладзёна. Як нараджаецца паэт, мастак ці музыка? Народзіны духоўнага шмат у чым застаюцца таямніцаю, калі на няўлоўны нябесны покліч адгукаецца людская душа. Таямніцаю засталося нараджэнне Ластоўскага-філолага. Мо яно паўстала ад безнадзейнасці прабіцца да універсітэцкай крыніцы ведаў, каб наталіць імі прагную душу? Душу, якая з-па-над халоднай Нявы ды пецярбургскіх камяніц па-маладому ўтрапёна крыляла ў думках на азёрную, рачную, сапраўды сінявокую радзіму… Ад 1902 года Вацлаў пачынае занатоўваць «цікавыя» словы. Напачатку запісвае іх для сябе самога, бо вельмі ж «асабіста цікава было слова само па сабе».

Улюбёнасць у роднае слова паспрыяе пераходу Ластоўскага з Польскай сацыялістычнай партыі Літвы і Беларусі ў Беларускую сацыялістычную грамаду. Шэрагі яе, не сакрэт, налічвалі няшмат, таму сам факт пераходу знамянальны. Здзейсніўся ён у 1906 годзе, у год «рыжскай няўдачы». Замест неатрыманага атэстата сталасці Вацлаў займеў акрэсленае палітычнае аблічча. Праўда, сябрам БСГ Ластоўскі прабыў усяго два гады, аднак свайму крэда — служэнню беларускаму народу палітычнымі, культурнымі ці іншымі шля- хамі — не здрадзіў да апошніх дзён.

Сяброўства ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе вырашыла ўвесь далейшы лёс Ластоўскага. Ян і Антон Луцкевічы, адны з заснавальнікаў Грамады, адначасова ўдзельнічалі ў рэдагаванні «Нашай нівы». Афіцыйным выдаўцом быў віленскі мешчанін Аляксандр Уласаў. Магчыма, ён і запрасіў Вацлава на працу ў рэдакцыю. Запросіны выглядалі хутчэй авансам. Бо што ўяўляў сабою канторшчык таварнай станцыі ў Рызе, калі сонечным сакавіцкім днём 1909 года кіраваўся ў Вільню? Паводле ўласнага прызнання, «акром некалькіх, даволі няскладных, пісьменніцкіх сваіх спроб і хаатычных імкненняў, не меў яшчэ тады за сабою нічога».

Кіпучая энергія Ластоўскага шукала выйсця. Ён з’явіўся ў старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага надвячоркам і адразу падаўся на Віленскую вуліцу, 20, дзе ў часова запусцелым складскім памяшканні месцілася рэдакцыя. Там адбылося знаёмства з мажным дзядзькам Уласавым, братамі Луцкевічамі ды маладзенькім Альгердам Бульбай (псеўданім Вітаўта Чыжа).

Больш паўгода сплыло ад той памятнай сустрэчы, перш чым на старонках «Нашай нівы» мільганула публікацыя за подпісам «Власт» — першым вядомым псеўданімам Вацлава Ластоўскага, пастаўленым пад

артыкулам у рэдактарскай калонцы «З нашага жыцця». Праз месяца паўтара, 19 лістапада 1909 года, «Наша ніва» надрукавала ягонае апавяданне-абразок «Нарадзіны», а ў наступным нумары абразок «Зайчык».

Рост Власта ішоў шпарка. Нібы казачны Пакацігарошак, узрастаў малады літаратар з кожным днём-месяцам. 1 студзеня 1910 года сваім навагоднім нумарам «Наша ніва» распачала друкаваць ягоную «Кароткую гісторыю Беларусі». Пазначаны ў пачатку публікацыі падзагаловак «Па Кіркору» ў асоб недасведчаных нараджаў меркаванне пра яе як рэч кампіляцыйную. У сапраўднасці было далёка не так. Проста 27-гадовы гісторык сціпла вызначыў сабе ролю звычайнага рэгістратара вядомых фактаў і падзей, знойдзеных у працах знаных папярэднікаў. У ліку іх, бачым, пачэснае месца адводзілася Адаму Кіркору. У тым самым годзе, калі Янка Купала на кватэры прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы пісаў несмяротны «Курган» і выдаў свой другі паэтычны зборнік «Гусляр», нашаніўская «Кароткая гісторыя Беларусі» пабачыла свет асобным выданнем у слаўнай друкарні Марціна Кухты.

Выхадам «Кароткай гісторыі…» Власта беларуская літаратура нашаніўскай пары набыла надзейныя арыенціры, каб упэўнена крочыць у будучыню. Гэтай цвёрдай пэўнасці не ставала тады многім, нават свядомым беларусам, гатовым самаахвярна служыць ідэі нацыянальнага адраджэння. Без Вацлава Ластоўскага, без ягонай «Кароткай гісторыі Беларусі» з «40 рысункамі» шмат каму з сучаснікаў давялося б доўга, пакутліва доўга аднаўляць гістарычную памяць.

Наколькі ж сам Ластоўскі жыў гісторыяй, мысліў яе катэгорыямі і валодаў найбагацейшай факталогіяй, сведчыць прызнанне аднаго з сучаснікаў, верагодна К. Дуж-Душэўскага: «Трапіў я ў рэдакцыю «Наша ніва». Сталі мы гаварыць аб беларускай справе. Я высказаў фразу: «…але, на жаль, мы, беларусы, маем бедную гісторыю». Раптам скуль узяўся чалавек лысы, абросшы, няголены, з круглым чалом і, ідучы яшчэ, паднятым голасам стаў гаварыць: «Як, мы не маем гісторыі? Скажыце, калі ласка, хто мае багацейшую гісторыю, чым мы, беларусы?» і г.д. Зразу ён мне насыпаў так шмат, што перавярнуў усю маю гістарычную веду дагары нагамі, і я павінен быў прызнацца, што гісторыі я не ведаю. Гэта быў В. Ластоўскі».

У гісторыю беларускай літаратуры Вацлаў Ластоўскі ўвайшоў не толькі як аўтар першай манаграфіі пра мінулае радзімы, напісанай на роднай мове. Ён — ініцыятар першай у Беларусі XX стагоддзя шырокай дыскусіі пра шляхі развіцця, творчы метад, кірунак і стыль будучай літаратуры (ліпень 1913 г.). У дыскусіі прынялі ўдзел не толькі Янка Купала («Адказ Юрцы Верашчаку», падпісаны псеўданімам «Адзін з Парнаснікаў», прыпісваецца акурат яму), але і Лявон Гмырак, і малады Максім Гарэцкі. Усё, за што ні браўся сакратар «Нашай нівы», было дарэчы і своечасова.

Ліпень жа наступнага года падняў «тэмпературную атмасферу» не толькі для маладой беларускай літаратуры. Уся Еўропа смяротна захварэла на ліхаманку першай сусветнай вайны. Недзе ў гэты час драматычныя змены адбыліся і ў асабістым лёсе Ластоўскага: фактычна распаўся шлюб Вацлава і Марыі. Хоць бацькоўскі абавязак і чулае сэрца па-ранейшаму прыводзілі Вацлава да дзвюх мілых шчабятух — Ганкі і малодшанькай Стаські-Стасютэ. Так, нават пазней, будучы ў Берліне, 21 кастрычніка 1921 года, Ластоўскі пісаў былой жонцы: «Даражэнькія! Увесь час непакоюся, як там устроіліся дзеці ў школе. Я думаю, добра было бы, а нават вельмі прасіў бы, каб пры дзецях заўсёды ў Куршанах быў хто са старшых. Само сабой, найлепей было б, каб ты, Марыусь, была, але, зважаючы на гаспадарку, можа бы, папераменна чэрэдаваліся з Пеледай — тыдзень-два ты, тыдзень-два Пеледа. Я вельмі прашу падумаць аб гэтым! Абяцаў я купіць коўдры для дзяцей і абяцанкі сваёй трымаюся, але не меў я ніякай магчымасці дагэтуль яе выпаўніць: увесь час быў у раз’ез- дах, — цяпер жа скора ўжо буду ў Коўні…»

А пакуль у «Нашай ніве» рэй вёў новы рэдактар-выдавец Луцэвіч-Купала. Ластоўскі ж становіцца фактычным уладальнікам «Беларускай кнігарні», кантралюючы выданне школьных падручнікаў і чытанак. Ды ён не толькі кантраляваў, але і сам удзельнічаў у іх стварэнні: склаў «кніжку для школьнага чытання» «Родныя зярняты», «першую пасля лемантара чытанку» «Незабудка». У душы гісторыка і літаратурнага крытыка і публіцыста цепліўся не абы-які педагагічны талент. У дапытлівых вачанятах віхрастых падлеткаў Власт чытаў будучыню Беларусі і клікаў яе.

Улетку 1915 года з наступам кайзераўскай арміі расійскай вайсковай цэнзурай было забаронена выданне «Нашай нівы». Беларускай газеце не хапіла 15 месяцаў да святкавання першага круглага (дзесяцігадовага) юбілею. Вільню пакінулі Купала, Колас, Гарэцкі, Гмырак, Бядуля, Канстанцыя Буйлянка, Хведар Чарнышэвіч.

Кайзераўскія акупацыйныя ўлады выявілі талерантнасць да распаўсюджвання беларускага слова, упершыню дазволіўшы афіцыйны, публічны ўжытак беларускай мовы як адрознай ад рускай, а таксама функцыянаванне пачатковых школак (найперш для іх выходзілі згаданыя чытанкі і лемантары Власта) і перыёдыкі. Адну з газет узначаліў Ластоўскі. Віленская беларуская газета «Гоман» апублікавала невядомыя аўтографы Максіма Багдановіча (пераважна з асабістага архіва яе рэдактара), выцягнула з небыцця імя Альгерда Абуховіча, змяшчаючы з нумара ў нумар ягоныя найкаларытнейшыя і беспрэцэдэнтныя (бо адзіныя для XIX стагоддзя) беларускамоўныя «Мемуары».

Гады кайзераўскай акупацыі сталіся адмысловай школай для Ластоўскага-палітыка. Як калісь без універсітэтаў, самавукам здабываў веды, так цяпер даводзілася пакладацца на ўласную інтуіцыю і акрэслены светапогляд, уваходзячы ў кіраўніцтва грамадскіх супо-

лак («Хрысціянская злучнасць»). Першай палітычнай арганізацыяй, дзе вылучыўся талент ідэолага Вацлава Ластоўскага, сталася «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі». Гэта і ад яе імя на міжнароднай канферэнцыі ў швейцарскай Лазане прагучаў «Мемарандум прадстаўнікоў Беларусі» (1916). Якраз ідэяй Ластоўскага — «мы хочам быць незалежныя ў сваіх этнаграфічных межах» — кіраваліся беларускія дзеячы, склікаючы на 25–27 студзеня 1917 года ў Вільні канферэнцыю беларускіх арганізацый, дзе ўтварылі віленскую Беларускую раду на чале з Антонам Луцкевічам.

У крыважэрным ваенным малоху маладая Беларусь мусіла як найхутчэй сама вызваляцца з-пад апекі суседзяў. Роўна за тыдзень да нараджэння Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі быў кааптаваны ад віленскай Беларускай рады ў склад Рады БНР, якая на пасяджэнні раніцою 25 сакавіка 1918 года прыняццем трэцяй Устаўной граматы абвясціла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Лёсавызначальны для Беларусі акт бальшавікі ўспрынялі адмоўна. Парушалася пераемнасць: агульная турма народаў мелася пераўвасобіцца ў агульны лагер для пабудовы сацыялізму. Новыя гаспадары слушна палічылі, што досыць ужо страчаных «полячишек», фінаў ды дробных прыбалтаў.

Асуджаная геапалітычна на ролю еўрапейскага «яблыка разладу» Беларусь аніяк не магла сабраць у адно зярняты сваёй раллі, разбітай цераспалосіцай ад Смаленска да Наровы-ракі. Саперніцтва палітыкаў наконт выбару найбольш адпаведнага для Беларусі шляху (з Польшчай, Летувой ці, па-ранейшаму, з Масквою, толькі на «новых федэралісцкіх» падставах) прывяло ўлетку 1918 года да расколу Беларускай сацыялістычнай грамады. На палітычнай арэне адразу ўтварылася некалькі груповак. Вацлаў Ластоўскі выбраў Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў), увайшоўшы ў яе вясною 1919 года. На той момант ужо і бальшавікі арганізавалі БССР, дазволеную 1 студзеня 1919 года, хоць неўзабаве па ініцыятыве Леніна злілі яе з Летувой «для барацьбы з унутранай контррэвалюцыяй і ваеннай інтэрвенцыяй за ўмацаванне Савецкай улады», абачліва адпісаўшы Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні да РСФСР і тым самым касуючы папярэдні акт ад 1 студзеня. («Старэйшы» брат крыўдзіць сябе не звык, а «малодшаму» і гэтулькі хопіць на пацеху…) Не па гадах загартаваныя ў палітычных завірухах беларускія нацыянальныя і культурныя дзеячы мелі ўсе падставы варожа глядзець на бальшавіцкія саветы.

14 снежня 1919 года Народная рада БНР, пацвердзіўшы вернасць трэцяй Устаўной грамаце ад 25 сакавіка пра абвяшчэнне поўнай незалежнасці Беларусі, тым самым адкрыта выказаўшы пратэст супраць польскай акупацыі, абрала новы прэзідыум і кабінет. Прэм'ер-міністрам становіцца Вацлаў Ластоўскі. Абвешчаная праграма Народнай рады бескампрамісная: усеагульная партызанская барацьба супраць польскіх

акупантаў. Заклікі не праляцелі міма вушэй акупацыйных улад. Праз тры дні, 17 снежня, частка ўрада БНР разам з новым прэм'ерам змяняла міністэрскія крэслы на турэмныя камеры. Учарашняя паднявольная Польшча выказала дзіўную здольнасць прыдушыць таго, хто апынуўся ў яе становішчы.

Пасля больш чым месячнага зняволення ў менскім «замачку» прэм'ера выпускаюць на волю, а яшчэ праз нейкі час дэпартуюць за межы Беларусі. Вацлаў чамусьці падаўся ў горад сваёй маладосці, у Рыгу. Ды і там яго дастае «гнеў Варшавы». Польскі ўрад, прыгразіўшы дыпламатычным дэмаршам, ультыматыўна запатрабаваў ад маладой Латвіі выслаць Ластоўскага, аб'явіўшы яго persona non grata. Латвія паслухмяна выканала прыхамаць Варшавы, стварыўшы першы прэцэдэнт будучага зняважлівага «латгальскага працэсу» над беларусамі. Ластоўскі спыніўся ў Коўне (Каўнасе), дзе яго даўно чакалі міністры ўрада. Ці не тут ён пачуў вестку, што балючэй за ўсе палітычныя праследы і турэмнае зняволенне параніла душу Вацлава- кніжніка: пад час вобыскаў, учыненых у снежні 1919-га і ў студзені 1920 года ў віленскай «Беларускай кнігарні», з ягонага хатняга збору зніклі 24 «пергаміны» XV–XVII стагоддзяў, шмат дакументаў, якія паходзілі з архіва Турава-Пінскага біскупства, у тым ліку Турава-Пінскі летапіс XI стагоддзя. Першая частка унікальнага рукапісу датавалася 1021 годам, астатнія аркушы пісаліся рукою апошняга пінскага князя Яна Яраславіча (каля 1635 года). Вацлаў нечаканую страту ўспрыняў так, нібы, вярнуўшыся з далёкай дарогі, трапіў у роднай хаце на хаўтуры па блізкім чалавеку. А калі чалавек у жалобе — яму не да творчасці.

Тым не менш Ластоўскі знаходзіў сілы для творчай працы. Паказальна, што акурат у гэты час ён працаваў над абсалютна невядомай сёння шырокаму колу беларускіх гісторыкаў капітальнай працай «Нарысы беларускай гісторыі». Нарысы — назва ўмоўная; гэта своеасаблівая сціслая энцыклапедыя, дзе на 209 аркушах, а дакладней, на 336 старонках (з устаўкамі) сабраны і, трэба думаць, у алфавітным парадку былі б пададзены розныя тэрміны і паняцці з мінулага нашай Бацькаўшчыны: Алюмнат; Архівы судовыя; Баніцыя; Баяры (путныя і панцырныя); Брацтвы; Ваявода; Веча; Віж; Возны; Грод; Канюшы; Ключнік; Падкаморы; Падскарбі; Пакута; Сойм; Стараста; Харужы; Цівун… Сярод іх багата малавядомых азначэнняў кшталту: «Кадук — маетнасць без уласніка і наследнікаў называлася спусцізнай, а пасля пераходу на караля кадукам». Некаторыя з іх пазней публікаваліся на старонках «Крывіча» як асобныя даследаванні (напрыклад, «Урад Цівуна»). На вялікі жаль, праца гэтая засталася ў выглядзе машынапіснага рукапісу.

Тым часам палітычныя спрэчкі паступова ўваходзілі ў свае берагі — да прызнання тэрытарыяльных межаў. 12 ліпеня 1920 года суверэнная Летува падпісала мірнае пагадненне з Савецкай Расіяй. Не міргнуўшы вокам, апошняя аддае летувісам «расійскую тэрыторыю» з Вільняй,

Гародняй, Лідай, Браславам, Паставамі… Дзяржаўная мяжа на картах палітыкаў пракладваецца ля Валожына і Маладзечна. Масква вылучала адзінае патрабаванне: усё летувіскае войска (з дзвюх дывізій) павінна ўдзельнічаць разам з Чырвонай Арміяй у вайне супраць Польшчы. Ластоўскі пацвярджае права Летувы на заходнія землі Беларусі, зазначыўшы разам з тым, што канчаткова гэта пытанне вырашыцца шляхам мясцовага плебісцыту.

У чым дасягнуў відавочных поспехаў эміграцыйны ўрад БНР — пра Беларусь загаварылі ў Еўропе. А сам Власт у гэтыя гады звярнуўся да… паэзіі. І ў ёй працягваў сцвярджаць ідэю змагання за незалежную Беларусь. Такая вось новая, мо і не дужа яркая, грань таленту былога сакратара «Нашай нівы». Ластоўскі-паэт дэбютаваў на пачатку 1922-га, у першым нумары часопіса «Беларускі сцяг».

Наперад, змагарна наперад!
Да волі цярэбячы троп,
Штодзённа ўскіпаем мы гневам
І помсту шлюбуем па гроб!

Нахрапнаю крыўдай не ўздзержыць
Вам вольны ў кайданах прастор:
З дум горкіх, з сэрц нашых гартоўны
Скуем мы з праклёнам тапор.

Знаходзячыся ў няпростых для палітычнай дзейнасці ўмовах, урад БНР на чале з Ластоўскім тым не менш меў адчувальныя поспехі ў знешняй палітыцы. У 1920–1923 гадах Вацлаў наведаў з дыпламатычнымі місіямі Бельгію, Германію, Ватыкан, Італію, Чэхаславакію, Францыю, Швейцарыю. На кожнай урачыстай аўдыенцыі, міжнароднай канферэнцыі, палітычнай нарадзе прэм'ер выступае як беларус, ад імя Беларусі і дзеля будучыні Беларусі. Кожны здзек з роднага народа — гэта здзек з яго самога, прэм'ера Ластоўскага. Таму так горка на сэрцы і немагчыма спыніцца кідаць абвінавачанні. Крыўдаў накіпела шмат, цяжкіх і адвечных, нібы насыпаных на грудзях Беларусі курганоў-валатовак. «Палякі наслалі на Беларусь сваё чыноўніцтва, паліцыю і войска, якіх павінен карміць паняволены беларускі народ. Палякі ўсіх тых, хто не маўчаў на польскія крыўды і здзекі, пасадзілі ў турмы і іх налічаюць тысячамі. Палякі рукамі сваёй паліцыі б'юць і катуюць беларусаў, ды такімі спосабамі, аб якіх ужо даўно былі забыўшыся людзі на свеце. Палякі завялі на беларускай зямлі чужую беларусам польскую мову ва ўсіх урадах і школах».

Але Ластоўскі выдатна ведае, што і «пад Саветамі» дыхаць не лягчэй. «У Савецкай Расіі «незалежная» Сацыялістычная Беларуская Рэспубліка не мае ні сваіх уласных грошы, ні свайго беларускага войска, ні сваёй

асобнай беларускай пошты, ні сваіх чыгунак, ні сваіх прадстаўнікоў за граніцай. Якая ж незалежнасць, калі грошы ў руках маскалёў, войска ў маскальскіх руках, чыгунка і пошта ў іх і зносіны з заграніцай у іх».

Куды ні кінь — усюды клін. «…ні там, ні тут не мае беларус свабоды… і там і тут знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Каторая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка. І саламенны і раменны хамут муляе шыю».

Аднолькава рэзаў, як парушына ў воку, і Варшаве і Маскве ўрад БНР. Як толькі не абзывалі яго! «Бутафорны», «буржуазны», «марыянеткавы». Найчасцей чаплялі эпітэт «прадажны». Каму прадаліся міністры БНР? Знойдзецца! Калі не магутнай Расіі ці драпежнай «другой Рэчы Паспалітай», дык хоць летувіскай Тарыбе. Яшчэ больш, чым Варшаве і Маскве, урад БНР муляў блізкаму Менску. Двум сонцам на небе неззяць. І найлепшае развязанне праблемы бальшавікі бачылі ў тым, каб на палітычным небасхіле патухла зорка прэм'ера Вацлава Ластоўскага. Потым і ўрад БНР расцярушыць будзе прасцей. Таму гэтак дружна 17 сакавіка 1923 года пад час перамоваў у Менску паміж прадстаўнікамі беларускіх сацыялістычных партый, што ўваходзілі ў склад урада Ластоўскага, і ўрадавымі коламі БССР прагучалі папрокі, нібыта бяздарны прэм'ер скампраметаваў беларускі рух у вачах усяго свету і наогул зрабіўся «непапулярны ў дыпламатычных сферах Заходняй Еўропы». Менск (ці не згодна з крамлёўскім сцэнарыем) дае ўстаноўку: Вацлаў Ластоўскі павінен вызваліць пасаду прэм'ер-міністра БНР. Праз месяц, 20 красавіка, «стары беларускі дзеяч» афіцыйна папрасіў адстаўку ў старшыні Рады БНР спадара Крачэўскага.

Не першы і не апошні раз беларуса задушылі рукамі беларусаў. Сышоўшы з палітычнай авансцэны пераможаным, Вацлаў Ластоўскі вярнуўся на пакінуты ім аблог, вялікі і шчодры, дзе верыш толькі сабе, сваім ведам і таленту.

Яшчэ не паспелі размеркавацца міністэрскія партфелі ў новым складзе ўрада БНР на чале з Аляксандрам Цвікевічам, яшчэ смылела душа ад учынку блізкага паплечніка, а Вацлаў Ластоўскі пачаў рэалізоўваць свае, не абы-якія, планы. Спелі яны даўно, аднак хіба здзейсніш творчыя мары, калі лёс кідае цябе з Рыма ў Берлін, адтуль у Жэневу ці Парыж без заезду ў родныя сцены, дзе цябе цярпліва чакаюць старадаўнія рукапісы, кніжныя фаліянты, стосы выпісак. Чакае самы блізкі і дарагі чалавек… Каханая Стаха, маці твайго спадчынніка, Юраські. «Ваценька даражэнькі. Я ўжо даўно чакаю цябе ў Коўні, а тут маеш табе, ты нат не ведаеш, ці прыедзеш перад Жэневай […] Я ад пятага ўжо не пішу табе, бо лічыла, што сёмага ты будзеш у Берліне, а сёння ў дому», — роспачна пісала Станіслава мужу, з якім жыла ў грамадзянскім шлюбе не першы год і звыклася падзяляць цяжар неспакойнага жыцця. А яшчэ даймалі клопаты ад першай жонкі. «Вельмі шаноўны п. Вацлаве! Сягоння прыйшла да мяне пісулька ад Пэледы;

пішэць яна, што Вашая жонка, пані Марыя, ляжыць пры смерці; надта цяжка балееець ад якогась нервовага прыпадку. І на дохтураў, і на лекі трэба грошы шмат, а іх — ні гу-гу!», — напіша Ластоўскаму з Коўна тагачасны дырэктар Летувіскага дзяржаўнага тэатра драмы, а ў мінулым добры прыяцель Вацлава і Марыі, паэт Людас Гіра. І не толькі прыяцель Ластоўскіх, але і Купалы, Цёткі, Луцкевічаў. Таму не дзіўна, што Людас напіша гэты ліст, невядомы ані нашым, ані летувіскім літаратуразнаўцам, па-беларуску.

«Чала я не хіліў прад сілай» — паэтычным радком прызнаецца экс-прэм’ер Беларускай Народнай Рэспублікі (у тым ліку, рэч ясная, і перад сілай абставін) і з усім імпэтам няўрымслівай натуры аберуч возьмецца за выданне «месячніка літаратуры, культуры і грамадскага жыцця» пад незацяганай, а таму трошачкі нечаканай ды роднай назваю «Крывіч» (у рэдагаванні яго Ластоўскаму дапамагаў даўні прыяцель Клаўдыюш Дуж-Душэўскі). «Крывіч» нібыта засноўваўся не столькі на патрэбы беларускай культуры, колькі пад вымаганні неардынарнай натуры Власта.

Мэты ў рэдактара вымалёўваліся значныя, мяркуючы хаця б па запланаваных для часопіса раздзелах. І як некалі Францішак Скарына прыхаваў сваё імя ў адмысловых акравершах «Писал доктор Скоринич Францискус», «Делал доктор Скоринич Франціскоус», так цяпер Вацлаў Ластоўскі зашыфроўваў уласнае імя і прозвішча крыптанімамі, зацвярджаючы, тым не менш, асабістае аўтарства шматлікіх матэрыялаў. Возьмем наўздагад любы нумар (Крывіч. 1926, № 1). У раздзеле «Запіскі» чытаем загалоўкі і подпісы пад артыкуламі. «Беларускія «крыўскія» друкі ў Тыльзіце» — *В.Ластоўскі*. Услед за ім, як бурштынавыя пацеркі, нанізваюцца запар літары, што складуцца ў слаўныя каралі імя ды прозвішча. Сачыце! «Дойлід» — *Л.А.*; «Эпітэт смерці «Кастуся» — *С.Т.*; «Навязі і кудмяні» — *О.У.*; «Праф. М.К. Любаўскі і акад. С.Ф. Платонов аб крывічах» — *С.К.*; «Дзіцячы слоўнік» — *І.В.*; «Аб напісанні пачатнага Ўр у крыўскай мо- ве» — *А.Цл.*; «Карэнь «гал» і выводныя ад яго словы і паняцці ў крыўскай мове» — *Л.А.*; «Карэнь «корс», «корх», выводныя ад яго словы і паняцці ў крыўскай мове» — *У.Л.*; «Аб слове «мурава» — *А.С.*; «Сонечнае калясо» — *Т.О.*

І так, круг за кругам уздымалася, перакочвалася паўз ковенскі тын святло і слава «Крывіча». Калі не хапала кірыліцы ці дзеля разнастайнасці, грунтоўныя (і не зусім) публікацыі аздаблялі лацінскія подпісы: Miles, Philologus, Peregrinus, Veritatis. Або штось блізкае, крэўнае мясцінам дзяцінства: *Пагашчанін*. Зразумела адно: без Вацлава Ластоўскага, ягонай тытанічнай, самаадданай працы не стаўся б з’яваю нацыянальнай культуры ковенскі беларускі часопіс.

З’явай, прыглушанай больш чым паўстагоддзем маўчання, сталася і аповесць Власта «Лабірынты», апублікаваная ўпершыню на старонках «Крывіча». Твор, насычаны нястрымнай гістарычнай

фантазіяй, — бясспрэчная вяршыня творчасці Ластоўскага-празаіка. Чытаеш і разумееш: феномен Уладзіміра Караткевіча для беларускай літаратуры быў запраграмаваны. І праз дзесяцігоддзі ўвасобіўся.

Не ўвасобленым хіба застаўся тэрмін «крывіч» («Крывія»), хросным бацькам якога Ластоўскі меўся стаць, усяляк прапагандуючы ягонае выкарыстанне аж да афіцыйнага назову замест «беларус».

Аднак, «жатва многа, а делатель мала» — мог з поўным правам паўтарыць у Коўне Власт прызнанне, якое вырвалася калісь з ягоных грудзей у прадмове да «Кароткай гісторыі Беларусі». Праўда, дзякаваць Богу, цяпер ён не адзін. Ды што можна зрабіць дзвюма-трыма парамі рук на недагледжанай гістарычнай дзялянцы Крывіі, калі працы непачаты край?! І ён выдае слоўнікі, пераклады замежнай прозы, па-ранейшаму прадстаўляе Беларусь на еўрапейскіх палітычных форумах.

За ўсім гэтым адчуваецца постаць будучага неадменнага сакратара БАН з выдатнымі здольнасцямі арганізатара навукі, а беручы шырэй — Неадменнага сакратара Беларускага Адраджэння. Як Скарына на пачатку XVI стагоддзя навекі асвяціў Прагу родным словам, як другі Францішак на схіле XIX стагоддзя выданнем кракаўскай «Дудкі беларускай» наблізіў да нас далёкую сталіцу Пястаў, гэтак і Вацлаў Ластоўскі ў 20-я гады XX стагоддзя шырокай грамадскай чыннасцю, выпускам «Крывіча» і дзесятка падручнікаў ды арыгінальных кніг запаліў зорку Коўна-Каўнаса на неабсяжнай карце беларускай культуры.

У сярэдзіне 1920-х гадоў Ластоўскі ўшчыльную падышоў да здзяйснення сваёй велічнай задумы — «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі». Якая частка айсберга адкрылася свету, а якая засталася пад вадою, перш чым ён велічна выплыў вясною 1926 года ў ковенскай друкарні Сакалоўскага і Лана, колькі аўтарскіх дум і парыванняў увасоблена ў ім, колькі бяссонных начэй прайшло ў шліфаванні агляду «звыш 1000 важнейшых рукапісных кніг, грамат, старадрукаваных кніг з пачатку зараджэння беларускага пісьма (X ст.) аж да XIX стагоддзя», колькі практычных захадаў да выдання фаліянта прыклаў аўтар — застаецца толькі здагадвацца. Афармленне будучага выдання Ластоўскі заказаў славутаму мастаку Мсціславу Дабужынскаму, які жыў тады ў Летуве.

Застаецца моўчкі дзівіцца цягавітасці і волі Вацлава Ластоўскага (зрэшты, як шмат чаму, зробленаму даследчыкам), — седзячы ў Коўне, адрэзаны ад славянскай стыхіі, ён здзейсніў навуковы подзвіг, беспрэцэдэнтны ў беларускім кніжніцтве. Ягоны ўчынак, самавітую працаздольнасць жывіў прыклад Скарыны. І дзіўна адкрываць для сябе праз дзесяцігоддзі, што айчынны энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» прозвішча вучонага не прыгадвае.

Ці не з адчайнага пачуцця непрымання жахлівай неадпаведнасці паміж гістарычнай праўдай і тагачаснай афіцыёзнай навукай паўставала «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя»? «Няма больш занядбанай

дзедзіны ў светавой пісьменнасці, як гісторыя паняволеных народаў, — зусім не з «літаратурнага» боку пачынаў прадмову складальнік. — Вышэйсказанае асабліва кідаецца ў вочы, калі ўзяць якую-колечы галіну нашай, крыўскай, гісторыі. То знача гісторыі народа, каторы, не так яшчэ даўно, жыў сваім самаістым палітычным і культурным жыццём. Супярэчнасць між сведчаннем гістарычных помнікаў і асвятленнем іх сучаснай пісьменнасцю — проста паражаючая. Беручы ў рукі гістарычную кнігу часовых нашых пераможцаў, не ведама чаму больш дзівіцца, ці іх безкрытычнасці, ці паражаючай умеласці тэндэнцыйна выкарыстываць аб'ектыўныя сведчанні гісторыі».

Ад шчырай узрушанасці, ад сваёй палемічнасці таўшчэзны фаліянт у 776 «бачын» адно выйграе, успрымаецца цэльна, чытаецца без навуковай засушанасці. Паасобным рэцэнзентам грамадзянская пазіцыя складальніка здасца тут не да месца. «Пры слабасці апісання помнікаў у кнізе В.Ластоўскага мы зашмат спатыкаем непатрэбных разважанняў агульнагістарычнага характару: аб «Крывіі», аб палітычных адносінах літоўска-беларускай дзяржавы да сусе-дзяў», — канстатаваў Сцяпан Некрашэвіч, не заўважаючы, як у тым самым сказе, праз кропку з коскай, крытычная ацэнка робіцца станоўчай: «…зашмат таксама ўдзяляецца месца і развіццю асветы на Беларусі, з прычыны чаго праца В.Ластоўскага набывае ўжо характар не гісторыі кнігі, а гісторыі асветы на Беларусі побач з пералічэннем беларускіх рукапісных і друкаваных помнікаў».

Зусім іншай настраёвасцю прасякнуты водгук, надрукаваны віленскім «Przeglądem Wileńskim» пад гучным загалоўкам «Капітальнае выданне». «Гэты вонкава адмысловы том не менш варты здзіўлення як велізарны інтэлектуальны зрух гісторыка беларускай літаратуры. Відаць, ужо даўно рыхтаваўся Ластоўскі да гэтага выдання, але тое зусім не змяншае нашага здзіўлення імпануючай скрупулёзнасцю, з якой выканаў свой намер, даруючы беларускаму народу гісторыю яго-нага пісьменства, якім слушна мог ганарыцца перад іншымі народамі. Перапісаць такі твор было б довадам незвычайнай працавітасці. Тым больш захапляемся Ластоўскім, бо ён чалавек не першай маладосці, здароўя досыць слабога, у дадатак стала заняты чыннай палітыкай. Аднак чаго толькі не здзейсніць гарачая, шчырая, бескарыслівая любоў да айчыны, спалучаная з багатымі ведамі і сканцэнтраванай воляй?!»

І цяпер кожны, хто аднойчы кране рукамі, разгорне цяжкі фаліянт «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», умомант зразумее, што ён — годная вяршыня для любога творцы.

Увосень 1926 года Інбелкультам праводзілася навуковая канферэнцыя па праблемах рэформы беларускага правапісу. На яе запрасілі вучоных з Еўропы, у тым ліку і суайчыннікаў. На Акадэмічнай канферэнцыі Ластоўскі выступіў катэгарычным прыхільнікам кірылічнага шрыфту.

У напісаных неўзабаве «Уражаннях з паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку» рэдактар «Крывіча» больш дэталёва спыніцца на ўбачаным ім «савецкім ладзе жыцця», чым на мовазнаўчых праблемах. Ад канферэнцыі ў памяці трывала засталася «ўсякая адсутнасць духу партыйнасці» (так ацэніць рыжскі «Голас беларуса»), калі выносілі бюст Леніна з залы пасяджэнняў, уквечанай бела-чырвонымі стужкамі. У асабістых паперах госць канферэнцыі вёз у Коўна запіску Цішкі Гартнага: «Дзядзька Ластоўскі! Трэба ў Вашым выступленні падкрэсліць патрэбу рэформы правапісу, абвергнуўшы словы Некрашэвіча «не варт разгляду з боку канферэнцыі». Грэла сэрца пашанотнай увагаю і запіска ад Якуба Коласа: «Ці чыталі «Сымона-музыку»? Якая Ваша аб ім думка?» Яшчэ ў сакавіку 1912 года паэт абяцаўся сакратару «Нашай нівы» скончыць паэму «гэтым летам». Выкананне абяцання доўжылася больш за дзесяцігоддзе. Так што кароценькая запіска перадавалася невыпадкова. Гэтаксама як і запрашальны білет з нагоды 20-гадовай літаратурнай дзейнасці Я. Коласа на «таварыскі банкет», зладжаны 26 лістапада 1926 года «ў памяшканні сталоўкі № 6 (Ленінская вул.) а 10 гадзіне ўвечары». Якуб Колас па-ранейшаму цаніў крытычны і мастацкі густ колішняга сакратара «Нашай нівы», у тым сумневу не застаецца. Не засталося і ў Вацлава Ластоўскага сумневу наконт будучага паспяховага развіцця беларускай культуры «пад Саветамі».

Так канчаткова выспеў намер пераехаць у Менск. Бо тут можна зрабіць больш. Выязджаючы з Коўна 22 сакавіка 1927 года, Ластоўскі яшчэ не ведаў, што пакідае сваю «друкарскую Прагу» назаўсёды. Спыніў жа выданне «Крывіча» прымусова, бо летувісы «перасталі лічыць уздым беларускай справы як спрыяльны Летуве палітычны фактар».

У Менску Ластоўскаму прапанавалі пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея і загадчыка кафедры этнаграфіі пры Інстытуце беларускай культуры . Ён працуе і ў «Камісіі жывое беларускае мовы» побач з Язэпам Лёсікам, Янкам Купалам, Іванам Бялькевічам, Пятром Бузуком, Уладзіславам Чаржынскім (старшыня камі-сіі — Сцяпан Некрашэвіч, сакратар — Адам Багдановіч), плануе падрыхтаваць для друку альбом беларускага народнага арнаменту. Працуе шмат і плённа. Вось некалькі скупых штрыхоў з «Хронікі беларускае культуры», якую вёў часопіс «Полымя»: «В. Ластоўскім перададзены ў тэатральны музей ІБК архіў тэатра Буйніцкага (1910–1911), які складаецца з 13 афіш, 17 праграм і інш.» (1927, № 4); «В.Ластоўскі піша новую вялікую працу аб Беларусі — «Матэрыяльная культура Беларусі». Праца ахоплівае перыяд ад XVI да XX сталецця» (1927, № 8); «Калегія Нар. Кам. Асветы зацвердзіла камісію па ахове помнікаў старасветчыны ў БССР. У склад гэтай камісіі ўваходзяць: тт. — Некрашэвіч, Ластоўскі, праф. Фядзюшын, Ляўданскі і праф. Сербаў» (1928, № 2); «Інбелкультам утворана камісія пад старшынствам В. Ластоўскага для падрыхтоўкі да выдання

першага польска- беларускага і беларуска-польскага слоўніка» (1928, № 4). Пад ягонай рэдакцыяй пачынаюць выходзіць этнаграфічныя зборнікі (у першым жа выпуску сам рэдактар надрукуе дужа цікавае даследаванне «Прочкі і разлучыны»). А яшчэ — ладзіць экспедыцыі. «Гэтымі днямі вярнулася ў Менск этнаграфічная экспедыцыя Інбелкульта і Беларускага Дзяржаўнага музея на чале з неадменным сакратаром ІБК т. Ластоўскім, — паведамляў той самы часопіс «Полымя». — Экспедыцыя наведала шмат паселішчаў Случчыны і Мазыршчыны і сабрала шмат рэчаў матэрыяльнай і духоўнай культуры і народнага мастацтва. БДМ закупіў да 1000 розных мастацкіх тканін, рознай вопраткі, разьбы па дрэве і шмат інш. […] Паміж рэчамі вопраткі экспедыцыя здабыла вельмі цікавую мужчынскую кашулю асобага крою, накшталт грэцкага «сакоса», праславянскага тыпу, якую даўней апраналі мужчыны ў вялікія ўрачыстасці або захоўвалі на смерць».

Няхай апошняе сцверджанне выглядае легендарна-містыфікацыйным (у духу «гістарычных» песень пра Вітаўта і іншага падобнага жанру, упершыню друкаваных у «Крывічы» і ці не стылізаваных самім рэдактарам-гісторыкам), аднак крыж майстра Богшы 1161 года, больш вядомы пад назвай крыжа Еўфрасінні Полацкай, — гэта ж не міф! Славуты твор выплыў з нябыту пад час спецыяльнай экспедыцыі, наладжанай Ластоўскім у Полацк. Наша нацыянальная святыня была ўратавана.

І ў Савецкай Беларусі Ластоўскі працягваў працаваць гэтак жа самаадданa і тытанічна, як у Коўне.

У імя Беларусі і дзеля будучыні айчыны Вацлаў Ластоўскі ішоў на супрацоўніцтва з усімі партыямі, рухамі, урадамі. У эйфарыі беларусізацыі забылася мудрае выслоўе: не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы. Міхась Зарэцкі на старонках свайго рамана «Крывічы» (пазней, рэч ясная, забароненага) вуснамі галоўнага героя Сляпеня ясна тлумачыў: «А вы ведаеце, што такое бе-ла-ру-сі-за-цы-я? Га? Хо-хо-хо… Гэта, брат, хітрая, ой хітрая штука… Гэта стаўка на форму… Так, так, на форму!.. Аўладаць формай, адлучыць яе ад зместу, вылегчыць яе, выкруціць, высушыць і… выкінуць вон… ха-ха- ха… Што, хітра, га?.. Тонка? Ха-ха». Наяўнасць каланіяльнага элементу ў высакародным акце беларусізацыі наша нацыянальная інтэлігенцыя выдатна бачыла, што зноў добра засведчыў празаік М.Зарэцкі: «Навучыцца аўладаць беларускай мовай, каб лягчэй было згаворвацца з сялянамі, скажам, пры збіранні падатку, гэта не будзе вырашэнне нацыянальнага пытання. Гэта будзе толькі ўсяго замена каланіяльнай палітыкі «салдацкай» на каланіяльную палітыку «езуіцкую». Гэта страшэнна шкоднае звужэнне праблем нацыянальнай культуры, гэта палітыка гандляроў з рынку, якія (я спецыяльна гэта назіраў) звяртаюцца заўсёды да сялян у роднай іхнай мове, каб… лягчэй абдурыць іх…»

Як у часы прэм'ерства і плённай працы ў Коўне, калі атрыманыя за «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (10 000 літаў)

і за «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (5000 літаў) ганарары дазвалялі яму падтрымліваць беларускае студэнцтва ў Празе (ды і не толькі ў Празе), так і цяпер на пасадзе неадменнага сакратара акадэмік Вацлаў Ластоўскі імкнецца матэрыяльна дапамагаць заходнебеларускай інтэлігенцыі. Калі ў пратаколах прэзідыума БАН сустракаюцца пастановы адлічыць 50 долараў Язэпу Драздовічу за надасланы матэрыял або заплаціць Рыгору Шырму 200 рублёў з разліку па 2 рублі за кожную запісаную фальклярыстам песню, мне бачыцца ў тым клопат і неадменнага сакратара Беларускай Акадэміі навук.

Ластоўскі заставаўся дзейным не толькі ў акадэмічных сценах.

За сваю не такую ўжо і кароткую палітычную кар’еру Ластоўскі ўсвядоміў: разумную галованьку ніякі меч не бярэ — ні польскі, ні германскі, ні латвійскі, ні расійскі. Ды ў іншым агні гартаваўся ў руках бальшавікоў «карающий меч революции». У навуку прыходзілі «новыя кадры» («Тав. Бэндэ прызначыць на пасаду аспіранта па кафедры беларускае літаратуры і пасунуць справу аб хутчэйшай дэмабілізацыі яго з Чырвонай Арміі».) У краіне, у тым ліку і ў храме навукі, заводзіліся новыя парадкі… «Слухалі: Аб арганізацыйных зменах Беларускай Акадэміі навук па прынцыпе адзінаначальнасці. Пастанавілі: Прымаючы пад увагу, што развіццё навукова-даследчай працы вымагае прадстаўлення большых правоў, а ў сувязі з гэтым і персанальнай адказнасці кіраўнікоў, як цэлых аб’яднанняў, установаў (аддзелы, нацсектары), гэтак і паасобных установаў і членаў прэзідыума, перагледзець статут Акадэміі ў напрамку зліквідавання паасобных калегіяльных установаў (рады аддзелаў, рады сектараў, сакратарыят БАН, выдавецкага бюро і бібліятэчнай рады) і пераводу ўстановаў на адзінаначальнасць».

А для новых кадраў і пад новыя парадкі патрэбна дадатковая плошча. Таму прэзідыум Акадэміі пастанаўляе «прасіць Менскі гарсавет замацаваць за БАН пляц паміж клінікамі і стадыёнам, уключыўшы ў гэты пляц сабачы пітомнік, у глыбіну прыблізна да 250 сажняў. Апрача таго, прасіць дадатковую плошчу побач з паказаным пляцам за клінікамі або насупраць яго праз дарогу. Усё гэта прасіць Гарсавет аформіць як мага хутчэй». Падпісаць вышэйпрыведзеную вытрымку з пратакола № 22 за 6 жніўня 1929 года прэзідыума БАН неадменны сакратар не мог: ад 1 жніўня да 1 верасня Ластоўскаму выпаў апошні, праведзены ім на волі, казённы адпачынак. Адпачыўшы, з 18 да 26 верасня ён выбіраецца разам са Сцяпанам Некрашэвічам у ваколіцы Слуцка, Семежава, Краснай Слабады і Старобіна «для вывучэння гэтых раёнаў з боку этнаграфіі і мовы». Фактычна, яны праходзяць пакутнымі сцежкамі Слуцкага паўстання, узнятага іхнімі паплечнікамі-эсэрамі 27 лістапада 1920 года супраць бальшавікоў. Жалоба ляжала на сэрцы і ў тых, хто часова наведаўся ў Семежава, і ў тых, хто заставаўся жыць ля жвіровых магіл бацькоў і братоў. Невясёлай вандроўка для навукоўцаў мо выдалася і таму, што перад атрыманнем камандзіроўкі

абодва акадэмікі на пасяджэнні прэзідыума БАН праслухалі і мусілі выносіць рашэнне «аб звальненні аспіранта Юрашкевіча» з прычыны таго, што «аспірант кафедры беларускае літаратуры т. Юрашкевіч не адпавядае запатрабаванням Акадэміі, якія прад'яўляюцца да аспірантаў з боку сацыяльнага паходжання і што ў час знаходжання яго на працы ў Акадэміі т. Юрашкевіч не выявіў свайго грамадска-палітычнага твару».

Па трагікамічнай іроніі лёсу, вярнуўшыся са слуцкай вандроўкі, акадэмік Ластоўскі атрымаў неардынарнае даручэнне: разам з геолагам Міхайлам Грамыкам («прыцягнуўшы прадстаўніка ад Белдзяржбуда») яны мусяць «знайсці 4–6 камянёў для Маўзалея Леніну». І не абы сабе так, а памерам і якасцю «як меншы са знойдзеных раней камянёў». Тэрмін — да снежня месяца. О, што месяцы?! Тут невядома, як дзень да вечара перартрываць. Бо трэба мець мужнасць выходзіць на вуліцы Менска, калі маскоўская «Правда» друкуе артыкул пад яскравым загалоўкам «Вылазка национал-демократов в Минске: «Труды» агента Пилсудского в издании Академии наук БССР», дзе пра цябе гавораць, што ты «откровенно показал своё национал-демократическое лицо, приютив на страницах книги [...] заклятого врага Советской Белоруссии... «.

Публікацыя Янкі Станкевіча, адрэдагаваная Некрашэвічам і дазволеная неадменным сакратаром, будзе каштаваць напачатку абодвум высокіх пасад. Спяшаючыся адрэагаваць на маскоўскую публікацыю, напрыканцы тыдня, у пятніцу, 11 кастрычніка 1929 года, прэзідыум Акадэміі «рэзка асудзіў зробленую памылку, прызнаў недапушчальным надрукаванне ў выданнях Акадэміі працы ворага Савецкай Беларусі Я. Станкевіча і правільна падкрэсліў ролю і задачы савецкай акадэміі, як акадэміі пралетарскае дзяржавы».

Пастанову СНК БССР «Аб аслабаненні акадэміка Ластоўскага В.У. ад абавязкаў неадменнага сакратара Беларускае Акадэміі навук і акадэміка Некрашэвіча С.М. ад абавязкаў віцэ-прэзыдэнта Беларускае Акадэміі навук» 20 кастрычніка 1929 года апублікавала «Звязда». Нумар той выйшаў пад кідкім, на ўсю шырыню першай старонкі, доўгім загалоўкам: «БССР дасць бульбу Маскве і Ленінграду». Падзагаловак красамоўна тлумачыў: «У бліжэйшыя дні адправім чырвоныя эшалоны бульбы ў пралетарскія цэнтры. Час не чакае, надыходзяць маразы, узмоцнім загатоўкі бульбы, выканаем план раней тэрміну».

Сапраўды, надыходзілі Вялікія Маразы. Беларусь яшчэ не ведала, што будзе пастаўляць Маскве, Ленінграду ды ў іншыя аддаленыя месцы бальшавіцкай імперыі не толькі бульбу. Калонія запабягала перад метраполіяй. А тая, забаўляючыся, ставіла далей свой крывавы фарс. Ці не энкавэдысцкай трагікамедыяй з элементамі дэтэктыва быў разыграны сам арышт Вацлава Ластоўскага і Сцяпана Некрашэвіча на параходзе «Тобольск» на Обі, 21 ліпеня 1930 года, падчас даследавання вучонымі побыту землякоў у далёкай Сібіры? Быццам не ведаў пра месцазнаходжанне ахвяры старшы ўпаўнаважаны сакрэтна-аператыўнага

аддзела АДПУ Беларусі т. Сікорскі, выдаючы 18 ліпеня пастанову: «Гр-на Ластоўскага Вацлава Юстынавіча, які жыве ў г.Мінску на пл. Свабоды ў д.15, кв.8[а] ці які знаходзіцца ў навуковай камандзіроўцы ў Сібіры, неадкладна арыштаваць…»

Праз доўгія і пакутныя 10 месяцаў зняволення, допытаў, голаду, бяссоння, маральных здзекаў у турмах Масквы і Менска іх адправяць зноўку, ужо этапам, у той «пугающий простор», што ляжыць за Масквой і які ў нашым народзе адвеку атаясамліваецца з адным дранцвеючым на языку словам-кленічам — «Сібір». Без падзелу на Прыўралле ці Заўралле, Паволжа, казахскія стэпы, маўклівую тундру, тайшэцкую тайгу, без адрознення Далёкага Усходу ад Чукоткі, Магадана ад Калымы і нават Салавецкіх астравоў ад астравоў Шпіцбергена. Гэтаксама, як на захад ад нас жыхары Еўропы назвалі $^1/_6$ частку планеты адным ёмкім словам — «ГУЛАГ».

З высылкай Вацлаву Ластоўскаму пашанцавала. Усім ахвярам, асудЖаным па справе СВБ («Саюз вызвалення Беларусі»), першапачаткова задуманай у пракураных кабінетах АДПУ як САБ («Саюз адраджэнцаў Беларусі») прызначылі каму тры, каму дзесяць гадоў лагераў (болей тады яшчэ не давалі), каму высылку ў глухія весі Сібіры. Ластоўскаму на 5 гадоў дасталася амаль сталіца — Саратаў. Цэнтр Ніжне-Волжскага краю, а з 1934 года — Саратаўскай вобласці.

Ён уладкаваўся на пасаду загадчыка Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Саратаўскага універсітэта. Напэўна, з прычыны глыбокай павагі пракурораў-гэпэушнікаў да чалавека, з першых дзён вядзення следства аб'яўленага сцэнарыстамі «карающего» ведамства галоўным ідэолагам і кіраўніком «Саюза вызвалення Беларусі». На вокладках 29 тамоў матэрыялаў следства па СВБ, захаваных у адпаведных архівах (бо хоць з амаль сцёртым, але ўсеўладным грыфам «Хранить вечно») так і прадубліравана: «Дело по обвинению В.Ю. Ластовского и др.». Паплылі дні, месяцы, гады працы ў гаючай бібліятэчнай цішы сярод самых верных і мудрых сяброў — кніг. Пры належных варунках, людскіх адносінах тыя 90 асуджаных на вечнае пілігрымства сыноў Беларусі маглі б пакінуць чалавецтву не 29 тамоў паранаічных пытанняў з выбітымі «прызнаннямі» ў недаступных і сёння архівах, а 29 exegi monumentum. Велічных, як вяршынная ў лёсе аднаго з іх «Гісторыя крыўскай кнігі».

Ды хіба назавеш паўнавартаснай навуковай працай вывучэнне старажытных фаліянтаў, пісаных роднаю моваю тваіх продкаў ды таксама воляю неспагаднага лёсу закінутых на нямераныя прасторы Расіі, калі даводзіцца раз-пораз хукаць на задубелыя пальцы, курчыцца гадзінамі ў шапцы, паліто, валёнках? Бо на ацяпленні апусцелых бібліятэк паліва ашчаджаецца для іншых кабінетаў. Ды і большасць старанных чытачоў цяпер будавалі незлічоныя аб'екты пяцігодак, а ўначы дыханнем грэлі

выстылыя баракі. Кнігі ж не паскардзяцца. Бо гэта ўжо адышоўшыя людскія душы.

Хіба ўяўлялася колішняму сакратару «Нашай нівы», што ў сорак восем гадоў яму будзе наканавана згасаць невыносна далёка ад Бацькаўшчыны? Ён гэтулькі не паспеў зрабіць для Радзімы. І не паспее. Не паспее дапісаць дзівосную нацыянальную Калевалу, задуманую яшчэ пад час напісання «Беларускага радаводу», дзе ажывалі ў адной дзеі Волаты, Дубы і Курганы, Пакацігарошак і Салавей-разбойнік, Дажбог і яго каханне да Майі, Ярыла Сонцалікі і злы Чарнабог, Яшчар і Волас, Жыцень-спарыш і Цётка страшная, рэкі і лясы, вісячыя жалезныя сады, млыны, гумны, хаты з дамавікамі, гномамі, вадзянікамі, лесунамі, чарадзеямі, ваўкалакамі, Будзімірам, Купалкаю… А над імі валадар жыцця і смерці — спрадвечны Кон.

А раптам задуманае яшчэ можна будзе здзейсніць? Нават у такіх варунках… На густа спісаных аркушах, адрасаваных бацьку Максіма Багдановіча, саратаўскі выгнаннік з дзіцячаю вераю стане запэўніваць, не так суцяшаючы шмат старэйшага Адама Ягоравіча, колькі сябе, аб прызначаным чалавеку нармальным веку ў — ні многа ні мала — сто гадоў. Хіба пад час этнаграфічнай экспедыцыі на Мазыршчыну ён на ўласныя вочы не бачыў «работающего на сенокосе старика 120 лет»? Так што яны ў параўнанні з ім — маладзёны. Мудрыя маладзёны, якія ўжо ўмеюць цаніць хвіліны, дні, гады жыцця. І надыход развітальнага, зрэшты, малавырашальнага ў асабістым жыццёвым календары апошняга дня.

Паўторна арыштаваны 20 жніўня 1937 года ўпраўленнем НКУС Саратаўскай вобласці, Вацлаў Ластоўскі, праз 5 месяцаў катаванняў, 23 студзеня 1938 года як «агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі» рашэннем Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. 23 студзеня 1938 года прысуд над сынам Юстына і Ганны Ластоўскіх, над былым сакратаром «Нашай нівы», былым прэм’ер-міністрам Беларускай Народнай Рэспублікі, неадменным сакратаром ІБК, былым акадэмікам і неадменным сакратаром БАН прывялі ў Саратаве — горадзе, дзе нарадзіўся і пахаваны Мікалай Чарнышэўскі, — да выканання.

Расстралялі.

* * *

За ўвесь пасляваенны час мастацкая спадчына Вацлава Ластоўскага перавыдавалася толькі ў эміграцыі. Сёння мы абавязаны прамовіць слова падзякі тым, хто самаахвярна захоўваў памяць пра таленавітага літаратара і вучонага, грамадскага і культурнага дзеяча. Нязводнай

крыніцай для суайчыннікаў паўставала яснае перакананне, што, адкрываючы гістарычнае мінулае Радзімы, Ластоўскі служыў Праўдзе.

А на шляху да праўды няма забыцця.

Яшчэ пад час першай вядомай урачыстасці, праведзенай у Мінску да 60-годдзя з дня нараджэння выдатнага дзеяча сябрамі Беларускай самапомачы, успамінамі пра юбіляра падзяліўся Вацлаў Іваноўскі. Паводле яго сведчанняў, з-пад рукі Ластоўскага выйшлі не толькі манаграфіі, апавяданні, вершы, але і адметныя малюнкі, а таксама «собскія спробы ў скульптуры». Адна з іх — драўляная постаць Хрыста, які пакутліва «ўглядаецца, што з ягонай верай сталася».

Угледзьмася і мы ў наш шлях апошняга стагоддзя. Несмяротная «вера» Вацлава Ластоўскага — Беларусь-Крывія — прайшла праз Слуцкі збройны чын, Курапаты, Хатынь, Чарнобыль і не згінула…

Тым самым даючы надзею на ўваскрашэнне з паняверкі.

Як сёння ўваскрашаюць з нябыту вечна жывыя старонкі ягонай, яшчэ да канца не сабранай і не асэнсаванай, багатай творчай спадчыны.

Асаблівасці мастацкага стылю В. Ластоўскага — удзячная дзялянка даследавання будучых нашых літаратуразнаўцаў. Хаця першыя публікацыі пісьменніка прыхільна сустрэлі такія патрабавальныя крытыкі, як С. Палуян, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, аднак потым, выкрасленае з усялякага пераліку беларускай літаратуры, гісторыі, культуры ягонае імя напаткала пакутліва доўгае табу. Між тым, яшчэ малады, але з бездакорным мастацкім густам Сяргей Палуян, зачараваны музычнай настраёвасцю абразкоў Власта, пішучы першы ў беларускім літаратуразнаўстве XX стагоддзя аглядавы крытычны артыкул, прыгадаў празаіка-пачаткоўца ў вельмі ганаровым тандэме. «З новых сіл нашай літаратуры, — пісаў Палуян, — трэба адзначыць Максіма Багдановіча і Власта. У абодвух ёсць нешта супольнага, хоць першы піша вершы, а другі прозу. Але абодва яны паэты, бо абразкі Власта — гэта паэзія прозай. Абодвух іх роднiць супольны тон іх твораў, яны паэты настрою сумнага і ціхага, як шэрая часіна змяркання. Абое стануць у першым раду нашых пісьменнікаў…» Пазней ужо М. Багдановіч вылучыць імя Ластоўскага сярод некалькіх дзесяткаў нашаніўскіх аўтараў і паставіць яго асобна: «…адзін толькі Власт здалеў даць у сваіх абразках нешта цэннае».

Што да крытыкі і публіцыстыкі В. Ластоўскага — яна выразна пазнавалася на старонках «Нашай нівы» сваёй пранікліваcцю, пераканаўчасцю, вялікімі гістарычнымі ведамі, бескампраміснасцю, баявітасцю і разам з тым шчымлівым пачуццём сыноўняй любові, прагі хутчэй пабачыць родны край і люд не ў рабскім ярме. Колькі творцаў і простых чытачоў закранула яна за жывое! Толькі адзін прыклад: у канцы лютага 1914 года В. Ластоўскі публікуе артыкул «Бяздомныя». У ім паведамлялася аб продажы 230 беларусаў па 80 руб. за галаву калішскай эміграцкай канторай у Конга (потым гэты факт Власт

паўторыць у публікацыі «Горай не будзе» за 7 сакавіка). А ўжо 1 траўня тая самая «Наша ніва» друкуе верш М. Багдановіча «Эмігранцкая песня» — мастацкі верш, напісаны пад уражаннем артыкулаў публіцыста.

Сам Ластоўскі да паэтычнай творчасці звярнуўся амаль у 40 гадоў. Але звярнуўшыся да паэзіі, — выявіў сябе нетрадыцыйным майстрам вершатэхнікі. Ён ва ўсім імкнуўся быць наватарам. Паэтычная спадчына В. Ластоўскага невялікая — каля чатырох дзесяткаў вершаў. Наватарства матываў, настрою і літаратурных прыёмаў абумоўлена мастацкім крэдам В. Ластоўскага. Апошняе можна афарыстычна выказаць радком ягонага верша: « Новым імкненням даць новыя формы… стаўлю я мэтай».

Можна смела сцвярджаць: да гэтага Вацлаў Ластоўскі імкнуўся не толькі ў мастацкай творчасці, але і ў палітычнай барацьбе, у гарніле якой у першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя ён прагнуў вярнуць для Бацькаўшчыны-Беларусі спракаветныя формы дзяржаўнасці, страчаныя за час панавання над ёю чужынцаў.

Сёння, напрыканцы XX стагоддзя, вяртаецца да нас і ягоная творчая спадчына. Каб прамаўляць да нашчадкаў і ў сваю чаргу пабуджаць «да новых імкненняў».

*Язэп Янушкевіч*

# АПОВЕСЦІ

## ПРЫГОДЫ ПАНАСА І ТАРАСА

Нядзеляю ў ваднэй з вёсак Піншчыны Панас і Тарас, седзячы на прызбе, гутарылі аб тым, якія дзе жывуць людзі і аб іхных звычаях і парадках.

— А ведаеш што? — кажа Панас. — Гэта, што мы тут гаворыма і аб чым баюць старыя людзі, мо і няпраўда. А каб даведацца, як запраўды жывуць людзі на белым свеце, лепш вось што мы зробім. Дзеці ў нас абодвух дарослыя, з гаспадаркай уходаюцца, могуць ужо абыцца і без нашай рады. Мы ўжо адсеяліся, і цяпер якраз такая пара, што нам усёроўна няма чаго рабіць, а коні ў нас таксама ёсць гуляшчыя, — дык чым церціся па цяньках, паедзем лепш у белы свет паглядзець, як людзі жывуць.

— Праўду кажаш, кум, — згадзіўся Тарас, — едзьма! Толькі зараз жа трэба і збірацца, каб да касьбы і жніва паспець звярнуцца да хаты.

Сказана — зроблена.

Разышоўшыся па хатах, Панас і Тарас зараз жа загадалі сваім бабам рашчыніць хлеб і падрыхтаваць на аўторак усё патрэбнае ў дарогу.

На другі дзень, пакуль бабы пяклі хлеб і аладкі, білі масла, рабілі сыры і варылі кумпячыну на дарогу сваім дзядам, мужчыны прыбіралі воз, шмаравалі колы, гатавалі аброк, кавалі і кармілі коні, аглядалі запражку.

Згодна прыказцы — едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень — добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы ў дарогу ніколі не выбіраецца. Дык вось Панас і Тарас, улажыўшы ў мяшок па тры боханы хлеба, па добраму апольцу сала, па кумпяку, па штук пяць сыраў, па добрым слоіку масла і, дадаўшы да ўсяго гэтага яшчэ стаўпец аладак, — знайшлі, што харчоў павінна стаць на добры шмат дарогі. Апрача гэтага, паставілі ў воз поўную

дзяжу талакна. На ўсялякі выпадак адлічылі яшчэ ў падарожныя капшукі па дзесяць рублёў грошы. Налажылі воз сенам і аброкам, а знізу за трайню прывязалі вядзерца з каланіцай. На ўсялякае здарэнне ўлажылі ў воз сякеру. Панасавага каня, як старэйшага, запрэглі ў аглоблі, а Тарасавага, маладога, прыпрэглі збоку.

У аўторак рана, ледзь золак, яшчэ да ўсходу сонца, Панас і Тарас, падмацаваўшыся добра аладкамі з салам і падапрануўшы пад новыя світкі яшчэ кажушкі, рушылі ў дарогу.

Едуць, гутараць, піпачкі пакурваюць… Іхныя конікі патрухваюць.

Да Пінска дарога і людзі ўсе знаёмыя: сюды штокожнага аўторку яны на кірмаш ездзяць. На гэты раз кірмашнікаў таксама ехала шмат, і Панас з Тарасам у грамадзе не заўважылі, як апынуліся ў Пінску.

Тут сустрэліся яны з знаёмымі ды з роднымі, распыталіся ў іх дарогу на Берасце.

Урэшце дзеля адвагі і цяпла ў ногі «зрабілі па паўкварты» і паехалі далей.

Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць, піпачкі пакурваюць. Каго ні сустрэнуць, «дабрыдзень» скажуць, дарогу распытаюць. Да людзей, да іхнае работы прызіраюцца але пакуль што нічога новага не бачаць: людзі як людзі, усе такія, як Панас з Тарасам. Ведама — свая старонка!

Днём едуць, уначы папасуюцца. Прылучацца дзе да вясковых начлежнікаў, распрагуць сваіх конікаў, пусцяць іх на выган, а самі пагаманяць з людзьмі каля вогнішча, крыху паспяць ды адпачнуць і з усходам сонейка ізноў у дарогу вырушаць.

Да Берасця нічога новага не бачылі Панас з Тарасам: усе людзі як людзі — і гавораць аднолькава.

— А ведаеш, Тарас, пэўна, махлююць старыя людзі, што ёсць на свеце народ мазурэ? — кажа Панас.

— Чаму? — пытаецца Тарас.

— А таму, што вось мы столькі ўжо праехалі, а нікога і нічога новага яшчэ не бачылі: усё наш брат і нашая гаворка. Ці не вярнуцца нам ужо дахаты? Бо гэтак і ўвесь свет аб’ездзіш, а навіны дамоў не прывязеш і сам розуму не набярэшся.

— Пачакай, Панас, я чуў, што гэтыя самыя мазурэ, што родзяцца сляпымі, жывуць за Берасцем, а тут ужо, кажуць, не шмат засталося. Яны — тыя ж самыя паляке, бо жывуць у Польшчы. Гаворка іхная таксама польская, толькі надта ўсё яны шапечуць, і калі хутка залапоча ды зашапеча мазур, а асабліва мазурыха, дык пакуль не абслухаешся, дык трудна і зразумець, што яны

гавораць. Вечная памяць, мой бацька нябожчык казаў, што мазур не адважыцца назваць сябе паляком датыхчас, пакуль не пачне адзяваць нагавіц. А хлапцэ ходзяць у іх без нагавіц аж да той пары, пакуль не спатрэбіцца ісці ў сваты або ў войска, бо датыхчас дзяцюк усё яшчэ лічыцца блазнам. Недарма ж у нас кажуць «мазур-беспарточнік». А як ужо мазур улезе ў нагавіцы ды ўсадзіць у капялюш пяро з петушынага хваста, дык тады ўжо хоць і босы, але ходзіць галаву задзёршы. А як яны дзіўна вучацца нагавіцы адзяваць! Але я табе аб гэтым цяпер не скажу, бо табе ўсё скажы, дык і ехаць далей не захочаш. Пэўна, убачым гэта ўласнымі вачыма.

Зацікавіўся Панас і дамоў звяртацца раздумаўся.

Едуць далей. Прыехалі ў Берасце. Прыгожы горад! Спадабаўся Панасу і Тарасу. Знайшлі, што нат лепшы за Пінск.

Быў якраз кірмашны дзень. Пайшлі яны на рынак.

Ходзяць, да тавару, да людзей прыглядаюцца, да іхнае гутаркі прыслухаюцца.

— Тарасе, а Тарасе! Хадзі хутчэй сюды! Паслухай, як гаворыць вунь тая баба, што сыры на возе прадае: здаецца — не па-нашаму.

Падышлі — слухаюць. Пытаюцца, па чым сыры.

— По цтэнры злоты і цверць з вагі ззуцам! — хуценька адрэзала баба.

— Ты зразумеў, Тарас?

— Не! А ты, Панас?

— І я нічога не зразумеў! Калі яна надта хутка забалбатала ды яшчэ нейкая шапятлівая.

— Ну, дык гэта — мазурыха. А што? Я казаў табе, што варта ехаць далей!

— Ну, дык ідзем яшчэ прыслухацца, — кажа Панас.

Ідуць, прызіраюцца і да мовы прыслухаюцца.

— Панас! Хутчэй, хутчэй, глядзі, як вунь той чалавек на кані паехаў!

—Дзе, які?

—Вунь, недалёка ад студні.

Панас, як убачыў, дык аж мала не пакаціўся са смеху! На кані сядзеў сярэдніх гадоў чалавек тварам да заду і аберуч трымаецца за хвост, каб не зваліцца, усё глядзіць у той бок, адкуль едзе, а другі чалавек вядзе каня за вобруць.

— Во, праўду ткі кажуць: «Што край, то звычай». У нас гэтак конна не ездзяць. Хадзем, Панас, паўзіраемся, што далей будуць рабіць гэтыя людзі з канём!

Падвёў чалавек каня да студні, наліў у карыта вады — поіць, а той, што на кані, вокам не міргне, ні на кога не гляне і сядзіць, як слуп, утаропіўшыся на вазы, ад якіх ехаў.

Хочацца Тарасу з Панасам распытацца, што значыць гэтае з'явішча, але разам і брыдка ім паказацца сярод чужых людзей, нічога не ведаючымі.

Аж, на шчасце, пабачылі знаёмага жаўнера з іхнае вёскі, які служыў у Берасцейскай крэпасці. Вельмі абрадаваліся, што спаткалі свайго чалавека, і зараз жа пытаюцца:

— Скажы, Арцёмка, чаму гэты чалавек сядзіць на кані да хваста тварам і ўсё нейдзе ўглядаецца, нат вокам не міргне?

— А гэта, бачыце, мазурэ, як прыедуць у Берасце на кірмаш, дык, каб не адлучыцца ад сваіх і не згубіць воза на рынку, вядуць удвох паіць каня. Пакуль адзін вядзе каня і поіць яго, другі вось сядзіць на ім і ўвесь час сочыць за сваім возам, каб не спусціць яго з вока і каб потым не шукаць. Але гэта што? Вось вы ўбачыце яшчэ цікавейшыя рэчы…

— Тарас, Тарас! Глядзі, нашто гэтыя людзі, вунь ідучы, усе клубкі размотваюць?

— Дзе? Пакажы!

— Вунь, у ваднаго чалавека клубок ніцей у руках, там вось другі размотвае, ідучы ў краму, а вось баба распускае за сабою ніці… Арцёмка, што гэта яны робяць?

— А гэта — таксама мазурэ. Яны ў Берасце без клубка ніцей ніколі не едуць. Бо, калі трэба ім адысціся каму-небудзь ад свайго воза, дык, каб папасці зноў на тое месца, — распускаюць за сабой ніці, а потым, ідучы назад, ізноў змотваюць іх у клубке.

—То хіба яны надта далёка жывуць ад Берасця, калі гэты горад ім гэтакі незнаёмы?

— Не! Жывуць яны бліжэй, чым адгэтуль нашая вёска, але яны ўсе нейкія надта блуклівыя. Часта здараецца, што мазур ва ўласных палетках заблукаецца.

— Брэшаш, Арцём! Як жа можна не ведаць сваіх палеткаў?

— Я сам быў сведкаю гэтага здарэння!

— Ну, раскажы, як гэта было?

— Былі мы вось у мазурскай старане на манэўрах і стаялі ў ваднэй вёсцы. Дык адзін гаспадар, у якога я быў на кватэры, паехаў у поле гараць. Але не трапіў на сваю ніву ды загараў суседнюю. Назаўтрае лучыў якраз на сваё поле. Глядзіць і дзівіцца… Што за ліха! Учора гараў, а сяння ўжо травою зарасло? Ну, але раз гараў, то трэба і засеяць. Так і засеяў мазур нягоратую ніву! Або вось у нашай батарэі служаць два мазурэ, дык жыватэ мы з

іх панадрывалі: што дзень, то ўсё свежую штуку яны выкінуць. Служаць яны тут ужо з паўгода, а адзін з іх і дагэтуль не можа ніяк знайсці свайго ложка, як трэба спаць палажыцца — заўсёды на чужым умосціцца, пакуль яго не завядуць і не пакажуць яго месца. А на ранку як схопіцца, дык заўсёды то чужыя боты абуе, то нагавіцы або мундзер чужы адзене або ў чужую скрынку залезе, шукае ў ёй сваіх рэчаў і лаецца, калі не знаходзіць. І смех, і бяда з ім! А другі — дык праз даўгі час ніяк не мог запамятаць, дзе ў яго правая і дзе левая нага. Калі яму кажуць пачынаць ісці з левай нагі — ён ступае праваю, і наадварот, — дзе трэба ступіць праваю — ён суне левую. Нарэшце, каб ён мог адрозніць, узялі ды прывязалі да левае нагі сена, а да правае — салому, і ў часе машыроўкі замеж каманды «левай! правай!» крычалі яму «сена! — салома! сена! — салома!». І смех, і бяда! Але праз месяц для таго ўжо добра ведаў ён, дзе правая і дзе левая нага.

Зацікавіліся Панас і Тарас мазурамі.

— А што? Я казаў табе, што трэба ехаць далей! — упікнуў Тарас Панаса.

— Твая праўда, Тарасе! Ну дык цяпер ужо едзьма далей, паглядзімо на гэтых мазуроў…

З радасці, што сустрэліся з сваім чалавекам, Панас і Тарас, згодна прыказцы, што добры гаспадар не толькі ў жываце, а нат у ботах вады не любіць, пачаставаліся з Арцёмам квартаю гарэлкі, добра папалуднавалі, распыталіся дарогу і паехалі далей.

Едуць яны, едуць, між сабою гутараць. Піпачкі пакурваюць, конікі патрухваюць.

Праз лясы, палі праязджаюць, мясцовасць аглядаюць. Цікавяцца, як людзі поле абрабляюць, чым гаруць, чым засяваюць.

Едуць дзень, едуць другі, — усё тыя ж людзі, тыя ж са- мыя звычаі.

— Што за ліха? Дзе ж тыя мазурэ жывуць? — пачаў зноў непакоіцца Панас.

— Не пары гарачкі! — адказвае Тарас. — Цяпер, пэўна, ужо недалёка…

— Глядзі, глядзі, Тарас! Што гэты чалавек вунь робіць?

— Ну, што ж?.. Гарэ!

— Гарэ-то ён гарэ, але здаецца — ні канём, ні валом.

— А кім жа ён гарэ?

— Здалёк не разабраць — едзьма хутчэй!

Падагналі конікаў, пад’язджаюць бліжэй. Праўда, — чалавек гарэ, але саху цягне баба.

— А што? Праўда ткі, што мазурэ на бабах поле гаруць!
— Ну, цяпер і я паверу, — кажа Панас.
— Чалавеча добры! Што робіш? — пытаюцца.
— Гару! — кажа той.
— А дзе ж твае валэ?
— Нашто валэ? Пры чым яны тут? Яны вось на пашы!
— Дык на тое ж яны і валэ, каб на іх гараць!
— Што вы, людцэ? Яны ж не будуць ведаць, у які бок цягнуць!
— Нічога! Мы табе вось пакажам, як гэта робіцца.

Панас і Тарас зараз жа злезлі з воза, распрануліся, зрабілі на хуткую руку сякое-такое ярмо, злавілі пару добрых валоў, упрэглі. Адзін на першы пачатак правёў валы, а другі сахою кіруе. Пайшла работа як належыць! Вылупілі мазур з мазурыхаю бакулы і толькі дзівяцца! Што гэта за людзі такія, што і жывёле чалавечы розум могуць надаць?..

Як бачыш з паўганоў нагаралі, а потым кажуць мазуру:
— Ну, цяпер ты сам гары!

Узяўся мазур за саху, падагнаў валоў, — саха проста піша!

Не надзякуецца мазур, а яшчэ больш ягоная баба!
— Ну, едзьма далей, Тарасе! І добрую справу зрабілі, і конікі нашы адпачылі.

Селі, паехалі. Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць.

Прыехалі да вёскі.

У канцы яе, каля збажжовага магазыну, бачаць, — стаіць грамада людзей, і два чалавекі трымаюцца абедзвюма рукамі як бы за прарэх мяшка, быццам рыхтуюцца насыпаць у яго збожжа.
— Людзі, пэўна, збожжа пазычаць прыйшлі, — кажа Тарас.

Пад’язджаюць бліжэй, глядзяць, — аж гэта не мяшок, а нагавіцы.
— Глядзі, Тарас, дык тут пэўна ў нагавіцы збожжа насыпаюць!
— Пачакай, што далей будзе? — кажа Тарас.

Прыстакнулі, «дабрыдзень» сказалі і прыглядаюцца.

Бачаць, аж на страху магазыну палез малады дзяцюк, ушчарэпіўся на самы хрыбет, прымітыкаваўся насупроць нагавіц і раптам калі пабяжыць са страхі ды — гоц на зямлю, аж вякнуў.
— Не патрапіў! — крычаць мазуры, рагочучы.

Зноў палез дзяцюк на страху, прымітыкаваўся — гоц! — на зямлю.
— Не туды! — крычаць зноў мазуры.

Палез яшчэ дзяцюк на страху…

— Што гэта вы робіце тут, людцэ? — пытаецца Панас.

— А гэта вось мы вучым дзецюка нагавіцы надзяваць, — кажуць мазуры, — бо ўвечары, бачыце, у сватэ пойдзе.

— Гэ, ды гэта можна хутчэй зрабіць! — кажа Панас. — Дайце сюды нагавіцы! Я пакажу, як іх адзяваюць.

Узяў нагавіцы — шмыг! шмыг! У вадну калошыну, у другую, падперазаў паясом, — і гатова справа!

Дзівяцца мазуры і пытаюцца: «Адкуль вы, людзі?»

— А, — адгэтуль не відаць. Ну, а цяпер няхай гэты дзяцюк сам спрабуе гэтак зрабіць!

Дзяцюк злез са страхі, надзеў звычайным спосабам нагавіцы, углядаецца на іх, смяецца з радасці, рукавом пот з лобу выцірае, цешыцца і зухуе, што, улезшы ў нагавіцы, сталым паляком зрабіўся.

Не надзякуюцца мазуры, што даведаліся спосабу нагавіцы адзяваць!

— Ну, вось ізноў добрую справу зрабілі, а тым часам і нашыя конікі адпачылі, едзьма далей, — кажа здаволены Панас.

Селі, паехалі.

Едуць усё, едуць, між сабою гутараць. Свае люлечкі — пык! пык! пык! — пакурваюць, а іх конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць…

Прыязджаюць у вёску.

Бачаць, аж мужыкі цягнуць карову на страху за рогі, а бабы ззаду падпіхаюць.

Зацікавіліся Панас з Тарасам! Прыстакнулі, «дабрыдзень» сказалі, узіраюцца.

А карова аж раве, упінаецца — не хоча на страху лезці!

— Што робіце, людцэ? — пытаецца Панас.

— А ці ж не бачыш? Карову на пашу жанямо! — адказваюць мазуры.

На страсе, праўда, была добрая трава.

— Пачакайце, людцэ, гэта інакш робіцца! — кажа Тарас. — Дайце толькі сюды касу!

Прынеслі мазуры касу.

Тарас зараз намянціў яе, узлез на страху — шась! шась! шась! — скасіў усю траву, скінуў на зямлю і даў карове.

Дзівяцца мазуры, не надзякуюцца! Пытаюцца, скуль гэткія разумныя людзі?

— А стуль, дзе нас цяпер ужо няма! — адказаў Панас.

— А ці далёка гэта будзе ад нас?

— А мы якраз з таго месца, дзе сонейка ўсходзіць!

— А-а-а!.. калі так, то вы — нашыя блізкія суседзі, бо ў нас сонца вось за лесам усходзіць!

Узрадаваліся мазуры «блізкім суседзям», паклікалі іх у хату, напаілі, накармілі, аб сабе расказалі.

Рады Панас з Тарасам! І дабро робяць, і ад людзей павагу і падзяку маюць!

— Едзьма далей, Тарас!

Селі, паехалі.

Едуць усё, едуць, між сабою гутараць. Свае піпачкі — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць.

Уехалі ў вёску.

Бачаць, усе хаты без вакон. А з адной хаты і старыя і малыя з рознымі начыннямі — хто з рэшатам, хто з вядром, хто з дайніцаю, хто з цабэркам, хто з дзяжой або проста з векам ад яе — выбегуць на вуліцу, зачэрпаюць паветра, бы ваду, прыкрыюць радном і зноў бягуць у хату, і гэтак усё бегаюць і бегаюць, быццам на пажары.

Зацікавіліся Панас з Тарасам!

Прыстакнулі, «дабрыдзень» сказалі і пытаюцца:

— Што гэта вы, людзі добрыя, робіце?

— А хіба не бачыце? Сонца ў хату носім!

— Слухай, Панас! Гэта ж надта добрая рэч — мець сонца ў хаце! Пойдзем паглядзімо, ці многа ўжо нанасілі гэтыя людзі сонца і ў якім месцы яны прычапілі яго, каб свяціла.

Увайшлі ў хату, «дабрыдзень» сказалі. Ім хтосьці адказаў, а хто — і не бачаць, — так цёмна ў хаце.

— Дзе ж вашае сонца? — пытаюцца.

— А яшчэ не нанасілі, — кажа мазурыха.

— А ці доўга прыйдзецца насіць?

— А цэлы дзень, пакуль аж сцямнее.

— Ну, а потым што вы робіце?

— А потым спаць лажымося.

— Э-э-э!.. Дык гэта інакш робяць: у нас не носяць, а ловяць сонца. І адзін раз як зловяць, дык тады ўжо ніколі яно з хаты не ўцякае!

— Ну, пакажэце ж, людцэ добрыя, як гэта зрабіць? — просяць мазуры.

— Ну, дык дайце сюды пілу і дзве сякеры!

Прынеслі мазуры пілу і дзве сякеры.

Панас з Тарасам зараз распрануліся — гак! гак! гак! — прасеклі дзіру ў сцяне, усадзілі ў гэтую дзіру пілу — шарэг! шарэг! шарэг! — прарэзалі вакно і ўпусцілі ў хату сонца. Потым як бачыш выразалі другое, трэцяе вакно, і ў хаце стала відно, як на дварэ.

Дзівяцца мазуры, не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

— А якраз з таго месца, дзе неба з зямлёю сходзяцца!

— Э!.. Ды гэта ж зусім блізкія суседзі, бо неба сходзіцца з зямлёю вось за гэтай гарою.

Зараз хамянуліся частаваць добрых людзей, «блізкіх суседзяў». Прынеслі гарэлкі, масла, сыру. Панас і Тарас п'юць, ядуць, пра іхнае жыццё распытваюць, аб сваім расказваюць. Конікі іхныя таксама адпачываюць, мазуровым аўсом частуюцца. За чаркай ды за гутаркай не заўважылі, як і вечар надышоў. Просяць мазуры Панаса з Тарасам начаваць у іх. Упадабаліся ім «суседзі блізкія», людзі добрыя, што сонца назаўсёды ў хату залучылі!

А Панас з Тарасам толькі й чакалі гэтага — цікавіў іх сямейны лад мазуроў.

Палеглі яны на лавах — быццам спяць, а самі адным вокам сочаць за тым, што робіцца ў мазуровай хаце. Бачаць, — напаліла мазурыха печ, нагрэла саганоў з пяць вады, выліла яе ў цэбар. Потым выграбла з печы жар і кажа свайму гаспадару:

— Ну, лезь парыцца!

Скінуў гаспадар з сябе сарочку і палез у печ.

Па нейкім часе вылез мазур з печы, апаласкаўся ў цэбры, адзеўся і палез на печ.

А мазурыха палезла ў печ.

Старэйшы сын прычыніў яе заслонкаю і сам пачаў раздзявацца.

Падышоў да печы, кліча матку, а яна не адзываецца. Адчыніў засланку ды як закрычыць: «Ратуйце, людзі! Матка скапэрсцілася!»

Панас з Тарасам скочылі з лаваў, выцяглі за валасэ бабу з печы, адлілі яе вадою ды і кажуць:

— Ну, гэтак людзі не парацца.

— А як жа? — пытаюцца мазуры.

— Вось заўтра мы пакажам, а сяння спеце ўжо.

Назаўтрае, ледзь золак, усталі Панас з Тарасам, збудзілі гаспадара, пайшлі ў старую хату, зляжылі там каменку, прыладзілі палок. Нацаплілі лазню, нанасілі бочку вады, нагрэлі яе камянямі, навязалі бярозавых венічкаў і давай самі парыцца.

Глядзяць мазуры і дзівяцца. А потым самі давай гэтак рабіць. Упадабалася мазурам лазня! Не надзякуюцца яны добрым людзям, «блізкім суседзям».

— Ну, Тарас, нашае падарожжа, як я бачу, штораз усё цікавейшае, штораз то ўсё лепш нам паводзіцца. Едзьма далей!

Селі, паехалі.

Едуць сабе, едуць, між сабой смяюцца, гутараць, свае піпачкі — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць.

Прыязджаюць зноў у вёску. А быў якраз святочны дзень.

Бачаць, аж з адной хаты людзі ўсё бегаюць то ў свіран, то са свірну назад у хату — і ўсё па чародзе, пачынаючы з гаспадара і канчаючы самым наймалодшым. Сноўдаюцца сюды й туды, быццам мурашкі ў мурашніку.

Прыстакнулі Панас з Тарасам, узіраюцца.

Бачаць, што кожны бяжыць у свіран і назад у хату з шылам у руцэ.

Зацікавіліся падарожныя.

— Што вы робіце, людцэ добрыя? — пытаюцца яны ў гаспадыні.

— А ці ж не ведаеце? Аладкі з мёдам ямо!

— Ну, то чаго вы бегаеце, калі аладкі ясцё? Сеў каля стала — і еж сабе!

— А як жа сядзець, калі аладкі ў хаце, а мёд у свірне?

— Ну, а дзеля чаго ў цябе шыла ў руцэ?

— А гэта мы на шыле мёд са свірну носім.

— Ну, гэта інакш робіцца! Хочаце — пакажам?

— Добра, пакажэце! — згадзіліся мазуры.

Зараз Панас і Тарас прынеслі са свірну ражанку з мёдам, паставілі на стол, селі і паказваюць, як трэба аладкі з мёдам есці.

Нагледзеліся мазуры і самі пачалі гэтак рабіць. Ядуць, хваляць, што смачна, і не могуць надзівіцца, да чаго на свеце ёсць людзі хітрыя.

Наеліся Панас і Тарас за сваю навуку аладак з мёдам. Атрымалі ад мазуроў гору падзяк і паехалі далей.

Едуць яны, едуць, міжсобку жартуюць і смяюцца, аб тым, што бачылі, гутараць. Піпачкі — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — трухаюць.

Праз лясы, палі праязджаюць, з прыгорка на прыгорак пераваліваюцца. На выганах начлягуюць, сваіх конікаў папасваюць.

— Тарас, а Тарас!

— Што, куме Панас?

— Вось колькі часу мы ўжо едзем, колькі ўсяго ўжо нагледзеліся, а дагэтуль яшчэ не праканаліся ў блуклівасці мазуроў.

— Я і сам ужо аб гэтым думаю, Панас.

І толькі сказаў гэта Тарас, як узяў зараз жа завярнуў коні назад, быццам раптам здумаў да хаты варочацца. Але спыніў коні і далей не едзе.

А было гэта ўжо на захадзе сонца.

— Што ты замануў, Тарас? Няўжо да хаты здумаў варочацца?

— Пачакай, Панас! Будзеш зашмат ведаць — хутка старым станешся.

Стаяць сярод дарогі, азіраюцца. Бачаць — з лесу выяз- джае цэлы абоз мазуроў.

Пад’ехалі мазуры да нашых падарожных і пытаюцца:

— Куды едзеце, людцэ?

— У Берасце! — адказвае Тарас. — А вас куды Бог нясе?

— Таксама ў Берасце. А ці не ведаеце, колькі вярстоў засталося яшчэ ехаць?

— А вярстоў дваццаць, можа, будзе. А ці здалёк, людзі добрыя?

— О, здалёк: вось з-за гэтага лесу! А вы адкуль?

— Мы якраз з таго месца, дзе сонца заходзіць.

— Дык, значца, вы — блізкія суседзі, бо ў нас сонейка заходзіць вось за гэтым прыгорачкам! Ну, а чаго ж вы стаіце, чаму не едзеце?

— Мы вось думаем, — кажа Тарас, — што не варта нанач у горад ехаць: і коней няма дзе папасціць, і за начлег трэба плаціць. А тут вось добры выган, травы колькі хочаш і лес блізка, — давайце разам заначуем тут, у грамадзе весялей будзе. А заўтра разам паедзем.

— Праўду кажаш, чалавеча! — згадзіліся мазуры.

З’ехалі на выган, распрэглі коні і пусцілі іх на пашу. Самі нанасілі дроў, разгнецілі вогнішча, павячэралі кожны са сваёй торбачкі, пагутарылі і ляглі спаць.

Мазуры зараз жа і захраплі, як пшаніцу прадаўшы, хоць пшаніца яшчэ была ў мяшках на вазах.

Не спяць толькі Панас і Тарас: аднаго карціць выканаць сваю думку, а другога надта цікавіць гэты сакрэт.

А мазуры храпуць, аж захлынаюцца, і, пэўна, ужо па трэцяму сне трызняць.

Вось Тарас раптам падняўся.

— Ну, пойдзем, Панас!

— Куды?

— От, — ідзі, калі кажу!

Падышлі да вазоў.

— Варочай усе вазэ аглоблямі назад!

Паперакручвалі ўсе вазы назад і пайшлі спаць.

Назаўтра, яшчэ да ўсходу сонца, усе схапіліся, палавілі коні, запрэглі і паехалі.

Едуць сабе, едуць, з мазурамі гутараць, аба ўсім распытваюць. Пад'язджаюць да вёскі.

— Што, мо гэта ўжо Берасце? — пытаюцца мазуры ў нашых падарожных.

— Але, Берасце, — кажа Тарас, а самога аж разрывае ад стрымліванага смеху.

— Але ж зусім як наша вёска! — абрадаваліся мазуры.

— Глядзеце! — паказвае адзін мазур. — Вунь тая баба, што нясе воду, як дзве кроплі вады падобная да мае Магды!

— Праўда! — кажуць мазуры.

А Панас і Тарас аж жываты падціснулі паясамі, каб не трэснуць ад стрымліванага смеху.

— Глядзеце, людцэ, дык тут і каравэ зусім як нашыя! — дзівяцца мазуры, гледзячы на стада, што ішло з поля.

Уязджаюць у вёску. Коні давай цягнуць вазы кожны на свой панадворак!

Насустрач кірмашнікаў павыбягалі з хатаў мазурыхі. Пытаюцца ў мужыкоў, чаму не прадалі пшаніцы.

А тыя стаяць, праціраюць вочы і толькі лыпаюць імі.

А некаторыя мужыкі пачалі сварыцца з жанкамі. Адны кажуць, што прыехалі ў Берасце, а жанкі пераконваюць іх, што дамоў.

А Панас з Тарасам падагналі конікаў дый паехалі сабе далей. Ад'ехаліся за сяло, уволю нарагаталіся.

— А што, заўсёды слухай мяне, Панас! — кажа Тарас.

— Ну і мудры народ гэтыя мазуры! Едзьма, браток, далей, бо кажуць людзі, што «чым далей у лес, тым больш дроў».

Едуць яны, едуць, між сабой жартуюць, гутараць. Піпачкі свае — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — трухаюць.

Уязджаюць зноў у вёску. Бачаць, — будуюць мазуры новую хату.

— О, гэта цікава паглядзець! — кажа Панас.

Пад'ехалі блізка, прыстакнулі, «памажы Божа» сказалі.

А мазуры якраз у гэты самы час, пабраўшыся па чалавек дзесяць за вяроўкі, прывязаныя за адзін і другі канец да прыгатаванай і ўжо як мае быць абчэсанай бэлькі, цягнуць адны да сябе, а другія да сябе, аж вочы на лоб у іх выпірае.

— Што робіце, людзі добрыя? — пытаецца Тарас.

— А ці ж не бачыце? — бэльку хочам расцягнуць! Кароткая, бачыце, папалася дзеравіна, а ў нас даўжэйшае няма!

Глядзяць Панас з Тарасам, чакаюць, пакуль мазуры бэльку расцягнуць. А яны пацягнуць, пацягнуць, завалакуць на зруб, прымераюць, — кароткая!

Давай зноў цягнуць!

Урэшце змарыліся мазуры, запацелі, быццам з вады вылезлі, і бачаць ужо, што не дадуць рады — не зробяць бэлькі даўжэйшай. Паселі і сумуюць.

— А вось мы удвох як бачыш вам гэтую бэльку падоўжым!

— Ну! Хіба жартуеце? Нас вось дваццаць чалавек не далі гэтаму рады, а вы ўжо нешта зробіце?

Панас і Тарас, нічога не адказаўшы, зараз распрануліся, змерылі папярэчную сцяну зруба, знайшлі патрэбнай даўжыні ашавалачак дзеравіны, абчасалі, прыладзілі да бэлькі, збілі дубовымі цвякамі, удвох зацягнулі, улажылі і пытаюцца ў мазуроў:

— Ну што, далі рады?

Дзівяцца мазуры і не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

— А мы адтуль, адкуль хмары на неба падымаюцца!

— Э! Дык вы нат блізкія суседзі, бо ў нас хмары заўсёды з-за гэтага лесу выходзяць, а туды толькі вярстоў з два будзе!

Запрасілі мазуры добрых людзей, «блізкіх суседзяў» у хату, паставілі за працу і добрую раду барышу, частуюць, кормяць, аб сваім жыцці расказваюць.

П'юць, ядуць Панас з Тарасам як добрыя госці, з мазурамі гутараць, жартуюць. Не заўважылі, як сутуняла.

Астаўляюць іх мазуры нанач. Паслалі Панасу на адной лаве, Тарасу — на другой. Ляглі падарожныя і спяць.

Прачыхаецца Тарас уначы, аж чуе — мазурыха дзіця нарадзіла.

«Во шчасціць нам, — думае, — і на баль папалі, і даведаемся, якімі мазурэ родзяцца».

Наранкі Тарас, нічога не кажучы Панасу, жыў — не гарыць, хутчэй угледзець навароджанага мазура. А папрасіць, каб паказалі, не адважыцца, бо гэта не згодна са звычаем.

Урэшце дачакаўся-такі Тарас, як усе выйшлі з хаты, а парадзіха заснула, адвярнуўшыся да сцяны. Падбег гэта ён да ложка, адкрыў дзіця, зірнуў на яго ды кліча хутчэй Панаса.

Падбег Панас, глядзяць абодва, — у дзіцяці сапраўды вочы заплюшчаныя і быццам вечкі зросшыся.

Дзіця раптам заплакала.

— Глядзі, нат слёзы не цякуць! — кажа Тарас. — І вочкі ўсё заплюшчаныя!

У сенях нехта стукнуў, — і Панас з Тарасам хутка адскочылі ад дзіцяці і, як ні ў чым не бывала, сядзяць на лаве і монтаюцца каля капшукоў, быццам курыць рыхтуюцца.

— А што? Такі праўду людзі кажуць, — гаворыць Тарас, выехаўшы з панадворку.

— Аб чым? — пытаецца Панас.

— Ну, а пра тое, што мазурэ сляпымі родзяцца!

Едуць яны далей, між сабой гутараць, смяюцца. Піпачкі свае — пык! пык! пык! — папыкваюць. Конікі іхныя — трух! трух! трух! — патрухваюць. І ім нічога сабе пасля мазуроўскага аўса.

Пад’язджаюць нашыя падарожнікі да ракі — конікі піць захацелі.

Разнуздалі. Пояць.

Бачаць, аж да іх пад’язджае абоз мазуроў, таксама коні паіць. Напаілі мазуры коні і згаворваюцца між сабой талакно рабіць.

— Цікава паглядзець, — кажа Панас, — як мазурэ талакно робяць. Заложым тут папаску і пасочым.

— Праўду кажаш, Панас!

Падкінулі конікам сена, самі дасталі з воза сваю лусту, селі, сілкуюцца і да работы мазуроў прыглядаюцца. Бачаць — знялі мазуры з воза мяшок мукі і нясуць да ракі.

Зацікавіліся Панас з Тарасам: што далей будзе?

Потым пракапалі мазуры ў беразе заваню, напусцілі ў яе вады і насыпалі солі. Памяшалі воду, пакаштавалі — не солана! Яшчэ сыплюць соль — не солана. Цэлы мяшок солі ў заваню ўвярнулі і ніяк вады не пасалілі.

«Што за ліха?» — дзівяцца мазуры.

Але, як солі ўжо больш не было, то рашылі і з недасолам пагадзіцца.

Сыплюць муку. Мяшаюць, — усё рэдкае талакно!

А мука, ведама, з вадой збягае.

Цэлы мяшок мукі ў заваню ўгацілі, а талакно ніяк не загусае. Што за ліха? Рашылі мазуры, што мука на дно сселася. А як яе размяшаць?

Зараз паклікалі мазуры хлапчука, прывязалі яму да шыі камень, а да пояса — вяроўку і кажуць: «Лезь у заваню талакно мяшаць!»

Хлапчук быў невялічкі — і як чабоўхнуў у заваню, дык і схаваўся з галавою.

Клічуць мазуры хлапчука, — не адзываецца.

— Во, бэстыя! — кажуць мазуры. — Дапаў да талакна, — і нам нічога не пакіне! Пусці казла ў гарод!..

Шкада Панасу і Тарасу хлапчука, але яны і самі няпэўныя, што ён утапіўся. Хто яго ведае? А мо мазуры і сапраўды пад вадою могуць дыхаць?

І страх іх бярэ, і праканацца хочацца. Глядзяць, што будзе далей.

Паклікалі яшчэ раз мазуры хлапчука, — не аказваецца.

— Абжорся, пэўна, талакна ды вылезці не можа, — рашылі яны.

Пацягнулі за вяроўку — выцягнулі хлапца.

— Бач, як нажорся, аж распух! Ну, няхай паспіць тут на беразе, — кажуць мазуры.

Клічуць яны другога хлапца, прывязваюць да шыі камень, за пояс вяроўку, загадваюць не есці ўсяго талакна і спускаюць у заваню.

Не сцярпелі тут Панас з Тарасам! Праканаліся, што і мазуры пад вадою жыць не могуць.

— Пачакайце, людцэ! Што вы робіце? — крычыць на іх Тарас.

— Талакно мяшаем! — адказваюць мазуры.

— Дык чаму ж вы ў дзяжы ці ў якім другім начынні талакна не робіце?

Мазуры сказалі, што ніякага начыння з сабою не маюць, а надта хочуць есці, бо даўно ў дарозе.

— Ну, дык мы вам пакажам, як можна без начыння талакно зрабіць! — кажа Тарас.

Зараз распрануліся, закасалі рукавы, папрасілі мукі і парожні мяшок. Зрабілі цеста, вымазалі ім добра з сярэдзіны мяшок, насыпалі туды мукі, размяшалі, пасалілі і ўнеўзабаўкі далілі для мазуроў дзеля лепшага смаку і маны большую палову талакна з свае дзежкі.

Добрае выйшла талакно! Ядуць мазуры, хваляць, добрым людзям не надзякуюцца, іх розуму не надзівяцца.

Паехалі Панас і Тарас далей.

Едуць яны, едуць, між сабой гутараць. Піпачкі—пык! пык! пык! — папыкваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць…

Пад’язджаюць яны да ракі. Бачаць, — ні моста, ні броду. Мост, як відаць, раней быў, але навальніцай знясло.

Што тут рабіць? Стаяць, сумуюць. Чакаюць, мо хто пад’едзе ці надыдзе.

Аж, на шчасце, ідуць чатыры мазуры. Добра — будзе ў каго спытацца, дзе бліжэйшы мост.

Падыходзяць мазуры да ракі. Бачаць, — аж ні моста, ні броду. А ім трэ абавязкова на другі бок перайсці.

Сумавалі, сумавалі, круціліся каля ракі, круціліся — урэшце знайшлі на беразе дзеравіну.

Зараз двух мазуроў селі на тую дзеравіну, таварышэ прывязалі ім да гэтае дзеравіны ногі і папхнулі ад берага. Дзеравіна, як бачыш, круць! — і толькі ногі мазуроў тырчаць над вадой.

А таварышы іх стаяць на беразе і смяюцца.

— Бачыш, — кажуць, — трасца іх галаве, яшчэ пераехаць не пераехалі, а ўжо ганучы сушаць!

Скочылі Панас з Тарасам ратаваць людзей, але ўбачылі, што ўжо не дадуць рады. Так і паплылі мазуры з вадой.

А таварышы іхныя стаяць на беразе і ўсё галёкаюць, каб ім хутчэй дзеравіну падавалі, але не дачакаліся і, раззлаваўшыся, пайшлі назад.

— Бач, трасца іх галаве! — кажуць. — Во, павер ім другі раз!

На пытанне Тараса і Панаса, ці далёка адтуль другі мост, сказалі, што не ведаюць.

Стаяць Панас і Тарас каля ракі і думаюць, што далей рабіць.

— Ведаеш што, Тарас? Вернемся ўжо дахаты! Пакуль даедзем, — якраз будзе пара касіць!

— Праўду кажаш, Панас, але сяння ўжо позна — давай пераначлегуем тут!

Адпраглі коні, пусцілі іх на траву. А самі раздабылі дроў, расклалі вогнішча. Падпякаюць сабе на ражэнчыках сала, вячэраюць. Павячэраўшы, наадменку паспалі.

Назаўтрае разам з сонейкам у дарогу вырушылі.

Едуць яны, едуць, між сабою гутараць. Піпачкі — пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць.

Праз знаёмыя лясы, палеткі і вёскі праязджаюць, з прыгорка на прыгорак падымаюцца, са знаёмымі людзьмі сустракаюцца. З імі гутараць і расказваюць, дзе былі і што бачылі. За навуку мазуры ім дзякуюць, да сябе з пашанай заклікаюць, частуюць, кормяць і з добрымі пажаданнямі выпраўляюць.

Прыязджаюць Панас з Тарасам у тую вёску, дзе яны навучылі цесляў, як бэльку падоўжыць.

— Ну, няведама, скончылі мазурэ хату ці не? — кажа Панас.

— Вось пабачым…

Пад’язджаюць бліжэй. Бачаць, — аж мазур ходзіць вакол свае новае хаты з запаленым смаляком і ўсё ткае яго пад страху.

— Бач, нечысць! — кажа мазур. — Не паспеў гаспадар яшчэ і абагрэцца ў хаце, як ён ужо першыя свае цянёты параспасціраў… Згінь, прападзі, нячыстая сіла!

І перахрысціўшы падстрэшша смаляком з агнём, мазур уваткнуў яго ў салому.

Ледзь паспелі Панас з Тарасам заліць страху, што аж жыганула.

А мазур, спалохаўшыся, што хата загарэлася, аслупянеў і толькі вачыма лыпае.

— Што гэта ты хацеў зрабіць найлепшае? — пытаецца ў яго Тарас.

— А я, — кажа, — хацеў абсмаліць толькі тыя ніці, што нячысцік панаблутваў пад страхой, каб апутваць імі душы людскія.

— Ды гэта ж — павуценне! А калі ты яго ўжо так баішся, дык дай мятлу, — я пакажу, як ад яго бараніцца.

Прынёс мазур мятлу. Тарас пазнімаў ёю павуцінне, мазуры, якія збегліся на гэта з’явішча, аж раты паразяўлялі.

— Да чаго ёсць хітрыя людзі на свеце!..

Развіталіся Панас і Тарас з мазурамі і паехалі далей.

Едуць сабе, едуць, між сабою смяюцца, гутараць, з розуму людскога не надзівяцца.

Пад’язджаюць пад карчму. А час быў ужо позны, пачало сутонець.

— А ведаеш, Тарас? Паначуйма хоць раз у карчме — тут пэўна людзей свежых сустрэнем, па чарцы вып’ем, разгутарымся, зноў чаго-колечы новага даведаемся.

— Праўду кажаш, Панас!..

Заехалі да жыда ў стадолу, распрэглі коні, прывязалі, падкінулі ім сена, а самі пайшлі ў хату.

Падарожных у карчме было многа. І ўсё адны мазуры. Сярод іх знайшліся і знаёмыя Панасу і Тарасу.

Зараз прывіталіся, слова за слова — і разгутарыліся.

А каб развязаць у мазуроў языке і здабыць прыяцельст- ва, — Панас з Тарасам заказалі кварту гарэлкі. Нарэзалі сала. П’юць, ядуць, бяседу вядуць. Мазуры з свайго боку пачалі гарэлку ставіць. Панас і Тарас прапануюць ім закусваць салам, а мазуры адмаўляюцца.

— Мы не кацапы, — кажуць, — свіную скуру есці.

— Мы таксама не кацапы, але сала не змяняем на вашую маслянку.

А мазуры тым часам якраз паставілі на стол бойку з маслянкаю і ўсё абмаквалі ў яе хлеб.

— Дык хто ж вы, калі не кацапы? — пытаюцца мазуры.

— Мы — паляшуке, бо жывём на Палессі. Але нам цікава, чаму вас мазурамі завуць, калі вы і ў Польшчы жывяцё?

— Мазурэ — гэта ў нас мужыке, як і мы з вамі, а палякамі называюць тых у нас, што працаваць адвучыліся.

— Цікаўныя рэчы мы ад вас чуем! А вы, можа, і не ведаеце, скуль вы на свеце ўзяліся?

— Для цэго з не вемы? Нас Бог ствозыл!

— Вось і не ведаеце! Бог стварыў толькі першага чалавека, што Адамам зваўся. А ўсе людзі, што распладзіліся ад Адама па ўсёй зямлі, атрымалі свае назовы ад тых мясцовасцяў, дзе яны засяляліся, або самі надалі назову той мясцовасці, якою заўладалі. І вось кожны народ асеў на сваёй зямліцы, сваёй гаспадарцы: расейцы — у Расеі, немцы — у Нямеччыне, французы — у Францыі, паляке — у Польшчы, крывічэ — у Крывіі. Да крывічоў і мы належым, але як нашая зямелька вялікая, то каб адрожніць, хто адкуль паходзіць, дык маем яшчэ асобныя мясцовыя назовы. Толькі вось мазурэ жывуць на падсуседзях у палякоў, — не то паляке, не то не паляке: мова шапялявая, вопратка дзіравая, гавораць, як кашы-мазухі ў губу набраўшы. Згэтуль — і мазурэ. Калечаны народ! А калі хочаце ведаць, як і калі акалечыліся, дык раскажам вам.

— Скажэце, людцэ добрыя! — просяць мазуры.

— Добра, — кажа Тарас, — дык слухайце ж ды не гнявайцеся, калі што не спадабаецца. Жыў сабе за Берасцем адзін паляк ды такі лядашчы і зухвалы, што нікому і дарогі не ўступаў. Нат усе паляке ад яго адхінуліся, кажучы, што гэта нейкі ўжо надпаляк. От аднаго разу заступіў гэты паляк дарогу чорту і давай з ім біцца, а чорт калі смальне яму ў зубы, дык яны ў паляка і высыпаліся. Адгэтуль пачаў ён шапятаць, і ад яго пайшоў цэлы такі род, бо дзеці перанялі ягоную шапятлівую мову. Дык от, знача, мазурэ — тыя ж паляке, толькі што шапятлівыя. Але паляке, памятаючы іх паганага продка, і цяпер на мазуроў ласкі не маюць, па свеце іх разганяюць, па чужых краях распіхаюць і ўсе небяспечныя кутке мазурамі затыкаюць. Што ж, няпраўда мо?

— Можа, і праўда, — згадзіліся мазуры, — калі людзі аб гэтым баюць.

Пагутарылі яшчэ аб тым, аб сім, як гэта заўсёды бывае паміж падарожнымі ды яшчэ за чаркаю гарэлкі. Урэшце ўсе параззуваліся і палягалі спаць.

Назаўтра, пакуль мазуры яшчэ спалі, прачнуўся Тарас і будзіць Панаса:

— Панас, Панас! Хутчэй уставай! Будзем снеданне гатаваць.

Панас прахапіўся і думае: «Зноў, пэўна, нейкую штуку прыдумаў мой кум».

— Ну, Панас! Збірай хутчэй усе мазуроўскія хадаке і рэж з іх скваркі, пакуль я агонь распалю.

Распаліў Тарас на прыпеку дровы, паставіў трыножак, нарэзаў на скавараду сала, укінуў туды скваркі з мазуроўскіх хадакоў — пячэ.

Па карчме пайшоў прыемны пах, быццам добрая гаспадыня верашчаку варыць. Сала прабралася да жыдоў у камору і так паказытала ў носе старазаконнага Янкеля, што той праз сон аж чхнуў.

А падхартаным мазуром дык пэўна аладкі сніліся.

Нарэшце яны сталі прачынацца і, пахлынаючы ў сябе прыемнае паветра, пытаюцца:

— Чым гэта так смачна пахне?

А Панас з Тарасам паставілі на стол кварту гарэлкі, смажаніну з хадакоў і клічуць на снеданне ўсіх мазуроў.

— Ідзеце, — кажуць, — на развітанне пачастуем вас варшаўскімі флякамі.

Уселіся мазуры за стол. Выпілі па чарцы. Хрумстаюць свае хадаке, аж за вушамі трашчыць! Хваляць Панаса і Тараса, што ўмеюць так добра флякі гатаваць.

А Панас і Тарас толькі ўсміхаюцца. Ядуць сабе сала, а да скварак з хадакоў не дакранаюцца.

— Чаму ж вы, людцэ, самі не берацё флякаў? — пытаюцца мазуры.

— Мы ўжо даўно паснедалі і вось толькі наўмысня вас на развітанне пачаставаць захацелі.

— Дзякуем вам, людцэ добрыя! За ўсё нашае жыццё не елі такіх смачных рэчаў!

Паснедалі мазуры і, аблізваючыся, ад стала разышліся. Рыхтуюцца абувацца. Тыц-мыц! — пад лаўкі, пад стол, — а барсуноў і няма! Што за ліха? Сабакі не брахалі, а хадаке пакралі! Галовы скруцілі іх шукаючы! Прычапіліся да жыда.

— Давай, — крычаць, — нашыя хадаке, а то пэйсы павылупім!

А ад барсуноў толькі аборкі па карчме валяюцца. Ма- зуры ўжо згаварваюцца на гэтых аборках жыда вешаць, калі не аддасць барсуноў або не заплаціць за іх.

Пашкадавалі Тарас і Панас жыда і прызналіся, дзе барсуны дзеліся.

Сумеліся мазуры. Дзівяцца здольнасці Панаса і Тараса! За хадаке не злуюць, бо навука грошы каштуе. Але чаго ж і гневацца, калі самі спажылі ды яшчэ за чужою чаркаю гарэлкі? Затое пераканаліся, што за моц мае сала, якога яны ўперад баяліся ўжываць. Абяцаліся нат, заехаўшы дамоў, пасмажыць усе заваляшчыя хадаке, якія дзе толькі знойдуцца.

От з таго пэўна, часу мазуры і прывыклі да сала і цяпер нат без хадакоў яго ўжываюць!

Як з добрымі прыяцелямі развіталіся мазуры з Панасам і Тарасам.

Селі яны і паехалі.

Едуць сабе, едуць, між сабою гутараць. Да роспуку рагочуць, як хадаке прыпамятаюць. У вясёлым настроі не заўважылі, як апынуліся ў Берасці.

— Ну, дзякаваць Богу, сваёй старонкай запахла!

Тут яны зноў сустрэліся з Арцёмам. Расказалі яму, што чулі й бачылі на белым свеце. Выпілі разам кварту гарэлкі, узялі ад Арцёма ліст да ягоных бацькоў і паехалі далей.

На Купала яны былі ўжо дома. Якраз да касьбы ўправіліся!

Рады Панас і Тарас, што сваімі вачыма ўбачылі, да чаго мудрыя людзі на свеце жывуць! Не раз панадрывалі ад смеху жываты суседзі Панаса і Тараса, слухаючы іх апавяданні. Ды й цяпер яшчэ, лежачы на печы (бо ўжо зусім старыя), апавядаюць яны сваім унукам, як мазуры на свеце жывуць і да чаго яны здольны народ.

І мне калісьці, як я быў музыкаю на вяселлі Тарасавага сына, прыйшлося да слёз нарагатацца, слухаючы іх апавяданні. Цікаўныя і пацешныя рэчы яны расказвалі! Але ўсіх цяпер я не магу прыпамятаць. Дык ось каб і гэтыя ўрэшце не вылецелі з галавы, я ўзяў дый запісаў.

*[1912]*

# ЛАБІРЫНТЫ

## I

Ад некалькіх гадоў стала ў мяне звычаем выязджаць на тыдзень-два ў які-колечы закутак Беларусі для апазнання роднай старасвеччыны. Мяне даўно маніў к сабе наш сівагорбы Полацак сваім рамантычным мінулым, сягаючым у легендарныя часы, і гэтага году я пастанавіў сабе пару вольных летніх тыдняў правесці ў Полацку. На маю пастанову астаточна заважыў ліст, атрыманы з Полацка ад тамтэйшага аматара-археолага Івана Іванавіча, які даносіў, што каля яго ўтварыўся кружок любіцеляў старасвеччыны з мясцовых жыхароў. «У нашых вячорніх вольных бяседах сапраўды ажываюць мінулыя вякі ў казках, легендах і фантазіях…» — пісаў ён мне ў сваім лісце.

Вечарам таго ж дня я сеў у вагон у Вільні, а на другі дзень раніцай ужо ішоў старымі вуліцамі Полацка, шукаючы сабе памяшчэння ў гасцініцах.

Днём пабываў у Івана Іванавіча, дзе аглядаў цікавыя кахлі і металёвыя бляшкі, паходзячыя з раскопак у даўняй княжай сялібе — Бельчыцах. Пазнаёміўся ў яго з двума ўчаснікамі, як яны называлі, «Археалагічнай вольнай контэрфратэрніі». Адзін з іх быў мясцовы чыноўнік, абруселы немец, якога я знаў з брашуры, напісанай ім калісь, калі было яшчэ моднае і паплатнае для чыноўніцкай кар'еры русіфікатарства. У гэнай брашуры ён задаваўся мэтай давесці, што па-расійску трэба пісаць названне гораду не «Полоцк», а «Полотск» і што быццам у гэтым пераменаванні прастарой назовы крыўся сам цэнтр «абрусення краю». Вынікам яго брашуры сталася тое, што ў расійскай мясцовай пісоўні завёўся хаос, бо некаторыя пачалі, сапраўды, пісаць «Полотск», «полотскій» і т. д., а іншыя пайшлі яшчэ далей і пісалі — «Полотеск», кансерватары ж і мясцовыя жыхары асталіся пры старой назове.

Пры цяперашняй, асабістай з ім знаёмасці я даведаўся, што ён ужо 40 гадоў збірае матэрыялы і дакументы да гісторыі краёвай, што ў яго два пакоі біткам набіты гэтымі матэрыяламі, сярод якіх маюцца неашацаванай вартасці рэчы.

Другі быў колішні акалічны памешчык, які зляжыў гаспадарку, распрадаў зямлю і цяпер жыў у Полацку, у сваім уласным доміку з садам, з гатовага граша. Бацька яго меў нейкія блізкія адносіны да васільянаў, а ён сам цікавіўся галоўна дэманалогіяй,

кабалістыкай і г. п. Меў, як зарэкамендаваў мне яго Іван Іванавіч, у сябе «чарнакніжную бібліятэку», якой нікому не паказваў і не даваў чытаць. Знаў ён гэбрайскую мову і любіў час ад часу пайсці ў жыдоўскую сінагогу падыскутаваць.

Мы ўмовіліся сустрэцца разам з іншымі яшчэ ўчаснікамі «вольнай контэрфратэрніі» на кватэры ў Івана Іванавіча.

Вечарам прыбыло яшчэ двое. Мясцовы полацкі мешчанін Грыгор Н., маўклівы, сівавусы старац, які ўпарта гаварыў толькі па-беларуску, а часам прытвараўся, што не разумее некаторых слоў па-расійску і, па некалькі разоў перапытаўшы, паўтараў слова ў перакладзе на беларускую, з асаблівым на яго націскам. Мне яго зарэкамендавалі пад найменнем Падземны чалавек, спецыяльнасцю яго было знанне розных фантастычных легенд аб падзямельных ходах і дзівах, скрытых у іх, якія ён умеў апавядаць з паражаючым рэалізмам, але на заканчэнне заўсёды дадаваў: «Так пераказуюць, а хто ж ведае, ці ёсць у гэтым хоць кропля праўды».

І, урэшце, апошнім учаснікам «контэрфратэрніі» быў сярэдніх гадоў вучыцель гарадской школы, які цікавіўся галоўна мясцовай гісторыяй да прыняцця хрысціянства крывічамі.

Перазнаёміўшыся, расселіся мы за сталом на выгодных т. зв. клубных крэслах, глыбокіх і мяккіх, з шырокімі поручамі. На стале вясёла шумеў самавар, і красавалася бутэлька, запарушаная пылам і плесню, з водкай «Старкай». На талерках панадна была параскладана ўсякага гатунку дымляніна: кумпячына, сальцісона, каўбасы, якія не маюць роўных сабе ў свеце, калі бываюць прыгатаваны паводле старасвецкіх рэцэптаў рукамі беларускіх гаспадарных кабет.

Пасля другой-трэцяй чаркі Падземны чалавек пахінуўся да мяне і пачаў даводзіць, што гара, на якой стаіць Верхні замак, — насыпная. Што першапачаткава гэта была толькі магіла знамянітага валадара ўсёй пабалтыцкай «ратайскай» Скіфіі, а пазней яе дасыпалі, і на ёй стаяла бажніца, пасвячоная Дзеве-Сонцу, якую чцілі тут у постаці агністага птаха з дзявочай галавой. Пры гэтым ён сягнуў у кішэнь і падаў мне бронзавы медаль са стылізаваным рысункам, характэрнага вельмі, але нябачанага мной дагэтуль стылю. На адной старане медалю быў змеявік, а на другой — Дзева-Сонца, у постаці птаха з людской галавой, акружанай аўрэоляй.

— Гэткія медалі даўней знаходзілі часта каля гары, а гэ-ты — я сам выкапаў у пясочку.

У нашу размову ўмяшаўся вучыцель, які сказаў:

— Я бачу, што вас застанаўляе закончаны стыль рысунка. І я пэвен, што вы думаеце — вот сабе грубы прымітыў! Людзі імкнуліся нешта адтварыць, але не маглі перабароць тэхнікі, а дзеля гэтага зрабілі быццам цень падобнасці да рэальных змеяў. Вось акурат у гэтым крыецца нашае самае грубае неразуменне старасвеччыны. Паслядзіце за развіццём мастацтва ў Грэцыі: там пасля груба рэалістычных скульптураў Фідзія і яго сучаснікаў, пасля вульгарнага класіцызму настае перыяд пазнейшы — візантыйскі. Стыль візантыйскі — гэта не ёсць упадак мастацтва, а яго вышэйшая ступень. Першы перыяд належыць, як і ў развіцці рэлігіі, да богатворання прыроды, другі — да тварэння прыроды па свайму замыслу і хаценню. У першым перыядзе чалавек няпэўны сваіх духовых сіл, і яму здаецца, што звер не толькі фізычна, але і духова сільнейшы за яго, яму імпануе зверачы свет, і ён пачынае яго багоміць. А таму ахвотна прыбірае сваю галаву бычачымі рагамі, цела акрывае мядзведжымі скурамі або размалёўвае на ім падабізны імпануючых яму звярат і гадаў. Калі ж ходам развіцця культуры чалавек даходзіць да пазнання самога сябе, да ацэны сваіх духовых сіл ён разам з бычачымі рагамі скідае з сябе і багомленне рэальных форм у мастацтве. Пачынае сам тварыць неіснуючыя формы, устанаўляе канон мастацтва. Візантыйскае мастацтва — гэта ёсць мастацтва вышэйшай фармацыі, чым грэцкі класіцызм, бо гэта ёсць мастацтва не натуралістычнае, а кананічнае. Тое, што мы бачым у Грэцыі, паўтараецца ўсюды, дзе толькі цывілізацыя людская даходзіла да вышэйшых ступеняў: і ў Асірыі, і ў Вавілоніі, і ў Егіпце, і ў Індыі, у Кітаі і Японіі…

Гэты медаль сведчыць нам, што і мы, на гэтай зямлі, у гэтым краю, праходзілі ўжо раз росквіт высокай самаістай культуры, якая загінула, якой астанкі, вельмі рэдкія, з'яўляюцца пакуль што для нас таёмнымі крыптанімамі, даступнымі толькі рэдкім, як я сказаў бы, пасвячоным людзям. Нашае няшчасце ў тым, што край наш не абладае ні годным да будовы каменнем, ні капальнямі мінералаў, а з гэтай прычыны адзіным, годным да будовы матэрыялам было дрэва, нашы мастацкія будоўлі былі драўляныя, малатрывалыя. Нашыя пісаныя памятнікі не на камянях высякаліся, але на бяроставых пластках былі крэслены, якія лёгка запаляліся і гнілі. Скажыце, каб у Егіпце, Індыі, Вавілоне была драўляная культура, то ці ведалі б мы сягоння што-колечы аб ёй? Не.

— Маеце слушнасць, — сказаў памешчык. — Нашы продкі перажылі стадыю высокай культуры. Як довад магу прывесці,

што дагэтуль сярод нашага простага народа, які паўтысячы лет ходзіць у чужым ярме, дагэтуль маюцца ўласныя назовы важнейшых нябесных знакаў. Напрыклад, гвязду Венеру дасягоння сяляне называюць Чагір. Пад найменнем Чагір фігуруе Венера ў супрасльскім календары XVIII ст., дзе аб ёй гаворыцца: «Гвезда Чагір між усімі гвездамі 10 месц у кожным месяцы мае, а па трыкрот прыходзіць на кожнае месца кожнага месяца». Вялікую Мядзведзіцу называюць Стажарамі; Плеяды — Сітцом, або Вуціным Гняздом; Арыёнаў пояс — Кігачамі; тры гвязды каля Млечнай Дарогі называюць Праллямі, або Жалезны Абруч; у галаве Млечнай Дарогі знаюць Касьбітоў, а саму Млечную Дарогу называюць Вайсковым Станам. Назоў гэтых захавалася многа. А што гэта знача? Гэта знача, што быў калісь час, калі ў нас працвітала астралогія, глыбокае знанне якой з'яўлялася прывілеем класа вучоных, але была адначасна, мабыць, ведай, даступнай для ўсіх станаў.

Тут яго перапыніў стары чыноўнік, кажучы:

— Сярод маіх сабранняў меў я карціны кніг, пісаных на бяросце незразумелымі знакамі, падобнымі да рунічнага пісьма. Я маю даныя цвердзіць, што т.зв. ятвягі не былі асобным племем, як памылкова ўтрымліваюць, а гэта ёсць названне класа святароў паганскіх часоў. Тых зорнікаў і зораведаў, а па-цяперашняму астраномаў, якія адначасна былі і класам святароў, духоўнікаў. Прашу звярнуць увагу на падобнасць паняцця, уложанага ў словы «ятвяг» і «жрэц». Там і тут да ўтварэння слова ўзята паняцце яды — жорці, есці. Выйдзеце з гэтага пакою на рынак і спытайце, дзе прадаюць ядомыя рэчы? Усякі вам адкажа — у ятках. У старапольскай мове жэртва называецца «objata», ізноў-такі тое самае паняцце яды ўложана ў слова. Наш селянін дагэтуль кажа на страву «ятво», славянскае — яство, яства. Па-польску пішацца «jadźwingowie», дык і тут ёсць карэнь «яд», «яда»…

У даўныя часы паміж словамі «ятвяг» і «жрэц» была акурат такая розніца, як у цяперашнім нашым разуменні паміж словамі «святар» і «жрэц». Для ваюючага і нішчачага ўсё паганскае хрысціянізму, усе старой веры і святары, і грубыя шаманы, і варажбіты — былі агульна пагарджанымі жрацамі. Гэта староверная, з высокай культурай інтэлігенцыя брыдзілася змагацца забойствамі з новай верай і эміґравала ў глухія пушчы на паграніччa старавернай і аднавернай з імі Літвы. Як іх там тропілі і нішчылі немаль штогод, палячы будоўлі і выразаючы людзей, сведчаць ужо расійскія і польскія летапісцы. Разам з тым, калі загінулі ятвягі, загінула і старая дахрысціянская наша культура.

Тут ізноў узяў слова Падземны чалавек:

— Я там не ведаю, якое названне насілі святары дахрысціянскіх часоў. А што яны займаліся астраноміяй — гэта пэўнае. Ваша, хіба ведаеш, — звярнуўся да мяне, — Богінскае возера? Цікавы закутак! Уся ваколіца поўна старога жыцця. На возеры ёсць паўвостраў Богіна, а таму Богіна, што там былі знамянітыя бажніцы. У канцы возера ідуць валатоўкі бронзавага веку, на пясчыстым урочышчы; гэта месца — жалю, смутку, па-нашаму — могілкі — носіць найменне Жаль-Бор. На востраве, яшчэ да скасавання паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ўсярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень. Капец гэты ўзарвалі маскалі ў часе польскага паўстання, думаючы, што гэта нейкая крэпасць. Там, у Богіне, ёсць такжа падземныя хады, як і ў нас, пад Верхнім замкам, у сярэдзіне гары. Старая веда і старая культура не загінулі. Кажуць людзі, а хто ж ведае, ці ёсць у гэтым хоць кропля праўды, пад Верхнім замкам, за магілай невядомага валадара, ёсць склады з багаццямі вялікімі. Кажуць, у абход абшырнай грабніцы, направа, ёсць мураваны праход крокаў 60 даўжыні, і праз яго ўходзіцца ў сховы са старымі кнігамі. Часцю пісаны яны на дасочках, часцю на бяроставых пластках. Зложаны кнігі ў каваных серабром скрынях, усярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсць ход у скарбец… Толькі дужа страшна ісці там.

Голас яго абарваўся спазмай у горле, ён сам неяк згарнуўся ў крэсле, а вочы застыглі, быццам угледжаныя ў няведамую даль.

На момант спынілася размова, а пазней памалу перайшла на знамянітую полацкую бібліятэку, якой, здабываючы Полацак у 1572 годзе, шукаў Іван Грозны і не знайшоў. Якую даручаў папа Грыгор XII Пасевіну знайсці і пераслаць у Рым. Усе аднагалосна ўтрымлівалі, што бібліятэка гэта была тады добра схавана і сягоння ёсць недзе ў падземных полацкіх лёхах. Іван Іванавіч расказаў, што ўласнымі вачамі чытаў у старых метрычных кнігах , у архіве віцебскай лютэранскай кірхі запіс на белягу аб тым, што ігумен Бельчыцкага манастыра, перад аблогай горада Масковіяй, злажыўшы ўсе манастырскія скарбы і кнігі, паплыў уніз Дзвіны, каб захаваць усё гэта ў падзямеллях Верхняга замка. Стары чыноўнік вылічаў, якія кнігі маюцца ў захаванай бібліятэцы.

— А найперш ёсць там, — казаў ён, — летапіс Полацкага княства, пісаная рукой св. Еўфрасініі, праўдзівы экземпляр «Повесці врэменных лет», бо дахаваўшыяся да нашых дзён

копіі пераблутаны і далёкі ад арыгінала, далей — уласнаручныя пісанні братоў Кірыла і Мяфодзія, візантыйскія хранографы і г. п.

Памешчык сказаў:

— Васільяне ведалі, дзе захавана бібліятэка, але, баючыся, каб яе не забралі езуіты і не знішчылі, хавалі месца яе знаходжання ў сакрэце.

Гутарка зацягнулася да познай ночы.

Развітаўшыся, мы разышліся кожны ў свой бок.

Мой пакой у гасцініцы быў на другім паверсе, і вакно выходзіла ў сад, за якім, на мураваным доме, красаваўся агаловак коміну ў кшталце кароны. Полацкія старажылы кажуць, што даўней больш было гэткіх аздобных комінаў у горадзе, з часам яны вывеліся, і я пашкадаваў у душы заміранню роднай старасвеччыны. У стылю агалоўка было нешта няўхватнае, што напамінала мне стыль нядаўна бачанага медалю, які паказваў Падземны чалавек. Ці ж бы рэшткі стылю яшчэ жылі? Я пахінуў галаву на абраменне вакна і задумаўся. Перада мной, у фантазіі, стаў расці стылёвы горад з аграмаднымі дзіўнымі будоўлямі…

## II

Першы мой сон стрывожыў ціхі стук у вакно. Я ўскочыў з ложка і, падышоўшы, пабачыў у вакне вусатае аблічча Падземнага чалавека. Ён даваў мне знакі рукамі, каб адчыніць яму вакно, прычым клаў палец на вусны, даючы гэтым знак, каб я не нарабіў гоману.

Калі вакно было адчынена, ён сеў на падваконнік, зажыў з сярэбранай табакеркі і пачаў гаварыць шэптам:

— Я даўно ўжо ведаю ход у схаваную бібліятэку, але сам не рухаў яе і нікому не паказваў, маўчаў, баючыся, каб не заграбілі ў нас і гэта наша апошняе багацце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой свечку, ліхтарню і ўсё патрэбнае…

Няма што казаць аб тым, як хутка я быў апрануты і гатовы ў дарогу.

Мы сышлі па драбіне ўніз, аднеслі яе ў старану і паклалі на зямлі, а самі цішком вымкнуліся з брамы і скіраваліся ў старану Верхняга замка. Мінут за 20 мы былі на месцы. На гары, у старану Дзвіны, тады стаялі яшчэ руіны замкавых будынкаў, у якіх да 1839 года месціўся Васільянскі уніяцкі манастыр.

Замак быў, як апавядаюць, зруйнаваны ўсяго толькі ў 40-х гадах. Спярша, па загаду цара Мікалая I, з яго знялі мядзяны дах і адправілі ў Пецярбург на будову Ісакіеўскага сабора, а пазней

нехта ці запарушыў няўмысна, ці мо ўмысна падпаліў будынак. Пасля пажару ён больш паўсталеццдя пакінуты быў на руйнаванне сіламі прыроды. Урэшце руіны, каля 1913 г., прадаў расійскі ўрад нейкаму маскалю-падрадчыку на цэглу, які, разабраўшы шацоўныя муры, сплавіў лайбамі цэглу ў Рыгу.

Але тады, калі мы ўходзілі ў будынак, часць яго, а найменна, левы вугал у ніжнім паверсе, меў яшчэ цэлыя скляпенні. Мы пацёмку дабраліся да вялікай вуглавой, у скляпах, салі, сцены якой і столь былі пакрытыя старымі фрэскамі, месцамі асыпаўшыміся, месцамі сцёртымі і павыдзіранымі. Справа, між двух атворын ад дзвярэй, была круглая ніша да самага памосту.

— Во тут ход у падзямелле, — сказаў мой павадыр і пачаў рукамі адгартаць насыпаны на добрага паўаршына друз. Супольнымі высілкамі мы ачысцілі дно нішы, якое было зроблена з адной, у квадратовы метр, каменнай пліты.

— Гэта дзверы, — сказаў Падземны чалавек і, засунуўшы ў шчалугу між камянёў загнуты жалезны прут, з высілкам павярнуў яго. Нешта глуха храснула, і пліта адной стараной пачала апускацца ўніз. Адкрыліся вітыя мураваныя сходы, якімі мы пры слабым святле сляпой ліхтарні пачалі сыходзіць уніз. Калі нашыя галовы зраўняліся з канцом павісшай пліты, то пліта сама сабой паднялася ўверхі, зашчоўкнулася пры помачы прыладжанага да яе механізма.

— Акром мяне, з жывых ніхто не ведае аб гэтым ходзе. Ты другі будзеш ведаць аб ім і перадасі патомным. Але перш чым увайсці ў тайныя ходы, у якіх нашы празорлівыя прадзеды захавалі не толькі свае культурныя, але і вялікія матэрыяльныя багацці, ты павінен даць абяцанне, злажыць прысягу на вечную тайну, — казаў стары ўрачыстым голасам, з націскам на кожным слове.

Я выказаў сваю згоду, і ён рушыў далей. Ішлі мы мінут 10 вузкім, з пачарнеўшымі сценамі ходам, маючым многія павароты, але ўсцяж пахіляючымся ўніз. На адным з паваротаў мой павадыр стрымаў мяне, кажучы:

— Памятай, пасля сёмага вугла ёсць запастка.

Перад намі, уровень цаглянаму памосту, была на сажань даўжыні і ва ўсю шырыню хода ўпраўлена ў памост дубовая дошка.

— Гэта дошка на вяртугу ўстроена, хто не ведае, ступіць на яе, то і зваліцца ў глыбокі калодзезь, а дошка сама сабой стане на месца.

Пры гэтым, хочучы паказаць, як гэта адбываецца, ён націснуў палкай на канец дошкі, і тая віхнулася ўніз, адкрываючы чорную пропасць скрытага пад ёю калодзезя. Праваднік патрымаў гэты рухомы мост, а мне загадаў выцягнуць засунутую за жалезныя скобкі, з боку мураванай студні, дошку, паклаўшы якую на мост, мы перайшлі на другі бок яго і схавалі дошку ізноў, з другой стараны.

Прайшоўшы некалькі крокаў, мы знайшлі ў сцяне нізкія чорныя дзверцы, за якімі была рухомая сценка, адсунуўшы каторую, увайшлі ў даволі абшырны пакой, з мураванымі лавамі каля сцен і высокім падмуркам пасярэдзіне, на каторым стаяла старасвецкая труна, знаная яшчэ данядаўна месцамі на Беларусі пад назовам «корста». Гэта — тоўстая калода з высечаным усярэдзіне дуплом, у якое клалі нябожчыка; верх закрывалі плашкай ад такой жа калоды. У асабліва важных здарэннях, хаваючы багатых або заслужаных людзей, корст пакрывалі смалой і «берасцілі», г. зн. густа спаясывалі доўгімі паяскамі бяросты ўсю труну, як бандажам, а наверх шчытна акручвалі яшчэ добра прасмоленымі вяроўкамі. Гэтак прыгатаваны корст мог соткі гадоў ляжаць у зямлі, не паддаючыся буцвежы. Гэткія корсты бачыў я раней, калі адной вясны Дзвіна падмыла старое магілішча, і вада то зносіла ўніз, то прыбівала да берагу іх, а сяляне вылаўлівалі, каб нанова закапаць у зямлю.

— Гэта корст, у якім ляжыць той, хто дабудаваў гэтыя ходы, — сказаў мне праваднік. — Тут ты і зложыш прысягу, а на знак датрымання слова пацалуеш у чало гэтыя шацоўныя астанкі.

Пры гэтым ён запаліў тоўстую, як добрая бэлька, васковую свячу, што стаяла ў канцы труны. Кнот трашчэў і дыміў, але памалу ўгарэўся, і я пабачыў на труне зробленую ў акружнасці надпіс глаголіцкімі літарамі. Надпіс гаварыла: «Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці моцай слоў тайных на пільнаванне давечнае ўвязаў тут. Хай унасячага сюды прапусцяць, а на вынасячым споўніцца слова».

Мы адкрылі корст, і маім вачам паказаўся забальзамаваны нябожчык з густой сівой барадой, адзеты ў злататканую павалоку. Ляжаў ён, крыху на правы бок павернуты, адна рука яго была пад галавой, другая ляжала на пазлацістым паясе; левая нага крыху паднята ў сагнутым калене. Выглядала, што гэта не нябожчык, а заснуўшы старац з шэра-папялістым абліччам.

Падземны чалавек сказаў мне стануць у нагах, а сам стануў каля галавы на ступеньках падмурка. Ад руху, калі ён праходзіў,

закалыхалася полымя свечкі, і мне здалося, нябожчык змігнуў вачыма.

Сярод неапісанай цішы прагучэлі ўрачыстыя словы формулы прысягі, якую чытаў мне праваднік з узятага з-пад галавы нябожчыка звітку пергаміну.

Словы былі так урачысты, закляцці такія страшныя, акружэнне так незвычайнае і нечаканае, што мне закружылася галава. Мой праваднік таксама стаўся бледны і ўвесь дрыжэў. Раптам ён, як быццам аступіўшыся, зваліўся ўніз, адначасна падсвечнік з грукатам рынуў на памост, гасячы свячу. Запанавала непраглядная цемень і ціш. Я пачаў клікаць яго. Глухое маўчанне ды нягулкае рэха былі адзінай адповеддзю на мой кліч.

Свігавіцай праз мысль прабеглі страшныя абразы з легенд і сапраўдных здарэнняў, а такжа той факт, што пры мне няма серчыкаў. Я чуў, што ў гэтай нямой цішы і чорнай, да болю ў мазгах, цемні, пад уражаннем свежага страсення нерваў знаходжуся на самым рубе да ўтраты прытомнасці. У мазгах інстынктыўна і распачліва пачала біцца адна-адзіная думка: трэба быць спакойным, трэба быць спакойным! Я чуў, разумеў, што цяпер адзіны ратунак у захаванні спакою. І, як лунатык, з працягнутымі наперад рукамі, пайшоў у старану, шукаючы бачаных мной пад сценамі мураваных лавак.

Я сеў на лаўку і пачаў глыбока ўдыхаць паветра. У вушах звaніла цішыня, пры якой чыканне гадзінніка ў кішэні чулася, як рытмічны ход паравой машыны, ды глухое тутненне крыві ў шыі і вісках. Як доўга я сядзеў — змеркаваць нельга, магла гэта быць адна мінута, як і цэлая вечнасць.

Урэшце надумаў пайсці шукаць майго праваднікa і пры ім серчыкаў і ліхтарні. З гэтай мэтай я ссунуўся з лавы і папоўз на руках і каленях к сярэдзіне. Хутка нашчупаў падмуроўку, на якой я нядаўна стаяў, і папоўз кругом яе, бо не мог змеркаваць, з якой стараны знаходжуся. За другім паваротам рука натрапіла на нешта мокрае і клейкае. Я падумаў, што гэта кроў, што недзе тут блізка ляжыць мой праваднік, і асцярожна выцягнуў руку наперад, якая наткнулася спярша на масіўны металічны падсвечнік, а пасля на людское цела. Я падаўся яшчэ бліжэй, шукаючы рукі. Пульс не біўся, галава яго была мокрая і сцюдзёная. У бакавой кішэні курткі яго я нашчупаў серчыкі і з радасцю хапіўся паліць іх, але рукі мае былі мокрыя і дрыжэлі, серчыкі ламаліся або толькі давалі іскры. Перапсаваўшы штук з дзесяць, я спахапіўся, што іх у скрынцы не шмат, і сілай волі стаў паўстрымліваць сябе, каб не псаваць болей дарэмна. Высілак над самім сабой даў най-

лепшыя вынікі, з увагай выняты серчык і пацерты аб скрыначку загарэўся, асвятляючы страшэнны абраз: перада мной ляжаў наўзнач мой праваднік з разбітай і акрываўленай галавой. Ад правага вока і да вуха зіяла страшэнная крывавая рана. Сернік дагарэў і згас. Цяпер я толькі заўважыў, што, акром сернікаў, у мяне больш няма нічога. Куды паставіў праваднік ліхтарню, якую згасіў пасля таго, як запаліў свечку, я не заўважыў. Сернікаў было ўсяго толькі некалькі ў скрыначцы, і я пастанавіў ужыткаваць іх з мудрай асцярожнасцю. А дзеля гэтага ізноў папоўз па памосце. Па доўгіх шуканнях была знойдзена і запалена ліхтарня. Пры святле ліхтарні я сцвердзіў сумны факт смерці майго правадніка. Ён такі сапраўды аступіўся, зыходзячы, і, падаючы, ударыўся віском аб востры выступ падстаўкі ліхтарні, якую цягаром свайго цела абярнуў.

Паднімаючы цяжкі ліхтар, я заўважыў на ім унізе надпіс: «Объятопрыімчэ, прыймі другога с чары тайн піўшага».

## III

Прачытаўшы дзіўную надпісь, я стараўся ўцяміць яе значэнне, і мне здалося, што яна напамінае на права, пануючае ў гэтых падзямеллях. Ці ж бы Падземны чалавек згодна гэтаму праву павінен быў за раскрыццё мне тайны заплаціць сваім жыццём? Аднак факты гаварылі, што ён стаўся «другім, піўшым з чары скрытай веды». Мяне агарнула забабонная багавейлівасць да акружаючых мяне муроў і рэчаў. Я пачуўся агорнутым з усіх старон таёмнымі, свядомымі сваіх чынаў, сіламі. І гэтыя цёмныя пракаветныя сцены і чорны дубовы корст з астанкамі невядомага мне, аднак безумоўна геніяльнага духа, і гэта таёмная надпісь, і ўрэшце труп малавядомага, аднак чамусьці мне блізкага і дарагога чалавека, апутвалі душу тысячамі кволых, але цягучых ніцяў, невядомых мне тайнаў. А галоўнае, я быў тут, у гэтых лабірынтах, адзінай жывой істотай. Я абярнуўся, каб яшчэ раз глянуць на мілае старэчае аблічча Падземнага чалавека. І якое ж маё было здзіўленне, калі я яго не ўбачыў на зямлі, дзе момант таму назад ён ляжаў. Гэта апошняе страшэнна стрывожыла і парушыла мяне да апошніх глыбінаў усёй маёй істоты. Я яшчэ больш пачуўся бяспомачным і бязрадным у путах невядомага. Уражаны новай тайнай, я, шукаючы свайго праваднiка, падняў уверх ліхтарню, аглядаючы склеп, але нідзе не было цела, якога я шукаў. Затое я толькі цяпер заўважыў, што памяшчэнне, у якім я знаходжуся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся

ўверсе высокім скляпеннем. Мне прыпомнілася чытанае некалісь апісанне славянскай святыні ў Рэтры, якая была збудавана трыбочнай фігурай, як і сама сяліба пры ёй, якая мела з трох старон агароду і тры брамы: на ўсход, поўдзень і поўнач. Спомнілася мне адна дыскусія ў кружку маладзёжы і як паважаны вучоны, які быў сярод нас, даводзіў тады, што таксама ў трыкутную фігуру была будаваная слаўная апяяная Гамерам Троя, што ўсе бажніцы, ці то багоды, старой славянскай веры, пасвячоныя Найвельшаму, бацьку багоў, зваліся Троямі. Але хутка мысль мая вярнулася ізноў да майго незавіднага палажэння ў гэтых скляпах. І я толькі быў прыняў у сабе пастанову вяртацца назад той самай дарогай, як раптам нешта скрыгнула за мной. Пахопліва абярнуўшыся назад, я ўбачыў рассунутую сцяну і паміж дзвюх яе палавіц, на асноведзі аксаміста-чорнай цемры праходу — чалавечую постаць у белай вопратцы і ў белым мітрападобным клабуку на галаве. Я стаяў як амярцвелы і пэвен быў, што гэта галюцынацыя. А тым часам белая постаць з павагай пачала да мяне набліжацца. Узіраючыся расшыранымі вачыма на яе, я з немалым здзіўленнем распазнаў аблічча Івана Іванавіча. Першым маім водрухам было выразіць сваю радасць і падзяліцца перажытымі трывогамі, але ён, як быццам згадаўшы маю мысль, урачыстым падняццем рукі стрымаў мой парыў, кажучы:

— Не рушай павагі месца гэтага мовай сваіх турботаў. Хадзі за мной!..

І мы моўчкі скіраваліся ў праход, з якога выйшаў Іван Іванавіч. Ён ішоў наперадзе, а я за ім. Цяпер я толькі разгледзеў, што белая яго вопратка была ў форме доўгай шырокай кашулі з шырокімі пурпуровымі шлякамі на падоле і рукавах; клабук быў таксама падбіты знізу, на адваротах брыля, пурпуровай тканінай. Ішлі мы размернай, роўнай поступпю, лукавыгібістым шырокім праходам, на сценах якога меліся павяўшыя ад часу малюнкі і нейкія надпісы, абкружаныя арнаментамі. Памост быў заложан з чатырохкантовых каменных плітаў. Гэтак у маўчанні прайшлі мы не менш за 200 крокаў, калі ўрэшце сталі перад глухой сцяной, якой канчаўся праход.

Іван Іванавіч падняў руку ўверх і ляскай, на якую апіраўся, моцна націснуў на разетку над круком, упраўленым у скляпенне. Глухая сцяна, перад якой мы стаялі, спярша дрыгнула, а пасля пачала звольна апускацца наперад, і перад намі адкрылася круглая саля, сцены і столь якой пакрыты былі рысункамі, а памост — мазаікай. Саля была саўсім пустой, толькі з правай стараны, пры сцяне, стаялі тры каменныя седзішчы.

— Во тут, на гэтых сценах, — пачаў Іван Іванавіч, — забразавана істота нашай старой веры, якая апіралася на траістасці ўсяго існуючага. Уверсе — выабражаны сілы нябесныя, усярэдзіне — жыхары зямлі з іх турботамі, унізе — загробны свет з яго валадарамі і жыхарамі. Кожны з гэтых светаў, паводле старой навукі, распадаўся ў свой чарод на тры істотныя характары. Усе сістэмы рэлігійныя, ад пачатку існавання ў чалавецтве сведамай мыслі, прызнавалі гэтую траістасць рэчаў. Халдэя-вавілонскія святары, якія за многа тысячалеццяў да нас слылі лепшымі ў свеце астраномамі, лепшымі пры гэтым знаўцамі матэматыкі, без якой немагчыма астраномія, і да гэтага — старэйшымі носьбітамі веды людской, — у лік сваёй Тройцы ставілі багоў Ану, Эа і Бела. Ану — гэта валадар гвяздзістага неба, першародны, старэйшы, бацька багоў. Эа — мудрэйшы, лепшы з багоў, прасвяціцель і праваднік усяму смяротнаму. Бела — сын Эа, каторы вывеў зямлю з цемры і хаосу, аддзяліў адны ад адных усе постаці і адмены, з каторых злажыўся смяротны свет, які́м мы яго цяпер знаем. У Індыі Тройцу складаюць Брама, Вішну, Шыва; функцыі, прыпісываныя асобам гэтай Тройцы, тыя ж самыя, што і ў халдэйцаў. Не чужа было і грэцкай мыслі паняцце траістасці сілы, уладаючай светам, чым галоўна цікавілася школа платонікаў, ад якіх догма Тройцы перанята была хрысціянствам.

Пасля гэтага ўступу Іван Іванавіч падняў руку ўверх, паказваючы на малюнак, і сказаў:

— Пасярэдзіне скляпення бачым мы тут тры постаці славянскай, а лепей — дака-гецкай Тройцы. Першая з іх ёсць Найвельшы (Optimus), бацька багоў, не маючый наймення. Імёны, даваныя яму рознымі народамі: Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Гот, Элохім, Алах-Адонай — гэта ўсё яго прыметнікі, як і нашае Найвельшы, бо імені яго нельга вымавіць. Чэсць яго ў нашым народзе сягае ў вельмі глыбокую мінуўшчыну. Можна сказаць, што большасць грэцкіх мітаў цесна звязана з нашымі прашчурамі гетамі, з якімі на берагах Дуная грэкі вельмі рана саткнуліся і, наўзаемна, дзяліліся тайнамі веды. Нават наш сягонняшні край быў вядом грэкам у той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гамера і іншых паэтаў старой Грэцыі, асабліва ж з аповесцяў аб Апалоне і сыне яго Фаэтоне, якую аповесць перадаў нам пекным вершам рымлянін Вергілій, з мітаў аб Праметэю, Арфею, Эскулапу і інш. От жа ў старагрэцкіх пісьменнікаў знойдзем, што славяне верылі ў загробнае жыццё і па смерці сваёй мелі надзею

бытаваць разам з Зямельчыцам*, рэлігійным рэфарматарам, які жыў за 600–650 гадоў да нараджэння Хрыста**.

Другая асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая халдэя-вавілонскаму Эа, індускаму Вішну, — гэта Правечны Кон, які даў усяму жывому законы жыцця, назначыў кон, долю і акрэсліў канец, скон***. Як і ўсе багі, Правечны Кон меў многа розных эпітэтаў, якія няведамі прымаліся часам за яго ўласныя імёны. Да гэткіх імён яго належаць: Прова, Права, Тур. У адной старадаўнай саксонскай кроніцы маюцца малюнкі старaславянскіх багоў з часоў хрышчэння славянаў, між імі — рысунак стода з подпісам «Prouo «. Гэты рысунак сведчыць, як хрысціянскія апосталы таго часу былі пранікнуты мазаізмам ды вавілонскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што нішчылі. Бо Кон—Прова—Тур не меў стодаў: яму пасвячаліся святыя дубы і гаі. У гэткія месцы, абгароджаныя і маючыя двое наўсупроцьных варотаў, сходзіліся ў канодныя дні старшыні народу спраўляць суды. У здарэнні, калі каго праследавалі, мог скрыцца ў загароду, хоць

---

* *Ад выдавецтва.* Мы даручылі кіраўніку нашага выдавецтва праверыць паданае тут аб Зямельчыцу, які даў нам такую справку: «Сказанае аб Зямельчыцу вядома немаль усім старасвецкім пісьменнікам: Herodotus IV, 93, 94; Arian expedit Aleksandri lib I; Hellanikus (etymolog. magn. voce; Pomp. Mela II, 2; Strabon VII, 2977). Аб славянскім народзе (…) гаворыцца, што гэта наймужнейшы і найсправядлівейшы народ спаміж славянаў; вераць, што па смерці ідуць да свайго бога Zamolxisa, які лічыцца імі за тую ж істоту, што і Gebeleisis (Herodot). Некаторыя грэкі даводзілі, што Zamolxis — Зямельчыц быў Піфагоравым нявольнікам і піфагораўскую навуку аб загробным жыцці пашырыў паміж сваіх аднапляменцаў — гетаў (Strabon). Што, безумоўна, памылкова, бо Зямельчыц жыў куды раней за Піфагора, найменш сто ці паўтараста гадоў. Памылкова такжа сцверджанне Герадота, што геты Gebeleisisa (Найвельшага — Optimus) мелі за адну і тую ж асобу з Зямельчыцам, які пашыраў навуку аб адзінай першапрычыне, а знача быў толькі абагомленым чалавекам. З навейшых пісьменнікаў аб Зямельчыцу (Zamolxis) пісалі: de Brosse і d’Anville ў memoires de l’ acad. des inscript. T. XXXV et XXV ды Ernest Gotfried Grodeck у развагах, de immortalitatis quam Getis persuasisse dicitur Zamolxo ratione; а такжа ў яго: Graecorum de Zamolxide fabule.

** *Ад выдавецтва.* З пісьменніка Меандра (323 г. да Н. Х.) даведваемся, што Зямельчыц пашыраў навуку вельмі падобную, у агульных рысах, да будызму, але вынікаўшую з недраў мыслі дака-гецкага племя.

*** Kronos *(грэц.)* — час. Кон — круг, круг гадавы; як нямецк. Gott — год.

бы ён быў ворагам, яго ніхто не смеў крануць: бо права, праўда не на перавазе фізічнай сілы, ані на гвалце грунтуецца.

Трэцяя асоба славянскай Тройцы, адпавядаючая вавілонскаму Белу і індускаму Шыве, — ёсць Сіціўрат, Сіва. Халдэйцы лічылі Бела богам апраметнай, царства вечнай цемры, дома, «у які ўсе ўходзяць, але скуль ніхто не выходзіць». Індусы Шыву называюць мсціцелем. Цікава пры гэтым адмеціць адну асаблівасць, гэта тое, што індусы аддавалі чэсць Шыве — Ішвары ў мясцовасці Рудры, а славяне — Рэтры. І каб мы не ведалі аб тым, што дака-гецкія міты праз грэкаў сягалі да Вавілоніі і Егіпту з адной стараны, а да Індыі з другой, — то можна было б падзіўляць незвычайную прыпадковасць у сугуччы.

У санскрыце маецца эпітэт, даваны Шыве, — Гары, які вельмі сходзен з нашым Яры, Ярыла, Яравід. Сімвалам Сіціўрата (жыццявароту) — Ярылы быў нязгасны агонь — Жывец, Жынч, Зніч (знікомы), які меў свае вечныя алтары паўсюдна, куды сягала вера славянская. Летапісы ўпамінаюць аб такіх вечных агнях у Вільні, Вялікім Ноўгарадзе, а ў заходніх славянаў у Жніне, Гнезне і Жуліне на Паморы. Усюды, дзе існуюць або існавалі першыя хрысціянскія святыні, пасвячоныя прароку Іллі, яны былі будаваны на месцах вечнага агню. Бо Ілля заступаў у пачатках хрысціянства Ярылу. Цэрквы такія былі ў Менску, Віцебску, Смаленску, Полацку і іншых гарадах. Святары, служыўшыя Яраму, называліся ведунамі, вядачамі, вятачамі, вяцвягамі, бо яны прарочылі будучае. Няхай не дзівіць, што сіле мсцівай надаваўся эпітэт белага, яркага. Гэта дзеля ўласкаўлення яго. Бо ж дагэтуль, па старой памяці, народ называе агонь — багач, цяпло, святло, каб не ўквяліць грознай сілы. У мысль гэтага страшны Лясун носіць эпітэты Дабрахот, Зялун, а чорны балотны дух — Бялун, той, гэты і, ужо пад уплывам навейшага светагляду, нячысцік.

Сіле першапрычыннай, Найвельшаму, належыць пашана ад усяго жывога. Ён асновапаложнік, ён той, аб каторым пяе брамін у сваіх гімнах:

Я носьбіт і дарога, сведка і князь,
Айчына, прыяцель, прытулак;
Першапрычына, і цэль, і істасць рэчаў,
Я і захоўнік, і вечнае семя.

Калі Арфей, які быў з народаў гетаў, сяліўшыхся пад той час у Фракіі, панёс у Грэцыю навуку аб адзіным Найвельшым, то грэкі пыталі аракула, што такое Бог, якога прапаведуе Арфей?

І аракул назваў Найвельшага святлом (rad), мыслю-словам (logos) і крыніцай жыцця (pneuma), якія імёны азначаюць — адзіную першапрычыну, святло духа, радасць без мучэння, першакрыніцу веды, увенчаную вышэйшай праўдай.

Правечны Кон даў права, закон людзям, звярам, птахам, полазам, рыбам, расцінам і наогул усяму, што жыве, родзіцца і памірае. Устаноўленыя ім законы вечны і непарушны. Галоўнае месца ў нашым краі, дзе складалі яму чэсць, быў Тураў і мясцовасць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі так званых цыклапічных будоўляў у форме аграмадных каменных блокаў. Сімвалам справядлівасці ў славянаў лічыўся белы бык — тур.

І хоць даўным-даўно забылі нашы людзі старых багоў, але палеская (горадзенская) зямля дагэтуль мае ў сваім гербе тура, сімвал Правечнага Кону.

Пад гэтай Тройцай бачым мы, ніжэй, сем асоб з іх сімваламі: гэта ёсць сем галоўных сіл, уладаючых светам. Пер- шая — Кон, Конязь, і яго сімвал сонца; другая — Княжыч, або Месяц, з сімвалам сваім — месік у маладзіку; трэцяя — Ярыла, і сімвал яго — гвязда Марс; чацвёртая — Радзігост, і яго сімвал — гвязда Меркурый; пятая — Пярун-Грамавік; шостая — Грамавіца, і яе сімвалы — гвязда Венера і пташка зязюля; сёмая — Лада, Ладон, і яго сімвал — гвязда Сатурн. Кожнай з гэтых сямёх асоб пасвячаны адзін дзень тыдня, аб чым сведчаць рунічныя надпісы пад кожнай асобай: нядзеля — соўнік, панядзелак — месіч, аўторак — ярэц, серада — радаўнік, чацвер — перунец, пятніца — грамніца, субота — ладзіч. Ніжэй гэтых сямёх асоб маецца дванаццаць сімвалаў, азначаючых 12 знакаў Задыяка, а пад імі — чатыры вятры, бытуючыя на чатырох канцах зямлі: Усток, які сухасцю тхне; Ірэй, прыносячы цяпло; Сутон, навяваючы хмары і дождж; Сівер, прыносячы сцюжу.

Сярэдні шлях малюнкаў завіраў у сабе сцэны з жыцця людзей, звяроў, птахаў, рыб, раслінаў і іншых на зямлі, у паветры, у вадзе з іх пераменамі і бытам.

У самым нізе было выабражана царства смерці, дом вечнай цемры з яго жыхарамі. На першым плане былі дзве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бяссмертны, і яго жана — Марва. Першы выяўляў сабой худую, з вострымі людскімі рысамі і злымі вачыма пачвару, другая — мела старэчую жаночую галаву, на якой замест валасоў звіваліся сыкучыя змеі. Яе мясістае тулава апіралася на чатырох лапах і заканчвалася драконаўскім хвастом. Па-за гэтымі галоўнымі постацямі

віднеліся пачварныя духі краіны смерці і бесканечны лік бледных людскіх постацей.

Мазаіка памосту пакрыта была сімвалічнымі знакамі, значэнне якіх я не знаў і не адважыўся спытаць аб іх.

— А цяпер, — сказаў Іван Іванавіч, — каб пасунуцца далей у лабірынты, нам трэба сесці ў гэтыя крэслы.

## IV

Зачараваны веліччу абразоў, развінутых Іванам Іванавічам, я спытаў яго:

— Чаму ж усё гэта заняпала, чаму забыта?

І Іван Іванавіч сказаў:

— Герадот апавядае, што паўночныя краіны Еўропы былі найлюднейшымі пасля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі гіпербарэйцамі, займаліся лавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Зналі рамёслы і асабліва любаваліся ў вызнанні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі высокай веды. З берагоў Герадотаўскага мора, цяперашняга палескага краю, паходзіў вялікі індускі рэфарматар — Рама. Ален-гіпербарэец вывеў з поўначы калонію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай святароў і асновапаложнікамі чэсці Апалона і Дыяны ў Дэласе. З поўначы, са славяна-гецкай зямлі, прыбыў у Грэцыю Арфей, заснавец гарадоў, вучыцель мастацтва і рамёслаў. З поўначы прынёс Праметэй святло, за што быў неміласэрна пакараны.

Праметэй, першы цывілізатар Грэцыі, прыкаваны за гэта да Каўказскай скалы, паводле слоў Эсхіла, жаліўся: «Багі, мне дзеецца крыўда! Паслухайце, што я даканаў дзеля смяротных. Дзякуючы мне са звярат, якімі былі, сталіся людзьмі. Сляпыя, глухія, як мары, яны туляліся без правоў і ладу, не ўмелі будаваць дамоў, пячоры былі ім адзіным прытулкам, цягнулі жыццё няпэўнае, не разрознівалі часу і пор году. Я першы навучыў іх пазнаваць ход гвёздаў, навучыў іх знакаў пісьма, знакаў лічэння, абдарыў іх памяццю, маткаю муз, навучыў іх лавецтву. За што ж карае мяне завісны Зеўс? Ці ж бы за святло, збліжаючае людзей да багоў?»

Грэцкія пісьменнікі самі сведчаць, што жыўшыя на поўнач ад іх паўночныя народы занеслі ў Грэцыю не толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сістэму, навукі і ўмеласці. Славянскія народы, як, прыкладам, — курэты, квірыты, або крывіты, — ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцця ў Грэцыю феніцыянскага Кадмуса. Іхнія будоўлі напаміналі

цыклапічныя, адзначаючыся незвычайнай трываласцю. У першых іхніх сялібах, прыкладам, на гарах Алімпійскіх, Геліконскіх і Пандэйскіх насамперш зараджаюцца рэлігія, музыка і філасофія, якой пасля славілася Грэцыя. Згэтуль выходзіць Апалон, які займаўся тут пастырствам. Арфей (orfeos — цёмны), праўдападобна сляпы, як Гамер, сваёй вымоўнасцю аблашчываў дзікіх звяроў і лагодзіў дзікасць тыбульскіх барбараў. На чароўны, акудны гуд яго ліры палі змяняюцца ў гарады (грэцкае: горад — paleis). Ален, Тамарыс і Лінэй, таксама, як Арфей, сваімі прамовамі скланяюць тубыльцаў пакінуць людскія ахвяры багам, а здаецца, і вырачыся людаедства.

Але ёсць народы, як і паасобныя людзі, прызначаныя быць не толькі месіямі чалавецтва, але і яго адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ гетаў, з усімі яго галінамі. І мы бачым: Праметэя за яго дабрадзействы, выказаныя людзям, распялі на Каўказскай скале. Арфея раздзерлі п'яныя, упаўшыя ў шал, кабеты. Фасційскія пелазгі за недаверства паганізму былі пабіты грэкамі і патоплены ў моры. Троя, славянская сяліба між грэкаў, збурана грэкамі. Урэшце грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчучы, стараліся іх зняславіць перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдскія абычаі і чараўніцтва.

Перш чым стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі месіянізму, народ гетаў павінен быў прайсці сам рад унутраных пераабражэнняў і рэформ.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго існавала ў гетаў супольнасць кабет і маёмасці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ён вучыў рамяству і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кожнага году. Штогодна меў права муж змяніць жонку і жана мужа. Дзень гэты быў названы Купаллем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты на жаніцьбы адбыць ачышчэнне праз агонь і купанне ў вадзе. Кожная пара магла мець сваю ўласнаць і аддзяліцца ад грамады. Ніхто не мог карыстацца чужой працай. Кожны пільнаваў ладу ў сваёй сям'і і дома быў поўным суверэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але сем'і пачалі множыцца, і бацькі мала-памалу ўстанавілі патрыярхат, неабмежаную нічым уладу галавы сям'і над усімі сем'янінамі. Прычым патрыярхі неахвотна выпушчалі каго-колечы з сям'і, і сем'і разрасталіся да 100–200 душ. Уласнасць у сем'ях сталася сямейнай уласнасцю, або, іначай кажучы, уласнасцю патрыярха, як і ўсе кабеты сям'і. Пайшло агульнае нездаволенне.

У гэтым часе аб'явіўся другі рэфарматар — Багавей, які высунуў на першы план касту святароў. Апавешчана была святарская дыктаратура; зямля, як належачая да Бога, была аддадзена на ўласнасць галоўнай святыні, а з яе рамення патвораны былі па ўсім краю правінцыянальныя святыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нараўне працаваць для багоў і святынь. Як найсвяцейшая праца была палічана праца ратарская. Сімвалам яе ўстаноўлен быў белы бык, які атрымліваў асаблівую пашану пры святынях. Пры гэтым ладзе хутка ратар сам стаўся паніжан да безгалосай скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаючую рэвалюцыю, святары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утворан быў духоўна-арыстакратычны ўрад, які, прыкрываючыся воляю багоў, выдаваў ад іх імені свае загады, маючы перш за ўсё на мэце свае карысці. Гэта тройца — духавенства, старшыны і багі — моцна і надоўга села на карк рэшты народа. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх качавых народаў, абарона ад якіх вытварыла мала-памалу трэці стан — вайсковы. У суполку — багі, святары, старшыны — павінны былі быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыгледземся да зместу нашых народных казак, то гэту гісторыю мы знойдзем там, перададзеную ў сімвалах. У сялянскай сям'і, прыкладам, родзіцца які-небудзь Кацігарошак, найсільнейшы за ўсіх, якія існуюць сілачы ў свеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і памалу дабірае сабе яшчэ двух, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго, і закідаюць у бяздонную, безвыходную пропасць. Але Кацігарошак раней-пазней дабываецца з пропасці і, пасаромеўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над светам, якому дае спакой і шчасце.

Пад панаваннем старшын і духавенства, змацаваным вайскоўцамі, ратары ў грэцкай сімволіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклопа, а пазней дурнога і сляпога Паліфема.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыманыя спярша як госці, пачалі панявольваць славянскія народы і памалу абяртаць у сваіх нявольнікаў. Вышэйшыя класы, арыстакратыя і духавенства, зліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за многа гадоў да заснавання Рыму, жыў высокакультурны народ этрускі. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх нявольнікаў і, пераняўшы ад іх культуру, ачарнілі этрускаў перад гісторыяй як дзікіх і нічога не вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навук, аб стане высокай асветы ў этрускаў мы сягоння даведва-

емся толькі з раскопак іхніх магілішч і гарадзішчаў. Цывілізацыя этруская загінула ў войнах прыходцаў з мясцовым жыхарствам. А пасля, за часоў Сцылія, безміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзьмі, былі нішчаны ўсякія помнікі этрускай культуры, іх кнігі і творы іхнага генія. І этруская культура заняпала навекі. Рым пакрыў яе маўчаннем або сыпаў лаянкай і знявагай.

Пад ударамі чужаземскіх наезнікаў заняпала і наша культура, а асабліва ў часе хрышчэння нарманамі славянаў.

Трэба памятаць, што міфалогія многіх народаў нічога супольнага з тэасофіяй не мае, як прыклад можа служыць лацінская міфалогія. Лічу патрэбным гэта зазначыць дзеля таго, каб стала відней, што з нашае міфалогіі належыць да тэасофіі, а што з'яўляецца толькі сімвалам пройдзенай народам гісторыі.

Ёсць апавяданне аб Сатурне, што за яго панаванне быў на зямлі залаты век. Сатурн — бог патрыцыяў. Легенду гэтую, ведама, улажылі патрыярхі, спамінаючы сваё даўняе і безгранічнае панаванне. І дармо некаторыя хочуць бачыць у гэтым песімізм класічных народаў, якія, кладучы спярша век залаты, пасля сярэбраны, мядзяны, урэшце — зялезны, хацелі быццам зазначыць, што — чым далей, тым горш на свеце. Не, гэту гісторыю трэба паставіць у зусім другую плашчыню.

Сатурн пачаў есці сваіх дзяцей.

Гэту басню выдумала ўжо каста святароў, спіскуючы[1] супраць усеўладнага патрыярхату. Устаноўлены лацінскімі святарамі пазнейшы лад аддаваў уладу ў рукі багатых сямей, «абдарыў старшых братоў правам боскім і людскім» — jus pater (згэтуль Юпітэр), крыўдзячы і вызываючы з правоў малодшую, ратарскую браццю. Утварыліся патрыцыі (паны) і плебейцы (мужыкі).

Патрыцыі тонуць у збытках і раскошах, плебей у заплату і падзяку за крывавую працу мае бізуны і розгі. І вось у лацінскім богабайніцтве апавядаецца, што Венера, жонка плебейскага Вулкана, стала задавацца з патрыцыянскім Марсам. Вулкан, не могучы знесці гэткай знявагі, абвівае спячых — Венеру і Марса — сеткай, падложанай пад іх, і выкідае іх на святло, каб яўным ужо сталася, што плебс змаўляецца і бяскарна пасягае на правы патрыцыяў. Гэта быў дакор, зроблены Апалону, вартаўніку права. Увесь Алімп устрывожаны. Апалон памярцвеў са знявагі. Адны багі смяюцца, а другія выказваюць злосць і абурэнне. Юпітэр страшліва загры- меў — quos ego!..[2] Бачачы, аднак, прыгожую Венеру гэтак зняважанай, кажа: «Годзе ўжо ён… На Вулкана няма спосабаў — quem ego!..[3] За мяшанне ў маю спрэчку з Юнонай у

справе надання правоў плебеям нядаўна так піхнуў яго я нагой на зямлю, што аж нагу ён зламаў».

У трудным палажэнні Юпітэру аж галава трашчыць. Як пагадзіць нязгоду ў народзе, пры ўсёўзрастаючых дамаганнях чэрні, пры заўзятай упорчывасці патрыцыянскіх багоў?

— Вулкан і Меркуры не даюць мне спакою ад таго часу, калі Марса з Венерай удалося прылавіць у сетку.

— Чатырох нас, — кажа Меркурый, — стань, Найвышэйшы, па нашай старане, і народная справа будзе выйграна.

— Найвышэйшай рады багоў не перагаласуем, шэсць галасоў супраць пяці, — адказаў Юпітэр. — Што рабіць? Галава трашчыць, што рабіць! Тут мяне рве, ствару Мінерву. Вулкан, валі молатам у галаву во тут, тут!

Вулкан выпаўняе загад. А калі, спужаныя відовішчам бацькаўбійства, багі збягаюцца, бачаць нованароджаную багіню, узброеную ад ног да галавы, выходзячую з патыліцы Юпітэра. Вось і багіня мудрасці — Мінерва.

— Плебейцы дапамінаюцца правоў, — кажа Меркурый.

Сталі галасаваць. Шэсць супраць шасці!

— Мне належыцца падвойны голас! — крыкнуў Юпітэр.

І справа народа была выйграна.

— Дык занясі ім зямельнае права! — крыкнуў Юпітэр. — Сам пагавару я з Юнонай і думаю, што яна дазволіць такжа права вольнай жаніцьбы.

Меркурый, які спаўняў абавязкі паштара, панёс весць на зямлю. І плебейцы атрымалі правы людскія і цывільныя. А ўсё гэта сталася вынікам неперасцерагання правоў бажкамі, залётнасцю Венеры і праз папусцільства Юпітэра,— тлумачылі святары.

Меркурый, бог купецтва і прамысловасці, носіць світу нараспашку, служыць усім, хто плаціць: багом і людзям, небу і зямлі. Апякуецца злодзеямі і ашуканцамі. Пад яго апекай вырастае новая арыстакратыя — грашовая. У рады яе ўходзяць усе, кім апякуецца Меркурый. І на правы для гэтага стану багі, ад імені сваіх кліентаў, патрыцыяў, павінны былі згадзіцца.

Нягледзя на тое, што даўно па-свойму рашыў Юпітэр зямельнае права, права гэта да сягоння несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кожны народ не станецца гаспадаром у сваім краі, пакуль кожны, хто палівае сваім потам загон, не будзе праўным, прызнаным і ўсвячоным правам яго валадаром.

Гэты ж час ужо недалёк!

## V

У гэты момант, калі, скончыўшы гутарку, прымоўк Іван Іванавіч, а я аддаўся размышлянню, нас акружыла маўклівая ціш, скрозь каторую знекуль стаў даходзіць да вуха ціхі харальны спеў. Спярша гэты спеў быў такі ціхі, што зліваўся з тутненнем сэрца і крыві ў жылах. Але ў меру таго, як я, натужаючы свой слых, услухаўся, ён усё рос і ўрэшце набіраў штораз больш выразістасці. Калі спеў гэтых многіх галасоў стаў набліжацца, я пытаюча глянуў на Івана Іванавіча.

— Гэта пяюць нашыя старцы, — сказаў ён спакойна.

— Як! Дык хіба ж гэты падзямеллі заселены людзьмі? — здзівіўся я.

— Так. Жыццё ў гэтых падзямеллях ідзе старое, даўняе. Вам жа хіба прыходзілася чуваць ад народа дый чытаць у так званай этнаграфічнай літаратуры аб праваліўшыхся гарадах, цэрквах, манастырах. Хіба ж вы не чулі аб невідомым горадзе Багоцку, во тут, каля Полацка? Другі такі горад, што каля Гомеля, апісаў расейскі пісьменнік пад найменнем Кіцежа. На землях, якія ў апошнія часы ў дакрывіцкую эпоху засялялі готы, гэткія гарады існуюць…

Я здзіўлена ўзіраўся на Івана Іванавіча і сам не ведаў, што аб усім гэтым судзіць, гэтак было ўсё, чутае і бачанае, незвычайным для майго разумення, што я павёў рукой сабе па абліччы, каб пераканацца, ці ўсё гэта не галюцынацыя, не сон… Але чоў мой мяне не ашукваў…

Іван Іванавіч пры гэтым устаў і, адчыніўшы дзверы ў сцяне, павёў мяне доўгім і шырокім праходам, аж урэшце мы апынуліся ў вялікай і светлай салі. Не было там ні свечак, ні лямпаў, святло як быццам само сабой стаяла ў салі. Сцены былі запоўнены ўсякімі кнігамі і звіткамі рукапісаў. Падышоўшы да адной з паліц, Іван Іванавіч зняў пергамінны рукапіс, кажучы:

— Во гэта сведчанне падарожнага, які бываў у нашым краю за некалькі сот лет да арабскага пісьменніка Масудзі, які яго сведчанне асобным раздзелам (Маруджа, 62) са старых кніг упісаў у свае кнігі. Тут мова аб гарадах і святынях славянскіх. Руін гэтых гарадоў і святынь цяперашняя археалогія не знаходзіць на зямельнай паверхні, бо яны дзіўнай умеласцю старабытных нашых інжынераў апушчаны ў глыб зямлі, як вось і гэта наша святыня, у часці будынкаў якой мы цяпер з вамі знаходзімся. У гэтай кнізе вось што аб ёй напісана: «З гэтых святынь адна пабудавана на гары, гэта дзіва свету, а як кажуць знаўцы, прыклад

архітэктуры і распарадкавання разнаякага камення, ужытага да гэтай будоўлі. Сабраны там дарагія каменні невыказанай цэннасці, а также знакі, паказуючыя будучыню».

— Усё, што тут напісана, — шчырая праўда! — казаў Іван Іванавіч, складаючы кнігу. — Цяпер жа я пайду на момант да нашых старцаў, а Вы агледзьце радчайшую ў свеце бібліятэку.

— Прашу вас, скажыце, хто гэта такія старцы і як яны жывуць тут?

— Гляньце на гэту салю, — сказаў Іван Іванавіч, — вы тут не ўбачыце нідзе ніякіх прылад да асвятлення, а ў салі светла і цёпла. Гэта таму, што сцены гэтай салі пакрыты элементам, падобным да радыю, з якога пабудована сонца. Пад гэтым святлом і расціны і людзі могуць жыць без ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемент тут ужыты як маса да тынкавання сцен, акром святла і цяпла мае яшчэ і другія дзействы: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам яго святла, не падлягае старасці, якая паходзіць ад звапнення кроваточных начынняў у людскім арганізме. Пад уплывам гэтага святла вапна не можа ў арганізме зацвердзяваць, а дзеля гэтага чалавек застаецца назаўсёды ў адным веку, а як вынік гэтага — не падлягае смерці. Мы з вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы метраў ад паверхні зямлі, і аднак жа вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемент гэты, які завецца гетынам, мае ўласнасць паглынаючую лішкі кіслых газаў. Вось жа старыя вучоныя, сышоўшы з поля дзікага змагання на зямлі, жывуць тут, працуючы над навукай і ўмеласцямі ў сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліятэках і лабараторыях. Працуюць, чакаючы часу, калі ім прыйдзецца ізноў выйсці да свайго народа. Адным з важнейшых адкрыццяў, якія імі тут зроблены, ёсць крывін, пры помачы якога кожную рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і з першапачатковых высхадаў злажыць любую рэч. Прыкладам: з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, тлушч і, наадварот, кожную рэч можна перамяніць у другую. Прыкладам, той жа бруковы камень можна змяніць у хлеб ці золата, у паветра ці любога смаку сталовае масла. Бо першапачаткавы высхад ва ўсім ёсць адзін і той жа, залежыць толькі ад таго, які надаецца кірунак руху яго праатамам. Гэтае вялікай вагі адкрыццё, зробленае нашымі старцамі, развяжа на зямлі сацыяльнае пытанне… Пытанне пракорму людзей.

У гэты момант недзе здалёк пачуўся званок, і Іван Іванавіч, падаўшы мне на развітанне руку, выйшаў у праход, які пачынаўся з левай стараны салі, сказаўшы:

— Вам, аматару кніг, думаю, маркотна тут не будзе.

Я, не трацячы часу, стаў разглядаць кнігі. Аддзел бібліятэкі, у якім я знаходзіўся, складаўся з помнікаў старасвецкіх арабскіх, грэцкіх, індускіх і егіпецкіх пісьменнікаў. Аграмадныя фаліянты, пісаныя на пергаміне і шоўкавых тканінах, залягалі ўсе сцены: унізе, каля сцен, у дубовых, абіваных сярэбранай бляхай скрынях разложаны былі звіткі, пісаныя на розных мовах. З плану бібліятэкі, які быў выбражаны на мармурнай дошцы сярод салі, відаць было, што аддзел славянскіх кніг знаходзіўся ў трэцяй салі, ідучы налева. Я паспяшыў туды.

У гэты момант нейкі лёгкі быццам звон угары звярнуў маю ўвагу. Я падняў галаву і ўбачыў, што са сцяны выступае масіўны каменны блок, у кшталце стала, з глыбокімі ўнізе выемкамі. На стале быў расстаўлены цэлы рад жоўтага металу стылёвых міс, а на іх разложаны свежыя фрукты і закускі, пасярод жа красавалася бутэлька са «Старкай». Падышоўшы да стала, я ўбачыў картку, пісаную рукою Івана Іванавіча, гэткага зместу: «Паважаны Дружа. Усё, што знойдзеце на гэтым стале, толькі што прыгатавана пры помачы высхаду крывін. Спрабуйце, ці годна да ўжытку. Ваш Іван Іванавіч».

Я сеў пры стале і ў часе яды пераканаўся, што пададзеная закуска вызначалася вялікім кулінарным мастацтвам. Пячэння была гарачая і сочная, з прыемным водарам дымляніны; фрукты мелі дзіўную свежасць; «Старка» цягнулася з бутэлькі, як аліва, і разыходзілася па арганізме хвалямі прыемнага цяпла.

Перакусіўшы, я скіраваўся ў славянскі аддзел бібліятэкі. Багацце, якое я тут убачыў у звітках і фаліянтах, прост не паддаецца апісанню. Тут я бачыў не толькі фаліянт Полацкай летапісі, пісанай рукой княжны Еўфрасініі, але і летапісы шмат ранейшых перыядаў існавання нашага народа. Убачыў сабранне навукі Зямельчыца, якое складалася з чатырох кніг, разбітых кожная на семдзесят два раздзелы. На змест кнігі злажыліся: маральнае права, цывільнае і дзяржаўнае права, гісторыя народа і анталогія лепшых тагачасных літаратурных твораў. Цэлы аддзел бібліятэкі складаўся з кніг, пісаных глаголіцай, якая, як я тут пераканаўся, была шмат старэйшай бадай на добрую паўтысячу лет славянскай граматай, знакі якой развіліся з славянскіх герогліфаў. Старанна апрацаваныя табліцы развіцця пісьменных славянскіх знакаў паказвалі не толькі перамены ў формах знакаў, але давалі адначасна і храналагічныя даныя, з якіх відаць было, што пачаткі пісьменнасці славянскай трэба аднесці на канец чацвёртага тысячалецця перад нашай эрай. Цікава было слядзіць па гэных табліцах, як з людской фігуры (рысаванай у герогліфах

поўнасцю) вытварыўся знак «аз» — «я», нашае цяперашняе вялікае «А», у каторым з людской постаці засталіся ўнізе толькі дзве палкі, а ў папярэчцы памяць аб рысаваным калісь паясе. Як цвёрда трымаўся цэлыя тысячалецці знак змяі і дахаваўся да нашых часоў у славянскай літары «зело», а такжа знак жука ў літары — «ж», які сягоння яшчэ напамінае сабой кузурку. У аддзеле архітэктуры бачыў я дзіўнай прыгожасці стылёвыя будоўлі так званага гецкага стылю. У аддзеле пісьменнасці хрысціянскіх часоў з асаблівай пашанай перахоўваліся тут рукапісы першых хрысціянскіх апосталаў Кірылы і Мяфодзія, аб якіх трэба, аднак, на аснове пачэрпнутых мною ў бібліятэцы даных сказаць, што хоць яны сапраўды пераклалі Святое пісьмо на славянскую мову, але ў пісьменнасці славянскай, так званымі кірылаўскімі літарамі, на добрыя чатыры сталецці іх папярэдзілі розныя хрысціянскія сектанты, а перадусім маніхейцы, паўлікіянцы і мэсальянцы. Усе гэтыя сектанты пісалі грэцкімі літарамі па-славянску, дапасоўваючы іх да славянскай мовы. І пераклад кананічных кніг на славянскую мову папярэдзілі розныя сказанні, як, прыкладам: «Сказанне аб Адаме», «Кнігі Эноха справядлівага», «Сказанне аб Ламэху і Мэльхіседэху», «Запаветы дванаццаці патрыярхаў», «Пасланне Абраама да Хрыста», «Евангелле Хамы», «Евангелле Нікадымава» і шмат іншых.

Урэшце, змучаны пераглядам кніг, я надумаў абысці бібліятэку, і з гэтай мэтай выйшаў у другую салю, а з другой у трэцюю і гэтак далей. Прайшоўшы дзесяткі два саль, напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай, у якой была памешчана фігура чалавечая з бліскучымі вачыма. У меру збліжэння да яе, вочы фігуры штораз ярчэй свяцілі, прычым чулася ў іх нейкая прыцягальная сіла. Калі я быў на адлегласці метраў дзесяць ад фігуры, я ўжо не меў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае, непаборнае цягнула наперад, і высілкам усёй волі я не мог спыніць сябе, каб не ісці далей. Фігура была з жоўтага металу, утрая большая ад натуральнага чалавечага ўзросту. Ад сіняватага бляску святла вачэй фігуры, які быў скіраваны прост ў мае вочы, я чуў, як цела маё млела. У гэты момант фігура правай рукой ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглушаючы патройны гук дарэшты спаралізаваў мяне, і я страціў прытомнасць.

VI

Калі я адкрыў вочы, то ўбачыў, што ляжу ў гатэлі на сваёй пасцелі ў адзежы. Праз вакно ярка свяціла сонца і двума агністымі стаўпамі клалася на памост перад маім ложкам.

У гэты момант нехта пастукаў у дзверы.

— Але! Прашу! — сказаў я.

Адчыніліся дзверы, і я ўбачыў на парозе Падземнага чалавека. Ён падышоў да мяне і, паздароўваўшыся, сеў пры ложку. Глянуўшы на яго, я ўбачыў шырокую блізну на левай шчацэ, ад вуха да падбародка. Мне зразу ўспомнілася падзямелле, і я ўскочыў з ложка. Стары глядзеў нейкім цвёрдым сталёвым поглядам мне ў вочы. Гэты яго погляд наводзіў на мяне нейкі забабонны страх, і я зноў сеў на ложку.

Стары моўчкі пачаў капацца ў падысподным кішэні сваёй спанцэркі і па нейкім часе выняў адтуль даволі пакомканы канверт, падаючы які мне, сказаў:

— Гэта вось вам цэдулка ад Івана Іванавіча.

Я паспешна схапіў канверт і, раздзёршы яго, дабыў запіску, у якой было напісана:

«Паважаны Дружа, заўтра мае імяніны, а сягоння вечарам свята Купалле. Загляньце вечарком, пагаворым ізноў аб мілай старасвеччыне. Стол я прыгатаваў паводле сваіх рэцэптаў. Спрабуеце, ці годная мая кулінарыя да ўжытку. Ваш Іван Іванавіч.

Полацак, 23 чэрвеня».

Я хутка глянуў на сцяну, две вісеў адрыўны каляндар, там віднелася дата 20 чэрвеня.

Гэта быў дзень, калі я прыехаў у Полацак і вечарам гасціў у Івана Іванавіча.

— Якая сягоння дата? — спытаў я ў Падземнага чалавека.

— А якая ж, то ж ведама — 23 чэрвеня, — адказаў ён, пасміхаючыся.

— А калі я ў вас быў?

— То ж вы заўчора былі ў нас, у аўторак, а сягоння мы маем, дзякаваць Богу, чацвер, заўтра будзе пятніца, святога Яна.

Голас Падземнага чалавека здаўся мне нейкім скрыпучым, уплываючым на нервы, як пілаванне па зялезу.

Мяне агарнуў ізноў забабонны страх, і я пастараўся чым хутчэй пазбыцца гасця. На адходным, замест звыклых слоў пры развітанні, ён сказаў:

— Мы яшчэ ўбачымся.

Застаўшыся адзін, я прыпамінаў абраз па абразе ўсё мной бачанае ад часу павароту дамоў з гасціны ад Івана Іванавіча.

Не, я не сніў. Думаў, перадумваў і ўзноў прыходзіў да пераканання, што ўсё гэта было наяве, усё гэта было рэальнасцю. «Можа, я пераблытаў даты», — глянуў я і, каб пераканацца, выняў з кішэні запісную кніжку. Так, праўда: выехаў я з Вільні вечарам 19 чэрвеня, раніцай дваццатага быў у Полацку. Я пазваніў.

Калі прыйшоў нумарны, я спытаўся ў яго, якая сягоння дата?

Перш чым адказаць на пытанне, ён хутка загаварыў:

— Добра, што вы, панічу, вярнуліся, а то ўчора прынеслі вам тэлеграму, а як вас не было, то я не ведаў, што рабіць з ёю. Дата ж, панічыку, сягоння дваццаць трэцяе. Але дзе гэта вы, паніч, бавілі так доўга? Як мне сказалі, што вы выехалі ў госці, то я, прызнацца, і не прыбіраў, — і ён заклапаціўся каля ўмывальніка.

— Хто табе сказаў, што я выехаў у госці? — спытаўся я парывіста.

— Ды ж во гэты самы, што быў цяпер у вас, панічыку, Падземнік, як яго ў нас называюць.

А пасля ён спахапіўся і борзда пабег па тэлеграму.

Тэлеграма была з дому:

«Прыязджай назад першым поездам, важныя справы,» — пісалася ў тэлеграме. Я крэпка занепакоіўся, бо, выязджаючы, ніякіх «важных справаў» не правідзелася. Што там? Хвароба? Няшчасце? Чаму не сказана, якія там справы?

І, гэтак раздумваючы, я пачаў складаць свае рэчы. Пасля сеў і адпісаў Івану Іванавічу на яго запросіны, што з прычыны клічучай дамоў тэлеграмы не буду ў яго на імянінах, і, пажадаўшы яму ўсяго лепшага, закончыў лісток.

Таго ж дня, позным вечарам, быў я ўжо дома. Аказалася, ніякіх важных спраў дома не было і ніхто з дамовых мне тэлеграмы не высылаў. Хоць на белягу выразна было памечана: «Выслана з Вільні, прынята ў Полацку».

У ранічнай газеце 24 чэрвеня я прачытаў тэлеграму з Полацка гэткага зместу: «Учора, 23 чэрвеня, вечарам, памёр мясцовы полацкі археалог і гісторык Іван Іванавіч».

*[1923]*

# АПОВЕСЦІ І АБРАЗКІ

## НАРАДЗІНЫ

Спаў ён у цемні нябыту. Ні свядомасці, ні мыслі, ні ягонага «я», праклёну дзён пазнейшых, не бытавала.

Раз, з волі спрадвечнага Кону, прычыны ўсякага быту, дано было яму жыццё і духа-спутніка дано было яму — Долю. У жываце маткі пачын яго. А дзень нарадзін быў днём страпенняў у доме бацькоў ягоных: зладзеі пакралі дабытак, непрыяцель брацціяў пабіў, сёстраў паланіў, і першы блеск света ў вачах навародка вітаны быў вокам злога чалавека, каторы згубы шукаў яму і матцы ягонай. Сляпая бабка спавіла ў зрэбныя полкі кволае цельца, — глухі нямова гатаваў купель. На дварэ гудзеў сцюдзёны восеньскі вецер, нягода дробнымі слязамі палівала зямлю, трухлявыя стрэхі будынкаў і вокны хаты, за каторымі дрымацела хіслявае святло газнічкі.

З трывогай сардэчнай вітаў ён першыя абразы новага свету; ціхі, жудасны плач дзіцяці выціскаў слёзы з сляпых вачэй бабкі, а стогны маткі і дзікая непрытомная песня глухога нямовы, разам з плюхотай, уторылі першаму чалавечаму плачу…

Тады прыйшла к яму ягоная Доля, палажыла рукі на дробнай галоўцы і паказала яму шэрую пуціну, поўную заломаў і звалаў… Не, заломы і звалы былі там далей, — сцежка спачатку вілася лугам свежым, зялёным, абапал каторага леглі пекным малюнкам гаі, рэчкі, вазёры. Па зялёных галінках арэшніку пералятаі пташкі, у чаротах і сітніках надводных нырялі рыбкі, плавалі сінія стрэлкі — а ў вышы блішчэла праменнае сонца. Далей шэры туман спавіваў пуціну, там ляжалі прашкоды і калючкі, грэх і пакута… А там далёка-далёка мігацелі і пераліваліся агні, блудныя і простыя праводнікі жыцця. Яны плылі, то разгараліся, то гаслі…

Доля чалавека пахінулася над ім і шэптам сказала:

— Будзем лавіць іх!..

*[1909]*

## ЗАЙЧЫК

— Лаві, Ганька, хутчэй лаві!.. Вось, вось дзе блізенька ўжо каля цябе зайчык!

Ганька кідалася і ручонкамі прыціскала светлую лапінку сонца, каторая падала з люстэрка.

Старац смяяўся з дзіцячай веры, пахіляў люстэрка, і зайчык, здавалася, ужо злоўлены, уцякаў з-пад Ганьчыных ручак. Тады ізноў пачыналася лоўля светлага зайчыка. Ганька топала каля сцяны і хватала ручонкамі светлую лапінку, лапінка ўцякала, і так бясконца.

…Колькі ж такіх зайчыкаў лавіў кожны з нас?!.

*[1909]*

## СЛЁЗЫ

З вачэй — люстра душы чалавечай — сыпаліся слёзы. Буйныя, светлыя, падалі капля за капляй. І здавалася чалавеку, што ён крычыць з моцы ўсёй, з сілы ўсёй — на свет цэлы, але вусны яго сціскаліся шчыльна, і ён маўчаў крэпка, крэпка сціскаючы зубы. Свет здаваўся страшным, пустым, як падзямельная пячэра… І цёмны каменны строп душыў, і ціснулі сцены, і вясёлае рэха чуралася голасу; не вылятаючы з грудзей, ён падаў на сэрца комямі цяжкага волава.

Чалавеча, дзе ж твая сіла, дзе духа гарт?!

Боль топіць дыямент душы тваёй, і чэснотны метал плыве з вачэй, каб, заіскрыўшыся на момант у праменнях сонца, замерці; каб пыл змачыўшы — легчы вільготнай плямкай пры ступе тваёй… А потым, а потым — ты сам патопчаш яго і іншыя закарэлымі пасталамі вынесуць у надворак скарб твой.

Панцырам з гартнай сталі грудзі скрый, уладнай рукой уймі боль свой і кінь у полымя душы сваёй, няхай агонь яго стопіць і ў злітак дыяменту скрышталіць…

Так пярловая мацер, праз доўгія гады носячы ў сабе боль, родзіць несказітольную перлу — пакрасу царскіх каронаў.

Пад болю цяжарам ламаецца дух, як колас пад ветру навалай. Дух твой адмогаю зняты, зміраe. Боль вочы твае скрыў павязкай, — крыўда наліла горкай жоўці ў сэрца і душыць за горла.

Цяжка табе, жудасна, сумна!

У болі ты сам, сам, як магіла ў стэпу. І тым больш трэба табе моцы.

*[1909]*

## ЁСЦЬ БОЛЬ…

«Ёсць боль цяжкага гора, боль голаду бывае, хваробы… Мяне не спаткала хвароба, ані дакучае голад, а толькі смутак чэрвем душу точыць і журба за нечым недасціглым, далё- кім — годным душы чалавека…

Вось жыццё шэрае перада мной і за мной сібірным по- лем — тайгой сцелецца. З грудзей набалеўшых вырываецца ногды ўздох, але безнадзейны, але глухі, як енк зямелькі-маткі пад нагамі пастýпаючага войска…

Шчаслівы той чалавек, каторы можа, глянуўшы за сябе назад, убачыць пратораную ім пуціну, а яшчэ больш шчаслівы той, хто ў схілку дней жыцця свайго, падобна працавітаму сяўцу, можа, глянуўшы за сябе, убачыць зялёнае поле ў пакрасе і чакаць заплаты за мазалі і пот свой!.. Шчаслівы і той, на пуціне каторага чырвонай жычкай значыцца след вялікага болю, — і ён, глянуўшы за сябе, знойдзе чым ажывіці самлеўшы дух.

Мінулы вялікі боль родзіць перлы, але шэрая безнадзейная жуда забівае духа і, як агонь, усё зніштажае ды пакідае за сабой толькі попел, шэры попел…»

Так жаліўся сівы старац, гладзячы дрыжачай рукой га- лоўку дзіцяці. Захадзячае сонца залаціла сівыя валасы і белую бараду старца, зліваючы ў адзін тон з ясным лянком галоўкі дзіцячай. Вочы старца блудзілі недзе ў няведамай далі, а думкі, як разбітае стада белых птушак, кружыліся паасобку. Недзе далёка-далёка плакалі скрыпчыны струны; буйныя слёзы, як ранняя раса на травіцы, дрыжэлі і сыпаліся з ёмкіх струн шнурамі перлаў белых.

Хворы, нямоцны дух старца ламаўся пад цяжарам болю. Сцішна стаялі дрэвы… Усё замерла… Здавалася, уся натура ў гэты ціхі летні вечар чула крыўду жыцця…

*[1909]*

## МАРЫ

*Памяці С. Палуяна*[1]

### I

Гэй, хмары закрылі сонца, цёмныя шэрыя хмары, — толькі промень адзін-адзінокі цалуе верхі дубоў... Вузкая дарожка віецца маркотнымі ўдоламі. Віхор завывае, як люты звер на прывязі. Ідзеш, ідзеш, а сілы млеюць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На далёкіх гарах, у сонечным краю недзе садовіцца сонца. На далёкіх гарах вольныя арлы паклалі гнёзды свае. У чыстым паветры ад вод удольных плыве лебядзіная песня, рэхам раздаецца ў горах і будзіць душы прыспаныя, будзіць замершыя сэрцы. Б'юцца сэрцы ў такт лебядзінай песні, дух шыбае арлінымі шляхамі... Цесна дарожка ў горы. Віецца сцяжынка па скалах, скальныя зломы навіслі над чорнаю пропасцю, што недзе ўнізе глыбока-глыбока скрываецца.

На далёкіх гарах у мроку адвечных лясоў, пад пакрываю жоўтага моху, спяць даўно забытыя багі, твор моцных рук мінулага веку велікалюдаў... У мроку адвечных лясоў, у заклятым гаю агняцветы красуюць, чар і дзіў у мроках павіслі. Плаваюць у хмарах вольныя арлы, пташкі свабодныя, свабодныя ў бязмерным прасторы, свабодныя ўдзень і ўночы, свабодныя, сільныя.

А там далёка ўнізе сцелецца маркотны ўдольны край. Маркотна раскінуліся прыземістыя трухлявыя вёскі, палі, лугі і сады ў белай пакрасе; ляглі, як гнойныя раны, гарады — прытулак нядолі, роскашы і нечысці ўсякай. Дротам і рэльсамі звязаны край, як муха ў павучыннай сетцы... Там рэкі слёз плывуць, горкіх слёз, крыўды, болю. Пошасці. Кроў. Ізноў слёзы, слёзы... Там брат крыўдзіць брата, слінай злосці і жоўцю пеняцца вусны абласкаўленых рабоў. Боль перакрыўляе твары сыноў зямлі, а ўпёрты ў зямлю пагляд пудзіцца шыры, бязмераў... Там рабства, рабства ў крыві і косцях. На места зруйнаваных божышч там новых стаўляюць, адзін другога закуваюць у кайданы, шалёны ўпуд знімае іх на весць аб вольным чалавеку, вольным духу...

Гэй, далей і далей да вышы бязмернай кіруйся сцежкай заломнай!

Далей! Агняцветаў дзіўнаю краскай душу аскрыдлю, сэрца ў камень згартую, каменем вусны адкрыю нямовам. Арла зымаю

ў прасторы, вольнага арла прысвою. Карміць буду кроўю сэрца майго, каб сільны быў да лётаў шырокіх. Забаўляць яго буду агняцветнымі краскамі, каб весел быў.

— Пій, вольны птаху, кроў з-пад сэрца! Рві вострымі кіпцямі грудзі мае! У вачах красуюць агняцветы…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Туманы на горах павіслі, дымкай заслаліся вочы… Арлы сіротамі плаваюць у бязмеры, вольныя арлы…

II

Сіла мая, духа гарт, розуму яснасць! Не пакідайце мяне ў момант упадку майго, у момант бяссілля! Цяжка ды важка налегла жыццё, і дух ламаецца, як колас пад ветру навалай…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйдзе Узвіжанне — свята, свята вольнага звера, птушак паветраных, свята дзіву ўсякага поўнае, смутку поўнае. Прыйдзе нягода асенняя, слязьмі зімнымі палье зямлю, палье бор і лес. Сонейка скрыецца за хмарамі шэрымі, жоўтую вопратку скінуць дрэвы, і нагія пруткія галіны ў нямой жальбе выцягнуцца ў неба… Заплоткамі, угінкам, прыбраўшыся ў белыя ніткі павуковай пражы, набліжацца пачне к нам зімка. Зімка-бабулька старая прыйдзе да нас у позны вечар; грукат разляжыцца ў пустой хацінцы сухіх зімчыных пальцаў аб балону ваконную, грукат перш ціхі-ціхі. Пасля заляжа ў хатцы сціш нямая, магільная сціш. Вецер на дворку цяжка ўздыхае…

Зімка-бабулька, прытуліўшыся да сценкі, стукае, стукае ў вокны…

Ночка, убраўшыся ў чорныя дымкі, як паня ў жалобе вяльможная, прыйдзе, з рукамі, зложанымі на крыж, з пахінёнай на грудзі галавой прыйдзе, прыйдзе і сядзе пад сценкай маёй, побач з зімкай — бабулькай старэнькай, сядзе пад хаткай маёй…

Трэснулі сцены, упуд палахлівы туліцца ў цёмным куточку, туліцца бедны і вялікі, чорнымі, поўнымі мыслі вачыма з мальбой заглядае ў вочы мае, — погляду гэтага датыкі вострыя сэрца казычуць, сэрца дрыжыць…

Гэй, хатка мая, прасторна ты! гэй, прасторна… Сценкі калышуцца, сценкі адходзяць удаль; толькі на прызбе туляцца кумачкі родныя — ночка з зімой. Упуд трывожны чорнай савой пралятае, кажаном-вампірам на грудзі садзіцца… Кумачкі правяць казкі сабе, старыя казкі правяць сабе:

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю…
… Як прыжджэшся пяску ўсходу…
— Гэй, кумкі, гэй, кумкі, я ж трэці між вамі!..

Кумкі хахочуць, шэлестам дзіўным іх смех раздаецца… Га, цёмна ў хаце, вецер шыбае ў галінах, плача ў коміне, як ранены звер. Хата пустая. Хлеб чорствы, хлеб горкі. Холад, холад праймае. Слёзы льюцца буйнымі каплямі… Галава расце, раздалася і не месціцца ў хаце… Цяжэе галава, падае, падае…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

III

Усё прайшло, усё мінула… І тое даўняе, светлае і радаснае, не ўскалыхне ўжо душы маёй, не ўзрадуе сэрца, бо загубіла яно свой стройны кшталт, бо жыццё, праўдзівае, жорсткае жыццё, аплюло і загразіла тое даўняе, такое чыстае, светлае… Як звон разбіты ляжыць душа мая на крушні стройнага гмаху, на пабітых мармурах, з каторых калісьці дух мой каваў красу і дзіў… Бяссільны і адзінокі ляжу я, валадзіцель скарбаў бязмежных, я Цар, я Лазар!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось вялікі агністы сонечны воблік вясёла ўсміхаецца да зямлі, да людзей, да кожнага твору з асобку. І радуецца зямлі і кожны жывы твор, усё смяецца ўцехаю жыцця, на зямлі ўсё пяе хвалебныя гімны вечна жывому і ажыўляючаму сонцу… А там далёка за цёмным лесам, за сырым борам, на граніцы вечных мрокаў станула смерць. Сільная, нічым не зможаная смерць, вартуе царства сваё…

Вось зелянее луг, травіца сочная сцелецца кітайкаю, дышыць луг спякотай. Над ярам каліна ссыхае, атрусіла белыя кветкі, маркотна вярхоўкі схіліла: паводка карэнні падмыла ёй, сохнуць карэнні, сохнуць на сонцы… У багатых уборах зважна стаяць польныя кветкі, цешацца сонцам, святлом; кветкі не чуюць блізкага скону, цешацца жыццём… Смерць пальцам ківае з-за бору. Кветкі палягуць сконам ганебным: сонцавы праменні вып’юць іхнюю кроў. А тады п’яныя, чырвоныя сходзяць за пурпурны полаг хмар, сходзяць на начны спачынак. І так штодня прыходзіць, каб даваць і браць жыццё…

Такі шлях вызначыла яму воля спрадвечнага Кону…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Непакорны дух чалавека, пажарам бунту абняты, прахам і чэзнатой смерць празывае, хоць з Стыксу мармурных вераёў смерць крокі вартуе яго. Як статуя з бронзы, трывала і вечна смерць варту спраўляе тайніцы быту.

Узрастаюць, зміраюць народы, гора і слава мінаюць, а з Стыксу мармурных вераёў таемна і з моцай свядомай зерць прапастныя смерціны вочы.

*1910*

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

Хмарнае асенняе неба плакала ільдзістымі слязамі, калі Грыгора Лежню выпраўлялі з хаты ў свет далёкі, у маскалі. Вецер гудзеў у голых галінах крывой бярозкі, што, пахінуўшыся, стаяла каля варот. Гаманілі суседзі. Яшчэ раз на парозе матка абняла яго і зрасіла светлыя, як лён, валасы сваімі слязамі; яшчэ раз Грыгор, стануўшы на калені, пацалаваў родную зямельку і, выціраючы рукавом белай світкі слёзы, выйшаў на ганак.

— Прашчайце, суседзі! Прашчай, маці! — прагаварыў ён здушаным голасам, трымаючы ў руках шапку.

Каля варот, у куточку, як калінка, стаяла Ганулямя. Прыйшла папрашчацца з Грыгорам, а слёзы так і коцяцца з блакітных вочак. Грыгор нат падышоў да яе і, узяўшы ў абоймы, крэпка пацалаваў у самыя вусны.

— Прашчай, Ганулямя, чакай мяне!

— Вяртайся, сынок, не забудзься нас у чужой старон- цы! — прычытвала праз слёзы старая маці.

Сеў на сані. Сані лёгка памкнуліся гасцінцам у старану цёмнага бору. Матка з Ганулямяй доўга стаялі на дарозе і глядзелі ўслед за санямі; абедзве птушкай гатовы былі ляцець за ім, абедзвюх адно гора лучыла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грыгора паслалі адбываць службу ў Піцер. Спярша цяжка яму было там. Сэрца рвалася дамоў, да сваіх, але павіннасць трымала. І ткі памаленьку прывык. Найгорш-то з мовай бывала: не патрапіў гаварыць па-іхняму, спярша дык смяяліся. Але наламаўся. Муштры скора паняў, артыкулы стрэльбай лепш ад усіх выкідваў. А калі, бывала, пачнуць песні салдацкія спяваць, то ніхто так зычна, так ёмка, ад душы ўсей не пяяў, як Грыгор наш.

На другі год нашыўкі далі яму і другіх муштры вучыць загадалі. Бывала, як прыгоняць навабранцаў — паміж імі бывалі і Грыгоравы землякі, — дык ніхто не ўмеў так дакучаць ім за іх простую гаворку, як Грыгор.

Шэсць гадоў служыў. З новым жыццём звыкся. А за гэты час дома маці памерла, брат ажаніўся, толькі Гануля ўсё яшчэ чакала яго. Але не паехаў Грыгор дамоў: у Піцеры дворнікам служыць застаўся.

Вясёлы горад, Піцер той! Народу процьма, дзіваў усялякіх ліку няма! Служба няцяжкая — сыт заўсёды, адзет заўсёды, жыццё — дый толькі! Дваццаць гадоў служыў Грыгор дворнікам у Піцеры, дваццаць гадоў раніцай і ўвечары падмятаў адну і тую ж вуліцу, па адных і тых самых лесвіцах насіў дровы, у адной і той самай браме вартаваў начамі. Каля паноў усялякіх ходзячы, яшчэ больш полеру[1] набраўся Грыгор.

А раз, як з таго самага сяла, што і Грыгор быў, прыехала адна дзяўчына да паноў на службу, то Грыгор розныя кепствы падпускаў на яе гутарку і хоць любіў з ёй гукаць аб сваёй старане, але шчыра саромеўся гутарыць з ёй пры людзях.

У той кватэры, дзе служыла Грыгорава зямлячка, жылі адны вельмі багатыя паны. Кватэру займалі вялікую — 6 вокан знадворку і 6 вокан на вуліцу выходзіла, увесь другі этаж займалі. А вуліца была шырокая, людная, вечарам каляскі і карэты ракой проста цякуць, а сярэдзінай — узад і ўперад шые трамвай электрычны— як жук вялікі выглядае здалёку,— народ выходзіць і ўходзіць, а электрычныя ліхтарні, як месяцы ў поўні, усю гэту раку людскую заліваюць малочным светам. Любіў Грыгор гэту вуліцу, любіў увіхацца на ёй паміж карэт і калясак, падмятаючы ўвечары, калі на ёй быў найбольшы рух.

Пад вясну раз дзень быў пагодны, на дварэ стаяла адліга, і народу гэткім днём бывае больш, як заўсёды, на вуліцы. Грыгор выйшаў падмятаць. На душы яму неяк было радасна, лёгка.

Вокны на другім этажы былі насцеж расчынены, усярэдзіне гарэла святло, і адтуль даносіўся голас скрыпкі. Гэта здзівіла Грыгора: там раней ніхто не йграў на скрыпцы. Гранне плыло з вакон нейкае жаласлівае, знаёмае, недзе чутае… Пачаў услухоўвацца. Скрыпка быццам гаварыла нешта, нечым жалілася… «Так зусім іграў Пранук, даўно, там — на вёс- цы», — успомніў Грыгор… А ў скрыпчыную жальбу ўплятаў-ся нейчы звонкі галасок. Вясёлы, звонкі галасок гэты знаў Грыгор: гэта пяяла паненка. Толькі цяпер яна пяе нешта іншае, не такое, як заўсёды, — слоў яе за грукатам конскіх капытоў і званкоў трамвайных не мог дачуць Грыгор.

Апёршыся левай рукой на мятлу, а ў правай трымаючы бляшаны коўш, Грыгор услухаўся ў песню, каторая дзіўна казытала яго сэрца. Але вось раздаўся нейчы зычны мужскі голас, і разам з скрыпчынай жальбой паплыла поўная задумы, добра знаная, але чужая гэтай вуліцы песня:

Ой пайду я лугам, лугам,  
Дзе мой мілы гарэ плугам!

Ясна, ёмка плылі словы з адчыненага вакна. У Грыгора як бы гром ударыў. Дзе ён чуў гэтую песню? Дзе?.. Прыпамінаў сабе. Сэрца моцна ўдарала ў грудзёх. А песня далей плыла:

І наеўся і напіўся,  
Сеў на плуг ды засмуціўся,  
Сеў на плуг ды засмуціўся!.. —

аддалася рэхам закацістая апошняя зваротка.

«Гэта ж маці спявала песню гэту!» — успомніў Грыгор.

Так, гэта маці спявала, шаптала нешта, і думкі панясслі яго ў родную вёску. У вачах памутнела, адступіліся думы недзе ўдаль… І здалося яму, што гэта стаіць ён не сярод вуліцы, але сярод поля, а кругом шуміць жыта наспелымі каласамі. Маці ідзе мяжой, а ён побач. У маткі на левым плячы перакінуты серп, а правай рукой вядзе за руку яго…

Каляскі каціліся шпарка — адна за адной, і гразь вылятала з-пад гуміляСтыкавых колаў. Але Грыгор не бачыў гэтага: яму здавалася, што гэта буйная раса асыпаецца на твар, што гэта не трамвай звоніць, а начлежнікі з песнямі гасцінцам едуць і пяюць. Скрыпка плакала, ліўся зычны мужчынскі голас, і шмат іншых галасоў уторыла яму. «Гэта за гаем дажынкі», — думаў Грыгор. І калыхалася перад ім вуліца нівай наспелай… Разам абарвалася песня, а другі голас пачаў:

А дзе тая крынічанька,  
Голуб дзе купаўся?  
А дзе тая дзяўчынанька,  
З каторай кахаўся?

Цяпер здалося Грыгору, што гэта не на полі стаіць ён, а на парозе хаты сваёй, і маці не пяе, а плача, убіваючыся па ім, а з хмарнага неба падаюць ільдзістыя каплі на твар яму і Ганулі, што, як тая калінка, стаіць пад варотамі і плача. Маці на парозе

крычыць нема: «Вярніся, вярніся!» А яму слёзы здушылі горла, і не можа адказаць ёй…

Гэта крычаў фурман карэтны: «Эй, сцеражыся, сцеражыся!»

Грыгор не ўсцярогся. Прабегла праз яго парка каней, пераехала карэта. А яму здавалася, што ён падае на зямлю, каб яшчэ раз пацалаваць яе…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ў бальніцы не прыйшоў Грыгор у сябе. Дактары сшывалі паломаныя косці і звязвалі пабітую галаву, а ён маячыў роднай вёскай сваёй, прашчаўся з ёй, з маткай, з Гануляй, цалаваў зямлю… Муштры вучыў салдатаў. То ізноў зрываўся, каб услухацца ў песню, што плыла з вакон другога этажа… Сястра міласэрдзя клала руку на яго і ўспакаівала, а яму здавалася, што гэта матка гладзіць яго, то ізноў пяе сваю ўпадабаную песню, а ён уторыць ёй галасна-галасна:

І наеўся і напіўся…

Пяяў. Было яму лёгка-лёгка, добра… Захваціў поўныя грудзі паветра, каб яшчэ галасней крыкнуць за маткай; радасць разлілася на твары… пацягнуўся і змоўк.

Сястра міласэрдзя сплюснула яму вочы і, нацягнуўшы белую пасцілку, закрыла твар, шэпчучы: «Вечны спакой яму».

*[1910]*

## ПАНАС ГУЛЯЕ

*З праўдзівага здарэння*

Апанас Канцавы радзіўся, вырас і гуляў у вёсцы Багнішча, у сваёй роднай вёсцы, і нікому ніякага не было да яго дзела. Прапіў збажыну, кабат ці люльку — дык сваю, а не чужую, выбіў, часам, жонку, таксама сваю — не чужую, і якое каму да гэтага дзела? Нікому ніякае!.. Так здаецца яно, а выйшла зусім іначай. Цяпер Панас ужо не п’ець, па век свой зарокся! А чаму? Бо пасмешышчам стаўся, бо праходу яму не даюць, песні аб ім паскладалі і пяюць. А зрабілася ўсё вунь як.

Мікіцёнкаў сын (ён грамацей-ткі) газету сабе выпісаў з Вільні, смяхотную такую, іншы раз як прынясе з пошты ды пачне чытаць, дык народу набярэцца ў хату, што сапнуць цяжка: адзін праз ад-

нага лезе, каб чуць лепей. А ён узлезе на лаву, стане над лучнікам ды са два, са тры разы перачытае яе з канца ў канец. Праўду ўсё пішуць і па-нашаму, папросту, значыцца, без махлярства ўсякага, нашскія людзі, ведама, пішуць. Часам бываюць такія жаласлівыя рэчы, што бабы наўзрыд плачуць, а іншым разам напішуць такое смяхотнае, што ўсе покладам смяюцца, за жываты хапаючыся. Добрая-ткі газета, няма што казаць.

Ну, а адзін раз, як прынёс ён гэту газету з пошты (калі не маню, то гэта нядзеляй было), народ сабраўся слухаць, — ведама, усякі цікаў, што на свеце дзеецца, а ён, Мікіцёнкаў сын, значыць, і пытае: «А ці Апанас Канцавы ёсць? — бо сягоння ў газеце аб ім пішацца!» Тут усе схапіліся шукаць Апанаса. Няма. Тады мальцоў паслалі паклікаць яго, тыя паперлі за Апанасам, а ў хаце ўсе цікавы, а найбольш бабы. «Што там аб Апанасе, — пытаюцца, — напісалі такое?» Але ён усё чакае, бо, кажа, без Апанаса нельга выявіць. І маўчыць-ткі. Ну, значыць, маўчыць, а бабы шэптам гадаюць, што там аб ім напісана. Васіліха, тая, што на вяселлях пяе, кажа: «Ды, пэўна, што брахня нейкая… што ж аб ім, гаротным, пісаць? Якая ж віна за ім чысліцца? Чарку што часам вып’е, другую, — дык хто з мужчын не п’е?..» Тут спыніў яе Міхась Мурзаты, кажучы: «Ды што ты, кума, пустое кажаш? Тут палітыка нейкая, вось што!..» Тады Сымоніха на гэта як уз’елася: «А што ж, — кажа, — ён такое зрабіў, каб яго ў палітыку мяшаць? Ці на чужой зямлі жыве, ці чужым у печы паліць?!.» — і пайшла, і пайшла валаводзіць, а за ёй і ўсе разам загаманілі. Гоман узняўся, як на сходцы.

Толькі ў гэтым шусць! — адчыніліся дзверы, і на парозе паказаўся Апанас з жонкай і бальшаком сваім. Усе трое спяшаліся, відаць, бо бальшак яго на парозе яшчэ канчаў кажаронку апранаць. Увайшлі і сталі ў парозе. Разам усе змоўклі ў хаце і ўзіраюцца, то на Апанаса, то на Мікіцёнкава сына. Тады ён — Мікіцёнкаў сын, значыць, кліча яго, кажучы: «Хадзі ж, Апанас, бліжэй сюды», — а той, паступіўшы крок наперад, кажа: «Выбачайце, нішто, я і тут паўслухаюся!» А жонка з-за плячэй яго — Наста, значыцца, — трымаючы ў руках хвартух (бо ўжо плакаць збіралася), кажа: «Не таміце, вашэ, душы! Чытайце, мы і тут пачуем…» Бабы, углядаючыся на іх, цяжка ўздыхнулі.

Мікіцёнкаў сын моўчкі ўзлез на лаву і пачаў чытаць: «Панас гуляе»*.

Тут усе зірнулі на Панаса.

---

* Верш гэты друкаваўся ў № 8 «Нашай нівы» 1908 г.[1]

«Што мне жонка, што мне дзеці…»
Эх, Панас, ва ўсё гуляй!
«Ёсць йшчэ мерка жыта ў клеці,
Хаім! Піва падавай!..»

— А няўжо ж не?! Усё вынесе з хаты, усё прап’е, п’яніца гэты! — загаласіла за Апанасавымі плячамі жонка, крэпка смаркаючыся ў хвартух.

Дзяўчаты і маладзіцы захіхікалі, а гаспадары, пыкаючы люлькі, цікава ждалі, што далей будзе. Апанас, спусціўшы вочы, моўчкі церабіўся за вухам усёй пяцярнёй.

«Напляваць мне на падатак!
Што мне земскі, старшына?!
Хаім! Люльку на ў задатак, —
Дай мне белага віна,

Дай мне булку на паўзлоты
Ды прыпраў мне селядца!
Ўсё прап’ю, кабат і боты…
Пачынай, Панас, з канца!..»

Усе зарагаталі, а Пятрок-бондар адазваўся да Апанаса:

— А што, куме, ці гэтак было там?..

— А няўжо ж як? — галасіла жонка. — Навюсенькія боты прапіў, што матка на смерць сабе справіла, а світку новую — дзе ён падзеў? — выпамінала жонка Апанасу, а за ёй і другія бабы пачалі мужыкам дакараць.

Апанас маўчаў і дурнавата ўсміхаўся, а Мікіцёнкаў сын чытаў далей:

Вось ідзе Панас, спявае,
Страшыць жонку і дзяцей,
Кулаком усім махае,
Пабудзіў усіх людзей…

Цяпер ужо Апанас не вытрымаў і загаманіў, апраўдваючыся:

— Страшыць дзяцей?! Дзяцей страшыць?! А, каб ты спух! Што ж гэта я — Ірад які, ці што, каб дзяцей страшыць?! Калі ж я страшыў? Ну, Наста! — звярнуўся ён да жонкі. — Скажы ж ты, калі я страшыў дзяцей, калі?

— А можа, не? Можа, выпірацца пачнеш?! Э-э, ты, буян, п’яніца горкі, — забыўся, як на Прачыстую зверам раз’юшаным бегаў?! А?! Забыўся?! — крычала баба.

— Ну, на Прачыстую?.. — апраўдваўся, прыпамінаючы нешта, Апанас і садовячыся на ўслонку.

— Сабаку шалёнаму не зычу долі такой, якую я маю з гадам гэтым! — гаманіла, усхліпваючы, Наста, а за ёй і другія бабы, хто на Апанаса, а хто за яго, а мальцы, седзячы на пяколку і карыстаючы з агульнага гоману, падхапіўшы першую зваротку, крычалі на ўвесь голас у старану Апанаса:

«Што мне жонка, што мне дзеці…»
Эх, Панас, ва ўсё гуляй!

З адной стараны Апанасу прыкра было, што жонка яго перад усёй вёскай лае і выпамінае старыя грахі, а з другой — радасна стала, што аб ім ведаюць аж у Вільні і складаюць такія складныя вершы, што аж слухаць люба.

Доўга ў той вечар гаманілі сяляне то аб Панасе, то аб газеце, то аб песні, аб каторай нямала было дагадак, хто яе злажыў і падаў у газету, але ўсім яна прыпала даспадобы так, што Мікіцёнкаў сын прымушаны быў раз-параз перачытваць яе датуль, пакуль дзяўчаты і хлопцы не навучыліся на памяць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У другую нядзелю, калі Апанас варочаўся з мястэчка, крышку дзюбнуўшы гары, уздоўж вуліцы беглі за ім дзеці гурбой і на розныя тоны гаманілі:

«Што мне жонка, што мне дзеці…»
Эх, Панас, ва ўсё гуляй!
Ёсць йшчэ мерка жыта ў клеці,
Хаім! Піва падавай!..»

Спярша Апанас прабаваў лавіць малых жэўжыкаў, але, бачачы, што ногі не слухаюць, махануў рукой і цішком, як воўк з падкорчаным хвастом, пёрся дахаты, а суседзі, углядаючыся на яго праз вокны і вароты, пакладаліся ад смеху і прыпявалі розныя звароткі той песні.

Толькі што дапаў ён сваёй хаты і зачыніў за сабой дзверы ад сяней, як на парозе спаткала яго жонка песняй:

«Напляваць мне на падатак,
Што мне земскі, старшыня?!.»

— Ах ты, помак гнілы! Як п’ян, то капітан, а як праспіцца, то і свінні баіцца? Падатак не аплочаны, дзеці голыя, а ён п’янствуе! Каб на це звод, паганец ты! — крычала жонка.

Апанас стануў, як стоўп, у дзвярах, а пасля пачаў:

— Настаська, дарагая мая, пакінь ты, супакойся! Пакуль жыцця майго — піць не буду… да душы, не буду! Апрацівела мне гэта песня… У-у-у, гады!.. — мармытаў, кладовячыся на печы.

І праўда, што зарокся з таго часу. Якое зарокся? Знелюбіў насмерць карчму, гарэлку і Хаіма, але і газеты сцеражэцца з той самай пары!

*[1910]*

## КРАСКІ

Быў я ў запушчаным старым садзе.

Дарожкі зараслі ў ім травой, язміны і ружы зглушыла лаза, і яны голыя і сухія галіны свае, быццам калекія рукі, у нямой жальбе падымалі ў неба.

На шырокіх клумбах разрасліся асот, чартапалох, макрыца, і толькі дзе-нідзе выбіваліся яшчэ ўверх тонкія высокія бледныя гваздзікі, падобны яны былі да людзей, прыбітых беднасцю, горам і хваробай. А нізенька, паміж калючага асоту і чартапалоху, аслабеўшы ад вечнага змагання за кожную каплю расы і праменьчык сонца, слаліся па зямлі браткі. Збітая іх кучка прыпомніла мне грамадку вясковых дзяцей, абдзертых, худых і галодных, што праз паркан заезднага дому ўглядаюцца на багаты панскі папас.

І стала маркотна мне, што на старой клумбе зелле так краскі глушыць… І здалося мне несправядлівым, што зацененым краскам сонца ніколі ўжо не ўбарвіць пажоўклых лісточкаў — у засені гэтай прыждуцца яны першага снегу…

*[1910]*

# МОСТ У КУТАХ

Куты — гэта засценак, якіх нямала сустрэнеш, едучы трактам з Вільні ў Полацк. Толькі нашы Куты, папраўдзе, ляжаць у куце паміж рэчкай і лесам, вярсты на тры ў бок ад гасцінца.

Вось у гэтых кутных Кутах жыло калісь двое гаспадароў: Рыгор Задзірака і Тамаш Неўступака. Жылі, хлеб жавалі — сварыліся, мірыліся, на кірмашы выпівалі, на вяселлях гулялі, на хаўтурах плакалі, ну, а калі дзела даходзіла да чубоў, то таксама цэрабілі адзін аднаму на славу сваіх Кутоў. Адным словам, жылі, як бацькі і дзяды, і былі здаволены жыццём, сабой і сваімі Кутамі.

Хаты нашых гаспадароў стаялі абапал рэчкі: адна на адным беразе на ўзгорку, другая на другім, ды таксама на ўзгорку, і былі падобны да сябе, як дзве родныя сёстры, з той толькі розніцай, што Рыгорава раніцай зерыла на Тамашову чырвонымі ад сонечнага свету вокнамі, а Тамашова — вечарам. Значыць, з хатамі ўсё ў парадку было, але вось з зямлёй куды горш, бо Тамашоў клін ляжаў за рэчкай на Рыгоравым баку, а Рыгораў клін на Тамашовым баку. З гэтага відаць, што, каб праехаць з возам ці перагнаць жывёлу праз рэчку, патрэбен мост. Мост такі быў. Прадзедамі яшчэ быў будаваны з дубовых планак, цяжкі і крэпкі. Але ўсё мае свой век. Дажыў яго і кутоўскі мост. Адной вясны вада падмыла зруб, і мост — бэлечка за бэлькай — павандраваў у свет далёкі.

«Пайшоў мост упрочкі,толькі той бяды, — казалі сусе- дзі, — уброд пераедзем!» І ездзілі ўброд усю вясну, але пасля вясны, адвечным звычаем, прыйшло лета, трэба было вазіць сена, а з возам не тое што ўлягку: калёсы загразнуць, і — ні ўзад ні ўперад! Ведалі гэта добра суседзі і не памыкаліся ехаць з возам праз брод, але і не браліся будаваць мост. Рыгор казаў, што правіць мост павінна земства. Тамаш не верыў у земства, але ўсю надзею пакладаў на двор: «За прыгону з панскага загаду мост будавалі», — казаў ён, апіраючы гэткім спосабам сваё права на даўнасці. Але ні двор, ні земства не прыходзілі з падмогай у Куты, бо мост ляжаў на зямлі гэтых двох гаспадароў і ім толькі самім патрэбен быў.

А час не стаяў, але ўсё плыў і плыў, маўляў, тая рэчка. Не агледзеліся, як і Спас надышоў, а маста як не было, так не было. Збожжа і сена ўсё яшчэ на пацеху мышам і варонам стаяла на полі. Кутоўцы, страціўшы веру ў земства і двор, пачалі між сабой сварыцца, каму з іх двох трэба мост будаваць. Кожны панукаў другога, а другі ўпіраўся. Сваркам —канца не было, завялі справы ў судох. Але пакуль што час плыў. Трэба было ўжо ярыну вазіць,

жыта малаціць, а тут рэчка ад дажджоў частых, як на злосць, разлілася шырэй, а стагі і мэндлікі ўсё пахмурней паглядалі на гумны. Глумілася дабро.

Гаспадарам шкада было сваёй працы і суседа свайго: злосць даўно перакіпела, цяпер ужо суседзі больш вінавацілі парадкі на свеце, чымсьці сябе. Шкадавалі адзін аднаго, але не ведалі, як бядзе памагчы. У суды, у воласць і да земскага ездзілі разам, разам дабіваліся праўды, разам залівалі гора сваё манапалькай, але ўсюды спатыкалі адзін адказ, што гэта іх суседская справа, бо мост на іх зямлі ляжыць і больш нікому не патрэбен. Рыгор з Тамашом даўно гэта ведалі, але ім ішло аб тое: хто яго павінен правіць? Ім адказвалі, што яны самі павінны. «Добра. Але дзе ж загад?» — пыталіся. Загаду не было.

Раз у суботу сышліся Тамаш з Рыгорам каля броду, селі на каменьчыку і пачалі гутарку. Гутарка іх была поўна жоўці: чулі яны кроўны жаль да ўсяго і ўсіх на свеце, чулі, што крыўда ім робіцца, але не маглі згадаць, скуль на іх ідзе ўсё гэтае няшчасце?

— Вось часы насталі! — бедаваў Тамаш. — Дыхаць цяжка людзям на свеце, праўды нідзе ніякай!

— Дзе цяпер праўды шукаць?! Даўней — дык начальства было, важнае начальства… Узяць хоць бы даўнейшага нашага пасрэдніка. Суд і праўда напагатове ў яго!.. Раз, два і гатова!..

— Нашто там пасрэднік, — не было лепшага парадку, як, вечны пакой яму, пры нябожчыку пану старым. Пазаве аканома — жыва табе і загад і каманду прыпісаць загадае…

— Нішто чалавек быў… — пахваліў Рыгор.

Тамаш, пыкаючы люльку ў задуме, як бы прыпамінаючы нешта, казаў:

— Балюча білі!..

— Дык што, што балюча, — але парадак быў, лад быў, а цяпер што?..

Рыгор сярдзіта плюнуў у старану.

— Даўней прыйдуць к табе і паглядзяць, ці ўсё ў парадку, а цяпер ты да іх ідзеш, і то праўды няма ніякай, во калі часы насталі!..

— Не толькі часы, а і людзі змяніліся. Гэта ж даўней прыйдзе вураднік, то такога крыку наробіць, з хаты ўсіх павыганяе.

— А і цяперашні нішто, ён таксама зарадны чалавек…

— Можа б, ён нам раду якую дасць? — глянуў Тамаш з бліскам надзеі ў вачах.

— Дык чаму ж бы не?!.

Гаспадары ажывіліся, бліснула іскра надзеі ў іхнім безнадзейным палажэнні. Наладзіўшы хутка каляску, яны паехалі ў мястэчка да вурадніка.

Вураднік спярша ніяк не мог уцяміць, аб што ім ідзе, але, зразумеўшы, абяцаў сваю помач.

Сялянам весялей зрабілася на сэрцы, поўныя надзеі і веры ў вурадніка ехалі дамоў.

На другі дзень соцкі прынёс паперу ў Куты ад вурадніка, у каторай пісалася, каб да суботы другой на руме былі звезены ўсе матэрыялы, патрэбныя на мост, а ў суботу каб работнікі чакалі з тапарамі і піламі вурадніка.

Тамаш пробаваў казеліцца, што мала часу да суботы, але Рыгор перапыніў яго, паказваючы паперу:

— Бачыш, што ў паперы напісана? Ну, то і няма што валаводзіць!

У другую суботу матэрыялы былі ўсе звезены і суседзі з парабкамі з досвіткаў чакалі вурадніка.

Каля снедання над’ехаў вураднік. З голымі галовамі, камечучы ў руках шапкі і нізка кланяючыся, гаспадары віталі яго. Саскочыўшы з каламажкі, вураднік перш-наперш злаяў іх. Лаяў за тое, што матэрыялы не такія, пасля лаяў, што дагэтуль нічога не зрабілі яшчэ, а там яшчэ за марудную работу, за ўсё пакрысе. Гаспадары ўслухаліся ў лайку гэту, як у бацькоўскую навуку, і, бесканечна цешучыся, працавалі да поту. Засцянкоўцы таксама раслі ад радасці.

Справіўшы пачастунак і выпіўку таму, хто-ткі вывеў іх з бяды, Рыгор праводзіў праз новы мост Тамаша дамоў і не без фанабэрыі ў голасе пытаў:

— А што, суседзе, хітра я прыдумаў?

— Хі-тра! — патаківаў Тамаш, з пашанотай углядаючыся на Рыгора.

*[1910]*

## АПАЎШАЕ ЛІСЦЕ

… Кругом мяне, як дарагі саматкан, заслалі зямлю пажоўклыя апаўшыя лісці. Яны ўжо нікому не патрэбныя, не рупяць, не цешаць нікога, — як бы чуючы гэта, яны збіліся кучкамі, прымоўклі… Узняўся вецер, дзьмухнуў, і лісці, як хворыя і ззяблыя людзі, туляцца ў канаўкі, пад платы і сцены, хаваюцца

ў траву і шэплева, быццам бяззубыя старцы, нечага ціха-ціха жаляцца. Гляджу на іх беспрытульную грамаду, і ўспаміны ціснуцца ў думкі… Гэта ж вось зроблены, скручаны ляжыць задорны клён, там багатая ліпа, шумлівая бярозка, сіратлівая рабіна, — а тут, каля пня, прыпаў моцны дуб, разважны ясень… Знаю ўсіх іх!.. Помню, як вясной асцярожна выглядалі на свет, як летам у поўні сіл змагаліся дружна за кожны прамень сонца, каплю расы і волю ў паветры… Колькі было гоману, сварак, шэптаў надзей і трывог?!

А цяпер? Цяпер толькі бяссільны шэлест і, можа, тайная надзея на заложаныя пучкі, калі іх мароз не зварыць, не выб’е град, не звіхне віхор… Можа, гэты шэлест — не жальба, а ціхая малітва з тых, каторым усміхнецца яшчэ сонца?..

*1910*

## ПРЫВІД

Ігнат ляжаў на печы і думаў аб сваёй паганай долі. У хаце было цёмна, жонка і дзеці спалі. Думаў Ігнат аб людскіх дастатках і ўсёй душой пажадаў іх сабе. Аж тут раптам расступіліся сцены і святло заліло хату. Ігнат пачаў углядацца, асё ж здалёку на белай хмарцы плыве да яго нейкая паня. Ігнату ўсё гэта дужа дзіўным здалося, і ён занямеў. А тым часам зданне прыплыло да самага чэрана і станула. Цяпер Ігнат зблізка акуратна разгледзеў, што гэта грэцкая багіня, якую нядаўна бачыў нарысаваную ў нейкай кнізе, толькі чыста забыўся, як завуць яе. На галаве багіня мела залаты вяночак, адной рукой прыдзержывала багатую сваю вопратку, зусім не падобную да нашай, а ў другой мела грамадны рог, поўны грошы, дарагіх каменняў і ўсялякага багацця. Ігнату зрабілася страшна, але маўчаў і ждаў, што далей будзе.

Багіня ласкава ўсміхнулася да Ігната і павітала яго гэткімі славамі.

— Вітай, Ігнат, на зямлі прадзедаў тваіх! Ты думаў аба мне, і я вось прыходжу, каб надзяліць цябе ўсялякім багаццем. Хачу зрабіць гэта праз памяць на тваіх прадзедаў, каторых некалісьто я знала. Даўно было гэта… Бачу, у вас цяпер тут край голы, а калі я тут бывала з сваімі людзьмі, многа ўжо сот лет таму назад, бары тут, лясы шумелі. Нашы людзі прыязджалі да вас на караблях і лодках па дарагі бурштын, бабровыя, кунічныя і саболія скуры; на замен яны прывозілі вам бронзавае аружжа

і літыя прыкрасы, маляваныя урны і рэзаныя фігуркі, каторыя вашы людзі стараліся падрабляць; няскладна ішло ім, але перараблялі ўсё на свой спосаб. Здольны народ быў, прадзеды вашы. Іх работа спярша была грубая, але мела ў сабе зачаткі арыгінальнай красы. Вы цяпер недзе папярэдзілі сваіх вучыцялёў, вашы майстры недзе даўно ўжо вытварылі сваю штуку. Цяпер, можа, ужо вашы купцы возяць іншым народам на прыкрасу свае вырабы, каб прамяняць іх на залаты пясок… Ці так? — усміхаючыся, спытала багіня.

Ігнат маўчаў, нічога не разумеючы з гэтай гутаркі. Багіня, не даждаўшыся адказу, далей цягнула.

— Даўныя часы гэта, ах, даўныя… Тады ў вас тут дзіч была, нашы людзі прымусілі перайсці з каменнага да бронзавага веку. Праўда, рабілі яны гэта не дзеля вас, але каб самім разбагацець на дарагіх вашых таварах, каб на старасць жыць у багацтве, піць віно з залатых кружак на ложах з слановай косці, за сярэбранымі сталамі, сярод панадных дзяўчат, пры тонах арфы… Дзяўчаты вашы славіліся красой, дорага плацілі за іх у Афрыцы. Дык нашы людзі кралі дзяўчат вашых. Яны заманівалі іх на берагі рэк, раскладаючы ўздоўж берага розныя ўборы і дарагія саматканы, і калі дзяўчаты вашы прыходзілі паўзірацца на дзівы гэтыя, самі адны, без мужчын, то нашы людзі хапалі іх і, не зважаючы на крыкі, вязалі і хавалі на дно лодак, лічучы ў думках, колькі залатых колец возьмуць за іх у Егіпце.

После вашы старшыны і мужы пераянялі збыткоўнае жыццё ад скіфаў, і нашы людзі пачалі дастаўляць вам збыткоўныя тавары: міра і ладан, дарагія каменні і бісер, чорнае дрэва і слановую косць. А ўжо і ў народзе пачала будзіцца душа. Вашы дзяўчаты і хлопцы танцавалі дзіўныя рытмічныя танцы на ігрышчах, каторыя ўстраівалі сабе пад голым небам, над ракой ці возерам, вашы сляпцы-лірнікі складалі багатырскія песні і распявалі іх на трызнах і ваенных банкетах. Але гэта быў зачатак. На цяперашніх ігрышчах, пэўна, дзяўчаты вашы пяюць і танцуюць, як музы, а вашы лірнікі сваімі казкамі багоў абваражыць могуць? — пытала багіня.

Ігнат, шырока раскрыўшы вочы, маўчаў і… не разумеў нічога. А багіня далей казала:

— О, помню гэты светлавалосы народ: мужы, як дубы, усе высокія, стройныя, а гордасці колькі было ў светлых вачах іхніх. Благі тавар з іх быў на нявольнікаў: запраданыя ў няволю, уміралі моўча, бо не важыліся пахіліць галоў сваіх перад чужой воляй… Вашы прадзеды волю любілі, уміралі, пазбаўленыя волі, з іменем

народа роду свайго і зямлі сваёй на вуснах… Нешта з бяссмертных багоў было ў паставе і вачах прадзедаў вашых…

Багіня задумалася, а после, быстра зірнуўшы на Ігната, ужо іншым тонам пытала:

— Але чаму ж гэта, ваша, патупляеш свае вочы?

Ігнат разумеў, што тут выпадае нешта адказаць, але не мог дабраць слова. З перапалоху ляскаў зубамі і таптаўся на месцы.

Багіня змоўкла, з няверай аглядаючыся на Ігната. Той чухаўся ў патыліцы і ўсё яшчэ сіліўся на адказ.

— Дзіўнае стварэнне!.. Але патурбуйся, ваша, з печы злезці! — крыкнула багіня, знаць, зазлаваўшыся.

Ігнат паслушна ссунуўся з печы і, згорблены, памкнуўся да багіні, каб пацалаваць у руку ёй. Але багіня, як апараная, адскочыла ўбок. І, здзіваваная і злосная, крычала на ўвесь голас:

— Хто гэта?! Што гэта?! Хто ты? О, чалавеча, хто ты такі?!

Ігнат чыста збіўся з панталыку. Маўчаў.

— Ды хто ты такі, чалавеча, як род і племя твае завуцца? Хто ты?!

— Я, я… — стагнаў Ігнат, — тутэйшы…

Багіня з дзіву ажно анямела. А после, змеркаваўшы, пачала на ўвесь голас смяяцца:

— Не ведае, бедны, як назваць сябе… Абывацель не знае племені-роду свайго, не знае назовы зямлі роднай, каторая ўзрасціла яго, у каторай зложаны косці бацькоў і дзядоў… Ха… ха… А ткі гэта патомак тых паўбагоў, паўгеркулесаў… Такі самы вус бялявы, такія самыя вочы,; толькі ў вачох не гордасць, але рабства, нявольніцтва празірае, не адвага і смеласць, а страх у гэтай усёй фігуры, гатовай заўсёды да паклону… Божа мой, колькі рабства!.. Не, чалавеча, лішне многа ў табе рабскага… Негрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гордасці, чым у цябе, чалавеча, асталося… Бачу, як праз доўгія вякі пагляд твой плюгавіўся пакорай, галава паклонамі, вусны лізаннем рук нячыстых… Няволя затуманіла памяць тваю, забыўся ты людской назовы сваёй і гэтым сцёр ты з ліца свайго знамя людское… Не, чалавеча, скарбы мае рассыплю пе- рад табой толькі тады, як ты прыпомніш імя людское сваё, калі прабудзіцца ў табе адвага і гордасць… А цяпер бывай здароў!

І багіня, сеўшы на хмарку, аддалілася, а ў той час у хаце сышліся сцены і зрабілася цёмна. Ігнат, пастаяўшы крыху, паскрэбаў з адной і з другой стараны галаву, сплюнуў і, узлезшы на печ, ізноў заснуў.

*1910*

# СЯБРА З КАЎБАСОЙ

Такое прозвішча носіць цяпер адзін з маіх сябраў, а як ён нажыў сабе гэтае прозвішча, зараз раскажу вам.

У часе неціхот у нашым глухім гарадку спакойныя дагэтуль вулкі і завулкі чыста змяніліся на нейкае «гарачае поле», поўнае ўсякіх злыдняў, якіх за апошні час не ў меру развялося і каторыя ўздоймам рабілі аблавы на каліты, гадзіннікі і польты сваіх бліжніх. Забава сама па сабе нішто, але тое толькі псула забаву, што не абедзве стараны роўна ёй цешыліся… Дзеля гэтага, хто меў грошы і адвагу, купляў і насіў пры сабе рэвальвер, а хто не меў грошы і быў менш адважны, лічыў на свой спрыт у нагах ды сілу рук. К таму за нашэнне пры сабе аружжа ўрадавыя абвесткі гразілі вялікім штрафам і адседкай; паліцыя ж адбірала нават і кіі, таўсцейшыя за палец. Каго прымус будзь службы, будзь іншыя якія справы не выганялі з хаты, то вечарамі пільнаваўся дому, але не ўсе маглі гэтак рабіць: іншым штодня са службы трэба было варочацца ноччу на край гораду, дык, каб смялей было, хадзілі грамадамі. Адзін толькі мой сябра, Пётра Гродзь, з нейкага часу набраўся фанабэрыі і перастаў пільнавацца грамады. Ведаў я, што не можна яго залічыць да лішне смелых людзей, і тым больш дзівіла мяне, скуль гэта ён зрабіўся такім рызыкантам? Углядаючыся на яго, я прыкмеціў, што ён заўсёды цягае з сабой нейкі пакунак — не надта грубы, але доўгі, на якія тры чвэрці аршына. Я адразу ўцяміў, што гэта не што другое, як аружжа, але цяпер ужо сам я сцярогся хадзіць з ім, бо баяўся, каб разам з ім і мне не прыйшлося дрэнна, як спаймаюць яго з аружжам. Так і выйшла. Раз праходзіў ён неяк глухім завулкам, і тут прыступіліся да яго двое «невядомых» і пачалі евангельскую гутарку: каб ён аддаў ім верхнюю сваю адзежу! Сябра мой евангелля ніколі не чытаў (быў татарынам) і не ведаў, што калі хто папросіць у цябе верхнюю адзежу, «аддай яму і споднюю!» — дзеля гэтага ён аднаго, заместа адказу, аглушыў на месцы, другому пераламіў руку. Гэтак рабіць не можна, але сябра мой быў чалавекам простым і рабіў усё не з розуму, а з сэрца. Падняўся гоман на вуліцы, надышла паліцыя, і ўсіх траіх гарадавыя пацягнулі ў вучастак. Як і што там было, не ведаю, гарадавыя толькі расказвалі, што па дарозе еў ён каўбасы, трактаваў імі сваіх супрацоўнікаў і гарадавых, а ў пратаколе пісалася, што раны былі зроблены тупым аружжам, і пры ім ніякага аружжа не аказалася. На другі дзень яго выпусцілі, і гэты дзень ён аддыхаў (ён заўсёды аддыхаў, калі яму нездаровілася). Трэцяга дня Гродзь быў ізноў на службе з не-

адлучным сваім пакункам, толькі цяпер гэты пакунак заверчаны быў у іншую паперу.

— Скажы мне, братка, што гэта заўчора з табой прылучылася? — пачаў я браць яго на спыткі.

— Напалі на мяне, як сам ужо ведаеш, — ну і абараніўся.

— Чым?..

— Во гэтым, — сказаў ён, паказваючы на доўгі свой пакунак і дзіўна неяк усміхаючыся.

Я змоўк, але ніяк не мог дагадацца.

Ён увесь час углядаўся на мяне, а пасля засмяяўся і, надзёршы паперу, паказаў мне… — ну, згадайце, што ён паказаў мне? — каўбасу!.. Я даўно ведаў, што сябра мой умее рабіць дурныя жарты, але гэтага не спадзяваўся. Дзеля гэтага я нічога не адказаў і ўбіўся ў сваю работу. Тады ён сам растлумачыў:

— Вядома, што добра высушаная сальцісона, ці, як яе расейцы завуць, «італьянская каўбаса», цвёрда, гнучка і пры ўдары мае зусім тую сілу, што і гумілясцікавая палка, а дзеля гэтага можа служыць добрым аружжам для абароны!

Спярша я не даў яму веры і да вечара ўнікаў яго. Але вечарам, ідучы дамоў, зайшоўшы ў краму, я купіў сабе такую самую каўбасу. І дома праканаўся, што сябра мой праўду казаў: гэтай каўбасай я адным ударам ламаў цалёвую дошку.

На другі дзень прыйшоў я на службу з такім самым пакункам, як і ў майго сябры. Гэтага дня я трактаваў яго папіросамі і стараўся дагадзіць яму. Таго ж дня вечарам, ідучы грамадой дамоў, я перад усёй кампаніяй выявіў новае адкрыццё. Яны смяяліся і жартавалі, але на другі дзень адзін за адным з’яўляліся з доўгімі пакункамі на службу.

Трэцяга дня, праходзячы горадам, заўважыў я зусім незнаёмых мне людзей з сальцісонамі пад пахай, а пятага дня, калі котпамаўза сапсаваў маё аружжа, я, зайшоўшы ў краму, даведаўся, што цана на сальцісоны з 40 капеек паднялася да 50 за фунт.

За месяц у нашым горадзе адбыўся голасны паядынак на сальцісоны мясцовага доктара з адвакатам, які нарабіў нямала гоману.

У палавіне другога месяца аб новым адкрыцці дазналася паліцыя, і на ўсіх вуліцах горада быў расклееных цыркуляр, які абвяшчаў, што людзям, каторыя не маюць пазвалення на аружжа, забараняецца насіць пры сабе сальцісоны ў кусках, даўжэйшых за чвэрць аршына. Аружжа гэта, паясняў цыркуляр, тым больш шкоднае, што «вещественные доказательства» лёгка могуць быць зніштожаны.

Гэтакім парадкам каўбаса афіцыяльна была прызнана за важнае аружжа, а мой сябра за сваё адкрыццё дастаў прозвішча Сябра з каўбасой.

*1910*

## ГОЛАД

Гэй, Голадзе-бацька, гэй! Дужы ты, — як гром, як воды ў шпаркім бегу, срог ты, і жаласці не знае сэрца тваё! Цяжка рука твая лажыцца на наш род людскі!..

Ты — свету ўладар, ты з смерцю-маткай libraryануеш над усякім творам жывым, ад пачаткаў дзён нашых мы стаім паміж вашай можнай апекай: тваёй, Голадзе, і смерцінай. Завідны ты аб уласць сваю, а шчодры пладамі багацця твайго. О, ты шчодра надзяляеш усіх-усіх!.. І праца твая красуе, і ўласць, і царства тваё пашыраюцца…

Глянь! Глянь вось туды — у курную хацінку, дзе галодная маці туліць да ўпаўшых грудзей галоднае дзіця: не знайшоўшы корму, змірае яно ў тваім абняцці… Ха, ха! Змірае, Голадзе, у тваіх бацькоўскіх руках!.. З смерцю-маткай, усяможныя вы, пажынаеце законны свой плён, багаты плён, шырокі плён, — як багата і шырока чорная зямліца наша…

Пустой вуліцай горада нясмела каля сцен крадзецца людскі шкілет — так, шкілет, бо голад яго няньчыў, забаўляючыся ім, крадзецца, каб напасці, здушыць сабе падобнага… А там, сярод багацтва і збыткаў, ці ж там таксама не тваё, Голадзе, панаванне?

Дзіця-дзеўчатко, пекная, як краска свежая, як воблік зямліцы ў час веснавога сонцаўсходу, — таргуе целам сваім, бо голад рассеўся ў хаце бацькоў старых, няўздольных, брат і сястрыца плачуць, просячы хлеба… Глянь, як неспакойна шукае купца, — можа, бацькі такіх самых дачок-нялетак… Повен славы і чэсці старац купляе ў цябе, Голадзе, чэсць дзявочу… Нялеткаў плач у вушах ёй звініць: «Хлеба! Ха, ха! Хлеба!» Чуеш, Голадзе, хлеба просяць, хлеба! Так, ім будзе хлеб, але з слёз горкіх, з стыду і ганьбы… Няхай маці красці пойдзе, бацька зап’ецца і знамя людское сатрэ з аблічча свайго, а дзіця-дзеўчатко згіне ад благой хваробы, валяючыся ў заразнай бальніцы…

Сыты і сільны юнак божышч шукае… Голадзе, горды юнак проці ўсясільнай рукі тваёй чало паднімае, сіліцца глянуць на сонца — на сімвал праўды! Ты ведаеш, Голадзе-бацька, і ты,

смерці-маці, што могуць быць божышчы без сімвалаў, а сімвалы без божышч. Як жа смешна вам юнацкая паманка! Як жа вясёла вам забава змагання душы з брухам! Цікавы канца, паклаў Голад руку сваю на гордую існасць людскую, знаць, цяжка была рука тая, бо зламаўся дух юнацкі, а сам ён брыў далей шляхам балотным-тучным, толькі час ад часу сілячыся падняць вочы да сімвала-сонца.

Славен будзь, Голад! Збудаваў бы я алтары табе, але ведаю, што не любіш ты новых, бо алтары ад веку ў імя тваё стаўляны. Слава твая ад зямлі асноваў!

Слаўся, Голадзе, слаўся!..

*[1911]*

## ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Хрыстос нарадзіўся і нарадзіўся сярод людзей гаротных, простых…

Хрыстос, каб аб'явіцца свету, выбраў не збыткоўныя палацы багачоў, нарадзіўся ў пастушскай будцы.

Анёлы радаваліся нараджэнню Яго і спявалі: «Слава ў высотах Богу, а на зямлі спакой і радасць людзям добрай волі».

Хто ж пачуў голас гэтай песні?

Не гордая шляхта рымская, каторая валадзела старонкай той, не кніжнікі і не духоўнікі: голас гэтай песні пачулі мужыкі-прастакі і прыйшлі прывітаць нованароджанага простымі словамі, у простай мове.

Праз просты народ меўся свет адрадзіцца.

І для цябе, просты Беларускі Народ, вялікая навука і вялікая памятка ў гэтым нараджэнню Хрыста…

Нарадзіўся Хрыстос, каб прынесці ўсім, што стагналі ў цяжкай няволі, вялікую і радасную навіну: каб апавясціць, што ўсе людзі роўны, усе сыны Божыя.

Усе роўны!

Нарадзіўся Хрыстос, каб узрасці сярод прастакоў, набраць вучнёў, людзей простых, і павучаць народ у мове простай, роднай мове, каторую яны выссалі разам з малаком з грудзей матак сваіх.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А як ад мандроўных каралёў-мудрацоў даведаліся аб нараджэнні Хрыста, паслалі шукаць нованароджанага, а калі тыя не знайшлі Яго, загадалі забіваць навародкаў.

І для цябе, мой родны краю, засвяціла зорка адраджэння, як калісь над убогай будкай у Галілеі… І святло гэтай зоркі ўбачылі вочы прастацкія. Палілася песня па краю, і на голас гэтай песні ажывіліся светлай надзеяй сэрцы простага, гаротнага народа…

Няхай ворагі твае збіраюцца і радзяць, няхай пасылаюць слуг сваіх забіваць навародкаў, — твая простая мова будзе нясці вясёлую навіну пад убогія саламяныя стрэхі, класці надзею ў сэрцы людзей простых, але «добрай волі».

А калі б распялі і замучылі тваё простае слова, то яно не ўмрэ вечнай смерцю, але ізноў уваскрэсне; гэта памятай, Беларускі Народ!

Тваё простае слова — гэта твая праўда!

А праўды не ўміраюць. Праўды ж народаў жывуць, пакуль жыве хоць адзін чалавек з гэтага народа.

І ты, мой родны народ, мая родная мова, не замрэш, як гэтага хочуць твае ворагі.

І хоць тысячы навародкаў з духа, з крыві, з ідэі адраджэння твайго загнанага і пагарджанага слова загінула бы, ты жыць будзеш.

А калісь у адроджанай Беларусі, у культурным жыцці, на здабыццё каторага мы цяпер кладзём першыя падваліны, наш праўнук скажа разам з паэтам:

Слаўся, святая дабыча:
Пан я сягоння ўсіх ніў!
Песень маіх не паліча
Той аж, хто зоры злічыў!..[1]

*[1911]*

## ДЗЕНЬ РУЖАВАЙ КВЕТКІ

Зарумянілася на ўсходзе неба, і зямля пачала скідаць з сябе белы вэлюм лёгкага, маёвага туману.

Ціха, быццам будзячыся па здаровым сне, уздыхнуў лес, і гэты спакойны, здаровы ўздох пакаціўся ў шырокі луг, захваляваў зялёным дыванам сочнай травы, аддаўся на жытнім моры…

Драч апошні раз прабубнеў сваю хрыплую песню, а разбудзіўшыеся ластаўкі расселіся ў рад на выступаючым са страхі шастку і пачалі строіць сваю лагодную капэлу.

На ўсходзе ўсё яшчэ калыхалася чырвоная зарніца, як сонцавы сцяг, але вось скрозь чырвань гэтага сцягу прабіўся ўгару першы сноп вострых, доўгіх праменняў….

Раздаўся чароўны павітальны гімн узыходзячаму сонцу, сімвала дабра і праўды…

У адну з гэткіх чароўных раніц збудзілася пад малым ваконцам сялянскай хаты чырвоная ружа. У раскошных прасонках скранула лісткамі, і з аксамітнай іх зелені пасыпаліся шнуркі брыльянтавай расы, яшчэ раз скранулася ружа, і на адной з галінак трэснуў кветны пучок, а спаміж зялёных клапцікаў выглянула чырвоная кветка, першая кветка гэтай вясны…

Паміж стыдліва напаўрасхіленых кветных лісткоў закаціліся дзве капелькі чыстай, іскрыстай расы і выглядалі, як пара смяючыхся вочак дзяўчаці.

А калі праз зялёныя косы плакучай бярозы прабіўся сонцавы прамень і пацалаваў кветку, на ёй разліўся густы румянец, і пара светлых вочак заіскрыліся, быццам стрымліваючы ў кветнай душы раскаты радаснага пустога смеху.

Гэтак расцвіла ружава кветка пад скромным ваконцам сялянскай хаты, але не суджана было ёй тут красаваці, удыхаючы пах лясоў і лугоў. Гэтай жа раніцай адламалі ружаву кветку і аддалі праязджаўшаму пану, што ехаў у горад.

Калі гаспадар ламаў з ружавага куста кветку, яна, схіснуўшыся, ураніла свае вочкі, быццам дзве дробныя слёзкі, і сталася маркотнай, як зжатае поле…

Прыбыўшы ў горад, пан увайшоў у светлыя пакоі з залочанымі белымі мэблямі, з мяккімі перскімі дыванамі, па каторых ціха ступалі абутыя ў скуру ногі людзей, як рысь паступае па сівым імху, чакаючы здабычу.

Проці яго выйшла белая паня з цёмнымі валасамі і белай, як калінаў цвет, адкрытай шыяй; пан пацалаваў яе пахучую руку і, пацалаваўшы перад тым ружаву кветку, падаў у рукі белай пані; тая ўшпіліла яе лёгка дрыжачай рукой у свае валасы.

Ружава кветка на цёмна-буйных валасах белай пані схінулася, як бранка ў няволі, каторая, выплакаўшы ўсе слёзы, села пад цёмным борам і чакае прыходу нязнанай долі…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Снедаючы за сталом, устаўленым крышталёвымі кружкамі і малочна-белай парцалянай, паня прышпіліла ружаву кветку свайму маладому палюбоўніку да левага вылогу чорнага фрака.

Выходзячы з светлых пакояў, паніч той лёгка прыціснуў пальтом ружаву кветку, і яе кволыя клапцікі пакрыліся сеткай чуць відочных загібаў; а калі ён ішоў вуліцай і сонца заглядала на кветку, яна хіліла сваю галоўку ўсё ніжэй, быццам стыдаючыся глянуць яму ў вочы.

Гэтак прыйшлі яны ў цяністы сад, дзе паміж дрэў і кветак біў халодны фантан. Брызгі жывой вады ўзляталі высока, іскрыліся на сонцы і густым дажджом сыпаліся ўніз, на зямлю.

Паніч, сеўшы на лаўцы, дастаў з кішэні газету і пачаў чытаць. Прбжыла палуднёвае сонца, яго сухія, гарачыя прамені даходзілі да ружавай кветкі, выпіваючы паследкі сокаў. Яна — сасмагшая, хворая — пачала вянуць.

Злажыўшы газету, паніч закурыў цыгару і зірнуў раз і другі на кветку: кветка аплюхла і страціла свежасць. Адшпіліўшы і пакруціўшы момант у руках, паніч кінуў яе на маляваную лаўку ў садзе, а сам пайшоў за сваімі справамі.

Ружава кветка ляжала на маляванай лаўцы, а з усіх старон дыхала на яе жарам і лажыўся дробны пыл з расцёртых у пяску плювоцін. Каб яна магла крычаць, прасіла б на голас каплі, халоднай каплі з фантана! Але кветка маўчала, каплі жывой вады іскрыліся ў сонцы і пераліваліся, а да яе даходзіў толькі іх плеск…

Хутка вянула кветка, а сеткі загібаў усё цямней і глыбей адзначаліся на кветных клапціках яшчэ не так даўно свежай, пахучай ружы…

Адвячоркам прыйшоў у сад чалавек, брудна адзеты, і, знайшоўшы кветку на лаўцы, узяў яе ў свае рукі і пачаў забаўляцца. Найперш адшчыкнуў чаранок, пасля пачаў расхіляць недаразвітыя клапцікі сваімі бруднымі пальцамі. Калі кончыў гэту работу, кветка быццам расцвіла, але гэта быў толькі чмут майстра з паплямленымі пальцамі: ён, разрываючы грудзі да самага сэрца ружавай кветкі, дабіў яе. Яна цяпер яшчэ хутчэй пачала вянуць.

Калі ж на кветных клапціках ад грубых і брудных пальцаў пайшлі гнойныя плямы і чалавеку здакучыла забаўляцца ёй, ён, як палюбоўнік пані, кінуў яе ізноў на маляваную лаўку.

Вечарам прыйшоўшыя людзі скінулі кветку далоў і ўтапталі ў лужыну, каторая зрабілася там ад вады з фантана, калі раз вецер пахінуў убок жывы іскрысты стоўб сваім напорам.

Апоўначы, зачыніўшы сад, вартаўнік, узяўшы мятлу, пачаў абмятаць смяццё кругом фантана. Мятла заняла і ружаву кветку

і, доўгі час качаючы яе па курадымных сцежках, прыгнала да памыйніцы, куды скідалася ўсё смецце са сцежак гарадскога саду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У памыйніцы канала ружава кветка, а перад яе вачамі маячылася ўбраная ў правідны белы вэлюм зямля, як маладая красуня, заснуўшая спакойным сном. Ружовы сцяг на ўсходзе, прадвеснік сонца, сімвала дабра і праўды… Дзве капелькі расы, падобныя да пары смяючыхся вачэй, каторыя тояць у кветнай душы раскаты пустога смеху…

А калі ўсходзіла над зямлёй ізноў сонца, ружава кветка ў памыйніцы ўздыхнула апошні раз на гэтай зямлі, аддаючы сваю бязвінную душу ў рукі міласэрнага Бога, што стварыў яе.

*[1912]*

## КАМЕННАЯ ТРУНА

Непадалёк ад места Дзісны, з правай стараны тракту, што ідзе з Дзісны на Германавічы, праязджаючы, убачыш стромкую кучамкаватую горку, заросшую лесам. Горка гэта акружана топкім балотцам, а на версе яе, на самым шчыце, ляжыць велічэзная каменная труна. Калі, хто і на якую памятку палажыў там гэну труну, гісторыя не ведае, а народны сказ перадае з пакалення ў пакаленне ніжэйпісаную аповесць.

Калісь-то даўным-даўно на горцы стаялі пышныя харомы багатых баяр Няміраў. Харомы былі акружаны дубовым вастраколам і аблітыя кругом вадой. Далёка славілася між ворагаў недаступнае няміраўскае гняздо, а яшчэ далей іх родавая аружная слава непрымірымых вояў, уславіўшыхся несчыслёнымі перамогамі на палях бітваў. У збройніцкай святліцы няміраўскіх тутэйшых харомаў на пачэсным месцы вісеў каваны, чарлёны шчырым золатам шчыт і двуручны абасечны меч слаўнага Грымона-Няміры, учасніка Алегавага паходу на грэкаў. У княжай радзе, на полацкім замку, старшы роду Няміраў засядаў праваруч князя, на першым месцы. Гэткі-то быў род Няміраў.

Ды толькі цяперашні нашчадак, пануры Бутрым, панізіў славу роду свайго. Не перамогамі ў бітвах з ворагамі памнажаў ён сваё багацце, а разбоямі і крыўдай паднявольнага люду. Глыбокія падхаромныя порубы напоўнены былі людзьмі, закаванымі ў дыбы, каторых уласнымі рукамі любіў катаваць Бутрым. Праходзячы міма няміраўскага двара, часта чувалі людзі стогны і плач, а ча-

сам хвалі акружаючага харомы возерца выкідалі на бераг кавалкі чалавечага цела, не раз дзявочага.

Цяжка жылося ў панурых няміраўскіх харомах Бутрымовай жонцы, краснай пані Мары, і яна павернікам дум сваіх і журбот учыніла маладога баярчыца Стаўру Рамашковіча. Раз у ноч маёвую красную паню Мару асабліва востры жаль разабраў на сваю беспрытульную долю, і яна, у садку стоячы, сукланіўшыся на плячо баярчыча Стаўры, горка заплакала. У гэты момант у садок увайшоў баярын Бутрым. Грозна ён кінуў вокам на жонку і на маладога баярчыца. Моўчкі спыніўся, ляснуў у далоні на стральцоў сваіх, калі на клік яго з'явіліся яны, — азваўся панура баярын:

— Сягоння ў нас будзе гучны банкет тут. Распаліце смалістыя лучніцы, устаўце сталы цісовыя, налійце мядоў і він заморскіх поўныя вёдры ды паклічце скрыпача майго.

Мігам служба ўставіла сталы і каля сталоў дубовыя лавы, абітыя мядзведзінымі скурамі, а для баярына і баярыні паставілі два глыбокія, на грэках прадзедамі здабытыя, абіваныя золатам крэслы. Смалістыя лучніцы ярка асвятлялі сад. Скрыпач са скрыпкай стаяў нагатове. Баярын падышоў да скрыпача, узяў з рук яго скрыпку, крануў рукой струну і сарваў, крануў другую — і сарваў. І гэтак да апошняй.

— Кепскія ў цябе, малойча, струны! — сказаў баярын. — А я хачу сягоння музыкі ёмкай, гучнай! Гэй, мае верныя стральцы-патужнікі, Станько, Гойніч і Рэзан, вазьміце во гэтага падсуседзіча майго, Рамашковіча, за белыя плечы і нарабіце да банкету струн! А ты, красна пані, жана мая, сядай побач са мной у залатое крэсла і, пакуль слугі мае зматаюць матэрыял на струны, на тую во белу яблыньку, будзеш піці са мной, спраўляючы трызну па гладкім баярчыцу.

Страшныя нават у Бутрымавай дружыне Станько, Гойніч і Рэзан, бліснуўшы толькі залітымі крывёй вачамі, прыняліся за крывавую справу: павалілі баярчыца на зямлю, распаролі жывот і пасля, водзячы каля яблыні — той самай яблыні, пад каторай паўгадзіны таму ён стаяў з краснай паняй Марай, — наматвалі на пень струны…

Не мінула і гадзіны, як струны былі прамыты, пакручаны, пасушаны на агнях і нацягнуты на скрыпку. Музыка зайграў вясёлую застольную песню, але песні той, ні голасу скрыпкі не чула красная пані Мара. Бледная, яна спакойна спала ў крэсле сном вечным, сэрца яе не вытрывала мужаўскага банкетнага пачастунку і разарвалася… Толькі баярын да ўсходу сонца з

дружынай трызнаваў над маладымі нябожчыкамі, слухаючы плач скрыпкі ды заліваючы сумленне віном.

Многа гэткіх і гэтаму падобных спраў меў на сумленні баярын Бутрым і не ўнімаўся ў ліхадзействе сваім.

Тым часам міналі гады за гадамі, і з імі надыходзіла адзінокая, панурая старасць. І от штораз часцей на баярына стала надыходзіць развага, а разам з ёй каянне і боязнь суду Божага. У гэткія моманты баярын Бутрым або даставаў з паліцы дзедаўскай рукой на пергаменце глаголіцкімі літарамі пісаны псалтыр і чытаў яго, праліваючы слёзы і адбіваючы паклоны, або ўцякаў з дому і ішоў на святыя месцы, шукаючы сабе развязкі грахоў пры спавядальніцы або хоць пакуты. Ды толькі ніводзін духоўнік, выслухаўшы крывавыя чыны жыцця яго, не важыцца даць яму адпушчэння грахоў. І многа вод працякло Дзвіной міма пясчанай баравой пустэльні, у каторай жыў святы старац Ахрэм, пакуль трапіў туды наш баярын.

Старац Ахрэм, выслухаўшы споведзь баярына, даў яму гэткую раду:

— Вялікія грахі твае, нявольніча Божы, але міласэрдзе Божае вялікае і мудры помыслы Яго. Вазьмі за ўсё сваё багац- це, — навучаў пустэльнік, — пабудуй святыню Богу. Няхай ад усёй маетнасці тваёй застанецца табе ўсяго гэтулькі грошай, колькі патрэба, каб зрабіць сасновую труну. І за тую рэшту зрабі сабе труну. А калі будуць высвячаць тваю святыню, пастаў сваю труну за алтарам і ляж у ёй. І ляжы ў труне да канца абраду святога, імшы Божай. Можа, Бог пашле табе злітаванне сваё, пашле табе ратунак.

І вот стаў распрадаваць баярын Бутрым маетнасці свае і скарбы свае. За несчыслёнае багацце пачаў будаваць святыню Богу. Пабудаваў і прыаздобіў багата за ўсе скарбы свае, а за апошнія медзякі зрабіў сабе сасновую труну.

У дзень высвячэння святыні лёг баярын у труну за алтарам і маліўся Богу. Пачалася набожная адправа. Праз мыслі баярына сталі працякаць жывымі абразамі ўсе яго крывавыя і слёзныя справы. І пачалі пераходзіць перад ім пакрыўджаныя ім людзі. І кожны станавіўся перад ім і горка выкідаў яму сваю крыўду. Але баярын біўся ў грудзі перад кожным і казаў:

— Божа, міласціў будзь мне, грэшнаму! А ты, пакрыўджаны мной браце, даруй мне!..

І адыходзілі доўгім радам крыўды ад яго супакоеныя. Ужо канчалася святая служба, і працэсія з усім народам выйшла крыжовым ходам кругом святыні.

І адступіліся ўсе пакрыўджаныя ад баярына. Стануў каля яго кругом цвітучы сад, і абняла яго маёвая ноч. І бачыць ён каля сябе яблыню, укрытую кветам, а пад яблыняй жану сваю Мару і Стаўру, баярчыца маладога. Ён — праменны, задумлёны — глядзіць у неба на зоры, а яна, сукланіўшы яму на плячо галоўку, роніць іскрыстыя слёзы… І забыўся баярын аб каянні сваім: каля сэрца зварухнуўся прыдушаны змей злосці. Хоць ударыўся баярын у грудзі і прамовіў:

— Божа, міласціў будзь мне, грэшнаму! — але не мог скарыцца перад імі і прасіць даравання. Зданне шчэзла. Баярын учуў набожныя спевы народу і духавенства за сценамі святыні, а праз момант ізноў бачыў сад і іх двое. І зноў ён ударыўся ў грудзі і маліў Бога і не мог скарыцца перад імі. І трэці раз перад вачамі душы яго станулі яны, і трэці раз ён не скарыўся.

У гэты момант застучэла, загручэла, расступілася зямля, і правалілася ў скрозьдонне святыня. Застаўся толькі народ, ды на тым месцы, дзе быў алтар, цяпер ляжала каменная труна. Гэта была тая самая труна, у каторую лёг баярын, ды толькі яна цяпер абярнулася ў камень.

І дагэтуль на шчыце горкі ляжыць тая каменная труна, а ў ёй скамянеўшы баярын Бутрым Няміра, асуджаны да суднага дня ляжаць за тое, што моманту чыстага парыву не мог дараваць жонцы сваёй перад судом Божым.

*[1917]*

## ЗЛЫЯ ВОЧЫ

*Апавяданне нярвовага чалавека*

Трудна даць веры, але я саўсім ясна памятаю дзень сваіх нарадзін і першыя дні жыцця майго. Уразіўся мне ў памяць мой тупы слух, да каторага даходзілі толькі сільныя гукі нейкай збітай бязладнай грамадай, і мой зрок, каторы ўяўляў усё акружаючае мяне на адной плоскасці. Дом, што стаяў на другой старане вуліцы, акно, праз каторае відаць было яго, рэчы і людзі, акружаўшыя мяне, усё гэта здавалася мне быць на адной ад мяне адлегласці. Многа трэба было перажыць дзён, пакуль я навучыўся адрозніваць, што блізка і што далёка. Але найболей уразілася ў мозг і нервы мае тое ўражанне, якое я атрымаў, першы раз адкрыўшы свае вочы на свет Божы: у хаосе натоўпу ўсякіх форм — у шэрай далі заўважыў я, быццам кружылася нешта,

чаго я не ўмеў назваць, але што ўсе мае нервы напоўніла бязмерным, з нічым не могучым зраўняцца страхам, і я пачаў жаласна плакаць…

Маці мая была непамерна слабая, разбітая жыццём кабета. Каб выдаць мяне на свет, яе слабы арганізм вытужыў немаль усе свае сілы, дзеля гэтага грудзі яе бывалі пустыя, і я знемагаў, смокчучы іх, і ў канцы абое горка плакалі: я з голаду, а маці мая — літуючыся нада мной і, мабыць, над сабой.

На сёмы дзень майго жыцця разбудзіўся я, як зазвычай, з голаду і пачаў плакаць. Маці гэтыя дні была яшчэ слабейшай, чым перш, і ў яе ў грудзях было яшчэ меней корму. Усё ж такі яна пахілілася нада мной, і я першы раз заўважыў яе налітыя любоўю добрыя вочы. Я змоўк, зрабілася мне неяк цёпла і радасна, і, мабыць, павітаў яе дзяцiннай усмешкай, бо і яе вочы смяяліся да мяне. Маці пахілілася нада мной, каб узяць на рукі, але, відаць, не здужала падняць мяне, бо я ўпаў на пасцельку. Ізноў спроба падняць, і ізноў я ўдарыўся аб нешта цвёрдае і пачаў плакаць. У канцы я такі апынуўся на руках і сквапна прыпаў да грудзей. Доўга смактаў я пустыя грудзі, змогшыся, кідаў смактаць, плакаў і ізноў прымаўся за трудную працу. Маці абсыпала мяне пацалункамі, і на мой тварок і рукі сыпаліся буйныя, гарачыя слёзы. У канцы праца мая дала рэзультаты: я пачуў на языку нейкі гарачы плаў і сквапна глытаў яго. Праўда, плаў гэны меў прыкры, горка-салёны смак, каторы мне пёк у горле, але я ўцішаў ім свой голад.

Раптам маці мая неяк скаланулася і разам са мной звалілася на падлогу. Хоць я не крэпка ўдарыўся, але першым маім одрухам быў звычайны голасны плач.

Памятаю — я вельмі доўга і горка плакаў, ды, бачучы, што ніхто не звяртае на мяне ўвагі, пачаў каля сябе азірацца, і першае, што заўважыў, была кроў. Чырвонай крывёй былі запэцканы мае рукі і тварок, а такжа кашуля і грудзі маёй маці. Сама яна ляжала побач мяне на зямлі такая белая-белая, а за ёй, у прасторы, кружылася нешта тое страшнае, бачанае мною ў першы дзень майго жыцця. І ізноў мяне агарнуў смяротны страх, і я пачаў з усёй моцы сваёй крычаць. Тады гэтае нешта, невядомае, шэрае, пачало збліжацца да мяне. І я пачуў, як у маіх жылах ледзянела кроў і як торгалася ў грудзях сэрца. А шэрая маса станула пры мне і пачала нахінацца нада мной, і тады я ўгледзеў і запамятаў на ўсё сваё жыццё двое сталёва-шэрых худых вачэй. Не ведаю,. што са мной сталася б, каб у гэты момант не прыйшлі людзі,

каторыя паднялі, накармілі і супакоілі мяне і ўлажылі ў пасцель маю маці.

Пасля гэтага я заўсёды пачынаў з усёй моцы крычаць, калі ўспаміналіся мне гэных двое вачэй. Часам, бывала, разбуджуся я сярод ночы, і мне ўспомняцца тыя злыя вочы, і я са страхам пачынаю кідацца па пасцелі, як непрытомны. Маці запаліць святло, паўстаюць усе ў хаце, а я крычу і не даюся ўзяць на рукі, бо мне страшна, страшна. І толькі абяссіліўшы ад плачу, я засыпаў і забываўся аб мучыўшым мяне страху.

Калі падрос і пачаў разумець сэнс апавяданых мне казак, то ўсіх страшных казачных асоб: і Ягу Бабу з касцяной нагой, і дзеваснобаў, перакінутых у ваўкалакаў, і сямігаловага змея я заўсёды ўяўляў сабе з шэрымі тымі страшэннымі вачамі і, кладучыся спаць, хаваў сваю галаву пад падушку.

Калі я вырас, то таксама баяўся тых страшных вачэй. Мне здавалася заўсёды, што я іх недзе павінен сустрэціць, і тады ў жыцці маім наступіць нейкі круты і страшны паварот. На людных сабраннях, на балях і ў таўпе на вуліцы я зазіраў усім у вочы і з трэпетам у душы чакаў, што — во, во — убачу іх і стану на краю нейкай пропасці, на парозе нечакага страшнага, невядомага. Гэта самае дзеялася са мной, калі я пераглядаў галерыі абразоў і ілюстраваныя кніжкі. Я набіраў з розных бібліятэк цэлыя груды і, перагортваючы, з затаеным у душы страхам шукаў тых вачэй, але дарэмна.

Раз, праходзячы таўкучым рынкам, убачыў я на дзвярах аднэй ліхой крамы невялічкі, маляваны на палатне партрэт маладой кабеты. Адзета яна была ў блакітны атласовы халат і апаясана тоўстым шаўковым шнуром з блакітнымі кутасамі. За шнурком, з левай стараны, была заткнута краска чырвонага гваздзіка. Я заўсёды лічыў нацыянальнай беларускай краскай чырвоныя гваздзікі і дзеля гэтага купіў той партрэт. Калі, прыйшоўшы дамоў, я павесіў на сцяне партрэт і ўгледзіўся ў твар незнаёмай красуні, то замёр ад страху: з румянага, маладога тварыка, акружанага характэрнымі лочкамі часоў Напалеона І, на мяне глядзела пара злых шэрых вачэй. Тых самых шэрых вачэй, каторых я шукаў і баяўся.

І я сарваў са сцяны партрэт, абліў бензінай і, падпаліўшы, кінуў у печ.

Была тады восьмая гадзіна вечара.

А назаўтрае раніцай, а 11-й гадзіне, мне падалі тэлеграму, што маці мая ўчора а гадзіне 8-й аддала Богу душу сваю…

Ажаніўшыся, я прызабыў крыху трапіўшыя мяне злыя вочы, бо найболей зазіраў у вочы сваёй каханай жонкі. На трэці год пажыцця Бог надзяліў нас сынам, і мы лепшыя дні нашага жыцця праводзілі каля яго калысачкі. Было яму ўжо 8 месяцаў, як захварэў ён на брушны тыфус. Мы з жонкай з затаёным духам у грудзях па чародзе сядзелі дзень і ноч над калыскай, углядаючыся, як ён змагаўся са смерцю. У крытычную ноч крызісу хваробы я сядзеў пры калысцы. Бяссонныя ночы, напятыя даўжэйшы час нервы разам злажыліся на тое, што я задрамаў, седзячы. Збудзіў мяне нейкі ільдзіста-сцюдзёны веў і шэлест. Я расплюшчыў вочы і ўбачыў, як ад калыскі майго дзіцяці адходзіць нейкая ў чорна адзетая, стройная, высокая кабета. Дайшоўшы да дзвярэй, яна аглянулася праз плячо на мяне, і я пазнаў яе…То была тая самая маладая асоба са спаленага мной партрэта. Я ўскочыў на роўныя ногі і кінуўся да дзвярэй, а пасля ў цёмны пакой, куды яна пайшла, але нідзе не знайшоў нікога. Вярнуўся я назад і, кіраваны благім прачуццём, кінуўся да калыскі, але дзіцё ў ёй спала крэпкім сном, пасля доўгіх дзён, першы раз, роўна аддыхаючы.

Назаўтрае крызіс хваробы мінуў, і дзіця хутка пачало папраўляцца.

Ад гэтага часу кожную маю няўдачу, кожнае маё няшчасце папераджаў сон, у якім я ў той ці іншай камбінацыі бачыў гэныя злыя вочы і, што дзіўнейшае, на другі дзень, зазвычай, я бачыў у сваіх уласных вачах характэрныя злыя блескі, і страшна рабілася мне сябе самога. Але над усё горшае тая пэўнасць, што раней-пазней я павінен сустрэціць у сваім жыцці жывога чалавека з гэткімі вачамі і што мне трэба будзе з ім разам жыць. Яшчэ болей: я знаю ўжо гэтага чалавека, сустрачаўся і гавару з ім, але баюся глянуць у яго вочы. Я яшчэ не бачыў іх і пакуль не бачыў іх — ён не мае нада мной сілу, але з таго моманту, калі я гляну яму ў вочы, — я прапаў…

Я некалькі гадоў уцякаў ад яго ў далёкія гарады, і заўсёды ён за мной трапляў туды ж, знаходзіў і сардэчна вітаў мяне, пакуль я ў канцы не страціў надзеі пазбыцца яго.

Не верце мне. Я лгу вам, кажучы: «ён», «яго», бо подлы страх не пазваляе сказаць мне , што гэта «яна», яна, тая са спаленага мной партрэта. Штовечар яна сядзіць пры мне з чырвоным гваздзіком у руках і кажа мне аб сваім каханні, і ў голасе яе чуваць слёзы. Яна плача, што я ўнікаю яе, і называе мяне песцівымі імёнамі, а я дрыжу са страху, хаваю вочы свае, і перада мной жывой уявай стаіць дзень маіх народзін: і бачу кроў на грудзях сваёй маці і кроў у горле сваім і, груба адпіхаючы яе ад сябе,

уцякаю, ведаючы, што яна ізноў прыйдзе і будзе называць мяне песцівымі імёнамі, будзе карыцца перада мной і плакаць!..

Божа, пашлі мне моц і сілу!

*[1917]*

## ПАНШЧЫНА

*Крыху разрозненых выпісак з мінуўшых дзён — замест звычайнай каляднай аповесці*

### I. Заместа прадмовы

Гісторыя — гэта такая пані, каторая любіць праўду сказаць кожнаму ў вочы, не зважаючы ні на стан, ні на становішча зацікавіўшай яе асобы. Мала што горкае слова выкіне ў вочы, але яшчэ не раз і запіша, а ўжо ж ведама і з прыказкі — што напісана пяром — не высечаш тапаром. Запісанае пяром перажывае вякі і торкае праўдай, як пальцам у вочы, маўляў, бач, глядзі, як было на свеце ў даўныя часы, павучайся і ведай праўду…

Жыў раз на свеце літаратар і, як звычайна ў гэтай хвалебнай прафесіі бывае, адзіноту сваю дзяліў з голадам, холадам і ўсялякімі бедамі. І жыў у тыя часы на свеце рэдактар гойны, каторы дастаў заказ на артыкул у сваю газету, у якім трэба выхваляць і праслаўляць бліскучае панства, яго карыснае значэнне ў гісторыі нашага краю, яго справядлівасць да «мужыцтва» і няўдзячнасць гэтага апошняга. Рэдактар той уступіў напісаць заказаны артыкул вось гэтаму знаёмаму літаратару, абяцаўся заплаціць нават грош за друкаваны радок, калі артыкул будзе напісаны з моцай і пераконваюча. Ведама, голад не цётка, а «лёгкай» працай зарабіць і грош добра. Літаратар хапіўся за пададзеную яму тэму як топленік за шчэпку або як перакупшчык старой вопраткі за не зусім яшчэ зношаную, нявартую названня часць мужчынскага адзення, — і на другі дзень ужо сядзеў у вялікай кніжні і перабіраў груды старых кніг, шукаючы гістарычнага матэрыялу да вышэйсказанага артыкула.

## ІІ. Што казалі літаратару навочныя сведкі

Кніжня была багатая, і ў ёй было многа добрых кніжак. Найперш літаратар узяў у рукі тоўстыя тамы «Volumina le-gum»[1], у каторых былі перадрукаваны ўсе пастановы панства і шляхты за 200 з чымсь гадоў. Развярнуў першы том на страніцы 502, 503 і знайшоў там запісаную канстытуцыю, ухваленую на сейме і зацверджаную шляхтай, духавенствам і каралём у 1532 гаду, аб тым, каб падданых сялян, якія збягуць ад сваіх паноў, пашуківаць да другога пакалення.

— Не, гэтага мне не трэба, — сказаў сабе літаратар і перавярнуў некалькі страніц назад. Угары на старонцы стаяла лічба 501, і тут шляхта вольнага народа ўстанаўляла права, якое давала волю панам караць на целе сваіх падданых за малой вагі правіны.

Літаратар перакінуў ізноў карціну назад. На 502 страніцы ўпісана пастанова аб тым, што пан мае права смерцю караць падданага, паважыўшагася ўдарыць шляхціца.

Цэлую горсць страніцы перакінуў літаратар уперад і пад годам 1543 на 575 страніцы знайшоў умацаванае шляхецкім сеймам права аб тым, што непаслушных і спраціўляючыхся гранічным камісарам сялян трэба караць смерцю…

Моцна панерваваны няўдачай, літаратар адкінуў першы том «Volumina legum» і ўзяў другі том. Разгарнуўшы кнігу, трапіў на 606 страніцу, дзе было ўпісана права аб тым, што за мужыцкую галаву, калі б яе нехта даходзіў як шляхецкай, галоўшчына не мае быць зусім плачана.

— Гэта даўныя, цёмныя і дзікія часы, — сказаў сабе літаратар. Пашукаў у галаве яснейшай даты з мінуўшчыны і спыніўся на 1569 годзе — на даце, калі шляхта трох народаў: польскага, беларускага і літоўскага — на з’ездзе ў Любліне запрысягла сабе еднасць і ўзаемную дапамогу.

«Такі момант, калі тры народы падаюць сабе рукі, — думаў літаратар, — калі душы іх напаўняюцца братэрскай міласцю і пачуццём справядлівасці, павінен парушыць любоў і да народа простага і неўмеетнага…»

І, думаючы так, перакідаў карты грубога тома «Vol. leg.». Пад годам 1573, на страніцы 842, упісана права, ухваленае чысленым, стотысячным сеймам варшаўскім. Літаратар чытаў там аб прысязе, зложанай шляхтай усіх трох народаў сабе наўзаем на вечнае братэрства. Запрысягнуўшы шляхціц шляхціцу вечнае братэрства, без розніцы веры, прыступілі яны да нарады над

доляй сваіх братоў-сялян. Над справай сялян- скай шляхта не доўга працавала: аднагалосна стотысячны сейм пастанавіў сялян абдараваць вечнай, патомнай, з бацькі на сына… няволяй!

Літаратар адкінуў і другі том праў талеранцыйнай і волялюбнай рэспублікі і ўзяў з паліцы том заслужанага гісторыка Герберштэйна[2] — знайшоў аповесць аб грамадзянскім ладзе ў Беларусі і Літве ў XVI сталецці. Веры годны навочны сведка апавядаў аб тым, як дворня абдзірала народ ганебна а неміласэрна; як сяляне апроч чынша, плочанага ў двор, і даніны працавалі 6 дзён у тыдні на пана, а сёмы — на сябе; як засуджаныя сваім панам на смерць сяляне павінны былі пад прымусам самі сабе распарваць нажом жываты… Адкінуўшы Герберштэйна, літаратар знайшоў тое самае апісанне і ў Стрыйкоўскага[3]…

Чацкі[4] (т. I, стар. 25) апавядае, як за караля Зыгмунта выдана было права, каторае выдзедзічала сялян з зямлі назаўсёды і перадавала зямлю сялянскую іх панам. Любамірскі[5] (Rol. Lud. str. 14 і 15) апавядае, як была ўстаноўлена забарона карыстацца сялянам з лясоў, з палявання ў лясах, рыбалоўства, бортніцтва і інш. Гэты ж аўтар на страніцах 16–19 апавядае далей, як было адабрана права сялянам распараджацца сваёй рухомасцю: без пазвалення панскага права забараняла селяніну прадаць або дараваць каму рухомую сваю рэч.

Слаўны Андрэй Фрыч Маджэўскі[6] паўстае проці забівання бяскарна сялян, «як сабак», і вымагае, каб было ўстаноўлена якое караючае права за забойства селяніна шляхціцам.

Пётр Скарга[7] кліча: «О, зямелька, як жа ты багата крыві напілася, ажно ад яе пачырванела! Як жа з цябе многа галасоў Аўлевых вылятае, наклікаючы помсту! Сяляне ў панскай няволі, і пан можа селяніна абдзерці і забіць, нічым перад ніякім урадам не адказываючы».

І доўга-доўга шукаў літаратар патрэбнага яму матэрыялу ў гісторыкаў і навочных сведкаў і … не знаходзіў.

### III. Жаласны канец вясёлага пачатку

Мінаў дзень за днём, у тым жа чародзе ішлі і ночы, а ў газеце заказанага артыкула аб дабрадзействах шляхты для селяніна не было і не было. Затое ў літаратара ў тэцы назбіралася нямала выпісак, абвінавачваючых панаваўшы стан.

І от раз недагадліваму таму літаратару ўздумалася перадрукаваць свае выпіскі. Знаёмы друкар, па знаёмасці палічыўшы ўдвая за работу, надрукаваў кніжку. Добры прыяцель кнігар,

адтаргаваўшы сабе 80 % уступкі, прыняў кніжку на продаж і, каб не адбіваць сабе пакупцоў, схаваў яе ў склад. А літаратар? Літаратар страціў назаўсёды заказы ў рэдакцыях і Каляды сустрачаў… Ды што там! Няхай сустрачае, як сам ведае. Недарма ж кажа прыказка: «Як пасцелешся, так і выспішся». Гадоў няма чаго жалець!..

*[1919]*

## МІКАЛАЙ ГАЛУБОВІЧ

### *Некалькі слоў аб паходжанні герба і пратапластах[1] фаміліі пана Мікалая Галубовіча герба Расходнік*

Герб Расходнік стаўся родавым знаменем фаміліі Галубовічаў, можна сказаць, з няпомных часоў. Сведкай бясспрэчнай прыналежнасці гэтага герба Галубовічам можа быць пячатка, каторая ў іх родзе пераходзіць з бацькі да сына. Скептыкі маглі бы зрабіць закід, кажучы, што пячатка сама па сабе нічога не гаворыць у карысць гербоўнасці фаміліі Галубовічаў, што акром пячаткі патрэбны яшчэ дакументы, сцвярджаючыя прыналежнасць герба і права ўжывання яго; маглі бы, агледзеўшы пячатку, выказаць сумніў, што да прыпісаванай ёй старасвецкасці, і шмат чаго іншага маглі бы сказаць скептыкі, але пячатка служыць, дзякаваць Богу, не якімсьці там недавяркам, а Галубовічам. Галубовічы ж, не раз'едзеныя чэрвем скептыцызму, самі ведаюць цану і месца свайму родаваму кляйноту, гісторыя каторага ўгрунтавана на цвёрдых падвалінах родавых кронік.

Вусная родавая кроніка адносіць паходжанне пячаткі да часоў князя Бая, які ёю меўся ашчасліваць пратапласту роду Галубовічаў. Але калі прыходзілася начыстату гаварыць, то выяснялася, што пэўныя, вусныя, кронікі Галубовічаў не сягаюць у цемру мінуўшчыны далей трэцяга пакалення.

Па-за гэтым рубам пачыналіся ўжо легендарныя часы.

Дык і мы, веручы статыстычнасці нашага гербоўнага роду, прымем за пэўнае, што як сама пячатка, так і нададзены ёю Галубовічам герб паходжаннем сваім сягаюць легендарных часоў.

Аб пачатку роду і яго гісторыі родавыя кронікі паміж сабой не згаджаюцца: адны выводзяць род Галубовічаў ад варагаў, другія ад рымлян, трэція, больш скромныя, ад старадаўніх крывічанскіх князёў.

Цётка ж Юстуся (з дому Галубовіч) заўсёды цвердзіла, што ўсе гербоўныя роды паходзяць ад Адама, а толькі мужыцкія ад Хама.

Дзеля таго ж, што цётка Юстуся вочавідкі перакручвала біблійную генеалогію, трэба лічыць, што і яе версія не пэўная. Бо кожны, не мужык і не шляхціц, бесстаронна прызна- юць, што і Хам таксама паходзіў ад Адама, будучы яго патомкам.

Хоць у родзе Галубовічаў ні ваяводскіх, ні сенатарскіх парсун не бывала, але род гэты не менш быў слаўны у сваёй ваколіцы, як якісь там іншы ў краю. І гэта зразумелым будзе, калі прымецца пад увагу, што прадзед Трахім, здарова з намі бытуючых Галубовічаў, быў кавалём і разам з гэтым зубным лекарам. І цяпер дзядзька Пранук, успамінаючы, з немалым патасам апавядае ўдатную аперацыю, якую нябожчык Галубовіч прарабіў з ім.

«Пракудны чалавек, — апавядае дзядзька Пранук, — быў нябожчык Трахім, сяці Божухна душачцы яго. Калі, бывала, прыходзіў хто да яго ў кузню з балючым зубам, ён зазвычай даваў палажыць на зуб купарвасу, а як не памагала гэта — навязваў на зуб струну, прадзяваў канец праз шчыліну ў дзвярах кузні і, прыцягнуўшы хворага ўшчыць да дошкі, скажа: «Пастаі там гэтак, ваша», — а пасля, знячэўку, пырхане дабела распаленым жыгалам, уровень вачэй, праз дзверную дошку.

Затрашчыць, засквярэцца дошка. Бухане едкі сівы дым у вочы, і з перапуду тарганецца чалавек, а тут табе зуба як і не бывала… Дык во быў доктар на зубы!» — тонам найвышэйшай пахвалы заканчваў сваё апавяданне аб нябожчыку Трахіму Галубовічу дзядзька Пранук.

Але на адным дзядзьку Пранку не канчаўся почат жывых сведкаў чынаў і мыслей нябожчыка Трахіма.

Цётка Югася гэтаксама любіла апавядаць, як нябожчык Трахім лячыў яе ад трасцы.

— Было гэта летам, — кажа цётка Югася, — прыходжу да яго я ў кузню і кажу — так і так: сэрца томіць, косці ломіць…

— А чым лечышся? — пытае.

— Замаўляла, — кажу я, — крапівай у лазні парылася, дзевасіл піла…

— Дрэнь усё гэта…

Скінуў скураны фартух і кажа:

— Хадзі за мной.

Іду, ажно прыводзіць ён мяне у свой садок. Яблынькі, агрэснік, пчолы ў лежнях гудуць, камары таўкуцца… Углядаюся… А ён:

— Раздзявайся, — кажа.

Я яшчэ маладуха была тады. Ведама ж, у моладасці ды ў нашым жаночым стане — сорамна, дык перамінаюся.

А ён як не закрычыць:

— Што я, забаўляцца з табой прыйшоў, га? Раздзявайся!

Прымусіў скінуць усё да сарочкі.

— А цяпер, — кажа, паказваючы на агрэснік, — качайся.

Я пачала нешта гаварыць.

— А, то ты гэтак хвора. — Ды як не пiхне мяне на агрэставы куст, як не качане ды не крутане раз сюды, раз туды. Дык я ўся як брусніца чырвоная стала. Крычу… А ён — дай яму Божухна супакой вечны — кажа мне:

— Уставай ды барзджэй дзьмухані ў лежань з пчоламі, а то ізноў па кусце качаць цябе буду.

Мне ўжо задача гэта нецяжкой здалася. Падышла я да лежня, дзьмуханула… Зазвінелі Божыя пчоланькі. Я яшчэ раз… Божухна, бацюхна! што апасля сталася! Увесь рой пчаліны як не высыпле на мяне. Я ўцякаць, а яны — у плечы, у грудзі, у твар… Я сюды, я туды, а ўцячы некуды: садок частаколам абгароджаны, вароцейкі на запоры… Я ўжо і ў агрэснік хавалася і калючак яго не чула… Бегала-бегала дый самлела. Тады ён мяне вынес адтуль, вадой папырскаў у твар, гарэлкі чарку ўліў у губу. Ачуняла я…

— Ну, ідзі цяпер, — кажа, — дамоў, як рыба здарова будзеш.

І што вы скажаце: як рукой усю хваробу зняло.

Трахім Галубовіч з усіх мер быў чалавекам выдатным, і, што рэдка між людзьмі бывае, ён, акуратна перадумаўшы людское жыццё, знайшоў на ўсе трудныя жыццёвыя пытанні ясныя і здаровыя адпаведзі. Свой духовы дабытак ён не скрыў пад кораб, але ў навуку другім ахвотна дзяліўся ім. Асноўным прынцыпам яго было: што «хлеб не ходзіць за брухам, але бруха за хлебам» і што «яда ляжыць заўсёды ніжэй губы».

З гэткага акуратнага разумення жыцця выцякала не менш правільнае яго паступанне.

Трудзіўся ён ад рання да ночы, не шкадуючы на працу сваіх турбот і поту, дык меў не толькі на бягучы дзень кавалак хлеба, але і дзе што спароміў[2] на чорную гадзіну.

— Крутнёй свет пяройдзеш, ды назад не вернешся, — гаварыў Трахім Галубовіч…

У мысль гэтага паступанне яго з людзьмі было на здзіў сумленнае; а што: «шапкай, папкай і соллю людзі людзей няволяць» — абходжанне яго з людзьмі было ветлае, уважлівае.

Не хварэўшы ні разу ў жыцці, памёр Трахім Галубовіч на 86 гаду жыцця стоячы. Калі пачуў хваробу, ён не лажыўся, хадзіў,

спадзеючыся перамагчы слабасць, і калі ноччу надобра ўжо сціснула яго, хацеў разбудзіць нявестку: падышоў да ложка яе, абапёрся аб балясу, працягнуў руку, каб, відаць, пабудзіць, дый так застыг. Раніцой знайшлі яго стаячым каля ложка, але ўжо нежывога. Памылі, прыбралі, ухаўтурылі.

Пасля Трахіма асталося двох сыноў: Пётра і Сымон. Старшага Пётру нябожчык Трахім адукаваў на здатнага цесля. Некалькі дворных палацаў і царквей, выйшаўшых з рук Пётры, дагэтуль аздабляюць крывічанскую зямлю. Цесля ён быў здатны, але, ходзячы па свеце, не захаваў у цэласці бацькаўскіх навук. Затое набыў сваё, адменнае разуменне людзей і жыцця. Ён казаў: «Людзі верацъ не рабоце, а словам» ды пацверджаў гэта прыказкай, што хвалёная каша і без масла смачна. Людзі аб ім казалі, што ён — быў — іншы зверху, чым усярэдзіне.

Малодшага, Сымона, як слабейшага здароўем, нябожчык Трахім прыстроіў да доктара ў вучні. Прапрактыкаваўшы, абычаем таго часу, пры лазарэцэ ў доктара 15 гадоў, ён атрымаў пасведчанне ў знанні доктарскага рамясла. Пасля стаўся дамовым лекарам у двары мясцовых магнатаў.

У часе напалеонскай руіны эміграваў з краю і разам са сваім патронам падарожнічаў па свеце: знаў добра Парыж, Рым, Лондан. Надакучыўшы ўрэшце бадзяннем па свеце, вярнуўся на бацькаўшчыну. За сабраныя грошы купіў леснічоўку, дзесяцін пяць зямлі на адзіноце, і там асеў настала. З усіх сваіх падарожаў па свеце і высокіх калегцый[3] вынес філасафічную формулу, якую кожнаму рад цвердзіў, што свет — гной, а людзі — свінні.

Браты, не атрымаўшы па бацьку спадку , не мелі чаго дзяліць, і дзеля гэтага не было ім аб што сварыцца, але не было ў іх і лішняй блізасці. Пётра быў гаварлівы, а Сымон, наадварот, маўклівы. Малодшы брат адносіўся да Пётры з пашанай, як да старшага, старшы да малодшага з яшчэ большай пашанай, як да чалавека бывалага і адукаванага. Жылі браты здалёк ад сябе і праз гэта рэдка сабе дакучалі гасцінай. Звязвала іх між сабой памяць аб бацьку, каторага глыбока абодва браты шанавалі.

Трэба адзначыць, што Сымон, вярнуўшыся з падарожы, неахвотна браўся за сваё доктарскае рамясло, кажучы, што «найлепшы доктар — сам Бог, а самае скутэчнае лякарства — хлеб з маслам». Але ўсё ж такі для свайго родавага зелля — расходніку — рабіў вынятак. Расходніку ён прыпісваў розныя цудоўныя ўласнасці. Ён казаў: «Ад расходніку, як і сама яго назова паказвае, расходзіцца ўсялякае недамаганне. А найперш — навар сабранага ў маі і ў засені засушанага расходніку памагае ад цягаты на сэрцы».

— Найболей людзей, — гаварыў Сымон Галубовіч, — хворых сэрцам, душой… З сэрца ідуць усе хваробы. Дайце хвораму чалавеку здаровае сэрца, і ён, як Лазар, ачуняе.

Калецтва і пошасць Сымон не называў хваробамі: першае няшчасце, другое — напасць; хвор чалавек, калі ў яго душа ные…

І дзеля гэтага лекарскі экзамен пачынаў Галубовіч, прымерам, так:

— Тошна вашэці? Як даўно сэрца ные?

Калі гэтым шляхам не дабіваўся, чаго ждаў, то пачынаў з другой бочкі: ці жывы бацька, маці, ці ўсе здаровы, ці памысна ў сямейцы, як ручыць гаспадарка?

І бяседа яго з хворым прыпамінала споведзь з усяго жыцця.

Не раз Сымон мяшаў сваю слязу са слязой хворага. А канчалася ўсё тым, што даваў жменьку расходніку, заляцаючы яго піць не спяшаючыся, у цішы-супакою ды на адзіноце. І Галубовічаў расходнік славіўся вельмі далёка, і дзівіліся людзі, што памочан ён на ўсялякія недамаганні.

Брат Пётра быў высокага суда аб доктарскіх здольнас- цях свайго брата, чаго не скрываў перад людзьмі, а асабліва ў цёплай, дружнай кампаніі, калі поўная чара кружала па стале. Ён тады, хітра падмігаючы, зазвычай, забіраў голас аб сваім браце. Кажучы аб расходніку, намякаў, што ўплывае не сама па сабе зёлка і не братняе ўменне лячыць, а што галоўная заслуга лякарства выцякае з іх родавага кляйноту. Якая містычная звязь існавала паміж зёлкай і гербам Расходнік, ён такі і сам, наперакор свайму глыбокаму пераконанню, не ўмеў высказаць.

Абычаем славаахвотлівых людзей ён лёгка пераходзіў з тэмы на тэму і ад пахвал свайму брату нязначна перакідаўся да гутаркі аб самім сабе. Спыніўшыся на гэтай тэме, Пётра выварачваўся нутром наверх, фантазія яго разгаралася, словы набіралі яркай барвістасці і сказы востра зарысаваных абрысаў. Такая гутарка заваражвае слухачоў, зварушае ў іх найглыбей затаёнае і пацягае да інтымнай шчырасці.

Духовую структуру Пётры добра адтваралі яго будынкі: проста, нават рэзка ў агульным рысунку зазначаныя, яны ўражалі размахам і сілай мастацкай кампазіцыі, а ў загібах і канчынах — нечаканымі, поўнымі стройнасці і містыкі дробнымі аздобамі. Яго будынкі — гэта былі наскрозь мастацкія, наскрозь прасякнутыя багатай індывідуальнасцю творы, на жаль, не меўшыя і не маючыя яшчэ дагэтуль сваіх цаніцеляў.

Пётра перабіваўся, як кажуць, з дня на дзень: яго жыццё было няўпыннай барацьбой з горам, каторае ні на момант не

пераставала яго гнясці. Перад людзьмі Пётра апраўдаўся са сваёй беднасці тым, што пад печчу ў яго завяліся злыдні. Але чым крапчэй ціснула Пётра бядота з гаротай, тым ярчэй працавала яго фантазія. У цяжкіх варунках жыцця ўмысловая творчасць была для яго адзінай патоляй.

Прычына няўдачніцтва Пётры крылася ў тым, што ён не цаніў малой абыдзеннай работы, не прыкладаў да яе свайго розуму і сэрца — збываў яе абы-як і абы-чым. На вялікіх жа работах мала або і саўсім нічога не зарабляў, бо клаў залішне многа працы на мастацкую старану работы, за якую яму нічога не плацілі.

«Пётра — чалавек з хворым сэрцам», — сказаў бы яго брат.

І сапраўды, сэрца ён меў хворае: яму хацелася пабудаваць такую царкву, — каб усе свае думы-летуценні пераліць у яе. Царкву гэну ён выкалыхаў у сваёй душы аграмаднай, з шатрападобнымі стрэхамі і застрэшкамі, з прыбудоўкамі і надбудоўкамі. Калі ў размовах хваліў датыхчасовыя свае будоўлі, то Пётра сам перад сабой крывадушыў: ён цаніў толькі тую царкву, якую насіў у сваіх грудзях, у думах. Пабудаванае, выкінутае ўжо з галавы, мала яго цікавіла.

Аднак пабудаваць задуманую царкву не ўдалося Галубовічу: смерць заскочыла яго знячэўку і патушыла гарэўшы ў яго душы чароўны агонь.

Дзеці Пётры закінулі бацькаўскі талент, лічучы яго непаплатным, і прыспасобіліся да іншай, больш усціжнай працы.

Сымон Галубовіч, здакучыўшы адзінотай, на шостым дзесятку лет сваіх ажаніўся, узяўшы за сабе маладую, 20 гадоў, Югасю Дземідзянку. Жылі яны даладна і згодліва, проста на здзіў людзям, але дзяцей у іх не было.

Сымону ж, як на грэх, хацелася мець патомства.

Пробавалі лекаў, хадзілі пехатой на одпусты — не памагала. І ўжо немаль быў паміры́ўся Сымон са сваёй бяздзетнасцю, як ні з таго ні з гэтага, на дзесятым гаду сужэнства жонка яму апавесціла радасную навіну, што яна «пры надзеі».

*[1922]*

## СТАРАСЕЛЬСКІ МАГІЛЬНІК

Пахоны бераг Дзісенкі здалёк жаўцее пясочкам, а па жоўтым пясочку параскіданы капцы-валатоўкі. Бывала, каваль Даніла кліча нас: «Пойдзем у выкапкі, дзецюкі!» Называў нас, блазноту, «дзецюкамі», каб заахвоціць, але гэта было лішнім. Мы ўсе як адзін і ўдзень і ўночы гатовы былі ляцець «у выкапкі». Бо і страшна, і цікаўна там!

Кавалю Даніле патрэбен мосяж да зварвання лемяшоў, і гэты мосяж шукаў ён з намі на валатоўках, калі вецер знасіў пясок і адкрываліся масяжовыя абручы, кольцы і пражкі, пярсцёнкі і ўсякае іншае рухмаццё пахаваных тут у прокавець волатаў. Гэта і былі «выкапкі». Мы, дзеці, сабе на забаву гэных прыгожых рэчаў не бралі, баяліся, каб мярсцень-волат не прыйшоў па іх. А волаты-мярсні папраўдзе прыходзілі да тых, хто на выкапках, спакусіўшыся прыгожасцю якой рэчы, затаіў сабе яе. Жывы прыклад гэтаму быў Сымон нямы. Хлапец захаваў сабе масяжовы абручок з галоўкамі змеяў. Вярнуўся дамоў і схаваў пад стрыжанямі на печы. Сумленне ў хлапца было неспакойнае, кідаўся ў сне. Відаць, нешта мярэсцілася яму. Таго ж дня, позна ўночы, вярнуўся бацька з Лужок, з кірмашу, дзе купіў Адэльцы новы куфар, маляваны ў сінія, чырвоныя і белыя кветкі. Кірмашане, вярнуўшыся, загаманілі, затопалі ў хаце. Раскатурхаўся Сымонка і за сваёй патрэбай злез з печы, адчыніў дзверы ў сені. І хто яго ведае, што такое яму здалося, але толькі крыкнуў нямым голасам і самлеў на парозе. Можа, скрыні спужаўся, а можа, і волат здаўся. Калі ачуняў, мову яму атабрала і слух залажыла, навекі нямым астаўся. Ведалі гэта ўсе мы, дзеці і бацькі нашы. Ведаў гэта і Даніла, а таму заўсёды перасцерагаў нас: «Дзеткі, не бярыце з сабой гэтых цацак! Забаўляцца імі не можна, іх бралі з сабой у магілу волаты, нашы прапрашчуры, жоўтыя костачкі якіх тут збуцвелі даўно ў пясочку, таму і пясочак гэты такі жоўценькі!» І сапраўды пясочак у гэтым месцы быў жаўцейшы нечым дзе ў другім месцы, прыкладам, каля возера. Знаходзілі мы тут грудкі пяску саўсім чырвонага, а часам ясна-сапорага, быццам запеклая кроў, колеру. І мы ведалі, што гэты камочкі папраўдзе пацямнелі ад крыві волатаў, што гэта была іх кроў, пралітая тут у вялікіх войнах, калі яны біліся з чужакамі, бароняцы гэтай зямелькі для нас. Натрапіўшы на гэткі грудок, трэба было прамаўляць: «Цур, пухам зямелька!» — і зараз жа засыпаць тое месца. Набраўшы ў карзіначкі абручоў, пражак і ўсякіх масяжовых прыладаў, мы адносілі да Данілы ў кузню і

ссыпалі ў кутку за гарном. Гэтым мосяжам Даніла зварваў толькі ратайскія прылады: лемяшы, банькі да кос, перакладніцы і нічога больш. Калі трэба было каму зварыць якую жалезіну да брычкі ці чаго іншага, то на гэта бралі старасвецкі мядзяны траяк ці шастак.

На выкапках былі не адны валатоўкі, былі тут і іншыя магілы, іншых людзей і часаў. Гэты пазнейшыя магілы азначаны былі чорнымі каменнымі крыжамі, большай часцю запаўшымі ў зямлю. На рэдкіх крыжах відаць было нейкія знакі, чытаць якія ніхто не ўмеў, нават стары Лакотка, вясковы грамацей, які не толькі чытаў у царкве часы, але, Богу на хвалу, перапісваў сам гусіным пяром літарамі, як лапці, псалтыр. Каля гэтых чорных крыжоў пясок бываў заўсёды чырвоны. Старая Пракцэся казала, што крыжы гэты крывавымі слязамі плачуць, таму што ў іх пакутуюць душкі нашых прашчураў, якія волі нашай абараніці не ўздолелі, а цяпер каюцца, гледзячы, як мы, нашчадкі іх, пакутуем. Раз аглядаў гэты крыжы пан Сабалеўскі і казаў, што пясок каля іх чырвоны таму, што камень жалезісты і іржу выпускае. Але паміж нас, блазноты, ніхто гэтаму не паверыў. Версія Пракцэсі была больш люба нашаму сэрцу, і мы цалавалі гэны каменныя крыжы і гаварылі да душак прашчураў пацяшаючыя і ласкавыя прамовы. Памятаю, Юлюк, касавокі і вечна саплівы хлапец, якога мы ўсе не любілі за яго неахайнасць, зачне гаварыць і туліцца да гэных крыжоў чорных, — гладзіць іх рукамі дый сам наўзрыд плача, як бабёр, узрыгамі.

Акром таго, на групе валатовак, акружаных круглым накопам, быў гаёк, і ў гайку, пад бярозкамі і ліпамі, «новы магільнік». Была гэта адна каменная пліта, на якой славянскі надпіс апавядаў, што тут пахаваны мніх Астап Корсак.

Аб гэтым Корсаку хадзіла легенда-показка гэткага зместу: «Была вайна. Астап Корсак на абарону краю вырушыў, набраўшы пад харугаў 200 душ сваіх падданых. Біўся Астап з дружынаю харобра, не з панукі чужой, а з пачуцця абавязку бараніць сваю зямельку родную ад чужацкай навалы. І ўславіўся Астап Корсак на вайне як ніхто, але супакою ён не меў на душы, што многа крыві людской, хрысціянскай крыві, праліў. І па вайне пайшоў ён у пушчу. А будучы ў пушчы, раздумаў, што пушча — гэта не пакута, што сапраўды пакутуюць не манахі па манастырах, не пустэльнікі па пушчах, а той прыгонны паднявольны народ, які працуе на паноў сваіх. І вось ён з пустыні пайшоў у адну з былўшых сваіх вёсак і прыстаў наймітам да аднаго з бяднейшых сялян. Гаспадар нацешыцца не мог з работніка: працавіты, пільны, шчыры, спакойны. Ні ён табе ў ежы пераборчывы, ні ў

адзенні вымогчывы. Раней за гаспадара да работы ўстане, апошні спаць ляжа і заслуг сваіх не дапамінаецца. Пры такім найміту гаспадар у некалькі гадоў аправіўся: і канінку і каравёнку загадаваў, кажаронка і світчонка ў хаце завялася дый вепрука на Каляды пачаў, як і ўсе людзі, адкармліваць. І стаў гаспадар падумваць, як такога чалавека назаўсёды пры сабе ўтрымаць. Не стары быў яшчэ Астап, дык давай гаспадар сватаць яму сваю дачку. А божаму чалавеку не тое на думцы. І ўцёк ён ад гаспадара, заслуг не пытаўшы ў яго. Зайшоў аж у гэты ваколіцы і тут у бяздзетных старыкоў да смерці пражыў. Толькі перад сканаяннем, на споведзі, адкрыўся святару, хто ён такі, і паперы на доказ даў. З вялікай чэсцю пахавалі тут яго костачкі. Пліту на магілу палажылі, а на ёй выпісалі яго жыццё».

І заўсёды жаласна было, калі мы прыходзілі да гэтай магілкі. Каб выказаць сваю прыхільнасць да нябожчыка, мы мох павыдзіраем з пліты, з раўчакоў паробленых на ёй літарамі. А раз прыйшло нам на мысль вадзіцай абмыць камень і каля каменя пасыпаць пясочкам. Калі мы ўсё гэта зрабілі, на душы было неяк весела і нейкую роднасць пачулі мы з гэтай магілкай.

Больш тут не было каменных нагробкаў, а толькі дамоўкі на магілках. Старэйшыя дамоўкі, ці, як іншыя звалі, «церамкі», былі з дубовых калод у кшталт труны вычасаныя, былі і ў зруб рубленыя і крытыя цёсам, а на найнавейшых стаялі васьміканечныя крыжы з крывой папярэчкай унізе, як гэта вымагаў цяперашні бацюшка.

Дык вось ён, наш старасельскі магільнік. Калі я яго цяпер успамінаю, ён мне здаецца жывой гісторыяй краю, абнімаючай падзеі ад бронзавага, а мо нават каменнага веку да нашых часаў.

Цур, пухам зямелька вам, мінуўшыя пакаленні!

*[1924]*

## ТРОЦКІ ЗАМАК

Стуга блакітнавокага возера, горка, ізноў возера, ізноў горка. І так увесь час чарадуецца зелень з блакітам. А вось сярод блакіту круглы зялёны смарагд — востраў. Там другі, трэці — меншыя. На галоўным востраве развалiны замка. Крушні камення, цэглы, кавалак сцяны, і зноў крушні камення. Увесь востраў засыпалі развалiны і выгналі назаўсёды згэтуль жывое жыццё. Востраў дрэмле, пануранны ў сваю мінуўшчыну, ды пасміхаецца ў неба

пакрышанымі старчымі зубамі сваіх развалін. Нешта таёмнае прытаілася, прымоўкла, можа, ізноў страпянецца, захвалюецца, загучыць, затопае, загалёкае, ажыве… Па крушнях, з пасмешкі пакрышаных зубоў, стырчачых у неба, відаць, што касцістая рука смерці не змарозіла, а толькі прымарыла тут мінуўшчыну.

Ударыў віхор, і са сцен з шэлестам пакаціліся акрышкі цэглы… Старыя, друзлыя сцены трасуцца ад ветру, хібаюцца і час ад часу кархаюць абломкамі, мацуюцца з навалай. Многа гэтых навал з усіх старон, год за годам і сталецце за сталеццем пробуюць сцены, а яны ўсё яшчэ перамагаюць буры і навальніцы. У старых мурах мацуецца геній старадаўнасці з маладымі павевамі. З абодвух старон ёсць страты…

Вуглавая круглая башта, а ў ёй круглыя вокны-стральніцы. Вецер дзьме ў круглае вакно як у флейту, а башта — гугнівым старэчым голасам — на старасвецкую вайсковую нотку — бубніць вызаў камусьці ў прасторы:

Дай ў двубой, мы з табой
Сілай змерымся…

Пугач высунуў вушатую галаву з расшчэліны муру, павёў кругом чырвоным вокам і заліўся пакоцістым смехам — гу-гугу-га-а!

Нехта са старога замку на беразе клікнуў яму ў адповедзь — га-а-а!

Насупілася неба, і секануў, быццам тысячамі доўгіх, бліскучых дубцоў, крывы дождж.

Я схаваўся пад засцень старых муроў і пачаў азірацца. На змочаным дажджом, шэрым ад часу тынку ўнутранай сцяны гатыцкага стылю замка праступілі стараветныя сценныя маляўры. Абрысаваліся контуры кастырных візантыцкіх святых, і іх строгія, глыбокія ў містычнай задуме вочы ўпіліся ў мяне. Я стаяў, абварожаны дзіўным з’явішчам, загадкаю мінуўшчыны, разгадку якой прашчуры назаўсёды забралі з сабой у магілу. Гатыцкі дух захаду крыў у сваіх нетрах генія ўсходу…

І блізкімі, і роднымі здаліся мне насяляўшыя калісьці гэты замак пакаленні.

Яны, як і мы, жылі і мучыліся на ўзмежжы двух светаў, дзвюх культур, двух процілеглых сабе светаглядаў, уяўленняў. Яны не маглі прыклеіцца да ўсходу ані прымірыцца з захадам. І ў свядомасці прамігнула моднае ад нейкага часу слова «Еўразія».

Мысль стропнулася, як спалошаны птах, і стала біцца аб страніцы пажоўклых, забытых, нікому не патрэбных у клуме рэальнасці краёвых летапісаў, шукаючы разгадкі.

І перад вачыма душы маёй доўгім сцягам паплылі волаты мінуўшчыны. Велічэзныя абразы роспачнага змагання з хіжацкім духам захаду, які прыходзіў сюды, прыкрыты белым бурносам, аздобленым эмблемай крыжа, сеяць морд і знішчэнне. Адкінутыя дзікім усходам пляцоўкі крыўскага і ўкраінскага славянства туліліся да гэтых муроў, несучы свае сцягі з шасціканечнымі крыжамі, а разам з імі— магутнасць.

— Га-га-га-гу-у! — загагатаў пугач з круглае нарожнае вежы.

— Гу-га-га-га-а! — азваўся яму ў адповедзь другі ў мяне над галавою.

Яшчэ ўдарыў віхор, і друзлы старац сапнуў і крэкнуў. Тут жа, каля ног маіх, зваліліся два някшталтных абломкі старой будоўлі, а за імі скаціўся знекуль камень і прыціснуў іх да зямлі.

— Га-га-га-га-а! — заліваўся пугач у башце.

А перада мной праплыў на хмары св. Меркурый на белым кані з паднятым мячом. І на сцяне прасунуліся цені…

Гедымін… Гедыманік… Дачка бортніка… Легенды, казкі, апавітыя хомарам вякоў. Пры іх летапісец Міхалён, патрыёт, патрыёт-рамантык, які блудзіў у лабірынтах басень.

Віхор закружыўся, засклочыўся ў закамарках руінаў і як вядром пялёхнуў на другую сцяну, з якой, амыты вадой, вынырнуў чорны чатырохканечны крыж, намаляваны паверх св. Мікалая, біскупа Мірлікійскага.

І агністымі знакамі запырхалі перада мной супярэчлівыя ацэны летапісцаў:

«Жыгімонт же Кестутевіч уподоблен бысть Антіоху сірійскому і Іроду Ерусалімскому…» — грыміць караючы голас летапісца.

«А Жыгмонта першаго, солодкая памяць яго… — пярэчыць другі, паясняючы: — Бо ён ляхоў, як сабак, не любіў, Літву ж і Русь нашу любіцельна мілаваў…»

А першы, паясняючы сваё ўпадобленне Жыгімонта да Анціоха і Ірада, дадае: «…бо ён хацеў вынішчыці роджай шляхецкі, а паднясці роджай хлопскі, псю кроў».

За гэты імкненні: падняць роджай хлопскі, тут, у гэтым замку, атрымаў Зыгмунт Кейстутавіч расплату з рук шляхты.

І з праразлівай выразітасцю ўявілася народная показка аб утопленым князю ў гэтым возеры, які пасля сваёй смерці ў падводных скляпох сабраў дружыну, павесіў звон і штогод на

Вербніцу, у гадаўшчыну сваёй смерці, ударае адзін раз у звон, даючы знаць, што ён не закінуў сваіх думак. Ведныя людзі чуюць гэты звон. Трыкротны ўдар у звон, і ігра ў вайсковую трубу апавесцяць яго выхад на свет. Гэты выхад паложыць канец самаволі, голаду і холаду ў хацінках з лапінкай няўжытку, з якога гаротнаму селяніну трэба ўтрымаць, накарміць, абуць і адзець увесь чужацкі дзяржаўны будынак, дом няволі.

Знача, памяць народная не пазабыла свайго абаронцу.

Зыгмунт Кейстутавіч — сялянскі герой на княжым пасадзе. Задушаны быў у Вербную нядзелю 1440 года, тут, у гэтым замку.

Пазёмы вецер кінуў на бераг водны вал, і, шорхнуўшыся аб каменні, ён пакаціўся ў іх, пенячыся і шэмручы.

Дождж падаў… Валы вады качаліся са стогнам па беразе. І ў гэтым глухім стогне, здавалася, чуваць быў надлом прабалеўшай да нетраў душы. Так плакаў стары Адам, калі ў яго за падаткі забралі апошнюю каравёшку. І як вывелі яе за вароты, Адам паў на зямлю, стогнучы, і называў яе, карову, маткаю. Гэта зразумее толькі той, у каго раз у тыдзень бывае на стале хлеб, а штодзень у запечку блішчаць чатыры пары галодных дзіцячых вочак…

На пахілай вярбе, над возерам, сеў крумкач і крыкнуў на ўвесь голас: «Грай! грай! грай!..»

— Гу-гу-гу-га-а! — захахатаў пугач.

*[1924]*

## БРАЦКІЯ КНІГІ

Найлепшыя кнігі, найцікавейшыя дакументы майго архіва вылаўлены мной у крамках, дзе прадаецца старая папера да завівання селядцоў. У адной з гэткіх крамак раз я наткнуўся на дзве тоўстыя рукапісныя кнігі, апраўленыя ў чорную скуру, на дубовых дошках. Паперу купец мне расцаніў на вагу, а за апраўу прыйшлося надкінуць асобна. Адна з гэтых кніг тоўпіла ў сабе рахунковасць брацтва, другая пратаколы. Першыя запісі былі занесены ў самых пачатках XVII ст.

Статут брацтва побач чыста арганізацыйных пунктаў завіраў цікавыя бытавыя ўвагі.

З іх было відаць імкненне зрэфармаваць старадаўныя класавыя і прафесіянальныя брацтвы на чыста рэлігійным грунце. Дзеля гэтага замест свецкіх інтарэсаў галоўнай мэтай брацтва было «працаванне супольнае брацкае дзеля душы збаўлення».

На першым устаноўчым сходзе брацтва нябесным патронам яго быў выбран святы Мікалай. З земскіх рэчаў брацтва ставіла сабе чатыры мэты: вядзенне пахароннай касы, утрыманне шпіталю для калек і старцаў, дбанне аб аздабленні брацкай святыні і аплаце свайго, брацкага, духоўніка ды абслужванне братчыкаў гожымі разрыўкамі.

Уздоймныя сабранні брацтва адбываліся штогоду на веснавога Міколы. Пасля царкоўнай адправы і казання, спецыяльна нанятага на гэты дзень за тры гарцы пітнага мёду, казнадзеі расстаўлялі ў царкве кругам сталы і лавы, а на сталы злажыўшы складковую закуску і выпіўку, брацтва прыступала да гадавой справаздачы сваёй дзейнасці і выбараў новага ўраду. За брацкай бяседай спявалі братчыкі духоўныя песні пад акампанімент брацкай аркестры. Але бывалі адступленні ад гэтага, аб чым сведчыць некалькі пратакольных запісаў: часам, падхмяліўшыся, братчыкі заводзілі песні свецкага зместу. За гэткія адступленні ад прынятага парадку на вінаватых накладалі духоўныя кары і кары грашавыя ў брацкі скарб. Акром гадавых, уздоймных сабранняў, адбываліся штомесяц сабранні старшын у адной з капліц царквы. На гэтых сабраннях абгаварываліся бягучыя захады брацтва, у якія ўходзілі гэткія заданні: 1) утрыманне брацкага хору і аркестры; 2) штонядзельныя і на кожнае свята выступленні брацтва з працэсіямі, 3) на прыпадак смерці каго з братчыкаў ці жаніцьбы ўстаноўленне цырыманіялу і святкаванне гэтых важных момантаў у жыцці братчыкаў у сваёй царкве складковым банкетам і парадак гэтага банкету; 4) арганізаванне прынамні два разы ў год, летам, «пільгрымак» да правінцыянальных святыняў. Захаваных некалькі спісаў распадзелу месц за брацкім сталом паказуюць, што тут прасцерагаўся строгі парадак паводле значэння братчыка ў грамадзянстве і заслуг яго перад брацтвам. Бывалі здарэнні перамяшчэння братчыка месцам ніжэй, а то і саўсім у канец стала, за правіны перад брацтвам, і, наадварот, раптоўныя павышэнні.

Брацкі хор і аркестра былі няплатныя, кожны братчык, здольны да музыкі ці спеву, павінен быў належаць да аркестра ці хору. Але на парадку дзённым тады было імкненне ўвесці ўсеагульныя спевы ў цэрквах, і дзеля гэтага пачыналь- нікі і распарадчыкі гэтых спеваў, у ліку трох асоб, аплачываліся за спяванне, аплачываліся такжа дырыгент хору і аркестры.

У святочных працэсіях павінны былі прымаць удзел усе братчыкі. Працэсійныя ўрады складаліся з крыжаносцаў, іканосцаў, харужых і кіраўнічых. Кожны з гэтых урадаў меў свой,

зацверджаны брацтвам мундур і эмблемы. Брацтвы горада многа старання клалі ў кірунку як найбольшай эфектнасці свайго выступлення, каб не дацца закасаваць іншаму брацтву.

Жаніла і хавала кожнага братчыка брацтва, з коштаў агульнай касы, паводле заслуг братчыка перад брацтвам. У гэтым кірунку братчыкі дзяліліся на пяць катэгорый. Прычым брацтва змагалася і, здаецца, даволі няўдачна, з абычаем святкаваць вяселлі новажэнцамі ў сябе дома са свецкімі песнямі і танцамі. Гэта відаць з надзвычайных пахвал тым, якія абышліся выключна брацкімі ўрачыстасцямі.

Да найбольш урачыстых выступаў належалі «пільгрымкі» ў святыя месцы летам. Да іх прыгатаўляліся загадзя. Закуплялі дзвюх-трох ялавак, 6 — 10 баранаў, варылі піва і мёд, забіралі на вазы катлы і ўсякія кухонныя прыналежнасці і правіянты — на чатыры-пяць дзён (калі выбіраліся ў суседні манастыр, які быў за 20 вёрст) і з аркестрам і хорам, з крыжамі, абразамі і харугвямі на чацвёра ў рад вырушалі за горад. Прайшоўшы 10 вёрст, рабілі ў лесе папас і начоўку, пры вогнішчах. Абычай пазваляў у гэтым здарэнні скромныя свецкія забавы і нават танцы. Назаўтрае ўходзілі ў манастыр, дзе іх урачыста сустрачалі манахі. Тут «пільгрымы» раскладаліся абозам укруг манастыра на другі начлег і вечарам, пры агнях, ізноў бывалі забавы, але на гэты раз, са ўзгляду на святасць месца, без танцаў. На трэці дзень братчыкі вырушалі тым жа парадкам назад.

Пры брацкіх банкетах ролю гаспадароў выпаўнялі выбіраныя штогоду тры асобы: стольнік, падчашы і маршалак. Маршалак рассаджваў братчыкаў, дырыгаваў цырыманіялам і наагул глядзеў за падачай straў, падчашы абдзяляў напіткамі.

Пры статуце ў кнігу ўшыты клапцік паперы пад загалоўкам: «Наука о прыстойнасці брацкай», у якім запісана 8 пунктаў, зацверджаных агульным сходам і духоўнай уладай, аб тым, як мае заховывацца братчык за брацкім бяседным сталом.

Пункт 1. Седзячы за сталом, не класці локцяў на стол, не адварачвацца задам да суседа.

2. Не сморкацца на памост, са ўзгляду на святое месца, і не калыпаць носу.

3. Не кідаць пад стол абгрызеных касцей.

4. Не гаварыць голасна і не перабіваць субяседніка, пакуль ён не кончыць гаварыць.

5. Садзячыся за стол, на сваё месца, пакланіцца галавой у кірунку старшызны і пасля суседзям справа, злева і насупраціў сідзячым.

6. Не гаварыць з напоўненай ядой губай.
7. Прыходзіць на банкет, маючы за халявай лыжку і нож.
8. Не прыносіць з сабой на брацкі банкет напіткаў.

Найбольшы росквіт брацтва прыпадае на другую палавіну XVII ст. У гэтым часе брацтва здабылося на дзве важ- ныя фундацыі для сябе. Быў спраўлены сярэбраны брацкі кубак і сярэбраныя малыя кубкі для пачэсных гасцей, і акром таго былі спраўлены рызы з чыстага серабра на ўсе іконы брацкай царквы. Серабро сабрана было шляхам дабравольных даткаў братчыкаў. У спісе даткаў на аздобу царквы фігуруюць манеты, кубкі, пярсцёнкі, завушніцы, воты і шмат іншага. Усё гэта дабро было пераважана і здадзена майстрам да launch пeратоплення на метал. У пачатку XVIII ст. брацтва было сарганізаваўшы іканапісню, але, патрываўшы каля 10 гадоў, яна закрылася.

У канцы XVIII ст. брацтва пачало распрадавацца за нястачай грошы на ўтрыманне брацкай царквы і святара пры ёй.

Апошняя запіс у кнігах была занесена ў 1812 гаду, гэта спісак рэквізаваных французамі брацкіх цэннасцяў.

*[1924]*

## ВЯСКОВЫЯ «АРХЕОЛАГІ»

Вёска Буды выцягнулася шнуром драўляных хат над возерам і заснула, заваражаная, загледжаная згары ў дно возера. А там, на дне, стрэхамі ўніз, стаяла другая такая ж самая вёска з усімі падробнасцямі: з цёткай Агатай, убрыўшай па калені ў сцюдзёную ваду і заўзята паласкаўшай хусцё, з дзедам Апанасам, які выпаўз на завалінку пагрэць на сонцы старыя косці, з буславым гняздом на клёне, каля хаты быўшага героя турэцкага паходу, сухарукага Мігуна.

Калі цётка Агата клала на камень хусцё і пачынала выбіваць яго пральнікам, — з лазень, над возерам, перадражнівалі яе карштатыя, рудавалосыя Лазнікі — лоп! лоп! лоп!..

Замерла вёска, прыціснулася да ліпкай, гразкай зямлі не з боязні зрынуцца з гары ў возера, а з гора, з бядноты. Жыхары яе, згодна філасафічнай сістэме вялікага Фіхтэ, з пакалення ў пакаленне сыцяць дух свой здаровым аптымізмам, надзеяй, што прыйдзе ўрэшце-такі раджайны год, у які з умалоту хопіць хлеба ад жніва да жніва. Захопленыя гэтым аптымізмам, з года ў год варушаць зямлю, не шкадуючы мазалёў і поту, засяваюць. Але

пасля абмалоту выясняецца, што хлеба стане толькі да Каляд. Калі ж дацягнуць яго да Мясаеда, то трэба дамешваць да мукі палавіну мякіны. Вялікі ж пост пасціць, так і так, Бог вялеў… А вясной… Ласне ў гэту пару была вясна ў Будах. Адбываўся выган скацежы ў поле.

У панадворках сялянскіх сяліб тупалі мужчыны і кабеты. Падымалі запасціўшыхся, па хрысціянскаму абычаю, разам з людзьмі, каровак. Гэта былі закачаныя ў навозе двурогія шкілеты, якіх гаспадар з гаспадыняй падымалі за хвост і рогі, каб паставіць іх нагамі на зямлю, а дзеці панукалі жывёлу, паганяючы дубцом. Сумнымі, закачываючыміся ў падлоббя вачыма маўкліва тлумачылася каравёшка, што ад яе вымагаюць немагчымае. Змогшыся, змардаваўшыся, гаспадары рашылі папаіць яе цёплай вадой з соллю. Гэта памагло: пры помачы гаспадароў карова ўстала і здранцвеўшымі нагамі, сланяючыся, выпаўзла ў поле.

За каровай пагналі насторшаныя шкілеты свіней, якія ўсё прадвесне, за нястачай пошыру, жылі сваім промыслам.

За статкам высыпалі ў поле пастухі: дзеці ад 7 да 12 гадоў, босыя, хоць на рытвінах ляжаў яшчэ снег, а на дне канаваў лёд. Дзеці ў полі, трасучыся і пазваняючы зубамі, збіралі трэскі і хворast з блізкай амшарыны. Запылала вогнішча. Разагрэліся. Але з цяплом і пад уплывам руху на свежым па- ветры голад балюча смактаў пад грудзьмі, і вочы, ад паў- зімы ашклеўшыя, асалавелі. Моўча ўсе сядзелі кругом вогнішча.

З гары ў даліну, да амшарыны, што была за выганам, цягнуўся шнур валатовак, паросшых верасам і гігелямі. Каровы жвалі леташнюю траву і верас, свінні выкапвалі лычамі глыбокія ямы, шукаючы зямных арэхаў.

— Пойдзем, хлопцы, паглядзім, што гэта свінні выкапваюць, — сказаў зызавокі Лявук.

Хлопцы безразрозліна паглядзелі моўчкі на Левука, ніхто не адазваўся.

Лявук устаў і, падышоўшы да Сымонавай худой цешкі, якая да палавіны закапалася ў зямлю, уважна ўзіраўся, што яна робіць. Відаць, цешка натрапіла на багатае арэхамі месца, гэтым толькі і можна было вытлумачыць яе парыў да працавітасці. І сапраўды, цешка выкапала лычом чорны арэх і ўжо хацела яго загарнуць у зубы, але Лявук спрытна падхапіў яго рукой. Свіння, заступаючыся за працавіта дабытую сваю ўласнасць, рынулася на Левука, але той пусціўся наўцёкі. Адбегшыся, хлапец абцёр чорны клубік аб світку і палажыў арэх на зубы. Калі раскусіў, арэх здаўся яму незвычайна смачным. Палавіну на месцы з’еў, другую панёс да

вогнішча; усе падзяліліся і ўсе не маглі нахваціцца смачнасцю арэха.

За некалькі хвілін хлапцы рассыпаліся каля свіней, пільнуючы моманту, калі пакажацца арэх з зямлі. Пачалася бязжаласная эксплуатацыя чужой працы, абарона эксплуатаваных і адкрыты бунт супроць сваіх гаспадароў. У выніку цэладзённай вайны быў цяжка пакусаны Грыгась удавы Петрунэлі, на якога наваліўся Асташоў кнур.

На другі дзень, ідучы на пастterrit, хлапцы ўзброіліся капагамі. Яны за папярэдні дзень добра даследавалі, як пазнаць, дзе растуць арэхі; што ў месцы, дзе арэхі растуць, ёсць зверху бледны расточак чорнагаловага гігеля, які першы паспяшыў з-пад снегу, на поклік сонца, выглянуць на свет.

Далей, пад зямлёй, ішоў чорны вузлаваты доўгі карэнь, які, адкапваючы, можна дакапацца, на глыбіне адной-дзвюх пядзяў, да чорнага арэшка.

Ад самай раніцы на валатоўках закіпела згодная і дружная праца галодных: людзей і жывёлаў.

Многа ў той дзень было парушана прашчурных касцей, даўно збуцвеўшых у прысок. Многа цікавых аздоб, закапаных разам з імі, выкінута ў старану, у ямы і па-за ямы, як рэчаў, да нічога не прыдатных.

Дзень быў пагодны, вясёлы, радасны.

Гасцінцам, што ішоў уздоўж валатовак, борздка імкнула павозка, запрэжаная паркай коні. Гэта пан пасрэднік ехаў у далёкую, сваёй кругаколіцы, воласць, гадзіць сялян з памешчыкам, якія судзіліся за сервітуты.

Н-скі пасрэднік выдзяляўся спаміж чыноўніцтва сваёй рангі шырокай гістарычнай ведай. Яго кватэра ў павятовым горадзе перапоўнена была стараветнымі асаблівасцямі і выкапкамі з курганаў. Ён знаўся на старыне і любіў яе. Нічога дзіўнага, што, убачыўшы, як хлапцы капагамі рыюцца ў валатоўках, увесь ён спалыхнуў з гневу. Парывіста загадаў спыніць коні і, вылезшы з павозкі, клікнуў да хлапцоў:

— Што вы тут робіце?!

Хлапцы перасталі капацца і моўчкі глядзелі на пана.

— Я вас пытаю, што вы тут робіце?!! — крыкнуў ён ямчэй.

Маўчанне.

— Хадзі сюды! — кіўнуў ён пальцам на большага хлапца, Петрука.

Той, убачыўшы, што пан звяртаецца да яго, кінуўся наўцёкі ў імшару. За ім, пакідаўшы капагі, пагналі другія хлапцы. Збегшы

на імшару, хлапцы натрапілі на пляцок, дзе чырванелі прошлагодныя журавіны на белым моху. Кінуліся сквапна збіраць іх і забылі аб толькі што перапужыўшым іх здарэнні.

Астаўшыся пераможцам на пакінутым хлапцамі пляцу, пасрэднік прайшоўся па валатоўках, падняў мядзяны абручок і схаваў яго ў кішэнь, пасля пазбіраў капагі і, палажыўшы іх у павозку, паехаў у вёску.

У вёсцы быў склікаíны гвалтоўны, уздоймны сход. Пасрэднік доўга тлумачыў сялянам значэнне валатовак і патрэбу іх аберагаць, пагразіў штрафам на ўсю вёску за самавольную раскопку іх і ўрэшце запрапанаваў не штрафаваць вёскі, калі сяляне дабравольна самі, тут жа пры ім, пакараюць сваіх дзяцей.

Сяляне ахвотна згодзіліся на гэткую замену. За паўгадзіны былі дастаўлены бледныя ад прадвесня, пасінеўшыя і дрыжачыя ад сцюжы, голаду і страху дзеці. Адбылася экзекуцыя, якая зацягнулася да падвячорку.

Пасрэднік, сказаўшы яшчэ вучоную расправу аб валатоўках, ветла развітаўся з сялянамі і паехаў.

Знаёмы ўжо нам Лявук, аціраючы слёзы, жаліўся туліўшай яго маці:

— Чаму ж не секлі Сымонавай цешкі, яна ўтрая больш за мяне арэхаў накапала…

Ноччу прайшла веснавая ўлева, абмыла ямы на валатоўках, і на другі дзень хлапцы ўжо не капалі арэхаў, а толькі абгрызалі ліповыя пучкі ды збіралі журавіны на амшарыне. Пасля ж збіралі масяжовыя «цацкі» па пяску і імі забаўляліся.

*[1924]*

## ЧАСЫ БЫЛІ ТРЫВОЖНЫЯ

### I

Часы былі трывожныя. Увесь край — ад Усвята да Турава і ад Драгічына да Смаленска — жыў у напружаным чаканні невядомага, што, як меч, вісела, але яшчэ не ўпала на галовы стрывожаных і зморaных людзей. Гэтае напружанае чаканне невядомага гняло душу, напаўняла ўсіх палахліваю маўклівасцю.

Загнаныя ў пушчы і крокаці святары старой веры пачалі выходзіць у сёлы і гарады. Словы іх былі горкія, а варожбы грозныя. Як крукі, яны каркалі аб маючых настаць для народа крывічоў доўгіх сталеццях пад’ярэмнага жыцця:

«Воля ваша будзе сцерта, як зярно ў жорнах, верай новай і развеецца, як порсць дарожная.

Слава ваша забудзецца, а імя вашае будзе імем пагарджаных і паярэмленых.

Нашчадкі вашыя адвернуцца ад крыві сваёй і магілы вашыя зневажаць будуць.

Плады зямлі вашай, кроў і пот вашы возьмуць чужынцы, і вы іх багоміць будзеце.

Жоны і дочкі вашыя стануць паслужніцамі ў тых, каторыя вамі валадаць будуць.

Перад рабамі сваімі пахінеце каркі і знізіце аблічча сваё ў пакорлівасці.

Змоўкнуць вечавыя званы ў гарадах і песні свабоды ў сёлах.

І перапоўняцца воды слязамі вашымі, паветра стогнамі, а зямля крывёй вашай.

І загінеце з аблічча зямлі, калі не ачуняеце і не скажыце ў сабе: зямля наша — дом наш, яна — магіла прашчураў і калыска будучых пакаленняў нашых!»

## II

Пераадзеўшыся ў сялянскі кажух і насунуўшы глыбока на чало калматую шапку, многа разоў ужо слухаў князь гэтых прамоў, змяшаўшыся ў соймішчы. І кожны раз прамовы гэтыя глыбока парушалі яго.

Святары старой веры вымагалі павароту да даўнай веры і выгнання з краю прапаведнікаў хрысціянства, якія трымаліся ў гарадах пад княжай апекай. Па вёсках жа, раскінутых паміж глухіх пушчаў, старая вера яшчэ ў поўні панавала.

«Ды што па вёсках?! — думаў у мыслях сваіх князь. — У жаночых святліцах маіх харомаў стаіць стод Перуна побач з крыжам… Я сам малюся агню і Богу!..

Але замяшанне ў народзе шырыцца, і трэба ўчыніць канец гэтаму, — разважаў далей князь. — Або русы і грэкі з навучонаю хітрасцю ды вайна супраць уласнага народа, або з народам — супраць чужынцаў?!

Не, гордыя крывічы не пахіляць каркаў перад ненавіснымі русамі і грэкамі, якія пазбаўляюць нас волі! Клікнем на помач ятвягаў, латгалу, жамойдзь, — памерымся яшчэ з русамі!..»

## III

Да князя ў харомы прыйшоў біскуп. Ён апавядаў аб усёабымаючай любові.

— Цяжкае жыццё чалавечае на зямлі, — казаў ён, — і няма патолі нікому. Свет дагэтуль тонуў у цемры нязнання… Чалавек чалавеку воўкам быў, бо не на любові, а на помсце і нянавісці будавалася жыццё людское. Хрыстос навучае нас за зло не злом, а дабром адплату чыніці, палюбіць бліжняга свайго, як самога сябе… Крыжам трэба прасвяціць бедны народ гэты, а з крыжам разам увойдзе ў душу людзей, у гарады і сёлы, у краіны, плямёны і народы ўсёабымаючая, усёдаруючая любоў. І калі ўсе народы і плямёны прымуць Хрыста, між імі запануе любоў: не будзе бедных і паніжаных, бяздольных і пакрыўджаных, не будзе злосці і помсты, вайны і забойства. Царства Божае запануе між людзей на зямлі…

«Старая вера, — думаў князь, слухаючы біскупа, — не дае ўсёагартаючай любові… А калі б запанавала любоў між людзьмі, настаў бы спакой і шчасце. Дык хай жа будуць людзі братамі, хай палюбляць бліжніх сваіх!..»

І схіліў князь чало перад уладыкай, кажучы:

— Багаслаўі, ойча, ісці з Хрыстом у народ!

## IV

Часы былі трывожныя. Дружыны русаў абселі гарады і сёлы. Мячом церабілі шлях новай веры ў народ і купалі яго ў яго ўласнай крыві. Руя і парубства шырыліся пад засцю крыжа. Спуджаны народ палыханнем зарніц гарэўшых вёсак уцякаў у недаступныя дзікія пушчы, творачы брацтвы «лютых», якія кляліся да апошняй кроплі крыві ў жылах бараніць свае веры. З імі былі святары старой веры, з князем — русы і грэкі, прагавітыя ўлады і багаццяў.

Часы былі трывожныя…

*[1924]*

## ЦМОК

Няма, кажаце, цмокаў? Як-то няма?! Ёсць. Напэўна ёсць… Скуль яны, кажаце, бяруцца? Ага. Пустое… Не тое што людзі ведныя, дасведчаныя, але кожны смаркач табе ў вёсцы скажа, як выводзіцца цмок, каторы дабро і грошы цягае свайму гаспадару.

Вось, прыкладам, каму няведама, што стары Грынец адпаівае ў клеці малаком-сырадоем свайго цмока? Дык палядзі, які ён багаты затое!

Што? Розум? Праца?! Ды ты, саколе, працуй, хоць расцягніся, а калі табе не йдзе рукой — усё роўна нічога не будзе. А наш Грынец і да працы ленты, і чаркі не чураецца, а ў кішэні ў яго заўсёды не менш трох рублёў пабразгуе. А зайдзі ў хату… круглы год ў яго на стале хлеб знойдзеш. І то ж хлеб!! Ні табе ў ім пылінкі, ні пелюшынкі: з чыстага, як золатца, жытца! от табе!

Што да рублёў тых Грынцовых, то праўда, людзі рознае дзейкаюць. Хто яго ведае… мо і праўда, што склютавыя яны, фармазонскія…

Смешны вы, паніч, гаварыць з табой, што з малым. Склют, гэта такі рубель, які не йдзе ад рук: колькі ні мяняй яго, ён ізноў да гаспадара ў кішэнь вяртаецца. Але аб гэтым калі-колечы пазней раскажу.

Ты вось кажаш, што цмока ніхто не бачыў. Дый я сам бачыў і не раз, не два. Сядзь ты, саколе, восенню ноччу пры вакне, паўзірайся ўгару, і ручаюся, што ўбачыш, як жухаюць цмокі па небе, толькі светлыя паясы рысуюцца. Чаму вясной і летам не лётаюць? Як не лётаюць? Лётаюць… А толькі не відаць, бо тушчма лётаюць; пуста кругом, што ад кога ён возьме вясной ці летам? А ўвосень — другое: і самы горшы харляк якоесь маймо ў сябе туляе. Ці мала хто на свае вочы бачыў гэтага Грынёвага цмока, як ляцеў, свігтаючыся ў паветры, прасцюсенька на яго клець. Карта карце пераказуе, што калі жоўтым святлом след значыць, то гэта ён золата валачэ, а калі бе- лым — то серабро. Грынёў цмок бялёсы, дык серабро носіць… Не, склюты яму не патрэбны! І так багацей ён. Грынь нікагусенькі да сябе ў клець не пушчае, то таму, што ў засеках у яго грошы панасыпаны.

Кажаш, паніч, зямлі ў яго больш, як у нас, цэлая валока нядзеленая, а мы толькі па чвэртцы ды па шостцы маем. Гэта не тое. Не, і з валокі багаты не будзеш, калі няма ад «таго» падмогі. Вунь у Матуза, у Навасёлках, і зямлі валока, і дружына свая вялікая, а грошы няма.

Дык не ж, не гультай, крый Божа! І не п’яніца. Ну, бывае, вып’е чарку ад свята, але не, не п’яніца ён. Гэта, панічыку, таму, што ў яго злыдні завяліся. І ў нас у ўсіх злыдні па хатах вядуцца. А Грынь вывеў іх у сабе, загадаваўшы цмока…

Чаму мы не загадуем сабе цмокаў? Цяжка гэта. Я сам пробаваў, але нічога не выйшла…

Як гэта было? А вось як. На гэта трэба мець найперш чорнага пеўня. Каб загадаваць яго, я выменяў у Цітовіча шостку яец, у яго ўсе куры чорныя. Ой, гэты чалавек «знаецца»!.. Пасадзіў я гэта курыцу на яйкі, і праўда, вылупіліся два чорныя пеўнікі. Аднаго з іх, чутчэйшага, на племя пакінуў, а друго- га — Бэрцы на шабас прадаў. Шэсць гадоў быў, падла, певень як певень, а на сёмы квактаць курыцай пачаў, але ні- чога… Яечка такое маленькае, як галубінае, знёс.

Э, панічок, байкі! Я ж кажу, што певень знёс яйко, а не курыца. Кожны певень на сёмым годзе жыцця яечка зносіць, я ж сам на свае вочы бачыў: кругленькае, прадаўгаваценькае, шыланосенькае. Саўсім да курачага не падобнае… Вось тады гэтае яечка хутчэй я ў намітачку дый падвязаў сабе пад паху. Знаў я, што тры гады яго трэба пад пахай насіць і каб ніхто не падгледзеў. Насіць дужа невыгодна, але, гэта, яно сабе: да ўсяго можна прывыкнуць. А вось ухавацца ад людскіх вачэй, во што цяжка. Суседзяў я не надта баяўся: світкі не скідаў, у лазню не хадзіў… Але як ухавацца ад бабы?! А Марыля мая сціпная баба — усюды нос свой уткне… Але нічагусенькі: зацяўся я світкі не знімаць ні днём, ні ўночы. Каб баба не гопталася каля мяне, я летам спаў у пуні на сене, а зімой у клеці. Гэтак тры гады я вынасіў пеўнева яечка пад пахай, нікому не аказаўшыся, ні сам ні разу не зірнуўшы на яго… Калі трэці год сышоў і нічога — цмок не вылупляецца, — падумаў я, што яйко — заморыш было, мо трэба паглядзець… Але паўслухаўшыся добра, чую — пад пахай нешта ціхенька як быццам — тук, тук, тук! Ага, думаю сабе, вылупляецца мой цмок! Слабенькі ён, маленькі будзе, але я яго малачком, мядком адпаю, ведама ж, як сваю худобінку… Ды не судзіў Бог і Мілавіца Прачыстая… Святым днём было гэта. Пахадзіў я каля жыта і, папалуднаваўшы, шусь у паветку, заснуць пры свяце. Толькі гэта я змірнуў павекі, аж чую, ідзе мая Марыля. Падкацілася да мяне і цап рукой за паху.

— Што гэта, — кажа, — у цябе? — Ды торг да сябе рызмак той, у які было ўвязана яечка. Я тут і шугнуў увесь са злосці. Жарт, колькі гадоў мукі, надзеі тэй!..

— А, каб ты звялася! — кажу. Ды ў хрыбет, ды ў седаўку яе. А яна дай не паддавацца мне!

— Што ты, — кажа, — вылюдак, без дай прычыны б'ешся! — Ды ўляпілася абаруч мне ў хахол. А Марыля мая — баба, як ялаўка… Ажаргала мяне ды ў адварот мне куксанцы садзіць. Тут я спохапу ды па назласці прытчэй крутануўся і чую — хрусь! — у мяне пад пахай… І такі свонд пайшоў, серкай і пеклам панясло, што мне аж дух заняло.

— Марыля! — крычу, — Марыля, лаві: цмок вылупіўся! — А яна як захлібнулася сморадам тым, дык так і пакацілася кулёмпоныр'ю з сена далоў. Адсапнулася ўнізе і кліча:

— Тумаш, ці жыў ты? Што гэта з табой? Ці не кіндзюк трэснуў?

Я толькі закляў чортаву бабу, зазірнуў у рызманок. А адтуль пеклам нясе… і нічагусенькі, кром шалупінак і слаты, нямашака.

Дык хто яго ведае, быў цмок ці не?

А не, паніч, не курачае, а пеўнева было яечка! Сам жа я бачыў. Хто то ведае, мо і мая скацежынка, мной так працавіта кукобленая, цяпер Грыню грошы цягае… Гэта саўсім магчыма… Чаму ж — ад мяне вылецеў, да яго прыстаў і служыць яму.

Смяшны вы, паніч, — у кнігах нідзе аб гэтым не чыталі! І не знойдзеце ў кнігах. Пра наскае ў кнігах не пішуць. Аб гэтым пытай не кнігі, а людзей ведных, то і дазнаешся. О, многа можна дазнацца пра ўсякае наскае, але не з кніг толькі…

*[1926]*

## ДУДАР

Памёр стары Дудар, вясковы музыка, і душа яго, узяўшы дуду за пазуху, пайшла ў неба.

Падышоў ён да неба — глядзіць: зачынена. «Ну, — ду- мае, — спяць».

Сеў на калодачку каля брамы і чакае дня. Доўга сядзеў, і стала яму маркотна. Дастаў з-за пазухі дуду, папрабаваў пішчык і давай памаленьку іграць. Пярвей ціха, пасля ямчэй, а там і падпяваць пачаў.

Ажно чуе голас з-за брамы:

— Хто там?

«Мабыць, святы Пётра», — падумаў Дудар, але адказвае смела:

— Я!
— Хто — «я»?
— Дудар!
— Чаго глотку дзярэш?
— Саўсім не дзяру — пяю.
— Каб цябе. . . А чаму ж гэтак позна прыйшоў?
— Ніяк нельга было раней: памёр пад самы вечар.
— Пад вечер? — здзівіўся за брамай. — Дык на добры лад табе трэба было б яшчэ на палавіне дарогі быць.
— Ага, святы Пётра. Я дасужы — беларус, ведама.
— А адкуль ты? З-пад Барысава?
— З таго боку.
— А з якой вёскі?
— Дык хоць і скажу табе, ты ж усё роўна не ведаеш.
— Кажы, кажы, я ўсё ведаю.
Сказаў Дудар і вёску.
— Як тваё імя? — дапытваў далей голас.
— Янка.
— А па прозвішчы?
— Дудар.
— Ну, добра, Янка Дудар, пакуль развіднее, пасядзі каля брамы ды глядзі не гамані тут.
Стаў Дудар дня чакаць. Сядзеў, сядзеў, ізноў маркотна зрабілася, да таго ж перад раніцай холадам пацягнула, хоць гэта і летам было. Ізноў дастаў ён сваю дуду, чуць-чуць наігравае, каб за брамай не пачулі.
Зірк — а на частаколе нейкія галоўкі паказаліся — адна, другая, трэцяя… Анёльчыкі.
— Слухайце, слухайце, — кажа адзін, — вось хораша іграе!
Тут ужо Дудар не вытрымаў і пачаў іграць на ўвесь голас.
— Ах, як хораша! Вось хораша! І што гэта за музыка такая? — дзівуюцца анёльчыкі.
— Гэта барысаўская, — сказаў Дудар.
Раптам загрымелі ключы ў замку і адчынілася брама. У браме стаяў нябесны ключар, святы Пётра.
— Дудар!
— Чаго?
— Пойдзем!
А па небе ўжо разышлася погаласка, што прыйшоў музыка з Беларусі і дужа хораша іграе на дудзе. Дайшло гэта і да самога Бога, каторы, выйшаўшы з пакояў, сеў на ганку прахаладзіцца: за работу не браўся дзеля таго, што нядзеля была.

Не паспелі Дудару кватэры азначыць, як прыйшоў па яго анёл, толькі не такі, як папярэднія — маленькія, у белых кашульках, з белымі крыллечкамі, а вялікі, у сярэбранай адзежы.

— Янка Дудар! — сказаў пасланец.

— Што, паночку?..

— Праўда, што ты ўмееш іграць?

— Праўда!

— А пайграў бы?

— А чаму ж не пайграць! Перад кім?

— Перад Богам Святым!

Пачухаў Дудар патыліцу, ды нядоўга думаў. Барысавец быў, а ўсе барысаўцы — народ смелы.

— Пайграю, — кажа.

— Ну, дык пойдзем! — кажа анёл.

Пайшлі. Анёл спераду, Янка ззаду. Глядзіць, дзівуецца.

Абапал дарогі сярэбраныя хаты, а жывуць у іх святыя. У канцы вуліцы пабачылі самога Бога, каторы сядзеў на ганку і чакаў.

Дудар далікатненька пакланіўся — быў ён чалавек бывалы і ведаў, як дзе трэба захавацца. Бог кіўнуў галавой.

А кругом ужо сабраліся анёлы — малыя і вялікія, арханёлы ў залатых і сярэбраных адзежах, святыя і проста так справядлівыя душы — мужыкі і бабы. Народу цьма, яблыку недзе ўпасці, і ўсе хочуць паслухаць музыкі.

— Ну, Дудар, — сказаў Бог, — іграй!

А Дудар ізноў пакланіўся і кажа:

— Пакорна кланяюся вяльможнаму Пану Богу, і выбачайце, што я спытаю: ці няма тут на небе каго-небудзь з нашых, барысаўскіх, толькі каб з маладых?

— А нашто табе?

— Пад танцы іграць лаўчэй.

Усміхнуўся Бог і даў знак анёлам. Паляцела двое, але скора вярнуліся, кажуць:

— Знайшлі двох барысаўцаў, толькі дужа старых.

— Старыя няздатны, — сказаў Дудар, — не патрапяць станцаваць. Выбачайце, што спытаю: куды ж падзеліся маладыя? І маладыя ж іншы раз паміраюць.

А святы Юр'я на гэта кажа:

— Маладых трэба ў чысцы шукаць.

— А і праўда, — сказаў Дудар, — не йначай, як у чысцы. Пэўна, што ў чысцы. На маёй памяці колькі таго народу перамерла: Мікіта Гарбуз — той, што ад гарэлкі задохся, Сцяпан Крук з Докшыц, катораму ў карчме лоб пашчапалі, Арцём Лыка з-пад

Зембіна і Антось Прычэпка з-пад Дзядзілавіч — добрыя танцоры былі: прыбілі іх на ігрышчах.

Дудар доўга б яшчэ вылічаў памёршых маладымі барысаўцаў, але Бог кіўнуў рукой:

— Іграй!

— Якую?

— Якая лепшая. Вясёлую!

— Вясёлую, дык вясёлую…

Настроіў Дудар пішчыкі, надуў мех, заграў.

Добра ці дрэнна іграў ён, не памятаў гэтага, гэтак захваціла ў яго дух ад радасці, што годзен стаўся іграць перад самім Богам.

Толькі калі кончыў, бачыць — Бог ківаець галавой: здаволен. А анёлы і святыя, дык тыя не нахваляцца:

— Ах, як добра! Во дык добра!

І калі Бог пайшоў у свае пакоі, яны пачалі прасіць Дудара, каб яшчэ пайграў. Пасля папяяў. А музыка і рад гэтаму — іграе ды пяе так, што па ўсім небе гул раздаецца. Слухалі, слухалі справядліўцы, а пасля і самі пачалі падпяваць — спярша ў паўголаса, а пасля і ад Дудара не адстаюць:

Ох ты, дудка мая,
ух-я!
Весялі ты мяне,
ух-я!
На чужой старане,
ух-я!

Пяюць усім небам, падбіваючы ў далонькі. Праходзіць міма святы Язэп. Глядзіць, што за дзіва?! Заместа арханёла Гаўрылы, каторы навучаў справядлівыя душы нябесных спеваў, сядзіць на ўслоне Дудар з дудой, а каля яго душы— мужчынскія і жаноцкія — хорам адхватваюць свецкія песні.

— Матухна Ты Святая! — крыкнуў святы Язэп, схапіўшы за галаву, і пабег да святога Пётры.

А туды якраз прыходзіць і сам арханёл Гаўрыла, гэтаксама жаліцца.

— Так і так, — кажа. — Ніхто не хоча вучыцца нябесных спеваў, усе пяюць беларускую «дудку». Дудар вучыць. Што рабіць?

Выйшаў Пётра на вуліцу, прыслухаўся, — праўда: па ўсім небе лунаюць беларускія песні.

— Гэтага нельга дазволіць, — кажа тады святы Пётра арханёлу Гаўрыле. — Ці не паклікаць нам сюды Дудара?

— Можна.

Ідзе Дудар, дуда пад пахай, пакланіўся.

— Дудар, — кажа святы Пётра, — а ці не лепей было б табе пайсці адгэтуль куды-небудзь у другое месца?

— З неба?

— Ну, ведама.

— А куды ж мне йсці?

— Хм, вось аб гэта ж — куды? — Святы Пётра задумаўся.

— Чаму ж вы хочаце, каб я адгэтуль пайшоў? Я ж нічога благога не зрабіў тут: не ўкраў, не скрыўдзіў…

— Ведаю, ведаю… Справа, братка, вось якая, на небе свецкія песні пачалі пяяць, — сам ты рассудзі — нягожа.

— Ну што ж, калі гэтак, то я пайду сабе.

— Толькі во бяда — куда цябе адправіць?.. А можа, дуду кінеш?

— Не, лепей я ўжо пайду адгэтуль.

— Куды пойдзеш?

— Я знайду сабе месца. Пайду туды, адкуль прыйшоў.

— У Барысаўшчыну?

— А то ж куды?

— А я думаў на якую-колечы звязду цябе паслаць.

— Нашто на звязду? Пайду ў Барысаўшчыну.

— Саўсім з раю?

— Э… што там рай? Наша Беларусь — гэта не неба. У Беларусі без песні нельга. Там людзі працуюць, а з песняй чалавеку ўсякае гора ў палавіну. Буду хадзіць са сваёй дудою па лясох і палёх. Будзе сядзець каля скаціны пастушок з жалейкай, нячутна падыду да яго і зайграю яму над вухам; пачне пяяць дзяўчынка, задумаўшыся над светлым руччом, навучу і яе, — няхай не заміраюць на Беларусі песні. Пойдуць мужы з тапарамі ў лес, я прытаюся за соснай і зайграю ім, каб спарней ішла ў іх работа. А не знайду людзей, буду слухаць, як шуміць цёмны бор, як бульчыць вада, пераліваючыся ў руччу, і падыграю ім. Эх, цяжка ў нашай старонцы, ды і добра ў ёй… Я яшчэ, як жыў, дык прасіў Бога, каб дазволіў мне па смерці ў Барысаўшчыне астацца. На ніякі рай не прамяняю яе.

— Ну, добра, калі так, ідзі сабе з Богам, — сказаў святы Пётра. — А то ты ўсё неба нам папсуеш. Толькі глядзі ж не крыўдуй!

— Якая тут крыўда?

Пакланіўся Дудар апосталу і выйшаў з райскіх варот на вялікую нябесную дарогу.

Была ноч. Стаў Дудар спускацца па Птушынай Дарозе ўніз. А калі пачуўся на волі, крыкнуў:

— Гэй, гэй! — І пачаў дуць з усёй моцы ў дуду.

І гэтак ішоў ён, усё ніжэй і ніжэй, спускаючыся ў барысаўскі бок, пакуль не схаваўся ў пушчы…

*[1920-я]*

# ЛЕГЕНДЫ, КАЗКІ, ПРЫПАВЕСЦІ

## СОЖ І НЯПРО

Сярод глухіх пушч, цёмных бароў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца Рыдана. З канца ў канец зямлі слыў Рыдан багаццем нялічаным, а над усе багацці славілася скрытая за дванаццаццю дзвярыма, дванаццаццю замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзверы і выносілі тую карону на свет, то, калі на свеце была ноч, яна днём станавілася, а калі была зіма, то перамянялася ў ле- та, — так зіхацелі дарагія каменні на той Рыданавай залатой кароне.

Завідвалі суседнія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яе ў Рыдана. Сазвалі варажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсці карону з Рыданавага скарбца. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыў-траву, каторай калі даткнуцца замкоў, то самі адчыняюцца, ды сон-траву, зярняткамі каторай калі пасыпаць, то ўсё наўкруг засыпае. Прыдумаўшы гэта, паслалі зладзеяў красці залатую Рыданаву карону. Тыя, прыйшоўшы пад харомы, сыпнулі сон-зелля, і ўся варта паснула, крануліся разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пусціліся назад.

Устаў раніцой сівы Рыдан, падышоў да вакна, ажно глядзь: усе варты покатам спяць, увесь народ у сне беспрабудным валяецца. І зразумеў старац адразу, што няма ў скарбцы яго залатой кароны. Падышоў ён тады да звана, ударыў раз, ударыў два, і разбудзіліся два Рыданавы сыны: Сож і Няпро. Звярнуўся бацька да Няпра і кажа: «Вазьмі, сынок, стальную зброю, каваны меч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор — мо дагоніш цекунцоў з каронай».

Схапіўся Няпро і чым хутчэй пабег, а Сож астаўся пры бацьку. Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Няпро?

Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа:

— Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ.

І другі раз кажа бацька:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай!

Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа:

— Бяжыць, але ўжо цяжка дыхае, — шум зямлёй ідзе.

І ўтрэцце сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа:

— Гул зямлёй ідзе і крык вялікі!

Тады ўстаў Рыдан з пасаду і кажа:

— Бяжы ж ты, сынку, імхамі-балотамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб'ецца ён праз скалістыя горы.

Пусціўся Сож імхамі, балотамі на падмогу брату, а стары бацька сам астаўся ждаць сыноў. Доўга ждаў стары, не даждаўшыся, з маркоты пачаў плакаць, седзячы на сваім залатым пасадзе, ды з жалю прыгаварваць:

— Бадай нам, дзеткі мае, слязамі разліцца!

Ды ўлучыў ён на такі мамэнт, што-ткі запраўды разліліся слязамі браты і стары бацька: у рэкі ўсе тры змяніліся.

Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож імхамі ды балотамі, а Рыдан — куды вочы глядзяць. А з таго часу ўсе сілы ляснога краю плывуць у чужыя моры і там прападаюць…

*[1911]*

## РАЗБОЙНІК

### I

Бурліць вада, разбіваючыся аб цвёрдыя гранітныя грудзі каменя-разбойніка. А ён стануў воддаль берага, пахінуўся супроць вады і быццам прыслухаецца, затаіўшы дух… І так ён тут, сярод жоўта-зеленаватых вод Дзвіны, стаіць даўным-даўно. Вясной пакрываюць яго воды, і тады ён небяспечны для ганкоў, стругоў і лайб, гружаных збожжам і лёнам, каторыя часта, натрапіўшы на яго, разбіваюцца. На Сёмуху зазвычай па-над вадой відаць толькі яго лысую галаву, а ў Пятроўку —ён па пояс стаіць у вадзе, пахінёны наперад, і моўчкі ўзіраецца ў нямую шэрую даль і моўчкі чагось чакае…

Мабыць, стаяў ён так жа і ўзіраўся, калі сюдой варажскі род на маляваных ладдзях пад камандай Полтэса, вікінга-князя, ішоў у сутокі Палоты з Дзвіной, каб заснаваці там тын і зрубаці горад. Памятае ён, мабыць, старога Рагвалода[1] і красуню Рагнеду[2] з вольных дзён. Не раз, мабыць, услухаючыся, лавіў ён гучныя зыкі полацкага вечавога звону ад св. Сафіі і горды гоман вольнага крывічанскага веча. Не раз аб яго аціраліся ладдзі купецкага адважнага люду, што ішлі, нагружаныя воскам, мёдам ды несчысленымі саракамі кунічымі і бабровымі, у Рыгу, і на кгоцкі бераг, і к хамаву племю з паклонам ад Крывічанскае зямлі, і полацкага вольнага веча, і ад залатога княжацкага пасада, і яго вернай дружыны — русі, просячы на замену гартоўных мячоў, кованага срэбра, вітога золата і самацветаў.

То былі часы, калі «немцу ў Русі, а русічу на кгоцкім беразе была адна праўда».

Дно Дзвіны золатам цякло, а берагі серабром былі мошчаны. А рубяжы адкрыты, і паміж князёў не было праўды. І чужацкія рукі выцягваліся па золата і па волю крывічанскую. Не раз Дзвіна мутна цякла, ускаламучаная капытамі літоўскіх коней. Прыходзілі яны ў багатую старонку, як мядзведзь да борці, і дзерлі скрылі залацістага мёду і душылі пчол. Не раз працавітыя пчолкі нанова выцягівалі вузу і налівалі соты, але бывала, што ўпадаў і гнілец у борць… Тады разляталіся пчолкі. А Дзвіною снавалі, як павукі, людзі з доўгімі абасечнымі, двуручнымі мячамі ў чорных бурносах з нямецкім белым крыжом і апутвалі павучынай старонку, а па павучыні той паўзла «ганзіятыцкая» арава…

І не было русічу праўды на кгоцкім беразе…

На грудзях у Разбойніка шчэрбы і равочкі кругам раскінутыя, а пасярод схімніцкі крыж. Гэта па смерці Барыса, Гінвілавага сына[3], на спамін па душы яго, з блізкай баровай пустэльні, што была на пясчыстым узгорку па той бок Дзісенкі, сівы мніх, прывёўшы каменаклёва, загадаў высеч, каб кожны, хто паедзе міма Дзвіной, уздыхнуў, да Бога кажучы: «Помозі, Божэ, рабу твоему князю Борысу…» Цяпер гэтыя пісьмёны злізаны раз’яранай Дзвіной, і ніклы толькі след двох-трох літар віднее…

Плыла багатырская песня і кроў і слёзы з мутнай вадой Дзвіны, а доля наша спала. Калі ж яна прабудзіцца?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Даўно стаіць непадалёк ад берага гранітны камень, і вада бурліць каля яго, быццам жалючыся чужаку, занесенаму з далёкай поўначы на крызе лёду, і даўно ўпорны чужак пахінёны

ўслухаецца ў шэпты старонкі. Але народны сказ не ведае аб ледавым перыядзе, і іншую повесць перадае дзед унуку аб Разбойніку.

II

— Калісь-то даўным-даўно супроць таго месца, дзе ўпадае Дзісенка ў Дзвіну, на востраве пасяліўся асілак.

Быў гэта муж у сажань росту, нялюдскі, дзікі і прагавіты. Няпраўдай і разбоем жыў. З кожнага судна, што йшло Дзвіной, браў ён выкуп. А хто не захоча даць выкупу, таму разбойнік заступаў дарогу і, схапіўшы крэпкай рукой за край судна, вываpачваў і тавар і людзей у ваду. Нікому не даваў спуску.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раным-рана зазванілі ў святой Сафіі ў арліным гняздзе на полацкім замку. Адклікнуліся ім званы ў Спаса і з княжай Сялецкай сялібы. Паваліў народ на замак да святой Сафіі — сумны, невясёлы.

Чаго ж зажурыліся палачане? Ці вораг непашчадны з цёмных пушч літоўскіх хлынуў, ці слабоды смаленскія ўзбунтаваліся, ці Ольгавічы на Рагваложых унукаў паднялі меч? Не вораг нахлынуў, і слабоды смаленскія пад ласкавым ды набожным князем у послуху, і Ольгавы ўнукі не паднялі мяча на Рагвалодавічаў, а дачка князева Прадслава[4] з сястрой і братам выязджаюць у далёку старонку на паклон да гроба Хрыстовага.

Ужо ладдзі выразаныя, пазлачаныя стаяць пры беразе і трыццаць малайцоў-грабцоў сядзяць пры ясянёвых тачоных вёслах, і белыя парусы, як лебедзі, выгнулі грудзі.

Пасыпалі палачане дарогу княжне Прадславе і сястры яе і брату Давіду чарнобылем-зеллем, багаткамі пушнымі і шматфарбнымі кволымі краскамі ад св. Сафіі да каванага мосту і ад мосту да берага. Благаславіў уладыка і бацька-князь з княгіняю сесці ў ладдзю, ехаць у далёку дарогу.

Брызнулі вёслы сярэбранымі пацеркамі ўгору, і паплыла княжна ўніз Дзвіны ў святу зямлю на малітву-паклон ад Полацкае зямлі, ад крывічанскага народа.

Дзіўны ты, сказе народны, вольны ты птаху! Ты ўміг пралятаеш ад сучаснасці да мінулых вякоў… Ты мёртвыя камяні ажыўляеш і кладзеш ім у вусны думы свае, павяраеш ім скрытыя надзеі і жаданні…

Не для цябе, сказе народны, тораны шляхі, дзелены межы! Не знаеш ты вострага зубу ўсёпажыраючага часу, ані згладжываючага

цалунку смерці. Ты мёртвае ажыўляеш, забытае ўваскрасаеш, і волен тварыці дзівы. А калі дзе смерцю ўсне дух народны, там ты камяні ажыўляеш, і адараеш іх прарочым голасам, і кажаш ім ісці будзіці пабітых на духу, мерцвякоў хадзячых…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Загадзя дачуўся разбойнік аб тым, што едзе княжна ў далёку старонку, і спадзяваўся ўзяць з яе багаты выкуп.

Раным-рана ўстаў таго дня разбойнік і, убрыўшы па грудзі ў ваду, пахінуўшыся наперад, глядзеў і ўслухаўся ўверх Дзвіны, вартаваў прыходу княжацкае ладдзі.

Адвячоркам, калі клалася доўгая цёмная засень на ваду ад крэпкіх дубоў, што дружнай грамадай абступілі прыткі бераг Дзвіны, пачуў ён гул далёкае дружнае песні грабцоў. А пагадзя песню чуваць было бліжэй і бліжэй, і ўсё яна расла і набліжалася, а ў канцы на павароце ракі па-над цёмна-зялё- ным крушыннікам і вербалозам паказаліся белыя грудзі парусоў, а за імі і залочаная, выразаная кшталтам змея галава ладдзі.

Разбойнік ніжэй пахінуўся да вады, затаіў дух і чакаў. А калі ўжо саўсім блізка была ладдзя, ён, як дзікі рысь, скочыў да яе і крэпкай каранастай рукой спыніў яе ход.

Замоўкла песня. Грабцы выпусцілі з рук вёслы, і вочы ўсіх звярнуліся на княжну, каторая ў той час малілася.

Княжна згарнула малітвенную кніжыцу і, палажыўшы яе, устала і, падышоўшы да разбойніка, азвалася лагодным голасам:

— Хочаш откупу? Пачакай, чалавеча, дам табе откуп…

Разбойнік прыняў з ладдзі рукі.

— … дам табе откуп багаты, — цягнула далей святая княжна, — як буду сюдой варочацца назад.

Ладдзя паплыла з вадой міма вострава, а разбойнік усё стаяў, пахінёны наперад, быццам услухаючыся і ўглядаючыся ўдаль, і так стаіць ён па сягонняшні дзень, супроць таго месца, дзе Дзісенка злучаецца з Дзвіной, подаль ад берага вострава, каторы пазней празвалі Папоўскім за тое, што багацце і зямлю таго разбойніка воласць аддала папу да царквы Уваскрасення, што была на той бок Дзісенкі на пясках.

*[1913]*

## БЕЛАРУСКІ РАДАВОД

Першыя людзі на зямлі былі волаты. Іх называлі стаўрамі і гаўрамі: стаўры — мужчыны, гаўры — дзеўкі. Яны былі вялікія і дужа доўга жылі на свеце. Елі яны толькі сырое. Тыя з іх, каторыя аскароміліся вараным, з кожным пакаленнем меншалі і карацей жылі на свеце.

Калі волаты пamiралі, то іх клалі на зямлю і насыпалі на іх горы, на памятку. Гэткія горы-магілы і цяпер ёсць, называюць іх людзі валатоўкамі. Калі ўжо ўсе волаты павымiралі, то людзі ўстанавілі спраўляць штогоду па іх памінкі. Спраўлялі на Сёмуху і называлі іх Стаўроўскімі.

Апошні чалавек з роду волатаў быў князь Бой.

Князь Бой быў сынам дзеўкі гаўры і простага чалавека. У яго было сем жонак.

Першая жонка была *Вольга* — дачка князеўскага дружынніка. Ад яе радзіўся ў яго сын Бойка і тры дзеўкі.

Другая жонка была *Рагнеда* з Полацка. Радзіла яна яму шэсць сыноў і сёмую дзеўку. Сыны яе былі: Заранка, Юрла, Варган, Нырка, Албавух, Самішча.

Трэцяя жонка была *Красуля* з Смаленска. Яна радзіла Цюру і Матуза.

Чацвёртая была *Ода*, з Кіева. Яна радзіла: Бажана, Дзявулю, Лапу і Таранчука.

Пятая *Доня*, служанка Красулі, радзіла: Гадзюка, Кажана, Кавурку і Равуна.

Шостая жонка, каторую Бой узяў пасля смерці Вольгі, была *Альда* з Літвы. Яна радзіла Хорашчу і Чыжа і памерла з родаў.

Сёмая жонка, сястра Альды, *Ліля*, з каторай радзіўся Трызна.

Ад гэтых дзяцей Боевых і разроссся наш народ па ўсёй нашай зямлі.

У *Бойкі*, Вольгава сына, быў Гацук, у Гацука — Караська, у Караські — Трасіла, у Трасілы — Гусак і Пластун.

Ад Гусака пайшлі: Гушчы, Плiскі і Кіслі.

У Пластуна ж быў Воўк, у Воўка — Колышка, у Колыш- кі — Сяўрук, у Сеўрука — Люрка і Глінка. У Люркі быў Варшыла, у Варшылы— Поўзік, у Поўзіка — Сівоха, у Сівохі — Кошка, у Кошкі — Сімашка, у Сімашкі — Амелька. А ў Глін-кі быў Война, у Войны — Верашчака, у Верашчакі — Бурак.

Усяго ад Бойкі пайшло дваццаць чатыры рады старшых.

У *Заранкі*, Рагнедзінага сына, быў сын Пястун, у Пестуна — Пацей, у Пацея — Кастравец, у Каstraўца — Карсак, у Карсака — Гласка, у Гласкі — Скірла і Снітка.

Скірла пайшоў да валохаў, а ў Сніткі радзіўся Барсук, у Барсука — Сапоцька, у Сапоцькі — Ліпка, у Ліпкі — Шпак, у Шпака — Бульба і Валодзька.

Бульба адышоў за Кіеў, па Дняпру, а ў Валодзькі радзіўся Бык, у Быка — Кролік, у Кроліка — Пятух, у Петуха — Асінка, у Асінкі — Ступка.

Ад *Юрлы* пайшлі Тышкі, у Тышкі быў сын Агрызка, у Агрызкі — Бобра, у Бобры — Гурка, у Гуркі — Бацвіна, у Бацвіны — Баран, у Барана — Выдра, у Выдры — Крот, у Крота — Жук, у Жука — Жыжка, у Жыжкі — Сокал, у Сокала — Абух і Крыўка. У Абуха — Кучка, у Кучкі — Шабуня, у Шабуні — Саламаха, у Саламахі — Дубок і Бярозка. У Дубка быў Сучок, Цяцера, Талочка і Шмурла; а ў Бярозкі — Дудок, у Дуд-ка — Віславух, у Віславуха — Сапун, у Сапуна — Туптала і Крамзаль. Туптала пайшоў уніз к Кіеву, а Крамзель меў сы-на Смаляка. У Крыўкі быў сын Шышка, а ў Шышкі — Журка, у Журкі — Мякіш, у Мякіша — Драба, у Драбы —Краска і Кулік. У Краскі быў Лешч, у Ляшча — Рыбка, у Рыбкі — Тапорык, у Тапорыка — Рында. Ад Куліка пайшлі Пушчы і Курачкі.

Ад трэцяга сына Рагнедзінага — Варгана пайшлі Дроздзікі, Сверкуны, Гарбузы, Сосны і Гладышы.

Ад чацвёртага — *Ныркі* пайшлі Жулеі, Князькі, Куркі, Крупені, Дулькі.

У пятага сына — Аблавуха радзіліся Міска і Лось. Міска адышоў за Мяжу-рэку ў Маскву, а ў Лася радзіўся Юрага, у Юрагі — Кулак. У шостага сына, *Самішчы*, радзіўся Пест, у Песта — Піскун, у Піскуна — Пражэнь, у Пражэня — Сумка і Сапун. Сумка аддзяліўся ў Маскву, а ад Сапуна пайшлі Смурыя.

Ад Красулінага сына, *Цюры*, пайшлі Скуркі, Караваі і Сіпкі.

А ад адзінага сына *Лапы* пайшлі Дубавікі і Бычкі.

Ад першага сына Доні, *Гадзюка*, пайшлі Ласты, а ад Мышкаў — Аношкі, а ад Аношкаў — Лісічкі, а ад Лісічкаў — Камары і Куны. Ад трэцяга сына Доні — *Кавуркі* — радзіліся Вікула і Вірла. Ад чацвёртага, *Равуна*, радзіўся Дзедзель, а ад Дзедзеля — Рымша, а ад Рымшы — Калінка і Аборка. Калінка адышоў да Ляхаў, а ад Аборкі пайшлі Тарчылы.

Ад Альдзінага сына *Харошчы* пайшлі Рылы, Звягі, Сіпайлы і Стрэхі. Ад другога — Чыжа — Жмуркі. У аднаго Жмуркі

радзіліся Ваўчок, Рык і Скарына. Рык пайшоў па Дзвіне да латышоў, а Скарына пайшоў яшчэ далей.

Сын Лілі *Трызна* меў сына Старожку, а Старожка — Хахлюка. Хахлюк — Ждана, Ждан — Слізня, Слізень — Крыську, Крыська — Косцюка і Арлюка. Ад Косцюка пайшлі Пяткі і Кулагі, а ад Арлюка — Жабы і Рыбкі. Ад Жабаў выйшлі Кішкі.

Усяго радоў нашых сто шэсцьдзесят. Восем пайшлі шукаць шчасця ў чужых, па Дзвіне, за Дняпром ды за мяжою, а тыя ўсе і цяпер жывуць тут, пашуць і скародзяць зямельку.

*[1913]*

## КНЯЗЁЎНА РАГНЕДА

Тысячу з лішнім гадоў таму жыў у Полацку, на той час сталічным месце ўсёй Беларусі, князь Рагвалод. У Рагвалода былі два сыны і дачка[1] Рагнеда. Рагнеда была вельмі гожая князёўна. Многа княжэвічаў з суседніх старонак пасылалі сватоў у Полацак, просячы рукі гожай князёўны. Прыслаў сваіх князёў літоўскі князь, князь Вялікага Ноўгарада і шмат іншых. Але князёўна беларуская была не толькі гожая, але і гордая, дык за ніводнага з іх не згадзілася ісці замуж.

Кіеўскі князь Уладзімір, пачуўшы аб харастве беларускай князёўны ад купцоў, што ехалі з таварамі, такжа паслаў сваіх сватоў да полацкага князя. Кіеўскія сваты прыехалі ў Полацак з багатымі падаркамі для князёўны. Сваты-баяры расказалі аб багацці і сіле свайго князя, а пасля з нізкім паклонам палажылі перад князёўнай падаркі і прасілі, каб Рагнеда пайшла замуж за Уладзіміра.

Рагнеда адсунула рукой падаркі і сказала:

— Не пайду за рабыніча!

Маці кіеўскага князя была нявольніца — ці, як даўней казалі, — рабыня, і Рагнеда сваімі словамі зняважыла кіеўскага князя, назваўшы яго сынам нявольніцы.

Паслы з нічым ад’ехалі ў Кіеў.

Калі даведаўся аб гэтым Уладзімір, запаліўся гневам вялікім, сабраў войска і кінуўся з аружжам у руках дабываць князёўну Рагнеду. Уладзімір акружыў войскам Полацак, дабыў і спаліў яго. У бітве забіты быў бацька Рагнеды, стары Рагвалод, і два яго сыны, а Рагнеду Уладзімір, як нявольніцу, павёў у Кіеў і прыняволіў яе там выйсці за яго замуж.

Рагнеда доўга жыла ў Кіеве, але вельмі цяжкое было яе жыццё, многа ўсялякага гора яна там перажыла, і за гэта яе людзі празвалі Гараслава, знача гаротніца.

Песня Гараславы

Кругом поле, кругом поле, неба ды трава,
Дзе ні выйду, дзе ні гляну, — скрозь чужая старана.
Тут у садочках па кусточках пташанькі пяюць,
Там у борах, там у гаях — зязюлі тужліва куюць.
Ой, зязюлька, ой, сястронка, пакукуй ты мне.
А ці помняць, ці жалеюць мяне ў роднай старане?
Ох, я! Ох, я! Горка доленька мая!..
Яшчэ я, няшчасна, не радзілася,
Горка доля па дарожцы кацілася!..
Ох, яшчэ я ў пялёнках ляжала,
А ўжо ліха доля за ножкі дзяржала!..
Яшчэ я маленька каля лаўкі хадзіла,
А ўжо ліха доля за ручкі вадзіла.
Ох, як! Ох, я! Горка доленька мая!

*[1916]*

## ІЗЯСЛАЎ

У Рагнеды быў сын ад Уладзіміра, па імю Ізяслаў[2]. Раз Уладзімір вельмі зазлаваўся на жонку сваю Рагнеду і пайшоў у княгініну святліцу з мячом у руках, каб забіць яе. Ізяслаў засланіў сабой маці сваю і сказаў: «Бацька, ты забываешся, што я тут!» Уладзіміру сорамна стала, што хацеў праліць кроў маці пры сыну-недалетку, і ён адкінуў меч.

У 988 гаду Уладзімір і ўсе кіеўцы — і баяры, і просты народ — прынялі хрысціянства. Перад прыняццем хрысціянства Уладзімір прыйшоў да Рагнеды і сказаў ёй:

— Я хачу ажаніцца з грэцкай царэўнай, хрысціянкай. Ты цяпер вольна і можаш узяць у мужы сабе любога баярына.

Рагнеда адказала: «Не гожа княгіні быць жонкаю простага баярына: я хрысціянка даўно ўжо і хачу быць заручніцай князя князёў Хрыста (знача, стацца мнішкай). Адпусці мяне ў бацькаўскую маю беларускую зямлю».

Уладзімір адпусціў яе ў Бацькаўшчыну і Ізяславу аддаў усю беларускую зямлю. Ізяслаў доўга і шчасліва княжыў у Беларусі і пабудаваў горад Ізяслаў, недалёка ад Мінска (цяпер маленькае мястэчка і завуць яго Заслаўе). Па смерці Ізяслава княжыў на Беларусі сын яго, Братаслаў.

*[1916]*

## УСЯСЛАЎ

Усяслаў[3] быў сынам Братаслава, а праўнукам Рагнеды. Яшчэ перад нараджэннем Усяслава да княгіні, маці яго, прыйшлі варажбіты-старцы і сказалі, што яна народзіць сына, каторы праслыве адвагай і мудрасцю далёка па свеце. Калі нарадзіўся Усяслаў, бабкі, купаючы князевіча, убачылі ў яго на патыліцы радзімы знак у кшталце звязды і месяца. Прызваныя на князёўскі двор варажбіты сказалі, што гэтыя знакі на патыліцы князевіча значаць, што ён будзе мець надпрыродную сілу, але іх трэба хаваць ад людскога вока. Дзеля гэтага князь Усяслаў усё сваё жыццё насіў на галаве павязку.

Калі князь Усяслаў вырас і стаў княжыць над беларускай зямлёй, то ён мудрымі войнамі расшырыў межы беларускага княства. Суседнія князі яго шанавалі за мудрыя рады, народ любіў за справядлівасць, а ворагі баяліся яго. Людзі забабонныя расказвалі, што князь Усяслаў перакідаецца ў ваўка і ноччу абягае сваё і суседнія княствы і бачыць усё, дзе што і як робіцца, што вочы яго праз найтаўсцейшыя сцены бачаць і вушамі ён за соткі міль кожны голас чуе. Княжыў Усяслаў 87 гадоў, памёр у 1101 гаду.

### Песня а князю Усяславе

Усяслаў людзей сваіх судзіў,
Парадкаваў князямі,
А па начах, як воўк, блудзіў
Ад краю ў край лясамі.

Ось ён з-пад Кіева бяжыць,
А покуль дзень настане
І золак землю азарыць,
Надморскі край агляне.

У Полацку званы гудуць
На замку ў Сафіі,
Ён сонейку праскочыць пуць
І ўчуе званы тыя.

Нямала й ён перацярпеў,
Хоць духа меў дзіўнога…
Аб ім калісь грымеў прыпеў
Пяўца быліц старога:

«Хоць хітры будзь, хоць борзды будзь,
Як сокал у ясным небе.
А волі Божай не мінуць
Нікому ні ў якой патрэбе».

*[1916]*

## БІТВА КАЛЯ МАГІЛЬНЫ

Сыны і ўнукі Усяслава раздзялілі беларускую зямлю на часці. І стала ў Беларусі замест аднаго многа князёў і княстваў. Князі паміж сабой заўсёды сварыліся і ваявалі. Ад раздзелаў і сварак абяссіліла і абяднела Беларусь, ворагі нападалі на яе і грабілі. Цяжка стала жыць нашым прадзедам. Адны з княстваў пачалі шукаць выхаду з гэтага цяжкага палажэння і дабравольна далучыліся да ўзрастаючага ў моц Літоўскага княства. Іншыя хацелі вярнуць даўнюю славу сваёй Бацькаўшчыне і, злучыўшыся, выступілі проціў літвіноў са сваім войскам. Войскі сустрэліся над Нёманам, каля вёскі Магільны[4], дзе літоўскі князь Рынгольд разбіў беларускіх князёў і загарнуў пад Літву ўсю беларускую зямлю. З гэтай пары беларусы пачалі жыць разам з літвінамі ў адным супольным княстве.

### Беларусь пасля вайны

А на Нямізі — якія жнівы?
Ой, не снапамі ўсцелена ніва,
І не снапоў ляжаць там купы:
Гэта людскія кінуты трупы,
То смерць малаціла мячамі,
Быццам жалезнымі цапамі.
Ой, смерць малоціць, не зважае

І душы з цела вывявае
Там, над Нямігі берагамі.

*[1916]*

## ВІТАЎТ І ЯГАЙЛА

Паўтары сотні гадоў пражылі з сабой беларусы і літвіны ў адной дзяржаве, быццам сям'я ў адной хаце. За гэты час лепей пазналі адны адных і лепей пачалі адны адных шанаваць. Літоўскія князі навучыліся мовы беларускай, беларускай граматы, пісалі ўсё па-беларуску і гаварылі ў сябе дома і ў княжнай радзе па-беларуску.

А былі ў канцы XIV сталецця ў нашай зямлі два маладыя князі: аднаго звалі Ягайла[5], і ён княжыў у Віцебску, а другога звалі Вітаўт[6], і княжыў ён у Троках. Князь Ягайла пасля стаўся вялікім, гэта знача: старшым князем усёй Літвы і Беларусі. Ягайла ажаніўся з Ядвігай, каралевай польскай, і ўсё сваё абшырнае княства хацеў прылучыць да Польшчы. На гэта не згадзіўся зродны брат яго Вітаўт. Ён сабраў паноў беларускіх і літоўскіх, парадзіўся з імі і, сабраўшы войска, стаў бараніцца, каб народ беларускі і літоўскі не быў нічый слуга, а жыў сам па сваёй волі. Вайна была цяжкая і доўга цягнулася, але ў канцы Ягайла прымушаны быў прызнаць Вітаўта вялікім князем над усёй Беларуссю і Літвой, незалежнымі ад Польшчы. Пад старасць Вітаўт хацеў каранавацца на беларуска-літоўскага караля. У 1430 годзе ён склікаў да сябе многа каралёў і князёў на каранацыю. Папеж прыслаў праз паслоў яму залатую карону, але палякі злавілі тых паслоў і адабралі ад іх карону. Каранацыя не адбылася, і Вітаўт з непамысснасці захварэў і памёр. Але і пасля яго смерці доўга яшчэ наш край і народ быў вольны. Пахавалі Вітаўта ў Вільні, у скляпах віленскай катэдры.

### Песня а князю Вітаўце

Ідзе Вітаўт па вуліцы,
За ім нясуць дзве шабліцы.
Слаўны князь Вітаўт,
Слаўны Гаспадару,
Слаўна наша Гаспадарства!

Адна шабля на татара,
Друга шабля для Спадара,
Слаўны князь Вітаўт і г. д.
Гукнуў-пукнуў у падковы:
Гэй, шыхуйся, пан кашовы!
Слаўны князь Вітаўт і г. д.
Стаўляй войска ў бітным ладзе,
Гэй, паслужым, брацця, праўдзе!
Слаўны князь Вітаўт і г. д.
Ударым у бубны, бразнем у мечы,
Усцелем поле трупам нейчым…
Слаўны князь Вітаўт і г. д.

*[1916]*

## СЦЯПАН І ВЯЛЬЯНА

Было то так даўно, што нашым дзядам і прадзедам іх дзяды і бабкі апавядалі гэту гісторыю як даўніну даўнюю, даўно бытую.

…У святой зямлі барысаўскай, каля вёскі Шылян цягнуцца абшырныя Шылянскія, або Кравецкія, балоты. З балот тых выцякае з-пад каменя-краўца рэчка Велія.

От жа, кажа аповесць народная, у вёсцы Шылянах жыў калісь кравец Сцяпан. Слаўны то быў на ўсю Барысаўшчыну здольнік. Шыў ён панам вяльможным бармы[1] і саеты, сяльцам маламожным — світкі і жупаны, а князям харобрым дарагія шаты з грызетаў шмальцаваных, павалок грэцкіх і аксамітаў венецкіх.

Багата жыў Сцяпан-кравец і пашану меў у людзей, а невясёлы быў: туга душыла сэрца маладое, што хоць і багат Сцяпан, і молад, і прыгож сабой, а няма ў яго жаны- красы. Устане хмарны Сцяпан, хмарны за работу бярэцца і хмарны спаць ляжа. І не таму хмарны хадзіў Сцяпан, што не было дзяўчат маладых, гожых, ахвочых за яго замуж выйсці, а таму, што ядыная люблёная-дрыжоная дзяўчынка-краса ад яго ўцякае, а сустрачаючыся, вочкі сівыя ў зямлю патупляе.

Мовіць, бывала, Сцяпан да яе слова ласкавае, а яна загарыцца, як макаў цвет на зары, ды маўчыць. І як жа тут малойцу добраму не тужыць, не хмарыцца, калі сэрца гарыць, як нарог, у горне дабела напалены, і стучыць у грудзях, як молат па кавальні, а палёгкі яму няма ніякае!..

Хмарыцца Сцяпан, бо праўды не ведае. Не ведае таго, што любка яго, у буйных думах калыханая, гэтаксама, як і ён да яе, к яму ўсім сэрцам хінецца ды толькі сарамлівасць дзявочая няволіць нябогу пакрыёма на Сцяпана ўзірацісся, уздыхаці за ім у ночкі майскія, цёпла-парлівыя, паглядаючы з-пад бярозкі касістае на месячык бледны.

Ох, і гожа ж была Сцяпанава нябога Ульяна, катору за рост высокі, стан перагібісты ды краснае лічыка людзі Вяльянай празвалі.

Доўга цярпеў сваю муку Сцяпан, але далей цярпець судзержу не стала, і не стрываў, гаротны. Раз апоўначы выйшаў Сцяпан у поле чыстае, стануў на крыжовых дарогах і прызваў к сабе сілу цёмную. За прыхільнасць дзявочую пабажыўся Сцяпан душу хрышчоную аддаць нячыстаму.

Скалыхнуўся лес ветрам-бураю, з чатырох дарог падымаўся пясок стаўбом-лейкаю, і з туману таго скочыў бес к яму казлом смуродным ды, скрывіўшы хару, смехам гідлівым прадудзеў-прабляяў павітнейко:

— Што зняволіла цябе, красны малойча, мяне клікаці? І чаму стаіш на ростані ў поўнач цёмную? За падарак-мяну, за душу хрышчоную, як сам ведаеш, я змагу зрабіць усё-ўсякае!..

Лекаціць у грудзях у Сцяпанавых сэрца буйнае ды не з сполаху прад нячысцікам, а з нячыстых дум, з паганай радасці: ад чорта нячыстага за душу сваю здумаў зажадаць Сцяпан чэсць дзявочую. Падскочыў чорт, паморшчыўся, адступіўся ўбок, за вухам паскроб і такі адказ прапішчаў кнуром:

— Трудзен доступ нам к чыстым дзяўніцам, а яшчэ трудней нам узяць ад іх чэсць дзявочую. За такі загад тваёй малайцоўскай душы будзе замала! Хіба ты, на ўцеху нам, сам паважышся зняць з грудзей сваіх рэч свячоную: крыж святы, што табе бацька-кум надзеў пры хрысцільніцы, ды, палажыўшы яго на жарновы круг, пабіваці будзеш каменем.

Пабялеў Сцяпан, як палотнішча кужэльнае, трэйцю вясну ў лузе беленае; усё ж радасць чарцям ён прырок учыніць, абы толькі атрымаці ўзамен чэсць дзявочую.

От ідзе Сцяпан у бок дарожанькі, дзе ляжыць жарнавішча, знімае з грудзей крыж святы і, палажыўшы яго на камені, памыкаецца біці каменем.

Занямела ўсё ў чыстым полейку з пераляку-гразы. Панырнуў у хмары месік бледны, заіскрыўшыся, патухлі ўсе зоранькі, аж прысеў да зямлі бор нахмараны, аж зямля здрыганулася, здрыгануўшыся — увагнулася.

Толькі ўзняў Сцяпан угару руку з каменем і ў міг той сам стаўся каменем. А з нябёс Ілля грамавой стралой з громам-грукатам распластаў чорта неабачлівага, толькі серкі чад удушлівы закурэў з яго і паплыў па ваколіцы.

Калі настаў дзень, доўга шукалі людзі Сцяпана ў будынках, у полі і ў лесе. Выйшаўшы ў поле, здзівіліся, убачыўшы на месцы роўнага поля абшырную лагчыну. Ідучы лагчынай, знайшлі каля крыжовых дарог скамянелага Сцяпана, тады людзі ўсё спанатрылі.

Як учула Вяльяна, што Сцяпан абярнуўся ў камень, у непрытомніцы пабегла ў поле і, абняўшы рукамі камень, прыпала да яго і залілася горкімі безудзержнымі слязамі.

Плакала яна дзень, плакала ноч, а ўсходам сонейка, чуць было золак на ўсходзе займаўся, са слёз яе з-пад каменя прабілася крыніца, а сама Вяльяна Богу душу аддала.

Вяльяну хораша пахавалі, ухаўтурылі і на яе магілцы пабудавалі цэркаўку. І цяпер на Вяльянінай магілцы ў Шылянах стаіць царква.

А крыніца з-пад каменя разлілася па ваколіцы, затапіла ўвесь абшар, дзе ўвагнуўшыся была зямля, ператварыла тую нізіну ў непраходнае балота, каторае завуць Шылянскім, або Кравецкім, і паплыла ў свет рэчкай празрыстай, харошай, як і сама Вяльяна калісь была. Рэчку гэту адразу, у памяць Вяльяны, Вельяй назвалі і гэтак завуць яе дагэтуль, толькі чужынцы, не ведаючы гэтай гісторыі, перайначылі крыху яе праўдзівае імя, завучы Віліей.

*[1916]*

## ЮГА І ГРАМАВІК

Гадоў таму капы са дзве будзе, як у вёску Дзянісава прыйшла, неяк пасля Змітраўскіх дзядоў[1], тоўстая баба. Сюды-туды пакруцілася па вёсцы і шусь да Прахора ў хату, дый кажа:

— Я не тутэйшая, але чула аб вашэці, што чалавек добры, і прыйшла папрасіцца на кутніцу. Каштаваць я вам нічога не буду, яшчэ і вы каля мяне заробіце, калі за мае грошы пракорміце мяне.

Прахор падумаў, парадзіўся з жонкай і прыняў тую невядомую бабу да сябе ў хату.

Баба адразу дала Прахору сотню рублёў «на руку». Прахор дачакаўся да вечара рады, пайшоў спаць.

На другі дзень, устаўшы, садзіцца сям'я снедаць, калі хопяцца, ажно з чатырох булак хлеба, што былі ў істопцы, і паміну няма. Гэтаксама няведама куды шчэзлі два сыры і цэлы кумпяк свініны. У хаце, ведама, гоман узняўся, бо ўсе думалі, што ноччу злодзей улез у істопку. Ажно тут будзіцца новапрынятая кутніца і кажа:

— Супакойцеся, гаспадару, гэта я ўночы вячэрала. — Павярушылася да сцяны і захрапела.

Усе толькі пераглянуліся між сабою, паківалі моўчкі галовамі і чакалі, што далей будзе.

Хлеб тады танны быў, то што Прахору? Абы толькі грошы! І баба не шкадавала грошы. Прахор тое толькі і рабіў, што скупляў па ўсёй ваколіцы збожжа, мяса і ўсякія іншыя харчы ды карміў сваю кутніцу. Гэтак, дачакаўшы Каляд, Прахор выкупіў ужо ўсе харчы ў сваёй ваколіцы і каля Запуст павінен быў ездзіць з фурманкай па харчы ажно пад Задарожжа, Друю і пад Глыбокае[2].

А зіма настала сярдзітая: з дня ў дзень траскучыя марозы. Найстарэйшыя людзі не памяталі гэткай сцюдзёнай. На Вялікдзень і то яшчэ зіма не ўнімалася: снягі на палях ляжалі гурбамі і рэкі стаялі. На Праводную людзі на могілкі хадзілі памінаць Дзядоў па снягу і ў кажухах.

І хоць у Прахора грошы было на закуп харчоў колькі трэба, але купіць штораз цяжэй было. Страх яго агарнуў, што гэта за пражорлівая баба з'явілася ў яго.

Гэтак думаючы, едзе ён германаўскім трактам на Пагост[3], і якраз у Падорскай пушчы[4] коні спыніліся і не йдуць далей.

Ён іх лейцамі і пугай, а тыя ані з месца! Вылез Прахор з развальняў і падышоў дарогай паглядзець, ці — барані Бо- жа — не воўча руя заступіла яму дарогу. Толькі ён гэта адышоўся з двое гоняў, ажно бачыць: выязджае з лесу нейкі малады чалавек на белым кані. І чалавек і конь у залатой зброі, аж мігцяць у вачах. Прахор гэтак спужаўся, што не мог крануцца з месца, а незнаёмы рыцар пад'ехаў да яго і кажа:

— Не бойся мяне, Прахор, я — Грамавік, прыяцель і апякун людзей і вораг іхніх ворагаў. Баба, што ў цябе жыве, няпростая. Гэта Баба-Юга, яна па начах у жалезнай ступе ездзіць і холад на зямлю наганяе, а памялом з хмар снягі страсае. Ты павінен памагчы мне забіць яе, бо іначай саўсім лета на свеце не будзе, і народ увесь вымра з голаду і холаду. Але пакуль яна ў людскай хаце, або ў ступе сваёй раз'язджае, я не магу забіць яе. Ты павінен прымусіць яе выйсці днём белым на бязлюдную ваду.

Прахор абяцаўся ўсё зрабіць, каб памагчы звесці яе са свету. Завярнуў свае коні і, прыехаўшы дамоў, кажа бабе:

— Худа, бабка, нідзе ўжо ніякіх харчоў няма. Усю аколіцу ператрос і не купіў нічога. Спрабую я сазваць людзей і закінуць тонь у возеры, мо хоць рыбы дабудзем.

Насклікаў Прахор людзей з сваёй і суседніх вёсак, і цэлы дзень рубалі прорубкі, пакуль не асеў лёд. Закінулі невад пад лёд, і Прахор пайшоў да бабы.

— Бабка, — кажа, — мы закінулі невад, але не здужаем выцягнуць яго, відаць, рыбы набралася поўна, ці не паможаш нам?

— А ці не мокра там? — пытаецца баба.

— Эх, дзе там, суха! Мальцы крыху каля палонак наплюхалі, а так суха…

Баба туды-сюды пакруцілася на хаце, аблізалася і кажа:

— А ці не хмарна на дварэ?

— Не, дзе ж там, сама бачыш — сонца свеціць.

Толькі баба дайшла да сярэдзіны возера, як на небе паказалася маленькая хмарка. Калі пачалі цягнуць невад і ад яго палілася вада па лёдзе, баба, глянуўшы ўверх на хмарку, крыкнула нема і, кінуўшы невад, кінулася ўцякаць да берага.

Ажно разарвалася хмара, і з яе вылецеў коннік у залатой зброі на белым кані і заступіў бабе дарогу. Коннік быў гэткі бліскучы, што ажно на яго глядзець было нельга.

Убачыўшы конніка, баба скінулася ў аграмадністую змяюгу, але не здужала яна і тройчы перакуліцца, як праменны коннік усадзіў ёй у горла канец сваёй дзіды.

Змяюга скорчылася, зморшчылася і рассыпалася ў попел.

Назаўтра пасля гэтага ўдарыла гэткае цяпло, што снягі ў вокавідзі патаялі, забурліла вада ў ручаях і рэках, а на трэці дзень людзі ўжо выехалі ў поле з сохамі.

*[1917]*

## ПРЫПАВЕСЦЬ АБ СТАРЫМ МУЖУ І ГОЖАЙ ДЗЕВЕ

Быў муж яры, векам стары, барадой сівы, сцягнамі жывы, косцю харобр, хуццю гарач, з чартом у ледзвях за поясам. І была дзева малада, гожа, як у садзе ружа. Стаў стары муж сватацца да гожай, маладой дзевы, кажучы:

— Пайдзі за мяне, дзевухна, замуж — будзеш мець слуг і служак многа, і коней, і адзення дарагога, будзеш у мяне ў саетах хадзіць, піць, і есць, і весяліцца.

І сказала дзева старому мужу:

— О, неразумны стары дзеду, сівабароды. Калі мяне, маладу дзеву, возьмеш замуж за сябе, жывату майму будзе няўцеха, сэрца тваё амягне, вочы памеркнуць, сцягны аслабеюць, косці ссохнуць, сівізна пажаўцее, і нягодзен станеш ты маладосці маёй. Пры табе, старым, я сама целам зашчырэю, а сэрцам разгарэю і, ад распалення натуры, шукаць іму сабе ўцехі любіцельнай: маладога юнака, добрага малайца і ташнату маю разважыць стану з ім, а не з табой, старым смердам.

І адказаў стары муж дзеве:

— Нашто, дзевухна, жорсткімі словамі мяне, як дрэва лістам, укрыла? Удому ў мяне паняй станеш, усяку раскошу і выгоду мець будзеш. Сядзеш, мая міла, у мураваным палацы на многацэнных кілімах, саграваці буду цябе ў лазні на высокім палочку, прыбяру цябе, як чысту краску ў полі, як паву, птаху дзіўную, як раку Бярозу пры дуброве, між горкамі. Спачываць у мяне будзеш на пярынах двойчастых, пад чырвонымі кітайкамі. Піць і есці са мной будзеш многаякія асалодлівыя стравы. А схочаш весяліцца — устрою банкет і загадаю ўсяку пацеху іграці і гусельнікам, і трубнікам, і гожым ладам дзяўчатам прад табой тан вясці карагодлівы, і пачну цябе цешыць і не дам жывату твайму ташніцца па ўсе дні. А не схочаш воляй пайсці за мяне, — бацьку твайго і маці тваю абдарую дарамі мнагацэннымі, і яны цябе прыняволяць тады.

І сказала яму дзева:

— А калі адалееш айца майго і маці маю мнагацэннымі дарамі і выдадуць мяне паняволі, я тады буду ўсё чыніць не па твайму хаценню, а супраць тваёй волі. Слоў тваіх не паслухаю і вялення твайго не споўню: калі скажаш рабіць кіс- ла — зраблю прэсна, а мяккага табе хлеба ў мяне не пытаць, будзеш, стары смердзе, скарынкі гладаць! Затое добраму малайцу, свайму парадніку, мяккія, крупчатыя пірагі пацукраныя пастаўлю, ды дулі на талерку, ды віно ў кубку, а зверх таго яму лябяжая пярынка пад бок, чыжовая падушка пад галаў, саболяе акрывала паверх, ды я, сама малада, поплеч. А табе, старому смерду, спаць у мяне на памосце, у кутніку. Стаяць я буду прад мілым малойцам з трывогай ды з боязню, каб мяне мілы любіў, пачаста драчыў. Мамкі і нянькі будуць мілага на руках насіць, а табе, старому смерду, ванючаму духу, пабярэшчанай хары, татарскай патыліцы, вісільніцкай шыі, сомавай губе, ракавым вачам, апухлым пятам, сіняму бруху, згрэбнай барадзе, жоўтай сівізне, кіслай прастаквашы, гнілой смятане — сядзець на печы, каб у цябе, смерда, у

шыі скрыпела, у горле храпела! Каб жыў ты, што жук у балоце, што жаўна ў дзюпле, што чарвяк за карой, што свярчок за печчу.

І кажа стары муж:

— Калі ты, дзевухна, за мной будзеш, ты такой не будзеш.

Ды пачаў стары муж сватацца, палавіну маетнасці прасвістаў, пакуль за сябе маладу дзеву ўзяў.

І сталася малада, гожа жонка старому — дзенная і ночная турбота ды касцям сухота. Ад людзей стары муж уцякае, што маладу жонку мае, у бяседзе не сядзе, да людзей не прыстане, на кожнага маладога крыва гляне, як ліхі сабака з-пад лаўкі, не гаворыць, дзьмецца. Сам сабе абрыд стары смерд і на трэці год павесіўся.

А маладая дзева выйшла замуж за добрага малайца, праклінаючы старога, мілуючы любага.

Старыя мужы! Да вас мова: у спакоі век жывіце, маладых жанок не бярыце.

Гэтай прыпавесці канец, дзевам гожым чэсць і слава, а мне каравай сала.

*[1917]*

## ВЕКАВЕЧНАЯ МЯЖА

Жыў калісь у нашай зямлі князь Радар, які спярша кавалём быў, а пасля ж яго выбралі ў князі. А ў ляцкай старане жыў кароль Лях, у якога быў змей Крагавей. Панадзіўся змей Крагавей у нашу старану хадзіць, прыйдзе, людзей паядае, а што не з’есць — пабівае. Думаў-думаў Радар, што рабіць? І пачаў ён лемяшы каваць ды дубы ламаць: здумаў грамадную саху зрабіць. Кожны лямех па пяцьсот пудоў, а паліца са старога дубу, а вобжы з найбольшых сасон, якія былі ў пушчы. Зрабіўшы саху, занёс Радар у поле, палажыў яе пад лесам, а сам — давай камяні цягаць ды вежу мураваць. Замураваўся ў каменнай вежы, запёрся за трое жалезных дзвярэй, а дружыну схаваў пры сабе. Прыбягае змей, а Радар яму кажа:

— Стой, змей, не чапай людзей, а вось калі ты пралізнеш гэтых трое дзвярэй, то я сам табе на язык сяду і ты мяне з’я- сі, — тады рабі што хочаш у маёй старане.

— Добра, — кажа змей.

І ён — раз лізнуў, другі раз лізнуў і пралізаў трое дзвярэй. Тады Радар — цяпель! — ды за язык яго кляшчамі, ды давай

гваздзіць яго па галаве стопудовым молатам, а дружына чым барзджэй упрагаць змея ў саху.

Змей вярцеўся, круціўся, а ўрэщце скарыўся.

— Давай — кажа, — будзем мірыцца!

— Добра! — кажа Радар. — Давай мірыцца! А каб нам назаўсёды ведаць, дзе чыё, то валачы саху, правядзём граніцу.

І вось аралі яны лес, аралі луг, аралі поле і даараліся да вялікай ракі, тут Радар крыкнуў змею, кіруючы яго ў ваду:

— Гайда, бух! — Знача, каб ён скакаў у раку.

Змей скочыў з прыгорка, ледзь не ўтапіўся, але сахі па- збыўся, яна сарвалася з хамута і станула рагачамі ўверх. Рад змей, што жыў застаўся, пыліць не азіраючыся аж дамоў, у нару пад гарой, дзе жыў князь Лях. Як убачыў свайго князя змей, то, яшчэ ў страху тым, здалёк крычыць яму:

— Помні, Ляша, па Бух наша! — і як толькі дапаў свае нары, то і апрогся.

З гэных часоў на векі-вечныя тая разора, якую празвалі Бухам, ці Бугам, сталася граніцай паміж нашым і ляшскім краем. А вежа, якую будаваў тады Радар, і дагэтуль стаіць у мясцовасці, Камянцом званай. Доўга і тыя жалезныя лемяхі тырчэлі з ракі і цяпер, кажуць, ляжаць там жа на дне.

*[1917]*

## БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

У Тураве жыў калісь князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры, дык і людзей каля сябе збіраў усё разумных ды мудрых.

Раз князь з гасцямі сваімі паехаў на ўловы біць тураў і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўсялякай дзічыны, і госці хацелі прыпыніць лавецтва, але Яраслаў, якраз у той момант, калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў аграмаднага старога тура, забыўшы ўтому і гасцей, пагнаўся ён за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэлаў упіліся ўжо ў цела тура, але звер з падвойнай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб насцігнуць тура. Раптам тур спыніўся і абярнуўся ў старану князя. Конь, з разгону, наскочыў на тура і зваліўся, прабіты рагамі, прыціскаючы сабой князя. Яшчэ момант — і князь паплаціўся б жыццём на месцы. Але на гэтую хвіліну падаспеў загоншчык Ранцэвіч, ён зняў з сябе світку і кінуў яе на вочы туру ды хутка нажом ударыў звера ў самае сэрца. Тур, нежывы, рынуў на зямлю.

Князь выкарабкаўся з-пад каня і, дзякуючы загоншчыку, сказаў, каб той прыйшоў у абоз да князя па нагароду.

Калі загоншчык прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку, напоўненую золатам і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата, але жыццё даражэй золата, бяры колькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ён узяў пасашок, разгарнуў чырвонцы так, каб пасашок апёрся аб дно ў скрынкі, і сказаў:

— Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэтае тваё залатое багацце не вечнае, калі-небудзь прыйдзе канец яму. Дый золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзеш.

Засмяяўся загоншчык і кажа:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь усунуў у зямлю.

— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма, яно ратару больш вартае, чым тыя чырвонцы. Грошы могуць украсці, а гэтага ніхто не ўкрадзе.

Засмяяўся князь, падабалася яму мудрасць загоншчыка, і кажа:

— Праўду кажаш, дам табе зямлі па дзесятае пакаленне.

І, увайшоўшы ў шатро, напісаў князь Яраслаў дарчую грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю ваколіцу Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у вёсцы Вялемічы, жывуць Ранцэвічы і ў вялікай пашане, у цыновай трубцы, перахоўваюць, з роду ў род, дарчую грамату князя Яраслава, а паказваючы яе, апавядаюць легенду аб сваім мудрым прашчуру.

*[1918]*

## КНЯЗЬ БАРЫС І ЧОРТ

Князь Барыс мураваў у Полацку царкву і, ну, ведама, — гэткая будыніна! — запазычыўся і задаўжаўся кругом. Няма ўжо больш дзе пазычаць! Дык пайшоў урэшце да чорта і папрасіў у яго грошы, кажучы, што на вайну патрэбна. На нішто добрае чорт, ведама, не дасць, але на вайну — пазычыў.

Мінуў год, другі, дзесяты. Барыс не аддае чорту грошы. Здакучыла чорту хадзіць, урэшце ідзе ён да свайго старшага, гэтаксама чорта, радзіцца, што рабіць?

— Што ж, — кажа старшы чорт, — дагэгуль ён хітрэй за цябе: бо ад чорта грошы ўзяў ды Богу аддаў, і ніяк ты з яго не спагоніш! Хіба ён сам згодзіцца на загадкі: ты яму загадай тры загадкі, калі ён адгадае, дык яго грошы, а не адгадае — бяры яго сюды, то мы тут яму пакажам!

Прыйшоў чорт да князя пад вакно, угаварыўся аб загадкі, усё як яму старшы казаў.

— Добра, — кажа князь, — загадывай!

— Што ўдвох? — загадаў чорт.

— Дарога карацей, — адказвае князь.

— Што ўтрох?

— Малаціць лягчэй.

— Учатырох? — пытае збянтэжаны чорт.

— Ці чэрці б у цябе грошы прасілі, каб усе чатырком малацілі!

Тут чорт і ўцёк, бо князь згадаў усе яго загадкі.

*[1923]*

## АБ СЫТОЙ СВІННІ

Тоўста свіння стала, уся пайшла ў сала, пішчэць і то перастала, а бегаць ёй хочацца горш першага. Пайшла свіння к доктару. «Так і так», — кажа. Доктар загадаў ёй травамі лячыцца. «Трава, — кажа, — супроць сала здарова».

Стала свіння травамі лячыцца. Ад рання да ночы траву жарэ, толькі сала расце.

Пайшла свіння ізноў да доктара. «Так і так», — кажа. І доктар загадаў ёй вадой лячыцца. «Сплыве, — кажа, — сала вадзіцай».

Стала свіння ваду піць, вада не тахціць, ад вады горш рассыцела.

Пайшла свіння ізноў да доктара. «Так і так», — кажа. А доктар вялеў ёй на сонцы ляжаць.

— Стопіць табе сонейка сальца з мясам.

Пролежні наляжала, а яшчэ сыцей стала. Што рабіць?..

І пайшла тады свіння да знахара. А той ёй кажа: «Каб стала ты, свіння, здарова, не вада табе, не трава табе, не на сонцы ляжанка, а пуга ды палка ды работу да поту,— дык сала б і спала».

*[1923]*

## ДЗЕД І ЎНУК

Жыў дзед, ды такі працавіты, што аж чорту стала завісна. І быў у дзеда ўнук, дзяцюк, у хаце не сядзеў, працаваць не хацеў, не памочнічаў, а паўночнічаў. Дамоў толькі выспацца прыходзіў, а то ўсё на ігрышчах ды ў карчме.

Доўга дзед цярпеў ды ўгаварываў, не прыходзіць дзяцюк у розум. Узяло дзеда за жывое, ды і чорт з завісці нацяміў. І прыдумаў дзед так: «Што ўнук, то дармо, а на мне ўсё ярмо, дык не бываць таму з сяго часу».

Узяў дзед усё дабро, і грошы, і адзежу, у карчму. І пачаў дзед гарэлку распіваць ды дабро прапіваць. Спярша ўнук абрадаваўся: кампаніі, маўляў, прыбыла. А пасля, як у хаце нятопленай ды нямеценай праспаўся ды ўбачыў, што ні ладу, ні дабра, прыйшоў унук у розум. А там дзед усю ноч гарэлку піў ды народ смяшыў. Ходзіць дзед па кружалу, казыраецца. Стаў унук пад вакно, угаварвае:

— Ідзі, —кажа, — дзедка, дамоў, поўна хата шумы[1], як табе, старому, не сорам!

А дзед яму:

— Быў я да сяго часу дурны, а цяпер не такі. Цяпер я ў карчме засеў, а ты што хочаш, то і рабі!

І стала з таго часу па-новаму: дзед піў, прапіваў, а ўнук працаваў.

Чорту ўсё адно, што дзед, што ўнук — не мінуе яго рук.

*[1923]*

## ПЕВЕНЬ І ГУСЯ

Заглядзеўся Певень на Гусю, і да таго сказіўся, што не ў пару пяяць стаў. Куры вельмі ўстрывожыліся, гаманілі, раіліся. Пеўня лячылі — не прыходзіць у розум.

Усе саромелі:

— Лепей бы ты, Певень, гарэлку піў.

Раз у такі непрыстойны час запяяў Певень, што самому сорамна стала. І пайшоў Певень да знахара.

— Памажы, — кажа, — так мне Гуся палюбілася, што сонейку пяяць забыўся. Куры праходу не даюць, жыццё абрыдла!

— А якая ж тая твая ўлюбка? — пытае знахар.

— Ах! Мая краля-саколка сабой высока, галасок звонкі, хахалок тонкі, насок жоўты, вочы, як зоркі, ножкі чырвоныя, перайкі аксамітныя… Па травіцы ідзе — каліўца не пагне, а як сядзе на рэку — кука-рэку!

Бачыць знахар: саўсім спракудзіўся Певень, напушчанае думае, і кажа:

— Ну, дурны ж ты, Певень! Ты на сонейка доўга глядзеў і асалавеў… Ты што мне гэта нагаварыў? З тваіх слоў выходзіць — жар-птаха! А твая ўлюбка ўся як ёсць Гуся, ды і толькі! Такжа хараство знайшоў! Сабой гарбата, нос як лапата, вочы, як пацёркі, па траве як ідзе — зямля гудзе. А ўжо што да ку-ка-рэку, дык во табе, Певень мой, сказ: не тады ты, Певень, павінен крычаць ку-ка-рэ-ку, калі Гуся садзіцца на рэку, а павінен ты пяяць, пецел, як яснае сонца прымеціў.

Засаромеўся Певень, але ўзваротам пайшоў паглядзець на Гусю.

*[1923]*

## АБ МЯДЗВЕДЗЮ І АСІНАВЫМ КАЛУ З ГОЛАСАМ

Здружыліся мядзведзь ды асінавы кол з голасам. Здружыліся і разам на ўловы ходзяць. Мядзведзю добра: што сам задзярэ, што кол заб’е, а ён, мядзведзь, і схрапае. Так яны два гады лавечылі, многа звяр’я накалечылі, а на трэці год апамятаваўся кол ды кажа:

— Я, — кажа, — такжа хачу сваё здаволенне мець.

— А чаго табе трэба? — пытае мядзведзь.

— Ды я і сам, — кажа кол, — не ведаю!

Думалі, думалі — кол ды мядзведзь, — нічога не прыдумалі, адзін дурань, другі кол. І пайшлі яны да вароны радзіцца. А варона кажа:

— Нельга, — кажа, — калу ніякага здаволення мець! Калі б’е ды не рад, — гэта ўжо апошняя справа… Ды ў кала на іншае і душы не хопіць. Мядзведзю — таму вун колькі бруха дадзена, душы, жары ды здавальняйся…

Як пачуў гэткія словы асінавы кол, дык да таго зажурыўся, што мядзведзю чэрап пашчапаў і сам аб яго разбіўся.

Гэтак і скончыліся іхнія ўловы.

*[1923]*

## АБ ЧОРЦЕ БЯЗРОДЫМ

Зажурыўся чорт бязроды: «Чым я не як усе?» — і пайшоў на зямлю радні шукаць. Туды ды сюды — нет ведама ку- ды. «Пайду, — думае, — да савы, яна птаха начная, можа, і радня».

Прыйшоў бязроды да савы. «Вось, — кажа, — увесь я тут! А можа, ты мне цётка?»

Порскнула яму сава паміж вачэй.

— Пайшоў, — кажа, — паскуднік, я хоць начная, ды хіба ж я такая? Я мышву лаўлю, а душ не гублю!

Вот бязроды і думае: «Пайду я да мядзведзя, ён цяпло любіць, можа, і радня». Прыйшоў чорт да мядзведзя: «Вось увесь я тут, можа, ты, мядзведзь, мне дзядзька?»

Як не вызверыцца мядзведзь:

—Не ўводзь у напасць, ты, чортаў сын, а то скуру здзяру! Я хоць у кажуху груб, а ты — душагуб!

Чорт і думае: «Пайду я да ваўка».

— Ось, — кажа, — я ўвесь тут, можа, ты мне брат?

Як заляскае на яго воўк зубамі: «Пайшоў к чорту, — ка-жа, — а то раздзяру! Я біць-то б’ю, ды душ не гублю, мне чорт не брат!»

Куды ж чорту ісці, калі ўсё звяр’ё добрае?

Глядзіць бязроды — чалавек дровы бярэ, дай, думае, хоць на смех папытаюся.

— Здароў, — кажа, — чалавеча, вось увесь я тут. Можа, ты мне бацька родны?

А чалавек падумаў, падумаў ды і кажа:

— Ты што ж, байстро бязродае, ці што, будзеш?

— А кшталтам гэтага, — кажа чорт.

А чалавек падумаў, падумаў і пытае:

— А грошы ў цябе, чарцейка, ёсць?

Бязроды яму:

— Гэтага дабра ў мяне поўна гара!

Як не абойме чалавек чорта ды як не загалосіць:

— А сыночак ты мой родненькі, хоць ты і з рагамі, ты з грашамі, хадзі ж да мяне ў хату!

І зажылі чорт з мужыком грашовай сілай.

*[1923]*

## ПАД СТАРАСЦЬ АДГУКНЕЦЦА

Пачула маці, што Антук яе плача, — хлопчык быў ужо сямігодка, крумяненькі, — выскачыла ў надвор’е і пытае:

— Чаго ты, сынок?

— Певень на нагу наступіў!

— То што ж за бяда: певень не конь, нагі табе не скалечыў.

— Ага, не скалечыў, а як пад старасць, то й гэта адгукнецца.

*[1923]*

## ЛІХАЯ БАБА

Быў селянін і меў жонку: так-то, паглядзеўшы, і нішто баба, але ліхая, што ратунку няма. Цярпеў-цярпеў мужык, а ўрэшце надумаў даць навуку бабе і вось, араўшы ў полі, выразаў добры дубец і чакае, калі яна есці яму прынясе. Ажно, бачыць, і баба ідзе. Ідзе ды на ўсё поле галёкае — лаіць мужыка на чым свет стаіць. Прынесла, паставіла спарышы і, пакуль дзед дабраўся адлупцаваць, яна, на злосць яму, скочыла з берага ў амут і ўтапілася.

« Ну і добра, — думае сабе дзед, адным ліхам меней будзе на свеце», — і не пайшоў выцягаць бабу.

Мінуў год. Узноў, вясной, арэ той селянін на тым самым палетку, каля ракі. І думае сабе: хоць яна і ліхая баба была, а ўсё ж такі шкада, што ў амуце тады ўтапілася. Дай, думае, схаджу паўзіраюся хоць на той амут, дзе яна, бедная, Богу душу аддала. І так, сам у сабе разважаючы, падыходзіць да таго месца, куды год таму баба скочыла. Ажно чуе, што нехтась такі ў амуце плача і стогне.

«Няйначай баба жыва яшчэ, — падумаў дзед і чым барзджэй пабег па лейцы. Рад у душы дзед, што-ткі баба жы- ва. — Пэўне ж, яна цяпер і такой ліхой ужо не будзе…»

Прынёс лейцы, закінуў у ваду і чуе, што нехта торгае. Ад радасці і сіл мужыку прыбыло, цягне, спяшаецца… Аж, выцягнуўшы, глядзіць, што гэта зусім не яго баба, а самы істы чорт. А той — бух! — на калені перад дзедам і давай дзякаваць, што выратаваў.

— Ад каго я цябе, чорта, выратаваў?

— А ад тваёй жа бабы: як трапіла яна, год так таму назад, у мой ціхі амут, то ў пекла яго абярнула і мяне на нет замучыла!

Пачуўшы гэта, пабаяўся дзед другі раз закідаць лейчыну ў амут. А з чортам дык і нішто: падружыўся дзед і доўгі час разам поле гаралі, пняўё карчавалі і сварыцца нават не сварыліся.

*[1923]*

## ВАРОНА І РАК

Ляціць варона па-над ракой і каркае, ды так каркае, што не ўцярпеў рак сядзець у сваей норцы і вылез паўзірацца, чаго яна галасуе. Вылез рак і пытае вароны:

— Чаго ты гэткі гвалт падняла?

— Чаго я гвалт падняла? А як жа, яшчэ ён, у каторага галава не з таго канца засечана, пытаецца ў мяне! Чаго я гвалт падняла? Кожны будзе крычаць на маім месцы: гняздо, у якім я вясну веснавала і лета летавала, цяпер суздром усё засмечана.

— А куды ж ты цяпер ляціш? — пытае рак.

— Новага гнязда шукаці!

Падумаў-падумаў рак дый кажа:

— Э, кумка, дарэмны твой клум і турбота, бо ты ж і новае гняздо засмеціш…

*[1923]*

## ВУЖ КУРТАТЫ І МУЖЫК БАГАТЫ

Сярод дрыгвы жывучы, без вужа ў хаце не абыдзешся: за лыжку малака ён пільнуе гаспадара, каб гадзюка ў хату не ўлезла. Кот — граза мышэй, а на змей — гадуй у хаце вужэй.

У аднаго багатага мужыка быў стары вуж, ужо аж сівы ад старасці, і як толькі чэлядзь сядзе за стол, то і вуж пад стол, каля ног увіваецца, да дзяцей дабіраецца, якія малако ядуць. Думаў-думаў мужык дый надумаўся: вуж стары, гадзьву не палоша, малако ж лакоча, трэба яго забіць! І, узяўшы сякеру, гак па вужу! І адсек яму хвост.

Вуж уцёк у нару і, прыждаўшы пару, укусіў мужыковага сыночка. Вуж не злы, але мсціцца за крыўду. Сын памёр мужыкоў, і як ішло перш рукой у яго ў гаспадарцы, так цяпер, што ні крок, то бяда: то агонь, то вада глуміць працай набыты дабытак. І збяднеў той мужык, а таму, што яму стары вуж то ўжо не спрыяе. Што

рабіць? Трэба, думае, з вужам мірыцца. Вось ідзе да нары, дзе сядзеў вуж стары.

— Давай-ка, — кажа, — мы будзем з табою гадзіцца!

А вуж з норкі глыбокай дае гэткі адказ:

— Не, ужо, браце, не час нам з табою аб згодзе гукаці. Табе сына твайго аніяк не забыць, мне ж заўсёды баліць тое месца, дзе быў калісь хвосцік. У нашай дружбе цяпер, ты мне, браце, павер, шчырасці даўняй не будзе. Каб узаемна сябе нам больш зла не рабіць, ты не руш больш мяне, а цябе я таксама не буду чапаці. Я ў нарэ, а ты ў хаце, будзем век дажываці.

*[1923]*

## ЧАМУ ПАНАС СТАЎСЯ ВАЎКАЛАКАМ

З кожным няшчасце можа такое здарыцца, як то было з нашым Панасам. Запрасілі сватам на вяселле, а чараўнік, Граўша, якога ён чаркай абышоў, па назласці перакінуў яго ў ваўкалака. І пабег наш Панас воўкам у лес. Тры гады ваўкалачыў, а на чацвёрты ў чалавека абярнуўся. Вярнуўся ў вёску, пажыў-пажыў між людзей дый кажа:

— Не, тры гады я з ваўкамі ў стадзе жыў, па-воўчу выў, няшчырасці ж я тамка не бачыў. Воўк злы, як галодны, а пад'еў — злосць уся ад сэрца адляжа. Лепш з ваўкамі ў стадзе, як з людзьмі ў грамадзе, бо людзі чым болей маюць, тым болей жадаюць: другі-то і з бацькі ў дамоўцы звалок бы кашулю! Вочы вашы завідушчыя, рукі заграбушчыя, сэрцы ж не знаюць меры ў хаценні.

І згробся дый пайшоў назад у лес і ўжо да канца свайго жыцця ваўкалачыў.

*[1923]*

## ЯК КУЗЬМА СТРЭЛЬБУ РАБІЎ

Што наш брат вельмі вынослівы, цярплівы — гэта ўсім ведама. Быў у нас Кузьма-каваль, і заманулася яму немагчымае: самому стрэльбу скаваць. Ад рана да вечара мяхі раздуваў, жалеза каваў, рулькі вярцеў і ўсе няўдачы цярпліва выносіў тры гады, небарака. Усё ніяк яму не ўдавалася зварыць жалеза роўна на

ўсёй рульцы. Што не ўдасца — ён нанова яе перакувае, пасуе, мяркуе, лютуе, усё прыгаварваючы:

— Не, ткі даканаю я цябе, гадзіна!

І такі даканаў: рульку на чацвёрты год зварыў, абтачыў, што глядзець проста люба! Ложа даправіў, курак даставіў. Не стрэльба, а проста здзіўленне! Трэба ж здарэнне, вазьмі ды зламіся шрубочак пры курку! Тут Кузьме раптам усё сэрца спыхнула: усю крыўду ўспомніў сваю даўгалетнюю і са злосці вялікай стрэльбу паламаў, горан разваліў, мех парэзаў і кузню падпаліў.

Не дарма ж кажуць: беларус цярплівы — цярпіць-цярпіць, а ўрэшце раптам хапае сякеру і зразу — абухом па лбе валіць!

*[1923]*

## ЛЕПЕЙ ВОЛ ЯРЭМНЫ, ЯК ЖАРАБЕЦ СТАЕННЫ

Былі ў аднаго гаспадара два парубкі: Якім і Трахім. Якіму плаціў гаспадар удвая даражэй, чым Трахіму. Якім быў павольны. Трахім быў круты, шпаркі. Як прыйдзе свята, то Трахім і прыстане да гаспадара, чаму той яму менш плаціць, чым Якіму.

— Я, — кажа, — і ў рабоце спраўны і да пасылак шпаркі, а ён, Якім, робіць, як трач[1] ківаецца.

— Добра, — кажа гаспадар, — мы пробу зробім, калі ты лепш за яго справішся, то табе будзе яго бонда[2], а яму твая.

— Добра!

Прыждалі лета, прыйшоў час сенакосу. Вось гаспадар кліча парабкаў і кажа ім:

— Пойдзеце, хлопцы, у луг касіць. Ты, Трахім, пойдзеш у першым пракосе, глядзі не дайся абагнаць Якіму.

— Добра!

Выйшлі парабкі на луг, у першым пракосе стануў Трахім, у другім Якім. Пусціліся касіць. Трахім косіць усё ча-ча-чах-тса! ча-ча-чах-тса! А Якім — ча-а-чах! ча-а-чах!

Да снедання на цэлы прагон абагнаў Трахім Якіма, але і сам увесь да пят потам зліўся. А Якім — нішто, нат не ўпацеў. Да абеду абодва парабкі зраўняліся, бо, спярша хапіўшы, Трахім зусім асалавеў. У падвячорак як ні стараўся Трахім, не мог уцячы ад Якіма, які па пятах яму ўжо касой пазваніваў, так што хоцькі-няхоцькі павінен быў пусціць Якіма наперад. Вечарам жа Якім, гэтаксама роўна касой махаючы, як і раніцай, быў на цэлыя гоні наперадзе.

Прыйшоў гаспадар, паўзіраўся на сваіх парабкаў і кажа:

— Работу трэба браць не рацівасцю, а цяглівасцю. Не той працуе, хто, як стаенны жарабец, танцуе, а хто, як ярэмны вол, аднэй натугай можа доўга цягнуць.

*[1923]*

## СМЕРД І ВАЯВОДА

У крыўскага князя Усяслава, якога за мудрасць яго чараўніком звалі, быў ваявода, які штодзень раніцай прыходзіў даваць князю справаздачу з таго, што рабіў учора. Смерд, прыбіраючы княжую святліцу, палючы ў печцы, кожны дзень чуў усю работу ваяводы і бачыў, што ў гэтай рабоце нічога незвычайнага не было. Усё, што рабіў ваявода, ён таксама патрапіў бы рабіць. Вось ён і давай казаць князю:

— Чаму я, княжа, не ваявода? Я таксама магу ваяводай быць, дай толькі мне волю тое ж рабіць, што і яму.

— Добра, — кажа князь, — смердаў у мяне многа, а ваяводаў мала, калі і ты ваяводам будзеш, то ад гэтага толькі ў нашай старане сілы прыбудзе. Але перш чым цябе зрабіць ваяводам, ты павінен паказаць, ці справішся з малымі рэчамі.

Устаўшы, выйшаў таго дня князь на паладок, сеў на седзішча і ўзіраецца на Дзвіну-раку. Па рацэ ж туды і сюды людзі ездзяць усялякія, за ўсялякімі справамі. І бачыць, што згары ўніз па вадзе едуць вялікія стругі з таварамі. Вось ён кліча свайго любімага смерда і кажа яму:

— Сядзь у човен і спытай, куды яны едуць?

Смерд хапіўся барзджэй, сеў у човен, дагнаў стругі тыя і спытаў:

— Куды, людзі добрыя, едзеце?

— Да мора! — адказалі тыя.

Вярнуўся смерд і кажа князю:

— Да мора яны едуць, княжа!

— А ў які горад?

— Вось гэтага, — кажа смерд, — не спытаў я ў іх.

— Дык дагані ды спытай, у які горад едуць.

Барзджэй сеў у човен смерд і, добра папрацаваўшы вяслом, нагнаў стругі дый пытае:

— А ў які горад, людзі добрыя, едзеце?

— У Візбу[3]! — адказалі купцы.

Прыехаўшы назад, і кажа смерд князю:

— У Візбу едуць яны!

— Добра, — кажа князь, — а скуль яны едуць?

— Ах, каб яно, то ж я не спытаў у іх!

— Ну, нічога, — цешыць князь, — дагані і спытай.

Скочыў у човен смерд, глянуў на раку і бачыць, што стругі ўжо далёка-далёка. Але, добра папрацаваўшы вяслом, нагнаў іх і пытае:

— А скуль едзеце, людзі добрыя?

— З Віцебску! — адказалі купцы.

Увесь абліўшыся потам, вярнуўся смерд да князя і кажа:

— З Віцебску едуць яны, княжа!

— Добра, — пахваліў князь, — а што ж яны вязуць, ці не спытаў ты?

— Не, — кажа смерд, — не спытаў.

— То хутчэй дагані і спытай! — кажа князь.

Кінуўся смерд у човен і, астаткамі сіл намагаючы, нагнаў купцоў.

— А што вязеце, людзі добрыя?

— Збожжа! — адказалі купцы.

Ледзь жывы са змучэння вярнуўся смерд да добрага князя і кажа:

— Збожжа вязуць яны. — А сам ледзь здыхацца можа.

— Гэта добра, — ізноў пахваліў князь, — а якое ж яны вязуць збожжа?

— Не прыйшло ў дум спытаць, — кажа смерд.

— То дагані іх чым барзджэй і спытай!

Бягом пабег смерд да чоўна, бо ведаў, што з кожным момантам стругі далей адплываюць і што іх штораз цяжэй даганяць.

Вярнуўшыся, сказаў князю, што купцы вязуць жыта.

Князь тады спытаў, ці даведаўся ён, дзе яны яго куплялі, пасля пачым куплялі. Калі князь сказаў смерду, каб той восьмы раз дагнаў купцоў і спытаў, колькі вязуць збожжа купцы і па чым думаюць прадаць яго, то смерд са слязьмі кінуўся яму ў ногі, кажучы, што ўжо з сілаў выбіўся.

Тады князь паклікаў ваяводу і кажа яму:

— Тут праехалі ўніз вадой стругі з таварамі, сядзь у човен, дагані іх і спытай, куды едуць.

Ваявода сеў у човен і, па нейкім часе вярнуўшыся, кажа князю:

— Купцы гэтыя едуць з Віцебску ў Візбу, вязуць 1000 камянёў жыта, якое куплялі ў Воршы па грыўні за камень[4], думаюць

прадаць яго, накінуўшы па 10 шэлегаў на камень; акром гэтых стругаў гэтымі днямі будуць праязджаць яшчэ 16 іхніх стругоў з другімі таварамі, яны хочуць вярнуць назад да зімы.

Тады паклікаў князь смерда і кажа:

— Чуў, што ваявода мне пераказаў?

— Чуў, — адказаў смерд.

— Дык бачыш, ён за адзін раз даведаўся больш, чым ты за сем разоў. Дзеля гэтага-то, бачыш, ты будзеш пакуль што і далей у мяне смердам, а не ваяводам.

*[1923]*

# УСПАМІНЫ

## СТАРАБЕЛАРУСКАЯ ВЯСКОВАЯ ШКОЛА

Пішучаму радкі здарылася вучыцца ў старога тыпу беларускай вясковай школцы, аб якіх цяпер ужо і паміну няма, дый тая, у якой я вучыўся, была дахаваўшыся да маіх часоў дзякуючы толькі адлегласці яе ад гарадоў і чыгунак.

Школа знаходзілася ў вёсцы Стары Пагост[1], Дзіс[енскага] пав[ета]. Мясцовая традыцыя ўтрымлівае, што Стары Пагост быў калісь горадам, меў свае цэрквы і гарадзішча. Археалагічныя знаходкі да пэўнай меры пацвярджаюць гэту традыцыю, а распаложаная паміж двумя вазёрамі станцыя каменнага веку, са знаходкамі шчапанага і гладжанага каменя ды капцы-валатоўкі бронзавага веку чакаюць яшчэ сваіх даследчыкаў. Да цікавейшых знаходак належаць: а) вялікі, у некалькі тысяч штук, скарб арабскіх манет, выкапаны прыпадкова каля 1895 г. маскалём Паўлухам на астраўку, у канцы Красенскага возера; б) залаты абручок са званочкамі, знайдзены селянінам Лакоткам пры расчыстцы пад ніву старога магілішча, на якім раней стаяў вясковы магазын да запасовага збожжа; в) маленькія бронзавыя і сярэбраныя з эмаллю «абразкі», ласціва, па маёй дагадцы, часткі нагалоўных і нагрудных аздоб яркага візантыйскага тыпу.

За маёй памяці, аднак, акром гучных традыцый і надзей на нейкае прароцтва, што калісь Стары Пагост будзе ізноў вялікім горадам, вёска нічым не рожнілася ад іншых вялікіх беларускіх вёсак. Хат у вёсцы было звыш 60, пабудаваных у доўгі рад, абапал адзінай вуліцы, часцю каторай праходзіла дарога з Германавіч у Новы Пагост (бліжэйшыя мястэчкі). На 60 вясковых хат былі толькі 4 хаты каталіцкія, рэшта ўсе лічыліся праваслаўнымі, а раней былі уніятамі. Відочна, да перажыткаў уніяцтва належала тое, што кабеты хрысціліся і маліліся па-польску, страшэнна ламанай польшчынай, прыкладам: «Вымя войца і Сына і Духа

сюнтога. Аман», «Войчанаш ўторсесты на небі свясся менне тваё пры крулестві маім…» і т.д. Гэтаксама адпявалі нябожчыкаў польскімі псальмамі з польскіх кантычак. Мужчыны хрысціліся і маліліся не менш ламанай славяншчынай, прыкладам: «Воччу жэсы на небясі дасціся мя тваё, здароўе маё» і т.д. Самі сяляне прызнавалі, што іхнія малітвы разыходзіліся з друкаванымі тэкстамі, але ўтрымлівалі, што ў кнігах малітвы для духоўнікаў, папоў і ксяндзоў, а свецкім людзям, не ў цэркві, — і маліцца з іх нягожа.

Паступіў я ў Старапагоскую школу ў 1892 году і вучыўся ў ёй да 1894 году.

Школьны будынак стаяў у центры вёскі, пры самай вуліцы, і спаверхнасцю сваёй адрожніваўся ад іншых гаспадарскіх хат хіба толькі большай сваёй старасцю і кляймом нейкай архаічнасці. Будынак стаяў не канцом, а бокам да вуліцы. Праз шырокія аднастворныя дзверы — над якімі, паміж двумя крыжамі, фігуравала цыфра 1721, — уходзілася ў абшырныя сені, якія пры зачыненых дзвярах былі саўсім цёмны, бо палавіна іх, удоўжкі, была адгароджана пад склады. Направа з сяней вялі дзверы ў школьную святліцу, налева — у хату да стоража Міколы.

Школьная святліца тварыла роўны чатырохкутнік агульным абшарам, на сколькі не мыліць мяне памяць, крыху большы ад звычайных гаспадарскіх хат. Направа, ад парога, стаяла непрапарцыянальна вялікая глінабітная з комінам печ. Перад печчу, аршыны два ўшыркі і тры ўдоўжкі (прыблізна), знаходзілася — глыбінёй у рост чалавека, са зрубам — яма. Яма гэта служыла да складання запасных дроў. У мае часы дровы да школы звазілі сяляне талакой, але раней, як апявала мясцовая традыцыя, самі школьнікі, ідучы ў школу, павінны былі прыносіць з дому кожны па некалькі паленаў дроў, прыносячы, скідалі іх у яму. Яма служыла адначасна і меркай на дровы. Печ стаяла на дубовым зрубе, прычым прыпечак навісаў блізка над усёй ямай, апіраючыся на выступах зруба, падцятага, зверху ўніз, кшталтам лацінскага «S», пахіленага наперад. Печ «чэлюсцю» стаяла да дзвярэй, над чэлюсцю высіўся, амаль да самай столі, мураваны чалеснік. З левага боку печы быў вузкі пяколак і на печы роўная, квадратовая плашчына да спання.

Сцены школы былі з часаных бэлек, сута імшоныя і ад часу крэпка патрэсканыя і пачарнеўшыя. Невысокая столь ляжала на чатырох тоўстых «пераралоках», зверху зчасаных, унізе круглых, паложаных паўзбежна парогавай сцяне. Столь зроблена была з цёсу, г. зн. не пілаваных, а шчапаных дошчак, з двух старон над-

часаных. Дошкі былі кароткія, ўсяго толькі ад адной паравалокі (папярэчнай бэлькі) да другой, агульна м.б. маючыя метры два ўдоўжкі. На зямлі паложан быў таксама цясовы памост з доўгіх, толькі папалам шчапаных бэляк, гладка вычасаных, а можа, нават, калісь і выструганых. Паўзбежна парогу, ад вугла печы і да супрацьпарогавай сцяны стаялі лаўкі для хлапцоў, а наўпроць іх, у правым кутку, між печчу і сцяной, наўпоперак хлапцоўскім, былі лаўкі для дзяўчат. Лаўкі асобна былі — вышэйшыя «стаўцы» для працы і асобна «лавы» для сяджэння. Даўжынёй м. б. на 8 вучняў. Дошка вышэйшага стаўца была роўная, без ніякага скосу. На покуці вісеў папяровы, пад шклом, абраз М[аці] Божай з подпісам лацінскімі літарамі, у якой мове — цяпер ужо не памятаю. Акром гэтага абраза на сцяне быў яшчэ ў форме круглага цыфраблата, са стрэлкамі, як у гадзінніку, каляндар. Карацейшая стрэлка якога паказвала месяцы, а даўжэйшая чыслы, першыя і другія былі кругам напісаны на цыфраблаце. Стрэлкі кожны дзень перастаўляў вучыцель. Акром гэтага ў школе была чорная вялікая драўляная дошка, якая стаяла з боку печы, у канцы дзявочых лавак, засланяючы сабой пярэднюю часць пяколка, і скрыня да кніг, званая «кніжня». Вокан у школе было ўсяго тры: адно на вуліцу, адно супраць парога і адно супроць вулічнага вакна ў супрацьлеглай сцяне. Кожнае вакно складалася з 6 балоначак, агульна вокны былі м.б. аршын з чвэрццю ўвышкі і аршын ушыркі. Сені былі саўсім пустыя, под мелі глінабітны. Канец, дзе жыў сторож, быў курны, з глінабітным подам.

Школьны персанал складаўся з «дырэктара» (вучыцеля), выбіранага штогоду і «дасціпула» (стоража), за маіх часаў спаўняўшага свае абавязкі дажывотна. Як дырэктар, так і дасціпул рэкрутаваліся з беззямельных той жа самай вёскі сялян. Прычым за ранейшых часаў дырэктарскі урад заўсёды звязваўся з урадам пастырскім: адна і тая ж асоба летам пасвіла вясковую худобу, а зімой, калі худобу запіралі ў хлявох, брала ў свае рукі кіраўніцтва і адукацыю вясковай моладзі. Гэты традыцыйны парадак — пасля смерці даўгалетнага вясковага вучыцеля і пастыра Данілы — быў парушаны выбарам на вучыцельскі ўрад адстаўнога фельдфебеля, колішняга выхаванца гэтай самай школы, а знача добра знаўшага ўсе яе вымогі і традыцыі.

Прозвішча майго першага ментара было Рубаха (імені не памятаю). Прозвішча Рубаха накінута ўсім пагашчанскім Кушалёнкам перад самым звальненнем з-пад паншчыны пры такіх варунках: дзеля нейкай патрэбы расійскі чыноўнік спісываў усіх сялян у воласці, калі дайшоў чарод да бацькі цяперашняга

Рубахі, то чыноўнік запратэставаў: «Кушуля, Кушуля! што за кушуля! Рубаха, а не кушуля! Понімаеш: по-рускі — рубаха, а не кушуля, і ты не Кушулёнак, а Рубаха!» Запісаў Рубахай, і з таго часу пайшоў род Рубахаў у Старым Пагосце. Быў гэта чалавек сярэдняга ўзросту, шыракаплечы, сутулаваты, з шырокай чарнаватай барадой і даносным голасам, прывыкшага да каманды вайскоўца, натуры ён быў павольнай, лянівай.

Увесь маскальскі полер хутка, відаць, злез з яго пасля павароту ў родную вёску. З расійскай мовы ўжываў часам слова «да» і то ў надзвычайна важных здарэннях.

Дасціпул Мікола, наадварот, быў чалавечак дробненькі, жывы, з голенай барадой, хадзіў у сівой світцы (як і вучыцель), падпаясанай суконным паясом, за якім заўсёды насіў знак сваёй улады — трохпальцую раменную «дысцыпліну», ад якой ішла і назова яго ўраду. На яго павіннасці было падмятаць і прыбіраць школу, тапіць печ і выдзяляць кары вучням, як па сваёй уласнай ініцыятыве, калі трэба было ўціхамірыць разбязураных школьнікаў у часе нябытнасці вучыцеля, так па загаду і пастанове вучыцеля. Прычым па сваёй уласнай ініцыятыве ўлаўчаўся Мікола сцебануць стаячага, не лічылася праступкам, калі ўвёртлівы вінаваец здолеў уцячы ад празначаных яму сцебакоў. Па загаду вучыцеля сек Мікола вінаватых, расцягнутых на школьнай лаўцы, прычым бітага трымалі, трэба прызнаць, з немалым здавольненнем, яго ж уласныя калегі.

За два гады бытнасці маёй у Пагашчанскай школе былі ўсяго тры выпадкі біцця расцягнутых на лаве вучняў, і ўсяго адзін толькі раз біццё было сапраўды сур'ёзнае, бо вініватаму ўсыпалі да 50 лазовых сцебакоў па голым целе. Каралі хлопца гадоў 16 за прыставанне да дзяўчат у часе пярорвы, у цёмных сянях, у прысутнасці бацькі вінаватага і з яго згоды, а такжа ў прысутнасці пакрыўджанай. За нявыўчанае заданне ці дробныя праступкі рука вучыцеля выдзяляла «лапы», «закрутні» і «лабатрэсіны». Лапы даваліся лінейкай па далоні і дзяліліся на «гарачыя» і «ласкавыя». Закрутні аднасіліся да вушэй, вышэйшай адменай была закрутня з «потаржкай». Лабатрэсіны лічыліся найлягчэйшымі і найчасцей былі выдзялянымі.

Школьны год пачынаўся за тыдзень пасля Пакрава (1 кастрычніка) і цягнуўся да Чыстага чацвярга. Збор дзяцей адбываўся па загаду вясковага сходу, зазвычай у нядзелю. Пасля поўдня вучыцель заклікаў у школу старшых сваіх вучняў (толькі хлопцаў) і, даўшы ім у рукі карзіначкі, выпраўляў збіраць «блазноту». Хлопцы пачыналі з першай канцавой хаты, у якой

меліся, адпаведныя па веку, да вучэння дзеці; заходзілі ў хату і, зняўшы шапкі, пачыналі пяяць песню: «Я малы жачак…», а пасля гаварылі стэрэатыповую «орацыю»: «Я малы хлопчык, стану на стоўчык…», у якой выхвалялася навука (слоў не памятаю). Кончыўшы афіцыяльную, так сказаць, часць, звярталіся хлопцы безпасярэдна да калегі, прыкладам: «Хадзі, Янук, з намі». Калі хлапец упіраўся — яго пераконвалі і тузалі за рукавы, цягнучы з сабой. Найчасцей хлапец далучаўся да грамады і ішоў з усімі разам далей. Рэдка да грамады далучаліся дзяўчаты, але смялейшыя часам далучаліся. Пад канец вёскі збіралася грамада ў чалавек 40–50, якія ўсе разам кіраваліся ў школу. Наперадзе ішлі «важатаі» з напоўненымі карзіначкамі яйкамі, салам, каўбасамі і хлебам, бо кожная маці, выпраўляючы дзяцей у школу, паводле сваёй магчымасці што-небудзь клала ў карзіначку. Пакуль важатаі збіралі дзяцей, Мікола растапляў жарка печ. Прынесеныя дары раскладалі на скавароды, стаўцы засцілалі абрусамі, садзілі за іх малых гасцей, і пачыналася бяседа. Разам з дзецьмі садзіўся вучыцель і Мікола. Усе астаткі ад бяседы паступалі ва ўласнасць Міколы. Пасля закускі старшы гаспадар з вясковай грамады або сам вучыцель казаў «навуку», змест якой зводзіўся к таму, што вось цяпер вы (дзеці) слухайце «дырэхтара-вучыцеля», а не будзеце вучыцца, дык дырэктар бацькоўскай уладай а сваёй рукой ці па яго загаду Мікола «дысцыплінай» аддубасіць лянівага. Пасля гэтага, змовіўшы «Воччу жэсі», старэйшыя вучні ладзілі гульню ў «пытку». Гульня ў «пытку» адбывалася, так: адсоўваліся ставец і лавы, дзеці садзіліся побач на лаве і плячамі апіраліся аб ставец, рукі ўсе хавалі за сябе, каб перадаваць з рук у рукі «пытку». «Пытку» рабілі са скручанага ручніка. Хто-небудзь вызываўся лавіць «пытку», прычым каб злавіць яе, прасовываў рукі паміж сідзячымі. Калі адыходзіў далей ад «пыткі», яго білі ёю па плечах і хутка хавалі за сябе, пушчаючы далей з рук у рукі. У каго злоўлена «пытка», той замяняў ловячага. Чым крапчэй каторы злаўчыўся ляснуць ловячага, тым лепш. Каб не было плачу, малых у гульню не прымалі, і тыя маглі толькі, рассеўшыся ў пустых лаўках, глядзець, як забаўляюцца старшыя. Хоць, агульна беручы, вучні маладзей 10-ці гадоў рэдка траплялiся. Гулялі ў «пытку» хлопцы ад 12 гадоў, дзяўчаты ніколі не прымалі ўдзелу ў гульнях разам з хлапцамі. Пасля гульні, вясёла гамонячы, вучні разыходзіліся па хатах да заўтра раніцы.

На другі дзень, ад усходу сонца, пачыналі вучні сходзіцца ў школу і да полудня, пад наглядам Міколы, які час ад часу заглядаў, каб уцішыць лішне разбушаваную грамаду, ці суняць

завязаўшуюся бойку, або ліквідаваць іншы які экстра-прыпадак, вучні праводзілі ў гульнях. Пасля палуднавання з'яўляўся вучыцель, рассаджваў кожнага на сваё месца і пачынаў раздачу кніг. Урачыста адчыняў ён кніжню — вялікую плоскую, добра акаваную з вісячым замком скрыню, якая стаяла пры сцяне, супроць печы, налева ад уходных дзвярэй.

Вучні, каторыя яшчэ не вучыліся ў школе, даставалі толькі «букаўкі», г. зн. квадратовыя дошчачкі з наклееным на іх рукапісным славянскім альфабэтам. Тым вучням, якія прошлай зімы вучыліся, даваў славянскія «букары». На «букарах» чыталі па складох, водзячы дасціпулкай па кнізе. «Букары» былі друкаваныя, якога яны былі аўтара і дзе друкаваныя, у тыя часы ніхто з нас не цікавіўся, а пазней іх мне ніколі не ўдалося бачыць. Памятаю толькі, што друкаваны былі на тоўстай жаўтаватай і сіняватай паперы. Пасля літараў склады ў іх распаложаны былі стаўпцамі, зверху ўніз, праз усю страніцу, і пачыналіся ад: «ба, бе, бо, бу, уб, аб, иб, об», а далей розныя: «пра, тра, бра, кры» і т.д. У канцы былі: «Молитвы повседневныя». Чытаючым «паверху» без дасціпулкі, слабейшым у чытанні, давалі часаслоўцы, а сільнейшым — псалтыры і евангеллі. Акром «букаўкаў», «букароў», часасловаў, псалтыроў і евангелій, задачніка, некалькі гісторый святых, іншых кніг у школьнай кніжні, здаецца, не было. Дзяўчаты прыходзілі са сваімі ўласнымі польскімі Elementarzami і Złotymi Ołtarzykami. Паміж псалтыроў і евангелій было некалькі кніжак рукапісных, у дубовых, скурай абцягнутых, з масяжовымі «прытужкамі» аправах. Але большасць апраў евангелій і часаслоўцаў былі мясцовай, вясковай работы, пераважна майстрам да гэтых спраў быў Сымон Рыдзіка, які, моцна зшыўшы кнігу, даваў ёй акладку адной толькі скуры, без дошкі, падклеенай зысподу белай паперай. Гэткая скураная аправа мела, пры кожнай акладцы, па два рэмяшкі, адным канцом рэмяшкі былі прапушчаны ў прарэз акладкі, зверху падыспод, канец падыспoдам быў падклеены і, для моцы, прышыты дратвай. Рамяшкамі кніга звязвалася спераду, каб не разыходзіліся карты. Блізка ўсе кніжкі былі, кожная іншая, па фармаце і па часу выхаду яе ў свет; 2–3 псалтыры ці евангеллі былі «труднага пісьма» са злітным напісаннем фраз і хаваліся ў кніжні без ужытку. Была адна евангелія, фармату чацвёркі, з тлумачэннямі перад раздзеламі і на «белягох» у мове беларускай, якой гаварылі ў вёсцы. Кніжкі вучні атрымлівалі да вучэння ў школе і да дому іх не бралі, а, кончыўшы час вучэння, складалі ў кніжню, вучыцель, выходзячы, замыкаў кнігі на замок, назаўтрае ізноў раздаваў

вучням. Толькі той забіраў з сабой кнігу дамоў, хто прыходзіў у школу са сваёй уласнай.

Курс вучні праходзілі залежна ад здольнасцяў: у тры, чатыры, а то ў пяць і сем гадоў. Курс навук гэтай школы вымагаў: навучыцца чытаць па псалтыру і евангеллю без «стагнання», перапісваць «Отчэ наш» і «Верую» славянскімі, такімі, як друкаванымі, літарамі і перапісваць з любой кнігі «па-руску», г. зн. пісанымі літарамі, ды ўменне чатырох правіл «арыхмэтыкі». Праграма не абшырная, але яе страшэнна утруднялі завілая педагогіка і тое, што менш здольныя вучні праз лета забываліся, што навучыліся за зіму. Пры мне вучыўся ў школе 17–18-летні хлапец Дубчонак, які 7-ю зіму ніяк не мог выбіцца са складоў, хоць хлапец ён быў нармальны. Пры гэткім палажэнні вучні ў школе былі ад 10 да 18 і нават 19 гадоў, бо вясковая апінія вымагала, каб кожны хлапец «скончыў навукі». 20 гадоў — гэта ўжо быў узрост, пасля якога лічылася стыдна хадзіць у школу. Ад дзяўчат не вымагалася пагалоўнай граматнасці, вучыліся толькі тыя, якія мелі сваю ахвоту.

Дзяўчаты сядзелі на асобных лаўках і вучыліся на асобных кнігах, як ужо вышэй я сказаў, — на польскіх лемантарох і малітвенніках. Гэта быў стары абычай заведзены, праўдападобна, уніяцкім духавенствам. Курс навук для дзяўчат кан-чаўся мшальнымі малітвамі, якія вымагалася умець чытаць. Дзяўчат не вучылі пісаць, а з арытмэтыкі толькі складанне і адыманне ў памяці. Хоць некаторыя з іх сваёй ахвотай навучаліся такі пісаць цыфры і напісваць сваё імя і прозвішча. Вучомны дзень дзяліўся на дзве часці, не па гадзінніку, а па сонцу. Першая часць вучомнага дня, найдаўжэйшая, праходзіла на чытанні. Прычым ўсе вучні чыталі голасна і зычна, ад чаго падымаўся такі голкат і гоман, што гук галасоў чуваць было здалёку на вуліцы. Чытанне цягнулася да абеду. Пасля абеду была «арыхметыка», пісанне і гісторыя святая. Адзін дзень была арытмэтыка вусная, другі дзень паводле задачніка, на пісьме. Са старэйшымі вучнямі займаўся сам вуцыцель, малодшым задавалі задачы і перапытывалі лепшыя спаміж старэйшых вучняў. Пасля арытмэтыкі ішла лекцыя пісання. Пісалі ўсе, кожны сваю лекцыю, якую вучыўся чытаць. На паперы пісалі толькі тыя, што канчалі школу, г. зн. у другой палавіне апошняй зімы, рэшта ўсе пісалі на грыфлёвых дошках. Прычым пісанне і чытанне гражданкай «па-руску» таксама было прывілеям канчаючых навукі. Арытмэтыкі на пісьме з іменнымі лічбамі ніколі не рабілі: іменных лічбаў ужывалі толькі зрэдка пры задачах «на памяць».

Два дні ў тыдзень, у сераду і суботу, замест пісання выкладалася гісторыя святая, прычым малодшая і сярэдняя катэгорыі вучыліся толькі пацераў, а трэцяй, старшай катэгорыі, вучыцель прачытываў з кнігі якое-небудзь здарэнне са Старога ці Новага закону, пераказываў яго сваімі словамі, а пазней гэтага ўжо вучні павінны былі ў свой чарод самі пераказаць аповесць. Дзеля уяснення падзеі і замацавання яе ў памяці вучняў практыкавалася драматызацыя. Прыкладам, «Райскае спакушэнне» разыгрывалася так: пасярод школы ставілі ялінку, ззаду за ёй «чорта». «Адам» клаўся спаць на скрыні ад кніг, а «Ева» падыходзіла да дрэва, на якім замест яблыкаў вешалі дзве-тры печаныя бульбіны. «Чорт» захваляў яблыкі, «Ева» адгаварывалася, што баіцца граху, а ўрэшце зрывала яблык, кусала сама і, збудзіўшы, частавала «Адама». Тут з'яўляўся «Бог» у асобе вучыцеля з «пыткай» у руках: выганяў ёю «Адама», «Еву» і «чорта» ў сені, высказваючы, што праз гэты грэх яны і іх патомкі будуць давеку гараваць і ў поце чала есці хлеб свой. Найбольш падабаліся нам разыгрываныя падзеі з Язэпам, якія цягнуліся цэлымі тыднямі, і войны жыдоў з філістымлянамі. Дзеля выабражэння гэных крывавых воен раздзяляліся ўсе вучні на дзве палавіны, адсуваліся ў староны лаўкі і пачыналася самая заўзятая баталія.

Выкладовай мовай у школе была мова беларуская. Не было нават ценю спробы гаварыць іншай мовай. Адзіная мэта навукі была навучыцца маліцца. Практычныя вымогі ставіліся толькі да пісьма — «умець падпісацца».

Перапытываў вучыцель лекцыі не штодзень, як роўна не кожны дзень бывала арытмэтыка, пісанне і гісторыя святая, часам падрад два-тры дні было толькі адно чытанне. У такія дні вучыцель залязаў на печ, клаў пад галаву світку і, загадаўшы чытаць, засыпаў. Пакуль вучні крычэлі, датуль ён спаў, як толькі сцішаліся, зара будзіўся і панукаў да чытання, кажучы: «Чытай! чытай!» Вучні загалкаталі, і вучыцель пад бойкі гоман засыпаў сабе на печы.

У марозныя дні цэлы дзень тапілася ў печы, у цяплейшыя дні ніколі не закрывалася юшка, дзякуючы гэтаму паветра ў школе было адносна добрае.

За вучэнне вучыцель грашамі платы не браў, але два разы збіраў дабравольныя даткі: «каляду» і «валачобнае», прычым даткі збіраў не сам, а выпраўляў вучняў. Збіраць каляду хадзілі са звяздой і казой, распяваючы беларускія старасвецкія канты. Па валачобнае хадзілі ў Чысты чэцвер, без спеваў, толькі з «арацыямі». На каляду давалі па некалькі гарцаў збожжа, па

пары каўбас, а багацейшыя прыкідалі яшчэ якую «скароміну» ці «скварку». На валачобнае давалі таксама збожжа, яйкі, сыры і ўжо радзей «скароміну». Яек давалі не менш дзясятка, а дзе — то і два і тры дзесяткі адразу.

Пасля Рубахі у гэтай школе вучыў акончыўшый Новапагоскую міністэрскую народную школу пагашчанін Дубчонак, які завёў ужо расійскія буквары і кнігі, а пасля яго — Марозька, які дакончыў рэфармацыю школы разам з Новапагоскім святарам, перамяніўшы яе ў царкоўнапрыходскую з расійскай выкладовай мовай. Старыя кнігі са школы святар забраў да царквы, на замен якіх даў новыя.

Каля 1897 году я выехаў з тых ваколіц и далейшая доля гэтай школы мне ўжо невядома.

*[1923]*

## ПАГОСТ

*Успаміны з нядаўнай мінуўшчыны*

Гадаваўся я змалку часцю ў аколіцах, часцю ў самой вёсцы Стары Пагост, а знача, дзіцячыя гады жыў яе інтарэсамі, яе светаглядам і абычаямі. З гэтых часоў захаваўся ў мяне даволі значны запас успамінаў і перажыванняў, якія ўрэшце дапаўняліся пазнейшымі ўражаннямі, дзякуючы таму, што я падтрымліваў стасункі з жыхарамі гэных аколіц.

У папярэднім сваім нарысе аб Пагоскай школе (гл. «Крывіч», № 1, б. 26) я ўжо зазначыў, што між пагашчанамі існавалі легенды аб слаўнай мінуўшчыне іх вёскі, якая, быццам, была калісь горадам, каторы меў многа цэркваў і княжае замчышча. Памятаю, раз, вяртаючыся з начлегу, мясцовы селянін, Матуз, які сярод вяскоўцаў слыў асілкам, апавядаючы аб быўшым тут горадзе і яго праваліўшыхся «ў скрозьдонне» цэрквах і палацах, паказаў мне, дзе былі гарадскія вароты. Гэта было за вёскай, насупраць новага магільніка. Па свежаскошанай нізіне, у старану засценка Загацця[1], папраўдзе відаць быў след нейкай старой грэблі, даўно ўжо закінутай.

«Вось тут былі гарадскія вароты», — сказаў дзядзька Матуз, паказуючы на груды камянёў і выпукласці грунту, якія быццам і саўпраўды паказвалі на сляды нейкай руіны, — «а ад варот направа і налева ішла крэпкая сцяна кругом горада».

І мне тады здавалася, а мо і папраўдзе гэта было, што ад месца, названага «варотамі», ішлі нівамі сляды накопнага валу. Аб «праваліўшымся», а паводле іншых версій «заварожаным», горадзе існуе на ўсім абшары, як доўга і шырока крыўская зямля, бесканечнае мноства легенд і апавяданняў, але, мне здаецца, нідзе яны не апавядаюцца з такой бязмежнай верай і рэальнасцю, як у Старым Пагосце.

Пры гэтым цікава, што невідомы горад меў сваё асобнае найменне: звалі яго Багоцк. У некаторыя дні года горад гэты выступаў наўзверх зямлі, і тады, хто годзен быў, бачыў і людзей і будынкі. Многа было ачавідцаў, сведчыўшых, што бачылі Багоцк. Толькі адны апавядалі, што ў невідомым горадзе кіпела саўсім звычайнае жыццё — таргоўля на рынках і вуліцах, песні і танцы ў корчмах. Другія — бачылі жыхароў Багоцка, тоўпячыхся перад цэрквамі, у якіх ішла набожная адправа пры яркім асвятленні цэркваў пылаючымі свячамі. Як першыя, так і другія «ачавідцы» ў апавяданнях дадавалі эпізод аб Белай пані, каторая ездзіць у карэце, запрэжанай чацвёркай белых коней.

Аб Белай пані існаваў асобны багаты цыкл апавяданняў. Выходзіла, што яна як быццам была не гараджанка, а прыязджала ў горад Багоцк са сваіх палацаў (паводле іншай вер- сіі — замка), што быў на горцы ў канцы пагоскага возера, паміж гэтым возерам і амшарай, што прылягала да Красенскага возера[2]. Палац яе таксама праваліўся. Яе ж, Белую паню, на Купалле апоўдні можна кожнаму смеламу штогод бачыць, бо тады расступаецца гара і адчыняюцца дзверы ў палац. Тыя, каторыя бачылі, апавядалі, што Белая паня сядзіць на аграмадных каваных скрынях з грашыма і горка плача, а перад ёй чатыры чорныя сабакі з аграмаднымі бліскучымі вачамі грозна рычаць на зближаючагася да палаца. Не было яшчэ смельчака, які бы адважыўся зблізіцца да скарбаў, а каб такі знайшоўся, то і сам стаўся бы багатым і Белую паню ашчаслівіў бы, бо тады выйшаў бы на верх зямлі палац і Белая паня стала бы па-даўнаму жыць на зямлі. Толькі адной смеласці мала: трэба яшчэ «слова» ведаць, а без гэтага дык і смельчакі, бывала, жыццём плаціліся. Старая ўдава, Магдалена Рыдзіка, апавядала, як яна на ўласныя вочы бачыла раз расступіўшуюся гару і Белую паню, а перад ёй цэлы вал людскіх касцей: то былі косці тых, што не ведаючы «слова», а кіраваныя толькі смеласцю, памыкаліся ўвайсці ў палац. Бачыла яна гэта, будучы яшчэ малой, пасучы гусей у канодны купальскі поўдзень.

З Белай паняй лучыўся яшчэ другі цыкл апавяданняў, гэ-та — аб скарбах, закапаных на астраўку, у канцы Красен- скага возера,

пасярод вышэйспомненай амшары, куды штогодна на Купалле хадзілі акалічныя сяляне «пілнаваць грошы», г. зн., чакаць той хвіліны, калі, паводле глыбокай і ўсеагульнай веры, яны засвецяцца. А засвяціцца схаваныя гро- шы ў купальскую ноч павінны абавязкова. Дзякуючы гэтаму, увесь астравок быў пакапаны ў ямы. Скуль там узяліся тыя грошы, — легенда апавядала вось што: Белая паня, дачка князя, была невымоўнай красы, і ў яе закахаўся чужаземны багаты купец. Бацька князёўны, хочучы заўладаць багаццямі купца, парушыў святасць гасціннасці і ўначы адсек галаву спячаму ў яго доме купцу, забраў каваныя скрыні золата, якое і так купец быў прывезшы з сабой, каб аддаць у падарунку каханай дзяўчыне. Яе бацька труп забітага і часць скарбаў забраў і той жа начы закапаў іх на астраўку і сам па дарозе дамоў быў забіты слугой, які ў свой чарод таго ж дня ўтануў у возеры. Пасля такога злачыну зямля здрыгнулася, — і палац праваліўся. Князёўна навекі асталася за кару пільнаваць скарбаў за тое, што, ведаючы аб замыслах бацькі, не паўстрымала яго. Бацька князёўны і слугі, што памагалі яму ў злачыне, былі перакінуты ў чорных сабак, якія вечна з сабой грызуцца. Купец час ад часу ўстае з зямлі, бярэ сваю адсечаную галаву рукой за валасы і ходзіць па астраўку, пасвечваючы сабе бліскучымі, як свечкі, вачамі. Тут версіі разыходзяцца: адны кажуць, што ходзіць купец, шукаючы захаваных тут яго ўласных скарбаў, а другія кажуць, што — шукаючы сваіх крыўдзіцеляў.

Не безцікаўна адзначыць, што каля 1895 года на гэтым астраўку маскаль Паўлуха выкапаў прыпадкова скарб, зложаны з некалькіх тысяч сярэбраных арабскіх манет. Часць гэтага скарбу, каля 2-х фунтаў, была ад яго адабрана паліцыяй і пераслана ў Петраград, ні то ў Археалагічную камісію, ні то ў Эрмітаж. Як ні дзіўна, але ў вышай прыведзенай легендзе ёсць, здаецца, нейкі адгалосак падзей, меўшых месца больш тысячы гадоў таму назад. Бо скуль жа гэта вера ў тое, што на астраўку знаходзяцца закапаныя грошы? Тым больш што закінуты паміж дрыгвы астравок сам па сабе не выяўляў нічога асаблівага.

Вяртаючыся да заварожанага Багоцка, трэба дадаць, што пад зямлёй ён жыў поўным сваім жыццём, аб чым сведчыць тое, што ў святочныя дні, апоўдні, прылажыўшы вуха да зям-лі, можна было чуць званы ў цэрквах, а ў некаторых здарэн-нях — нават царкоўныя спевы. Я сам, наслухаўшыся апавяданняў аб падземным горадзе і свята веручы ў іх, не раз пралежваў цэлымі гадзінамі, прытуліўшы вуха да зямлі, і, раз заснуўшы, прысніў такое дзіва, што, прахапіўшыся, як непрытомны бег дамоў. А

дома напужаў маю матулю сваім бяззвязным апавяданнем, перамешаным з дзікай фантазіяй.

Хто думаў бы, што нашы сяляне глядзяць на ўсякія з’явішчы прыроды і легенды, як на загадкі для сябе, — той вельмі памыляўся б. Пасля майго выезду ў горад і бліжэйшай знаёмасці з кніжкай пачалі толькі закрадацца ў маю душу розныя неразгаданыя пытанні, якіх раней у мяне не было. Пакуль я жыў у вёсцы, паміж вяскоўцаў, кожнае з’явішча было проста і ясна. Вясковы жыхар, прынамні даўней, меў гарманічна закончаны свой светагляд. Праўда, у гэтым светаглядзе рэальнай веды было вельмі мала: большая часць яе складалася з легенд, забабонаў і традыцый, а найболей з самай буйнай фантазіі.

Фантазія вясковых жыхароў ахвотна затрымлівалася на апавяданнях аб закапаных скарбах, і дзеля гэтага многа было месц, аб якіх апавядалі, што ёсць закапаныя грошы. А аб адной яблыньцы ў полі, старой, пакрыўленай, казалі, што пад ёй чорт нават жадаючым пазычае грошы. І гэта пераказвалі з такой верай, што не было месца якому бы то ні было скептыцызму.

Аб паказванню скарбаў існаваў не толькі бязмерны лік апавяданняў, але было нямала і ачавідцаў, прычым такіх, аб якіх ніяк нельга сказаць, што былі гэта свядомыя містыфікатары. Прыкладам, успамінаецца мне расказ адной вельмі шанаванай у вёсцы кабеты, як ёй паказваўся скарб у яе ўласнай хаце. Было гэта, паводле яе слоў, у нядзельныя дні, калі выходзілі ўсе з хаты. Сядзела яна каля вакна, аж бачыць — выбягае з падпечку белы, як снег, барашка, другі раз — жоўты коцік, а трэці і апошні раз выбег з падпечку маленькі светлавалосы хлопчык, пакружыўся па хаце, а пасля заплакаў і знік. Пры гэтым яна кожную сваю відзежу апавядала з такімі падробнасцямі, што немагчыма, каб гэта было голай выдумкай.

Калі ж да цыкла апавяданняў аб скарбах дадаць не менш абшырны цыкл аб нябожчыках, апавяданні аб якіх перадаюцца з беспадобным рэалізмам, асабліва аб паказыванню малых дзяцей плачучым на могілках маткам, — то прыходзіцца думаць, што ў даным здарэнні мы маем перад сабой не свядомую ману ці ігру фантазіі, якая ў паасобных здарэннях не выключана, а праяву агульнага нервовага знебыткавання, якое служыць, асабліва ў кабет, грунтам да самых крайніх праяў істэрыі.

Агульна беручы, крыўская вёска жыла вельмі бедна, асабліва ж бедна жылі жыхары вялікіх вёсак, дзе пры малазямеллі і шнуравой гаспадарцы зямля выкарыствалася толькі напалавіну. Прыкладам, у гэтым самым Старым Пагосце на звыш 60 гаспадароў

толькі 3–4 гаспадары мелі хлеб на стале ад новага да новага, палавіна ж вёскі ад вясны да жніва хлеба не бачыла.

Варункі быту вясковай жанчыны — маці і гаспадыні — асабліва цяжкія. Штогод — уцяжку, адно аднімае, другое далучае да грудзей, і гэта — пры штогоднай галадоўцы і надмернай працы. Бо вясковая жанчына першая ў хаце ўстае і апошняя лажыцца спаць, маючы на сон 4 — 5 гадзін у содні. Пры гэткім жыцці 30-цігадовая жанчына выглядае саўсім завяўшай, знебыткаванай, з разбітым здароўем і нервамі. Палажэнне мужчыны не лепшае за палажэнне жанкі, бо на яго падае ўся мускульная гаспадарская і заробкавая праца. У гэтай атмасферы голаду, недамаганняў, заўсёднай фізічнай працы і нястачы ўмысловай фантазія заагняецца, — і даволі самай лёгкай прычыны, каб мозг выйшаў з раўнавагі і пайшоў торам істэрыі і галюцынацый.

Мне прыйшлося раз быць ачавідцам і ўчаснікам масавай істэрыі з галюцынацыямі. Было гэта ў восеньскую цёмную ноч, каля поўначы. Па вёсцы, як зазвычай, хадзілі два вартаўнікі. Адзін з іх быў Сцёпка-бондар, чалавек з пылаючымі вачы- ма — вынік хранічнага недаядання і істэрыі, другі — малады хлапец. Сцёпка, сваім звычаем, калі не спаў, то лгаў. Пад чорную восеньскую ноч настрой у яго быў пануры, і ён усё баяў хлапцу аб нябожчыках і чарцях. Хлапец слухаў з самай шчырай верай, троссся ад страху пры кожным шэлесце і подмуху ветру. Аж урэшце, даведзены да апошняга рубу напяцця нерваў, хлапец крыкнуў не сваім голасам «чорт!» і кінуўся ўцякаць дамоў. Сцёпка — за ім. Убегшы ў бліжэйшую хату, з непрытомным крыкам «чорт!» спалашылі спаўшую ўжо сям'ю, якая ў панічным страху завыла ў унісон ускочыўшым да іх вартаўнікам і інстынктыўна з крыкам, вераскам і аглушаючым візгам дзяцей апынулася на вуліцы. За 5–10 мінут была з'электрызавана палавіна вёскі. Усе крычэлі, дрыжэлі, плакалі і вылі, — і толькі спусця добрую гадзіну больш прытомныя дапыталіся, якая прычына гэтага непакою. Калі выяснілася, што па вёсцы ходзіць чорт, — кінуліся хто за кол, хто за сякеру і, сагнаўшы баб і дзяцей у вясковую карчму, кінуліся шукаць чорта. У непрагляднай восеньскай цемнаце наэлектрызаваная забабонным страхам таўпа ганялася ўсю ноч да раніцы за міражамі і галюцынацыямі па ўсіх вясковых гародах і розных будынках. Калі пры дзённым святле ўзбуранне адхлынула, — пачалі разыходзіцца, але так і асталіся цвёрда перакананымі, што чорт быў, паказваўся, а толькі не ўдалося злавіць яго. Пад раніцу, апавядалі, чорт перакінуўся ў чорнага ката са званочкам. Пры гэтым цікава, што калі ката і не ўсе бачылі, то званочак яго ўсе пагалоўна чулі.

Гэткія масавыя галюцынацыі — здарэнне рэдкае. Затое склоннасць да галюцынацый індывідуальных заўважалася ў большасці жанок і крыху менш сярод мужчын. Надзя Рубніковіч, жанчына каля 30 гадоў, апавядала гэткае здарэнне. Калі памёр у яе хлопчык 3–4 гадоў, яна ніяк не магла забыць яго. Летам, полючы гародніну, жаночым абычаем, вельмі распашыраным, яна кожны дзень галосіць да прычытуе. Ажно раз, у самы поўдзень, глядзіць — бяжыць баразной між бульбоўніку яе хлопчык. «Дык я, — кажа, — і абамлела. Пад лыжачкай занудзіла, у вачох пацямнела, і ўсю мяне потам зліло». Калі прыйшла да сабе, — хлопчыка ўжо не было. Але затое пасля гэтага пачаў ён да яе, галосячай у гародзе, часцей прыходзіць у поўдні. «Прыйдзе, сядзе перада мной і забаўляецца, але ніколі не даўся ў рукі ўзяць. Як я толькі выцягну да яго рукі, то ён і развеецца». Кончылася гэта трагічным здарэннем. Раз, як зазвычай, «прыйшоў» яе хлопчык, прысеў перад жанчынай, а пасля стаў расці і страшнець, урэшце кінуўся біць яе. Жанчыну знайшлі пасля гэтага ў гародзе пасінеўшай, а калі адцуці-лі, — усё цела яе было пакрыта сінякамі. Гэта апошняя форма істэрыі вядома сучаснай медыцыне, але ў вясковай глушы такое здарэнне прымалася як відочны факт таго, што «трэба мець меру матчынаму жалю і не турбаваць нябожчыкаў».

Відочна, гэтым усеагульным аслабленнем нерваў трэба тлумачыць вялікую склоннасць жанок да слёз. Палавіну свайго жыцця жанкі плакалі не толькі з прычын, годных плачу і роспачы, але і з прычын нічога не вартых, як прыкладам, калі ўпадзе прыпадкам лыжка на памост, узляціць курыца на лаву і г. п. У ацэне праяў бягучага жыцця вяскоўцамі, а асабліва жанкамі, рэдка праяўлялася памяркоўнасць і развага: больш-менш значнае здарэнне выклікала крайнасці. Калі курыца, прыпадкам, забралася на ляху[3] з цыбуляй, жанка ўжо галосіць і прычытуе, што курыца агалодзіла сям'ю! Лёгкае зачаджанне ці недамаганне праводзілася стогнамі і прычотамі ў чаканні немінучай смерці і асірочання дзяцей. Затое сапраўды вялікае калецтва, пажар, цяжкую хваробу — умелі пераносіць з дзіўным спакоем.

У вёсцы былі свае «багатыры» (г. зн. людзі багатыя), серадняки і бедныя, пры гэтым захоўвалася свая каставасць. Гаспадарскай дачцэ, штовясну галадаючай, не прыстала дружыць з безумоўна больш сытай і лепш адзетай беззямельнай дачкой кутніцы, якая, вярнуўшыся са службы ў родную вёску, гасціла да новай службы тыдзень-другі ў маці. Існаваў свой тварыскі этыкет, не менш звязуючы, чым у любой арыстакратычнай сферы, свая градацыя ў адношанні да суседзяў, а што найцікавейшае — дзяленне

на свайго роду патрыцыяў і плебеяў. Радаводы ўсіх вяскоўцаў былі ўсім ведамы на некалькі пакаленняў назад. І сям'я, у родзе каторай былі асобы, чым-колечы выдзеліўшыеся, галоўнае — багаццем, калі не сваім, то іх сваякоў, — лічылася да добрародных, і, наадварот, сем'і, у якіх не было ні багатыроў, ні выдатных людзей, — станавілі ніжэйшую касту. У ацэне вясковай апініі багацце, з адной стараны, выклікала рабскае пакланенне, а з другой — зайздрасць і нянавісць. Што пераважала, — трудна сказаць.

З індывідуальных рысаў характару асабліва цаніліся скрытнасць і хітрасць. Людзей гутарлівых, адкрытых любілі, але іх не паважалі і не цанілі, наадварот, чалавека скрытага, замкнутага ў сабе, — баяліся і паважалі.

У стасунках паміж сабой сяляне кожную праяву свайго дабрабыту, разумеецца, дабрабыту з пункту гледжання галоднай вёскі, стараліся скрыць. Першай тэмай размоў пры сустрэчы гаспадынь паміж сабой было сталае нараканне на малы ўдой каровы, на ненясушчасць курэй, на няўдачу спечанага хлеба, на благія адношанні мужа, свякроўкі і г. п. Калі селянін акром прыродных хвалуноў хваліўся чым, то гэта мела якую-колечы надуманую мэту. Стала і звычайна ўсе жаліліся слушна й няслушна на ўсіх і ўсё: гэта было жалезнае правіла вясковага этыкету. Магчыма, што гэтае правіла было ўзгадавана даўгалетняй прыгоннай няволяй, непасільнымі паборамі з сялянства, але яно і ў пазнейшых пакаленнях было выдатнай, кідаючайся ў вочы рысай.

Яшчэ ў 1890-х гадах падзел паміж сялянамі і дробнай вясковай шляхтай, якая жыла той самай заможнасцю і бытам, быў у поўнай сіле. У адным з засценкаў, прылягаючым да Пагоста, былі дзве сям'і запашнікаў: Казлоўскі і Міцута. Адна сям'я — сялянская, другая — сям'я шляхты, прыпісанай гадоў з трыццаць раней да воласці. Працуючы дзень у дзень, абое поплеч, на чужой ніве ў арандатара-селяніна, Міцута да Казлоўскага заўсёды звяртаўся на «пане», а Казлоўскі да Міцу-ты — на «ты». Гэты стасунак не змяніўся нават тады, калі дачка Казлоўскага выйшла замуж за Міцутавага сына, розніца стала толькі ў тым, што Казлоўскі час ад часу пачаў называць Міцуту «пане сват». Пры гэтым трэба заўважыць, што ў сваім падзеле сельскай беднаты на шляхту і не шляхту вяскоўцы кіраваліся не геральдычнымі паперамі, а толькі ім адным ведамымі меркаваннямі традыцыйнага характару.

Адношанне да жыдоў у сялянства было пратэкцыянальна-грэблівае. Селянін цаніў у жыдзе яго практычнасць і ўменне прыспасобіцца да жыцця, што называў «хітрасцю», ахвотна ішоў да яго радзіцца ў трудным палажэнні і меў больш веры да яго рад, чым да рады інтэлігента-хрысціяніна, але лічыў жыда ў істоце

чымсьці ніжэйшым, горшым ад сябе. Расавай і наагул нянавісці ў стасунках між жыдамі і сялянамі не было, існаваў толькі глыбокі веравызнаўчы падзел і абустаронны рэлігійны фанатызм. На гэтым грунце разыгрываліся часам чорныя трагедыі. Адну з гэтых трагедый, яшчэ свежую ў людской памяці, апавядалі ў гады майго дзяцінства пагашчане. Гаспадарскі сын і дачка карчмара ўзаемна закахаліся і ўмовіліся, што за тыдзень дзяўчына ўцячэ ад бацькоў, а ён за гэты час умовіцца з святаром, каб ахрысціў нявесту і павянчаў іх. Размову закаханых падслухала малодшая сястра, якая расказала бацькам маладой аб яе праектах перайсці ў хрысціянства. За некалькі дзён пасля гэтага адбылося ў карчме галаслівае сабранне з'ехаўшыхся з аколіцы жыдоў. А на другі дзень стала ведама, што старшая сястра карчмара памерла. Паводле вясковай версіі яна была задушана пярынамі пасля таго, калі ўсякія ўгаворы сабранай жыдоўскай старшызны не здолелі яе адвярнуць ад паўзятай пастановы хрысціцца. Разумеецца, мог быць у гэтым здарэнні чысты прыпадак, які вёска вытлумачыла па-свойму, але такая легенда мела падставы ў бязмежным рэлігійным фанатызме сялян і жыдоў у стасунках паміж сабой.

Адношанне вяскоўцаў да акалічных маскалёў (так называлі староверaў, паселеных тут пасля 1863 года) было няпрыязным. Сяляне ўнікалі іх, як толькі маглі. У гэтым здарэнні прычына была не веравызнаўчая, а розны характар і псіхіка. У дадатку маскалі, як упрывіляваны ў краю элемент, трымалі сябе ў стасунку да мясцовага крыўскага сялянства зачэпна-вызываюча і за дадзены ім адпор мсцілі нашым сялянам калі не бойкай, то абвінавачаннямі палітычнага характару, якія зазвычай прысвядчалі дружна ўсёй сваёй калоніяй. Дзякуючы гэтаму, стасункі з маскалямі былі ўвесь час напружанымі.

Адзяваліся сяляне выключна ў дамаробныя тканіны, белыя і чырвоныя кажухі. Першы чорны кажух быў зроблены ў вёсцы для аднаго вясковага хлапца, які выехаў у Пецярбург і працаваў у Пуцілаўскім заводзе. Ён прыслаў на кажух грошы і ў пісьме жаліўся, што ў горадзе смяюцца з яго чырвонага кажуха. Адступленне ад старых традыцый пачалося ад жаночых галаўных хустак. За імі пайшлі «кофткі», а пагадзя — і крамныя спадніцы. Аднак старыя жанчыны яшчэ ў 1895 годзе лічылі сорамам для сябе насіць крамніну замест дамаробнага кужалю.

Гэтакай была наша крыўская вёска яшчэ гадоў 30–40. Сягоння ж варункі і псіхіка з грунту змяніліся. На лепшае ці на горшае — пакажа будучыня, нам, сучаснікам, трудна судзіць аб гэтым.

*[1925]*

## МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ М.БАГДАНОВІЧУ

Паяўленне творчасці Максіма Багдановіча ў крыўскай (беларускай) мове цесна звязана з рэдакцыяй тыднёвай беларускай часопісі «Наша ніва», якая выходзіла ў Вільні ад восені 1906 да восені 1914 года[1]. Дзеля гэтага, для лепшага выяснення некаторых момантаў з маіх успамінаў, лічу патрэбным найперш кароткімі рысамі ўвесці чытача ў круг унутранага жыцця рэдакцыі і парушаўшых яе сіл і імкненняў.

1909 год быў асабліва трудным у развіцці крывічанскага (беларускага) адраджэння. Рэвалюцыйны ўздойм 1905–1906 гадоў астаўся недзе далёка па-за сінімі лясамі. Маладая сялянская дэмакрацыя, за гады наступіўшай пасля ўздойму рэакцыі, была разбіта. Адны сядзелі ў турмах (Я. Колас, А. Бурбіс[2] і іншыя), другія былі сасланы (Прушынскі[3], Лёсік[4] і іншыя), трэція дапасоўвалі свае сілы да варункаў паднявольнага жыцця, чацвёртыя адкрыта пайшлі ў варожы адраджэнню абоз, далучаючыся да расійскай і польскай рэакцыі. З сіл, якія дзеялі ў 1905 годзе, пры крывічанскім (беларускім) адраджэнні асталіся нячысленыя адзінкі, дый тыя неарганізаваныя, з разнароднымі імкненнямі і разуменнем ролі беларускага (крыўскага) адраджэння ў жыцці народа і для яго будучыны.

Склад рэдакцыі «Наша ніва» ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў[5], браты Іван[6] і Антон Луцкевічы[7], Ядвігін Ш.[8] (Лявіцкі), Янка Купала, В. Ластоўскі і, дарыўкамі — Язэп Манькоўскі (Янка Окліч[9]) ды Чыж [10] (Альгерд Бульба), а на пачатку лета 1909 года прыбыў яшчэ С. Палуян.

Гэты склад рэдакцыі ў 1909 і 1910 гадах рэзка распадаўся на дзве групы, каторыя былі дамэтна ахарактарызаваны свежа прыехаўшым з Кіева С.Палуянам «верхняй» і «ніжняй» палатамі. Да «верхняй» палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі, — Чыж і Манькоўскі. «Ніжняя» палата складалася з Ядвігіна Ш., Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 года да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч[11]. Рэдакцыя ў цэлым ніколі не сходзілася. На Віленскай, № 20, дзе памяшчалася рэдакцыя, магазын, ад вуліцы займала «ніжняя» палата, святліцу ад падворку мела ў сваім выключным панаванні «верхняя» палата. Паміж сабою працаўнікі гэтых дзвюх «палат» рэдка сустракаліся, у тэхнічных справах рэдакцыі зносіліся праз замкнутыя на ключ дзверы па шчэлцы над парогам. Праз гэту шчэлку перасылаліся туды і назад рэдакцыйныя матэрыялы і карэспандэнцыя.

За зачыненымі і завешанымі цяжкай драпэрыяй дзвярыма ў гасподзе «верхняй» палаты вяршыліся «высокія» палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх планаў «верхняй» палаты даходзілі ў «ніжнюю» з трэціх і пятых рук, часта ў хаатычнай форме. Адно толькі было пэўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай ерархіі і некатарых другіх, сільных у тыя часы, палітычных краёвых чыннікаў. Ад вуліцы ж у «ніжнюю» палату ішла публіка «чорная» і «шэрая». Ясна, што пры такім падзеле «верхняя» і «ніжняя» палаты думалі па-рознаму, жылі рознымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі розных кірункаў нацыянальнай мыслі.

На пачатку 1909 года Максім Багдановіч прыслаў некалькі лісцікаў сваіх вершаў, падпісаных поўным уласным прозвішчам і імем. Вершы для кожнага нумара «Нашай нівы» падбіраў Янка Купала, бо, акром Я.Коласа, Купалы і яшчэ 2–3 паэтаў, 99 % вершаў, надасланых у рэдакцыю, былі з дэфектамі. Павіннасцю Я.Купалы было папраўляць іх перад здачай у друк. Друкавалі ж адзін-два вершы кожнага новага «паэты», каб заахвоціць яго да пісання. Былі ці не былі зроблены якія папраўкі ў вершах «Над магілай» і «Прыйдзе вясна», я не памятаю, можа, памятае сам Я.Купала, але гэта былі адны з першых вершаў і надрукаваныя пад праўдзівым прозвішчам і імем аўтара.

На пачатку траўня месяца таго ж года Максім Багдановіч ізноў прыслаў у «Нашу ніву» маленькі сшытачак новых сваіх твораў, які абымаў 8–9 вершаў. Нябожчык Ядвігін ахрысціў гэты сшытачак «дэкадэншчынай». Яго апінія падзялялася «вярхоўнай палатай». Іншага погляду трымалася аб новым пісьменніку «ніжняя» палата, а ў першы чарод Я. Купала, які інтуітыўна вычуў у гэтых першых паэтыцкіх спробах у Максіме Багдановічу сапраўднага мастака. Спамянуты сшытак вярнуўся з перагляду «верхняй» палаты» ў «ніжнюю», перакрэслены сінім алоўкам з надпісам рукой А. Уласава «В архів». Пад перакладам з Н. Святагора «Дзве песні» быў надпіс рукой А. Луцкевіча «можо надруковаць пад псеўдонімам»: палітыка «верхняй палаты» строга прытрымлівалася лініі нераскрывання сваіх супрацоўнікаў, каб манаполь прадстаўніцтва руху быў выключна ў яе руках.

«Дзве песні» пайшлі ў друк з папраўкамі ў мове Я. Купалы, але з іншым подпісам: у карэктуры Ядвігін падпісаў верш прыдуманым ім для Максіма Багдановіча псеўданімам Максім Крыніца.

Праз некалькі тыдняў пасля надрукавання верша «Дзве песні» Максім Багдановіч прыслаў яшчэ некалькі новых вершаў і ліст, у якім пратэставаў, што яго перарабілі ў Максіма Крыніцу. Але

вершы былі ізноў «дэкадэнскія» і дзеля гэтага трапілі ў тую ж папку, дзе быў папярэдні сшытак з надпісам «В архів». Там яны праляжалі да канца жніўня, калі іх выцягнуў на свет С. Палуян, які, прачытаўшы вершы, з надзвычайным захапленнем стаў бараніць іх спярша перад Ядвігіным, а пасля перад «верхняй палатай», з радоў якой за надрукаванне некаторых вершаў першы высказаўся Чыж, а пазней А. Луцкевіч. У выніку ў № 35–36 (падвойным) з перапраўкамі С. Палуяна пад праўдзівым ужо прозвішчам аўтара былі надрукаваны два вершыкі пад агульным агалоўкам «Лясун» (б. 516), у № 38 — «Край мой радзімы», у № 39 — «З песняў беларускага мужыка», далей у № 41 — два вершы з цыкла «Вадзянік», у № 42 — «На чужыне», у № 43 — «Пугач», у № 44 — пераклад з Гейнэ[12], у № 46 — павіншаванне «Нашай ніве», у № 47 — «Разрытая магіла», у № 50 — верш, пасвячоны С-ну, № 51–52 — «Цемень».

Пасля надрукавання «Край мой радзімы» і вершаў з цыкла «Вадзянік» у рэдакцыйным складзе, акром Ядвігіна, які ўпорна казаў: «А ўсё ж гэтыя вершы не для народа», — усе аднагалосна выражалі прызнанне пісьменніцкага таленту М.Багдановічу. С.Палуян завязаў з ім частую перапіску на нацыянальна-літаратурныя тэмы. Пасля ж выезду С. Палуяна назад у Кіеў і яго трагічнай смерці перапіску з Багдановічам прадаўжаў аўтар гэтага нарыса.

Ядвігін меў рацыю, калі казаў, што вершы М.Багдановіча будуць незразумелымі радавому чытачу «Нашай нівы». Пераканацца ў гэтым мне давялося летам 1910 года, калі з Менска, пачародна, прыязджалі ў Вільню Альберт Паўловіч[13] і Галубок[14]. Абодва паэты нападалі на беззмястоўнасць вершаў М.Багдановіча, а асабліва — А. Паўловіч, які злосна выкпіваў, перафразоўваючы паасобныя звароты вершаў М.Багдановіча, каторага стала называў не па прозвішчу, а «ваш Лесавік». Усе гэтыя нападкі прыходзілася выслухаць мне як сакратару рэдакцыі, прычым ніякія аргументы ў абарону М.Багдановіча не мелі ўплыву. Вуснамі супраціўнікаў Багдановіча гаварыла іх абражаная аўтарская амбіцыя, што ў нашай мініяцюрнай часопісі замест іх твораў займаецца месца пад вершы Багдановіча. Што нападкі з боку менчукоў былі няшчырымі, відаць з таго, што, у мэтах канкуравання з Багдановічам за месца ў часопісі, А. Паўловіч пачаў надсылаць замест сваіх вясёлых і дасціпных жартаў вершы на сур'ёзныя тэмы. Але з А. Паўловіча лепшы гумарыст, як філосаф і эстэт, і таму не ўдалося яму выціснуць з «Нашай нівы» творчасці М.Багдановіча, тым больш што з кож-

най новай прысылкай вершаў у развіцці яго таленту адчуваўся значны поступ.

На вясну 1912 года М.Багдановіч пісаў у рэдакцыю «Нашай нівы», што ён хацеў бы ў гэтым годзе выкарыстаць свае канікулы на першую паездку на бацькаўшчыну і прабыць які месяц дзе-колечы на вёсцы, каб азнаёміцца з мовай і бытам таго народа, на служэнне якому хацеў пасвяціць свае сілы. Па нарадзе, якая адбылася паміж братамі Луцкевічамі і А. Уласавым, М.Багдановічу адпісаў А. Луцкевіч, запрашаючы на лета да свайго дзядзькі, дробнага шляхціца, які меў свой фальварак недзе між Вілейкай і Менскам[15].

У чэрвені месяцы прыехаў М.Багдановіч у Вільню. Пры першай сустрэчы з ім мне ўразіліся яго вочы з даволі праніклівым поглядам, але калі ён, гаворачы, запаляўся, вочы яго глядзелі не на зне, а ўнутр, быццам былі звернуты ў мозг.

Праездам у вёску М.Багдановіч прабыў двое содняў у Вільні. Абедзве ночы начаваў у рэдакцыі «Нашай нівы», якая тады месцілася на Завальнай вуліцы, № 7, у тым самым памяшчэнні, дзе цяпер «Беларуская кнігарня». Абедзве ночы я правёў разам з ім, і кожны раз гутаркі нашы зацягаліся ад змяркання да світання.

Багдановіч дзяліўся сваімі думкамі і з захапленнем пераймаў ад мяне мае ведамасці з беларускай (крыўскай) этнаграфіі і гісторыі, якія я пераказваў яму, як умеў, дэманструючы быўшыя пры рэдакцыі калекцыі Івана Луцкевіча. Асабліва глыбокае ўражанне на Багдановіча зрабілі рукапісы старасвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а такжа слуцкія паясы, якія па некалькі разоў пераглядаў.

— Гэта ёсць фундамент нашага адраджэння! Гэта і за тысячу гадоў будзе сведчыць аб нас! — казаў М.Багдановіч аб помніках нашай старасвецкай культуры.

Мову М.Багдановіч знаў яшчэ дрэнна і, гаворачы, збіваўся на маскоўшчыну, але чутка ўлаўліваў дысанансы, спыняўся і перапытваў: «Як трэба сказаць гэта правільна», «прошу, папраўце мяне».

М.Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэння, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народа, чым мы, працаўнікі, згрупаваныя ў цэнтры. Гэтыя яго думкі аб адраджэнні і былі галоўнай тэмай нашых начных бясед.

Мыслі яго былі больш-менш гэткія. Адзіная аснова нашага адраджэння — гэта сялянства. Усё, што па-за сялянст- вам, — чужое і варожае адраджэнню. Мозгам кожнай нацыі ёсць яго інтэлігенцыя, — і вось першым і найважнейшым нашым за-

даннем павінна быць узгадаванне інтэлігенцыі, выведзенай з сялянскіх мас. М.Багдановіч верыў у інтэлект. Ён з запалам мроіў аб тым, каб з беларускай (крыўскай) інтэлігенцыі ўзгадаваць сапраўднага генія слова, які бы паказаў свайму народу не толькі красу роднай мовы, але даў бы творы з агульналюдскімі цэннасцямі, каб знанне творчасці нашага генія было абавязковым для кожнага культурнага чалавека ўсяго свету. Інтэлігенцыя з народу і сама ў сабе народная, каторая будзе ў сябе ў сям'і гаварыць роднай мовай, будзе вучыць сваіх дзяцей дома спярша ў роднай мове, раней чым паслаць іх у чужую школу, — навучыць народ аднасіцца з пашанай да яго пагарджанай усімі мовы; геніі ж слова павінны ўвекавечыць нашае нацыянальнае імя і паставіць яго нараўне са ўсімі іншымі культурнымі народамі свету.

Пераходзячы да тагачаснай беларускай (крыўскай) пісьменнасці, М.Багдановіч казаў, што, нягледзя на ўсю яе беднасць, яна мае ў сабе зародкі новых дум, новых цэннасцяў. Край беларускі — лясісты і балоцісты. Вось нам і трэба стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія — стэп, у нас наша стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая адменная краса, адменная рытміка, адменны чар. Трэба іх падгледзець, знайсці і вынесці на шырокі свет…

Прабыўшы, здаецца, месяц на вёсцы, М.Багдановіч вяртаўся назад праз Вільню.

Ізноў панавіліся паміж намі гутаркі на тыя ж тэмы. Ён цяпер яшчэ пэўней глядзеў у будучыну. Між іншым, прывёз з сабой праект ацэны літаратурных твораў, прыдуманы ім у часе адпачынку. Ён шукаў матэматычна-правільнага і вернага спосабу ацэны гэтых твораў і прыйшоў да вываду, што такі спосаб можна знайсці, калі разлажыць твор на паасобныя абразы, звароты і словы. Адны абразы і звароты будуць належаць да катэгорыі збітых, выцертых ад доўгага ўжытку, як хадзячая разменная манета, другія будуць саўсім арыгінальнымі, не ўзятымі скульсьці, не запазычанымі ад другіх, а створаныя самім пісьменнікам. Гэтая арыгінальнасць і становіць самае цэннае ў творчасці аўтара. Раўняючы творчасць двух аўтараў, трэба падлічыць суму створаных ім абразоў, зваротаў і думак, кожнага ў аддзельнасці, — і цыфравая розніца пакажа стасунковую выжшасць або ніжшасць аднаго і другога аўтара. Пазней М.Багдановіч уносіў карэктывы да гэтых сваіх думак: ён вымагаў не толькі арыгінальнасці, але і апрацавання арыгінальнага, шліфоўкі, што выказаў у сваім «Апавяданні аб іконніку і залатару».

На вёсцы М.Багдановіч не марнаваў часу. Ён напісаў там цыкл вершаў «Старая Беларусь», у якіх адбіліся яго настроі з пабыцця

ў рэдакцыі «Наша ніва» і, цешу сябе, — часцю мае з ім начныя бяседы, акром таго — нізку вершаў «Места» і, урэшце, — «У вёсцы» і «Вераніка».

За некалькі месяцаў пасля выезду з Вільні М.Багдановіч надаслаў у рэдакцыю «Нашай нівы» рукапіс, у якім былі сабраны яго вершы, як некаторыя з раней друкаваных у «Нашай ніве», так і нанова ім напісаныя, пад агалоўкам «Кніжка выбраных вершаў», з просьбай выпусціць асобнай кніжачкай. Рукапіс гэты пралежаў у рэдакцыі больш паўгода, бо не было грошы, каб надрукаваць яго. І толькі ў 1913 годзе былі дабыты грошы на надрукаванне рукапісу. Здарылася гэта такім парадкам. Мая швагерка, літоўская пісьменніца Пяледа[16] (Lazdynu Peleda), прывезла мне з Кейдан старое антыпендзіум з гербам Равіч[17]. Гэтае антыпендзіум прадаў Іван Луцкевіч нейкаму памешчыку, каторы пячатаўся гербам Равіч (дзева едзе на мядзведзю), за трыста рублёў. 150 рублёў з гэтых грошы пайшло на аплату друкарні за друкаванне «Нашай нівы», а другіх 150 рублёў прызначаны на выданне вершаў М.Багдановіча. Вершы былі здадзены ў друкарню. У час набору іх, перад надрукаваннем першага аркуша, Вацлаў Іваноўскі[18] і Іван Луцкевіч дасталі яшчэ нейкую суму грошы ад княгіні Магдалены Радзівіл на выданне беларускіх кніжак. Пастаноўлена было паказаць спраўнасць перад княгінай, і дзеля гэтага на агалоўнай балоне памешчаны быў знак «лебедзь», што мела азначаць герб Завішаў (Магдалена Радзівіл з дому Завішанка). Рысунак на акладку даў я са свайго сабрання. Гэты рысунак у 1905 годзе зрабіў адзін з вучняў (не памятаю яго прозвішча) Штыгліцаўскай школы. Рысунак напамінае крыху вянок, дзеля гэтага я і пастанавіў, карыстаючы правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўтарскага яшчэ і свой агаловак — «Вянок». Выходзіла нязгорш: «Вянок, кніжка выбраных вершаў». А каб апраўдацца перад чытачамі, чаму названа кніжка «вянком», я на першым, пасля агалоўку, лісце памясціў раз’ясненне: «Вянок на магілу С.А. Палуяна» (= 8 красавіка 1910 г.). Зрабіў я гэта без ведама аўтара, але асноўваючыся на яго сардэчным адношанні да нябожчыка Палуяна. Між іншым, калі кніжка выйшла, М.Багдановіч быў вельмі здаволены з майго помысу, што выразіў у форме падзякі вершам, які павінен быць у маіх архівах. Але, прыняўшы чула агаловак, М.Багдановіч у даўжэзным лісце выказваў мне нездаволенне, што ў кніжцы прайшлі, праз недагляд карэктуры, даволі чысленныя спамылкі, а галоўная з іх — у вершы «Вераніка». Пры ламанні вершу пераблутаны парадак яго: пасля

пятага шасціверша (на 111 бал.) 9, 10 і 11-е шасціվершы, месца якім павінна быць на 113 балоне, пасля 8 шасціверша.

Віна была мая, але я не чуўся вінаватым, што і тлумачыў аўтару ў сваім лісце. Аднак часовая астуда ў нашых стасунках была даволі хутка згладжана. У нас з М.Багдановічам нанова завязалася перапіска, якая цягнулася да лета 1914 года.

Вось пакаротцы галоўнейшае з маіх стасункаў з Максімам Багдановічам. Яго перапіска маецца ў мяне на схове ў глухой правінцыі пад польскай акупацыяй. З часам, калі я дабуду яе, здужаю асобныя моманты гэтага нарыса шырэй асвятліць фактычным матэрыялам.

*[1925]*

## УСПАМІНЫ АБ ЯНКУ КУПАЛУ

З творчасцю Янкі Купалы я пазнаёміўся ў [Пецярбургу][1] у 1906 годзе. Тады прыбылі там поштай рукапісы яго вершаў, якія пасля ўвайшлі ў зборнічак «Жалейка»[2], і іх чытаў, у кружку тагачасных [пецярбургскіх] беларусоў, праф. Эпімах-Шыпіла[3].

Асабіста ж я пазнаў Янку Купалу толькі ў першых датах сакавіка месяца 1909 года, калі пераехаў з Рыгі на сталую працу ў Вільню, куды быў запрошаны А.Уласавым на сакратара рэдакцыі «Наша ніва», якая тады памяшчалася на Віленскай вуліцы, д. № 20, у часова пуставаўшым магазыновым памяшканні, з уходам з тратуара. Прыехаў я ў Вільню вечарам і таго ж дня адведаў рэдакцыю, дзе пазнаёміўся з А.Уласавым, Іванам і Антонам Луцкевічамі і Альгердам Бульбай. З размоў даведаўся, што стала ў рэдакцыі працуюць яшчэ Антон Лявіцкі і Янка Купала, але іх не было дома.

Рэдакцыйнае памяшканне дзялілася на дзве палавіны: ад вуліцы, у быўшым магазыне, была кантора рэдакцыі, ад падворку ж пакой, у тры вакны, з прысёнкам — кватэра Уласава, і ў ім маленькі зачатак будучага беларускага Музея[4], які збіраў Іван Луцкевіч. У прывулічным памяшканні акром рэдакцыйнай канторы быў яшчэ начлежны лёкум для трох асоб: А.Лявіцкага, за дашчанай перагародкай справа, Я.Купалы і рабочага Нагурскага[5] — за шафай, збітай з негабляваных дошак.

На другі дзень прыйшоў я ў рэдакцыю рана і застаў усіх кватарантаў канторы ў поўным камплекце і даволі кіслых настраеннях, якія былі вынікам дрэнных кватэрных варункаў. Кантора

была ў запушчаным стане і на першы погляд рабіла ўражанне складу макулатуры, якая ў постаці ўсякіх газет была звалена каля сцен і сторшылася на паліцах спамянёнай дашчанай шафы. Наганялі нуду даўно не аднаўляныя і спрадвеку не апыляныя сцены. Паветра было прасычана кіслай вільгаццю, дымам ад жалезнай печкі, на якой пякліся прамочаныя наскрозь учора звечара чыесь камашы, і тут жа, у скавародцы, сквірчэлі скваркі, якія з вялікім адданнем асцярожна мяшаў пальцам чалавек з рыжаватай бародкай, у расхрыстанай кашулі і ў апорках на босую нагу, а другі, малады, паспешна апрануўся ў камізэльку над свайго роду мадэявым расцяганым ложкам, якое ад уходу рабіла ўражанне свежа сканаўшага на сцюдзёнай тундры вярблюда.

Незнаёмы над скваркамі быў А.Лявіцкі, незнаёмы пры ложку назваў сябе Янка Купала. Я сказаў, што прыехаў сюды на сталую працу. Лявіцкі асцярожна адставіў на падлогу скавародку і здзіўлена выпрастаўся, Купала, які да гэтага часу скончыў свой туалет, схапіў капялюш і палку і, прабурчэўшы нешта кшталтам: «Сам чорт тутака не ўбудзе, калі так далей будзе», — выскачыў за дзверы. Пры гэткіх акалічнасцях завязалася маё першае знаёмства з Янкам Купалам.

У тыя часы Янка Купала меў сталую працу ў бібліятэцыпажычальні Даніловіча[6], а ў «Нашай ніве» меў дапаможную працу, за бібліятэкарства атрымліваў 25 руб., а за перагляд і падгатоўку вершаў у «Нашу ніву» меў спамянутае вышэй месца ў канторы для свайго раскладнога ложка і, дадаткова, 5 руб. пенсіі. Паспешны выхад яго з рэдакцыі ў першы дзень нашага знаёмства і тлумачыўся яго жаданнем прыйсці на службу ў бібліятэку без спазнення.

Я прыехаў у Вільню не адзін, а з жонкай. Да часу, пакуль знойдзем сабе кватэру, спыніліся мы ў нашых знаёмых. Пенсіі мне назначыла рэдакцыя 30 руб. — з гэтай сумы выдатак на кватэру не павінен быў перавышаць 8 руб. Па некалькіднеўным шуканні кватэру знайшлі мы за 6 руб. у месяц. Кватэра гэта была на Аляксандраўскім бульвары ў доме № 18. Калі гаспадар будаваў свой дом, ён, па-гаспадарску, злева ў канцы дома пабудаваў маленькі будыначак з аднаспаднай стрэшкай для патрэб усіх сваіх кватарантаў, але, як чалавек практычны, змеркаваў пасля, што будыначак агульнай патрэбы можна збіць і з дошак, а мураваны пакойчык, уставіўшы акно, абярнуць на кватэру з асобным уходам. Як падумаў, так і зрабіў. Атрымалася кватэрка з аднаго пакоіку 4 х 8 арш. і сенцаў $1^1/2$ х 4 аршын[7]. Так удачна, на першы пачатак, абаснаваўшыся ў Вільні, рашылі мы з жонкай справіць

наваселле. У дадатку, акурат к гэтаму часу, прыехала ў Вільню сястра маёй жонкі, вядомая літоўская пісьменніца Лаздзіну Пяледа (Lazdynu Peleda). Дзеля таго ж, што ў рэдакцыі «Наша ніва» паміж яе тагачаснымі супрацоўнікамі існаваў распадзел, то з рэдакцыйнага персаналу можна было разлічаць на прыняцце запросін на ўбогае наваселле толькі ад асоб, якія засялялі вуглы ў канторы. Словам, за навасельным сталом, аздобленым кіпучым, як вулкан, самаварам з адпаведнымі да яго, стасоўна стану, прыдаткамі мяснога і мучнога характару аказаліся Лявіцкі і Янка Купала.

За вечар гэты сапраўднай першай знаёмасці перагаворана было многа, бо і чарка гарэлкі падагравала і без таго гарачыя галовы.

Янка Купала, тады працуючы ў бібліятэцы, многа чытаў, асабліва навейшых тагачасных расійскіх і польскіх паэтаў. За сталом жа сядзелі ўсё пісьменнікі: Пяледа, якая вызначалася даволі вялікай пладавітасцю, яе сястра, а мая жонка, Марыя з Іваноўскіх, каторай адна аповесць, напісаная па-польску, была адзначана на конкурсе «Biesiady Literackiej», Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), Янка Купала і я, найменшы між сільнымі пяром, бо акром некалькіх, даволі няскладных, пісьменніцкіх сваіх спроб і хаатычных імкненняў не меў яшчэ тады за сабой нічога.

Разважалі за сталом аб паэтах і пісьменніках, аб іх тыпах і творах. Мая некаторая начытанасць як быўшага бібліятэкара прыватнай студэнцкай бібліятэкі ў [Пецярбургу] і прыродная эрудыцыя давалі магчымасць не толькі жыва весці дыскусію, але ў некаторых выпадках кіраваць ёю. Зрэшты, я ў той час захватваўся навуковай літаратурай і не прызнаваў ніякіх раманаў і повесцей, за выключэннем вершаваных, і то апошнія толькі таму, што тады пагалоўна ўсе беларускія пісьменнікі пісалі толькі вершы. Не прызнаваць вершаў нельга было, бо, лагічна разважаючы, трэба было бы выступаць і супраць беларускай пісьменнасці, а гэтага апошняга я дапусціць не мог.

Янка Купала хваліў Блока[8]. Асаблівай паклонніцай Славацкага[9] была мая жонка, хоць, у істоце, яе ў тыя часы далёка больш захватываў Метэрлінк[10] з яго немаль надпрыроднай чоўнасцю[11] і пераноснямі[12]. З гэтай прычыны значную часць вечара заняло зраўніванне творчасці Метэрлінка з творчасцю Славацкага, выражанай асабліва ў паэме «Król Duch». Лявіцкі быў супраць усякіх «мадэрністаў», і з ім салідарызавалася Пяледа. Купала меў з сабой нейкі зборнік расійскіх паэтаў і прачытаў з іх пару вершаў. Тады я дастаў польскага паэта Стафа[13] «Mister Twardowski»* і вершы Аляксея Талстога[14] і заняў гасцей чытаннем адрыўкаў з названых паэтаў.

---

* У пазнейшыя часы Я.Купала быў падпаўшы пад некаторы ўплыў Стафа, аб чым можна пераканацца з вершаў, напісаных у 1914 годзе.

Пасля гэтага вечара Я.Купала бываў частым у нас госцем, асабліва ў дні адпачынку, якія, час ад часу, праводзілі разам то дома, то па-за домам — у гарадскіх садах.

Гэтак набліжалася вясна, а за ёй і лета. У творчасці Янкі Купалы пачаў намячацца паварот. Верш «Забытая скрыпка» быў беспасярэдным выразам гэтага павароту, услед за якім паявіўся другі, такога ж характару, верш «На высокай гарэ»[15].

У ліпені месяцы ў рэдакцыю «Наша ніва» прыбыў С.Палуян. Да энтузіястычнай і без таго атмасферы, якая ў тыя часы панавала ў «Нашай ніве», упаў кіпучы мэтэор. Тэмпература атмасферы, а разам з гэтым і тэмпераменты паасобных працаўнікоў адразу падняліся. Пачулася нейкая напружанасць. Горстка беларусоў, прапаведнікаў адраджэння, сабраная каля «Нашай нівы», акружаная з усіх старон варожнай атмасферай, раптам уявіла сабе, што знаходзіцца на полі бітвы. Што напіраючая з усіх старон лавіна варожасці можа змыць іх, што, каб устаяць, патрэбны нейкі надлюдскі высілак, нейкі чын, нейкае дзеянне так яркае, каб, як мігавіца, асляпіла супраціўны абоз і ўстрымала яго. Такі дзіў, усім было ясна, мог адбыцца толькі ў дзедзіне духовасці, толькі ў той горстачцы, якая трымала штандар або гарнулася пад яго. Дзеля гэтага ўчытваліся ў кожную фразу, створаную паміж намі і надасланую нам поштай. Услухаліся чоўка і пільна ў тэмп кожнай карэспандэнцыі, кожнага верша, напісанага па-беларуску. Стаўлялі самі сабе магчыма большыя вымогі. У выніку двох-трохмесячнага такога напружання мы самі ўзраслі, а перш за ўсё ўзрос Янка Купала. Мы гэта чулі і разумелі. Гэты цыкл завяршыў верш Я.Купалы «Снег»[16], які, саўсім беспадстаўна, аўтар падпісаў «паводле Пшыбышэўскага»[17].

Я добра памятаю той вечар, калі быў напісаны гэты верш. Было гэта позняй восенню. Выпаў першы глыбокі белы снег, мяккі, пушысты і цёплы. Мы, як і Палуян, сядзелі ў мяне дома. Было ўжо па 12-й гадзіне вечара. С.Палуян і Я.Купала, як мы тады казалі, «выбіраліся ўжо ў вырай» — меліся выязджаць з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзедзіне творчасці. С.Палуян і я непакоіліся, што Я.Купала меў некаторую склоннасць да «шклянога бога». У гэты момант увайшоў Я.Купала, румяны, паводле ўсіх азнак пад знакам Вакха. Пачалося таварыскае казанне. Я.Купала сеў у куце за сталом і маўчаў. На ніякія нашы закіды не адказваў, толькі нешта крэмзаў на пакомканай паперцы алоўкам. Калі мы вычарпалі ўсе свае аргументы і прымоўклі, Я.Купала сказаў: «А цяпер паслухайце, хлопцы». І прачытаў свой верш «Снег». Цяпер, паражаныя хараством верша, мы змоўклі — усе нашы аргументы былі разбіты. Аказалася, што Я.Купала быў таго

вечара ў тэатры, у якім ігралі Пшыбышэўскага «Снег». Мастацтва і прырода ўтварылі настрой, рэшта дапоўніў творчы геній аўтара.

У некалькі дзён пасля гэтага выехаў Я.Купала ў [Пецярбург], а С.Палуян у Кіеў. Было гэта ў канцы 1909 года.

Я.Купала правёў у [Пецярбургу] 1910, 1911, 1912 гады. У 1913 г. быў ізноў у Вільні ў «Нашай ніве», дзе працаваў над выданнямі «Беларускага выдавецтва», а ў 1914 годзе быў замест мяне фактычным рэдактарам «Нашае нівы».

Да другога перыяду працы Я.Купалы ў Вільні апошні меў ужо за сабой некалькі надрукаваных кніжак: «Жалейка», «Huslar»[18], «Адвечная песня»[19], «Шляхам жыцця»[20] і «Паўлінка»[21].

Некаторыя сур'ёзныя і непрыемныя перажыванні перад выездам з Вільні ў [Пецярбург], у 1909 годзе, і жыццёвы рэалізм, пачэрпнуты ў часе бытнасці ў [Пецярбургу], а такжа вечны недастатак паклалі на характар Я.Купалы глыбокі след. Ён, ад прыроды надзелены ўжо замкнутым характарам, яшчэ больш замкнуўся ў сабе, схаваўся ў нейкую зверхнюю халоднасць і, я сказаў бы, нават шорсткасць. Праясняўся і выходзіў са сваёй замкнутасці, праабражаўся толькі пад уплывам алкаголю. У такія моманты халоднасць яго таяла, патухшыя вочы загараліся, і адкрывалася мройлівая мяккая душа славяніна. Прачыхаўся ў ім грамадзянін, які чутка рэагаваў на палітычныя падзеі і класавую несправядлівасць. Словы яго станавіліся пякучымі і іскрыстымі.

Я не буду спыняцца над творчасцю Я.Купалы з гэтага перыяду — яна ўсім вядома. Я.Купала ўзрос на волата ў беларускай пісьменнасці разам з М.Багдановічам і Я.Коласам.

У 1914 годзе Я.Купала пагаварываў аб тым, што час ужо беларускай пісьменнасці перайсці ад дробных вершаў да паэматаў. Пачынаў збіраць матэрыялы да большага свайго паэтыцкага твора, але надыход вайны разбіў яго імкненні.

Некаторы ўплыў на творчасць Я.Купалы спаміж польскіх паэтаў акром Стафа, мне здаецца, меў футурыстычны польскі паэт Юры Янкоўскі22, які ў той час жыў у Вільні пры сваіх бацьках. Уплыў гэты, праўда, у Я.Купалы не выразіўся ў форме вершаў, але ў змесце некаторых яго вершаў 1913–1914 года, як мне здаецца, праявіўся.

Вось галоўнае, што мне памятаецца аб Я.Купалу з часу яго працы ў «Нашай ніве».

*[1928]*

# ВЕРШЫ

* * *

Наперад, змагарна наперад!
Да волі цярэбячы троп,
Штодзённа ўскіпаем мы гневам
І помсту шлюбуем па гроб!

Нахрапнаю крыўдай не ўздзержыць
Вам вольны ў кайданах прастор:
З дум горкіх, з сэрц нашых гартоўны
Скуем мы з праклёнам тапор.

Праметну заборчасць, падзелы,
І здзекі, і крыўды, і пот,
Бярэсце і Рыгу ў дзень судны,
Ў дзень помсты спамяне народ!

Наездчык — крыўдзіцель-грабіцель,
Спакойны стурбуем твой сон:
Пасокаю чорнай тваёю
Наш родны угноім загон!

*[1922]*

* * *

Благаслаўлён сын,
які за Маці чэсць
гатоў да бітвы стаць нябарна:
свабоды дзень для ўсіх
сваёй крывёй
купіць ахвярна.
Благаслаўлён муж, каторы мсціць
знявагу праў грамадскіх
і слёзы ўдоў.
Благаслаўлён будзь, каторы
адплату кроўю дасць за кроў
і ворага прымусіць
імя Беларусі
чціць…
Хай прыйдзе ён, як Бог,
адзет у помсты тучу:
пад громаў гук, маланак блеск,
пад славы песнь пявучу!

*[1922]*

# КОНАДНІ

## ВЯСНОЙ

О ты,
зямля крыві
і волі маладой,
задушанай у калыбцы.
Дыміць вясной
густою мглой
тваіх магілаў-ніў
разор, крывёю зліты.
Дыміць не мглой — слязьмі
і жокаццю
запёкшайся крыві,
што ржавінай рудой
лягла паверх дрыгвы…
На крокацях тваіх вясна
не ёсць разросту шал:
сярод багна, сівых амшар —
ад Радуніц да Гранае —
Марва
трызнуе тут.
У мглах тваіх не п’янь,
а горыч кадзіва чуваць
цем’яна-перных траў,
трупехнучых ў альсе.

## НА РАДУНІЦУ

Над рэчкаю, паміж балот,
магільны груд зямлі;
валтоўкамі заве народ грудкі,
бо волатаў славуты род
між бронзавых аздоб
злажыў тут свой прысок.
Вясной,
спраўляючы Дзядоў,

мы, жыхары дрыгвін,
спяшым яйко разбітае ўкапаць
на прашчурных касцях.
А робім то на знак,
што ў нас плыве іх кроў,
што мы —
даўлетніх волатаў,
ў ярме змалеўшыя, — нашчадкі…

## НА КАЛОЖЫ Ў ГОРАДНІ

У час прадаўны
княгіні апраметнай —
багіні Марвы
быў тут святарны гай.
На клажах з смольных дрэў
у санях ці чаўне
наш прашчур тут гарэў.
Згодам,
падзеяў звыклым ходам,
ў багамільства ўпаўшы сець,
якісь мясцовы валадар
збяёдзіў храм.
У сцены побач з цэннай
грэцкай плінтай
паклаў старых багоў алтар
і прадзедаў сваіх прысок.
Панура зецяць да цяпер
з амшэлых сцен
пустыя жальнікі.
Калі ж святар ў алтары запяе,
у жальніках і вые, і гудзе…
Што знача гэты разгамон?
Ці то — паган пакайны стогн,
ці мо палайка замагільная,
пакрыўдна-абурлівая?..

## ДУМА НА ПОЛАЦКІМ ЗАМЧЫШЧЫ

Цьмы-цьмоў і процьмы лет
на гэтым копішчы канодным,
складалі Дзеве чэсць.
Дзевін зваўся грод,
і Дзевіна рака ў стоп яго ручэла,
бажніца Дзеве ў чэсць
на сонцы дахам снела,
здобячы сабой накоп.
У бажніцы ж, перад Дзевы стодам,
хадзілі дзевы карагодам
ў кудзебны тан.
Святарны хор пявежнай мовай
магутаў племені ўслаўляў.
Збіралісь старцы тут
на раду й суд.
І быў нябесны ход
людскім законам,
змацаваным Правечным Конам…
Весь гэты лад пітомы
разбурыў крыжа знак…
Хай так,
а ўсё ж — на попеле
старэтных стодаў,
пад засцю ценяў іх —
у почце грэчаскіх святых
засела Софас,
мясцовую сабой
змяняючы Паладу.

* * *

Формаў трупехлых я ворагдасконны,
сцежак стаптаных не зношу тварэнні;
новым імкненням даць новыя формы,
новыя словы і дум выражэння
стаўлю я мэтай.

*[1923]*

## РЭЙНСКІ ВАДАПАД

Як вар,
укруг скалы,
што высіцца сярод ракі,
кіпіць — рычыць валва[1]
і пеніцца, як вепр дзікі,
калі яго ў княі[2] аступіць смыч[3].
Пс… во, у голкаце чыйсь кліч,
чыйсь плач цяжкі чуваць!
То зборанай валвы апошні рык
распачны!
Не ўздымецца яна ўжо зноў
ў напружанні змагарным:
ў ручве ціхім і марным,
у забудзі ёй суджана сплываць.
Змаганне, гон, сталока…
Ці ж толькі для таго ўся гэта склока,
каб грываю трахнуць адзіны міг?!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У гроце камяннай,
па-над шалёнаю кіпежай,
стаялі мы з табой, Іване,
ўслухаючысь ў змагарны гуд;
і ты сказаў з задумаю ў вачах:
«Во так шуміць нязмоўчна бор
у нас і дождж аб дах
ў бяссонлівых начах…»
І ты хацеў, каб бор гудзеў
табе пад вечны сон…
Адзін стаю я зноў
над спененай валвой,
спаміны цiснуцца навалай…
Тутніць у жылах кроў…
І я дрыжачаю рукой,
з святарнаю пашанай,
пасцерты ўжо дажджом
твой надпіс паднавіў.
І мне здалось,
што быў ты зноў са мной…
І быў-ткі, мусі,

як дух змагання
Беларусі.

*[1923]*

## КЁЛЬНСКІ САБОР

Пачвар брыдкіх збароўшы роты,
наўзвыш рвануў пабедны дух!
Ткі ўздойм пачулі готы
ў сваёй душы, скрышыўшы Рым.
Пазбыт ланцуг!!!
І Богу ў чэсць кудзьбіт старэтны
змяняў скалу у хвальны спеў,
шыбаў да зор, хоць апраметну
глыбежу знаў, ды шчасця міг
багоміць ўмеў…
Кудзебных кроз, хацьбы магутнай,
агідных мар — у гэты мур —
ўклята бязмер! З-пад снедзі бруднай
яшчэ цяпер лучаць гудзьбы
змагарных бур!

*[1923]*

## У АЛЬПАХ

Кругом
правечна бель снягоў,
не топтаных людской ступой…
У вышы сінеюць льды
дамаскай сталлю,
і небазвод ўражае даллю
панадлівых нябёс паўдзённых.
Як надзен іх блакіт чароўны
з краіны вечных сцюж!
А глянеш ўніз, з гары, —
пабачыш там муры
дамоў, святынь,
малых ў нізіннай далі.

І горнага арла
на скале,
што з годнасцю спакойнай
паміж забаў ў стыхіі вольнай
аднехаця цікуе зайчы троп.
За намі шэры строп
нябёс паўночных,
абшар, дзе лютуе зіма,
дзе белым саянам снягоў
засцелена зямля.
Тут, на рубяжы двох светаў,
двох культур,
дзесь з вяршадзі высокай
глядзя на рымскіх замкаў звалы
тваёй мінуўшай славы,
што ўжо не дасць натхнення,
я не завідую табе,
Італьская зямля!
Лепш наша бедная калыска,
жыццём напоўнена ушчэрць,
як ваш трупехлы гроб,
з якога зеціць смерць.

*[1923]*

## САБОР СВ. МАРКА Ў ВЕНЕЦЫІ

Візантыі таўпежнай —
бліскучай, чваннай і мнагагрэшнай —
сівы мармур старэтных сцен
замацаваў пакайны гімн!
Масіў яго к зямлі прырос,
як собіна святая,
і толькі Апалонаў воз
імкнецца да нябёс.
Ўнутры вачамі грозных ўладароў
з залочанага стропу на шэры дол
святыя поснікі халодным зрокам
з суровасцю нямой глядзяць!
Яны — імперыі нябеснае княжаты,
багомасцю багаты, —

няслі ў жыцці крыжы,
дык ты… цяпер
дрыжы!
Ці будзь раўнёю ім:
або чарнец, або ўладар…
Спагаду, літасці табе
не суліць іхні зрок,
калі зняважыў неўнарок
зямны ці то нябесны цэзарызм.
Ўвесь гэты холад, пыху і суровасць
адно мякчыць: залочана асноведзь.

*[1923]*

## ГЕНУЭЗСКІ РЫНАК

Купцам рады палацаў пышных
бязродны раб тут настаўляў
і маўрытанскі лук выгібны
вычурнай вяззю аздабляў.
Зусюль сюды палон звазіўся,
з далёкай нат Русі,
які штогоду набіралі
у нас святыя, добрыя князі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Алег сталіцу крывічоў,
град людны і вялік, паланіў:
ён першы шлях у Генуюю
цераз таўрыдскія фактор’і[4]
з людскім таварам торыў…
Рагнеду Ладзімір перад баярамі
растліў,
а гордых полацкіх мяшчан
куды ж? Ў Генуюю збыў…
Пазней ён тураўцаў да Бога навярнуў,
у веры прасвяціў:
«со кліром і епіскопы» у Прыпяцях хрысціў.
Хіба сваіх! Бо бунтароў, а гэта ўсіх,
пляніў
і цераз корсунскіх купцоў[5]
на віны кіпрскія змяніў.

І ось пайшлі у Кіеве піры,
князь-сонейка на покуце,
пры ім багатыры:
Дзюковічы, Плянковічы,
дапушчан смерд той Селянінавіч
да княжага стала,
скранулі мурамскага з пушчаў седуна
к вялікай справе.
Па-п’янаму ідзе застольная лахва
з разбойніцкіх учынкаў…
Наслухаўшысь якой, да гэтае пары —
кудзебнікі, гудзьбіты, скамары —
дурылі й дураць свет
былінамі!
Прост радасна было дружыне ваякоў,
паверыўшым насвежа у Хрыста,
што ім ад кожнага храста пяцёх паган
прыходзіцца па душ пяцьсот
славянскай нехрысці…
Якіх, аднак, —
хай новы Gott gross прыме dank[6] —
Карсунь за золата купляе;
пазней штолепшых дзевак спаміж іх—
ну, ведама, паганак —
ў Генуую высылае.
Ладзімір Манамах, спаліўшы Менск,
замежны свой папоўніў крам:
ні чэлядзі, ані жывіны
не кінуў там,
усё і ўсіх забраў
і дзедаўскай сцягой
у Генуую пагнаў!
І дзвесце з лішнім лет трывала оргія хрышчэння,
гуляла Русь без ўсякае аглядкі:
палілі гарады, з зямлёй раўнялі весі,
дасцейны Рурыка нашчадкі…
То іх мясцовыя мужы,
што з даняю прыйшлі
і з горкім словам, —
да воўкаў роўнілі ў аўчарні:
яны — бо люд не распаслі,
як некалі свае

мясцовыя князі.
Затое поўныя галеры,
набітыя ўпавал людзьмі,
плылі ад крымскіх берагоў
па ўсіх партовых гарадах
паміжзямельных.
І тут,
на гэтым рынку,
княжыя мужы «таварам» таргавалі:
рабоў, рабынь — палоненых у вайне, —
на продаж выстаўлялі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мінула тысяча ўладання русаў лет,
і воляю каноднай
на гэтых самых камянёх
ідзе зноў торг нягодны.
А толькі ў нашы дні ідзе ўжо ладам новым:
з раздробнага, малога
ён стаўся, бач, гуртовым!
Ізноў патомкаў крывічоў
паставіў камунізм
на торжашчным кружале:
не тых, партыйных, а такіх,
якіх й варагі прадавалі.

*[1923]*

* * *

Паэт, ты вольнага Пегаса
ў прыгожых дум ярмо ўпрагай
і тучны чарназём
мінуўшчыны радзімай
у скібы стройныя складай!
Бо толькі гэта глеба
дасць нам жаданы агняквет,
якім крывіцкі геній
счаруе свет.
Бо толькі родны чарназём,
цяплом духовым абагрэт,

здалее даць пітомнае красы
прадзіўны квет.

*[1923]*

## НА СМАЛЕНСКІХ СЦЕНАХ

Смаленскіх сцен масіў патужны
ў бяссіллі распластаўся,
забітай волі крывічоў
мне ён нагробкам здаўся!..
Андрусаўскі злачын яго ўчыніў
сатрапіяй маскоўскай,
і дзвесце з лішнім лет, цягаючы ярмо,
яго раджайны гоні
кармілі чужакоў і ворагаў пладзілі
крывіцкае Пагоні.
Аж дзвесце цяжкіх лет канання
слязьмі і потам абліваўся…
Смаленск!
Праз мукі, горасці свае
у рэшце рэшт
святым для нас ты стаўся!..

*[1923]*

## ЧЫТАЮЧЫ ГАМЕРА

Магутаў быт навекі прамінуў,
кідаючы адно
патомным на ўспамін
праснёны сон паэты.
Чаруе ў ім
не чынаў рытм, і не высілак той
паўпастыраў-князёў пры сценах Троі,
і не Ахілес-асілак,
а думаў бег, што геній роіў
між елачы жыцця.
Адзіна ён,
патужны дух Гамера,
стварыў старэтную

Эладу,
яе сыноў нясмертнымі ўчыніў,
прыгожасцю абдарыў!

*[1923]*

## НА ОДЫ ГАРАЦЫЯ

Як старае віно, разлітае ў чары,
залотное дае яство,
што йскрыцца ў крыштале, —
так меніцца святлом дасюль,
ў яго тварэннях векапомных,
умца нясмертны дух!
І як старэтны Вакха ў чарах дар
тхне ў сэрца нам цяплом,
так верш Гарацыя акудны
дарыць красотаў
чар нязбудны!..

*[1923]*

## НА ЧУЖЫНЕ

*З народных матываў*

Зайшоў, забрыў бел-малойчык
у чужу пастылую
чужыначку,
басурмацкую краіначку.
Налілі, падалі бел-малойчыку
тры-чатыры паўненькія,
ўсе тры раўненькія:
а ў першай чары
туга пякуча,
а ў другой чары
слёзы гаручы,
а ў трэцяй чары
забудзь гаюча!
— Выпі, выпі, бел-малойча,
тры чары паўненькія,

выпі, выпі ты, малойча, усе тры раўненькія…
— Хоць я іх і вып’ю,
я п’яны не буду,
а родну старонку
павек не забуду,
хоць я іх і вып’ю, —
з ножак не звалюся,
хоць на Божу пасцельку
дамоў я вярнуся…
Гэй,
старана мая, старонaчка!
Не магу цябе прызабыціся,
і ўночы сплючы, і ўдзень ходзячы:
а я ўночы сплю, ды не высплюся,
а я ўдзень хаджу — прызамыслюся…

*[1923]*

## ПЕСНЯ А КНЯЗЮ ВІТАЎЦЕ

*На старабеларускія матывы*

Ідзе Вітаўт па вуліцы,
За ім нясуць дзве шаблiцы.
Слаўны князь Вітаўт,
Слаўны Гаспадару,
Слаўна наша Гаспадарства!
Шаблі літы, злотам біты,
У яшчар-скуру апавіты.
Адна шабля для спадара,
Друга шабля на татара.
Стануў Вітаўт прад кашовым,
Блiснуў ў сонцы шабляй новай,
Стукнуў-грукнуў у падковы:
Гэй, шыхтуйся, пан кашовы.
Гэй, шыхтуйся збройна, жвава,
Дзе йдзе бітвы слаўна справа.
Кош ўвесь гукнуў з самапалаў,
З сямі-пятых ад запалаў,
Крыкнуў: «Слава, слаўны княжа,
Вораг ў полі косцю ляжа!

Славу Русі, славу Жмудзі
Ў песнях славіць будуць людзі».

*[1923]*

## У ГАДАЎШЧЫНУ ЛЮБЛІНСКАЙ ГАНЬБЫ

Заліты нашчадзі пякучымі слязьмі,
прамочаны прыгонскім потам,
к Тваім вачам сляпым, о Маці!
падносіць лях Люблінскі пергамін
і пальцам, гліпкім ад крыві,
Табе на успамін
паказуе аблыжны сказ:
пра еднасць брацкую,
пра ласку ляцкую…
А кроў
Тваіх сыноў
цячэ з старога звітку…
І ёю поўніцца абшар
ад Нарава па Сож…
З зямлі, святая, праступае,
яднанне з катам праклінае
і кліча гнеўны кліч:
— О, ляша, — брат твой —
дзе крывіч?

*[1923]*

## ПАКУТНІК

Душой суцьмежаны, ў ярмо упрэжаны,
Пад крыкат, глум гвалтаўнікоў
Ішоў сцяжыцаю, ішоў цярніцаю,
Слязамі значучы свой след.

І знят адмогаю, дарогай доўгаю,
Пазбыўся мар і светлых кроз,
П’янеў пакутаю, радзеў атрутаю
І сам рабом лічыў сябе.

Браты ім торжылі, батогам сморжылі,
На крыж вялі пакутніка,
І рады трызнілі, што сілаў вызбылі,
Што крэпку сталь далі ў ланцуг…

Хоць многа мудрылі, таго ж не дукрылі,
Што скорасу клёк ўспыхае з мук,
Што ён у болесцях, ў душы крыёмасцях
Расціў ў сабе гартоўны дух.

*[1923]*

## ЗОРНІК

У цемры копішча панурай,
на пасадзе ў сем цяблін,
засядаў маўклівы божыч,
праўд і мудрасці пачын.
Ў намаганні ўцелаісціць
у фігуру ідэал —
мастака рука няўдольна
надала чалу авал
і застыглы, бы здзіўлёны,
погляд выпуклым вачам,
а на вуснах палажыла
напаўусмешкі жостры шрам…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У ночны першы кураклік
прад фігураю знянацна
з цемры вынырнуў старык…
Спазірнуўшы ў знакі небны,
праспяваў ён гімн малебны:
«Доўгім постам і малітвай
змацаваны,
падыму мой зрок к зеніту
спрацаваны!
Ты ж, Правечны, дух мой кволы
свят-прасвядаю натхні
і прызначання тайніцы
хоць рубочак адхіні!
Я ж, нягодны, не жадаю
знаць усіх Тваіх дарог:

час і кон ў Тваёй абладзе…
Ўчуй, малю Цябе, Сварог!»
І натхнёнаю экстазай
старца верай зрок пылаў,
як пакорна ў под цагляны
ён паклоны адбіваў.
Так маліўся доўга старац,
дух малітвай мацаваў…
Мякла сэрца… зрок любоўна
на фігуры спачываў.
Ўрэшце выйшаў на узгорак
панадрэчны…
Ў той жа момант Кон Правечны
блакіт-кнігу ў высях неба
разгарнуў…
І агністыя пісьмёны
атамкнуў…
Доўга зеціў зорнік ўгору,
цікаваў за неба часткай,
дзе гарэў міглівы поблеск
зоркі крывічанскай…

*[1923]*

## З МІКЕЛАНЖЭЛА

Маўчы, прашу цябе, не важ мяне будзіць!
У гэты век, такі праступны і бясстыдны,
Не жыць, не чуць — які то быў бы лёс завідны!
Прыемна спаць, а каменем ўсё ж лепей быць…

*[1923]*

## НА КАЛЯДЫ

Ясны месяц — сам пан гаспадар,
Красна сонца — яго жана,
Дробны зораньні — яго дзетухны,
Буен вецер — яго служанькі.

*З каляднай шчадроўкі*

Святаў Калядаў крывіцкім звычаем
ў хатках нізенькіх прыждаўшы,
ў конадзень славіці выправім чэлядзь к суседу,
«слаўце як трэба» сказаўшы.
Сам я сягоння з жаною князям й княгіняй завуся:
месякам ясным я ў хаце,
сонейкам жоначка будзе…
Сеўшы на покуць, на лаве шырокай,
дзетачак-зорак і чэлядзь пасадзім круг-столу:
вось і нябёсы у хатцы убогай,
вось і багамі мы, людзі!

*[1923]*

## ПІШЫ…

Пішы,
пра болесці,
жыцця пышы,
пра глум і здзек —
ярэмнае мадзенне,
пра трутны хлеб,
пра слоў каменні…
Як брат няволіць брата,
як раб багоміць ката,
пра стогн душы
пішы!
Не словамі,
не чорнаю слязой
чарнільнаю,
а нервамі, крывёй,
узрыгамі душы
пішы!

Сябе распні
на крыжу мук,
надзеі спапялі,
ачысці сэрца
у агні
цярпення,
усіх багоў і стодаў,
кром міласці к народу,
ты пакрышы!
Й пішы:
журбой сіротнаю,
смагой гаротнаю,
самотай ўдоваю,
пакрыўдай братняю,
тульбой бясхатняю,
сардэчнаю тугой,
мілуючай душой,
зямлі апарамі
і чарамі
мінуўшчыны
свой твор вяршы,
слязьмі душы
пішы!

## О, КРЫЎСКАЯ ЗЯМЛЯ…

Чаму зняслаўлена,
свабоды любае
здавён пазбаўлена,
О, Крыўская зямля!
Чаму Ты поішся
слязьмі гаручымі?
Чаму Ты поўнішся
бядой пякучаю?..
Бо Ты,
зямля крыві,
не валадарная
і не магутная,
раба бяздомная,
раба пакутная…

Раба,
не валадарная!..
Дык вось чаму Твой лік
загіджаны, красы пазбаўлены,
дык вось чаму Ты, ясная,
зняслаўлена!
Знямслаўлена, пакрыўджана,
ў славян сям'і паніжана…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Крывёй сыноў Тваіх
куплялі славу гучную
на Грунвальду палёх.
Ад дзікае арды баронячы Заход,
Тваіх байцоў касцісты
вал палёг!
Безыменнаю, а ўсё ж Тваёй крывёй
паліты Хоціма даліны
і па-над Калкаю-ракой
маскальскія нізіны…
Арошаны крывёй Тваіх сыноў
іпранскі край,
Само-Сьера, Рэйн, Ара, По,
сівы Дунай!..
О так, гаротныя крыўцы
ламалі косці за чужую справу,
сваёй крывёй і мазалём
ішлі купляць чужынцам славу!
Сабе ж? Ды што сабе
жадаці мог правечны раб
чужое думкі?!
Найбольш хіба
прыгону лепшыя варункі…
Бо што ж, калі прывык
чужых багоў
ў чужацкай мове славіць,
з чужыны браць чужацкі полер
і чціць чужы на сцягах колер!
Нясці свае чужынцам думы,
адзетыя ў чужацку шату,
і верным быць сваёму кату…

Раба,
не валадарная!..
Дык вось чаму крывец
кару яловую у хлеб мяшаў!
Чужыя ж каланісты
чысцейшае зярно
стругамі гналі ў Рыгу…
А нам-то што?
Дармо.
Паном іх панскі Бог спрыяе…
У нас свайго няма…
А Дзедка-Дамавік,
той штось гуляе…
. . . . . . . . . . . . . . . . .
О, Крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!..

*[1924]*

## ДА .....

І ў храме вылі псы і шакалы…

*З асірыйска-вавілонскіх паказак*

Заскробласцю мазгоў,
кастырствам дум
пышацца я не ўмею…
І дэмагагічнасцю тупой
перад збянтэжанай таўпой
крыўляцца не пасмею,
шануючы ў таўпе людзей.
Пакіну гэта вам,
каты свабодных дум!
Агідзен мне
ваш цесны светагляд,
ваш ум чарвя зямнога…
Арла душы маёй,
вам, карлікам сляпым,
у цесну клетку не загнаць:
ён ўспоены маёй сардэчнаю крывёй,
з ім буду я

агністаю купінаю пылаць,
кідаючы святло
і ў вашы цвілыя закуткі,
таргоўнікі святым,
шакалы, недалюдкі!

*[1924]*

## ЧАЛА Я НЕ ХІЛІЎ ПРАД СІЛАЙ

Чала я не хіліў прад сілай
і не качаўся полазам у порсці,
клумлівай і тупой таўпе
не біў паклонаў я,
пратораны дарожкі
з пагардай абмінаў,
ламаючы шчырэц навіны.
Вось гэта ўсе мае грахі,
вось гэта ўсё, у чым я вінны!..

*[1924]*

# ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ

## БАЯНУ

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, на крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону…

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песень — далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, у кустах лазовых, што ніцма прыпалі да ролі…

Зычаць яны ў чашках струпехлых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што з вежы, над целам чужога тутка Баболі[1], кліча на Ave Maria…

У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы…

Вольныя песні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасць народа, пра чэсць крывічанскага роду.

*[1926–1927]*

## ЧЫРВОНЕЦ

У меставай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень-ноч пільнуе, схіліўся я й падняў чырвонец паўнаважны з-пад ног людскіх, — якога перш не бачылі ранейшыя хадзьбіты. Кругом мяне натоўп зрабіўся.

Казалі мне адны, што я падняў от свежую іх згубу… Другія, — што я не першы звочыў, што дзель яны павінны ўзяць з маёй знаходкі.

Старожы ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місцюк, што я кастыг за пенязь выдаю: «Бо хто на бітым шляху па золаце таптаў бы, чакаючы «яго» прыходу з падарожы?!»

І ўсе паверылі старожы…

*[1926–1927]*

## У ЧАС АБЛОГІ

На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў. Змацаваў яго дубоваю сцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны палажыў.

У клеці звёз усякага дабра, — калі б на грод лягла аблога…

І вояў здрадных, лжывых я разлічыў, каб з вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень…

І от нахлынуў вораг многі.

Ударыў я у звон трывожны. Дзынеў патужна цяжкі спіж[2]…

Аднак на клік мой зоўны ніхто ка мне не пасяшыў:

У горадзе маім — такім мацоўным — адзін я быў!..

*[1926–1927]*

## ПАДАРОЖНІК

Я клункі ўжо злажыў і, сукатаю кульбою падпёршыся, гляджу на раздарожы. Шляхі скрозь хомарам пакрыты… А ўкруг мяне стаяць старожы, гатовыя вароты расчыніць, калі я мыта аплачу душы маёй аздобамі.

Панукаю вісіць штодзённы боль няўнімны… Ідзі! кваліць дзіцятка у калыбцы. Ідзі — сычыць змяюга падкалодна. Ах, як душы ад брамаў тых халодна!..

Магілішчы кругом… за кожнай брамаю капец… Калі ж, калі канец трудлівай будзе падарожы?

*[1926–1927]*

## НА ХРЭСЬБІНАХ

Ў гасподзе светлай на седзішчы высокім гасціў у дзень урочысты яго я нарадзін. Ды плакала душа, што жоскі троп жыцця гатуе ўжо завалы на сцежках бадавейных.

Тры ветніцы сягоння, з намі тут, запрадкі жыццёвай нітачкі тваёй спраўляюць. Праклюдныя старухі! Ім ведама усё, й не зжахнуцца ж ані! Спакойнаю рукой бяруць у пальцы смычку і цягнуць ніць жыцця на верацяно.

Круціся, гэй, круціся, вераценца! Да сонца раз, у цемру раз, усё кругом, кругом…і ўсё бліжэй да долу.

Музыка грае тост. У чарах пеніцца віно. І ўсё, у такт, свярліць у мозгу мысль: ці слёз, якія будзе ліць ў жыцці наш навародак, гасцей хапіла б напаіць і хто іх будзе піць?..

Тры ветніцы прадуць, і ніць усё струнчэй. Званіце чарамі, іграйце тост! Хутчэй!!

*[1926–1927]*

# ДРАМАТЫЧНЫ АБРАЗОК

## АДЗІНОКІ

*Эпізод з жыцця ФранціШка Скарыны*

Палац перад ратушай у Вільні. На мураваным падвышэнні стаіць магістрацкі ўрадовец, ліцытуючы[1] рэчы даўжнікоў. Яго акружае гарадская публіка: мяшчане, мяшчанкі, купцы, духоўныя абодвух законаў, студэнты, якія вучацца ў загранічных універсітэтах, чэрнь.

Урадовец

Во гэту груду кніг, панове,
будзем прадаваці,
хто купіць ахвочы,
просім аглядаці!

Цікавыя падыходзяць да кніг, зваленых у груду на пляцы.

Першы студэнт
*(разгортваючы тоўсты фаліянт, да свайго калегі)*

Старасвецкім, роўным пісана уставам,
многа працы, добрая аправа,
ды, на жаль, навейшых тут дарма шукаць ідэяў.

Другі студэнт

Усё ж прыгожы гэты завіток са змеяў!
Каб ён быў у боскім стылю адраджэння,
я б гатоў быў даці…

Трэці студэнт
*(смеючыся)*

Скажаш, чэсць свайго імення!..

Другі студэнт

Мала тут лаціны — болей усё букі…
Ёсць у простай мове для паспольства друкі…
Не, шукаць дарэмна тутка што жывое,
Ў духу гуманізму… Больш усё такое,
не для нас. Асвету знаючых замежну,
творы Аліг'еры, Гуса мысль бунтэжну…

Першы манах

Во так карае Бог рушыцеляў закону!
Яго ж святыя словы Францiш крануў рукою
у кнігах, ім самім наноўна друкаваных…

Першы мешчанін

Такіх даўней каменнем пабівана!

Другі мешчанін

І моладзі ў навуку рубалі гэткім руку.

Другі манах

Вось ён ідзе… Бязбожнік!

Трэці мешчанін

Ён толькі навамоднік;
бязбожнасці няма ў ім!

Першы манах

Пракляты вы давеку, мудрачыя ў пісьме,
што анельскай рукой накрэслена было!

Першы францішканец

Свае яго не любяць,
затое, бач, і губяць.

Другі францішканец

Аб што ж у іх то ўсё пайшло?

Першы францішканец

Ён кнігі пераклаў на мову іх прыродну,
яны ж работу ўсю яго прызналі за нягодну.

Першы пан

Прост дзіўна: ён навукі скончыў многі
і доктарам сябе мянуе,
а сам гарнецца да паспольства
і кнігі ім друкуе?!

Другі пан

Што, кнігі для мяшчан тутэйшых
і цёмнага паспольства? Дзіўна!
Не бачу мудрасці я ў ім,
бо ж гэта прост наіўна!..
Тут, дзе шляхты род з Італьскае зямлі
вядзе пачатак свой. Хоць, праўда, агрубеў
між гэтага народа, — усё ж традыцыя і кроў
павінны падказаць, што мы, ад шляхты да паноў,
к лаціне вінны павяртаць!
А гэтых шкодных пісьмакоў паспольных
да ката даць!

Урадовец

Ацэнены на копы дзве,
во гэты кнігі ўсе,
хто з вас, панове, болей?!

Голас з таўпы

Не трэба іх у народ шырыць,
а лепш, бязбожныя, спаліць!

Першы манах

Найлепш спаліць!
Развеяць попел з ветрам!

Другі студэнт
*(да калегі)*

А я ўсё ж хачу сабе купіць
адну з тых кніг, што змеямі
застаўкі маляваны…

Мешчанін

Давайце дроў, агню!
Няхай гарыць паганы!

Францішканец

Мы пойдзем згэтуль, брат,
бо тут благая йдзе гульня!

Другі пан

Люблю прастоту нашу,
здаровага ў ёй шмат інстынкту!
Я сам на іншы суд
даў кніжні гэтай,
якая толькі можа далей
у барбарства нас гнаць…
Нам, крыўцам і літве,
нашчадкам рымлянаў славетных,
к лаціне трэ вяртаць…

Чэрнядзь
*(зносячы салому і дровы)*

То ж, ведама, бязбожнік!
Яшчэ які! Каб ты умеў чытаць,
то з кнігаў гэтых, як той бунтэжнік,
чарцей бы здолеў выклікаць
сабе на ўслугі.
— І думаеш, што чорт бы мне служыў?
— А то чаму ж бы не!..

Армянін

Ў даўгі ўлез па вушы
праз кнігі ён свае…
Мешчанін:
Кідай ў яго каменне,
бязбожніка, што губіць душы!..

Камень трапляе ў Францішка Скарыну, і ён абапіраецца аб сцяну ратушы, злева ад таўпы. У таўпе выбухае смех адначасна з клубамі дыму недзе некім запаленай ахапкі саломы.

Скарына

Горкім палынам шлях мой буяе,
горыч ліць ў чару жыццё не скупіцца,
І супакою сэрца не знае…
Ох, як ужо трудна далей так біцца!
Вечнае Праўды Духу Вячысты,

у сведкі Цябе я корна ўзываю,
сведч хоць патомным парыў мой чысты,
шчыру ахвярнасць клаў як для Краю!..
У садзе віновым, нівы айчыстай
у поце і зною як я трудзіўся:
кожны расточак духам жарчыстым
грэў я, кукобіў і весяліўся
уродзе мабытнай…
Шмат што якое
мной ўскалыхана, шмат і зярнятак
кволых, быць можа, кінута мною:
у шчырым імкненні шчыра клаў датак…
Стрэў жа ў адплату посык змяіны,
напасць нікчэмну, зайздрасць і здраду,
стаў прад людзямі вінен бязвінна…
Колькі балота, подласці, яду!..
Што пражылося, цяжка спісаці,
трудна і ўцяміць, скуль тае зносці…
Сілы, цярпення, заўтра каб ждаці
між ўсёй агіды людскае злосці.
Зноў жа от жоўцю хлеб мой паліты,
дзень мой заслала чорная Марва:
крыж мой цяжэе… Сіл недастатак…
Дзе ж ты, я клічу, Вечная Праўда?!

Паміж Скарынам і таўпой праходзяць доўгім радам гарадскія жанчыны, вяртаючыся з работы. Ідучы, яны пяюць уложаную Скарынам песню.

О, Ойча наш, Уладар Нябёс!
Хай імя вечнае Тваё
між нас свяціцца векавечна.

Пад гукі песні імгла закрывае абраз.

*[1923]*

## [З НАШАГА ЖЫЦЦЯ]

Прошлага месяца верасня бургамістр сталічнага чэшскага горада Прагі выдаў адозву да чэшскага грамадзянства, у каторай кажа, што праз гэты месяц на чэшскія нацыянальныя школы трэба злажыць паўмільёна рублёў. І… чэхі зложаць!

Чэхі — народ светлы, народ свядомы, каторы разумее, што справа грамадская, справа нацыянальная — гэта таксама справа і кожнага грамадзяніна, кожнага чэха паасобку. А ў нас? У нас доўгае паднявольнае жыццё асляпіла народ, адабрала ад яго характар, цвёрдасць, гордасць нацыянальную, зрабіла яго слугой і нявольнікам, скалечыла ягоную душу і давяло народ да таго, што ён мовы сваёй роднай, спрадвечнай, — той мовы, каторая песняй калыснай лілася над ім з матчыных грудзей, пачаў стыдацца…

Да таго дайшло ўжо ў нас, што сын, пабыўшы ў свеце, кідае мову бацькоў сваіх лёгка і скора, як дакураную папяросу, ані крыхаткі не падумаўшы аб тым, што, вярнуўшыся ў хату бацькоў, чужынцам будзе, не адну крывавую слязіну выцісне з вачэй «простых» бацькоў «крывы» сынок, што ўсё роднае, забытае нявіднай сцяной стане паміж ім і цэлым народам яго і, як злая мара, ляжа на пуціне яго жыцця. Доўгае паднявольнае жыццё селяніна зрабіла яго тым, што ён, калі хоча паказацца разумнейшым або далікатнейшым, то панскай мовай загаворыць, а не сваёй, бо рабская ягоная душа і розум цёмны прымушаюць лічыць усё сваё, хаця бы найлепшае, нечым горшым.

Вось як яно ў нас са справай свядомасці нацыянальнай, а што ўжо казаць аб зразуменні супольнай грамадскай справы!

Няхай жа кожны, у кім дух народа не згас, чыя душа парвала іржавыя нявольнічыя путы, хто перастаў чуцца прадажным та-

варам, а пачувае ў сабе дух чалавека, — няхай словам і дзелам сведчыць цёмным братам сваім, што і яны такія ж людзі, як і іншыя, няхай нясе сваю бацькоўскую мову ў жыццё, у свет, вучыць лічыць нацыянальную справу справай сваёй. Няхай у кожным кутку Беларусі і на чужыне выйдуць лепшыя сыны бацькаўшчыны нашае — выйдуць, падобна працавітаму аратаму, на глебу народную, няхай адвернуць непачатую скібу і сеюць зерне свядомасці нацыянальнай, каб тады, як і ад нас зажадаюць ахвяры на народнае дзела, людзі аб беларусах маглі бы так сказаць, як мы цяпер кажам аб чэхах:

— І яны зложаць!

*[1909]*

## КОЛЬКІ СЛОЎ АБ ДАЎНЯЙ ВЕРЫ БЕЛАРУСАЎ

### І

Павэдлуг даўняй паганскай веры нашых прадзедаў, пачатак усяму ў шырокім свеце даў спрадвечны Кон. Ён назначыў кірунак і долю як багам, так і людзям, зямлі і мору, звярам і раслінам, і ніхто і нішто ўжо змяніць не можа, нават ён сам, спрадвечны Кон. Нашы прадзеды, хочучы прадставіць сабе спрадвечнага Кона, вырэзвалі з каменю, металу або дрэва фігуру, зложаную з трох вужоў, сплеценых у адно хвастамі і з раскінутымі ў розныя стараны галавамі. Гэта быў знак багаслаўлення, знак святы.

Усім жывым на зямлі кіравалі дзве глаўныя сілы: дабро і зло, свет і цемнь. Сімвалам дабра, свету, жыцця было сонца, сімвалам зла і смерці — цемнь. Гэтыя праціўныя сабе дзве сілы вечна павінны былі змагацца паміж сабой, вечна ваяваць за ўласць над светам. Кожная з іх мела пад камандай грамады духаў, каторыя былі іх памочнікамі ў вечным змаганні. Продкі нашы верылі ў загробнае жыццё і ў тое, што душы добрых людзей, продкаў роду, аставаліся заўсягды з сваімі родзічамі, месца іхняе было на покуці. Душы злых людзей жылі пад зямлёй у вечнай цемні. Але апроч гэтых душ былі яшчэ душы ні злыя, ні добрыя, так сказаць, душы пакутныя, гэтыя знаходзіліся большую частку года пад зямлёй і выходзілі на зямлю толькі вясной: ад Радуніцы да Купалы. Гэта русалкі, казыткі і др.

За жыццём людскім на свеце пільнавалі глаўным чынам тры багі: Рок (у заходніх славян называўся ён Prowe — правы, справядлівы), бог праўды, судоў, справядлівасці, Лада — бог ладу, дабра і парадку, ды Jesse, бог міласці і любві бліжняга.

Апрача гэтых багоў было яшчэ шмат іншых, каторыя апекаваліся аддзельнымі людзьмі або справамі. Так, бог громаў і маланак — Пярун. Бог жывёлы ўсялякай — Волас. Бог све- ту — Светавід. Бог купцоў — Радагост (у старaславянскай мове купец называўся госцем).

Лада трымаў парадак на зямлі —лад, і пад яго апекай усё ішло парадкам, ладам, кругам: пасля дня наступала ноч, пасля зімы — лета, і ўсё ў сваім парадку, усё ў ладзе. Год састаўляў круг Лада, і ў гаду было тры Ладавых святкі і адно Дзядовае свята. Святы гэтыя прыпадалі якраз на пералом сонечнага года на вясну, лета, восень і зіму, як ва ўсіх вельмі старых народаў, таксама вясной пачынаўся год і ў нашых продкаў, і на гэты час прыходзіліся глаўныя святкі.

Народная памяць даўжэй за ўсіх праслаўляла Рока і Лада. Рок, як ужо было сказана вышэй, быў богам праўды, справядлівасці, дзеля гэтага ён меў сваё асобнае месца чэсці, каторае ад яго імені называлася ўрочышчам. Продкі нашы жылі грамадамі, кожная грамада лічыла ў сабе сорак сямей і называлася соракам.

На ўсходняй мяжы сорака быў заўсягды капец, на версе каторага знаходзіўся тын, ці поруб, з двума варотамі, звернутымі на ўсход і захад. У порубе каля сцен стаялі лавы і пасярэдзіне ахвярны камень — жэртвенік, а перад порубам было ўрочышча, на каторае сходзіўся народ жэртвы (ахвяры) спраўляць і чыніць суды. За тын уходзіць мелі права толькі старцы, начальнікі родаў, варожы і дзевы. Мог туды хавацца ад помсты людзей праступнік і чакаць тут суда, калі праступнік пераступіў парог порубу, ён быў ужо зусім бяспечны, бо лічыўся пад апекай самога Рока. Варожы і дзевы адзяваліся ў доўгія белыя кашулі, каторыя называліся сарачыцамі — ад сарака складак, якія яны павінны былі мець, перапаясваліся быльнікам, зеллем і па сягонняшні дзень святым, азначаючым усё тое, «што было, што збылося». Да цяперашніх часоў беларускія жанкі (у Магіл[ёўскай] губ.), шыючы кашулі і казакіны, стараюцца, каб на іх было не менш 40 складак. Варожы і дзевы, як бязвінныя, не пастрыгалі валасоў і пры абрадах надзявалі на галаву вянкі з жывых кветак, дзеля гэтага ў нас да цяперашніх часоў падстрыгаюць маладуху, даўней падстрыгалі і дзевак, каторыя зблудзілі, і запусціць касу абычай ім ужо не пазваляў. Дзеля гэтага ў дзявочых і заручынных песнях дзяўчаты бядуюць аб сваёй русай касе і дзявочым вянку.

Выплету ўплёт
Я з русай касы,

Выплету, павешу —
Уплёт на прыклець,
А вянок на тынок… —

пяецца ў вясельнай песні Магіл. губ.

Русу касу пастрыгаці,
Слёзкі свае разліваці…—

пяе другая песня пры пастрыжынах, бо пастрыжаная жанка ўжо пакіне сваіх таварак і гульні дзявочыя.

Стары бабы чапцы шыці,
Красны дзеўкі вянкі віці —

было прызначэнне жанок у даўніх часах. На ўрочышчы ўрочылі, прарочылі і судзілі дзевы, углядаючыся ў ваду, налітую ў якую-небудзь пасудзіну, або, як даўней называлі, сосуд, ці осуд. І цяпер яшчэ народ наш верыць, што вада гаворыць і паказвае людскую крыўду. Урочанне, прарочанне пераходзіла з маткі на дачку, з пакалення ў пакаленне. У нас на Беларусі ў даўнія часы суды называлі рокамі, рочкамі, а межавыя суды адбываліся пад адкрытым небам на ўрочышчах ажно да палавіны XVII сталецця.

Лада адбіраў чэсць на ўрочышчы, па каторым ніколі не прайшоў плуг, на зямлі дзявочай, да цяперашніх часоў такія ўрочышчы называюцца лядам, лядзінай.

## II

Першым вясеннім і найбольшым святам у нашых паганскіх прадзедаў была Радаўніца. Называнне гэтага свята пайшло ад «радавацца» са скончанага панавання Марэны, смерці, зімы, — з павароту сонца і вясны, з прыходу на зямлю нябожчыкаў. Па-стараславянску нябожчык называецца навій, дзеля гэтага ў нас па сягонняшні дзень Радаўніца называецца наўскі Вялікдзень. У гэты дзень яшчэ і цяпер дзе-нідзе топяць куль саломы, прыбраны на бабу, у першай за вёскай лужыне, разумеючы, што гэта топяць саму Марэну — смерць, каторая разам з марозамі панавала ўсю зімку над зямлёй і людзьмі, цяпер ужо скончылася яе панаванне, цяпер ужо прыйшла закліканая Ладава дачка, Лёля, каб панаваць над светам.

Заклíканне вясны пачынаецца ад Вербніка да Радаўніцы. Дзяўчаты збіраюцца з усёй вёскі на ўзгорак каля гумнішч,

рассцілаюць на зямлі салому і, выбраўшы спаміж сябе самую прыгожую дзяўчыну, адзяваюць яе ў белую сарочыну, шыю, рукі і стан прыбіраюць у зелень, а на галаву кладуць вянок веснавых красак, тады садзяць яе на вышэйшым месцы і пачынаюць пяяць заклікальныя, веснавыя песні. Пры ёй кладуць зялёныя вянкі, ставяць хлеб, масла, тварог, смятану. Пасля, пабраўшыся за рукі, ідуць з песнямі хараводам кругом прыбранай дзяўчыны, каторая прадстаўляе багіню вясны Лёлю. Пры гэтым пяюць:

Багаславі, Божа, зіму праваджаць,
Зіму праваджаць, вясну заклікаць,
Вясну заклікаць, лета дажыдаць.

А пасля:

Ой, вясна, вясна!
Да якая ж ты красна!
Мы табе спяваемо,
Цябе міла спатыкаемо.
Спявайма жа, браткі,
Кожны каля сваёй хаткі.
Жаваронак па небе лятае,
Вясне песеньку спявае.
Дзеткі нашы гурбою
Весяляцца вясною,
Паплёсківаюць ручкамі,
Падрыгіваюць ножкамі.
Пажанемо волікі,
Будзем пасвіць конікі,
Будзем кветкі збіраці,
Будзем ў вяночкі ўплятаці.

Яйко ва ўсіх старых народаў азначала скрытае жыццё — уваскрасенне, гэта сімвалічнае значэнне яйка было так агульным, што хрысціянскія апосталы не толькі не адкінулі яго, але прыдалі яму і хрысціянскае значэнне. Сам чырвоны колер яйка лучыцца з сімвалам чырвонага сонца, вясенняга свята. На Радаўніцу рабілі дома абед, а на гэты абед складаліся плады ўваскросшага жыцця: цяляты, ягняты, парасяты, сыр, яйкі, масла. Гаспадыні на Радаўніцу прыносілі святы агонь з урочышча. Па сягонняшні дзень у нас на Беларусі народ, выпаўняючы наказы старой веры, на Радаўніцу ходзіць са свянцоным на могілкі. Спярша плачуць і галосяць, пасля ядуць, п’юць і мёдам ці водкай паліваюць могілкі,

а пры гэтым так зазываюць к сабе душы дзядоў: «Святыя дзяды, хадзіце к нам хлеб і соль есці!» — і так завуць тройчы. Нашы продкі верылі, што, пачаўшы ад Радаўніцы ажно да Купалы, душы памершых ходзяць па зямлі.

У гэтым жа самым часе святкавалі свята Ярылы, сына Грамавіцы і Сонца, — Дажбога. Св. Юрый у хрысціянстве замяніў Ярылу. Народ наш ведае, як выглядае Ярыла: гэта малады прыгожы мужчына, ён ездзіць на белым кані і сам у бель адзеты, на галаве ў яго вянок, у руках залатыя ключы, ногі босыя. Бог гэты быў Богам любві і плоднасці, а такжа ўраджаяў. На Юр’я Ярыла адмыкае зямлю і ваду і пускае на свет цёплую расу. У гэты ж дзень абычай наказвае выганяць у поле кароў. На Юр’я пяюць:

А Юр’ева маці
Па небе хадзіла,
З Юр’ем гаварыла:
«А Юр’я, мой Юр’я,
Адамкні зямлю
Ды пусці расу…»

Да канца красавіка месяца славілі даўней бога Ярылу. У Гродзенскай губерні месцамі і цяпер на Юр’я збіраюцца дзяўчаты, выбіраюць адну спаміж сябе, адзяваюць яе ва ўсё белае, прыбіраюць вянкамі, садзяць на белага каня, тады акружаюць яе як дзяўчаты, так і другія жыцелі вёскі ды так вядуць каня праз засеяныя палі. Старцы ідуць наперадзе. Пры гэтым дзяўчаты спяваюць свае песні. Ва ўсіх у руках жывыя кветкі, а на галаве вянкі з веснавых красак.

На час даўняга паганскага свята Радаўніцы прыпадае цяпер якраз хрысціянскае свята ўваскрасення Хрыста — Вялікдзень. На Вялікдзень перанесены іншыя паганскія абычаі, як, напрыклад, валачобнае . Найлепшы знаток беларусаў, Шэйн[1], называе песні валачобныя песнямі-легендамі, спраўдзі, яны вельмі цікавыя і становяць прыналежнасць толькі беларускага народа, бо ў другіх славянскіх плямён калі і спатыкаюцца, то не так моцна выдаюцца, як у нас. Песні валачобныя — гэта самы стары астатак паганскіх часоў, яны мелі калісь значэнне календара, у каторым гаспадарам валачобнікі з песнямі і музыкай абвяшчалі наступленне вясны і прыход лета.

*[1910]*

## ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ ПАЛУЯНА

Перад самымі святамі — 8 красавіка вечарам, — як гром з яснага неба, звалілася на нас вестка аб смерці маладога нашага пісьменніка Сяргея Палуяна. Смерць гэтага чалавека, поўнага жыцця, сілы, энергіі, смерць ад сваёй рукі цяжкім камянём легла на душы нашы… Прынесла тую сумную вестку кароткая тэлеграма з чужыны — з далёкага Кіева, дзе апошнімі часамі наш малады таварыш знайшоў сабе прыстанішча, шукаючы працы на хлеб будні і далейшай навукі.

Пасля кароткай рады з сваімі выехаў я першым поездам у Кіеў з слабай надзеяй у сэрцы, што гэта, можа, якая страшная абмылка… Але тэлеграма прынесла праўдзівую вестку… Праз колькі месяцаў пасля таго, як мы апошні раз развіталіся з Палуянам у Вільні, убачыў я цяпер яго, але ўжо ў дамавіне… Ляжаў сярод павяўшых кветак, сам, як кветка, зламаная ў часе красавання…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выдала яго зямля пінская — сумная, як доля вечна адзінокага чалавека, пустынная і пекная пакрасай бесканечнай маркотнасці за сонцам, святлом і хараством тых мар, што вечна, як дымка туманоў над доламі гэтай старонкі, снуюцца ў душах тутэйшага народа.

У жылах яго плыла кіпучая кроў слаўных лесаўчыкоў — брагінскіх і пінскіх казакоў, каторыя ў трудныя моманты шэрай гісторыі нашага краю браліся за аружжа і, пераможаныя сілай, не паддаваліся, але палілі сябе цвёрдай рукой у кастрышчах сваіх хат.

У душы яго гэтыя два пачаткі перамагаліся і кіпелі. У яго маркотных і панурых вачах — вачах сына палескай зямлі — разам запальваўся агонь ліхіх лесаўчыкоў; тады кроў яго кіпела, добрая старая беларуская казацкая кроў, а мары, што, як дымка, сназаліся ў багатай фантазіі, рабіліся жывымі для душы яго, і душа рвалася да дзела.

Для вольнай, шырокай душы яго трэба было прастору, шыры, сонца, агня, маланак і громаў, але Бацькаўшчына наша спіць непрабудным сном. Хватаўся за гісторыю, але і тут не знаходзіў таго, чаго шукаў. «Можна ўсю нашу гісторыю выславіць у двух словах: няпаметнасць і рабства. Мы скрозь былі непамятнымі. Няма ніводнага яснага пункта ў нашай мінуўшчыне. Мы былі заўсёды толькі рабы…» — так гаварыў ён, маркотны, не знайшоўшы корму для багатай душы сваёй у нашай гісторыі.

Больш за ўсё на свеце любіў сваю Бацькаўшчыну, свой край, мову і народ, і ўсе свае сілы клаў у ахвяру роднай Беларусі, але глуха была старонка на голас шчырай душы, на зазыў гарачы, — дык вечна сам, сам быў са сваімі думкамі аб лепшай долі свайго народа, «сам, як адзінокая бярозка на пясках-дзірванах Беларусі», сам з сваімі марамі.

Хацеў будаваць новую, багатую і слаўную гісторыю Бацькаўшчыны сваёй, хватаўся за пяро і пісаў апавяданні, вершы, п'есы для тэатра: «Нам трэба зразу раўняцца на людзей. Тварыць так, каб у нас усё было». Але свядомага грамадзянства ў нас няма, і гэтыя багатыя творы не было як выдаць. Дарога для яго была яшчэ зачынена. Аставалася хіба толькі, узяўшы ліру, хадзіць ад хаты да хаты і будзіць свядомасць у народзе, але на гэта сіл не стала…

Дык прашчай навекі, наш таварышу, прашчай, верны сын Бацькаўшчыны сваёй! Ляж у зямельку братнюю, ляж у братнюю, ды не сваю, каторую ты так горача любіў! Душа твая рвалася да родных ніў, да люду сярмяжнага і загнанага, але злая доля знушчалася над табой.

Прашчай, бяздольны!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аднаму з знаёмых украінцаў пакінуў ён такі ліст:

«Вам я хацеў сказаць сваё апошняе слова. Можа, гэта і «пошло», але мне ўсё роўна пасля смерці. Жыццё не вартае таго, каб жыць. У марах жыццё — казка, а спраўдзі — гніццё раба і вечная незабяспечанасць. Але не думайце, што я дзеля незабяспечанасці ўміраю. Не. Жыць так, як жыву я, няма ніякай рацыі.

*Бывайце здаровы і прашчайце навекі.*

Прашчайце. *Я так люблю жыццё, светласць і красу*, ды не на маю долю выпала гэта. Прашчайце…

Я ніколі не меў больш блізкага чалавека, чым вы, але і вы былі далёкі ад мяне.

Не зналі вы мяне. Век сам. Я нікога не меў блізкага.

Перадайце шчыры прывет беларусам. Багата я думаў зрабіць, ды не зрабіў нічога.

Шкода паміраць так марна, але трэба.

Няхай…

І яшчэ адна драбніца: я ўміраю «пошло», павесіўшыся, бо не было змогі купіць рэвальвера…»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дажджлівай веснавой раніцай па вуліцах старога Кіева праводзілі мы цела дарагога нашага таварыша на вечны спачынак, сумнай грамадкай паступалі блізкія нябожчыку, плакала неба над зламаным не ў час жыццём, убівалася з гора матка… Апошняя тут мэта ўсялякай барацьбы і цярпенняў, але разам і вялікіх мар і дум… Спі спакойна, дарагі наш таварышу, няхай лёгкай будзе табе зямелька братняй Украіны, няхай цябе у сон калыша вольны вецер сцяпоў, няхай стары Днепр прыносіць весткі з далёкай і так дарагой табе за жыццё Беларусі!..

*1910*

## БЕЛАРУСКІ ВЕЧАР У ПОЛАЦКУ

У суботу і нядзелю, як ужо ведаюць нашы чытачы з абвестак у «Н[ашай] н[іве]», адбыліся ў Полацку два беларускія спектаклі. Пацікавіўся я паглядзець сваімі вачамі, як пройдзе гэта нацыянальнае свята ў даўнай беларускай сталіцы, як народ будзе вітаць першыя ад няпомных часоў публічныя выступы роднай мовы. Сталіца здалёку выглядае казіста і горда,— вычуваецца нейкая ўкрытая веліч і ў гэтых руінах, што ляглі, як ранены рыцар, катораму час, быццам птахі-груганы паскуматалі цела, — ляжыць спакойны, бязмоцны, але гордасць застыгла на абліччы яго, і, ступаючы па целу гэтага велікана з слаўнай мінуўшчынай, нехаця прыцішаеш голас, каб не збудзіць заснуўшага… Побач на той жа гарэ стаіць святыня-храм,—адсунуўся ён ад горада і жыцця. Стануў сярод развалін, замкнуты ў сабе. Гэта святая Сафія на Вышнім замку. Адзінокі звон у высокай вежы калышыцца ад парываў васеннага ветру, скрыпіць звон, але, відаць, мала сілы ў ветру, бо звон маўчыць, не звоніць… Кажуць, быццам звон гэты адліты быў з даўнага вечавога звону. І яшчэ кажуць, што звон гэты звоніць часам у глухую поўнач, але — тады ніхто не чуе яго, толькі совы ды кажаны перапуджаныя вылятаюць з старых муроў і кружацца вакол да першай зары, — а людзям тады страшныя сны сняцца… У аўрэолі легенд і казак, у кароне царскай мінуўшчыны стаіць адзінокай пусткай св. Сафія. А ў склепах, у залатых каронах на спарахнелых косцях, сняць аб даўнай слаўнай мінуўшчыне полацкія князі…

Далей ідзе горад, — усё драўляныя ліхія дамочкі з пачарнеўшымі стрэхамі, з пакрыўленымі ваконцамі; увесь ён зліваецца ў нейкі шэры, гнойны колер, як бы дагніваючага трупа;

кругом вее цішай смерцю, толькі дзе-нідзе блісне купал царквы, манастыра, як абрыўкі злоталітага саматкана ў разрытым кургане… Гэта замершы горад. Вымершая сталіца… Направа бачыш з гары дольнага замка бельчыцкія купалы, — гэта даўняя сяліба полацкіх князёў, там стаялі княжацкія харомы, гуляла дружына за цісовымі сталамі, распяваючы багатыр- скія песні пад звон гусляў, — цяпер колькі старушак-манашак дажываюць свой век у ліхім дамочку… Налева, за Палотай, відаць Еўфрасіннеўскі манастыр і царква святога Спаса. Пайшоў туды. Цэркаўка маленькая, але муры яе помняць многа, о, многа!.. Наверху два галубцы — гэта два маленькія высокія пакойчыкі ў кшталце крыжа, сцены грубыя. Тут святая княжна перапісвала святыя кнігі, дзелячы час між працай а малітвай. І ад гэтых муроў дзіўна вее старыной, мінуўшчынай, даўняй мінуўшчынай… А перад вачамі плыве бедны, загнаны люд: мужчыны, кабеты. І на вусны ціснецца малітва:

О, Божа, Спасе наш,
Ты міласць нам пакаж,
З нядолі вызволь нас,
Збудзі, Ты, нас ўжо раз.
Ты вочы нам адкрый
І свету нам пашлі,
Ты праўду нам пакаж,
О, Божа, Спасе наш!…

Але спіць край, спіць замершая сталіца і ўвесь беларускі народ…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надышоў вечар, і апынуўся я ў тэатры. Народу поўна. Духата. Адкрываецца завеса, іграюць камедыю «Модны шляхцюк»[1] жыва, бойка. Пасля выступае хор чалавек 30, усе ў нацыянальнай адзежы. У салі адразу пасвятлела, пайшоў шопат, усе заварушыліся. Паплыла беларуская родная песня, то сумная, як доля народная, то вясёлая і жывая, як бывае жывой і вясёлай моладасць. Воклескам канца не было: грымела-гудзела ўся саля, як лежэнь з ройнымі пчоламі. Дэкламацыя ішла складна, кожны нумар пакрываўся воклескамі. На канец танцы. Танцы нашы родныя, беларускія, з жывасцю каторых не можа зраўняцца ніводзін танец на свеце. Танцоры дзіваў даказвалі, а перад усімі першы танцор і арганізатар тэатра Ігнат Буйніцкі[2] з сваёй танцоркай

вязалі, раскідвалі ў круг і злучалі фігуры. А тымчасам дудар з цымбалістам ёмка ігралі пад танец, падпяваючы час ад часу.

Другі вечар яшчэ лепей прайшоў. Камедыю «Па рэвізіі»[3] ігралі артыстычна, беспадобна. Добра вывязаўся з сваёй ролі старшына, сторож і сведка, пісар іграў як артыста, таксама Пантурчыха і Параска. У харавым спеве агульную ўвагу звярнуў першы жаноцкі голас у песні «Муж жонку б'ець», голас не надта зычны, але меладыйны, прыятны, і, услухаючыся ў яго, як ён зычэў у гэтай сумнай песні, шчымела сэрца… Песня так выразна апявае гаротнае жыццё маладзіцы на чужыне, што абразы як жывыя становяцца перад вачамі і навяваюць маркотны настрой… З дэкламацыі добрае ўражанне зрабіў у пару сказаны верш «Два майстры» Паўловіча і «Песенька да некаторых маладых людзей» Купалы. Гэта апошняя вызвала надта карыснае ўражанне. Танцы прайшлі ізноў пад агульныя воклескі і пахвальныя крыкі, а найбольш цікавіў усіх танец «Гняваш». Першай танцорцы публіка паднесла кветкі, а першаму танцору — гадзіннік з датай вечара ў Полацку.

Тэатр беларускі становіцца ўжо, дзякуючы заходу і рупнасці дзядзькі Ігната Буйніцкага, на цвёрдыя падваліны, і выплываюць усё новыя і новыя сілы. За гэтыя старанні і рупнасць шчырае дзякуй яму, а калісь, калі прабудзіцца свядомасць ва ўсім беларускім народзе, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх. Кажуць, быццам, маніцца ён даць яшчэ спектаклі ў Віцебску і Магілёве,— шчасць, Божа, яму ў яго вялікай працы. Але ў тых месцах, дзе ўжо бывалі беларускія вечарынкі, трэба, каб мясцовыя беларусы скарысталі з гэтага і далей падтрымлівалі і будавалі зачатую работу: рабілі вечары з песнямі, танцамі і дэкламацыяй беларускай, каб развівалі музыку, шырылі свядомасць. Маем надзею, што наша маладзёж не праміне падняцца гэтай святой працы.

*1910*

## ПРАДМОВА ДА «КАРОТКАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

Гісторыя — гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны. А фундамент у нас важны, гісторыя наша багата: «Жатва многа, а делацель мала», як кажа Святое пісанне. Поле пустое, бо сыны Бацькаўшчыны нашай к чужым у найміты пайшлі, чужыя гумны і засекі багацяць!

Беручыся пісаць кароткі гэты нарыс гісторыі нашай, не меў я змогі даць навучны твор, плод доўгіх навуковых доследаў — даў тое, на што было маёй змогі: сабраў з расейскіх, польскіх ды ўкраінскіх гісторыкаў тое, што мне вядома было аб гісторыі нашага краю і народа, зложыўшы ў парадак, які кожнаму здарэнню вызначала само жыццё.

Працу гэту ахвярую сынам маладой Беларусі, каб хаця з гэтай кароткай і няпоўнай працы маглі пазнаць гісторыю Бацькаўшчыны ў сваёй роднай мове. Для вучоных новага няма тут нічога, усё, што сказана тут, знойдуць яны параскіданае ў працах аўтараў, спісак каторых падаю ніжэй. Адно толькі пазволіў я сабе: некаторыя здарэнні асудзіць па-свойму з становішча карысцей і шкод беларускага народа.

Рэлігійную справу прыйшлося закрануць дзеля таго, што гісторыя наша XVI і XVII сталецціяў, як і жыццё народнае, выціснутае з усюль, замкнулася ў царкоўных брацтвах і брацтвы гэтыя насілі адценак яўна нацыянальны, беларускі: у іх адбывалася змаганне за веру і нацыю. Гэтыя сталецці — гэта час парэфармацкай рэакцыі, ва ўсёй Еўропе выціснулі яны кляймо фанатызму, не абышлося без яго і ў нас. Вось калі прыйшлося мне закрануць гэту балячку, то асуджаю я тут тагдышнія часы, а не інстытуцыі і людзей.

*[1910]*

## ПЯТРОК[1] З КРОШЫНА

Цікавую ведамасць аб беларускім паэце-селяніне знахо- дзім у кніжцы «Powieść mojego czasu»[2], выданай у Познані ў 1858 гаду праз невядомага аўтара. Праўдзівае гэтае здарэнне апісана ў кніжцы на 252–265 страніцах болей-меней такімі словамі.

Каля 1820-х гадоў у мястэчку Крошыне Мінскай губерні Навагрудскага павета жыў ксёндз Магнушэўскі[3]. Быў гэта чалавек незвычайна светлы і справядлівы. Як быў маладым, ён выхоўваў дзяцей у князя Мацея Радзівіла ў Палоначцы і за сваю сумленную працу дастаў ад Радзівілаў багатую пара- фію — Крошын. Стаўшыся парафіяльным ксяндзом, Магнушэўскі ў першы чарод скасаваў усе платы за шлюбы, ксціны і пахароны, а нават калі да шлюбу, з кстом ці за пахаронамі прыходзілі людзі бедныя, то ён яшчэ з сваіх грошы, што паступалі на ахвяру ў касцёл, даваў ім падмогу. Апроч гэтага, ксёндз Магнушэўскі

пры касцёле ў Крошыне залажыў школку для сялянскіх дзяцей, каторых сам зімой вучыў граматы. А ў сварках паміж сялянамі і гаспадаром двара, панам Юрагай, заўсёды стаяў за сялян, і за гэта двор глядзеў на ксяндза Магнушэўскага, як на бунтара, каторы, быццам, падбіваў сялян проці «навін», якія ў той час маніўся завясці ў сябе п. Юрага.

Справа была аб зямлю. З даўных часоў на землях князёў Радзівілаў сяляне карысталіся правам купляць і прадаваць, браць і аддаваць у застаў зямлю, на каторай яны сядзелі. Прадаючы ці аддаючы пад заставу зямлю, селянін браў на сябе чыншавую і прыгонную павіннасць у двор, а той, хто купляў ці браў пад заставу, станавіўся саўсім незалежным ад двара. Пазбыўшыся ж часці або і ўсёй зямлі, селянін часта не мог плаціць чынш, а іншы і саўсім пакідаў родныя ваколіцы. З гэтай прычыны ў двары часта не хватала дармовых рук да працы. Вышэйуспомнены Юрага, ажаніўшыся з княжной Антанінай Радзівілоўнай, дастаў за ёй у пасазе колькі двароў, між імі і Крошын з падданымі, разглядзеўшыся па ўсёй гаспадарцы, задумаў ён павялічыць даходы. Даходы ж можна было павялічыць, толькі адабраўшы зямлю ад сялян, каторыя не адбывалі прыгону, бо сядзелі на купленай зямлі, і запісаўшы іх у падданыя. Але як гэта зрабіць? Юрага прыдумаў, як яму здавалася, саўсім справядлівы на гэта спосаб: па дабравольным угаворы звярнуць плочаныя сялянамі за зямлю грошы і, прылучыўшы зямлю да двара, аддаць яе тым жа самым сялянам ужо за чынш і прыгонную павіннасць. Але сяляне, бунтаваныя, быццам, праз ксяндза Магнушэўскага, не хацелі на гэта прыстаць, бо такі ўгавор адбіраў у іх незалежнасць. Тады Юрага пастанавіў даходзіць свайго права праз суд. Скончылася ўсё гэта тым, што былі прысланы ў Крошын дзве роты салдатаў, каторыя засеклі колькі чалавек на месцы, а каля двух дзесяткоў саслалі ў Сібір або здалі ў салдаты.

Дзякуючы ўсяму гэтаму ксёндз Магнушэўскі аславіўся на ўвесь край, як кіраўнік «крошынскага бунту», але давясці яму гэтага ніяк не здолелі дык і пакінулі яго ў спакоі да таго часу, пакуль тагачасны начальнік краю, сенатар Навасільцаў[4], з рэктарам віленскага універсітэта прафесарам Пеліканам[5] не даведаліся ад п. Сулістроўскай, што ксёндз Магнушэўскі мае пры крошынскай плябаніі патайную школку і быццам ён у гэтай школцы шырыць бунтарскія думкі. Пачуўшы аб усім гэтым, сенатар Навасільцаў з прафесарам Пеліканам пастанавілі разглядзець справу на месцы і з гэтай мэтай, едучы быццам то ў Слонім, прыехалі ў Крошын да кс. Магнушэўскага.

Ксёндз Магнушэўскі быў ужо стары чалавек, і апошнія здарэнні з крошынскім бунтам падарвалі яму здароўе ды недаверчыва настроілі да ўсіх чужых людзей. Змеркаваўшы гэта, сенатар Навасільцаў з Пеліканам сталі гаварыць на карысць сялян і лёстачкамі пацягнулі за язык старца, каторы, заступаючыся за сялян, думаў, што іх бароніць і што паможа ім гэтым. Навасільцаў пачаў яго вінаваціць, што ва ўсім гэтым віна яго як духоўніка, што не асвячае народ. Магнушэўскі сказаў, што ён робіць, што дуж, і што зімой вучыць хлапцоў граматы, да нават захацеў паказаць ім сваіх вучанікоў. Пасланец, пайшоўшы ў вёску, прывёў з поля і з пашы — ад барон і жывёлы колькі хлапцоў. Сенатар і рэктар пыталіся іх і хвалілі, заручаючы, што ксёндз Магнушэўскі робіць вялікую прыслугу для краю. Ксёндз Магнушэўскі сам шчыра верыў у гэта і пачаў расказваць, якія вялікія здольнасці скрыты ў гэтых бедных хлопцах і якая б была карысць для краю, каб ім памагчы развіцца. Асабліва хваліў Петрачка, каторы мог бы быць слаўным паэтам, каб яму даць навуку; каб жа пацвердзіць свае словы, паклікаў Петрука і сказаў яму прачытаць яго ўласныя вершы, пісаныя беларускай мовай. Пятрок дастаў з-за пазухі сшытак сваіх твораў і, нічога благога не спадзяваючыся, пачаў чытаць. У памяці апісваючага ўсё гэта астаўся толькі адзін вершык, каторы ён і падаў у сваёй кніжцы.

Вось гэты вершык:

Заграй, заграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы,
А я заграю у дуду,
Бо ў Крашыне жыць не буду.

Бо ў Крашыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача,
Дзе ж ты пойдзеш, небарачэ?

Дзе я пайду? Мілы Божэ!
Пайду ў свет, у бездарожэ,
У ваўкалака абярнуся,
Слёзна на вас абзірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасліўшая бы ты была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся,
У паншчызну б не пагналі,
У рэкруты б не забралі.

Мне пастушком век не быці,
А ў маскалях трудна жыці,
А я і расці баюся,
Дзе ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Чаму ж не сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

Такія і гэтаму падобныя нараканні хлапца-падростка разжалілі старца, але саўсім іначай паглядзелі на гэта экзамената-ры, каторыя праслухалі шэсць ці сем вершыкаў, пераглядаючыся паміж сабой у месцах вастрэйшых. После сенатар узяў сшытак з вершамі ад Петрука, і выехалі, дэкляруючы, што падумаюць аб долі такога незвычайнага паэты.

Праз колькі дзён после гэтага экзамену Петрука забрала паліцыя ў салдаты на ўсё жыццё, а ксяндза Магнушэўскага арыштавалі, прыбіты горам, ён скора памёр.

*[1911]*

## ЯК ПАСТУПАЦЬ, КАБ ДЗЕЦІ, ВЫРАСШЫ, ШАНАВАЛІ СВАІХ БАЦЬКОЎ І БЫЛІ ІМ АПОРАЙ НА СТАРАСЦЬ

Бывае так, што бацькі б'юцца, гаруюць, апошняе — ад губы адняўшы — аддаюць, каб дзяцей вывесці ў людзі, а выраслі дзеці, узгадаваліся, адукаваліся, і не толькі бацькі іх помачы на старыя годы не дачакаюцца, але яшчэ пагарду маюць ад «разумных» сынкоў, каторыя стыдаюцца сваіх бацькоў-мужыкоў. А прыедзе такі сын ці дачка да бацькоў, то свой не свой: ні згаварыцца, ні думкамі падзяліцца. Вось табе і адплата за твой пот і мазалі, стары бацька, за твае няспаныя ночы над калыскай, старая маці!..

А хто ў гэтым вінават? Самі бацькі. Пакуль дзіцё малое было, не вучылі шанаваць свайго роднага, а часта, можа, гэтага роднага, мужыцкага, і самі чураліся,— вось дзеці пайшлі вашым следам, толькі далей, — яны саўсім адступіліся ад усяго «про-

стага» ды разам і ад вас, прастакоў. А трэба, пакуль дзіцё малое, вучыць яго гаварыць роднай мовай, шанаваць гэту мову; трэба перасцерагаць, каб не перакручвалі яе чужымі словамі; трэба, каб маці пяяла дзецям свае песні простыя, прывучала шанаваць прадзедаўскія абычаі, — тады як сынок твой вырасце і пойдзе ў чужыя людзі, нічым з душы яго не выб'юць любві да свайго роднага, і дзе б ён ні быў — хоць за морам, яго заўсёды пацягне сэрца ў свой куток, да сваіх бацькоў. У чужой старане, пачуўшы роднае слова з вуснаў незнаёмага чалавека, ён прывітае яго, як брата. Бо мова — гэта найкрапчэйшы вузел, які звязвае бацькоў з дзяцьмі, людзей з людзьмі.

Калі пачынаюць дзеці хадзіць у школу і вучыцца там граматы, то бацькі павінны пастарацца, каб у хаце былі кніжкі ў роднай беларускай мове: няхай дзеці ўкладаюцца побач з чужой граматай і да роднай, няхай гэтыя кніжкі чытаюць голасна, а бацькі ўважна і з пашанай слухаюць тых слоў, якімі гаварылі іх дзяды і прадзеды. Дзяцей вашых у школе не вучаць шанаваць родную мову, а разам з тым і вас саміх. У школах дзіцё вучаць у чужой мове, многа якія словы там маюць саўсім другое значэнне, чым па-беларуску, і дзеці, пераймаючы гэтыя словы, заўсёды ўстаўляюць іх у беларускую мову; вось трэба, каб бацькі перасцерагалі іх ад гэтага, — такім чынам яны выкажуць перад дзяцьмі, што не ўся мудрасць у школе, што просты бацька можа навучаць шкаляра таго, што ў школе не вучаць, што тое «простае» яму, бацьку, дорага.

Калі гэтак бацькі будуць паступаць з дзяцьмі, то сын, выйшаўшы ў людзі, не адважыцца з бацькам гаварыць чужой мовай і не будзе смяяцца з мужыцкай мовы, ані стыдацца бацькі- мужыка, — праўдзівая навука толькі паможа яму зразумець, як крэпка звязан ён з сваім родным сярмяжным народам, паможа ўцяміць, што гэты народ такі самы добры, як кожын другі, што ён створаны не толькі для таго, каб яго пагарджалі сыны яго.

Змалку, побач з роднай мовай, трэба прывучаць дзяцей, каб шанавалі людзей старых, хто б яны ні былі — ці бяднейшыя суседзі, ці ўбогія жабракі, — абы толькі людзі справядлівыя. Бо калі дзіцё тваё прывыкне змалку паважаць кожнага старца, то, вырасшы, і цябе пашануе ў старыя гады.

*[1911]*

## З ПАЕЗДКІ НА СЕЛЬСКАГАСПАДАРСКУЮ ВЫСТАЎКУ Ў БЫХАЎ

Гэй, Беларусь, шырока ты раскінулася на грудзях зямелькі! Еду сто, дзвесце, трыста вёрст, і ўсё кругом той самы русавалосы сінявокі народ, усё тая самая наша родная беларуская гутарка. Як ліст да ліста, як зернятка да зярняці, так падобны да сябе вёскі, сёлы, мястэчкі і гарады беларускія. На ўзгорках і ў лагчынах раскінуліся там хаткі, тут камяніцы пабяляныя, а спаміж іх высяцца стройныя званіцы і купалы цэркваў ды касцёлаў; але хаця розныя гэта святыні, розныя веры, аднак племя тут жыве адно, адзінакавы скрозь народ беларускі, па пояс уросшы ў зямлю, угледжаны ў сінюю даль лясную, і гэта сінасць адбілася ў вачах беларуса, а магілеўцы кажуць, што і «на пустыні пясок сіні».

Вось і Быхаў, мэта нашай падарожы. Гарадок так сабе — з дзвюма цэрквамі і адным касцёлам ды дзесяццю жыдоўскімі бажніцамі. Ляжыць ён на ўзгорку, разбудаваўся на руінах колішняга пагранічнага з Масквой літоўскага замка. Як усюды ў нас, так і тут больш корчмаў, ці, як іх цяпер па-моднаму праззвалі, рэстаранаў, піўных і іншых гэтага калібру «культурных» закануркаў, чым школ і хаўрусаў.

Брыдзеш пясчанымі вуліцамі паміж старэнькіх дамкоў, і неўспадзеўкі ў вочы кідаецца шырокі прастор. Гэта з валоў відна Дняпро і нізкую затопную раўніну, каторая цягнецца з дзесятак вёрст ушыркі роўнай лукой, цяпер — пад восень — густа ўбранай стагамі сена. Дняпро тут не шырокі, але гонкі і водны.

З берага ўнізе направа відаць шмат белых новенькіх багатых будоўлі, прыбраных флагамі: гэта — выстаўка. Шырокі пляц, абгароджаны, выраўнены, засеяны зялёнай травіцай, скрозь праведзены дарожкі, пасыпаныя жвірам, насаджаны кветкі ў прыгожыя ўзоры, харошыя газоны, багатыя павільёны, рэстаран, тэатр, праведзен і тэлефон; паны ў сурдутах, у фраках, пад'язджаюць карэты, коні ў бронзе з мяцёлкамі на галавах па шасці цягнуць пустую лакіраваную павозку. Усё гэта адразу паказвае, што выстаўка ўстроена не для ўбогай беларускай вёскі, а дзеля забавы панам, каторым зажадалася мець у Быхаве тэатр з французскай мовай (як адзін казаў, ім надаела слухаць беларускую мову ад парабкаў і аконамаў), з заморскімі вінамі, з абедамі ад аднаго рубля да дваццаці пяці. І праўда, сялян першыя дні і відаць было толькі што пры дворных каровах і конях, каторых папрыводзілі на выстаўку акалічныя паны, каб пахваліцца перад сваімі суседзямі; толькі ў апошнія дні, калі зменшылі плату з

рубля за ўход на выстаўку да 10 капеек, паказалася горстка сялян, і гэта ажывіла выстаўку, бо бабы, пабачыўшы, што п. Шалкоўскі выставіў напаказ хораша вырабленыя сялянскія палотны, ручнікі, паяскі і іншае рукадзелле, папёрлі барзджэй дамоў, каб прынесці і свае вырабы. Праўда, камітэт выстаўкі не пажалеў турботы агля- дзець тыя вырабы і нарадзіць баб, і гэта мае вялікую вагу: бабы вельмі заахвоціліся да ручных работ, як камітэт сваёй увагай да іх вырабаў паказаў ім, што ўзор беларускі — цікавы і цэнны. Прыглядаліся ўважна сяляне і да аддзела агародніцкага і палявой гаспадаркі, і відаць, што шмат хто з іх зразумеў карысць такой выстаўкі і набраўся ахвоты на другі раз дзе-чым пахваліцца з сваёй гаспадаркі. І калі на другі раз у Быхаве будзе выстаўка дый калі будзе ўстроена не з такім панскім шыкам, то ёй, напэўна, можна варажыць поўную ўдачу.

Быў на выстаўцы і аддзел з беларускімі кніжкамі ды з «Нашай нівай». Шмат хто з беларусоў дагэтуль не ведаў, што ўжо шосты год выходзіць газета ў роднай мове, дык цяпер усе чыталі, знаёміліся. Адны з раскрытым сэрцам віталі родную мову, пекна вылажаную ў кніжках, — другія глядзелі, як на дзіва, — але і адны і другія куплялі кніжкі, і шмат хто падпісваўся на газету. Знайшоўся і адзін такі малады паніч, каторы вельмі абурыўся, што на выстаўцы былі беларускія кніжкі, і гаманіў, што ў Магілёўскай губерні няма беларусоў, але старэйшы і, відаць, разумнейшы яго таварыш, узяўшы за рукаў, адцягнуў у бок, кажучы, што «яны, пэўне, абмыліліся», каб як-небудзь супакоіць маладога крыкуна і сябе на людскі смех не выстаўляць.

Цікава было, як вучыцелькі з народных школ, прывёўшы дзетак, як бобу, паказвалі ім агародніцкі аддзел. Паказвае, напрыклад, адна пальцам на велізарны гарбуз і пытае дзяцей, ці бачылі такую «тыкву»? «Не,— кажуць дзеці, — тыквы не бачылі, але акурат гэткія гарбузы ў нас растуць!» — «Гэта ж, — кажа вучыцелька, — па-вашаму, па-мужыцку гарбуз, а па-расейску тыква». Давялося мне гаварыць з другой народнай вучыцелькай (беларускай), каторая слухала, як чыталі беларускія вершы, і на пытанне, ці добра разумее ўсё, адказала: «Не, нічога не разумею». — «А як жа гавораць вашы вучанікі паміж сабой і ў сябе ў хаце?» —»Па-беларуску… Гэтаксама, як тут напісана». — «То як жа вы іх вучыце, калі не разумееце іх мовы, а яны — вашай?» — «Не, — кажа вучыцелька, — яны ўсё разумеюць». — «А вы — не?» Вучыцелька зазлавала і адышлася.

У канцы трэба дадаць, што бадай толькі адны перакіньчыкі-беларусы крыва глядзелі на беларушчыну, праўдзівыя велікарусы

па большай часці спагадалі беларусам і цікавіліся кніжкамі і газетай беларускай, а нават выпісвалі газету, каб бліжэй пазнаёміцца з беларускім рухам.

Агульную ўвагу звярнуў на сябе беларускі каляндар «Нашае нівы». На яго звярнулі ўвагу і эксперты навучнага аддзела Быхаўскай выстаўкі і наградзілі яго вялікім сярэбраным медалём. Гэта павінна заахвоціць беларусоў купляць беларускі каляндар і на 1912 год, ён ужо друкуецца і за якія два месяцы выйдзе ў свет.

*1911*

## АБ ПАТРЭБЕ СТЫЛЮ Ў ЖЫЦЦІ НАРОДА

Вядомы ўкраінскі пісьменнік В.Копыр[1] у газеце «Рада» ў абшырнай стацці разбірае пытанне аб патрэбе стылю ў штодзённым жыцці.

«Слова «стыль», — кажа ён, — узята з лацінскай мовы. У рымлян так называлася завостраная палачка, каторай пісалі на дошчачках, пакрытых воскам. Такім чынам, стыль упачатку азначаў тое самае, што і наша пяро. Ужываючы гэтае слова ў гутарцы, рымляне разумелі спосаб пісання, а далей — літаратурную форму якога-небудзь пісьменніка.

У дальшым сваім развіцці слова «стыль» пачало азначаць яркія прыкметы чалавека, каторыя выдзяляюць яго спаміж іншых людзей, і духоўную будову чалавека. Коратка кажучы, стыль чалавека — гэта ён сам, яго душа, каторая прарываецца наверх у ясных, нават яркіх формах, у творах яго душы. Памалу паняцце стыльнасці пачало пераходзіць з чалавека на рэчы, каторыя акружаюць яго і каторыя ён вытварыў, а пасля і на творы цэлай нацыі. А чым больш здольны народ, тым ярчэйшыя яго творы, тым больш выдзяляюцца яны і тым лягчэй пазнаць іх сярод твораў іншых нацый, іначай сказаць, тым яснейшы стыль твораў і культуры гэтага народа.

Стыль — гэта наша душа, душа народа, стыльнасць — адбіццё нашай душы на нашых творах.

Калі мы пачынаем разглядаць творы ўсіх народаў, каторыя калісь жылі і мелі сваю культуру, то пабачым, што вельмі лёгка распазнаць, які народ рабіў іх. Асірыйскія вырабы не падобны да егіпецкіх, грэцкія сваёй красой выдзяляюцца спаміж іншых. І цяпер для нашых археолагаў даволі пабачыць якую-небудзь драбніцу: пярсцёнак, пражку, каменьчык з рысункам, каб паз-

наць, чыя гэта работа, ды выясніць сабе жыццё і характар таго ці іншага народа, вядомага з гісторыі або і саўсім невядомага. Гэтыя астаткі, носячы на сабе стыльныя аздобы, найлепей паказваюць, што вось быў і жыў такі-то народ, чым гістарычныя запіскі, каторыя заўсёды болей ці меней кіруюцца палітыкай і часта саўсім не ўспамінаюць іншых народаў, пакрываючы іх іменем той дзяржавы, што іх падабрала пад сябе.

Больш здольны чалавек умее арыгінальней, значыць, больш па-свойму выявіць свой духоўны твар і астаецца надоўга ў памяці тых, што яго акружаюць. Гэтаксама і цэлы народ, каторы ўмеў ярка паказаць сваю духоўную арыгінальнасць, заўсёды будзе даражэйшы, цікавейшы для іншых народаў, каторыя яго акружаюць, — будзе больш памяцен ім.

Разглянемо цяпер, што ў жыцці вымагае стылю і што носіць характар яго ды на чым адбіваецца стыльнасць.

Бачым тут перш за ўсё мову, каторая надае асобны характар таму спосабу, якім выяўляюцца настраенні душы чалавека. После ідзе адзежа, будоўлі, аздобы і прыкрасы, а ў кан- цы — грамадзянскае жыццё, каторае відаць у звычаях, веры, забабонах, а далей у інстытуцыях грамадскіх і дзяржаўных.

Найбольш сілы мае той народ, каторы патрапіў усіх сваіх членаў злучыць у адно, дзе ўсе думаюць і пачуваюць, як адзін чалавек, а кожын — так, як усе, хто належыць да гэтай нацыі, творачы, аднак, такую гарманійную цэласць, што аддзельныя асобы могуць найшырэй выявіць усе свае асобеннасці, усю арыгінальнасць сваёй творчасці.

Усе народы заўсягды пераймаюць нешта адзін ад аднаго. Само сабой, нацыям, рэзка аддзеленым ад іншых, лягчэй захаваць сваю арыгінальнасць, чым такім, каторыя жывуць, скажам, пад адной дзяржавай побач з іншымі нацыямі, пры гэтым эканамічна і палітычна дужэйшымі.

Англія, напрыклад, на сваім востраве стаіць гэтак аддзельна ад усёй Еўропы і так арыгінальна, па-своему развівалася, што ў яе нават некаторыя навукі, як навука аб законах, маюць саўсім іншыя методы (спосабы), чым па другіх краёх. Пры гэтым бачым мы страшэнную сілу, якую мог вырабіць у сабе гэты народ, закінуты недзе на востраве, пасярод мора. А побач бачым, як падупаў і матэрыяльна і маральна суседні з Англіяй народ ірландцы: яны раней былі багатымі і слаўнымі, а цяпер, як ваенная сіла чужынцаў зніштожыла іх незалежнасць, хутка падупалі так, што чуць не на палавіну вымерлі з голаду, блізка гэтулькі выселілася ў чужыну, а малая жменька ледзьве жыве.

Вось што прынесла Англія Ірландыі, хаця Ірландыя можа карыстаць з усіх культурных інстытуцый Англіі, хаця яна жыве ў яе пад бокам, у адных граніцах, пад абаронай адных законаў — тых самых законоў, каторыя так памаглі культурнаму і эканамічнаму развіццю англічан.

Тут сталася тое самае, як з чалавекам пад прыгонным ярмом, каторы робіцца толькі рабочай скацінай і ныдзее, але не жыве, *нічога не творыць*, і тут не памагае ні агульнае навучанне ў чужой мове, ні добрыя суды і т. д.

У даўныя часы сільныя дзяржавы распраўляліся дужа проста з неўгамоннымі падбітымі народамі: заваявацелі проста вырэзвалі цэлыя народы. Цяпер, само сабой, гэтак не робяць, але ўжываюць іншых спосабаў, каторыя называюцца адным словам: *«дэнацыяналізацыя»,* — гэта значыць нішчэнне ўсіх нацыянальных асобнасцей падбітага, пад'ярэмнага народа, усёй яго культурнай арыгінальнасці, яго «стыльнасці». Каб падсаладзіць горкую пігулку, вынішчаючы нацыянальны тып, паніжаючы арыгінальнасць перасіленага народа, усе дэнацыяналізатары кажуць, быццам ад іх работы ўзрастае культура і багацце паднявольных народаў. Некультурнасць, беднасць гэтых народаў, каторая папраўдзе пры гэтым скора прыходзіць, яны аб'ясняюць агульнай бяздарнасцю, культурным гультайствам зваяваных народаў, — значыць, якраз тым, да чаго даводзіць дэнацыяналізацыя.

Найбольш атпорнай, лянівай думаць і найбольш шкоднай у нацыянальнай справе бывае заўсёды інтэлігенцыя пануючая і інтэлігенцыя здэнацыяналізаванай, асіленай нацыі. І тая і другая, часцю з прыроднага гультайства, часцю з добра зразумелага жадання агранічаць канкурэнцыю новых інтэлігентаў, што вырастаюць з народных мас, стараюцца ідэйна апраўдаць дэнацыяналізацыю і зніштажэнне стылю народнага. І гэта робіць уся інтэлігенцыя ад крайняй правай да крайняй левай.

Такая была калісь расейская інтэлігенцыя — арыстакратычная, узгадаваная на французскай мове, такая цяпер беларуская інтэлігенцыя і часцю нават украінская, каторая гаворыць паміж сабой збольшага па-расейску і часам толькі ўжывае прасцейшых украінскіх слоў.

Тое самае, што сказана аб мове, адносіцца і да ўсяго складу жыцця. Адзежа, прыкраса хаты, начынне — усё гэта цяпер адбівае ў сабе разброд у думках, у спадобах і ва ўсім. Гэта ўсё паказвае ў нас не спадобу, смак народны, а смак таго крамніка, што прадае самыя нецікавыя рэчы тандэтнай фабрыкацыі.

З усяго, сказанага ўкраінскім пісьменнікам, кожан лёгка зразумее, якую цану павінна мець для нас кожная беларуская асобнасць, дзе бы яна ні спатыкалася, ці то як прыкраса, арнамент на сялянскіх вырабах, ці то як зварот мовы, ці як форма грамадзянскага жыцця, усюды, дзе б мы ні спатыкалі гэту сваю родную асобнасць, арыгінальнасць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж — развіваць і шырыць.

*[1911]*

## ПЕРАПІСКА Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Гэтымі днямі давялося мне быць у адной targовай фірме, каторая мае ясны нацыянальны небеларускі характар і вядзе сваю работу па ўсім блізка нашым краю, а з гэтай прычыны мае шырокую перапіску з рознымі людзьмі. Калі я туды прыйшоў, мне адразу кінулася ў вочы ляжачае на стале пісьмо, пісанае да гэтай фірмы ў беларускай мове. Загаварыўшы аб гэтым пісьме, я даведаўся, што гэта не першае ўжо такое пісьмо і што ўсё часцей у пісьмах бывае беларуская мова. Гэта мяне зацікавіла, і я пачаў распытвацца ў другіх фірмах і інстытуцыях грамадзянскага характару, ці не атрымліваюць і яны пісем у беларускай мове. Паказалася, што ўсюды, дзе я пытаўся, такія прыпадкі часцей ці радзей здараліся.

Чэсць і слава тым людзям, каторыя так паступаюць. Яны зразумелі, што гэта яшчэ адзін крок да дарогі, ідучы па каторай, здалеем мы здабыць грамадзянскія правы для сваёй мовы ў сваёй роднай зямлі. Датуль, пакуль мы, беларусы, не прагаворым самі ў сваёй мове да торговых фірм і інстытуцый, яны самі не парупяцца гаварыць да нас па-нашаму. А калі мы зачнем звяртацца да іх у нашай мове, то яны, хочучы мець у нас пакупцоў на свой тавар, будуць гаварыць з намі па-нашаму, надрукуюць каталогі ў нашай мове і заместа апалячвання або абрусення нас праз таргоўлю і крамы будуць служыць нашай справе. Тыя людзі, каторыя дагэтуль звярталіся да торговых фірм па-беларуску, паказалі ім, што з намі трэба лічыцца, яны паказалі, што і мы — сіла. Калі беларусы пачнуць па-беларуску звяртацца да торговых інстытуцый, да дактароў, да адвакатаў і да ўсіх іншых, хто, ад іх зарабляючы, жыве і багацее, тады хутка знойдуцца беларускія торговыя фірмы, беларусы-адвакаты, беларусы-дактары.

Гістарычныя варункі нашага гаротнага народа зложыліся так, што, гонячыся за прывілеямі і магнацкай ласкай, пакінула

нас наша інтэлігенцыя — уся блізка шляхта сталася польскай, гарады таксама страцілі наш беларускі характар, але русняк-беларус заняў зямлю, ён і ёсць той *народ*, у каторага руках сіла, з мазаля каторага корміцца і горад, і двор, і інтэлігенцыя. І вось мы, беларусы, як сіла народная, можам і павінны вымагаць, каб інтэлігенцыя, якой бы нацыі яна сама ні была, шанавала бы нас як людзей і пашану гэту выказвала, шануючы нашу мову.

Праўда, што ў наш час, калі на беларуса за кожнае слова, сказанае ці напісанае ў роднай мове, з-пад кожнага куста сіпіць нейкая гадзіна, то нават на тое, каб прагаварыць у роднай мове, трэба грамадзянскай адвагі, але, дзякаваць Богу, як бачым, не з адных толькі палахлівых людзей складаецца беларускі народ. Пачатак ужо зроблен, і шлях паказан, няхай жа ўсе свядомыя беларусы гэтаксама робяць.

*[1912]*

## ЗЕМСКІЯ СУДЫ

Устаўныя граматы, выданыя беларускім землям вялікім князем Вітаўтам, успамінаць аб земскіх судах як аб усім вядомай арганізацыі, гэтаксама і Статут (друкаваны па-беларуску ў 1588 г.) толькі пацвярджае парадкі судовага земскага ўрада, ссылаючыся на «даўныя прывілеі» і «стары іхні статут». Гэткім чынам пачаткі арганізацыі земскіх судоў мы павінны адсунуць у глыбокую мінуўшчыну. І дзеля таго, што земскія суды выраблялісь вякамі на мясцовым грунце, нельга ўстанавіць, калі яны зачаліся: яны развіваліся разам з народам і культурай яго.

У XVI сталецці земскі суд складаўся з трох асоб: суддзі, падсудка і пісара. Усе тры гэтыя судовыя асобы выбіраліся «вольна» на з'ездзе ўсіх абывацеляў павета «ад высшага да нізшага стану», каторыя ў назначаны дзень прыбылі ў той павет або замак «гаспадарскі». Як на суддзю, так на падсудка і пісара з'езд выбіраў чатырох кандыдатаў спаміж «людзей добрых, пабожных, веры годных, а ў праве ўмеетных, пісаці умеючых, родзічаў таго панства Вялікага Княства і ў тым павеце не нова, не змышлене аселых», адным словам, людзей справядлівых, усім вядомых, светлых. Выбраўшы кандыдатаў, упісвалі іх імёны ў «паданне» і за сваімі подпісамі і пячацямі пасылалі на зацверджанне вялікага князя. Вялікі князь павінен быў выбраць з чатырох кандыдатаў аднаго на судовае месца і зацвердзіць «да жывата яго». Гэта зна-

чыць, што суддзя, раз выбраны і зацверджаны, аставаўся суддзёй да смерці сваёй, і ніхто, нават сам гаспадар, не мог яго скінуць. Рабілася гэта затым, каб суд ні ад каго не залежаў і мог судзіць, на «нікога не аглядаючыся», толькі «паводле права паспалітага (агульнага) і сумлення свайго».

Пасля выбараў і зацвярджэння на першых «рочках» (засяданні) новы суддзя павінен быў даць публічную прысягу, што будзе судзіць, «не фальгуючы высокім і подлым станам, на дастойнасцях і на врадех седзячых, (не зважаючы) на багатага і на беднага, на прыяцеля ані на непрыяцеля, на туташняга ані на госця прыбылага, не ў прыязні ані з вазні, не з боязні ані за пасулы і дары, ані баючыся казні, помсты і пагрозак…». На судовы ўрад права не пазваляла выбіраць асоб духоўных і тых, каторыя мелі якія-небудзь іншыя ўрады.

Суд адбываўся ў асобным абшырным будынку, каторы ў часе судоў быў повен народа. Сходзіліся ў суд тыя, што мелі свае справы ў судзе і чакалі чароду, і тыя, каторыя хацелі паслухаць, хто з кім і за што судзіцца. Але гэта не з пустой толькі цікавасці. Суд у XVI сталецці — гэта была быццам школа права, бо ў тыя часы знанне законаў было кожнаму вельмі патрэбна, а разам з тым было знакам культурнасці, калі хто добра ведаў усе парадкі «права паспалітага». А той, хто не быў «свядомы права паспалітага» і «абычаяў праўных», — лічыўся за недавучку. Дый публіка на засяданнях земскіх судоў не толькі прыходзіла паслухаць, як цяпер: часта траплялася, што калі між публікай бывалі «паважаныя і свядомыя права паспалітага асобы», то суддзі іх запрашалі к «рассудку праваму», і яны мелі дарадчы голас пры судовых пастановах, апрача таго кожны, хто быў на судзе, меў права сказаць, не будучы сведкай, або сказаць свой погляд на справу.

Канцылярыю вёў пісар пры помачы падпіскаў. На падпіскаў ішла ахвотна маладзёж, бо гэта ім служыла заместа школы да далейшай урадавай службы, а калі і не меў на мэце быцьураднікам, дык знанне права надавала полеру. Дзеля гэтага канцылярыя заўсягды кіпела жыццём.

Словам, беларусы ў XVI сталецці мелі ўжо найлепшыя — нават і паводле цяперашняга паняцця — суды, бо суддзі былі выбарныя, дажыватныя і незалежныя ад урада. Цяпер гэткія суды маюць толькі найбольш культурныя заходнееўрапейскія гасударствы ды Злучаныя Штаты Паўночнай Амерыкі.

*[1912]*

# ГУЛЬНЯ Ў «БЕЛАРУСЫ»

Новы хаўрус нацыяналістаў і саюзнікаў прыйшоў да нас у новай, але здаўна добра вядомай адзежцы — такой вядомай, што вялікая і маленькая рыбка зараз жа спазнала яго, хоць як стараўся быць да сябе непадобным, — спазнала і шуганула ад яго ва ўсе бакі. Нацыяналісты спярша называлі сябе не проста нацыяналістамі, а «беларусамі з расейскай культурай». Але ашукаць нікога не ўдалося. Цяпер, ізноў згуртаваўшыся ў хеўру, яны працуюць над… ну, лёгка дагадацца над чым. Годзе сказаць, што карму расейскай нацыянальнай палітыкі на Беларусі ўзялі ў свае рукі людзі гэткага калібру, як Кавалюкі, Саланевічы і Скрынчанкі, каб зразумець, якая іх праца.

З практыкі мінуўшых 1905–1906 гадоў мы ведаем аб такіх «дзеяцелях», каторыя самі арганізавалі тэрарыстычныя акты, давалі бомбы, а пасля рабілі аблавы і лавілі «рэвалюцыю». Нашто гэта патрэбна было ім? Адказ просты: ім плацілі за гэта… Гэтаксама і ў нас робіцца цяпер «палітыка». Куды вядзе яна?

Яшчэ жыве памяць між беларусамі аб тых часах, калі «хрысцілі казакі з тутэйшых ды ў палякі»[1], памятаюць і часы ксяндза Сенчыкоўскага, калі «восстановляли русское дело»[2]. А што з таго выйшла? Мінула колькі дзесят гадоў, і мы на свае вочы бачылі, як у часе «свабод» сотні тысяч беларусаў праваслаўных пераварачвалася ў каталіцтва, як каталікі- беларусы вымагалі пры школьнай перапісі 1911 года[3], каб іх запісвалі палякамі… Чаму? А вось гэта была рэакцыя — рэзультат працы Хаванскіх, Сенчыкоўскіх, каторыя сваёй «палітыкай» ускладалі вянок мучаніцтва на польшчыну і каталіцтва, паднімалі іх у вачах народа, рабілі з каталіцкай веры веру польскую.

Роль гэткіх «загоншчыкаў» беларусаў у «палякі» ўзялі цяпер на сябе Кавалюкі і Саланевічы. Вось гэтымі днямі яны выехалі з Вільні ў Пецярбург як «беларуская дэпутацыя» (дэпутацыя складаецца з Кавалюка, Саланевіча і Вруцэвіча) дабівацца для беларусоў ні меней ні болей, *як расейскай мовы ў касцёле*. Хто чуць-чуць абзнаёмлен з рэлігійнымі і нацыянальнымі справамі на Беларусі, той ясна зразумее, да чаго гэтыя паны кіруюцца. Яны кіруюцца да таго, каб вызваць замешкі, каторыя недапалячаных яшчэ месцамі беларусоў-каталікоў загоняць дарэшты «ў палякі». Завядзенне расейскай мовы ў касцёле, калі б на гэта згадзілася правіцельства, народ палічыць за «пасягацельства» на каталіцкую веру, каторую ў нас забаронай у 1839 годзе гаварыць казані па-беларуску ў касцёлах і наступіўшым пасля гэтага

«распалячэніем» цесна звязаны з пальшчынай, зрабілі польскай верай. Не, для беларусоў, калі іх хочаце захаваць беларусамі, а не перарабіць на палякаў, трэба вярнуць права на іх родную мову ў касцёле. І гэтай, толькі гэтай дарогай можна захаваць ад апалячання.

Паны Кавалюкі і Саланевічы, памятайце, што рэлігійная справа — гэта не тое, што крычаць: «Ратуйце, польская інтрыга!», «Гвалту, сепаратызм!». Вы ведаеце, што ўсе ўжо наслухаліся гэтага і ніхто не звяртае ўвагі на вас, дык можаце крычаць, колькі ўлезе. Можаце пераадзявацца, штодня і штогадзіны, ехаць сягоння як «беларуская» дэпутацыя дабівацца расейскай мовы ў касцёле, заўтра — як літоўская, паслязаўтра — як польская, а там з часам як кітайская, зулуская і якая вам у канцы заманецца. Толькі з агнём асцярожна! Рэлігійная справа на Беларусі — гэта агонь, і бруднымі рукамі вашымі чапаць яго нельга!

*[1912]*

## КОПНЫЯ СУДЫ

Мінуўшчына беларускага народа багата цікавымі формамі грамадзянскага жыцця. Адна з гэткіх цікавых форм грамадзянскага жыцця XV—XVI сталецця ў Беларусі — гэта так званыя копныя суды. Копны суд выводзіўся з глыбокай старыны, з часоў родава-патрыярхальных, і сваімі формамі ён прыпамінае саўсім веча вялікіх гарадоў старой Русі. Старая форма копнага суда не знае розніцы станаў: перад гэтым судом усе роўны ад найвышэйшага да найніжэйшага стану. Асобнасць копнага суда была ў тым, што ён збіраўся заўсёды пад голым небам, на копных урочышчах, каторыя ў паганскія часы, як відаць, былі местам чэствавання багоў.

Копны суд знае дзве формы: звычайную і гвалтоўную. Звычайная капа збіралася ў загадзя вядомыя судовыя «рокі» (срокі, тэрміны; адгэтуль польск. «вырок» — прыгавор судовы), каторыя ў розных месцах адбываліся ў розныя часы, а найчасцей у такія святы, як Вялікдзень, Юр'е, Зялёныя святкі, Узвіжанне, Каляды. На звычайнай «простай» капе разбіраліся справы, каторыя мы цяпер назвалі бы «гражданскімі»: споры аб граніцы, аб борці, кражы, сваркі, бітвы, дзяліцьбу. На «лавах» засядалі «старцы», і яны судзілі разам з усёй грамадой, пастанова суда была заўсёды «завітая» (аканчацельная, безапеляцыйная). Гвалтоўная капа была заўсёды яшчэ і капой «гарачай». Гэткая капа збіралася

ў прыпадках убіўства, падпалу, нападу. Скрыўджаны пачынаў крычаць — «паднімаў гвалт», і ўсе ўзрослыя, хто пачуў гвалт, павінны былі ў той час бегчы на копнае месца. І колькі збеглася народу, усе былі суддзямі, усе мелі роўны голас у судовай пастанове. Калі ж праступнік-гвалтаўнік уцёк ці схаваўся, — то ўся капа разам ішла гнаць «гарачы след». Калі, гонячы гарачы след, натраплялі на гвалтаўніка ў граніцах воласці, то над ім тут жа пастанаўлялі прыгавор. Але бывала і так, што гвалтаўнік уцякаў далей, тады, гонячы гарачы след, капа даходзіла да «мяжы» (граніцы сваёй воласці) і тут застанаўлівалася, пасылала сваіх паслоў у суседнюю воласць і здавала ім гарачы след. І тады ўсе страты і «навязку» (штраф, пакрыццё крыўды грашыма) павінна была плаціць тая воласць, але яна мела права ў свой чарод гнаць гарачы след і накладаць страты і навязку на другую воласць, калі след туды пераходзіў, або на асобных людзей, каля каторых губіўся след.

Гэткім парадкам копны суд як судовая і следчая інстытуцыя даволі добра спаўняў сваё назначэнне. Найбольшае развіццё копных судоў прыпадае на XIII–XV сталецця, у XVI сталецці копныя суды мала-памалу пачынаюць траціць сваё значэнне, бо з-пад іх юрысдыкцыі пачынае выламвацца ўсё ўзрастаючая ў сілу і значэнне шляхта. У палавіне XVI сталецця копныя суды ўжо разбіраюць толькі справы паміж сялянамі і справы гвалтоўныя, а пад канец гэтага сталецця саўсім падупадае інстытут копных судоў, бо для шляхты ўстанавіліся ўжо крэпка суды «гродскія», а сялян судзіла сама шляхта. Але ўсё-такі, як далёкі адгалосак даўнейшых копных судоў, датрывалі на Беларусі, хаця і ў зменёнай форме, паміж шляхты суды «гранічныя» блізка што да палавіны XIX сталецця. Гэткі гранічны суд паміж шляхтай апісаў у пекнай паэме»Pan Tadeusz» польскі пісьменнік-паэта А. Міцкевіч[1], каторы быў родам з Беларусі (Мінск[ай] губ. Навагрудс[кага] пав.). Толькія пазнейшыя гранічныя суды, узяўшы ўсе формы старых копных судоў (бо гэтаксама адбываліся пад голым небам), не мелі даўнейшых шырока дэмакратычных і юрыдычных асноў: яны былі ўжо толькі чыста станавай інстытуцыяй і разбіралі споры паміж шляхтай за граніцы зямель.

*[1912]*

## СТАНЫ Ў СТАРОЙ БЕЛАРУСІ

Час усё перамяняе. І на абшары беларускіх зямель у меру, як плыў час, наступалі розныя перамены. Адно аджывала і, уступаючы месца другому, сходзіла са сцэны жыцця, паўставала новае — лепшае не заўсёды, але заўсёды іншае.

Цяпер, калі мы паглядзім на грамадзянства, якое засяляе нашу старонку, убачым розныя нацыі і станы (сословия), але паўтысячы лет таму назад гэтага не было. Скрозь па ўсёй старонцы жыў адзін беларускі народ, а «чужаземцы» і «заграннічнікі» былі толькі «розным абычаем прыбылыя людзі», каторыя «гасцілі» ў нас. Яны не адбывалі «земскай павіннасці» і не мелі дзеля гэтага ніякіх правоў. Што ж датыча «даўных родзічаў» зямлі беларускай, то яны не зналі блізка да XV сталецця раздзелу на станы ў сягонняшнім значэнні. Стан, палажэнне ў грамадзянстве залежала не ад таго, чым быў бацька або дзед, але ад таго — якую павіннасць для гасударства выпаўняў даны чалавек. Няволі асабістай нашы прадзеды не зналі, кром людзей, узятых на вайне ў няволю і то толькі ў першым калене. Палажэнне ў грамадзянстве залежала ад рабочай сілы сям’і, роду, калі сям’я апрача рук патрэбных да працы на зямлі магла даць яшчэ рукі і да мяча, займала вышэйшае палажэнне, была баярскай. Ды і сама баярская служба была гэтак цесна звязана з зямлёй, што яна не называлася іначай, як толькі «земскай службай».

Земская служба ў удзельны перыяд Беларусі дзялілася глаўным чынам на дзве катэгорыі, з нялічанымі адценкамі зверху ўніз і знізу ўверх: на «цяглых людзей» і на «баяр». Цяглы чалавек гэта не нявольнік, не падданы панскі, але паўнапраўны грамадзянін з малой рабочай сілай і з малой земскай службай. Цяглыя людзі адбывалі падводную павіннасць для гасударства, правілі дарогі і замкі, складалі дань на замак. Цяглы чалавек меў малую рабочую сілу, і мала ад яго вымагалі земскай павіннасці.

«Служба баярская» была большая. Ад службы баярскай вымагалі не толькі, каб той, хто сядзеў на баярскай службе, даваў аружнага чалавека на вайну, але яшчэ ставіліся да яго і вымогі сельскагаспадарскага характару: каб хата баярская была на два канцы «з святліцай», каб вялася трохпольная сістэма севаабароту, каб ён сам не напіваўся публічна і др. Як за неакуратнасць у гаспадарцы ці службе земскай, так і за благія паступкі баярына перамяшчалі на меншую, горшую, цяглую службу і наадварот — цяглы акуратны чалавек мог заўсёды ўзяць баярскую службу. Гэткім парадкам станаў у сягонняшнім значэнні ў старой Беларусі не было, усё залежала ад таго, якую хто адбываў павіннасць.

Самае слова «служба» не азначала павіннасці, але ўчастак зямлі. Каб ясней сабе ўявіць гэткі парадак, мы павінны прыпомніць яшчэ тое, што ў старой Беларусі не было асабістай уласнасці на зямлю. Усе землі, ляжачыя ў граніцах воласці, належалі да ўсёй воласці, былі грамадскай, агульнай уласнасцю, пабітай на цяглыя і баярскія службы.

Калісь мы яшчэ вернемся да больш абшырнага разгляду[1] гэтай справы, а пакуль што няхай гэты кароценькі нарыс паслужыць паказам таго, як багата наша гісторыя рознымі формамі і можа хоць каго-небудзь заахвоціць узяцца за працу над нашай мінуўшчынай.

*[1912]*

## З ПАДАРОЖЫ ПА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Здарылася мне нядаўна пабываць у розных канцах Гродзеншчыны, паўзірацца на тутэйшых жыхароў і край, пабачыць дзе-што адменнае і цікавае; вось гэтым усім я і хачу падзяліцца з нашымі чытачамі.

Гродзеншчына — гэта раўніна, найбольш з пясчанымі, баравымі землямі, але гэтыя пясочкі гродзенскія, відаць, урадлівы, бо селянін тутэйшы багацей выглядае за такога ж самага селяніна беларуса з Віленшчыны, Віцебшчыны ці Міншчыны. Відаць заможнасць тутэйшых селян і на іх будоўлях: хаты хоць і не абшырныя, але чыстыя і прыкрашаныя то нейкім выразаным з дрэва ўзорам, то казламі, ці аплавамі з галубцамі і без галубцоў. Пачынаючы ад Гродны да Аўгустова і ад Аўгустова да Беластока і Бельска, на захад, а ад Бельска да Пружаны, Картуз-Бярозы і Косава з поўдня жыве беларускі народ суцэльнай грамадай. Беларускія вёскі і цэльныя парафіі здараюцца і па той бок праведзенай намі лініі, але яны там усё ж-ткі жывуць уперамежку то з мазурамі, то з украінцамі. Мова беларусоў-градзенчукоў вельмі харошая — чыстая. Ламаюць мову толькі «панаватыя» спаміж сялян — тыя, каторыя служылі за фурманоў і пакаёвак пры дварах ці стражнікамі пры паліцыі, але ідэал стацца стражнікам ці панскай служкай, а не быць *чалавекам,* не захоплівае шырокіх мас гродзенскіх беларусоў. Затое тутэйшыя «верхнікі», так званая «інтэлігенцыя», дзеляцца на два непрыяцельскія табары, абведзеныя кітайскай сцяной і аблітыя ўзаемнай нянавісцю. Вайна і сваркі паміж гэтымі двума табарамі ідуць за душу беларуса: палякі цягнуць у свой бок, расейцы ў свой бок. Ваенная

атмасфера, ваенны дым згусціўся тут да таго, што затуманіў яснасць мыслі ў двух процілеглых лагерах. Тутэйшыя палякі лічаць за сваіх беларусоў-каталікоў, праваслаўныя расейцы — сваімі лічаць праваслаўны люд.

І што пры ўсім гэтым самае цікавае, то тое, што ўся энергія абедзвюх ваюючых старон выліваецца на сялян-беларусоў: адны рвуць у свой, другія ў свой бок, а таго не хочуць бачыць і ведаць, што беларус можа вытварыць сваю ўласную культуру, пачаць жыць сваім асобным жыццём. Людзей, каторыя бы адносіліся справядліва да адраджэння беларускага народа, тут, у Гродзеншчыне, мне прыходзілася спатыкаць менш, чым у іншых месцах. У гэтай ваеннай атмасферы людзі так загледзеліся ў адно месца, што не здалеюць бачыць рэчаў больш далёкіх. Па гарадах і мястэчках Гродзеншчыны, бываючы, звяртаўся я да расейскіх і польскіх кнігарань, каб яны дзяржалі на продаж беларускія кніжкі і газету. І ўсякі раз пасля слова «беларускія кніжкі» прадстаўніцелі і прадстаўніцельніцы расейскага і польскага кніжнага гандлю ў Гродзеншчыне падскаквалі за прылаўкамі і на крэслах, як бы самае меншае ўбачыўшы перад сабой глыбокую пропасць, з дна каторай усе сем грахоў смяротных вылазілі на свет, пасля гэтага сыпаўся карацейшы ці даўжэйшы маналог аб хітрай беларускай «інтрызе». Маналогі цікавы: палякі даводзілі, што беларускае адраджэнне — гэта хітрая інтрыга правіцельства, каторае хоча, збудзіўшы беларусоў да новага жыцця, зрабіць іх расейцамі, а расейцы казалі, што беларускі рух — гэта польская інтрыга. Папраўдзе ж і адны і другія, калі па шчырасці разабраць, не верылі у тое, што гавораць, але і адным і другім ідзе аб тое, што беларус можа пачаць сам сабой, сваім розумам, а тады ні адны ні другія не будуць мець ніякай асновы да такой палітыкі, якую вядуць цяпер.

Што да асобнасцей Гродзеншчыны, то мне давялося пабачыць і пачуць вельмі цікавы абраз у цэрквах: гэта агульныя спевы. Каля Белавежы, пад пушчай, у глухіх кутках, дагэтуль датрывалі агульныя спевы ў цэрквах, спяваюць у часе царкоўнай адправы ўсе: і кабеты, і мужчыны, і дзеці — і спяваюць старасвецкія набожныя песні, каторыя, пераходзячы з вуст да вуст (як мне тлумачыла адна бабулька: «Гэты песні карта карце пераказвала»), датрывалі да нашых дзён. Але цяпер касуюць ужо і тут агульныя спевы, як пакасавалі ўсюды па Беларусі.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ тое, што і тут, як па другіх месцах Беларусі, царква і касцёл вядуць нацыянальную расейскую і польскую палітыку. Духоўныя палітыкі хапаюцца часам смешных спосабаў, як, напрыклад, укрываюць перад свежым

чалавекам тое, які народ тут жыве. Адзін ксёндз на маё пытанне, які тут народ: палякі, украінцы ці белару- сы? — адказаў: «У маёй парафіі жывуць толькі мазуры». А гэтыя «мазуры», як я з імі гаварыў, дык інакш як па-беларуску не ўмелі. У другім месцы другі ксёндз адказаў гэтак: «Са мной гаворац па-польску, моляцца па-польску, дык хіба палякі». Праваслаўныя свяшчэннікі кажуць, што або тут беларусоў няма ніякіх, а ўсе расейцы, хаця з папсаванай мовай, або што тут беларусы, але гаварыць ужо па-беларуску не ўмеюць…

***1912***

## ЛЮДВІК КАНДРАТОВІЧ
*Сыракомля*

Сёлета 18 верасня[1] прыходзіцца 50-летняя гадаўшчына са дня смерці польскага паэта Людвіка Кандратовіча (Сыракомлі), і ўсе польскія газеты пасвяцілі яго памяці большыя або меншыя стацці, усе горача памінаюць памяць «наднёманскага салавейкі».

Кандратовіч радзіўся 29 верасня 1823 года ў вёсцы Смолькаве Мінскай губерні Бабруйскага павета[2]. Так, як і другі шырока вядомы польскі паэт, Адам Міцкевіч, Кандратовіч выйшаў з дробнай беларускай шляхты. Бацька Кандратовіча[3] быў каморнікам, а пасля арандатарам малога фальварачка. Змалку Кандратовіч памагаў бацьку ў гаспадарцы, пазней вучыўся ў Навагрудку ў кляштары[4], пасля яшчэ служыў у канцылярыі ўпраўлення радзівілаўскіх двароў у Нясвіжы. Ажаніўшыся[5], займаўся гаспадаркай, спярша арандаваў ад Радзівілаў фальварак Залуч, над Нёмнам, а за колькі год пераехаў у Барэйкаўшчыну графаў Тышкевічаў (недалёка ад Вільні), дзе і жыў да самай смерці. Памёр Кандратовіч 15 верасня 1862 года ў Вільні.

Кандратовіч пісаў па-польску, але дух яго твораў чыста мясцовы, беларускі. У паднявольных народаў часам бываюць дзіўныя моманты ў жыцці, калі найлепшыя сілы, найлепшыя сыны ідуць скародзіць чужыя нівы, чужыя засекі багаціць. Ці мала наша Беларусь дала здольных людзей Польшчы на полі літаратуры затым толькі, што нас злучыла з Польшчай гістарычная доля? Але ўсе гэтыя творы хоць верхнюю адзежку-мову маюць польскую, аднача сваёй душой — яны беларускія. Кажу: беларускія, бо зацвілі яны з народа беларускага, з яго душы і думак.

Шведскі паэт Рунеберг[6], каторы радзіўся ў Фінляндыі, пісаў свае творы па-шведску, цяпер, калі фінляндскі народ адрадзіўся і пачаў жыць сваім асобным культурным жыццём, фінляндцы пераклалі творы Рунеберга на сваю мову і лічаць яго сваім народным паэтам. Гэтак і мы, беларусы, саўсім справядліва можам шукаць адбіцця сваёй народнай душы ў творах шмат якіх польскіх пісьменнікаў, што былі родам з Беларусі, а ў першым чародзе ў творах Міцкевіча і Кандратовіча. Гэта будзе яшчэ ясней, калі мы звернем увагу, як беларуская душа, адбітая ў творах Кандратовіча ў «Гутарках» (gawędach) і лірыцы, не пасуе да душы польскага народа і як палякі яе не разумелі. У той час, калі шляхта на Беларусі зачытвалася творамі Кандратовіча, калі тут кожнае слова знаходзіла адгалосак, кожны абраз-адбіццё ў душах чытачоў. Польская крытыка сурова судзіла яго творы. Гэтак польскі крытык Барташэвіч[7] пісаў, што Кандратовіч дае «ніжэйшага раду творчасць, а змест яго твораў убогі і прастацкі», Станіслаў Тарноўскі[8] пісаў, што ў Кандратовіча добрыя толькі пераклады з лацінскай мовы польскіх паэтаў, а ўласная творчасць — малавартая. Затое цанілі яго ў граніцах колішняй Літвы, тут ён быў у сябе дома, і нават сам Кандратовіч называў сябе паэтам мясцовым (domowy).

Апрача польскіх вершаў Кандратовіч для нас, беларусаў, даў яшчэ і творы на чыста беларускай мове. Беларускія творы Кандратовіча, апрача двох-трох кавалачкаў, дагэтуль яшчэ не друкаваны. Часць рукапісаў беларускіх твораў Кандратовіча мае п. Каратынскі ў Варшаве[9], і кажуць, быццам гэтыя вершы маніцца выдаць адна з варшаўскіх кнігарань.

З папераў, астаўшыхся па Абуховічу[10] (гэтаксама ніколі не друкаваўшым сваіх твораў беларускім паэце з-пад Слуцка), мы ведаем, што Кандратовіч многа пісаў па-беларуску і пісаў хораша. Абуховіч пасылаў свае беларускія вершы Кандратовічу і сам праглядаў беларускія вершы Кандратовіча. У пісьме да Кандратовіча ён пісаў[11]:

У гаворцы ёсць ружніца
Між маею і тваей:
Маей — пушчы, Птыч граніца;
Ты — Панарскі салавей.

*1912*

## РАЗДЗЕЛЫ І СВАРКІ

Наш беларускі народ раздзяліла вера хрысціянская на каталікоў і праваслаўных. На гэтых дзвюх дзялянках беларускага народа сотні гадоў сеялі ўзаемную нянавісць і сваркі паміж сынамі адной зямлі, аднаго народа, падымалі брата на брата. І бывалі моманты ў нашай гісторыі, калі кіпела заўзятая барацьба паміж тымі ж роднымі братамі… І кожны раз з гэткіх сварак нашых карысталі чужынцы. Гэтак у XVI сталецці ішлі ў нас сваркі за веру: часць беларускіх баяраў заступалася за праваслаўе, часць — за каталіцтва, часць — за кальвінізм і лютэранства, новыя веры, каторыя тады былі свежа заложаны ў Нямеччыне. Змаганне цягнулася доўга, і ў канцы беларусы страцілі сваю інтэлігенцыю, сваіх правадыроў і прадстаўнікоў нацыі — баяр, каторыя мала-памалу, як кажа тагачасны пісьменнік, «звычай і абычай свой закінулі, прозвішчы паадмянялі і паадракаліся свайго народа і мовы». І ўжо за сто гадоў пасля гэтага беларускі народ не мае сваіх правадыроў, з панyючага над усім гасударствам літоўскім народа ён становіцца пад'ярэмнай сілай, рабочай скацінай у прыгонным ярме, у каторае яго запраглі. Мова беларуская перастала быць мовай гасударственнай, мовай навукі, права і літаратуры, якой, укладаючы Статут літоўскі (кнігу законаў для ўсяго гасударства), канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега[1] хваліўся, кажучы, што мы стаім вышэй культурай за іншыя народы, бо маем законы, напісаныя не ў лацінскай мове, як у іншых гасударствах, а ў сваёй роднай, беларускай. І ўжо не пышаліся ёю паэты, стаўляючы яе нараўне з лацінскай — кажучы:

> Польшча слынець лацінаю,
> Літва слынець рушчынаю;
> А як у першай без лаціны не прабудзеш,
> Так у другой без рушчыны дурнем слынуць будзеш…[2]

Абраз таго палажэння, у якім знаходзяцца цяпер беларусы, не парадуе сэрца. Кругом беднасць, цемната і бяздолле. А чаму? Таму, што народ беларускі, як тая расліна, змарожаная падзімнымі вятрамі, затрымаўся ў сваім натуральным развіцці. Таму што ён цэлыя вякі ўсе свае лепшыя сокі аддае чужынцам, каторыя ўсе лепшыя сілы, якія выходзілі і выходзяць спаміж беларусоў, прысваіваюць сабе, пакідаючы нам права сварыцца паміж сабой за тое, ці ў праваслаўным, ці ў каталіцкім раю сядзець будзем, ці па-польску, ці па-расейску Бог гаворыць. Ці

ж беларускі народ быў бы ў такой беднаце, у такім загоне, каб лепшыя нашы сілы працавалі не для Масквы і Варшавы, як гэта цяпер ёсць, а каб працавалі для свайго роднага краю і народа? І скарбы цара Саламона апусцелі бы, калі б з іх бралі і бралі, а нічога не вярталі назад.

Вось у першы чарод нам, браты-беларусы, не трэба сварыцца за тое, хто якой веры, бо як мудра кажа наша прыказка: усе веры перад Богам роўны, — гэта значыць, што няхай кожны верыць, як яму дыктуе сумленне, але цвёрда трэба памятаць, што мы, беларусы, сыны адной зямлі, становім адзін суцэльны народ беларускі, што глаўны знак нашага брацтва — гэта наша пераказаная нам ад прадзедаў беларуская мова, каторую мы павінны любіць, шанаваць і старацца, каб і нашы дзеці любілі і шанавалі. Беларус не павінен чурацца сваёй мовы: гэта — апратка яго душы і яго думак. Наадварот, беларусу сорамна, калі ён, будучы беларусам, не ўмее гаварыць па-беларуску або сваю родную мову калечыць, устаўляючы ў гаворцы расейскія ці польскія словы. Мова наша мае даволі слоў, каб у ёй усё высказаць, мае сваю красу, дык не трэба яе нічым прыкрашваць, але там, дзе яна засорана чужымі словамі, трэба яе ачышчаць, бо гэта ж найдаражэйшы наш скарб, наша слава.

Мы ўсе, беларусы, без розніцы веры, павінны дабівацца, каб мова наша была ўсюды ў пашане, і бараніць ад пагарды і насмешак, як робяць усе народы. Павінны дабівацца, каб у нашай мове навучалі нас у цэрквах і касцёлах, вучылі дзяцей веры і граматы.

Беларусы самі павінны гаварыць па-беларуску, усюды, дзе толькі можна, і гэтым адзначваць сваю прыналежнасць да слаўнага беларускага народа.

Браты беларусы! Страсайце з сябе пагарду, якой закідалі наш народ, паднімайце яго з упадку, у якім знаходзіцца ён цяпер, будуйце светлую будучыню вашым дзецям і унукам, не слухайце цкавання брата на брата, — а калісь за гэта ўспамянуць вас добрым словам будучыя пакаленні.

*[1912]*

## ЦІ-ТКІ МЫ САПРАЎДЫ ЦЯМНЕЙ ЗА ЎСІХ

Чытаў-чытаў я розныя нападкі на беларускую цемнату і не вытрываў, каб не агрызнуцца. Мусі, у нас ужо ў моду ўвайшло бесперастанку жаліцца на нашу цемнату, бо як толькі пач-

неш пераглядаць карэспандэнцыі з розных закуткоў нашай бацькаўшчыны, то якраз і ўткнешся ў гэтае паганае слова «цемната». І што найгорай, што нашы беларусы-сяляне гатовы і ўзапраўды паверыць, што яны найцямнейшыя людзі пад сонцам, а гэта ўжо саўсім дрэнь справа, бо чалавек раз утраціць веру ў самога сябе — робіцца да нічога няздатным. Ды і папраўдзе сказаўшы, цемната наша не такая ўжо цёмная, як яе іншыя ахвочы маляваць. Праўда, што мы ва ўсім далёка ззаду асталіся за такімі ж самымі сялянамі, як і мы, але немцамі, англійцамі, чэхамі і інш., але і наша ж інтэлігенцыя, не тут кажучы, далёка яшчэ не зраўнялася з заходнееўрапейскай інтэлігенцыяй, і то кажучы аб агульнай краявой інтэлігенцыі, змяшаўшы ў адно і польскую і расейскую. Дык і выходзіць, што інтэлігенцыі нашай няма што тыкаць селяніна цемнатой, калі яна сама не надта што святлейшая. Другое вось што: адсталі мы ад заходнееўрапейскага селяніна ў нашай граматнасці, у зямельнай культуры. Але ці былі ж у нас, беларусоў, свае беларускія школы, як у нямецкага і французскага селяніна. Кажуць, папярэдзілі нас латышы, палякі, літоўцы, а ці латышы не маюць сваіх народных школ, ці палякаў у Польшчы ў школах не вучаць па-польску, ці літовец пачаткі вучыцца ў чужой мове гэтак, як мы? Не. Ну дык і ясна прычына, чаму мы адсталі. Чужая пачатковая школа навучае нас чытаць, але не развівае нашай душы, розуму, не развівае дзеля таго, што яна — чужая. Няхай у нас пачатковыя школы для сялян будуць па-беларуску, і вы не агледзіцеся, калі наш селянін зраўняецца з латышом, палякам, літоўцам, а можа, пры сваёй прыроднай кемнасці і далёка іх папярэдзіць. Бо што наш народ кемны, відаць ужо з таго, што як у палякоў, так у расейцаў у чысле перварадных культурных сіл чысляцца людзі, узгадаваныя на нашым загоне. Няма што казаць, наша ніўка на слаўных людзей урадліва, толькі бяда ў тым, што дагэтуль ураджай гэты збіралі і спажывалі не мы, а тыя, каторыя цяпер як раз вытыкаюць нам нашу цемнату.

Ёсць такія, што папярэдзілі нас, але ёсць і такія, што далёка такі за намі асталіся ззаду. Узяць хоць бы тых самых палякоў, хоць у іх гаспадарка куды лепей пастаўлена, але наш селянін у агульным развіцці вышэй стаіць ад польскага селяніна, беларус ад яго і развіцьнейшы, і хітрэйшы, і нават працавіцейшы. Велікарос астаўся далёка ззаду за беларусам па гаспадарцы. Беларус — гэта быццам немец перад велікаросам. Вось прыклад: мы сядзім на жвірках і на пясочках, а ў нас голаду не бывае, а ў Велікарасеі амаль не з года ў год голад, хоць сядзяць на чарназёме. У нас

незавідна гаспадарáць на зямлі, калі прыраўнаць да загранічнікаў, а ў Велікарасеі і з рук вон іхня гаспадарка.

У нас ёсць п'яніцы, але ўсё ж такі цвярозых гаспадароў болей, а ў Велікарасеі болей п'яніц, як цвярозых, а што да цемнаты агульнай, то там народ куды цямнейшы, грубейшы і больш лянівы.

Дык вось дармо-такі лаюць нашага селяніна за цемнату, беларус далёка не цёмны яшчэ, а пры сваім спакойным і разважным характары, пры сваёй працавітасці, можа, хутка стане паміж першымі народамі. Тым, каторыя ахвочы наракаць, я б раіў лепей менш наракаць, а ўзяцца за працу і шырыць асвету паміж сваіх братоў, дабівацца правоў для сваёй нацыі і гэткім парадкам ратаваць людзей ад цемнаты, а не тое што напісаў карэспандэнцыю ў газету аб вясковай цемнаце і на тым супакоіўся, быццам зрабіўшы важную работу.

Іншая ёсць прычына, што нашага селяніна не паважаюць, гэта тое, што ён бедзен. «На беднага Макара і шышкі валяцца» — гэтак і з намі, беларусамі, усякі нападае на нашу цемнату за тое, што мы слабы, бедны. Нябось, як беларус пабагацее, то той самы чалавек робіцца не тым. Вось жа прычына той нібыта цемнаты крыецца ў беднасці. Нараканнем бяды не прагоніш, можна яе пазбыцца толькі працай, і то як можна шырэйшай хаўруснай працай, за гэта і павінны ўзяцца, замест пустога наракання, усе тыя, каму коле ў вочы наша, як яму здаецца, цемната.

*[1913]*

## СПЛАЧВАЙЦЕ ДОЎГ

Ехаў я чыгункай. Сустрэціўся з нейкім пажылым ягамосцем, разгаварыліся. Сам ён родам з Тульскай губерні, жыве ў Пецярбурзе, а кожнае лета праводзіць у Беларусі. Бываў ён у Крыме, на Каўказе, знае заграніцу.

— Толькі нідзе такой харошай, такой ціхай прыроды не бачыў я, — казаў ягамосць. — Ваш край — гэта дзіўная казка, дзіўная краса крыецца ў яго пагурках, гаях, лугах і рэках. Такое тут усё ў вас спакойнае, ціхае, задумчывае, такое паэтычнае, такое ўсё, як французы кажуць, «bon ton», што я кожнае лета цягнуся, каб дыхнуць вашым паветрам, пацешыць вока вашымі відамі.

Слухаў я гэтых слоў чужынца-старца, бывальца па свеце, і ў душы мне зрабілася сумна-сумна… Спомніліся мне вершы нашых беларускіх паэтаў, каторыя замест ўслаўляць нашу,

папраўдзе бязмерна харошую прыроду, абесслаўлялі яе. Адзін з іх кажа:

Куры, свінні, гною кучы
Напаўняюць кожны кут.
Вокны затканы анучай,
Так і кажуць: «Ўсюды бруд».

Другі падпявае:

Край наш бедны, край наш родны,
Гразь, балота ды пясок!

Яшчэ іншы плача:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь,
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дрозд ды гусь…

У канцы нехта чуткі з роспаччу крычыць:

Край ты мой родны,
Як выкляты Богам.

Супакойцеся, ягамосці, край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны і бедны. Жывой красы ў прыродзе нашага краю, у людзях многа, хіба толькі тое сумна, што мы яе падмеціць, падгледзець не ўмеем.

Я разумею яшчэ (ды і то з нацяжкай) енкі і плачы тых нашых белетрыстаў і паэтаў, каторыя (цыбуляй хіба крыху паціраючы вочы) плачуць над доляй селяніна, можа, хочучы выказаць не тое, што Янка ці Апанас сядзіць паўп'яны на печы і ў яго гаспадарка не спорыцца, «шнур травой зарастае», у вокнах — «анучы» і «не мецена хата», а тое, што народ, увесь народ-нацыя жыве ў цяжкім бяспраўным палажэнні, што душа нашага народа скручана ланцугамі, і ў здзеку і ў пагардзе, як прыгонніца, як раб, канае доўгія векі і ні сканаць, ні жыць не можа. То гэтым «паэтам» можна дараваць іхнія няскладныя плачы. Але, дзякаваць Богу, ёсць жа ў нас ужо і імёны, каторыя маюць шырокую славу не толькі ў нашай бязграматнай і безінтэлігенцкай бацькаўшчыне, а і далёка па-за межамі яе. Ад гэтых апошніх мы, чытаючае і думаючае беларускае грамадзянства, у праве вымагаць чагось для

сваёй душы, мерыць іхню творчасць меркай еўрапейскай, якую прыкладаюць усе народы на свеце да творчасці сваіх пракракаў. Так — пракракаў, бо паэта павінен быць вучыцелем і пракрокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю. Можа, скажуць мне, што апрача гною, пяску,ануч і драздоў у нас няма нічога годнага ўвагі. Даруйце, ягамосці-парнаснікі, але кожны грамадзянін мае права сказаць — я беларус, я часць народа — і, карыстаючыся гэтым правам, я, ніжэй падпісаны, прылюдна на ўвесь край крычу: апрача драздоў, ануч, гною і пракляцця ў маёй душы ёсць яшчэ шмат красы, перад маімі вачамі скрозь краса, жыццё, сонца, песні і бязмернае багацце відаў. Я хачу мець усё гэта,ператворанае ў спектры калектыўнай нашай душы — у словах нашых паэтаў-пракракаў. Мяне цікавіць не толькі тое, што Янка сядзіць на вузкім шнурочку зямлі, але больш таго, што гэты Янка чуе ў той момант, калі ён поўнымі грудзямі хапае пах чорнай, парэзанай плугам на скібы зямлі, як яго лянівы мозг варушыцца, калі сахой разразае прадзедаўскі курган, што кажа душа прадзедаў, як іхнія косці збіраюць праўнукі, каб прадаць у фабрыку суперфасфату.

Маё штодзённае жыццё шэрае і цяжкае, і я хачу з вашых твораў навучыцца бачыць каля сябе красу, каторую, я чую, што яна ёсць, але мая душа не так чутка, каб улавіць яе.

Я прывык глядзець на паэта, як на памазанніка Божага, як на пракрока, і дзеля гэтага рука мая ніколі не памкнулася ўзяцца за пяро, каб накідаць вершы, бо я ў душы сваёй чуюся нягодным гэтага высокага імені. Але вы, каторыя пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысль, паднімаць і вясці душы, чаму не выпаўняеце свайго пасланніцтва, чаму маўчыце, калі забіваюць у душах — незапісаных картах, красу, чаму не вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму змеркаў, яснату ўсходаў, — чаму не распаляеце душ нашых пажарам любові, не сыпеце чырвонцаў у жар гэты?

Плакаць і сыпаць словамі сцёртымі, як дробная медзяная манета, як бачыце, і я ўмею, і гэтага з мяне годзе, але за вамі, калі вы не апраўдаеце паложаных на вас надзей, народ будзе лічыць доўг, і доўг гэты будзе чысліцца за вамі давеку.

*1913*

## ДА ЎБОГІХ ДУХАМ

«Шчаслівыя ўбогія духам…» — сказаў калісь Хрыстос; і мне здаецца, што калі Хрыстос казаў гэтыя словы, на яго добрым абліччы зайграла балючая ўсмешка. Звернуты гэтыя словы, мабыць, былі не да пакорных духам сялян галілейскіх і рыбакоў, а да тых фальшывых правадыроў народа, каторыя любяць першыя месцы на ігрышчах і першыя лаўкі ў бажніцах, каторыя растапырваюць абрамоўкі шат сваіх і распускаюць падалкі світак сваіх ды любяць, каб на рынках кланяліся ім і называлі іх — «вучыцель, вучыцель».

Гэткай шчаслівай, бо ўбогай духам, ёсць наша, так званая (відаць, праз абмылку) інтэлігенцыя. Яна не толькі любіць, але лічыць сваім правам займаць усюды першае месца перад скромным сялянствам, не толькі любіць, але і вымагае, каб ёй на рынках і на дарогах кланяліся. Якім правам, за што?! Ці за тое, што світкі вашы падшыты на тандэце? Сляпыя правадыры! Вы адцэджваеце камара, а вярблюда глытаеце. Вы прыбралі цела сваё ў лепшую адзежу, а душа ваша тонець у цемнаце, у грубасці. Вы ачышчаеце кубак зверху, а ўсярэдзіне ён у вас повен гнілі і бруду. Сляпыя! Ачысціце перш, што ў сярэдзіне кубка, каб і тое, што зверху, чыстым было. Падобны вы гробам пабяляным: зверху вы здаяцёся пекнымі, а ўсярэдзіне поўны брыды і гною.

Вы, навучаныя ў пісьме, маглі бы быць светачамі свайго народа, а сталіся лютымі ваўкамі ў аўчарні. Вы, заместа адкрываць вочы братам сваім, аслепляеце іх, бо самі вы сляпыя, а і тым, што бачаць, закрываеце вочы.

Гады вы, племя вужачае!

Зразумейце, што гэта аб вас казаў Добры Вучыцель: яны зберагаюць мора і зямлю, каб зрабіць аднаго новага сабе падобнага, а як зробяць, робяць яго сынам пагібелі. Вы любіце прыкрашаць гробы прарокаў і прыбіраць нагробкі справядлівых. Дый кажаце: каб мы жылі ў тыя дні бацькоў нашых, то не былі б учаснікамі ў крыві прарокаў. І гэтым вы самі на сябе паказваеце, што вы сыны тых, каторыя пабілі прарокаў. Ці ж вы не робіце таго, што і бацькі вашы? Ці вы не шырыце няпраўды, глуму, здзеку над меншымі, слабейшымі братамі вашымі? Ці не забіваеце прарокаў народа свайго на славе, ці не прадаеце, як юды, Бацькаўшчыны сваёй, не ведзяцё яе на галгофу мук, не раскрыжоўваеце?!

Гляньце на народ, на Бацькаўшчыну. Чыімі рукамі прыдушан ён, чыімі рукамі раскрадзена прадзедаўская слава?

Шчаслівы ўбогія духам, каторыя не чуюць і не разумеюць таго, каторыя «кайданамі мяняюцца, праўдаю таргуюць» і пышаюцца гэтым! Шчаслівы ўбогія духам, каторыя не бачаць свайго ўбожаства, бруду душ сваіх і з лёгкім сэрцам могуць сабе жадаць першых месц і паклонаў!..

Але памятайце, што вы сыны тых, каторыя пабілі пракокаў нашых, і што кроў іх ляжыць на душах вашых. Памятайце, што вы ўзраслі з крыві пабітых і з поту і з мазалёў паганьбленых.

*[1913]*

## ПАМАЖЫЦЕ!

Усім вядома, што па нашых вёсках, у тыя часы, калі было забаронена друкаваць беларускія кніжкі, хадзілі рукапісныя сшыткі з рознымі беларускімі вершамі, сатырамі і паэмамі. Хто іх пісаў і хто шырыў, невядома было. Толькі на ўсякае выдатнае здарэнне ў жыцці народа, у жыцці грамады, аколіцы, вёскі складаліся вершы і расходзіліся, перапісваныя з рук у рукі. Рэдакцыя «Нашай нівы» ад самага пачатку свайго жыцця старалася збіраць гэту рукапісную беларускую літаратуру, і дагэтуль сабралося нямала цэннага матэрыялу. Побач са збіраннем рукапісаў нам удавалася вылаўліваць і імёны аўтараў. Аказваецца, што праз усё XIX сталецце беларускія пісьменнікі не зводзіліся: людзі пісалі і працавалі над развіццём беларускай літаратуры, над утрыманнем беларускай свядомасці. Хоць мы і ведаем колькі імён аўтараў, каторыя пісалі па-беларуску ў забаронных часах, але па большай часці людзі гэтыя не жывуць ужо, і мы не ведаем, хто і што яны былі: не маем іхніх біяграфій і партрэтаў. А дзеля таго, што гэта справа дужа важная для гісторыі беларускай літаратуры і для ўвекавечання імён бескарысных барцоў за нашу акрадзеную долю, звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў найперш з паноўленай просьбай збіраць і прысылаць нам рукапісную літаратуру ды запісваць народныя паэмы са слоў, а пасля з просьбай збіраць і прысылаць у рэдакцыю рукапісы, біяграфіі (жыццеапісанні) і фатаграфіі тых аўтараў. Можа аб кім з іх былі друкаваны якія весткі ці партрэты ў якіх часопісях ці кнігах, просім такжа наведаміць (!) нас, а яшчэ лепей прыслаць тыя друкі. Патрэбны біяграфічныя весткі аб такіх беларускіх пісьменніках:

*Арцём Вярыга-Дарэўскі*[1]. Калі радзіўся і дзе і калі памёр і дзе? Яго жыццеапісанне, яго творы. Вядома нам, што Вярыга-

Дарэўскі быў напісаўшы колькі вялікшых паэматаў і пераклаўшы на беларускую мову «Конрад Валенрод» Міцкевіча. Усе яго паэмы (апрача «Братам літвінам», каторай арыгінал знаходзіцца ў рэдакцыі «НН») невядомы, родам быў з Віцебшчыны, жыў у сярэдзіне XIX ст.

*Вінцэсь Каратынскі*. Патрэбна яго біяграфія (была друкавана ў польскіх часопісах) і яго творы. Пісаў па-беларуску нямала. Жыў у сярэдзіне XIX ст.

*Якуб Т…кі*[2]. Вядомы нам беларускія вершы, падпісаныя гэтым найменнем. Жыў у Магілёве, сучаснік Вярыгі-Дарэўскага.

*Ялегі Пранціш Вуль*[3]. Вядомы яго адзін, надта слаўны верш «К дудару Арцёму» (друкаваны ў «НН»). Жыў у Віцебску, быў чалавек незвычайнага таленту, мову беларускую знаў дужа добра. Вуль, можа быць, быў яго псеўданім.

*Мікалай Караткевіч*[4]. Гэтаксама вядомы нам з аднаго верша, пісанага ў Мінску ў 1858 гаду.

*Аляксандр Рыпінскі*[5]. Вядомы польскі літаратар 1850-х гадоў. Пісаў і па-беларуску. Патрэбна яго біяграфія, партрэт, беларускія творы.

*Юльян Ляскоўскі*[6]. Аўтар зборніка вершаў «Białoruski Bandurzysta» (Wilno, 1861). Нам казалі, быццам «Białoruski Bandurzysta» спярша быў напісаны па-беларуску, а ўжо пасля пераложаны на польскую мову самім аўтарам. З вершаў яго відаць, што ён быў гарачы беларускі патрыёт. У адным з сваіх вершаў ён кажа:

Do nas więc, donas, wielmożne pany!
A z swojską mową, bo mowa wasza,
Ten jej ton nigdy tam nie słyszany,
Z mogił tych ojce nam powystrasza
I opuścieją nasze kurchany!

Słowa zmieniome w jakoweś grymasy,
W jakieś pod nosem dziwne marmotanie,
Co odpuść Boże, jak złego nasłanie,
Jak wieżę Babel stawia was przy tłumie.
Przy gminie naszym, zrodzonym w tej ziemi,
Przy ludzie prostym, przed bracią młodszemi,
Że człek człowieka zrozumieć nie umie…

На друкаваным экземпляры «Biał. Bandurzysty» напісана: «Мajoj žanie»[7], відаць, рукой аўтара. Пад партрэтам яго біяграфія, партрэт і творы.

*Хвэлька з Рукшэніц (Фелікс Тапчэўскі)*[8]. Пісаў многа па-беларуску вершаў. Некаторыя надта добрыя, як «Вечарынка», «Саўсім не тое, што было», «Гаспадыня». Жыў у Лепельскім павеце Віцебск[ай] губ. у 1880-х гадах, патрэбны матэрыялы да біяграфіі і яго творы.

*Ян Чачот*[9]. Выдаў кнігу па-польску «Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny (Wilno, 1846) і «Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny» (Wilno, 1844). У першай (1846) кніжачцы памешчаны адзін вершык беларускі, напісаны Чачотам, а ў другой (1844) памешчана 30 песень беларускіх, напісаных Чачотам. Пісаў па-беларуску і болей вершаў, каторыя асталіся ў рукапісах, апрача вершаў Чачот укладаў па-беларуску кніжачкі рэлігійна-маральнага зместу. Патрэбна жыццеапісанне (было друкавана ў польскіх часопісах) і яго партрэт.

*Адам Кіркор*[10]. Вядомы гісторык і этнограф беларускі, пісаў многа па-польску і па-расейску, каля 1860-х гадоў разам з другімі свядомымі беларусамі ў Вільні прыгатаўляў да друку рад беларускіх брашурак. Жыццеапісанне яго і партрэты выданы па-беларуску Рамуальдам Зямкевічам[11] «Адам Ганоры Кіркор»; патрэбны папраўкі да гэтай брашуры і рукапісы, каторыя, мабыць, недзе захаваліся.

*Людвік Сыракомля (Кандратовіч)*. Пісаў нямала па-беларуску. Рукапісы Сыракомлі меліся быць выданы ў Варшаве, але нет ведама, чаму дагэтуль яшчэ не выйшлі. Нямала вершаў беларускіх Сыракомлі расходзіліся ў рукапісах па краю, і яны павінны быць недзе пазакіданы.

*Ксаверый Нядзведскі*[12]. Каля 1854 года даставіў у Пецярбургскую Акадэмію граматыку беларускай мовы. Рукапісь гэтай граматыкі павінна быць у архіве Сразнеўскіх[13]. Патрэбна яго жыццеапісанне і калі дзе засталіся рукапісы яго.

*Альгерд Абуховіч*. Родам з Бабруйскага павета, жыў у Слуцку. Пісаў многа вершаў па-беларуску, перакладаў Міцкевіча, Кандратовіча і Лермантава. Рэдакцыя «НН» мае 10 сшыткаў яго памятнікаў, у каторых там і сям ёсць чарнавікі вершаў. Патрэбна яго жыццеапісанне, партрэт і болей рукапісаў.

*Ян Шэмет-Палачанскі*[14]. Жыў каля Даўгінава, пісаў многа вершаў па-беларуску, яму прыпісваюць верш «Панскае ігрышча». Патрэбна яго жыццеапісанне і рукапісы. Радзіўся ў 1826 г. 20 чэрвеня, памёр у 1905 гаду 9 жніўня.

*Адам Гурыновіч*[15]. Родам з Віленскага павета. Пісаў вершы і прозу, памёр у 1894 гаду. У 1893 г. сядзеў паўгода ў Пецярбурзе ў крэпасці, скончыўшы Тэхналагічны інстытут. У крэпасці пісаў па-беларуску, былі яго беларускія рукапісы з крэпастнымі штэмпелямі. Належаў да рэдакцыі нелегальнай беларускай газеты «Гоман». Патрэбна яго жыццеапісанне, партрэт, рукапісы і газетка «Гоман».

*Егалкоўскі*[16], інжынер. Пісаў па-беларуску, вядомы яго даўжэйшы верш «Лятэстат». Патрэбны рукапісы, партрэт і жыццеапісанне.

*Апанас Кісель*[17]. Жыў у Магілёве, быў чыноўнікам. Пісаў вершы і апавяданні па-беларуску. Патрэбны партрэт, жыццеапісанне і творы.

Пакуль што гэтым і скончым спісак беларускіх аўтараў XIX сталецця. Добра ведаем, што ён дужа няпоўны: у ім не ўсе імёны, вядомыя з розных стацей аб беларусах, не кажучы ўжо аб тым, што далёка болей людзей пісала па-беларуску. Затое дужа былі б мы ўдзячны ўсім тым, хто б захацеў нам памагчы ў збіранню імён беларускіх аўтараў, не адмечаных у гэтым спіску, калі хто што ведае аб аўтарах адмечаных ці мае якія рукапісы або хоць весткі аб рукапісах, паведаміў бы нас. Верым, што ў нашай шырокай староны знойдуцца людзі, каторыя аднясуцца прыхільна да нашай працы і памогуць нам. І з верай гэтай чакаем ад нашых чытачоў і прыхільнікаў вестак і матэрыялаў.

*[1913]*

## РОДНАЯ МОВА

Кожны народ гаворыць аб дабрэ і зле сваёй мовай, і гэта яго права, бо мова — гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа — гэта сума перажыванняў, сума душ яго жывых і даўно адышоўшых у вечнасць пакаленняў.

Родная мова — гэта мільёны жывых клетачак мозгу, унаследаваных чалавекам ад папярэдзіўшых яго пакаленняў, мільёны перажыванняў красы, дабра і зла, згукаў і форм, несчыслёнае багацце душы, каторае адкрываецца толькі пад дотыкам тых самых згукаў, каторыя нарадзілі іх калісь у душах далёкіх пакаленняў.

Родная мова — гэта музыка душы, каторай Навышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фундамент, на каторым

чалавек павінен будаваць дом сваёй сілы духоўнай, свайго розуму, пачуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды, красы і брыдзі.

І гора таму, хто паднімае руку проці законаў, напісаных у кнізе Жывата рукою Стварыцеля. Падобен ён да таго неразумнага чалавека, каторы будуе дом свой на пяску: спадзе дождж, і пацякуць воды і зрыюць яго будоўлю.

Будуйце дом сваёй мудрасці, палацы душы сваёй на скале, каторай ёсць родная мова.

Душа без роднай мовы — гэта кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка, пусты дом, напоўнены трупамі.

Душа жывога не павінна быць гробам пабяляным, каторы панадзен зверху, а ўсярэдзіне повен гнілі, але павінна быць домам радасці, у каторым грае музыка напеваў калысных вашых матак і бабак і жыве сіла дзядоў і прашчураў.

Родная мова чаруе душу, і душа рвецца да яе, бо яна калыска душы, гордасць і імя народа.

Сыны Народа павінны любіць і шанаваць яе, бо адна яна жывая крыніца нашага розуму, пачуццяў і семя душы нашай, яна чароўны лек і аружжа проці смерці. Толькі яе чароўная музыка мае сілу будзіць душы памершых нашых дзядоў і адкрыць перад намі бесканечнасць перажыванняў тых, каторыя радзілі нас і адышлі ў вечнасць. Іх душы жывуць у мільёнах нашых мазгавых клетак, у фібрах душы і ажываюць толькі пад гудзьбу згукаў роднае мовы.

Родная мова наша для нас — гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажываў народ наш: яго болесцей і радасцей, голас яго сэрца і святло яго розуму.

Але як жа адкрываецца перад намі сезамская скарбніца, калі ключ да яе, наша мова, або папсован, або загублен намі? Як жа мы дабудзем укрытыя ў душы нашай скарбы, каторыя сабіралі і акуплялі цаной жыцця і жыццёвай практыкі нашы бацькі? Як дабудзем тыя несчыслёныя багацці мыслі, паэзіі і перажыванняў бацькоў нашых, калі мы забыліся або сказілі слова, што выклікае іх?

І як мы выкажам аздобнасць душы нашай і скуль возьмем аружжа і сілу ў змаганні за жыццё народа, калі чароўная скрыпка, мова наша, папсавана?

Мала Сынам Народа прызнаваць права на жыццё нацыянальнай душы — мовы. Гэтага не адмовяць нам і чужынцы.

Ад Вас, Сыны Народа, вымагаецца болей: Вы павінны быць лепшымі! Вы павінны будзіць душу сваю і шукаць ключа да несчыслёных скарбаў, бо вы правыя наследнікі бацькоў вашых, а не байструкі і падкідышы.

Вы павінны вучыцца роднай мовы, старацца разумець усе адценні чароўнай яе музыкі, павінны ачышчаць яе ад злога зелля, каторае пасеяў на ніве нашай благі чалавек, калі работнікі, патомленыя днеўнай працай, спалі ўночы.

Кожны беларус павінен, болей чым іншыя народы, старацца ачышчаць родную мову ад чужых слоў і зваротаў, бо найміты цемры шукаюць душы нашай, каб забіць яе, і затручаюць атрутай крыніцы, скуль п'е душа наша.

Сапраўды, хто перасыпае родную мову сваю чужымі словамі — не мае права казаць, што ён любіць яе.

А хто не знае роднай мовы, не годзен называцца Сынам Народа.

*[1914]*

## БЯЗДОМНЫЯ

Каб знайсці на Зямлі-Матцы роўна нешчаслівую старонку як Беларусь і роўна бяздольны народ як беларусы, трэба далёка шукаць прыкладаў…

Трэба мыслю перанясціся ў далёкую Азію, за высокія небатычныя горы і спыніцца ў шалёна багатай старонцы, каторую амываюць святыя воды ракі Ганга, трэба шукаць прыкладу ў старонцы, званай раем зямным, — у Індыі. Во там мы пабачым многа сходнага з Беларуссю.

Там, як і ў нас, людзі раздзяляюцца на лепшых, горшых і найгоршых, там, як і ў нас, адвечныя жыхары Індыі сталіся «нячыстымі» парыямі, каторыя «да чыстых», не занічышчаючы іх, могуць толькі на 10 крокаў прыбліжацца і не маюць права маліцца ў сваёй «нячыстай» мове Богу.

У багатай Індыі, дзе ўраджай сам 200 бывае, дзе прырода высіліла ўсе свае сілы, каб забяспечыць быт чалавека, там парыі штогоду выміраюць дзесяткамі тысяч душ ад голаду і хвароб. Гэтак дзеецца ў далёкай Індыі, над святымі водамі ракі Ганга, блізка што гэтак дзеецца і ў нашай Святой Беларусі.

І ў Беларусі адвечныя жыхары і іх мова сталіся «нячыстымі».

І ў Беларусі штогоду вымірае народ ад хвароб і голаду.

Хто ўнікнуў у страшэнную трагедыю беларускага народа, хто прайшоў душой, разам з ім, галгофу мук яго, таго нішто не здзівіць, нават самае страшнае з жыцця беларуса. Не здзівіць таго, калі прачытае ў газетах звестку, што каля Вязыні ці ў Піншчыне выміраюць людзі ад тыфу, што ў Магілёўшчыне бацька зарэзаў

нялетак дзяцей сваіх, а пасля жонку і сябе, бо… не было чаго есці…

Не здзівіць таго і тое, калі даведаецца з газет, што параход павёз у Конга (апошнія весткі) 230 беларусоў-работнікаў, прададзеных калішскай эміграцкай канторай па 80 руб. за галаву, на немінучую смерць, бо клімату тамтэйшага не вытрымліваюць нават народы, праз доўгія пакаленні прывыкшыя да жары.

Не здзівіць такжа, калі пачуе, што перасяленцы з Магілёўшчыны і Міншчыны, загнаныя ў сібірскую тайгу, у 25 пасёлках, пагалоўна ўсе хворы і выміраюць (апошнія весткі).

Хто ведае варункі жыцця беларусаў і палітыку культуртрэгераў і апекуноў — нашых старшых «культурных бра- тоў», — каторая засуджае беларусаў на нацыянальную смерць, той, кажу, усяму гэтаму не здзівіцца. Бо гэта толькі выснавак, немінучы рэзультат зверху ўкартаванай палітыкі, каторая кажа: «Будзь тым або тым, але сабой быць не можаш».

Будзь маскалём, будзь палякам, але калі захочаш застацца беларусам — вымірай, станься «нячыстым», да смерці, «хамам».

Хто знае гэтую хамскую палітыку і філасофію нашых культурнікаў і нашых адступнікаў, той, паўтараю, нічому не здзівіцца, які б страшны факт ні сустрэціў з жыцця беларусаў.

Ці можа дзівіць свядомага беларуса факт, што яго браты сталіся таварам, каторы прадаецца па 80 руб. за галаву на бойню ў Конга? Не, бо гэта немінуча павінна стацца з народам, пастаўленым у такія варункі, як нашы.

Пад канец XIX сталецця ў Амерыцы была вайна з мільёншчыкамі-каланістамі, каторыя на ганьбу ўсяму культурнаму свету вялі торг людзьмі, гандлявалі нявольнікамі. Амерыканская вайна вызваліла чарнаскурых ад нявольніцтва, але іх месца занялі цяпер… беларусы!

Уцякаюць дабравольна беларусы ад братняй няволі к чужым, і прадаюць іх у няволю, на пэўную смерць, і я скажу — лягчэй моўча паміраць паміж чужых, у чужой няволі, як на магілах бацькоў сваіх, пад насмешкі і здзекі сваіх.

І плыве наш народ са сваёй зямлі, са сваіх хат, ад магіл бацькоў і прадзедаў на немінучую смерць, на чужыну.

Бо дома ён галодзен душой і целам, бо дома ён горш нявольніка асмеян і абяспраўен, бо дома ён «нячысты», нават для родных сыноў сваіх.

Каб зразумець вялікую народную трагедыю беларуса, трэба ўнікнуць у падсвядомую псіхалогію народа, трэба зразумець, што кожны бацька чакае з дня на дзень, калі яго сын або дачка

адзене «панскую» світку і скажа бацьку, што ён «нячысты» і каб не прыбліжаўся да іх бліжэй як на 10 крокаў!..

Крыўджаны, бяспраўны беларус не можа нават у сваёй мове пажаліцца Богу, бо мова яго «нячыстая» і выкінута з цэркваў і касцёлаў там, дзе крывёй яго і потам паліта зямелька.

І ці трэба дзівіцца, калі пачуеце, што бацька-беларус выразае нялетніх дзяцей сваіх і што людзі ўцякаюць са старонкі, дзе радзіліся?

*[1914]*

## ПА СВАІМ ШЛЯХУ!

Адзін з найцэннейшых скарбаў, які паасобны народ можа ўнесці ў агульналюдскую скарбніцу, гэта ёсць яго літаратура. Літаратура адбівае ў сабе душу народа, яго «трывожныя думы», яго «чулыя і хвалюючыя пачуцці», яго зразуменне «душу радуючай красы».

І мы, беларусы, унеслі ўжо нашу цэннасць у агульналюдскую скарбніцу, і мы ўжо не бясплоднае дрэва, каторае павінна быць высечана і спалена: мы ўжо далі плады.

Максім Багдановіч у «Каляднай пісанцы 1913 г.» пісаў, што нам, беларусам, цяпер ужо не трэба канечна шукаць дум і пачуванняў у чужынцаў, а што нават і чужынцы са старымі і багатымі літаратурамі могуць чагось і ў нас пашукаць, «бо іншы раз таго, што маем мы, не знойдзецца і ў іх».

І гэта сказана саўсім справядліва: у апошнія гады нашы пісьменнікі ўнеслі нямала цэннага ў беларускую літаратуру, але ўсё ж такі пакуль што наша літаратура не мае ўсясветнага значэння.

Хоць і з'яўляюцца час ад часу пераклады беларускіх літаратурных твораў на расейскую, украінскую, чэшскую, нямецкую і інш. мовы, але перакладаюць нашы творы дагэтуль не таму, што шукаюць у іх разгадак «на трывожачыя душу пытанні», а толькі дзеля таго, што ў гэтых творах адбіваецца наша нацыянальная душа і яе асобны характар, каторы цікавы чужынцам сваёй арыгінальнасцю.

Гэтага мала. Мы павінны даць свету болей! На нашых «навінах» павінна быць багатая ўрода. Мы павінны знайсці ў сябе і даць свету новыя думы, сказаць новае слова.

А калі мы скажам новае слова, калі мы тым, што па горах ходзяць і не бачаць сонца, пакажам яго, тады мы раз назаўсёды заваюем права называцца культурным народам, тады на край свету пралунае слава беларускага імені і да нас прыйдуць людзі шукаць новых пуцяводных зор, новых праўд.

Няхай хто-небудзь з нашых пісьменнікаў напіша хоць адну рэч, каторая бы паказвала новыя дарогі чалавечаству, і не будзе на свеце знаючага літары народа, каторы бы пасля гэтага, хто і што такое беларускі народ, не ведаў.

Усе агранічэння беларускай мовы, усякія сумненні што да права яе на развіццё і жыццё, як трэскі пад напорам вады, разляцеліся б.

Адзін геніяльны твор, напісаны па-беларуску, можа даць славу і пашану нашаму народу.

І мы павінны кіравацца да гэтага. Во гэты доўг мы маем перад сваім народам, каторы павінны сплаціць.

Чытаючы і перачытваючы беларускую літаратуру, знаходзім у ёй многа цэннага: і хвалюючыя думы, і далікатныя ды чулыя перажыванні, і цікавыя літаратурныя формы, але не знаходзім шукання новых праўд, новых дарог.

Ёсць хворыя, калекія тыпы, аджываючыя і аджыўшыя, але няма тыпу чалавека будучыні.

Праўда, што ў гэтым многа вінаваты ўплыў вялікіх суседскіх літаратур, як расейскай, так і польскай, з каторых вытхла вялікае, здаровае, уступаючы месца хвораму і калекаму.

Наша літаратура дагэтуль прадстаўляе ў мініяцюры свойскай масці адбіццё ідэалогіі гэтых вялікіх літаратур, і гэта брыдкі яе грэх. Мы павінны адкінуць благі ўплыў бульварнай і неўрастэнічнай суседскай літаратуры. Мы, народ малады і здаровы, павінны тварыць сваю асобную, дужую маладой сілай літаратуру будучыні.

Нашы пісьменнікі павінны выраблядь талент свой не на дэкадэншчыне, а на ўсясветнай класічнай літаратуры, павінны не толькі раскрываць раны свайго грамадзянства і паказваць яго калецтвы, але і шукаць чалавека будучыні, чалавека сільнага, здаровага: чалавека — цара прыроды.

Мы павінны шукаць і знайсці новы шлях і паказаць яго тым, што дагэтуль, па горах ходзячы, не бачаць сонца…

*[1914]*

## 350-ЛЕТНЯЯ ГАДАЎШЧЫНА ДРУКУ Ў МАСКОЎШЧЫНЕ

Роўна 350 гадоў таму назад 1 марца 1564 года была выпушчана з друкарні першая ў Маскоўшчыне друкаваная кніжка «Апостол».

Маскоўшчына была тады вельмі адсталай старонкай, і святлейшыя маскоўскія людзі бачылі гэта і стараліся, што маглі, рабіць, каб шырыць асвету. Найболей працаваў над асветай мітрапаліт Макарый[1]. Але цяжка было шырыць асвету без кніг, бо ў Маскоўшчыне тады не ўмелі яшчэ друкаваць кніг і ўсе кнігі перапісваліся рукой, дзеля гэтага кнігі былі дарагі дужа і іх было мала, бо не было граматных людзей. Вось мітрапаліт Макарый і пачаў угаварваць цара Івана Грознага залажыць у Маскве друкарню. Ён казаў: кнігі (духоўныя) маюць многа абмылак і іх трэба паправіць і трэба, хочучы, каб народ прасвячаўся, даць яму кнігі ў роднай мове. Цар ахвотна прыстаў на гэта і выпісаў з Галандыі немца-друкара. Але той заместа заняцца сваім дзелам пачаў займацца нагаварваннем маскоўцаў, а нават і самога цара на лютэранства. Само сабой, што маскоўцы пратурылі таго немца ды ізноў засталіся з адной добрай думкай мець друкаваныя кніжкі. Але як іх мець, калі ніхто ў Маскоўшчыне не ведаў друкарскага сакрэту. Тут станулі ў прыгодзе два прыяцелі Іван Фёдараў і Пётр, каторага прызывалі Мсціслаўцам[2], яны вызваліся сарганізаваць друкарню і наладзіць друкаванне кніжак. Маскоўцы ахвотна прысталі і пачалі будаваць Друкарскі дом (Печатный двор).

Прозвішча аднаго з прыяцеляў было Мсціславец, каторае паказвае, што ён родам беларус Магілёўскай губ. Але скуль жа Беларусь магла даць умелага друкара, калі не мела яго Маскоўшчына? Увесь сакрэт у тым, што Беларусь тады не была цёмнай старонкай. Друкарства ў Беларусь зайшло ў канцы XV сталецця. Фіёль[3] у 1491–1493 гаду друкаваў кнігі для Беларусі і Украйны ў Кракаве, а праз 23 гады полацкі жыхар Францішак Скарына друкаваў ужо «дзеля лепшага выразумення» Біблію па-беларуску ў Празе (1517), пасля ў Вільні (1525), і каля 1563 года ў Беларусі друкарская ўмеласць была ўжо рэччу саўсім звычайнай. Таму-то Мсціславец, апынуўшыся ў Маскве, мог вызвацца абарудаваць друкарню, бо ў сябе дома, на Беларусі, азнаёміўся з гэтым дзелам.

Але народ у Маскоўшчыне быў лішне цёмны яшчэ, і дзеля гэтага не паспелі выпусціць у свет першую кніжку, як падняўся бунт проці «чортавай выдумкі». Узбунтаваны народ напаў на Друкарскі дом, пабіў і папсаваў машыны, а друкары ўцяклі на

Беларусь, ратуючы сваё жыццё. Прытулак першыя маскоўскія друкары[4] знайшлі ў Заблудаве (Гродз[енскай]. губ.) у гетмана Хадкевіча і тут залажылі «Учительное евангелие» (1569)[5] на пекнай беларускай мове. Пасля Мсціславец пераехаў са сваёй друкарняй у Вільню. А Фёдараў знайшоў прыпынак на Украйне ў гор. Астрозе ў князя Канстанціна Астрожскага[6], дзе надрукаваў слаўную «Острожскую библию»[7].

Гэтак закончылася першая спроба даць друкаванае слова Маскоўшчыне. Нанова пачалі друк кніг у Маскоўшчыне толькі за цара Фёдара Аляксеевіча[8]. Цяпер вёў асветную працу ў Маскоўшчыне ўжо другі беларус — Сімяон Полацкі[9]. Сімяон Полацкі вядомы ў гісторыі маскоўскай асветы чалавек. Ён узгадоўваў царскіх дзяцей, быў прыдворным паэтам, радай і вучоным і ён падняў нанова думку, каб устроіць друкарню, і, маючы вялікае значэнне пры двары, яму гэта лёгка ўдалося зрабіць. Друкарскі дом быў нанова адбудаваны. Цяпер першай кнігай, надрукаванай у Маскоўшчыне, быў «Тестамент Васілія цара грэчаскага». А пасля «Псалтыр», перакладзеная Сімяонам Полацкім на вершы.

У 1705 годзе Пётр I[10] завёў гражданскі шрыфт. Не ведаем, ці памагаў яму які беларус, але першая кніга, гражданкай надрукаваная, называецца: «Прыклады, как пішутся копліменты».

Цяпер адна Масква штогод друкуе кніг на 15 мільёнаў рублёў, а ва ўсёй Расеі расейскіх кніг друкуецца ў год болей як на 80 мільёнаў руб.

А на Беларусі?

***1914***

## 10-ЛЕТНІ ЮБІЛЕЙ ЛІТОЎСКАГА ДРУКУ

Сёлета ўся Літва святкуе 10-летнюю гадаўшчыну легалізацыі літоўскага друку ў Расеі. Друкаваць па-літоўску кніжкі было забаронена ў 1865 годзе, і ад гэтага часу да 24 красавіка 1904 года ў Расеі не было надрукавана ніводнай кніжкі па-літоўску лацінскімі літарамі.

Лацінскія літары адыгралі відную ролю ў разбуджэнні літоўскай нацыянальнай свядомасці. Як вядома, літвіны прынялі хрысціянства праз Польшчу, а разам з хрысціянствам заходняга рымскага звычаю — праз тую ж Польшчу, — прынялі і лацінскія літары ў набожных і касцельных кніжках. Да 1865 года

ў літоўскай мове не было блізка ніякіх кніжак свецкага зместу: былі толькі кніжкі духоўныя, друкаваныя па-літоўску лацінскімі, а раней — так, як і ў палякаў, — гатыцкімі літарамі. У 1865 годзе, пасля польскага паўстання, адпушчана было з казны, дзеля абрусення літвіноў, 200 000 р. на друкаванне літоўскіх кніжак рускімі літарамі. З гэтага капіталу выдана было ўсяго толькі 40 000 р. на друкаванне катэхізмаў і малітвеннікаў літоўскіх рускімі літарамі, а рэшта капіталу асталася нявыкарыстаным. Малітвеннікі, катэхізмы раздаваліся дарма дзецям па школах і ўсім, хто хацеў, — але забарона выклікала ў літоўскім народзе нацыянальную свядомасць, і ён пачаў сам, як умеў, бараніцца. Раздаваныя дарма «новыя» літоўскія кніжкі сяляне палілі і дзецям забаранялі прыносіць іх дамоў. Старыя літоўскія кнігі, друкаваныя лацінскімі літарамі, хаваліся па хатах, як скарб, бо паліцыя адбірала іх, — і праз гэта набіралі яны цаны ў вачах літоўскага селяніна, і было штораз болей людзей, каторыя хацелі мець забароненыя «свае літоўскія малітвеннікі». За колькі гадоў пасля забароны ў той часці Літвы, што пад Прусіяй, у гор. Тыльжы пачалі друкаваць літоўскія малітвеннікі і іншыя кніжкі для расейскай Літвы. Друкарскія машыны выкідалі дзесяткі тысяч літоўскіх кніжак у Прусіі, і кніжкі гэтыя, кантрабандай, расходзіліся па ўсёй расейскай Літве. Каля 1900 года не было хаты ў Літве, дзе не было бы літоўскага забароненага малітвенніка. Бывалі здарэнні, што паліцыя перанімала на дарозе ў касцёл людзей, ператрасала іх і адбірала «нелегальныя малітвеннікі», бывала, што і абступала касцёл і на свентары адбірала. У канцы стала ясна і правіцельству, што забароны тут не памогуць, бо за граніцай з кожным годам множыліся друкі і часопісі і расходзіліся па ўсёй Літве. І вось за год перад абвяшчэннем маніфеста аб свабодах была знята забарона з літоўскіх друкаў. Літвінам было дазволена друкаваць, якімі самі яны захочуць, літарамі.

Такім парадкам сёлетняя гадаўшчына дазволу на лацінскія літары ў літоўскіх друках яўляецца разам і 50-летняй гадаўшчынай змагання за гэты друк і за адраджэнне Літвы.

За апошнія дзесяць гадоў літвіны ў Расеі здалелі выдаць каля 5 мільёнаў экземпляраў кніжак і сарганізаваць больш 25 газет. Апрача гэтага, забарона літоўскага друку прымусіла літвіноў вучыцца граматы пакрыёма, па хатах, і цяпер па граматнасці Ковенская губерня займае першае месца ў Расеі.

Сёлетняя 10-летняя гадаўшчына — гэта вялікае свята літоўскага народа, агляд пройдзенага, і гэты агляд сапраўды можа весяліць душу кожнага чалавека, а пагатоў таго лю- дзей,

каторыя самі па цагліне кідалі на гэты гмах. І гмах зарысаваўся вялікі, стройны і дадае веры ды сілы працаваць далей.

Мы, беларусы, ад усёй душы ў 10-летнюю гадаўшчыну літоўскага друку віншуем нашых суседзяў, жычучы ім і далей развівацца і будаваць будучыню сваёй бацькаўшчыны Літвы. Хай развіваецца і красуе літоўскі народ, яго літаратура і штукарства.

*1914*

## «ВАСІЛЬКІ»

Прадаўгавата чакалі «Васількі» Ядвігіна Ш. на бібліяграфічную зменку, але гэта таму, што ацаніць творчасць Ядвігіна Ш. не так лёгкая справа. А не лёгкая з той прычыны, што душа аўтара не цалíком адбілася ў яго творчасці, ды і сама творчасць выяўляе сабой пройдзеную за апошняе дзесяцілецце аўтарам дарогу.

Ядвігін Ш. належыць да пакалення свядомых беларусаў 1880–1890 гг., на ніве беларускай літаратуры першы раз выступіў, быўшы яшчэ студэнтам, як адзін з перакладчыкаў выданай у Маскве ў 1891 годзе кніжачкі «Сыгнал» (Гаршына). Ад гэтай пары Ядвігін Ш. не пераставаў цікавіцца беларушчынай. Яго апавяданні «У судзе», «Важная фіга» і не выдадзеная дагэтуль друкам (хоць іграная ў 1890 г. на сцэне) драма «Злодзей», пісаны задоўга перад выхадам у свет першых беларускіх газет. Нягледзя на гэта, мова ў гэтых творах у Ядвігіна Ш. выйшла дзіўна гібкая, жывая і літаратурная, а гэта азначае тое, што на долю аўтара выпала, аднаму з першых, церабіць першыя сцежкі не толькі праз сваю літаратурную творчасць, але яшчэ болей і як кіраўніка літаратурнага аддзелу ў 1909 г. ў «Нашай ніве». І з гэтага боку, з боку апрацавання мовы, творчасць Ядві- гіна Ш. стаіць на першым месцы.

У аглядзе беларускай пісьменнасці (Калядная пісанка. 1913) М. Б-віч[1] характарызуе Ядвігіна Ш. як чыстакроўнага баечніка. З гэтым паглядам я не магу згадзіцца. У яго творчасці я бачу два моманты: творчасць для масы і крык уласнай душы. Першае ў яго праяўляецца дзякуючы набытай сістэме думання, другое вырываецца само з грудзей.

Усім вядома, што светапагляд урабляецца ў людзей у маладыя гады лёгка і засядае пазней глыбока ў душы. Беларускі светапагляд Ядвігіна Ш. урабляўся ў 1880 і 1890 гадах, калі тагачасныя «свядомыя» беларусы не адрознівалі беларускай этнаграфіі

ад нацыянальнай справы. Патрыятызм тых дзеячаў быў, так сказаць, этнаграфічны. Яны цікавіліся беларускім народам, яго асобнасцямі, любілі гэты народ, ідэалізавалі яго, нават «ішлі ў народ», сабіралі песні народныя і смешныя апавяданні і анекдоты. Уся тагачасная беларускасць інтэлігенцыі выплывала з пачуцця, а не з ясна пастаўленых нацыянальных пастулатаў.

І вось рад апавяданняў Ядвігіна Ш. — «У судзе», «Важная фіга» («Васількі»), «Заморскі звер», «Пакыка», «З маленькім білецікам» (зборнік «Бярозка») і інш. даюць, так сказаць, сінтэзу пагляду свядомай беларускай інтэлігенцыі 1880–1890 гадоў. Побач з гэтым Ядвігін Ш. дае рад цікавых і дужа цэнных па тэме і апрацаванню народных казак і сатырычна-алегарычных апавяданняў. Ні ў гумарыстычных апавяданнях, ні ў казках-легендах, ні ў сатырыстычных алегорыях, каторыя, як слушна заўважыў М. Б—віч («Калядн. пiс.»), прыбліжаюць нашага аўтара да такіх пісьменннікаў, як Шчадрын[2] і Горкі[3] ў Расеі або Леманскі[4] ў Польшчы, — Ядвігін Ш. не праявіў сваёй глыбокай і трагічнай душы. Душа гэта праглянула праз апавяданні — «З бальнічнага жыцця», «Зарабляюць» і ў паэзіях прозай («Раны», «Васількі»). І то праглянула ў іх не ўся душа, ва ўсю глыб і шыр, а ўзварухнулася частачка яе.

Спадзяёмся, што аўтар збагаціць яшчэ беларускую літаратуру не адным хвалюючым душу «кавалкам з жыцця», каторае ён умее так добра адтварыць, калі «скалыхнецца сэрца». Па-мойму, аўтару такой меры, як Ядвігін Ш., грэшна не зачапіць болей глыбокіх струн душы беларускай, каторую ён так добра разумее і адчувае. У нас пакуль што няма ні добрай абшырнай повесці, ні гістарычных апавяданняў. Во дарога, якой павінен пайсці аўтар «Жывога нябожчыка», «Чортавай ласкі», «Дуба-дзядулі», — гэта ж прост прыклады, як трэба пісаць апавяданні.

Але варочаючыся да «Васількоў», трэба жычыць, каб гэта кніжачка як найшырэй пайшла. Чытач у ёй знойдзе і смяхотнае, і слёзнае, а перадусім цікава напісанае ў форме простай, яснай, усякаму даступнай з вывадаў мараллю ў канцы большай часці апавяданняў. Многа якія расказы былі даўно чаканы ў асобнай кніжцы, як, напр., «Суд» і «Важная фіга», каторыя сталі праз «Беларускі каляндар» вядомы ўжо дагэтуль па ўсёй немаль Беларусі.

Кніжачка выдана сціпла, прыгожа, мае 120 страніц, а каштуе танна: усяго 30 кап.

*1914*

## ХЛЕБАРОБСТВА НА БЕЛАРУСІ Ў ДАЎНЫЯ ЧАСЫ

Найдаўнейшыя ведамасці аб хлебаробстве на Беларусі — аднасячыеся да сярэдзіны XVI сталецця,—знаходзім у летапісца Аляксандра Гвагніна, у яго Кроніцы ў кнізе III[1]. Найперш, піша Гвагнін, раллю вырабляюць такім спосабам: каля свят Пятра і Паўла[2] лясы і хвараснікі цярэблюць, месцы расцярэбленыя зазвычай «лядамі» называюць. Калі настане вясна, зара пасля Вялікадня, выцерабкі падпаляюць. І на той выпаленай зямлі сеюць пшаніцу, зверху толькі яе пабаранаваўшы. Гэтак там, піша Гвагнін, і ячмень сеюць, толькі што драбнейшыя лясы пад ячмень выбіраюць і лепшыя землі. А на гэткім лядзе падрад 6, а часам 8 гадоў сеюць без ніякіх гнаёў.

Жыта ж сеюць на зіму, на гэткіх самых землях, пажаўшы спярша пшаніцу ці ячмень, — толькі на жыта два разы зямлю плугам пераворваюць. Сеяць пачынаюць каля першай Прачыстай (15 жніўня) і сеюць да другой Прачыстай (8 верасня). Жыта сеюць азімае і ярае. Апрача гэтага спосабу сеяння, сеюць яшчэ і другім спосабам: на выпаленым лядзе сеюць зярно вясной, узяўшы дзве часці ячменю і адну часць жыта. Даспеўшы ячмень гэтага ж года пажынаюць, а жыта ў іржышчы пакідаюць да другога года. На ўраджайны год бывае такое жыта, што на каню чуць праз гушчэчу тую пераехаць можна і з аднаго зерня бывае часам трыццаць і болей каласоў.

«А ўсе землі руснякі аруць, зазвычай упрагаючы аднаго каня ў плуг, бо зямля сама па сабе тучная і мяккая там». Як відаць з гэтага апісання, у палавіне XVI сталецця ў нас вялася найболей лядовая гаспадарка. Сеялі на свежых выпаленых лядах 6–8 гадоў падрад, не гноячы, а пасля зямлю закідалі пад сенажаць ці пад лес і вырубалі новае ляда. Аднак лядовая гаспадарка не была выключнай формай гаспадарання, з рэвізорскіх рэестраў даведваемся, што землі дзяліліся на 4 гатункі, а Статут літоўскі ўспамінае аб ураджаях на гнойнай зямлі і на простаполлі (зямлі без гною).

Аралі сохамі, баранавалі смыкамі, каторыя рабілі з сучыстых яловых планак. Збожжа складалі ў гумнах, каторыя называлі тады «грыднямі» і «еўнямі», вымалачанае зярно ссыпалі ў «засекі» па клецях або па лясах у сухія ямы, вылажаныя ўсярэдзіне бяростай. Калёсы рабілі, не ўжываючы ніводнага жалезнага цвіка, суздром дзераўляныя, і ніколі кол не мазалі. Перад малацьбой збожжа, як і цяпер, сушылі ў асецях.

«Пры ўсіх хлебаробскіх работах народ на Беларусі мае звычай спяваць, прычым кабеты пачынаюць песні», — адмячае Гвагнін.

Статут літоўскі 1588 года аблічае ўраджай з марга[3] літоўскага* на гнаю: пшаніцы — 6 коп[4], жыта — 5 коп, ячменю — 6 коп, аўса — 4 капы. Жыта на простаполлю (без гною) — 3 капы з марга. Капа жыта выдавала, меней-болей 1 бочку**[5].

Зямлю пры рэвізорскай ацэнцы 1557 г. дзялілі на чатыры гатункі: валоку зямлі першага гатунку цанілі 21 грош***, валоку сярэдняй зямлі — 8 грошы і валоку пяскоў — 6 грошы.

Збожжа цанілі паводле расцэнкі таго ж Статуту літоўскага 1588 г.: жыта і пшаніцы капа — 20 грошы, а бочка жыта —24 грошы, ячменю капа — 10 грошы, аўса капа — 8 грошы, гароху капа — 10 грошы, грэчкі капа — 8 грошы, бобу капа — 8 грошы.

Дзень рабочы чалавека з канём у каралеўшчынах цаніўся 5 грошы; пешы рабочы дзень — 2 грошы. Дзень рабочы ў дварах шляхоцкіх чалавека з канём — 3 грошы, а пешы рабочы дзень $1^1/2$ грошы.

Паншчына з валокі была ў тым часе ў маетнасцях каралевы Боны[6], 2 дні ў тыдзень з канём ці пеша (як загадаюць) і за землі першага гатунку чыншу 20 грошы і бочку жыта ці замест жыта 10 грошы, аўса 2 салянкі[7] або замест аўса 10 грошы. За сярэднія землі апрача паншчыны даплачвалі чыншу 15 грошы і па салянцы жыта і аўса, за землі горшыя чынш 12 грошы і салянку жыта. Апрача гэтага, селянін з валокі павінен быў адбываць талаку: 6 дзён з упражкай, старожу і даваць чародныя фурманкі.

*[1914]*

---

* Морг літоўскі — 1/30 часць увалокі (валокі), меў у сабе 1564 кв. расейск. сажні, 164 кв. фут., 94 кв. дюйм і 33,6 кв; лін.

** Віленская бочка тоўпіла ў сабе 4 карцы, карэц павінен быў поўніць 6080 парыжскіх кубічн. дзюймаў. У пераводзе на расейскую меру бочка раўнялася 17,5588 расейскім чацверыкам.

*** Літоўская грыўня таго часу мела ў сабе 43,18 грамаў серабра, у пераводзе на цяперашнія расейскія грошы раўнялася 2 р. 40 кап. Грыўня дзялілася на 60 (капу) грошай шырокіх, з каторых кожны меў у сабе 12 грошы малых, або шэлегаў, або на цяперашні лік грош раўняўся 4 капейкам.

## М. ГАРЭЦКІ. РУНЬ

*Вільня, 1914 г., выданне «Беларускага Выдавецкага Таварыства» ў Вільні*

«Рунь» — гэта не зборнік апавяданняў мляўка-стагнальных і не скалазубства з вяскоўца, з яго мазалёў і цемнаты, гэта першы ў нашай літаратуры паэмат-трагедыя Маладой Беларусі. Першы голас беларускай, маладой, набалеўшай душы «на ўвесь свет, на Белу Русь». «Не паўсяднеўнае айканне і не салодзенька-кіслае стагнанне няшчырых людзей…» Не. Гарэцкі прамаўляе «як маючый сілу». Як сын народа…

Ён малюе трагедыю і боль душы Маладой Беларусі не паверхнасна, а заглядае ўглыб, пад карэнне.

Ці то ў апавяданні «У лазні», малюючы Кліма Шамоўскага, каторы з «Геадэзіей» Біка і з «Песнямі жальбы» Якуба Коласа апостольствуе ў роднай вёсцы, ці то ў апавяданні «Рунь», даючы адрыўкі думак Уладзіміра, ці то аналізуючы родныя карані ў душы студэнта Архіпа Лінкевіча, ці дабіваючыся адказу на «балюча таемныя пытанні» ў абразках «Што яно?», заўсёды бярэ самую тоўшчу і ўнікае ў самую глыб душы.

Во перад намі Клім Шамоўскі, вучань, каторы прыехаў пагасціць на Каляды ў родную вёску. Ён яшчэ нядаўна вылецеў з роднага гнязда, яшчэ не парваны ніці, звязуючыя яго з сям'ёй і вёскай, а ўжо… зараджаецца трагедыя. Ужо спахмурнеў Клім, бо Кліму было непрытульна ў роднай хаце, бо ён «вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, а яны кожны вечар, кожна свята гуляюць у карты ў Мікітавай хаце, а на яго кніжкі не звярнулі ніякай увагі… Шчэ казалі, — разумцы! — што «некалі ім займацца панскім дзелам…» «І што ні ступнеш — чуеш дурацкае «запанеў, запанеў». А «ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб «заграбаць» грошы, ён іншы, ён жа не чураецца вёскі, любіць яе і шануіць, як родны сын, ён хоча кіравацца ўсімі сіламі, каб бачыць яе цвярозай, светлай, здаволенай жыццём ды сумленнай; ён «запанеў», але зусім не так, як думаіць Мікіта…» «І лацвей ім, — думае Клім далей, — страляць у вочы «запанеў», ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы ў мяне, прымакі ў «панстве» і пасынка вёскі… «

Пасля гэтай завязі пачынае расці і буяць у душы «прымацтва» ў панстве і «пасынкоўства» ў вёсцы. Пачынаецца глыбокая барацьба на раздарожжы: «Ад маткі ў песнях, у казках, у слёзах, у стагнанні; ад бацькі ў рабскай маўклівасці, у злых

славах, у кляцьбе дзяцёнак убірае ў душу ненавісць і страшэнную імсцівасць да паноў…» А пасля ён вырастае, «выходзіць у людзі», становіцца сам «панам». І во Уладзімір, «выйшаўшы ў людзі», злюбіўшыся з Ядзяй, ядыным адросткам старасвецкага беларускага магната, і Уладзімір, чалавек з шырокім кругазорам і сільнай душой, у запісках сваіх «Да самога сябе» сумуе — жаліцца перад сабой: «Ты баішся, каб не даведаліся людзі аб думках маленства твайго. Ты пішаш толькі «да самога сябе». Крый Божа, даведаюцца «інтэлігенты», што на душы ў цябе! Стыдненька табе! Стыдненька, што ўкрыдне ўночы конікаў вадзіў у панскі лес. Стыдненька, што пакляўся, як вырасцеш, звясці са свету аб'езчыка за тое, што не толькі садраў у ляску хустку ў маткі твае за ягады, але і бізуном даў і гідкім, страшным словам зняважыў яе пры табе, дзяцёнку сінявокім…»

Перажываючы гэткую трагедыю душы найчасцей, даўней сын вёскі «агалцеіць, закруціца ў вадаверці гарадской, і ўжо — ані блізка! мужыка чураецца, хоць і мучаецца, пэўне, каторы. А дзеткі яго ўжо карэння нашага роднага ні маюць у сабе…»

Якія ж гэта карэнні?

Гэта спадчына па дзядох-прадзедах, каторыя «каля асінавага пня богу Дуплінскаму-Ільінскаму маліліся» і шукалі адказу на «праклятыя пытанні»…

І то дзіва: няхай бы людзі далікатныя, чуткія, не запрацаваныя цяжкой працай, няхай бы яны гібелі ад гэтай мукі, дык не, дык жа народ просты, каторага лаюць «цёмным», чаго ён, гэты шэры, аднатонны народ, па глухіх кутках, у лясах сваіх, сярод балот і пнёў, чаму ён мучыўся і мучыцца ад той жа болькі?

Чаму дзяўчынка, стануўшы над магілкай любага дзецюка, мучыць сваю душу пытаннем: «Як жа гэта, невядомы Навышні? Як яно? Жыў, хадзіў, любіў… Пакінуў, памёр, няма духу, няма яго… Косткі, чэрап, попел».

Чаму бацька дачкі-лунатычкі, сам у маленстве лунатык, з ускалмачанаю, уверх задзёртаю хвораю галавою меціцца са стрэльбы ў месяц, — пачуваючы ў душы сваёй «месічнасць» і нешта маўчліва-незразумелае, што лезіць у душу, — кліча ў неба: «Што там? Горы сцені, ці Каін з вядром густа-цёртай, запечанай крыві Авеля? Што там?»

Чаму застыгаючый у мяцельную ноч старац-жабрак не можа забыцца генерала, каторага бачыў, як служыў «чалавекам» у распусным доме? Ён ужо аб усім забыўся… Лапці, раматуз, старэцкая торба… Толькі адно ўелася ў памяці: таўсты сівы генерал сярод бутэлек, сярод дзевак сядзеў і жудасна плакаў…

Чаму таемныя пытанні раз'ядаюць душу беларускую ад сільнага селяніна Янкі, каторы над «чорнай кнігай», вызываючы нячыстую сілу, перагарае душой, ад дурнога, каторы, «ідучы за гумнамі, за гародамі, па дарозе, кладзець крыжы на абодва бакі; ксціць і поле, і бярозу, і сіня-залатога жука, і мятлушку нейкую, і жаўну», да пані Іванецкае, каторая ездзіць парай вараных коней і каторая, згледзеўшы дурнога, просіць яго, каб ён благаславіў яе?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Рунь М. Гарэцкага, гэта вялікі ўклад у беларускую літаратуру, як па глыбіні і багаццю думак, так і красе мовы, каторую аўтар умее гэтак прыкрасіць магілёўскімі правінцыяналізмамі і падборам слоў для выражэння сваёй думкі.

*1914*

## ТАРАС ГУШЧА. РОДНЫЯ З'ЯВЫ

*Вільня, 1914 г., выданне «Беларускага Выдавецкага Таварыства» ў Вільні*

«Прозы, прозы добрай, мастацкай прозы беларускай дайце нам!» «Каб на стале ў нас, каля тоўстай кніжкі вершаў «Шляхам жыцця» ляжала б не цянейшая кніжка прыгожай прозы…»

Гэтак неспаўна год таму ташнаваў-маліўся М. Гарэцкі ў «Велікоднай пісанцы на 1914 г.». І яго жаданне збылося: побач мастацкіх вершаў Янкі Купалы, сабраных у тоўстую кніжку «Шляхам жыцця», ужо цяпер беларус можа палажыць на стале тоўсты том мастацкай прозы — гэта зборнік апавяданняў Тараса Гушчы «Родныя з'явы».

І не толькі палажыць, але і сказаць свету, што ў нашай маладзенькай літаратуры ёсць ужо нямала свайго, непазычанага, нямала прыгажосці, узятай з родных ніў і сяліб, з абшараў палёў і з нетр лясоў, і з душы беларускай, такой багатай, як у маркотнасці, так і ў вясёласці, і такой глыбокай у думе…

Недарма ж Беларусь была крыніцай рамантызму польскага і калыскай польскага рыцарства… Хадкевічы, Сапегі, Радзівілы, Чарнецкія колісь паўставалі з разлогаў зямлі беларускай і на саколіх крыллях гусарскіх услаўлялі свае імёны і… чужынцаў. Паўставалі і прарокі слова, а імя ім — легіён, і ішлі… ішлі ад нас.

Чэсць ім, пабітым у імя Ваала[1], чэсць ім, што не змарнавалі таленту, закапаўшы ў зямлю, чэсць ім і апраўданне, бо яны не зналі імені Бога свайго, каторы іх завёў у палонне вавілонскае.

Чэсць, бо доля наша —акрадзеная на раздарожжы доля — набірала ў сябе безбярэжнае мора слёз, бязмер болю і яд сатыры, каторы голас меўся стацца голасам арханельскай трубы, маючай сілу ўваскрашаць пабітых духам.

О, душа беларуская! Благаслаўляй балючую і слёзную сваю мінуўшчыну, благаслаўляй церні і дубцы, каторыя ўбічавалі цябе, благаслаўляй тых, каторыя выдалі і асудзілі на смерць цябе!

Бо ты смерцю смерць пабіваць імеш…

Бо ты цяпер носіш у сабе бясцэнную перлу, каторая толькі з болю, з цярпення родзіцца…

І дужаючыся, пабіваючы смерць, ты дасі яе свету…

Скарбаў у табе скрытых не зліча аж той, «хто зоры злічыў!»[2].

А знакі таго чулае вока пабачыць на зямлі і небе, і ў пошуме бору, і ў шэптанні таёмна збожжым зелля на капцах-валатоўках, там дзесь у гушчэчы, у пустэчы, дзе зямля з небам гавора, ды ў сумных думах гуслярных, ды ў гудзьбе свадзебнай, ды ў гульні вясельнай, ды за мужаваннем мужоў статочных, спаважных… А ўсе тыя знакі, праўда, не «поўнымі формамі», а «як у дзяўчынкі маладзенькай», адбіваюцца ў нашай літаратуры. А кожны пісьменнік, як пчолка Божа ў вулейчык, зносіць у родную пісьменнасць мёд душы сваёй і воск дум сваіх, і гэтага ў нас, дзякаваць Богу, усё болей і болей, рой наш павялічваецца, і гранкі вузы белай напаўняюцца залацістым мёдам.

Адзін, як, напр. М. Гарэцкі, уносіць у родны вулей глыбокія думы, містычна-таёмныя, пытанні глыбокія, іншы песні агністыя — палкія, а іншы спякоту ўпальную летнюю, смех дзявочы звонкі, кепкаванне падуфалае дзядзькі ці цёткі з няўдалага дзецюка ці сварлівых братоў-раздзельнікаў. І з гэтай разнароднасці пачуванняў-перажыванняў мала-памалу ў нашай літаратуры набіраецца поўная гама ўсіх тонаў і пераліваў жыцця душы беларускай.

Творыцца працікавая і прапрыгожая ды новая літаратура беларуская, каторая мае сказаць сваё вялікае слова свету ўсяму і Белай Русі…

Творы Тараса Гушчы ў нашай пісьменнасці займаюць пачэснае месца і лішне вядомы з найлепшага боку шырокім кругам чытаючага і жывога беларускага грамадзянства праз тое, што аўтар адзін з першых выйшаў на ніву родную, каб сеяць зярно добрае. Працаваў ён ад першага клічу аб адраджэнні Беларусі, не як найміт і не дзеля заплаты, але як сын гаспадара ў вінніцы сваёй, і за гэта належыцца яму падзяка і чэсць ад добрых людзей, і ад бацькоўскіх касцей, і ад напатом будучых вякоў.

З чым жа ішоў ён да родных ніў і сяліб і што прыносіў пад струпехлыя стрэхі старэнькіх, бядненькіх хатак беларускіх? «Спытайцеся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра думкі мае. Мае думкі напісаны слязьмі, а слёзы разам з думкамі разліліся ў рэчцы. Вецер — пясняр мой…» — адказвае сам аўтар за сябе. І во, са смехам скрозь слёзы ішоў аўтар пад саламяныя стрэхі. Смех і слёзы чуваць у «Родных з'явах» у кожным апавяданні… Смех і слёзы! Смешныя, а такія праўдзівыя здарэнні малюе аўтар адно за адным, але па-за гэтым смехам чуваць горкія, набалеўшыя ў душы слёзы за нашу цяжкую долю — «Думкі ў дарозе», «Казкі жыцця», «Дудар»; за наша няўмецтва — «Выбар старшыны»; за наша паніжэнне — «Зло не заўсёды злом»; за тандэту духа і за мораныя цяжкімі варункамі жыцця душы і сэрцы людзей — «Дзеравеншчына», «З днеўніка пана Жалака» і інш.

А колькі ж праўдзівай праўды псіхалагічнай у творах Т.Гушчы, і як ён умее схапіць яе! Як дзіўна-праўдзіва схоплены перажыванні Сцяпана ў «Старых падрызніках», каторага высокія парыванні душы былі зусім паніжаны жыццёвай практыкай, або тыпы ў апавяданнях «Недаступны», «Знайшлі», «Выстагнаўся» ды інш. !..

А колькі сонца, жыцця!

Сапраўды багата душа беларускага народа, калі можа выдаць з сябе такія таленты… Вяліка будучыня народа, каторы ў досвітках свайго адраджэння кідае такія перлы!

А Тарас Гушча не сказаў яшчэ свайго апошняга слова; яго талент з кожным годам набірае большага напружання і большай развітасці ў вясёлкавых пералівах гумару і ў зіхаценні чыстых слёз, каторымі перасыпае гумар. Трэба спадзявацца, што імя Т. Гушчы з часам будзе вядома далёка па-за межамі нашымі, услаўляючы імя беларускае, яно пойдзе далёка па свету, бо ў творчасці Гушчы апрача фактычнай смешнай стараны скрыта глыбіня думкі, падобна як гэта бачым у ўкраінскага пісьменніка Стэфаніка[3], да каторага месцамі аўтар набліжаецца, — ды ў расейскага пісьменніка Чэхава[4]. Але Т. Г. не патурае ім, а творыць сваё, творыць новую цэннасць, выснаваную з характару душы беларускай.

Канчаючы агляд гэты, варочаюся і яшчэ раз благаслаўляю слёзную нашу мінуўшчыну, у каторай, як у горне, перапалялася душа беларуская, каб заіскрыцца на сонцы, калі дух народа ўваскрэсне.

*1914*

## З-ПАД ПРАХУ ВЯКОЎ

У нашай беларускай мове, як, можа, нідзе ні ў якой іншай, багата слоў такіх, каторыя па тысячы і болей гадоў пратрывалі і дажылі да нашых часоў. Толькі ж словы гэты хоць дажылі, але праз доўгія сталецці сталіся незразумелымі нам: слова асталася, але тыя, каторыя гаварылі і разумелі, сышлі пад зямельку, і слова сталася для нас нямым. Каб уразумець змест слова, трэба многа з усіх канцоў Беларусі сабраць аб ім вестак. Не адно з такіх слоў прыкрывае сабой цэлы свет пра цікавых паняццяў. Ажывіць гэтыя словы і зразумець іх значэнне яшчэ можна, абы толькі кожны з вас патрудзіўся дзеля добрай справы і ўсё, што можа даведацца аб гэта ад старых людзей, пастараўся запісаць.

Словы, каторых значэння я дашуківаюся, такія: багач, варапай, волат, Кашчэй, Наўскі вялікдзень, Стаўры, Ярэц.

*Багач*. Слова «багач» дужа старое, азначае агонь, гарачыя вугалі. Ці ўжываюць у вас гэтага слова? У якім значэнні? Ці не расказваецца ў казках або ці не пяецца ў песнях аб багачу, як аб жывой асобе?

*Варапай*. Гэтае слова сустракаецца ў вясельных песнях, пяецца: « Ах ты, караваю-варапаю!» На Падзвінні расказваюць людзі, што Варапай — гэта такое стварэнне, на хрыбце каторага трымаецца зямля. Падобен ён да варапоўкі (жабы, рапухі), але з заросшыма вачыма.

Ці ёсць каля вас падобная легенда? Што разумеюць пад словам «Варапай»? Чаму каравай называюць Варапаем? На чым — калі расказваюць у вас — трымаецца зямля?

*Волат*. Валатоўкамі многа дзе на Беларусі называюць курганы-магілы (магілы волатаў). Расказваюць людзі, што жыло калісь на свеце племя дужа вялікіх людзей, так вялікіх, што цяперашні чалавек перад волатам выглядаў, як мурашка перад цяперашнім чалавекам. Пачалі малець людзі ад таго, што сталі есці варанае. Адзін раз дзеўка валатоў ішла полем і ўбачыла звычайнага чалавека, што араў валамі, яна ўзяла таго чалавека разам з плугам і валамі на далонь, прынесла да свайго бацькі і кажа:

— Ці бачыў, ты, тата, якая смешная мурашка ў мяне на руцэ?

А бацька ёй кажа:

— Не, дзеўка, гэта не мурашка, а які ж чалавек, як і мы, толькі маленькі. Калісь усе людзі будуць такія, а перад канцом свету яшчэ болей паменшаюць: будуць усемярых аднаго пеўня рэзаць.

Ці называюць у вас курганы валатоўкамі, а калі не, то як? Ці ёсць якія расказы і казкі аб волатах, аб касцях іхніх ды інш.

*Кашчэй*. Слова гэтае вядомае ў старой пісьменнасці (ад XII в.), азначала калісь — раб, нявольнік, цяпер сустрачаецца ў казках. Што разумеюць у вас пад гэтым словам?

*Наўскі вялікдзень*. Навій па-славянску знача — нябожчык. Наўскім, нашскім, наскім вялікаднем называюць вясеннія памінкі па дзядах, — у адным месцы Радаўніцу, у другім Сёмуху. Ці спраўляюць у вас вясной памінкі і як іх называюць? Калі Наўскі вялікдзень — на Радаўніцу ці на Сёмуху?

*Стаўры*. Каля Дзвіны і Бярэзіны ў першай палавіне XIX ст. сваткавалі перад Сёмухай Стаўроўскія дзяды. У часе вячэры на гэтых Дзядах гаспадар, узяўшы ў руку місу з куццёй, кланяўся на покуць і тры разы казаў: «Стаўры, Гаўры, гам, прыходзьце к нам».

Ёсць казка, у каторай расказваецца, што былі ў аднаго князя два сабакі — Стаўры і Гаўры, каторых ён любіў дужа, а калі яны адзін па адным акалелі, то князь той загадаў спраўляць па іх штогоду памінкі. Казка гэта, як з усяго відаць, зложана ў пазнейшыя часы хрысціянскім духавенствам, каторае змагалася з перажыткамі даўняй паганскай веры. Гэтак паганскія багі пад уплывам хрысціянскага духавенства ператварыліся ў «бесаў», а дзяды-пагане — у «псоў».

Слова «Стаўры» прыкрывае сабой багаты змест. Дзеля большага выяснення, кудой ісці ў шуканні, дадам, што ў старадаўныя, паганскія часы былі вядомы ў нас імёны людзей: Ставер, Стаўро, Ставр, гэтае апошняе імя меў адзін з наўгародскіх сотнікаў каля 1118 г.

Адзін селянін з-пад Дзісны тлумачыў мне, што «Стаўры — гэта былі такія людзі — да паяса чалавек, а ад паяса конь». Ці святкуюцца ў вас Стаўроўскія (кажуць яшчэ Старарускія) дзяды і калі? Ці ёсць якія расказы, звязаныя з гэтым іменем?

*Ярэц*. Старое названне месяца мая. Ці называюць цяпер гэтак гэты месяц? Што разумеюць пад гэтым словам?

*Увага*. Запісваючы адказы, трэба найбольшую звяртаць увагу на міфалагічную старану адказаў. Адказы прашу прысылаць на такі адрас: Вільня, Завальная, № 7, «Беларуская кнігарня». Для В. Л.

*1914*

## КАЛЯДЫ

Ва ўсіх паганскіх народаў сонца, месяц, зямля, агонь, вада, вецер і розныя іншыя праявы прыроды мелі чэсць Божу. Аднак жа сонца і месяц лічылі за глаўных багоў, называлі іх у розных старонках розна, кожны народ у сваёй мове. Грэкі называлі бога сонца Геліосам, славяне — Перуном і т.п. Але ва ўсіх паганскіх верах думалі, што сонца — бог святла, ваюе вечна з богам цемні. Змаганне гэтае кожнага года мела той самы выгляд: пад восень бог цемні перамагаў сонца, яно хавалася на даўжэйшы час, ноч станавілася штораз большай, знача, штораз болей расшыралася панаванне бога цемні, чарнабога. Але бог сонца, бог дабра, светласці, абараняўся, і ў канцы снежня сонца пачынае дужэць, дзень прыбываць.

Колісь нашы прашчуры верылі так. Чарнабог перамагаў сонца — меней-болей у час Змітроўскіх цяперашніх дзядоў, — сонца траціла сілу, малела, кідала бледны блеск на зямлю, пачыналася панаванне чарнабога — сцюжа, цемня, свіст і завыванне вятроў сцюдзёных…

«Хто ведае, — думаў наш прашчур, — мо сонца саўсім замрэ, а тады на зямлі настане бесканечная ноч, смерць і заглада[1] ўсяму жывому».

Але от сонца пачынае прыбываць, у сэрца ўступае надзея, што сонца ізноў акрэпне, ізноў зазелянеюць і поле, і лес, настане на зямлі жыццё, і гоман, і песні… Як жа не радавацца з гэтага? І радаваліся людзі, і пялі песні, і стараліся растлумачыць сабе, як і чаму гэта сталася? Тлумачылі сабе пагане-славяне, што маці сонца, Каляда-Грамавіца, выбавіла ад смерці сонца, адрадзіўшы яго нанова. Яна, каб уратаваць сонца ад чарнабога, прыняла яго ў нутро сваё, а каб змыліць ворага, перакінулася сама белай казой і радзіла маладое сонца. Яно цяпер маладое, бледнае яшчэ, але чарнабог паконан, ён сонца маладога не здужае перамагчы, і хоць не адразу ўступае яму, але сонца, падрастаючы, зганяе з зямлі сцюжу і цемру, у чэрвені само сонца святкуе перамогу сваю над чарнабогам, іграючы, ці, бач, скачучы, перад усходам на Купалле.

Не дзіва, што людзі цешыліся з перамогі яснага сонейка. У персаў даўней у час нашых Каляд святкавалі Мігргаў — свята нарадзін сонца. У часе гэтага свята ўстрайваліся гульні, людзі віншавалі сябе, давалі падаркі. У індусаў святкуюць, як і ў нас, свята перамогі сонца пад названнем Каляды. Там, у Індыі, людзі расказваюць, што на куццю ў Божым палацы расквітаюць дрэвы з залатымі лісцямі, а на ложку, пакрытым кветкамі, родзіцца сонца.

Калі ж спрадвечная праўда — Сын Божы радзіўся, прастарыя звычаі і абычаі прыбралі іншы характар. Са старых апісанняў ведаем, што ў першыя вякі хрысціянства ў нас, пры дварах князёўскіх, адбываліся гульні і ігрышчы на Каляды. Хадзілі скамарохі з мядзведзямі, вадзілі «казу» — пераадзетага хлопца ў кажух, з казінай галоўкай на кісялёўцы, — і ў песнях апявалі, як Грамавіца радзіла сонца. Устрайвалі маскарады, ці, як цяпер кажуць нашы сяляне, «пераадзяваліся за цыганоў», і многа іншага. Пры віленскім каралеўскім двары на Каляды зазвычай выпушчалі шэсць людзей з турам, кароль раздаваў падаркі, устрайваліся на рынках публічныя прадстаўленні і інш., павіншаванні песнямі (шчадроўкі).

Так было даўней, за дзядоў і прадзедаў нашых… Шмат чаго дахавалася з гэтых звычаяў і да цяперашняга часу, але, бадай, яшчэ болей загінула, сплыло з людской памяці.

«Шчаслівы той чалавек, каторы вясёлы», — сказаў адзін мудрэц. А нашы дзяды-прадзеды ўмелі быць вясёлымі, умелі цешыцца з жыцця! І вось як падумаеш, колькі на гэтыя святкі было даўней гоману, смеху, вясёласці, — шкада робіцца, што ўбыло ў нас цяпер шчасця, што мы ўжо не патрапім так весяліцца…

Да таго год сёлетні цяжкі!.. Не ў адной сямейцы на пачэсным месцы, на покуці, будзе пустое месца і на вачах маці і жонкі закруцяцца слёзы па дарагім сыне ці мужу, каторы ў далёкай старонцы, здалёк ад сямейкі, сустрэне гэтае вясёлае свята. Не плачце, гаротныя! Дасць Бог, дачакаемся другіх святак, вясялейшых. Судзі толькі, Божа, дачакацца іх у добрым здароўі, у памыснасці… Судзі, Божа, мінуцца толькі навале, каторая хмарай аблажыла старонку, каб змоўклі гарматы, уціхлі стогны калек, абсохлі слёзы смутлівых матак.

***1914***

## ЯКОГА МЫ РОДУ-ПЛЕМЕНІ

Беларускі народ здавён-даўна займаў тыя самыя землі, дзе і па сягонняшні дзень чуваць беларуская мова. Землі гэтыя ляжаць па вярхоўях рэк Дзвіны, Дняпра і Волгі, па рэках Прыпяці, Сожу, Нёману ды па сярэдняй часці Дзвіны і Дняпра.

У найдаўнейшыя часы народ тут жыў аднаго племені, гаварыў адной моваю, меў адзінакавыя звычаі і абычаі. Пазней, можа, у якім V–VI сталецці па нараджэнню Хрыста, пачала з'яўляцца

ў нашых прашчураў гасударственная арганізацыя, але гасударства не захаплівала ўсіх старон жыцця, і яно аграгічвалася да арганізацыі толькі ваенных сіл дзеля абароны ад чужынцаў.

Прашчуры нашы жылі паасобнымі сялібамі — *гасподамі*, здалёк адзін ад другога, і кожная гаспода мела свайго *гаспадара* ці, як цяпер кажуць, сям’ю. Дружынай-сям’ёй кіраваў гаспадар, муж, старац. Супольнымі справамі грамады сяліб — гаспод — камандавала рада — веча мужоў, старцоў.

На гэтым, мабыць, і канчалася родавая арганізацыя, а далей паверх родавай арганізацыі быў горад. Горад — гэта сяліба, абгароджаная тынам і абкапаная равамі, каб у небяспечную пару можна было схавацца ад ворагаў. Гэткія гарады ставілі сабе суседнія сёлы і паадзінокія сільнейшыя роды. Некаторыя з такіх гарадоў бывалі сільнейшыя і большыя, і яны мала-памалу набіралі значэнне і сілу, каля іх штораз болей гуртавалася людзей у ваенны час, а ў спакойны час большае чысло рук супольнымі сіламі ўзмацоўвала і падтрымлівала яго. Каля такіх вялікшых гарадоў мала-памалу тварылася гасударственная арганізацыя, з выбарнымі князямі — начальнікамі ваеннай сілы акругі. Само сабой, што той род, у каторага быў такі сільнейшы горад, набіраў штораз большага значэння і ад яго імені часта-густа называўся не толькі горад, але і ўся акруга, цягнучая ад данага горада.

Наш народ на гэтай зямлі, дзе мы цяпер жывём, жыве дужа даўно. Ёсць аснова думаць, што народ наш жыў на гэтай самай зямлі за многа сотак лет да нараджэння Хрыста.

Першыя моманты гісторыі застаюць наш народ ужо зарганізаваны ў княжствы з багатымі, людным гарадамі, з князямі і княжымі ваеннымі дружынамі. У гэты час на Беларусі асабліва відную ролю іграюць тры беларускія племені: дрыгвічы, крывічы і радзімічы.

*Дрыгвічы* займалі зямлю паміж рэкамі Прыпяццю і Зах[одняй] Дзвіной, да іх належалі гарады: Тураў, Мазыр, Пінск, Брэст-Літоўск, Слуцак і Клецак. Адным словам, племя гэта займала часць цяперашняга Палесся, жыло на бало- тах — дрыгве, і за гэта славянскія суседзі іх празвалі дрыгавічамі, што знача — жыхарамі балот.

На поўнач ад дрыгавічоў, на вярхоўях рэк Дзвіны, Дняпра, Волгі і па Бярэзіне жыло другое вялікшае племя беларускае — *крывічы*. Яны гэтаксама жылі на месцах балотных і калісь, мабыць, пакуль не стыкаліся з літвінамі, называлі самі сябе дрыгвічамі, але пазней, калі пачалі стыкацца з літоўцамі, то тыя іх імя пераклалі на сваю мову і сталі называць — крывічамі, што

таксама знача — жыхарамі балот (ад лі- тоўск. слова «кірва» — балота, дрыгва). У крывічоў былі гарады Полацак, Барысаў, Друцак, Лагойск, Менск, Віцебск і Смаленск.

Трэція — *радзімічы* — называліся так дзеля таго, што яны пад камандай двох братоў — Радзіма і Вяткі прыйшлі «от лях» на ўсход (у цяперашнюю Магілёўскую губ.) і там пасяліліся. Раней яны жылі ў суседстве з ляхамі (палякамі), але пазней з невядомай прычыны пайшлі ў глыб старонкі «от ях» і селі па рацэ Сожу.

Найбольшыя і найсільнейшыя племя беларускія — гэта былі ўсходнія (крывічы) і заходнія (дрыгвічы). Племя гэтае было ваеннае, нямала хадзіла па свеце, дзеля гэтага і звесткі аб ім сустракаем ужо ў VII сталецці. У VIII сталецці часць нашых дрыгвічоў апынулася каля горада Сунл'я (цяпер Салонікі). Прыйшлі яны туды як народ ваенны, шукаючы здабычы і славы, але, відаць, упадабалі багатую старонку і засталіся там жыць.

Пад 685 годам успамінаюцца ў іх князі і войска. У 879 годзе ў іх было ўстаноўлена епіскапства, што паказвае на тое, што яны былі тады ўжо хрысціянамі. Епіскап іхні называў сябе: «епіскап Фракіі і Дрыгавіччыны».

Каля горада Солуня, у каторым радзіліся першыя апосталы славянаў Кірыла і Мяфодзій, кругом жылі дрыгвічы-хлебаробы. Само сабой, што святыя браты Кірыла і Мяфодзій шырылі свет хрысціянства ў той славянскай мове, у якой яны ўзгадаваліся і выраслі, і ясна з гэтага, што першыя богаслужэбныя кніжкі Кірыла і Мяфодзій перавялі на мову дрыгвічоў.

Ітак: народ наш жыве з няпомных часоў на тым самым месцы і заўсёды меў адну мову і звычаі ва ўсіх плямёнах і сыграў відную ролю паміж славянамі ў першыя вякі хрысціянства.

*[1914]*

## ДА ЧЫТАЧОЎ ГАЗЕТЫ «ГОМАН»

Ведаць, што робіцца навокал нас, атрымываць весткі з усяго свету, пазнаваць думкі свайго грамадзянства і чужыя, мець можнасць і самому сказаць перад усімі аб тым, што нам трэба, што нам баліць, — гэта зрабілася ўжо адной з найвялікшых патрэб культурнага чалавека. Патрэбу гэтую здаволівае *газета*.

Газета злучае чалавека з яго народам, яго старонкай — з усенькім светам. Слабыя, нячутныя галасы паадзінокіх жыхароў краю зліваюцца ў ёй у вялікі, моцны голас грамадзян- ства, —

і той голас паказвае нам дарогу, па каторай мы павінны ісці, паказвае кожнаму яго належнае месца, яго павіннасці і правы.

Асабліва патрэбна кожнаму газета ў *роднай мове* : яна даступна ўсім, даступна кожнаму, хто толькі навучыўся чытаць.

Патрэба газеты адчуваецца наймацней тады, калі настаюць часы важных перамен, калі ідзе справа аб *долі народаў*. Беларускі край цяпер перажывае якраз такі вялікі гістарычны момант: перад намі адкрываецца шырокі прастор для працы, і ў гэты момант больш, чым калі, патрэбна нам *беларуская газета*.

Пяць месяцаў не было ў нас яе. Пяць месяцаў не ведалі мы адны аб адных, не ведалі, што робіцца навокал нас, як народ ладзіцца да новага жыцця. Цяпер гэта мінулася, — і вось гэты наш «Homan» пойдзе па вёсках, мястэчках і гарадох нашага краю, несучы ўсюды *добрыя весці*, ахвотне чытаны ўсім беларускім народам.

Хай жа гэта будзе жывы знак, што адвечныя жыхары гэтай старонкі, перацярпеўшыя сталетнюю няволю, не згінулі і ў апошняй ваеннай навальніцы, што і для іх наступаюць *досвіткі лепшай долі*.

***1916***

## 1491–1916

Лета 1491 дакончаны былі першыя друкі беларускія Швайпольтам Фіёлем у месце Кракаве.

Гэта былі наогул першыя кніжкі, друкаваныя ў славянскай мове. Друкаваліся яны з беларускімі асобеннасцямі ў мо-ве, — коштам і накладам беларускіх паноў і княжат — для беларускага народа. І імі пачынаецца беларуская друкаваная літаратура.

У 1517 гаду доктар Фр. Скарына «дзеля лепшага выразумення люду паспалітаму» друкуе ў Празе чэшскую Біблію, перакладзеную на мову нашага народа. У 1525 г. Скарына пераносіць сваю друкарню ў Вільню, і ад гэтага часу пачалі хутка множыцца беларускія друкарні і друкі.

Віленская друкарня дому Мамонічаў за каралеўскім прывілеем здаволівае дзяржаўныя патрэбы друкаў Вялікага Княства Літоўскага, каторае судзілася і радзілася ў беларускай мове. З друкарні Мамонічаў выйшлі слаўныя Статуты Вялікага Княства Літоўскага, і там жа друкаваліся ўсе афіцыяльныя выданні.

Канец XVI і першая палавіна XVII сталецця адзначаюцца найбольшым развіццём друкаў беларускіх. Пад канец XVII сталецця беларускае друкарства дазнае першых уціскаў, каторыя

не спыніліся да самага канца XVIII сталецця. А ў XIX ст. — пад расейскай дзяржавай — і зусім было забаронена друкаваць штолечы па-беларуску. Царскія ўказы і міністэрскія цыркуляры выкасавалі беларускі народ з ліку жывых нацый.

Пакуль трывала гэта забарона, беларусы карысталіся з рукапіснай літаратуры, каторая множылася і разыходзілася па ўсіх-усюдых, як доўга і шырока Беларусь. Але поруч з гэтым ішлі цішком і беларускія кніжкі, друкаваныя за межамі расейскай дзяржавы або друкаваныя ў роднай старане патайна. Гэтак у канцы 80-х гадоў у Мінску кружок беларускіх студэнтаў і інтэлігентаў выдаваў патайную часопіс па-беларуску пад названнем «Гоман»[1].

Калі ў 1905 гаду ў Расеі была заведзена Канстытуцыя і свабода слова, беларускі народ страпянуўся і загаварыў сваёй «нелегальнай» мовай — у першай легальнай беларускай газеце «Наша доля»[2] (у Вільні). Праўда, што гэты голас беларускага грамадзянства ўласці скора заціснулі і заглушылі, бо з 6 выйшаўшых нумароў былі сканфіскаваны 5. Усё ж такі «Наша доля» ўзварухнула беларусаў і паклікала наш народ да грамадскага жыцця.

Пасля закрыцця «Нашай долі» пачала выходзіць «Наша ніва», каторая пратрывала ад канца 1906 года да палавіны 1915 г., хоць тры міністэрствы ў сваіх цыркулярах прыпаміналі падвластным ім чыноўнікам, каб самі не чыталі і адгаварвалі другіх ад чытання і выпісвання беларускай газеты. Цыркуляры гэткія былі: ад міністэрства асветы, міністэрства ўнутраных спраў і ад духоўнага ведамства.

Нягледзячы на гэта, адраджэнне Беларусі не спынілася, а расло з кожным годам, а з ім разам павялічвалася і чысло беларускіх кніжак і газет. Побач з «Нашай нівай» ад 1910 года пачала выходзіць часопіс для беларускай інтэлігенцыі «Маладая Беларусь»[3] і сельскагаспадарчы месячнік «Саха»[4]. У 1912 гаду адкрылася беларуская каталіцкая газета «Bielarus»[5] у Вільні, месячнік для маладзёжы «Лучынка»[6] — у Мінску, орган студэнцкай моладзі «Раніца»[7] — у Пецярбургу.

Цяпер пачынае выходзіць вось гэты новы «Homan» — наогул, дзевятая беларуская часопіс.

*1916*

## ПАМЯЦІ СПРАВЯДЛІВАГА

Многа гадоў праляжала ў мяне ў скрытнай схоўцы пачка папераў, з каторых адрыўкамі хачу цяпер падзяліцца са сваім грамадзянствам. Паперы гэтыя — ніклая памятка па згінуўшым барцу за беларускае адраджэнне с[вятой] п[амяці] Касцюку Каліноўскім…

Радзіўся ён 21 студня 1838 года ў фальварку Мастаўляны Вількамірскага павета. Вучыўся ў Свіслачы ў тамтэйшай гімназіі. Скончыўшы гімназ'яльную навуку, паехаў у Маскву ў універсітэт, скуль за народнічаскія пераконанні і прапаганду скора яго выдалілі. Тады паехаў у Пецярбург і там дакончыў навукі.

У Пецярбургу Каліноўскі сышоўся з расейскімі рэвалюцыянерамі і стаўся вялікім староннікам навукі Герцэна[1]. Калі ў 1860-х гадах прайшоў кліч да паўстання, Каліноўскі стануў у раду барцоў за асвабаджэнне Літвы[2] з-пад уласці Масквы. Энергічная праца ў гэтым кірунку высунула яго хутка ў першыя рады барцоў. Расейскія ўласці называлі яго дыктатарам Літвы (разумеючы Літву як даўнейшае гасударства — разам з Беларуссю).

Каліноўскі быў рэвалюцыянерам і народнікам, і ў гэтым кірунку ішла яго грамадзянская праца. Стараўся ён перш-наперш для сваёй справы з'яднаці сялян і ў сваёй праграме дамагаўся скасавання становых прывілеяў, дамагаўся шырокіх культурна-нацыянальных правоў для беларускага і літоўскага народаў. Дзеля сваёй справы ён умеў з'яднаць шляхецкую маладзёж і заахвоціць яе да працы сярод народа. З яго думкі і пад яго кірункам рабіліся пераклады тагачасных рэвалюцыйных песень на беларускую мову, закладаліся пачатковыя школкі з навучаннем па-беларуску, складаліся літаратурныя кружкі маладзёжы, каторыя апрацоўвалі да друку папулярныя беларускія кніжкі. Уплыў Каліноўскага быў такі вялікі, што нават польскі Rząd Narodowy[3] яго слухаў, хоць і не саўсім згаджаўся з яго народніцка-рэвалюцыйнай прапагандай. Гэтак пад беспасярэднім уплывам Каліноўскага Rząd Narodowy 3 мая 1863 года выдаў маніфест да беларускага народа (па-беларуску), у каторым, згодна з праграмай Каліноўскага, абяцаў скасаваць становую розніцу («даецца ўсім шляхецтва навекі»), надзяліць сялян зямлёй, вярнуць волю веры (скасаваную расейцамі унію). Урэшце ў гэтым жа 1863 годзе разам з паплечнікамі сваімі ў змаганні з няволяй і за правы беларускага народа — з Валяр'янам Урублеўскім[4], Станіславам

Сангіным[5] і Ружанскім[6] улажыў Каліноўскі ў Беластоку патайную беларускую друкарню, дзе друкаваліся адозвы беларускія і часопісь «Мужыцкая праўда», каторай выйшла 6 нумароў[7], падпісаных псеўданімам Каліноўскага «Яська, гаспадар з-пад Вільні». Адозвы і друкі, пры помачы арганізаванай маладзёжы, разыходзіліся па ўсім краю. Каліноўскі доўгі час ашукваў чуткасць паліцыі дзякуючы таму, што хадзіў заўсёды ў сялянскай беларускай світцы і не розніўся выглядам ад сялянскай масы. Але ў канцы, праз здраду, злавілі яго ў Вільні на Скапоўцы і пасадзілі пад крэпкую варту ў мурах Святаянскага касцёла. Суд засудзіў Каліноўскага на смерць.

Чакаючы ў турме смерці, Каліноўскі напісаў дзве адозвы да беларускага народа: адну вершам і адну прозай. Одпісы гэтых дзвюх адозваў і становяць часць тых папераў, каторыя я доўгія гады хаваў у скрытках — ад руплівага жандарскага вока, каб, калі прыйдзе час, падзяліцца імі са сваім народам і разам з ім спамянуць добрым словам памяць Справядлівага.

Во як пісаў Каліноўскі да свайго народа:

*«Беларусы, браты мае родныя! С-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці, і можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой Народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не жаль згінуць за Тваю Праўду!*

*Прыймі, Народзе, па-шчырасці маё слова перадсмертнае, бо яно як бы з таго света, толькі для дабра твайго напісана.*

*Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тагды ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тагды толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць Неба, бо збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу не ходзіць разам, так і навука праўдзіва не ідзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе. Не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, — адно намі як скацінай варочаць будуць не для дабра, адно на пагібель нашу.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . *І ваюй, Народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я Табе с-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе.*

*Яська-гаспадар з-пад Вільні.*

* * *

*Беларуска зямелька, галубка мая,*
*Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля Твая?*
*Усё прайшло, прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшэнна горыч у грудзях застала.*
*Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці*
*Дый у прадвечнага саду вялеў прападаці,*
*То мы прападзем марна, а праўды не кінем.*
*Хутчэй Неба і шчасце, як праўду абмінем.*
*Не наракай, Народзе, на сваю бяздолю,*
*А прымі цяжкую кару — Прадвечнага волю,*
*А калі мяне успомніш, шчыра памаліся,*
*То я з таго свету Табе адзавуся.*
*Бывай здаровы, даражэнькі Народзе,*
*Жыві у шчасці, жыві ў свабодзе,*
*І часам спамяні пра Яську Твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра Твайго.*
*А калі слова пяройдзе ў дзела,*
*Тагды за праўду станавіся смела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэшся, Народзе, старасці свабодна».*

Дня 19 марца 1864 года на Лукішскім пляцы ў Вільні пакаралі смерцю Каліноўскага. Калі ён стаяў пад шыбеніцай, яму чыталі прыгавор суда. На словы: «Шляхціц Канстанцін Каліноўскі» — ён голасна крыкнуў: «Няпраўда, у маёй Бацькаўшчыне няма шляхты, — усе роўны!!»

*1916*

## ПРЫЧЫНЫ ЗАНЯПАДУ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ Ў XIX СТ.

Пачаткі беларускага адраджэння заходзяць у далёкую мінуўшчыну, бо ажно ў другую палавіну XVIII сталецця. З гэтага часу захаваліся рэлігійныя уніяцкія песні, як «Мой Божа, веру Табе» і «Кантычка», «Nabożne pieśni w narzeczu połockim» (Połock, w drukarni Soc. Jez. 1774 r.); першыя выданыя і апрацаваныя уніятамі, а кантычка — езуітамі.

Канец XVIII сталецця адзначаецца буйным расцветам рамантызму ва ўсёй Еўропе. Адгалоскі яго даходзілі і на Бела-

русь. Рамантызм перш за ўсё прымушаў панства і духавенства заглядаць глыбей у народ, у яго духовы свет, у яго мінулае, прымушаў вытвараць красу з гістарычных перажыткаў. Само сабой, рамантызм на Беларусі ўбіраўся ў пышную дэкаратыўна-каляровую апратку, звязваў сябе з беларускімі традыцыямі (адгалосак гэтага бачым пазней у творах Адама Міцкевіча, а нават часцю і ў Славацкага) — і гэтым падгатаўляў поле да народнага беларускага адраджэння. З глыбейшых натур вытвараў ён барцоў за народную волю.

Упадак Рэчы Паспалітай не даў гэтым зачаткам развіцца ў шырокі народны рух, бо змаганне за незалежнае дзяржаўнае жыццё адрывала людзей ад культурнай работы і пхала на палітычны шлях. Пасля ўтраты палітычнай незалежнасці і ад рэпрэсіўнага абрусення ідэі рамантызму і дэмакратызму, а найболей «мясцовы», «тутэйшы», патрыятызм шляхоцкіх мас хутка змяняліся на ідэі польскага нацыяналізму. І вось гэтая змена ў першы чарод была прычынай, што пачаўшаеся ў XVIII сталецці беларускае адраджэнне надоўга затрымалася.

Апрача ўпадку Польшчы на ходзе беларускага адраджэння адбіліся і тыя асаблівыя варункі, у якіх апынулася Беларусь пад Расеяй і якія ўчынілі яе арэнай польска-расейскага змагання за «культурныя ўплывы». Найвялікшую вагу мелі тутака справы рэлігійныя. Перш-наперш крывавае наварачыванне уніятаў на праваслаўе прымусіла народ шукаць апекі ў каталіцтве, а ўціск каталіцызму прымусіў каталіцкі касцёл апірацца на пальшчыне. Прымусовае накіданне беларусам-каталікам маскоўскай мовы ў касцёле вызвала тое, што духавенства і народ чапляліся за польскую мову як бясспорную азнаку каталіцтва. Гэткім парадкам «людавітая мова» (значыць, беларуская) у касцёле ўжо перад 1839 годам пачала замяняцца мовай польскай, а ў 1839 гаду ўжыванне яе ў касцёлах забаронена было афіцыйным указам цара Мікалая I[1]. Царскі ўказ меціў адрэзаць беларускі народ ад каталіцтва незразумелай яму польскай мовай, але выйшла саўсім наадварот… Маскоўская палітыка за ніякую цану не хацела пазволіць на культурнае развіццё беларусаў і ўгаварвала гвалтам нашаму народу, што ён «искони русский» і павінен абмасковіцца.

Адным словам, польска-расейскае змаганне было адной з важнейшых прычын заняпаду беларускага адраджэння праз цэлых сто лет, аж пакуль з самаго народа не выйшлі барцы за гэту справу. Ніжэй друкуецца стацця нябожчыка С. Палуяна[2], каторая дае дужа праўдзівую характарыстыку нашай шляхоцкай дэмакратыі ў першай палавіне XIX сталецця, каторая аддавала

свае сілы палітычнай рабоце цэнтралістычна-польскай. У канцы цяжкі ўдар для беларускага адраджэння зрабіла поўная забарона беларускай граматнасці аж да 1905 г.

*[1916]*

## ГАНЧАРСКІЯ ВЫРАБЫ

Ёсць ганчары-рамеснікі і ганчары-артысты[1]. У ганчарстве злучаецца пластыка з малярствам, і гэта вабіла часта найлепшых артыстаў. Апавядаюць, што і знакаміты Рафаэль[2] рабіў рысункі да гліняных вырабаў. Найлепшыя гліняныя рэчы датуюцца, аднак, ад 1540 года.

За іншыя вырабы з гліны і парцэляны аматары плацілі болей, як за алейныя абразы. За этрускую вазу, на каторай быў рысунак здабыцця Трої[3], заплочана 10 000 талераў. Наогул, этрускія вазы з чорнай і жоўтай гліны маюць дагэтуль найвышэйшую цану спаміж усіх ганчарскіх вырабаў.

З італьянскіх ганчарных вырабаў найстарэйшыя работы Лукі дэля Робіа[4]. Яму прыпісваюць адкрыццё палевы. Вырабы яго заўсёды вялікія: алтарныя арнаменты, бюсты і інш. За адну яго тэракоту (рэч з гліны), прадстаўляючую Н. М. Дзеву, заплочана 2000 талераў.

З французскай ганчаркі вельмі цэняцца вырабы Бернарда Палісі[5]. Яго рэчы з тэракоты дзіўна пекныя, толькі — вужы і яшчаркі, краты і жабы, каторых ён ляпіў, не кожнаму падабаюцца. Апошнія часы багатыя аматары найболей цэняць парцэляну з часоў Генрыка II[6]. Вельмі яна рэдкая. Чароднае месца займае сеўрская парцэляна, за адну вазу гэтай парцэляны англіцкі багач Гертфорд заплаціў 1350 даляраў.

З нямецкай ганчаркі найбольшую цану плацяць за саскую парцэляну, асабліва за артыстычныя фігуркі і маляваныя сталовыя начынні. За асобныя штукі саскай парцэляны плацяць не танней, як за сеўрскую.

Англія ў другой палавіне XVIII і першай палове XIX сталецця зрабіла сабе славу вырабамі з блакітнай, чырвонай і чорнай гліны.

У Галандыі выраблялася парцэляна ў Дэльфо[7]. Рысункі на гэтай парцэляне рабілі такія, як на кітайскіх вырабах. Дэльфійская парцэляна і гліна цяпер у цане, асабліва вазы. За галендарскія вазы апошнімі часамі плацілі да 5000 франкаў.

З польскай парцэляны найболей цэняцца вырабы варшаўскай фабрыкі «Бельведэр», за асобныя штукі плацілі па колькі сот рублёў. Такжа цэняцца вырабы ўкраінскай Карэцкай фабрыкі[8].

У нас, на Беларусі, і ў Літве славіліся вырабы нясвіжскія і целяханскія, гародніцкія[9], свержанскія і віленскія. Арыгінальнага ў іх нямнога, і з артыстычнага боку яны не могуць канкураваць з заграгнічнымі вырабамі, але затое іншыя з гэтых вырабаў маюць этнаграфічна-артыстычную і гістарычную вартасць.

*[1916]*

## ШЛЯХАМ ТВОРЧАСЦІ

Народ наш мае за сабой тысячалетнюю дарогу, пройдзеную за час свайго гістарычнага жыцця. На гэтай дарозе сустрачаўся ён з рознымі народамі і рознымі культурамі, браў сам ад іншых многае і даваў другім сваё. Адным словам, паступаў так, як усякі іншы народ на свеце: абменьваўся тым, чым быў багат, і браў ад іншых тое, чаго яму не ставала.

Кожны народ у сваім жыцці памятае большую або меншую культурную залежнасць ад іншых народаў. Грэкі, перш чым вытварылі сваю ўласную літаратуру, навуку, філасофію і штукарства, знаходзіліся пад уплывам Егіпта і Бабілоніі. Рым доўгі час карміўся вытворамі духу грэцкага, еўрапейскія народы — вытворамі духу лацінскай расы: іх мовай, літаратурай, навукай.

Але, будучы нават пад найвялікшым чужым уплывам, дух людскі стараецца праявіць свае характэрныя асобнасці. І дзеля гэтага народы, навучыўшыся ад другіх народаў пісьма, музыкі, песні, штукарства, нават саўсім несвядома, твораць з чужога сваё, адменнае. Бо дух людскі — сіла творчая, каторая не можа паднявольна толькі патураць чужым узорам, не даючы нічога з сябе.

Мы, беларусы, за гістарычных часоў пераджывалі ўплывы грэцкія, якія да нас прыйшлі разам з хрысціянствам, а такжа палуднёва-славянскія, якія прыйшлі разам з пісьменнасцю і хрысціянскай літургіяй. Гоцка-скандынаўскія ўплывы прыйшлі да нас разам з дзяржаўнай арганізацыяй і шляхецка-кіруючым станам. Нямецкія — праз купецтва і крыжакоў, лацінскія — праз Польшчу і Чэхію, літоўскія — праз еднасць дзяржаўную з імі, а гэтаксама польскія — праз дзяржаўнасць польскую, каторая мела ў нас вялікі і доўгі ўплыў, асабліва на вышэйшыя класы нашага народа. У канцы давяршылі ўплывы маскоўскія.

Але народ наш, будучы ў розныя часы пад уплывам чужых культур, не загубіў сваёй духовай індывідуальнасці (асобнасці), а, наадварот, паглыбляў яе, довадам гэтага служаць выйшаўшыя ў розных часах з народа нашага выдатныя людзі.

У першыя вякі хрысціянства народ наш даў усёй славяншчыне «перлы літаратуры славянскай» праз Кірылу Тураўскага[1], Клімента Смаляціча[2] і інш. Князеўскія часы ўслаўлены імем полацкага князя Усяслава, каторы «людзям суды судзіў, князям гарады парадкаваў». Лацінская літаратура ўзбагацілася творамі нашых разнаверцаў XVI сталецця. Польскі ваенны рамантызм і аружная слава павінны беларусам імёнамі Хадкевічаў, Сапегаў, а літаратура — сотнямі слаўных імён. Маскоўскай літаратуры народ наш даў імя Дастаеўскага і многа меншых.

І от жа, ці то ў творах славянскіх, лацінскіх, польскіх ці іншых — прадстаўнікі, выйшаўшыя з народа нашага, хоць і пісалі мовай чужой, але характар далі ў творах сваіх, уласцівы народу нашаму. Іначай кажучы, у чужой вопратцы давалі творы беларускага народнага духу. Таксама польскі Сарбеўскі[3] хоць і пісаў творы свае ў мове лацінскай, але душа гэных твораў — польская. Калі ж станем прыкладаць творы Кандратовіча, Міцкевіча, Ажэшковай[4], Крашэўскага[5], то зной-дзем і ў іх па-за польскай мовай прыроду і людзей і душы, уласцівыя толькі беларускаму народу. І не дзіва: людзей тых выдаў геній нашага племені!

Дзеля вышэйсказаных прычын да гісторыі творчасці мыслі беларускай павінны быць палічаны ўсе творы сыноў зямлі і народа нашага, нягледзячы на тое, якой мовай і дзе яны твораны.

Часта бывае, што, знаходзячыся пад чужым духовым уплывам, геніі давалі ў сваіх творах тыя мыслі, якія панавалі ў акружаючай іх атмасферы, дужа, быць можа, саўсім не згодныя з праўдзівымі патрэбамі таго народа, які іх выдаў. От жа ў даным прыпадку гісторыка літаратуры можа цікавіць старана артыстычная твораў, а палітычная і класавая можа служыць толькі за матэрыял да гісторыі перажываных класа ці народа палітычных ідэалаў.

*[1916]*

## УСТУПНЫ АРТЫКУЛ ДА № 1 ЧАСОПІСА «КРЫВІЧАНІН»

Нічога дзіўнага, што ў час перажыванай намі трагедыі людзі саўсім адрухова кінуліся ў тую старану, куды іх папхнула хваля жыцця, г. зн. ударыліся ў палітыку, а часта нават у палітыканства, забываючыся, што палітыка — гэта не ўсё жыццё, а толькі адна з частак яго. Грамадзянства забегла ў гэтым кірунку так далёка, што ўпусціла са свайго відавока такія стораны жыцця, як эканамічную, чыста навуковую, мастацкую.

Разам з эканамічным упадкам прыходзіць і апатыя да ўсяго харошага, апатыя да навукі, апатыя да мастацтва ва ўсіх яго праявах. Прэса, як паслушнае дзіцё жыцця, гэтаксама жахнулася ў адзін бок.

Культурныя сілы рассысаюцца: адны ўдарыліся ў містыцызм і самакрытыку ўсяго на свеце. Іншая, і, можа, самая значная, часціна адышла ад усяго грамадзянскага жыцця і занялася толькі працай дзеля хлеба, толькі дзеля самазахавання, матывуючы свае паступкі тым, што цяпер не час займацца ніякай работай для грамадзянства, што ўсё не ад нас залежыць, што ўсё робіцца паміма нас і без нашага ведама…

А тым часам перад беларускім грамадзянствам ляжыць бязмерны абшар работы на кожным полі. І нам нельга марнаваць цяперашняга дарагога часу, а наадварот, трэба выкарыстаць усе нашы сілы на будаванне лепшага заўтрашняга дня. Нам у пакрыўшую наша пакаленне цемру нельга спаць, а трэба браць каганцы, і ісці свяціць народу свайму, і будзіць яго, і весці яго да новых зор, да светлых дзён.

І дзеля гэтага мы клічам усе актыўныя нашы сілы да працы на ўсіх сцежках жыцця.

Мы хочам, каб кожны чалавек кінуў стан апатыі і нерухавасці і ўзяўся да працы ў тым кірунку, да якога ён здатны і да чаго ён рыхтаваўся, а не ў тым, куды яго прыпадковая хваля закінула.

Мы хочам, каб кожны быў тым, кім ён павінен быць: каб палітык быў палітыкам, інжынер — інжынерам, эканаміст — эканамістам, філолаг — філолагам, і каб усе яны разам былі добрымі грамадзянамі Беларусі. Кожны, на кожным полю, мае перад сабой гістарычную місію, якую выпаўніць павінен, калі не хоча, каб патомныя вякі кінулі на яго магілу камень.

Перад намі многа разнародных задач, але ў першы чарод мы павінны адтварыць усе струны беларускага жыцця, падлічыць усе нашы беларускія рэсурсы, каб быць гатовымі да барацьбы за сваю бацькаўшчыну на ўсіх фронтах. Мы верым, што Беларусь культурна і эканамічна мае ўсе шансы да збудавання патомкам

лепшага жыцця, чым было наша. У беларускім народзе культурных сіл ёсць даволі на тое, каб бараніць справу нашага народа і адсланіць перад светам яго багаты духовы воблік. А ўважна і цярпліва падлічыўшы нашы эканамічныя засобы[1], змусім глядзець на нас з належнай пашанай і самі здолеем глянуць спакойна ў будучыню.

Але адной нашай веры ў гэта мала, трэба гэта даказаць чорным па белым: аблічыць статыстычна нашы багацтвы, распрацаваць тэарэтычна кожную галіну асобна, паказаць рэзультаты. Мы думаем, што Беларусь мае ўсе эканамічныя шансы да незалежнага дзяржаўнага будавання, але гэта трэба абаснаваць на цыфравых даных і для сабе саміх, і для чужых. Побач са статыстыкай у нас ляжыць аблогам тэарэтычная пастаноўка беларускага пытання з палітычна-гістарычнага боку і папулярызацыя яго між грамадзянства. Ляжыць аблогам у нас прыгожая літаратура і мастацтва. Дагэтуль мы не спрамагліся яшчэ на тое, каб магчы здаволіваць духовыя запросы інтэлігентнага беларускага грамадзяніна ў яго роднай мове, а гэта варунак sine qua non[2] нашага нацыянальнага жыцця, на здаваленне каторага мы, актыўная часць грамадзянства, прымушана звярнуць сваю бачную ўвагу. Выходзячы з вышэйсказаных выходных, мы прыступаем да выдавання «Крывічаніна» ў надзеі палажыць у гэтым кірунку хоць маленькую цаглінку.

Рэдакцыя ўяўляе сабе ўсе ляжачыя перад ёй труднасці як залежнай, так і незалежнай ад яе натуры, а труднасцей гэтых многа… Дзеля гэтага заклікаем усе жывыя сілы Беларусі стануць у прыгодзе і гуртавацца да дружнай працы каля «Крывічаніна».

*1918*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

У нашы часы нацыянальнае пытанне займае так выдатнае месца ў чарадзе агульналюдскіх праблем, што кляймо яго кладзецца на ўсе праявы людскога жыцця — і на палітыку, і на экономіку, і на этыку, і на публіцыстыку, на літаратуру і нават на рэлігію, эстэтыку, псіхалогію, біялогію і г.д. і г.д.

Калі ж і чаму гісторыя высунула перад чалавецтвам нацыянальнае пытанне?

Адказ на гэтае пытанне дае нам гісторыя чалавецтва: «разнародныя тэрытарыяльныя і кліматычныя варункі ды розныя гістарычныя прычыны збліжалі, праз доўгі чарод сталеццяў,

патомкаў родавых сувязей рознага паходжання. Большай часцю гэты родавыя сувязі гаварылі адной і той самай мовай, усваівалі болей альбо меней сходныя псіхалагічныя наклоннасці і некаторыя звычаі ды праданні. Гісторыя выдзялала ўтвораную гэткім чародам групу ад другіх падобных груп, пераходныя ступені між гэтымі групамі з часам занікалі, і ў выніку атрымлівалася асобная нацыя, — гістарычны прадукт чалавечага размнажэння, з аднаго боку, і культуры — з другога.

Як толькі на гэтым біялагічным і сацыяльна-гістарычным грунце тая альбо іншая нацыя адасаблялася ад другіх, паўставаўшых на той жа аснове, для яе пачыналася, як і для ўсяго жывога, змаганне — вайна за сваё бытаванне, а яе наступаючыя пакаленні перадавалі адно другому ў істоце вельмі просты наказ: барані свайго бытавання, колькі і як можаш, расшырай свой уплыў і пакарай сабе ўсё акружаючае, колькі здужаеш, паядай другія нацыянальнасці фізычна, палітычна або ўмыслова, колькі здолееш.

І чым энергічнейшая нацыя, тым лепей яна праводзіць першае. І чым яна чалавечней, тым меншае мае для яе значэнне апошняе. Гістарычная роля нацыі мерыцца здольнасцю яе ўплываць на другія нацыі, пры захаванні сваіх і чужых асобнасцей» (па Лаўрову)[1].

Вышэй прыведзеныя словы як не трэба лепей абрысоўваюць самую істоту нацыянальнага пытання, біялагічна-гістарычную аснову яго, якой не могуць не прызнаць не толькі антынацыяналісты, але і нацыяналісты. Зрэшты, гэтыя апошнія, прызнаючы самыя факты, розняцца ад першых толькі тым, што кажуць: «*Так павінна быць*», дзе першыя кажуць: «*Так не павінна быць*».

Але адно факт, другое — ацэнка гэтага факта. Можна і трэба лічыць шкодным забабонам патрэбу ўзаемнага сцірання нацый, але нельга асуджаць варожыя адносіны адной нацыі да другой, не ўнікаючы ў тыя асновы розні, на якія ссылаюцца самі народы і іх ідэолагі ў апраўданне сваёй нянавісці да другіх народаў, а такжа трэба ўнікаць і ў істоту гэтай нянавісці, з мэтай хоць бы змагання з ёй. Прычын нацыянальных розней не раз трэба дашуквацца не толькі ў палітычных і эканамічных прычынах, але і ў этналогіі і этнаграфіі. «Этнаграфія і этналогія, — кажа Шпрынгер[2],— яўляюцца неўнікнёнымі спамагаючымі навукамі для нацыянальнага палітыка. Яны выяўляюць і выясняюць прычыны развіцця і ўпадку нацый і даюць, гэткім спосабам, рукавадзячыя наказы палітыкам, якія кіруюцца дапамагчы развіццю нацый».

Этнаграфія і этналогія даюць багаты матэрыял дзеля суджэння аб тым, як неабаснавана расавая нянавісць, як несправядліў і ня-

правен гнёт адной нацыі над другой, як фальшыва даволі пашыранае перакананне, што ёсць народы «вышэйшыя» і «ніжэйшыя», «лепшыя» і «горшыя», «выбраныя» і «барбарскія». Бо большае або меншае культурнае развіццё народаў варункуецца ходам яго гістарычнага жыцця і геаграфічнага палажэння. Народы, спрамогшыеся на незалежнае дзяржаўнае жыццё, зазвычай маюць спрамогу і да культурнага развіцця, і з утратай незалежнасці кожны народ трапляе пад уплыў пераможцы і памалу загубляе сваю індывідуальнасць, а разам з ёй і сваю індывідуальную культуру.

Пакідаючы ў старане этнаграфічныя і этналагічныя прадпасылкі, нельга не згадзіцца з прафесарам Градоўскім[3], «што нацыянальнае пытанне перш за ўсё гэта пытанне аб варунках культурнага развіцця народа (разумеючы пад словам «культурнае» і духовае, і палітычнае, і эканамічнае). Кожная народнасць — гэта зборная асоба, розная ад другіх асобнасцямі свайго характару, сваіх матэрыяльных і ўмысловых здольнасцей, а дзеля гэтага маючае права на незалежнае жыццё і развіццё. Разнароднасць нацыянальных асобнасцей — гэта фундаментальны варунак здаровага ходу агульналюдскай цывілізацыі». У імя агульналюдскай цывілізацыі «ўсе народы прызваны да працы і жыцця. Кожная народнасць павінна даць чалавецтву тое, што захавана ў сілах яе духова-матэрыяльнай натуры. Народная творчасць — гэта найвышэйшая мэта, паказаная народу самой прыродай, мэта, без каторай не можа быць дасцігнута дасканальнасць чалавечага роду». Але побач з гэтым, — заўважае той жа Градоўскі, — права народнасці на індывідуальнае развіццё, на сваю гісторыю, «*аставалася б мёртвай літарай, калі б зрэалізаванне яго не абеспячалася б кардынальным варункам — палітычнай незалежнасцю народа*».

Значыць, тэарэтычная пастаноўка нацыянальнага пытання зводзіцца да таго, што няма на свеце народаў «горшых» і «лепшых», а што за гэтым ідзе, — няма апраўдання ніякаму гнёту дужэйшых народаў над слабейшымі, што кожная нацыянальная індывідуальнасць тэарэтычна мае права на культурнае — у шырокім гэтага слова значэнні —развіццё і, у канцы, правільнае, здаровае развіццё нацыі павінна быць абяспечана палітычнай яе незалежнасцю.

*[1918]*

## УСЯГО ПА КАЛІВУ

### Гедымінаўскі воўк

Легенда апавядае, што заснаванне абароннага замка на Туравай гары ў Вільні сталася з прычыны прарочага сну, які меў Гедымін[1] на гэтай гары, стоячай на пагранiччы свежападбітых беларускіх зямель.

Сніўся яму закаваны ў жалеза воўк. Воўк рычэў так голасна, што рыку яго ўляклося смелае сэрца заваяваццеля Беларусі. Княжы варажбіт Ліздзейка прарочыў сон на добрае, толькі абавязваў князя заснаваць на гэтай гары абаронны замак.

Гэткае тлумачэнне сну чыніць чэсць княжаму варажбіту, які, як з гэтага меркаваць можна, разумеўся нязгорай на палітыцы і тагачаснай стратэгіцы, бо, каб утрымаць падбітыя беларускія правінцыі ў сваіх руках, Гедыміну, саўсім слушна, трэба было дзяржаўны бастыён высунуць наперад і ўчыніць яго злучаючым звяном між двума народамі.

У гэтым здарэнні легенда ў паэтычную форму прыбрала істотныя палітычныя задачы і мэты арганізатара Літоўскай дзяржавы. А калі задачы былі ўжо зрэалізаваны, змест легенды перастаў быць важным, то засталася малазразумелая патомным вякам, але ўсё ж такі сімвалічная легенда.

Пастараемся разгадаць яе сімвалічныя асновы.

Сімвалічна тут постаць воўка. Летапісец пад 1130 годам кажа: «…і вільняне ўзялі сабе з Царгорада князя полацкага Расціслава Рагвалодавіча дзяцей: Давіла-князя ды брата яго Моўкалда-князя. І той на Вільні першы князь Давіл, брат Маўкалдаў большы. А дзеці яго: Від — каторага людзі воўкам звалі, — ды Эрдэн-князь…»

Знача, Вільня ўжо да Гедыміна слыла воўчым гняздом — вотчынай князя-воўка, закаванага ў сталь, знача, аружнага і грознага.

І мімаволі насоўваецца пытанне: што спакойны сон Гедыміна трывожыў не звер-воўк, а містычная асоба князя Віда, як сімвал паярэмленай ім беларускай правінцыі.

### Назова Беларусі па-жыдоўску

У жывой мове, як і ў старых друках, Беларусь па-жыдоўску называецца «Rajsen». Цікава, што пад найменнем «Rajsen» жыды разумеюць не толькі цэнтральную Беларусь, але і

найдалей на ўсход і захад высунутыя беларускія акраіны, як заходне-паўночную часць Чарнігаўшчыны і Смаленшчыны ды Беласточчыну.

Тэрыторыя «Rajsen», уласціва Беларусь, займае выдатнае месца ў гісторыі духовага жыцця ўсходнееўрапейскіх жыдоў. Згэтуль выйшлі найслаўнейшыя імёны жыдоўскіх тэолагаў і талмудзістаў, з Магілёўшчыны чэрпаў духовае цяпло хасідызм, а валожынскія духоўныя жыдоўскія школы выдавалі найбольш паважаных за вучонасць паміж жыдамі ўсёй Еўропы рабінаў. Вільня па сягонняшні дзень друкуе Талмуд і шмат кніг для жыдоў усяго Старога і Новага свету.

### Непасціглая камбінацыя

У газетах друкуюцца абвесткі аб выхадзе ў свет «беларускай» часопісі, у якой будуць друкавацца стацці ў мовах: беларускай, нямецкай, расейскай…

Сапраўды, вясёлыя людзі гэтыя паны-рэдактары!

*[1918]*

## БЕЛАРУСЬ ПАД РАСЕЯЙ

Беларусь адыходзіла пад Расею чатырма наваротамі: у 1772, у 1793, у 1795 і ў 1807 гг.

Першым наваротам, у 1772 гаду, да Расеі адышлі ваяводствы: Мсціслаўскае і Магілёўскае, часць Полацкага (па Дзвіну) і часць Мінскага. Граніца пайшла ракой Дзвіной, Друццю і да Дняпра. З гэтых зямель царыца Кацярына II[1] утварыла асобнае Беларускае генерал-губернатарства, а для кіравання духоўнымі справамі — Беларускае каталіцкае біскупства ў Магілёве.

Другім наваротам, у 1793 гаду, да Расеі адышла рэшта Міншчыны і ўсходняя часць Віленшчыны.

У 1795 гаду дабравольнай умовай, спісанай на сойме ў Гродні, да Расеі адышла рэшта Віленшчыны і часць Гродзеншчыны. Ва ўмове той, падпісанай царыцай Кацярынай II, царыца абяцалася за сябе і за сваіх патомкаў захаваць у цэласці ўсе правы і прывілеі жыхароў гэтай часці Беларусі, не чапаць спраў веры, мовы і абычаяў.

У канцы, чацвёртым наваротам, у 1807 годзе адышла да Расеі рэшта Беларусі: заходні куток Гродзеншчыны, даўней

званы Падляшскі край. Падляшскі, знача пагранічны з ляхамі (палякамі).

Трапіла Беларусь пад Расею пасля бязмала 200-летняга сумеснага пажыцця з палякамі, да каторых за доўгія 200 гадоў адышла бязмала ўся наша шляхта, дык беларусы трапілі пад Расею толькі як стан сялянскі. Расейскае правіцельства, маючы адразу на мэцеператварыць беларусаў у маскоўцаў, старалася не даць нашаму народу права развівацца ў сваёй роднай мове, а з другога боку — кіравалася накінуць нам маскоўскую грамату і мову.

Раней некаторыя уніяцкія і праваслаўныя духоўныя кнігі друкаваліся мовай, вельмі блізкай да жывой беларускай мовы. Калі Беларусь трапіла пад Расею, друкаванне гэткіх кніжак было забаронена, старыя такія кніжкі пазабіраны з цэркваў і заступлены маскоўска-славянскімі.

Бачачы, што беларусы маюць асобную сваю уніяцкую веру і не так лёгка зліваюцца з маскоўцамі, расейскае правіцельства стала цiснуць уніятаў: адбірала цэрквы, манастыры, сілай наварачвала уніятаў на праваслаўе. У канцы ўзгадавала спаміж уніяцкіх духоўнікаў здрадніка свайго народа і веры, нейкага Сямашку[2], высунула яго на біскупскі ўрад і пры яго помачы скасавала саўсім уніяцкую веру ў 1839 годзе. У царскім прыказе Мікалая I гаварылася, што уніятам «позволено» пераходзіць у праваслаўе, а ў той самы час па ўсёй нашай зямлі раз’язджалі ад парафіі да парафіі казацкія сотні і, дзе дабравольна не хацелі прымаць праваслаўя, там пры помачы розаг і нагаек хрысцілі сялян. Усе уніяцкія цэрквы і маетнасці былі забраны на праваслаўе. Апорных духоўнікаў уніяцкіх і болей цвёрдых сялян ссылалі ў Сібір і нават на катаргу.

У тым жа 1839 годзе было забаронена друкаваць якія бы то ні было кнігі па-беларуску. Народу нашаму расейскае правіцельства сказала, што ён нічым не розніцца ад маскалёў, і ўсюды праводзіла гэту сваю думку: і праз царкву, і праз школу, і калі наша маладзёж адбывала ваенную павіннасць.

Многа прыйшлося ўсяго-ўсякага выцерпець народу нашаму ў часе гэнага ліхалецця. Тым болей што кіруючыся хутчэй абмасковіць беларусоў, расейскае правіцельства старалася як можна болей абясправіць народ наш. Яно разумела, што чалавек светлы і багаты не так лёгка паддаецца гвалту, як чалавек бяспраўны і цёмны. Вось з гэтай мэтай, каб абясправіць дарэшты і прад тым бяспраўны наш народ, царыца Кацярына найперш узмацавала ў нас прыгонную няволю: забаронена было пераходзіць сялянам ад аднаго да другога пана па сваёй волі, пазволена было панам аддаваць сваіх сялян у арэнду на фабрыкі і падрадчыкам,

пазволена было панам сваім судам ссылаць сялян у Сібір і здаваць у салдаты.

Два польскія паўстанні 1833 і 1861 гг. З захоплівалі і нашу Беларусь, і хоць народ беларускі ў цэлым і не належаў да іх, але кары за паўстанні сыпаліся на ўвесь наш край і народ.

У 1861 годзе царскім маніфестам цара Аляксандра II[4] была скасавана ў нас паншчына. У канцы народ наш вызваліўся з цяжкой прыгоннай няволі, але нацыянальных правоў беларусам Расея не дала. Наадварот, абрусенне яшчэ болей было ўзмацавана.

Гэтак цягнулася да 1905 года. У 1905 годзе рэвалюцыйны рух дамогся ад правіцельства маніфесту, абяцаючага крыху волі грамадзянам усёй Расеі. У тым ліку і мы, беларусы, дабылі сабе права друкаваць кніжкі ў сваёй мове і гаварыць у нашых газетах аб сваіх патрэбах і жаданнях.

Але і 1905 год не прынёс нам правоў грамадзянскіх. Школ беларускіх не пазволена было адкрываць, расейскае правіцельства ў суд, царкву і касцёл не дапушчала беларускай мовы. У Гасударственную думу беларусам нельга было пасылаць сваіх дэпутатаў: закон аб выбарах дзяліў беларусоў на каталікоў і праваслаўных і адных далучаў да палякаў, а другіх да расейцаў.

Наогул, ад 1863 года правіцельства старалася дзяліць наш народ на двое: на каталікоў і праваслаўных, як быццам гэта быў не адзін суцэльны народ, а два розныя народы.

Гэтак стогадовае наша жыццё ў Расеі не дало нам з нацыянальнага боку ніякіх карысцяў, адно ўціск і абмаскоўленне.

*[1919]*

## НАШЫ ЦЭННАСЦІ

Ёсць даволі ходкі афарызм, каторы кажа: «Народ жыве датуль, пакуль жыве яго мова: без народнай мовы няма народа». Гэты афарызм, як і многа іншых афарызмаў, у кароткай і меткай форме выказвае, якая ёсць найглаўнейшая прымета народнасці, ці, як па-заграмічнаму называюць цяпер — нацыянальнасці. Аднак жа афарызм гэты не абмінае ўсіх тых цэннасцей, каторыя разам твораць народнасць — нацыю з нейкай этнічнай групы. Даўней, блізка да XIX сталецця, не было саўсім нацыянальнага пытання. Нацыянальнасць злучалі з гасударственнасцю і царквой, як гэта цяпер яшчэ робяць цёмныя людзі. Развіццё нацыянальнага пытання прыпадае на XIX сталецце, а навучная разработка яго на канец XIX сталецця і нашы часы. У апрацаванні гэтага

вынесенага самім жыццём, у меру развіцця дэмакратызму, пытання вялікую заслугу палажылі такія вучоныя, як Спенсер[1], Тэйлар[2], Каўцкі[3], Бокль[4], а апошнімі часамі Вернер Зомбарт[5] і іншыя перваразрадныя навуковыя еўрапейскія сілы. І вось паводле найнавейшай навукі нацыянальныя цэннасці бываюць дваякія: матэрыяльныя і маральныя. Матэрыяльныя цэннасці гэта: гасударственнасць, войска, выпаўніцельныя органы і іншыя прыналежнасці гасударственнай уласці. Матэрыяльныя нацыянальныя цэннасці могуць мець толькі гасударственныя нацыі і недаступны нацыям негасударственным. Але жыццё паказвае нам, што нацыі, не маючыя сваёй гасударственнасці, могуць трымацца цэлыя тысячалецці і працістаяць найдужэйшаму нават дэнацыяналізуючаму ўплыву другіх, суседніх, сільнейшых з кожнага боку нацый. Такія нацыі вытрымліваюць пастаронні націск, пераносяць цэла даўгалетні гнёт, апіраючыся на *маральныя* нацыянальныя цэннасці. Маральныя нацыянальныя цэннасці ў свой чарод бываюць дваякія: *інстытуцыйныя* і *ідэальныя*. Інстытуцыйныя цэннасці складаюцца з сумы маральных інстытуцый і арганізацыйных форм, каторыя распадаюцца на чатыры вялікія аддзелы: мову (якая абымае і літаратуру — слова і славеснасць), царкву, пачуццё нацыянальнай годнасці і абычаяў. Ідэальныя цэннасці — гэта: гісторыя, традыцыі, ідэалы. Налічнасць усіх гэтых цэннасцей творыць моцную нацыю, нават без матэрыяльных цэннасцей можа жыць і развівацца ў чужой нацыянальнай гасударственнасці без нацыянальнага для сябе ўшчэрбу, пры варунку, што гасударственная чужая арганізацыя не будзе кіравацца да дэнацыяналізацыі паднявольнай сабе нацыі, а нават і пры налічнасці такога кірунку так званая інстутыцыйная нацыя можа бясшкодна для сябе вынасіць барацьбу і нават шкоды з навязкай аплачваць сабе разростам ідэальных цэннасцей.

Гэтулькі можна выснаваць з цяперашняй навукі аб нацыянальнасці. Пераходзячы да найбліжэйшага і найболей цікавячага нас беларускага пытання насамперш пастараемся разгледзець, якія мы маем нацыянальныя цэннасці і якія маем шансы называцца нацыяй.

Найперш **матэрыяльныя** цэннасці. Іх у нас няма, але навука кажа, што без іх нацыя можа жыць і развівацца. Знача, цэннасць да жыцця нацыі не канечна патрэбная.

**Маральныя цэннасці**. *Інстытуцыйныя*:

І. Мова; мову мы маем, мова наша жыве, гэта адна з цэннасцей, без каторай нацыя не можа жыць. Мы яе маем.

II. Пачуццё нацыянальнай еднасці творыцца праз мову; пачуццё такое сярод шырокіх мас беларускіх, нават найцямнейшых, ёсць.

III. Абычаі; пад абычаямі разумеецца ўклад жыцця, грамадзянскія формы і інш. Гэта таксама мы маем.

IV. Царква; царквы нацыянальнай мы не маем, але і царква хоць патрэбна для паўнаты нацыянальных цэннасцей, аднача без яе можа нацыя жыць. Прыклады маем на нацыях, каторыя нацыянальнай царквы не маюць. Нацыянальная царква — гэта важнейшая справа для гасударственнасці, чым для нацыянальнасці.

З пералічанага вышэй відаць, што мы, беларусы, з чатырох інстытуцыйных нацыянальных цэннасцей маем тры найважнейшыя і недахват нам апошняй — царквы.

Далей — як жа ў нас справа стаіць з *ідэальнымі* цэннасцямі?

I. Гісторыя; ці маем сваю гісторыю? Маем. Была нават беларуская гасударственнасць.

II. Нацыянальныя традыцыі. Маем, хоць… слабыя, не дзеля таго, што іх не было, але дзеля таго, што яны не захаваліся праз утрату нашай буржуазіі і мяшчанства.

III. Ідэалы; ёсць: агульналюдскія — дэмакратычныя і нацыянальныя, без каторых, разумеецца, не было б гутаркі аб адраджэнні нашым як нацыі.

З гэтага ізноў перагляду відаць, што мы маем: гісторыю, слабыя традыцыі і, так сказаць, зародышы ідэалаў. Зародышы таму, што мы агульналюдскія ідэалы куём не ў сваёй нацыянальнай кузні, а пераймаем іх ужо ператворанымі, пераржванымі, падсоленымі і падпечанымі гісторыяй, традыцыямі і кірункамі мыслі нашых старакультурных суседзяў. Такія ідэалы, нават найшырэйшыя, найбольш людскія (гуманітарныя), не маюць, аднача, прыцягаючай сілы.

І выходзіць, што мы маем цела (народ з інстытуцыйнымі цэннасцямі), але гэтае цела, каб ажывіць, патрэбен жывы дух, патрэбны ідэалы, раўнацэнныя ўсясветным, прапушчаныя праз нашу нацыянальную прызму. Каб заваяваць ўагульналюдскай культуры, павінны не толькі браць з агульналюдскай скарбніцы, але і класці ў яе раўнацэнныя.

Або прасцей кажучы: калі мы хочам жыць і быць нацыяй, народам, мы павінны стварыць сваю літаратуру, навуку, сваё штукарста. Вось глаўны варунак бытавання нас, беларусоў, як нацыі.

*[1919]*

## ПРАДМОВА ДА № 1 ЧАСОПІСА «КРЫВІЧ»

Прыступаючы да выпуску ў свет першай беларускай часопісі, пасвячонай, у першы чарод, служэнню беларускаму мастацтву і культуры, рэдакцыя мае на мэце не толькі абслужыць у роднай мове духовыя вымаганні сярэдняга беларускага інтэлігента, але і прылажыць усіх высілкаў да адшукання шляхоў к самавызначэнню Беларусі ў сферы духовасці. Увесь час рэвалюцыі ўсе нашыя сілы былі скіраваны ў старану абароны палітычных пазіцый, клалася на гэты бок многа ахвярнай і труднай працы, ніва ж нашай культурнай працы была пакінута выключна ініцыятыве і засабам паасобных дзеячаў. У выніку атрымалася значнае папярэджанне працы палітычнай перад культурнаю.

Настаў вялікі час, калі беларускай адраджэнчай думцы, ані на момант не спыняючы ні з якога боку змагання, патрэба акапацца на здабытых дагэтуль пазіцыях: прыступіць да творчай працы ў дзедзіне нашага самапазнання, самаацэны і самакрытыкі.

На служэнне гэтым мэтам і пасвячаецца «Крывіч». Цікуючы пастаўленыя мэты, «Крывіч» будзе стала памяшчаць такія аддзелы:

1. Літаратурны, у якім знойдуць месца творы нашага пітомага, а такжа лепшыя творы ўсясветнага пісьменства.

2. Навукова-крытычны, у якім будуць мець месца зарысы і манаграфіі па беларусаведанню, па дасціжэннях агульначалавечай навукі, тэхнікі і культуры, і — сацыялагічны ў духу аб’ектыўнага шукання шляхоў да палепшання сучаснага грамадскага ладу.

3. Запіскі.

4. Аддзел інфармацыйны, які будзе мець, па магчымасці, вычэрпываючыя агляды прэсы сваёй і чужой, паколькі гэта апошняя датычыць Беларусі, агляд культурнага беларускага жыцця, агляд дзейнасці беларускіх палітычных арганізацый і партый, агляд беларускага грамадскага жыцця: пад Расіяй, пад Польшчай, у Літве, у Латвіі і па ўсім свеце, і бібліяграфія.

«Крывіч» — орган не партыйны, а дзеля гэтага старонкі яго адкрыты для кожнага хочучага служыць Бацькаўшчыне-Беларусі мастака, для кожнага аб’ектыўнага вучонага, для кожнага дэмакрата не варожага вызваленню Беларусі ад усякіх форм паняволення і гвалту.

Пасвячаючы сябе, у першы чарод, служэнню беларускай культуры, «Крывіч» будзе ацаняць кожны чын, кожную ініцыятыву і праяву грамадскага беларускага жыцця з незалежніцкага пункту

гледжання, цвёрда веручы, што росквіт беларускай духовасці магчымы толькі пры поўнай свабодзе нашага народа, выяўленай у сваёй уласнай дзяржаўнасці.

Каму зразумелы і блізкі нашы імкненні, заклікаем станавіцца разам з намі да рэальнай працы.

*1923*

## ДА ШУКАННЯ КРЫНІЦ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Чым сыціў сваю душу беларускі народ у часе доўгага і цёмнага ліхалецця, званага прыгонам, калі ўсе, хто кідаў саху і касу, адыходзілі ад яго назаўсёды, калі кожны, хто навучаўся не толькі граматы, але нават самай благой мовы пануючых станаў, ужо староніўся вёскі і гаротнага мужыка-вяскоўца. Можна сказаць, што на працягу апошніх 200 гадоў беларусы не былі народам, а становілі тубыльчую сялянскую касту, у якую новыя сілы знікуль не прыбывалі, а лепшыя, здатнейшыя, адыходзілі. Важную ролю іграла тут не толькі бяспраўнае палітычнае і безвыходнае эканамічнае палажэнне сялянскай касты, але і псіхалогія, стыхійна панаваўшая. Усё, што добрае, што прыгожае, атрымала ў пануючых класаў названне іх пануючай касты — szlachetny—szlachetność, wspaniały—wspaniałość і, наадварот, што брыдкае, благое насіла названне gminne, chłopskie, prostackie. А найгорш, што сам наш гарапашнік паверыў у гэта, прымірыўся са сваім бяспраўным палажэннем, сваёй стыднай беднасцю і цемнатой і, не бачачы з яго выхаду, пастараўся замкнуцца ў сабе, у кругу такіх, як ён сам, «простых людзей» і простых, собскіх паняццяў. Пайшло доўгае жыццё ў замкнутай касце.

Замкнутасць і адарванасць ад іншых класаў, з адной стараны, спрыяла захаванню таго, што сваё, што здабыта і асвячона старыной, а з другога боку — пабуджала да новай, каставай творчасці, якая да апошніх часоў не замірала.

Успамінаючы мае маладыя гады і акружаўшае мяне, у той час кіпучае і поўнае жыццё нашай вёскі, я пастараюся сваімі ўспамінамі падзяліцца, каб кінуць кроплю сваю да высвятлення пытання аб народнай творчасці. За аснову я вазьму адрыўкі ўспамінаў вёскі Стары Пагост (Дзісенскага пав.) і яе ваколіц.

Найбольш чаканым, найгучней святкаваным гадавым святам быў Вялікдзень, святое Вялічка. Прычым трэба адмеціць, што названне гэтага свята разумелася ўсімі не як — Вялікі Дзень, а

як — дзень велічання, слаўлення. Ад палавіну посту ўся вёска, уся ваколіца, ад старога да малога, дудзелі ўжо пад нос валачобныя, велічальныя песні, аж, здаецца, ад гэнага дудзення трымцела паветра. Але голасна, на ўсю волю, яшчэ гэтых песень пяяць нельга: іх запяюць першага дня Вялічка, адвячоркам:

Добры малойцы-валачомнічкі,
Сабраўшыся, сшыхаваўшыся, —

найперш пад вакном самага багатага ці самага шанаванага гаспадара ва ўсёй вёсцы ці аколіцы, а пазней, у чарод, пад усімі вокнамі.

Гэтае ж «збіраннеся» і «шыхаваннеся» добрых малойцаўвалачомнічкаў не такое простае, як гэта многім нашым шаноўным этнографам здавалася. Недармо ж хлапцы дый дзяўчаты цэлае паўпосце пад нос дудзелі, напяваючы ўпаўголас сабе. Не адно імі з тэксту рытуальнага, каноднага за гэты час перадумана, не адно да пазарытуальнага тэксту даложана, перайначана, дапасавана да таго ці іншага, каго будуць велічаць ды славіць. «Шыхаваннеся» і азначае сабранне перад выхадам на слаўленне, на якім намячаюцца гаспадары, да каторых пойдуць славіць, і прымаюцца тэксты слаўлення іх. Дармо думалі нашы этнографы, што тыя, да каго прыходзяць велічаць, аставаліся безучаснымі да тэксту велічання.

Быў у ваколіцах старык, па прозвішчу «Кажэ» (праўдзівае яго прозвішча — Сенкевіч), жыў у засценку Гірсах, за вярсту ад Пагоста. Старому было звыш 80 гадоў, жыў на паўтары валоках, а знача, багата, сам адзін, як палец. Ён належаў да любіцеляў і знаўцаў слаўлення. Кожную грамаду валачомцаў выслухаў, седзячы пры адчыненым вакне. Калі слаўленнікі прыйшлі падгатаваўшыся, з асобнымі ў яго чэсць, на канцы спеву, строфкамі, частаваў усіх чаркай гарэлкі, выносіў кружок-другі каўбасы ці сыр на закуску і дзесятак-другі яец механошаму ў карзінку. За асабліва ўдалае слаўленне запрашаў у хату, як гасцей. Калі ж прыходзілі такія, што чаўплі песню без разумення яе, стары злаваўся і нават лаяўся. У Старым Пагосце знаўцаў велікоднага велічання паміж старых было нямала. Да іх належалі Гродзь, Жураўскі, Васілеўскі, рыбак Лакотка, а найбольш пастыр Даніла. Велічалі валачомнічкі, «добры хлопчыкі», не толькі гаспадара з гаспадыняй, але і ўзрослых іх дзяцей — дачок і сыноў. За добрае велічанне валачомнікі ад дзяўчат на замужжы даставалі часам па паясу і па ручніку, а паміж хлапцамі завязвалася не раз праз велічанне дажывотная дружба.

Рытуальная часць велічальнай песні складалася з уступу, у якім гаварылася: «Гаспадару, адкрый вакно, адкрый вакно, гляні на двор: на тваім дварэ стаіць шацёр навюсенькі, бялюсенькі (вяснавое неба), а ў тым шатрэ сам Бог сядзіць, перад Богам усе святцы (сонца і гвёзды)». Да гэтага аддзелу ўключалася часць з апісаннем адзежы і двара гаспадарскага, у якой праглядалі не раз пракавечныя рысы гэтай абрадавай песні. Прыкладам:

А ці дома, дома сам гаспадар?
А хоць і дома, ды не кажацца
(не сядзіць пры вакне),
Ён не кажацца, прыбіраецца,
Надзяе світу, шоўкам шыту,
Надзявае боты казловыя,
Боты казловы, шапка баброва!

А вось аб яго дварэ:

А Сымонаў двор на стаўпох стаіць,
На стаўпох стаіць на тачоненькіх.
А кругом маста пчолкі гудуць,
Пчолкі гудуць, у палёт ідуць.

Калі Сымонава «світа, шоўкам шыта», «боты казловыя» і «шапка бабровая» пяецца для велічання Сымона, то ў апісанні яго двара, хто ведае, ці не крыецца запраўды памяць аб дварах, на палях стаячых, з мастамі, вядучымі «да крутога беражка, да жоўтага пяска»?

Велічальныя песні любяць раўняць гаспадара да краснага сонейка, а гаспадыню да светлага месіка, а іх дзетак да частых гвёздачак. Але гэта не правіла.

Ай не ластавіца палётуе!
Сама гаспадыня то пахаджуе…

Другая часць велічання гаспадара складаецца з апісання яго ратайскіх работ. Тут часам паэтычнасць абразоў дахо-дзіць да незвычайнай красы, як, прыкладам, размова жыта з гаспадаром:

— А хто ў полі рана пагукае?
— Ядранае жыта гаспадара кліча:
«Не магу я, не магу я ў полі стаяці,
У полі стаяці, калоссям махаці.

Толькі магу я, толькі магу я
У полі снапамі, ў гумне тарпамі
Толькі магу я!»

Пералічаюцца ў каляндарным парадку ўсе святцы, якія дзейна працуюць у полі: «Святы Мікола скот напасае, святы Ляксей сохі чэша, святы Пятро з дробным дажджом, святы Ілля з залатым сярпом» і т.п.

У трэцяй, канцовай, часці ўжо пяецца велічанне не рытуальнае. Тут можна ўзяць строфкі з бягучага жыцця, адзначыць выдатную рысу пана гаспадара ці з яго паступкаў, ці з дзейнасці. Во гэта апошняя часць і ўкладаецца валачомнікамі штогоду нанова і для кожнага гаспадара, гаспадыні і іх узрослых дзяцей паасобна. Закончанне велічання гэтаксама можа быць больш або менш красамоўнае, але пераважна бывае стэрыатыповае.

Аб летніх, жніўных і дажынкавых песнях не магу нічога сказаць, не прыйшлося ў свой час унікнуць у іх і выразумець. Заўважу толькі адну характэрную для беларускай кабеты рысу, а гэта тое, што, полючы гароды, любяць кабеты жалосна галасіць і прычытваць. Адбываецца гэта як рэпетыцыя, але нярэдка, пераняўшыся сваёй жаласлівай імправізацыяй, і сапраўды наўзрыд прыплакне другая.

У Старым Пагосце, увосень, калі наступалі цёмныя і доўгія вечары, а яшчэ вечарніцы не пачыналіся, маладзёж вясковая, збіраючыся разам, штогод, калектыўна, укладала доўгую песню-сатыру. У 1894 гаду тэмай такой песні паслужыў чорны бык. Быка прывялі быццам у Пагост і, па нарадзе, пастанавілі яго зарэзаць і падзяліць. Кожная часць быка даставалася камусь з гаспадароў, характарызуючы яго, прыкладам: «Радзіку почкі, каб вяліся дочкі, а Дубчонку рогі, каб знаў дарогі, а Даніле вочы, каб не спаў уночы» і г. д. Некаторым гаспадарам пасвячаліся чатыры і нават восем строфак, рысуючых яго недастаткі. Гэткі верш штогод перамяняўся калектыўным сабраннем на новы. Апавядалі і нават пяялі дасціпныя адрыўкі з найдаўнейшага аднаго такога ж сатырычнага верша, тэмай да каторага была ўзята Бяда, якая прыйшла да Пагоста і схавалася пад мастом. Пачынаўся гэты верш словамі: «Сядзіць Бяда пад мастом, едуць людзі з хварастом, тут Бяда загуляла, усім калёсы паламала. Быў там Апанас, той Бядзе ў морду раз! Быў там і Пятрок, той у морду раз пяток!» і г. д. Кончылася справа тым, што выгнаная з-пад маста Бяда забралася ў вёску, тут яе ганялі бабы і дзеўкі, але без скутку.

Найцікавейшы час бываў пачынаючы ад першага дня Калядаў да Вадохрышча. У гэтым часе, ад заходу сонца, пачыналіся свя-

тыя вечары, у якія нельга класціся спаць да «петухоў», а знача, ад 4–5 вечара да 12-й ночы. У дадатку звычай вымагаў, каб у гэты вечары баяць басні. Тут выступалі на сцэну лепшыя гутарнікі і пачыналі бесканечныя казкі і легенды, апавяданні традыцыйныя і нанова здуманыя ды прыкрашаныя. У тыя хаты, дзе бывалі добрыя, красамоўныя гутарнікі, народу набівалася ўшчэрць, ад старых да малых. Лепшым гутарнікам у вёсцы лічыўся Міхалка-гарбар, пасля яго Сцёпка-бондар, чалавек неакелзанай фантазіі, які ўмеў давесці да слёз смехам і да істэрычнага смеху, апавядаючы страшное. Рэпертуар казак быў вечна новы і бесканечна багаты. Папаўнялі гэты рэпертуар валачомныя гутарнікі, якіх у мае часы было нямала паміж перахожых убогіх, каторыя прыходзілі часам аж з-пад Бабінавіч (Магілёўск[ай] губ.)[1].

Акром гэтага, час ад часу з прычын кожнага значнейшага здарэння ўкладаліся сатыры вершаў, нават з прычыны нязначнага здарэння. Прыкладам: у Новы Пагост прыязджаў новы вучыцель, малады хлапец. Дарогай папасываў пры старапагоскай карчме, выехаў ужо змеркам і па дарозе згубіў клунак з бялізнай. Гэта пабудзіла некага злажыць сатыру, даволі дасціпную, якая пачыналася: «Ехаў Абрамчык (прозвішча вучыцеля, быў родам са Случчыны) у Пагоста, пільнуючы конскага хвоста…» Гэткія вершы-сатыры скора тварыліся, скора і забываліся, а іх месца заступалі новыя падзеі і новыя сатыры. Рэдкія з гэткіх сезонных вершаў утрымліваліся ў памяці некалькі гадоў, гэта залежала ад меткасці слова і ад значнасці падзей. Вершы на звальненне ад паншчыны, у мае яшчэ часы, пераказваліся з памяці, а нават перапісваліся. Да гэткіх належалі «Гутаркі Данілы са Сцяпанам», а такжа іншага характару — «Страшны суд», «Панскае ігрышча». Асаблівай увагай цешыўся «Страшны суд», які дапаўняўся і перарабляўся, устаўляліся ў яго строфкі аб акалічных хлапцах, дзяўчатах, гаспадарах і гаспадынях з абазначаннем ім кар на тым свеце. Пачынаўся верш так: «Паслухайце толькі, людзе, што на страшным судзе будзе! кары страшны за грахі, за хохаткі ды за смехі…»

Акром свецкай песні, сатыры, казкі і паэмату існавала цэлая літаратура духоўная, якая пераказвалася з вусн у вусны або распявалася. Спецыялістамі ад гэтай літаратуры былі асобныя старцы-жабракі, якія хадзілі з музыкальным інструментам — лірай, скрыпкай або гармонікай. Забраўшыся ў вёску, такі старац не выходзіў, пакуль не пераспяваў усіх сваіх песень, слухаць якія збіраліся пераважна пабожныя вясковыя кабеты. Старац гасціў у вёсцы ад 3 дзён да 2 тыдняў, залежна ад яго рэпертуару.

Словам, яшчэ гадоў 30 назад вусная беларуская літаратура была нечым саўсім жывым, што расло і кусцілася. Літаратура гэта абслужвала духовыя вымогі сялян і, падтрымліваючы традыцыі, давала сокі новай творчасці. Існаваннем гэтай літаратуры толькі і можна вытлумачыць тое, што наш народ мог сам у сабе замкнуцца і, жывучы сваім асобным жыццём, перахавацца дагэтуль.

*[1923]*

## ПАЛЕННЕ КНІГ НА БЕЛАРУСІ

У кірунку даследавання нашай мінуўшчыны дагэтуль нязмерна мала зроблена. Працы расійскіх вучоных, за даволі рэдкімі выняткамі, даследуючы гісторыю крыўска-беларускіх зямель, мелі заўсёды на мэце пераканаць чытача, хоць бы сабе падтасоўкай фактаў, што гэта землі «ісконі рускія». Згэтуль немаль ва ўсіх працах расійскіх вучоных тон палемічны. Працы польскіх вучоных яшчэ менш сумленна абходзіліся з нашай гісторыяй: паводле гэтых апошніх, тут да прыходу палякаў было памяшанне вод з зямлёй, дзіч, і толькі палякі ўняслі сюды еўрапейскую цывілізацыю. Гэта характэрная азнака ўсіх дэмагогаў, якія маюць звычай цвердзіць, што толькі ад іх «пачаўся свет».

Да цікавых момантаў нашай гісторыі належыць вайна з кнігамі. Першая гістарычная вядомасць аб гэтым захавалася з XVI ст., у лісце, які перадрукаваў Т. Нарбут[1] (Teodora Narbuta pomniejsze pisma historyczne. Wilno, 1856). Адбылося паленне кніг у Вільні, 1581 г., перад самым Вялікаднем. Ачавідзец так апісуе гэту барбарскую аперацыю.

«Ад самай раніцы звазілі смалістыя дровы і аблітыя смалой кулі саломы на рынак, гэтыя матэрыялы акружала гарадская варта і нікога ў сярэдзіну не пушчала. Пазней прыйшлі два драбіністыя вазы, кожны паркай коні запрэжаны, а на вазах навалена кніг друкаваных, рукапісных кніг і розных актаў. Замкавыя галябарднікі[2] сцісла пільнавалі гэтыя вазы. Гаварылі ў народзе, што гэта кнігі не каталіцкія, выклятыя, зганеныя індэксамі св. афіцыі і каталіцкімі рымскімі багасловамі ды на знішчанне агнём аддадзеныя, што быццам няб[ожчык] Ягамосць князь біскуп Валяр’ян (Пратасевіч) гэну пастанову пацвердзіў, але на пісьме гэтага не асталося, бо і не было ніколі, толькі так паны езуіты ўмовіць хацелі і на памершага віну скінуць. Дык выкапалі на рынку яму, насупроць вісельніцы, нет ведама якой глыбіні, бо ўсю гэту архандрыю акружалі жаўнеры

і служачыя ратушовыя, нікога блізка не дапушчалі. Пачаўшы ад дна гэнай ямы, злажылі груду кніг, перакладаючы дрывамі і саломай, вышыня якой груды, над роўняй рынкавага пляцу, мела прыблізна да трох локцяў, а шырыня ў квадрат шмат большая. Пачалі збягацца людзі. Кожны пытае, што гэта? Як адны, так і другія нешта шэмруць. Каля груды кружаць невядомыя фігуры ў доўгіх чорных бурках, агромнымі капюшонамі маючы аблічча і галовы закрытыя. Тут і кат, адміністратар юстыцыі і некалькі пар манахаў рознай барвы. А гадзіне дзесятай прыбыў інстыгатар[3] і ўраднікі. Загудзелі трубы і бубны, што трывала даволі доўга. Пасля гэтага стуку-грому ягомасць ксёндз Фердынандус Капэцкі S.J. узышоў на груд… аж тут бабы-семярніцы (што прадаюць насенне), перакупкі, перапечайкі (што прадаюць печыва) і іх племя як пачнуць крычаць, як пачнуць прычытаць: што ксяндза будуць паліць на грудзе, і толькі па доўгім аклікванню і пантамінах самога reverendissima[4], даліся ўстатказацца. Пасля ён сказаў прыгожае казанне, тлумачачы, аб што справа ідзе. Народ маўчаў, бо не ведаў, што рабіць, здзіўлены навіной здарэння. Не відаць было ўсё ж такі вясёласці, як гэта бывае, калі публічна што дзеецца паводле сардэчнага хацення публікі; шмат хто сціскаў плячыма. Не доўга pater[5] гаварыў, знаць, баючыся, каб не паляцеў на яго град камення, бо да гэтага было блізка ад разнаверцаў, якія тут стаялі. Illustrissimus[6] у акружанні вышэйшага клеру і старшых манахаў глядзеў на гэты спектакль з жалезнага ганку на паверсе камяніцы Новакунскай. Ваяводы не было ў Вільні: ксёндз Пётр-рэктар (Скарга) абложна хворы ляжыць у палацыку на Рыбаках. І толькі калі прамоўца сышоў з эшафоту, прынеслі гаручую паходню, якую паблагаславіў нейкі экзарцыста[7], дамініканін. Паходню ўзяўшы ў рукі, пан майстар (кат) Ігнат з Сабачай вуліцы (цяпер вуліца Субач у Вільні), пасля некаторых цырымоній свайго мастацтва падпаліў гэныя няшчасныя bustum[8]; полымя спярша крэпка шугнула, але нябаўна знізілася, і пачаў выбівацца чорны, густы дым, выдаючы нясцерпны сморад, які вецер гнаў у адзін бок, народ, што там стаяў, павінен быў адысці, а што ганак, з якога клер прыглядаўся, ласне прасцюсенька быў супроць ветру, дык раптам зніклі spectatores[9], на іх шчасце ў пару, бо незадоўга, як змоцніўся агонь на грудзе і прыбыло ветру, то і гэты ганак, і перакупніцкія будкі, што былі над ім, агарнула полымя. Добра яшчэ, што начынні з вадой былі пад рукой, іначай бы пайшла і камяніца in flagorem[10], а за ёй, хто ведае, што яшчэ. Тыя, што стаялі ex oposito[11], а злашча, што глядзелі з вокнаў на паверхах, бачылі нешна цудоўнае, і паны-нававерцы, што заўзяліся ў цуды не верыць, аб нейкім цудзе яўна гаварылі. Я замаўчу, бо нічога сам не ўгледзеў, хоць маю пару

здаровых вачэй, першыя ж гамонкі часта бываюць плёткі. Аб чым Вашамосці не рада бы я пераказваў. Выйшаў і верш насмешлівы: «Д'ябал з Лютрам і Кальвінам паляцелі сабе з дымам» і т. д. Пэўна яго ўжо маеце, бо паня падчашніца Карсаковая павезла з сабой. Але гаворачы аб здарэнні: certististissima veritas[12] etc., што кнігі, забраныя per vim (сілай), або benevole (дабравольна) аддадзеныя, або як-колечы іначы дабытыя, само сабой ерэтыцкія або ерэтыкамі і ерэзіярхамі пісаныя, а знача, грэшныя, ці не прыемныя, агулам злажыліся на гэну гэтакомбу. Кажуць, што значная часць бібліятэкі па няб[ожчыку] ксяндзу суфрагану[13] Юрыю, якая ляжала ў Святаянскай калегіі, асобна ў скрыні спакаваная, пайшла на спаленне. Быццам стары ксёндз-рэктар неахвотна пазволіў на гэта, і каб не хварэў, пэўне бы не дайшло да гэтага. Пан Станіслаў мне гэта апавядаў, а ён добра ведае і ацэняе грамадную шкоду, якую гісторыя дазнала ў гэтай загубе рукапісаў, пільна і старанна збіраных нябожчыкам суфраганам. Гэты mente captus[14] (вар'ят), аб якім сказаў я на пачатку гэтай рэляцыіі, сабраў усе кнігі без выбару і даў спаліць. Груд доўга гарэў, а пад вечар просты народ, нет ведама як і кім падбураны, ударыў у званы на спалох! Грамадзіўся на рынку, выкрыкваючы супроць разнаверцаў, жадаючы іх маёмасць і іх саміх падобным спосабам спаліць. Igne probatur aurum![15] — шаўцы і дзегцяры выкрыкалі. Ужо пачалі груды дроў знасіць на рынак, каб паліць ерэтыкаў, ужо паходні і лучніцы палалі, якімі мелі падпаліць іх малельні і дамы. На шчасце, каля захаду сонца, паліў густы дождж, а дзейнасць меставай і замкавай варты рэшту таўпы разагнала. Назаўтрае забаронена было збірацца, пазачынялі меставыя брамы, загразілі шыбеніцай людзям, выкрыкаючым гэны лацінскі сказ, і гэтак мала-памалу замятня ўляглася, бо падскоўвуючых саміх pavor panicus[16] агарнуў».

Гэта было першае, здаецца, і даволі нясмелае выступленне каталікоў. Раней каталікоў нішчылі кнігі кальвіны, сацыяне і ўсякія сектанты сярэдзіны і канца XVI ст., а што гэта рабілася разнаверцамі на шырокую нагу, паказуе лік перанятых імі святынь. Век XVII, век, калі большасць нашых гістарычных магнацкіх фамілій прымала новую веру, азначыўся дабравольным паленнем старых кніг, як знакам шчырасці сваёй да новага абрадку і выслявам поўнага разбрату са старым. Але побач з гэтым ішло і арганізаванае збіранне старых кірыліцкіх кніг і іх паленне. Галоўна вызначаліся на гэтым полі езуіты, дамініканцы і часцю васільяне.

Колькі, якіх кніг, якой гістарычнай цэннасці было за гэтыя дзвесце гадоў спалена, ніхто не ведае.

Аднак паленне кніг на Беларусі не спынілася на XVI, XVII і XVIII ст. Пасля далучэння Беларусі да Расіі пачаўся нанова паход супроць кнігі. Раней каталікі і уніяты шукалі кнігі праваслаўныя, кальвінскія і друг[ія], у XIX ст., наадварот, праваслаўныя вышуквалі кнігі уніяцкія і іх палілі. Яшчэ ў 1860 годзе ў біскупствах Віленскім, Менскім, Віцебскім, Валынскім і Падольскім выдаваліся ўказы, каб паліць уніяцкія кнігі выдання уніяцкага, якія «дагэтуль гніюць у званіцах» у некаторых месцах краю.

Болей, у 1890-х гадах, у часе аб'езду біскупіі віленскім праваслаўным біскупам, была спалена ў Шкунціках Дзіс[енскага] пав. цэлая шафа старых кніг, якія прыпадкова выкрыў сам біскуп у царкве. Акром кніг палілі, праз увесь цяг часу ад XVI ст. да канца XIX ст., абразы, царкоўныя вопраткі, харугві і інш. З адной стараны, рабілі гэта каталікі, асабліва пасля 1860 гадоў, калі за знойдзены ў касцёле абраз ці рэч якую з азнакамі ўсх[одняга] абраду адбіралі касцёл на царкву. З другой стараны — праваслаўныя вынішчалі ўсякую мясцовую старыну, якая не была падобнай па стылю да прынятых у Масковіі.

Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі фактаў. У м. Германавічах Дзіс[енскага] пав. у 1880 гадах быў кс. Плашчэўскі, які спаліў усе абразы і рэчы, звезеныя ў гэты касцёл з суседніх уніяцкіх цэркваў перад іх пераробкай на праваслаўныя. У 1890 гадах у Новым Пагосце было падобнае паленне кніг і рэчаў пры кс. Урбановічу. Тое ж самае адбылося ў 1860-х у Дзісне і Друі. Думаю, старыя людзі памятаюць падобныя факты з другіх аколіц краю. Думаю, што гэткіх і падобных фактаў нішчання мясцовай культуры можна набраць сотні.

І, сапраўды, трэба дзівіцца, якім способам захавалася яшчэ тое, што захавалася з нашай старасвеччыны, асабліва калі прыняць пад увагу, што нішчанне кніг і дакументаў мела на мэце не адно фанатычнае прававерства таго ці іншага абрадку, але яшчэ і мэты палітычныя: зацерці, знішчыць мясцовую крыўска-беларускую гісторыю, а на яе месца прышчапіць сваю, новую. Гэта адзін са способаў, практыкаваны ўсімі заваёўнікамі ва ўсе часы. Гэты спосаб у нас шырока практыкаваўся, асабліва ў XIX ст., палякамі і расійцамі.

Рабілася гэта — у 99 здарэннях на сто — ціха, скрытна. Аб гэтых злачынах маўчаць кронікі нашых культуртрэгераў, але мы павінны гэтыя абураючыя факты нішчання культуры выцягнуць на свет Божы, павінны выказаць перад светам «заслугі» нашых

няпрошаных апекуноў, якіх ужо ў XVI ст. называлі ў нас «не прасвяціцелямі, а гасіцелямі» культуры.

*[1924]*

## НОВЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ

За апошніх некалькі гадоў ужо трэці раз дзеляць Беларусь. Дзялілі камуністы з немцамі і ўкраінцамі ў Бярэсці, у 1918 гаду. Дзяліла савецкая ўлада з палякамі ў Рызе, а цяпер у межах СССР нанова падзялілі святарныя рызы нашай многапакутнай Бацькаўшчыны. На гэты раз падзел зроблены рукамі камуністычнага III Інтэрнацыяналу! Падзел зроблены, як ніводзін дагэтуль, бо пад відам надзвычайнага «дабрадзейства», пад крык захвату камуністычнай партыі аб небывалай, нябачанай «справядлівасці» да беларускага працоўнага народа!…

Паводле пастановы Усерасійскага Цэнт[ральнага] выканаўчага камітэта «незалежнай» Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы перададзены:

1. Са складу Віцебскай губерні па межах старога адміністрацыйнага падзелу паветы: Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Лепельскі, Аршанскі, Полацкі, Сеннінскі, Суражскі.

2. Са складу Гомельскай губерні паветы: Магілёўскі, Рагачоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чэрыкаўскі і воласці: Дзярновіцкая, Мухаедаўская, Нараўлянская, Дудзіцкая са ст. Калінкавічы, Крукавіцкая, часцю Савіцкая, Даманавіцкая, Карпавіцкая цалкам; і часткі валасцей: Аўцюцевіцкай і Якіма-Слабодскай па межах вёсак: Баравікі, Шапейкі, Какуёвічы, Аляксандраўка, Малыя Аўцюцевічы і вёска Домарка.

3. Са складу Смаленскай губерні: Горацкі павет поўнасцю і воласці: Шамоўская, Старасельская, Казімірава-Слабодская і часткі Боханскай, Аслянскай і Сосенскай Мсціслаўскага павета з гор. Мсціславам.

Пасля далучэння гэтых акраўкаў Беларусі да Меншчыны ў Сав[ецкай] Беларусі будзе цяпер 3 800 000 жыхарства. Іначай кажучы, Маскоўшчына падзялілася з Менскам беларускімі землямі папалам: з палавіны зямель, што пад яе абладай, утворана «незалежная» Беларусь, а другую палавіну загарнулі сабе, на русіфікацыю.

Са складу Віцебскай губерні атарваны да Маскоўшчыны тры паветы з пераважаючым беларуска-крыўскім жыхарствам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вяліжскі | абшарам | 3 900, 0 кв. в. з жыхар. | 1 3 2 , 0 |
| Невельскі | — | 3 997, 7 « « — | 1 3 7 , 2 |
| Себежскі | — | 3 184, 0 « « — | 1 2 0 , 1 |
| Усяго | абшару | 11 081, 7 кв. в. жыхароў | 3 8 9 , 3 |

Са складу б. Магілёўскай губерні* атарвана да Маскоўшчыны 2 паветы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гомельскі | абшарам | 4 719, 4 кв. в. з жыхарст. | 3 1 0 , 3 |
| Гарадоцкі | — | 2 487, 0 « « — | 1 6 5 , 7 |
| Усяго | абшару | 7 206, 4 « « жыхароў | 4 7 5 , 0 |

З Чарнігаўшчыны далучана да Беларусі некалькі валасцей Суражскага павета, а рэшта, большая ж часць гэтага павета і, цалкам, 5 іншых паветаў, адарваны ад Беларусі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мглінскі | абшарам | 3 319, 5 кв. в. з жыхарств[ам] | 138,8 |
| Старадубаўскі | « | 2 892, 0 « « « | 189,3 |
| Новазыбкаўскі | « | 3 354, 9 « « « | 255,7 |
| Ноўгарад-Северскі | « | 3 417, 5 « « « | 199,5 |
| Гараднянскі | « | 3 528, 0 « « « | 201,0 |
| Усяго | абшару | 16 511, 9 « « « | 1029,3 |

З быўшай Смаленшчыны (паводле даваеннага адміністратыўнага дзялення) не далучана да Беларусі ні аднаго сантыметра. Гутарка аб далучэнні часці Смаленшчыны абаперта на тым, што па раскасаванню Магілёўскай губерні бальшавікі дакінуўшы былі да Смаленшчыны часць Магілёўшчыны (паветы Горацкі і Мсціслаўскі), цяпер гэту часць (2 паветы), і тыя не цалкам (б. часць Мсціслаўшчыны не ўвайшла), аддалі Беларусі. Гэткім чынам са Смаленшчыны анэксавана 7 паветаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Смаленскі | абшарам | 2 824,2 кв. в. з жыхарст[вам] | 206,3 |
| Бельскі | « | 9764,8 « « « | 201,8 |
| Дарагабужскі | « | 3 357,8 « « « | 129,1 |
| Краснінскі | « | 2 403,8 « « « | 126,8 |
| Парэчаўскі | « | 5 096,8 « « « | 164,0 |
| Рослаўскі | « | 5 503,6 « « « | 239,2 |
| Усяго | абшару | 33 180,1 « « « | 1 251,0 |

Акром таго, яшчэ Рэчыцкі павет Меншчыны (без трох валасцей — Дамавіцкай, Савіцкай і Нараўлянскай):

Абшарам 6250 кв. в., з жыхарствам 180,5.

---

* Бярэм тут за падставу дзеля яснасці даваеннае адміністрацыйнае дзяленне, а не цяперашняе бальшавіцкае; і статыстыку — паводле даных Статыст[ычнага] Камітэту з 1914 г.

*Агулам анэксавана абшару — 74240,1. кв. вёрст.*

*З жыхарствам на гэтым абшары ў — 3 326,1 душ.*

Гэта паводле самага скромнага, прыблізнага, падрахунку; а палічыўшы паветы Бранскай, Тверскай і адарваныя часці паветаў, тут не палічаных, будзе каля 90–100 000 кв. в. і звыш 4 000 000 жыхарства. Гэта знача, столькі ж, колькі забрала і Польшча.

Паднявольная менская прэса аб гэтай крыўдзе маўчыць, наадварот, кураць там кадзілы і пяюць гімны панскай ласкавасці Трэцяга Інтэрнацыянала. Мы, аднак, не можам далучыць свайго голасу да гэных хваласпеваў, бо жаль нам сціскае душу і на вусны ціснуцца словы абурэння. Гэты ганебны новы падзел нашай дарагой Бацькаўшчыны, нараўне з рыжскім падзелам, выклікае ў нас пратэст, тым больш што ён падаецца нам у форме нейкай вышэйшай чырвонай справядлівасці.

Правечна беларуска-крыўскія землі могуць быць вырваны ў Беларускага Народа толькі разам з яго душой!

*[1924]*

## РУХОМЫЯ ДРУКАРНІ НА БЕЛАРУСІ І УКРАІНЕ

Ёсць старасвецкія друкі, месца друкавання якіх трудна акрэсліць. Да выхаду ў свет кнігі Ціхоўскага «Мнимая типография Почаевского монастыря конца XVI и начала XVII ст.» (Киевская старина. 1895, VII—XIII. С. 1 —35) гэткія друкі былі поўнай загадкай для бібліёграфаў. Ціхоўскі ўстанавіў радам доследаў кніг, прыпісваных Пачаеўскай друкарні XVI ст., што кнігі гэны былі друкаваны ў перавозных друкарнях «паходжых» друкароў. Гэтак кніга вучонага манаха Кірылы Транквіліёна-Стаўравецкага[1] «Зерцало богословия» (1618 г.) азначана, што выдана яна ў манастырскай пачаеўскай друкарні, (у гэтым манастыры тады саўсім не было друкарні, але Стаўравецкі меў сваю «паходжую» друкарню, у якой, будучы ў Пачаеве, і надрукаваў вышэйназваную кнігу ўласным коштам і накладам). Тымі ж самымі літарамі той жа сам Стаўравецкі ў 1619 г. друкуе іншую сваю працу ў Рахманаве, на Валыні, а ў 1646 г. у Чарнігаве. Гэткія «паходжыя» друкарні пратрывалі да XIX ст., асабліва якія друкавалі з дрэварытаў. У вучыцеля полацкага кадэцкага корпуса І. Іванова быў цэлы рад аднаго і таго ж дрэварыту св. Еўфрасініі, памечаны рознымі гарадамі і рознай датай XVIII ст.

*[1924]*

## КАЛЬВІНСКІЯ ЗБОРЫ НА БЕЛАРУСІ

Кальвінскія зборы на Беларусі былі ў гэткіх мясцох: у Быхаве, пабудаваны ў XVI ст.; у Дарэўні, пабудаваны ў XVI ст. Сапегамі; у Глыбокім Дзіс[енскага] пав.; у Галоўчыне князёў Галоўчынскіх Аршанск[ага] пав., пабудаваны князем Галоўчынскім у XVI ст., які даіснаваў да XVIII ст.; у Копысі, пабудаваны ў канцы XVI ст. коштам гетмана ВКЛ Крыштафа Радзівіла; у Кавальшчыне, Койданаве каля Менска, Полацку, у Віцебску, Лебедзеве, Лукомлі, Нелевічах, Воршы, Рагачове, Сямёнавічах, Сакольніках, Шацку, Шклове, пабудаваны ў XVI ст. Хадкевічамі, але каля 1619 г. іх патомак, Аляксандр Хадкевіч, яго адабраў ад кальвінаў і аддаў дамініканам; у Тайманаве, Уздзе, Заслаўлі, Смаргонях і ў шмат якіх другіх мясцох.

Сеньёры, г. зн. галоўныя духоўныя зверхнікі над беларускімі кальвінскімі пастырамі, ад часу заснавання ў Беларусі кальвінізму былі гэткія: 1. Філіп Бохвіц—каля 1595 г.; 2. Ян Тумаш Сявіцкі; 3. Марцін Тэртуліян Бялянскі; 4. Тодар Жданавецкі; 5. Фінеаш Гойскі; 6. Марцін Няверскі; 7. Ян Ранізеўскі, каля 1644 г.; 8. Крыштапор з Жарноўца; 9. Геранім з Жарноўца Касарскі; 10. Міхайла Таўбман Трабіцкі; 11. Фларыян Свіда і 12. Даніэль Рымговід, ці Рывід, каля 1732 г.

Месцам аселасці беларускіх сеньёраў было мястэчка Койданава. Асоба сеньёра была вышэйшай уладай у вядомай дыстрыкцыі, або правінцыі, ён назначаў міністраў, г. зн. пастараў, наглядаў за духавенствам, рэвізаваў зборы. У Беларусі і Літве было шэсць сеньёраў, з іх на сінодах старшынстваваў віленскі.

*[1924]*

## НОВАГАРОДСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ МІТРАПОЛІЯ

На ўсходнеславянскіх абшарах у розныя часы былі заснаваны тры метраполіі грэцкага абрадку: Кіеўская, Новагародская і Галіцкая.

Першая, Кіеўская мітраполія, заснавана ў канцы X ст. і абымала ўсе землі, якія ў той час былі пад панаваннем варажскай дынастыі русаў. Кіеўская мітраполія ўстанавіла на важнейшых тагачасных палітычных цэнтрах біскупствы. Да 1200 года былі ўжо біскупствы: у Вялікім Ноўгарадзе, Чарнігаве, Пераяслаўлі, Белгарадзе, Юр’еве (Запольскім), Полацку, Галі чу, Валадзімеры-

Валынскім, Перамышлю, Тураве, Холме, Смаленску і, мабыць, Новагародку.

Заснаванне біскупстваў Тураўскага і Полацкага многія гісторыкі згодна адносяць да X сталецця; біскупства ў Навагрудку магло паўстаць не пазней сярэдзіны XII ст.

Першапачатковая цэнтралізацыя ўлады каля Кіева сыходзілася з варажскімі падбоямі на ўсходнеславянскіх абшарах, але гэты цэнтралізм не мог доўга ўтрымацца. Ужо пры Валадзімеры, у тым жа X ст., мы бачым імкненне аддзельных зямель да незалежнага існавання. Адны з першых выламваюцца з-пад кіеўскай залежнасці землі крыўскія, якія ў гады афіцыяльнага прыняцця хрысціянства выдзяляюцца, з невядомых нам прычын, у асобную палітычную адзінку. Валадзімер, паводле летапісі, аддае іх Рагнедзе і сыну яе Ізяславу як іх дзедзіну каля 980 года. Як часць крыўскіх зямель* у гэтым часе выходзіць з-пад залежнасці русаў і Новагародак.

Хрысціянства ўсходнага абрадку ў Новагародскай зямлі арганізуецца і крэпне пры невядомых нам варунках. У другой палавіне XIII стагоддзя яно нагэтулькі тут змоцнілася, што візантыцкі імператар Андронік Старшы[1] ў 1291 годзе зацвярджае ўжо аўтакефальную Новагародскую мітраполію, а канстанцінопальскі патрыярх Ян XII Салодкі (Glykys) назначае новагародскаму аўтакефальнаму мітрапаліту 82 пасад: «Litborum»** eadem et Litbada dicuntur, guae sunt vicina magnae Russiae, factae sunt metropolis obtinueruntgue thronum 82 per imperatorem domnum Andronicum sub sanctissimo patriarcha domno Joanne Glykys (Dulcis) anno 6800 (1291/2). (Тэкст з Андронікавага каталога рускіх біскупстваў, які знаходзіцца ў Парыжскай Акадэмічнай бібліятэцы, № 1352.)

Дагэтуль невядома, чым можна тлумачыць адносна высокае становішча, прызначанае маладой Новагародскай мітраполіі ў

---

* Што землі гэтыя слылі пад назовам крыўскіх, відаць з летапісных зменак краёвых і заграмічных; між іншымі крыжацкі кронікар Дусбург (Dusburg, c. 315) пад 1314 годам піша: Frater Henricus Marschalcus… venit ad terram Crivitae, et civitatem illam, guae parva Nogardiadicitur cepit». (Брат Генрык Маршалак… прыйшоў у зямлю Крывіція і места яе, каторае Новагародкам завецца, здабыў.)

** У грэцкіх дакументах сустракаюцца гэткія напісанні: Litborum, Luthovia, Luthavia, Lethovia, Letoini, Letvani, Lutvani, Lutheni, Letvoini. Новагародак пісалі: Новогродополіс.

іерархіі грэцкай царквы, бо на 110 біскупскіх крэсел, якія існавалі ў тыя часы ў радзе патрыярха, ёй прызначаецца 82-е месца*.

Новагародская мітраполія на адзінаццаць гадоў старэйшая за Галіцкую, якая з'яўляецца трэцяй з чароду. Галіцкая мітраполія ўстаноўлена тым жа імператарам Андронікам пры патрыярху Апанасе ў 6811 годзе, паводле храналогіі грэцкай, або ў 1303 годзе па нарадж[энні] Хрыста.

Усе дакументы, датыкаючыя Новагародскай мітраполіі, загінулі, і толькі кароценькія зменкі — ледзь след таго, што існавала яна, — знаходзяцца ў грэцкіх крыніцах. Адно пэўна, што Новагародская аўтакефальная мітраполія існавала ўжо да Гедыміна. Імя аднаго з першых новагародскіх мітрапалітаў было Тэафіль. З дыпламатара візантыйскіх патрыярхаў відаць, што ў красавіку 1329 года, пры Гедыміне (1316–1341), мітрапаліт Тоўтвіль (Tovtvilus) прымаў удзел у канстанцінопальскім сінодзе (Acta patriarch. Constantin. 1. С. 147). Акром гэтага, новагародскія мітрапаліты ўпамінаюцца як удзельнікі Канстанцінопальскіх сінодаў у 1317 г. (жнівень) і 1327 г. (студзень), але — безыменна. (Latopisiec Litwy. Выд. Даніловіча. С. 72 і 143).

Устанаўленне ў Новагародку аўтакефальнай мітраполіі было вынікам змагання яго з цэнтралізмам Кіеўскай мітраполіі, якая ўвесь час і пазней напірала на канстанцінопальскі патрыярхат, дамагаючыся скасавання гэтай мітраполіі. Але Новагародак упорна вёў змаганне за сваю незалежнасць і, як аказуецца,— даволі памысна. Пацвярджае гэта той факт, што ў ліпні 1361 года патрыяршым лістом акрэсляюцца граніцы Новагародскай мітраполіі, у склад яе ўходзяць: архібіскупія Новагародская, біскупіі Тураўская і Полацкая. Урэшце ў гэтым часе Новагародак выяўляе імкненне ўзалежніць ад сябе не толькі Галіцкую, але і Кіеўскую мітраполію.

Палітыка Альгерда (1355–1377) была скіравана на ўсход і імкнулася да ўтварэння з крыўскіх, украінскіх і літоўскіх зямель

* Гэта тлумачыцца, можа, тым фактам, што новагародская княжая дынастыя членаў сваёй сям'і пасвячала на вышэйшыя духоўныя ўрады. З летапісаў мы даведваемся, што ў Лаўрышаўскім манастыры ў 1262 годзе быў мніхам Войшалк (Лаўрын), у 1278 г.—сын Тройдэна Рымант. Брат жонкі Альгерда (Марыі Яраслаўны, княжны віцебскай), віцебскі князь Раман, у першай палавіне XIV ст. быў новагародскім мітрапалітам. Гэтая цесная сувязь дзяржаўнага кіравецтва з царкоўным хіба і была прычынай той высокай ступені, якой патрыярхат надзяліў Новагародскую мітраполію.

вялікай дзяржавы ад Балтыцкага да Чорнага мора. Дзяржаўнага аб'яднання ён сваёй мудрай палітыкай дасцігнуў: яго ўлада пашыралася на Віцебск, Смаленск, Вільню, Новагародак і Кіеў. Але ён разумеў, што гэта вялікая дзяржава можа ўтрымацца толькі тады, калі жыхары яе будуць зліты ў адно цэлае рэлігіяй. Да гэтага акту спасобіўся Альгерд і, як здаецца, спасобіў да таго ўсе свае землі. Але перш ён хацеў мець у межах сваёй дзяржавы кіравецтва праваслаўнай царквой. З гэтай мэтай пачаў дабівацца ў канстанцінопальскага патрыярхату, каб брат яго жонкі (Марыі Яраслаўны, кн. віцебскай), князь Раман, мітрапаліт новагародскі, быў высвячаны на мітрапаліта «ўсей русі», з аддачай пад яго зверхнасць мітраполіі Новагародскай, Галіцкай і Кіеўскай.

Гэтага апошняга баялася Масква і са сваёй стараны рабіла захады перад патрыярхам, каб яе кандыдат, Аляксей, быў высвячаны на мітрапаліта Кіеўскага і «ўсей русі», а месцам прабывання ў Валадзімеры-Суздальскім.

У 1354 годзе канстанцінопальскі патрыярхат, атрымаўшы ад абодвух кандыдатаў багатыя дары, абодвух жа, і маскоўскага — Аляксея, і новагародскага — Рамана, немаль адначасова высвяціў на кіеўскіх мітрапалітаў і «ўсей русі».

З гэтага моманту пачынаецца доўгае і ўпорнае змаганне за ўплывы над праваслаўнай царквой паміж Літвой і Масковіяй. Як вынік гэтага змагання ўтвараецца яшчэ адна новая мітраполія — Валадзімера-Маскоўская. І Масква і Новагародак імкнуцца заваладзець тытулам кіеўскага мітрапаліта. Масква з гэтай мэтай пачародна ўсіх першых сваіх мітрапалітаў кананізуе і ставіць на алтары, акружае іх аўрэолем святасці. Адна і другая старана добра разумее, што каля пытання аб цэнтры царкоўнага кіравецтва важацца лёсы, пад кім аб'яднаецца ўсходняя славяншчына — пад нашчадкамі Гедыміна ці Івана Каліты[2]. Масковія была паярэмлена татарамі, Літва была вольнай. Усе шансы былі на старане Гедымінавічаў.

Ход гісторыі быў павернуты саўсім у іншы бок сынам Альгерда, в. кн. літоўскім Ягайлам, які перайшоў у каталіцтва і злучыў Літву з Польшчай. Ягайлавічы сталіся прапагатарамі рымскіх уплываў, а Масква атрымала нечаканы сукцэс: у яе рукі перайшло кіравецтва «рускай верай» і — што з гэтага вынікае — народнасцю. Вял[ікі] кн[язь] маскоўскі становіцца адзіным праваслаўным манархам на славянскім усходзе.

Гэтае становішча стараўся ратаваць Вітаўт, яркі прадстаўнік дзяржаўна-незалежніцкай думкі. Убачыўшы, што грэцкі патрыярхат спрыяе Маскве, што імкнецца крыўска-літоўскую

царкву паддаць пад зверхнасць маскоўскага мітрапаліта, а дзеля гэтага адмаўляецца высвячаць у Новагародак аўтакефальнага мітрапаліта, Вітаўт склікаў у 1416 годзе праваслаўны духоўны сабор. На гэты сабор прыехалі ў Новагародак біскупы полацкі, чарнігаўскі, луцкі, валадзімерскі (з Валадзімера-Валынскага), холмскі, тураўскі і смаленскі. Сабор, паклікаючыся на сваю гісторыю (на прыклад кананічнага высвячэння Кліма Смаляціча ў 1147 годзе саборам мясцовых біскупаў), на гісторыю іншых нацыянальных цэркваў (балгарскай, сербскай), на каноны і традыцыі, выбірае сабе ў мітрапаліты Грыгора Цамблака[3], які катэдру сваю пераносіць у Вільню.

Гэта быў рэвалюцыйны крок, які вёў да поўнага аддзялення крыўска-літоўскай царквы ўсходняга абраду ад канстанцінопальскага патрыярхату і да ўстаноўлення самаістай нацыянальнай царквы. Наша мітраполія яшчэ не парывае з Канстанцінопалем, прызнае яго зверхнасць над сабою, але цвёрда выказуе волю быць незалежнай. Гэтак вызваляліся ўсе нацыянальныя цэрквы. На жаль, становішча праваслаўя пры Ягелонах не дало магчымасці маладой царквы акрыяць і ўзмоцніцца. Апынуўшыся на палажэнні «сызматыцкай», яна з’яўлялася аб’ектам лацінізацыі; царква гэта прымушана была ўрэшце здацца і шукаць сабе апоры ў Канстанцінопалі і Маскве. Наступнікі Цамблака, новагародска-віленскія мітрапаліты пад напорам уніі, бароначы свайго абрадку, усе свае надзеі пакладаюць на ўзрастаючую ў сілу Масковію.

Гэтак былі змарнаваны аграмадныя высілкі раду пакаленняў, якія імкнуліся да ўтварэння нацыянальнай крыўскай царквы. Ягелоны цягнулі праваслаўную царкву праз унію ў каталіцтва, а дзяржаву — праз унутраныя закалоты — у пропасць.

Канчаючы гэты нарыс, трэба сцвердзіць, што Новагародак і Новагародская зямля займае адно з першых месц між тымі землямі, якія адыгралі ў гісторыі нашага палітычнага і культурнага жыцця выдатную ролю. Дзякуючы таму, што тут заснавалася мітраполія ў XIII ст., а біскупія існавала шмат раней, Новагародак быў цэнтрам, як даўней казалі, «книжного почитания», г. зн. — сабірання, перапіскі і начытанасці ў кнігах. З новагародскай зямлі дайшоў да нас значны лік помнікаў нашай мовы— пергаміновыя рукапісы, пачаўшы ад XIII ст. Лаўрышаўскае евангелле[4], якое знаходзілася ў Лаўрышаўскім манастыры, заснаваным Лаўрынам, сынам Гедыміна[5], займае адно з першых месц як у гісторыі пісьменніцтва, так і ў гісторыі нашага мастацтва. Каля мітрапалічай сталіцы тут збіраліся лепшыя сілы краю, якія

будавалі культуру і шырылі асвету. Мусілі існаваць тут і школы і бібліятэкі. Усё гэта цяпер распарушылася: Лаўрышаўскага слаўнага манастыра і следу няма, Новагародак стаўся малым правінцыяльным мястэчкам, бо заняпала сіла гаспадара зямлі ў чужацкай няволі.

*[1924]*

## КРЫЎСКІ ВАРЫЯНТ БЫЛІНЫ АБ ІЛЛІ МУРАМЦЫ

Гэтым варыянтам быліны з'яўляецца вядомы перапеў аб звязку Іллі з бабай Латыгоркай і бітве яго з сынам.

Баба Латыгорка прыналежыць да ліку жанок-волатаў. Пры сустрэчы з Іллёй паміж імі завязуецца бой, яны абое ўтоптуюцца ў зямлю па калені, але Ілля перамагае Латыгорку і ўрэшце збліжаецца з ёй. На трэці дзень Ілля расстаецца з бабай і дае ёй персцень, кажучы, што калі родзіцца сын, каб яна аддала яму гэты персцень.

Калі сыну скончылася 17 гадоў, ён папрасіўся ў маці «ў чыстае поле». Маці, выпраўляючы, засцерагае, каб ён са старым харобрам, які «на каню сядзіць-ківаецца, бела галава яго прыкланяецца, сіва барада раздваяецца», не біўся, бо — «то будзе родны бацька табе». Сын выехаў у старану той заставы, дзе Ілля з шасцю іншымі харобрамі стаяў. Раз, раніцай, Ілля выходзіць на раку мыцца і бачыць добрага маладца: «Пад ім конь, як люты звер, сам маладзец, як ясны сокал». Добра пасадка маладзецкая, гожа зброя ваяцкая. Вяртаецца Ілля ў шатро і, апавядаючы, выклікае, каб той, хто ўсіх смялейшы, у каго конь нуднейшы, паехаў удагон за ім і выпытаў яго аб дзедзіне і айчыне. Вызваўся Алёша Паповіч і паехаў за маладцом. Едзе дзень, другі, а на трэці даганяе і крычыць зычным голасам: «Ты пастой, пастой, добры маладзец! Ці ты рускі багатыр, ці засельшчына-вяскоўшчына, ты ці каня ўкраў, ці мужыка забіў ды сюды заехаў, чванішся, чужым імем называешся?»

Маладзец, учуўшы гэты словы, павяртае каня свайго лютага, бярэ Алёшу за белыя рукі, знімае з каня яго, бярэ сваю пугу («шелепугу») падарожную, сцябае Алёшу, садзіць яго ізноў на каня і адпушчае. Едзе Алёша назад, як п'яны: «ківаецца, на сядловы лук прысланяецца». Убачыўшы гэта, Ілля кажа яму: «Казаў я табе, Алёша, наказваў: не пій зялёна віна, не еш салодкіх страваў». Але Алёша адпавядае: «Напаіў мяне добры маладзец дап'яна,

накарміў ён мяне дасыта пугай падарожнаю». Ілля зара сам садзіцца на каня і едзе ўдагон. На другі дзень, на світанні, дагнаў яго. Ударыліся харобры паліцамі баявымі, — паліцы паламаліся. Скочылі з добрых коні і сталі біцца «на кулачны хват». Збіў маладзец Іллю на сыру зямлю, садзіцца яму на белыя грудзі і кажа: «Ты, базыга стары, зачым ты на малога хлапца накідаешся!» Тут Ілля памаліўся, — яму сіл прыбыло, і падабраў пад сябе маладзёна. Але, убачыўшы на руцэ пярсцёнак, спазнаў, што гэта сын, адпусціў яго, кажучы кланяцца матцы і прыязджаць біцца, калі яму будзе 30 гадоў. Сын ад'ехаў, але пасля раздумаўся: дома будуць з яго насміхацца. Вяртаецца і нападае на спячага Іллю з нажом. Нож трапляе ў сяміпудовы крыж на грудзёх Іллі, — і ён, абудзіўшыся, забівае сына.

Ведама 28 запісаў гэтай быліны. Перайшоўшы ў вусных пераказах некалькі пакаленняў і, урэшце, апынуўшыся на далёкай поўначы і ўсходзе (у Сібіры), быліна гэта, саўсім натуральна, немаль у кожным запісу мае іншыя імёны. Дзеля гэтага, як адгалосак XVII ст., часамі сам Ілля называецца данскім казакам, сын Іллі: Падсакольнік, Сакольнік, Жыдавін, а па імю Барыс, Барыс Збут (у Кіршы), Пётр, Кузьма, Васілі, Апалонішча Дадаровіч і інш.

Імёны бабы: Латыгорка, Златагорка, Сямігорка.

Месца дзейнасці: на «Латынскай дарозе», «пры літоўскіх заставах» (Гільф[ердзінг]. № 246, 250 і 260).

Змаганне бацькі з сынам прыналежыць да вельмі пашыраных тэм сярэднявечных і старавечных эпасаў. Гэты матыў узнік і развіўся на грунце старадаўных племянных і матрыярхальных стасункаў. Адно племя стыкаецца з другім і перамагае яго, павадыр-пераможнік заваладзевае жонкай або дачкой забітага кіраўніка пераможанага племя, або, калі на чале паняволенага племя стаяла жанчына — што ў даўнасці часта бывала, — паступае з ёй па праву вайны, г. зн., уступае з ёй у часовую сувязь, прымусовую ці непрымусовую — залежала ад акалічнасцяў. Плодам гэткай прыпадковай сувязі з'яўляецца сын, які вырастае на мсцежніка знявагі сваёй маці. Рана-позна сын сустрачаецца з бацькам, і паміж імі завязваецца бой.

Адна легенда, запісаная Герадотам, кідае цікавае святло на гэткія легендарныя матывы. У часе сваіх падарожаў грэцкі герой Геракл трапіў раз у Скіфію, якая тады не была яшчэ заселеным краем. Калі ён аднаго разу заснуў, прапалі яго коні. Геракл, прабудзіўшыся, абшукаў увесь край і не знайшоў коні. Урэшце ён прыйшоў у зямлю, якая называлася Гілеей (Лесавой).

У адной ямязе тут ён знайшоў істоту, каторая напалавіну была дзяўчынай, а напалавіну— змяёй. Гэта дзяўчына-змяя і забрала Гераклавы коні. Геракл сышоўся з дзяўчынай і, пакідаючы яе, аставіў свой лук і пояс. З гэтай звязі радзіліся тры хлапцы, бацькі трох народаў: агатырсаў, гелонаў і скіфаў.

Вышэйпададзеныя прыклады паказваюць, што ва ўласных імёнах нашага варыянту быліны трэба шукаць канкрэтных назоў плямён народаў.

Баба Латыгорка, гэта не што іншае, як летапісная Латыгола, Лотыгола, Латыгора, Латигола, пад якімі найменнямі ў летапісах выступае народ летгола (латышы). Другое імя, даванае былiннай мацеры сына Іллі, — Земігорка, Семігорка, — пакрывае сабой імя літоўскага племя земігола, зімгола. Імя гэтае ўпамінаецца ў Пачатным летапісе пад 1106 годам (у 1106 годзе земігола разбіла сыноў Усяслава Полацкага), а пазней яно зусім сыходзіць з балонак летапісаў. У лацінскіх актах і кроніках XIII—XIV ст. пішацца: Semigalia, terra Semgalla, Semigalli, Semigalensis. У нашай пісьменнасці: жеймігола, жемгалла, жемігалла, жемойть.

Латыгола, сустрачаная пад 1200, 1228, 1242, 1264, 1281 гг., сыходзіць з балонак летапісаў у XV ст.

Латыгола і жэмгола мелі закалоты толькі з крывічамі, гэтым і тлумачыцца тое, што, акром Пачатнага летапісу, імя жэмголы іншыя рускія летапісы не падаюць: у іх не было стычнасці з гэтым літоўскім племем, якое жыло на левым беразе Дзвіны, ніжэй цяперашняга Дзвінска.

«Латынскай» дарогай называўся даўней шлях па Дзвіне да Полацка і Смаленска, па якім прыбывалі ў Крыўскую зямлю госці з Захаду. У тарговых смаленскіх умовах з немцамі з 1229 і 1265 гг. «лацінскімі гасцямі» і «лацінскім языком» названы нямецкія купцы. У «Софийским временнику» пад 1271 і 1272 гг. «паганай лацінай» называюцца крыжакі, а ў Пскоўскім летапісе — шведы.

Слова «застава» ўжывалася даўней у значэнні вайсковай дружыны, якая вартавала граніц дзяржавы. Акрэсленне «літоўская» паказвае, што гэта застава стаяла на Дзвіне для абароны Полацка ад двух суседніх народаў: латыголы і жэмголы.

Гэтыя наменклатурныя даныя пазваляюць устанавіць, дзе была зложана быліна: той тэрыторыяй была Полацкая зямля. Можна ўстанавіць такжа на аснове гістарычных даных, не пазней якога часу гэта быліна была зложана. У пачатках XIII ст. Полацкая зямля ўходзіць у сувязь з Літвой, а знача, быліна магла быць зложана толькі раней XIII ст.

Харобр Ілля сімвалізуе сабой заваёўнікаў-варагаў, якія галоўнае гняздо мелі ў Кіеве, дзе ім рана ўдалося згнясці найслабейшае спаміж усходнеславянскіх плямён — палянаў. Эпітэт Іллі «Мурамец» навейшага паходжання. Філон Кміта-Чарнабыльскі[1] (XVI ст.), аршанскі стараста, у сваіх лістах да Астафія Валовіча, троцкага ваяводы, раўняючы сваю пагранічную службу са службай Іллі на заставах, называе яго «Муровленіном»; іншыя пісьменнікі XVI і XVII ст. называюць: Моровлін, Муровіч, Muravitz, Murovitza, гэта не што іншае, як перакручанае першапачатковае Мурманін, Урманін, што значыла Норман, Нормaнскі. Ітак, Ілля Мурамец азначае — Ілля Нарман, Нарманец. Што гэтак называлі варагаў-заваёўнікаў, сведчыць т. зв. Іакімаўскі летапіс, дзе вядомы заваёўнік Кіева Алег названы князем Урманскім.

Імя сына Латыторкі і Іллі ў некаторых одпісах — Барыс, Барыс Збут. Гэтае імя сына сыходзіцца з імёнамі некалькіх полацкіх князёў, у гэтым ліку — і таго полацкага князя Барыса, якога гранічныя камяні, датаваныя 1171 годам, дагэтуль ляжаць на Дзвіне ніжэй Полацка.

Аснова быліны гэтай зусім сходна такжа з легендай, запісанай у кіеўскіх летапісах аб жаніцьбе Валадзімера кіеўскага з полацкай князёўнай Рагнедай, плодам якога звязку быў сын Ізяслаў, пратапляста дынастыі крыўска-полацкіх князёў. Крыўскія землі, як ведама, ніколі не былі ўласнасцю кіеўскай дынастыі і не ўваходзілі ва ўдзельную сістэму гэнага княжага роду. Станавілі яны саўсім асобную дзяржаўна-палітычную адзінку. Самі полацкія князі хоць па веры сябе называлі «русамі», але побач гэтага мянаваліся «крыўскімі». Гэта, усё ўзятае разам, дало права аўтару ці аўтарам быліны асацыязаваць патомкаў Ізяслава — а па іх і ўсё крыўскае племя — як мяшанцаў нарманскай крыві з невядомым мясцовым племем. З гэтай прычыны пад сынам Латыгоркі і Іллі сімвалізаваўся крыўскі народ. Мог тут заблутацца і яшчэ адзін гістарычны момант: полацкі князь Барыс Гінвілавіч меў жану па імю Баба і дачку Софію, якую выдаў за нямецкага рыцара Дзітрыха (Narbut, III, 479).

Цяпер астаецца ўстанавіць час, у які кіеўскія нарманы-русь маглі трымаць заставу супроць латыголы і земіголы. Гэткі момант быў адзіны раз, між 1129 і 1132 годам. У 1129 годзе крыжовым паходам усіх князёў Рурыкавічаў была заваявана Крыўская зямля, князі яе ўзяты ў палон і сасланы да іх сваяка, візантыйскага імператара, у Грэцыю. Мсціслаў кіеўскі пасадзіў у Полацку свайго сына Ізяслава, ведама ж, з варажскай дружынай. Гэта

дружына і стаяла на заставах крывічанскіх да 1132 года, калі іх паўстаўшы народ прагнаў.

Цікава адзначыць яшчэ адзін сімвалічны эпізод быліны. Калі сын Іллі варочаецца, каб, напаўшы, забіць бацьку (магчыма, намёк на паўстанне), то нож сына трапляе ў крыж, які ратуе жыццё Іллі. Гэты эпізод саўсім згаджаецца з гісторыяй: кіеўскія нарманы-русь былі афіцыяльнымі «апосталамі» хрысціянства, і калі сілы праціўнікаў у змаганні былі і роўныя, то ўсё ж на старане нарманаў была яшчэ адна грамадная сіла — прадстаўніцтва хрысціянства, зцэнтралізаванага каля Кіева.

Ітак, быліна «Аб Іллі Нарманцу, бабе Латыгорцы і сыне іх Барысе» была ўложана на тэрыторыі Полацкай зямлі нарманскімі дружынікамі між 1129 і 1200 годам. Сімвалізуе яна стасункі паміж нарманамі, крывічамі і літоўска-латышскімі плямёнамі. Быліна гэта ў XVI ст. была добра ведама і ў нас, як гэта відаць з ліста Кміты-Чарнабыльскага да Валовіча.

Да заходняга, немясцовага, паходжання Іллі Мурманіна даюць вельмі цікавыя даныя старасвецкія спіскі святых. Як ведама, Ілля праз сваю папулярнасць у народзе быў палічаны манахамі ў лік святых. У Кіеўскім Пячэрскім манастыры паказывалі нават у XVII ст. яго мошчы. Вось жа ў святцах Ілля Мурамец заўсёды фігуруе ў ліку святых «левай» стараны, гэта знача — заходняй (бо «правай» звалася ўсходняя старана, затым ішлі староны: «южная» і «северная»). А ў адным спіску святцаў (падае Буслаеў у «Др[евней] русск[ой] народ[ной] поэз[ии].» СПБ. 1861. С. 356) ён пастаўлены побач з св. Ульяніяй, княгіняй альшанскай. Гэта яшчэ адзін лішні дакумент, які кажа, што ў старасвеччыну ніхто не думаў гэту мітычную асобу, сімвалізуючую нарманаў-русь, залічаць да хоць бы мітычных дзеячаў мясцовага кіеўскага ці суздальска-маскоўскага паходжання. Царква, якая ішла рука ў руку з русамі, добра ведала, што яны не мясцовага, а заходняга паходжання, і гэта зафіксавала, выкарыстуючы «святасць» мітычнага «Мурманца».

Пададзеныя тут вывады, разумеецца, не выключаюць таго, што на Мурманца былі перанесены тытанічныя азнакі, узятыя з паганскага Перуна; гэтае пытанне тут не разбіралася, як не ўходзячае ў закрэс гэтага нарыса.

*[1924]*

## ВІЛЕНСКАЯ ГРЭКА-ЛАЦІНА-РУСКАЯ АКАДЭМІЯ

Цэрквы і манастыры ў даўнія часы былі вогнішчамі — калі не культуры, то, прынамні, — граматнасці. На долю віленскага Святатроіцкага манастыра выпала пачэсная доля быць сапраўдным культурным цэнтрам у працягу даволі доўгага часу.

Святатроіцкая царква і манастыр заснаваны ў палавіне XIV ст. жаной вял[ікага] кн[язя] Альгерда кн[ягіняй] Юльяніяй. Магчыма, што, як усюды ў тыя часы, так і тут пры манастыры была школа для навукі чытання і пісання, але дакументаў, сведчучых аб гэтым, ніякіх не захавалася. Фундаваная кн. Юльяніей царква была драўляная.

Каля 1458 года пры Святатроіцкім манастыры ўтварылася брацтва*, якое ставіла сабе мэтай, між іншым, помач убогім і выхаванне дзяцей («Вест. Юго-Зап[адной] Росс[ии]». 1864. Т. IV. Б. 9). З гэтага часу існуе тут школа для дзяцей грэцкага абрадку.

У 1514 годзе князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, ваявода Вял[ікага] Кн[яства] Літоўскага, фундаваў тут мураваную царкву ў памяць перамогі над Масквой пад Оршай у 1513 годзе[1]. Запісуючы значныя абшары зямель на манастыр, Астрожскі ў сваім фундушовым запісу (дахаваўся ў копіі пачатку XVII ст.) абавязаў мніхаў «*мети школу для деток хрестиянских*» і на гэту мэту асобна прызначыў 400 коп грошы шырокіх літоўскіх**. Аб праграме гэтай школы таксама не маем ніякіх даных.

У 1538 годзе в. кн. Жыгімонт[2] пацвердзіў Троіцкае брацтва са школай асобнай граматай. Гэткія ж граматы дадзены былі каралямі Сцяпанам Баторым[3] у 1581 годзе і Жыгімон-там III[4] ў 1588 годзе («Вест. Юго-Зап[адной] Росс[ии]». Т. IV).

З другой палавіны XVI ст. захаваліся датаваныя 1562 годам вучнёўскія выпрацаванні з грэцкай граматы, пісаныя на чыстых балонках дакументаў (Царкоўны архіў св. Тройцы). Дзеля гэтага дату 1562 г. трэба прыняць як пэўную, датычна існавання тут школы вышэйшага тыпу. І гэта сыходзіцца з пазнейшымі дакументальнымі данымі.

---

* Гэтае брацтва зацверджана патрыярхам у 1588 годзе.

** Дзеля таго, што аб фундаванні іншых школ Канстанцінам Іванавічам Астрожскім нічога не ведаем, то трэба думаць, што надпіс на яго нагробку ў Кіева-Пячэрскім манастыры «ради отроков училища созда» адносіцца да фундавання гэтай віленскай школы (Зраўняй «Собр[ание] документов» гр. Румянцева I, 403 у дапіску і «Obraz Litwy» Jaroszewicza. Cz. III, 216).

У часе бытнасці сваёй у Вільні канстанцінопальскі патрыярх Іерэмія, у 1588 годзе, застае тут школу ў доме брацкім «*языка греческого, латинского и руского*» і сваім прывілеем, пісаным у Вільні, пацвярджае гэтыя школы і само Троіцкае брацтва.

З прывілею караля Уладыслава IV, пісанага ў 1633 годзе, даведваемся, што ў яго часы ў Троіцкім віленскім манастыры «*у церкви служечи и у школах працуючы законницы знайдовалися*» і што ў гэтым часе брацтва мелася перанесці сваю школу ў новае памяшчэнне: *«А так теперь впродменованые братие Брацтва церковного монастыра виленского, Дом прозываемый Намшеевски каменицу муром и деревом побудованую на вечность купили собе у ловчого нашого великого князства литовского урожоного Яна Нарушевича, а другии Дом также муром и деревом побудованый вечностию надал им на тое ж Брацтво их церковное мещанин наш виленский Брат их до того Брацтва уписаный Якуб Кондратович, которые Домы обадва посполуж с собою лежат в месте нашом столечном виленском идучы з рынку до Острое Брамы по левой Руце… межы Домами з одное Филиповое Шишковичовое а теперешное Яновое Завишиное Настазыи Трызнянки а з другое стороны подле Дому мурованого детей мещанина нашого виленского зешлого Богдана Пашкевича Видбленина, тые обадва Домы заодно на Дом Брацтва их церковного злучоные на школы и на выховане в нем людей ученых духовных и свецких… прывилеем нашым ствердили*».

Гэткім чынам Святатроіцкая брацкая школа ў пачатку XVII ст. не магла ўжо памесціцца ў сваім старым будынку, і брацтва набыло яшчэ для сваіх школ два мураваныя будынкі, якія злучыла ў адзін. Гэта апошняе сведчыць аб наплыве студэнтаў і папулярнасці школы.

Пры гэтых школах была бурса для незаможных студэнтаў, што відаць з таго ж самага прывілею, у якім кажацца аб тым, што братчыкі «*искали помешканя для убогих студентов*». (Прывілей надрукаваны ў «Вест[нике] Юго-Зап[адной] Росс[ии]». Кн. VIII, балонкі 13–23.)

Імёны прафесараў гэтай вышэйшай крыўскай (беларускай) школы, на жаль, не ўсе захаваліся, але і з вядомага ўжо нам відаць, што гэта школа належала да важнейшых цэнтраў краёвай асветы. У ліку прафесараў яе былі такія выдатныя тагачасныя вучоныя, як Сцяпан Кукель (Зізаній)*[5], Кірыл Лукарыс[6], пазней-

* Сцяпан Кукель у судовым дакуменце з 1597 года называецца «бояриномъ господарским повету Троцкого» (дакумент у сабранні В. Ластоўскага).

шы канстанцінопальскі патрыярх, Кірыл Транквіліён, Мялецій Сматрыцкі[7], Лявонцій Карповіч[8] і інш. Некаторыя з іх самі вучыліся ў заграні́чных універсітэтах і паводле асветы нічым не ўступалі прафесарам тагачаснай віленскай езуіцкай акадэміі. Палемічныя творы, якія выйшлі з-пад пяра гэтых асоб і іх вучняў, маюць азнакі выдатнай вучонасці (зраўняй: Харламповіч[9]. Зап[адно]-русск[ие] прав[ославные] школы).

Школу падтрымлівалі праваслаўныя магнаты багатымі фундацыямі. У 1593 годзе князь Палубенскі запісаў віленскаму Святатроіцкаму брацтву вялікі фундуш «*на школу для науки руского писменья и греческого и латинского, для твиченья и учения в оной школе детей у науках вшеляких, так языка греческого и латинского, яко и иных*» (Первольф[10]. Славяне. Т. III. Ч. II. Бал. 215). Кароль Жыгімонт III ў 1614 годзе надаў Святатроіцкаму брацтву вялікую маетнасць Таракане (Wiśniewski. Hist[oria] Lit[eratury] Polski.). У 1617 годзе Корсакі, запісуючы фундуш на брацтва, значную часць яго выдзяляюць «*на науку вшелякую в Акадэмии Брацкой Виленской и на бурсу студентов бедных*».

У наданні Корсакаў першы раз Святатроіцкая грэка-лацінаруская школа выступае пад найменнем акадэміі. Відаць, што назова гэта была прыватная, бо ўрад прызнаваў у Вільні тытул Акадэміі адзіна толькі школе езуіцкай.

Гэткіх і падобных ім запісаў, як відаць з Святатроіцкага архіва, было нямала. З наданых «добродзеямі брацтва» фундушаў брацтва аплачвала прафесараў і ўтрымлівала бурсу для бедных студэнтаў.

Як усюды, так і тут быў роблены асаблівы націск на навуку лацінскай мовы, якая тады была азнакай адукаванасці і вельмі патрэбнай у практычным жыцці грамадзяніна. «Лацінская мова, — кажа адзін тагачасны аўтар,— патрэбна, каб нашае беднае Русі не называлі глупай Русью, прастакамі і каб бедны русін на соймах, сойміках і судах разумеў, у чым справа, і не траціў праз сваё нязнанне лаціны (bez łaciny płaci winy); мовы грэцкая або славянская не могуць замяніць, — кажа ён, — лацінскай, тым больш што кніг лацінскіх у галінах розных навук многа» (Lithos abo kamień z pracy prawdy… 1644).

Дзеля гэтага навука лаціны займала ў гэтай школе першае месца. Затым, далейшая праграма навук нічым не рознілася ад праграмы ў езуіцкай віленскай акадэміі. Бачым мы тут тыя ж самыя беззмястоўныя публічныя дыскусіі, разыгрыванні містэрый, навуку багаслоўя, граматыкі — грэцкай, лацінскай, рускай і польскай, — рыторыку, дыялектыку, паэтыку, філасофію, арытмэтыку, музыку і інш. Усяго нават зашмат, акром практычных

навук, з якіх адно толькі права заслугоўвала на ўвагу тагачасных акадэмій. Магчыма, што з бегам часу з гэтай акадэміі развілося бы сапраўднае вогнішча веды, але гісторыя пайшла іншым шляхам: казацкія выступленні на Украіне пацягнулі да сябе ад нас выдатнейшыя сілы, якія стаялі на стражы «рускага» народа ў Рэчы Паспалітай, і ў выніку кіеўская Магілянская акадэмія ўзяла ў свае рукі стырно «рускай» навукі, а нашы грэка-лаціна-рускія школы — Менская, Берасцейская, Аршанская, Пінская, Віленская, Бельская, Слуцкая, Магілёўская — пачалі падупадаць пад націскам школ езуіцкіх, асабліва з другой палавіны XVII ст.

*[1924]*

## ПАЧАЙНСКАЯ ДРУКАРНЯ

Акром Пачаева (на Украіне) існаваў да 1685 года манастыр у Пачайне, недалёка ад Оршы. Гэты манастыр меў сваю друкарню, якая каля 1630 года была перанесена ў Куцейну, бо маетнасць Пачайны перайшла ў рукі езуітаў. Ні ў расійскіх, ні ў польскіх бібліёграфаў Пачайнская друкарня не адзначана. Друкі, выйшаўшыя з нашай Пачайны, імі адносяцца да друкаў у Пачаеве (украінскім), хоць на некаторых кнігах ясна абазначана: «Почайна», «въ Почайне», «Почайве», а не «Почаевъ», «въ Почаев». Гэта друкарня чакае яшчэ свайго даследчыка. У архіве Мсціслаўскага касцёла маюцца судовыя дакументы (з манастыром Пачайнскім), у якіх упамінаецца і манастырская друкарня, перанесеная каля 1630 года ў Куцейну. У хуткім часе, пасля 1635 года, манастыр быў закрыты і больш не аднаўляўся. З гэтага часу Пачайна сталася рэзідэнцыяй аршанскіх езуітаў.

*[1924]*

## АБ ЛЕСАЎЧЫКАХ

Адну з найцікавейшых страніц нашай вайсковасці становіць вайсковая вольніца, якая дзеяла ў канцы XVI і пачатках XVII ст. На вялікі жаль, гісторыя гэтай крыўскай вольніцы дужа мала вядомая і, зрэшты, вельмі аднастаронна асветлена, бо толькі са стараны польскіх пісьменнікаў, якія шмат што прамаўчалі, шмат што сказілі. Усё ж такі факт астаецца фактам, што гэта крыўская вольніца ў свой час шмат нагрымела. Між іншымі, сучаснымі ім

характарыстыкамі заслужвае асаблівай увагі кніга пад агалоўкам: «Przewagi Elearów polskich, co ich niegdy Lisowczykami zwano, które czynili w państwach cesarskich przeciwko heretykom za czasów niezwyciężonych monarchów Ferdynanda II cesarza chrześcijańskiego od 1619 aż do 1623 r.» (Poznań. *1623*). Аўтар гэтай кнігі — Войцех Дубалуцкі (Dębołęcki). Дубалуцкі быў манахам ордэну францішканаў і спраўляў чыннасць капелана пры лесаўчыках. Дубалуцкі родам быў з Падлясся і ўславіўся, як піша А. Здановіч (Rysy Dziejów literatury polskiej), немаральнасцю жыцця і буйнасцю характару. Для яго абоз лесаўчыкоў быў тым месцам, скуль яго не магла дастаць духоўная старшызна і дзе ён мог мала звяртаць увагі на грозныя напамінанні не толькі францішканскіх правінцыяналаў, але і на напамінанні самога папежа.

Гэты буйны францішканін прымаў удзел ва ўсіх паходах лесаўчыкоў і спісваў дзённік іх чынаў. На жаль, арыгінал таго дзённіка затраціў ён недзе ў сілезскіх горах. Вышэйназваную кнігу ён ужо спісваў другі раз з памяці. Пасля прадмовы Дубалуцкі змест кнігі падаў вершам:

Położywszy Moskwę jako grad konopie,
Wołgę pomąciwszy, bieżą o swej kopie
Przez Dniestr, Ren i Dunaj.
Po wszystkiej Europie
Padli jak snopie.

Кніга гэта дае вельмі цэнны матэрыял да гісторыі лесаўчыкоў. Гэта было свайго роду вайсковае брацтва, якое дзялілася на копы, ад 60 да 100 душ, і знаходзілася пад загадам выбарнай старшызны. Карны кодэкс лесаўчыкоў быў вельмі строгі: кожная значнейшая правіна каралася смерцю. Дзённік гэты вельмі падробна распрацаваны, хоць і пераплецены евангеллямі на кожны дзень, бо быццам лесаўчыкі заўсёды толькі паводле евангелля жылі і паступалі. Адкінуўшы фальшывы рэлігійны фанатызм, якім перасычана кніга, трэба прызнаць, што асобныя месцы яе расказаны надзвычай барвіста і цікава. Для прыкладу падамо некалькі выпісаў.

«Усе, мабыць, памятаюць, што праз увесь час валошскай вайны не кім усе найгоршыя дзіры запіхалі, як элеарамі, або, пастарому, —лесаўчыкамі. Ледзь здолеў з якой стараны паказацца вораг, то зара сыплюцца да гетманаў просьбы даць каторую колечы харугаў элеараў; так іх заўсёды наперад выпіхалі, як

гончых… Не было ніводнага нападу на запарожцаў, у каторым элеары не прымушаны былі бы іх пасілкаваць, не толькі полем штурмы перарываючы, але, нават і пехатой перабегшы, з іх шанцаў туркаў выганялі… Гэтак бязмала штодзень бедныя элеары не толькі сваю, але і чужую пяньку атропвалі. А калі іх, небаракаў, з прычыны пераводу запарожцаў, бліжэй пад варожы абоз пасадзілі, праз тры дні на голым полі адкрытых, хто калі пасілкаваў, акром Бога самога».

Лесаўчыкі любілі паказаць сваю ўдаласць і жыццё саўсім не цанілі. Між многімі прыкладамі самапасвяты і ўдальства лесаўчыкоў апавядае Дубалуцкі такое з часаў бытнасці лесаўчыкоў у Нямеччыне: «Мінаючы адно мястэчка…, перад якім на адной старане дарогі, на скале, стаяла многа мяшчанаў з галябардамі (паводле тамтэйшага звычаю ў чэсць пераходзячага войска), некаторыя з элеараў, думаючы, што гэта былі варожыя (а хочучы паказаць, што хоць яны там так высока, але, каб пазволена было, то не ўседзелі б), абралася іх з дзесятак, каторыя, на выстрал луку ад іх, на другую яшчэ вышэйшую скалу, міма якой праходзіла вайска, пусціліся адзін за другім, трымаючыся конскіх грываў. Уз’ехаўшы цудам на скалу, калі на ёй гарцавалі, скруціў адзін другога, так што зваліліся з конямі, кожны асобна (вецце на скале паросшага хапаючыся), як з найвышэйшай камяніцы. Як толькі ўпалі абодва, і ён і конь, атросшыся абодва, селі на коні і па полю ездзілі. Мяшчане, думаючы, што гэтак усе і іх коні не могуць шванкаваць: пакуль валіліся, крычалі з літасці імя Езус, а калі ўскочылі на коні, крычалі, віншуючы здароўя і цешачыся з такога народа на помач».

Цікава апісуе Дубалуцкі тагачасную рабунковую вайну, чым асабліва адзначалася войска Фердынанда, а між іншымі і лесаўчыкі не адставалі.

«Вельмі хораша было бачыць (паміж многімі такімі іншымі), калі адзін яздзец, добра адзеты, конавак, пляшак і інш. кругом сябе навязаўшы, гусю з гусятамі яшчэ зеленюсенькімі ў горад заганяючы, з палкоўнікам алеарскім і некалькімі яго афіцэрамі сустрэўся. Другі за ім цялё, казу і авечку каню да хваста, як хартоў, на смычы прывязаўшы, а рабую кошачку, замест зайца, на руках трымаючы, быццам з ловаў вяртаўся. Трэці, нездалёк за імі, свінню прывязаўшы да конскага хваста, з катлом на галаве, а гарлачом малака ў левай руцэ, за імі, лянiва даганяючы, валок раздзёртую пярыну, перакінутую праз каня, як торбы, у якой, разам з пёрамі, відаць было з адной стараны некалькі полцяў

саланіны і пару індыкоў, а з другой — злоўленую жанчыну, якая, седзячы, абіралася з пёраў».

*[1924]*

## КРЫЎСКІ (БЕЛАРУСКІ) СТАРАДАЎНІ ЛІСТОЎНЫ СТЫЛЬ

Старакрыўская пісьменнасць дагэтуль мала даследавана, хоць яна жыве яшчэ ў сотнях тысяч дакументаў, лістоў і інш., якіх найболей дайшло да нас з XVI і XVII стст. Асабліва звяртае на сябе ўвагу сваім стылем прыватная перапіска, у якой не толькі адбіваецца быт і асвета людзей, але такжа рысуюцца іх узаемаадносіны.

З пачкі маючыхся ў мяне пад рукой старасвецкіх дакументаў падаю ніжэй некалькі выпісак старадаўняга нашага лістоўнага стылю.

Пачатак ліста, пісанага ў 1540 годзе. *«Пане милы лесничы здоровья и всего доброго от пана Бога верне вашей милости зычу яко собе самому».*

Далей, з новай лініі, пасля прыстойнага одступу, ідзе ліст. Закончаны ліст гэткай звароткай: *«Затым ся зычливой прыязьни твоей поручаю. Станислав Андреевич Довойно, староста кобринский шовленский мерецкии».*

Да Радзівіла Чорнага піша ў 1562 годзе земянін гаспадарскі Здановіч гэтак: *«Мне вельце милостивому пану а пану на Олице и Несвижу княжати, воеводе виленскому маршалку земскому, канцлеру великого князства литовского старосте берестейскому и кобринскому его милости Миколаю Радивилу».* Закончаны гэты ліст так: «*Вашей милости верне зычливы земянин господарски Остафей Зданович».*

У XVII стагоддзі лістоўны стыль набірае штучную завіласць. Для прыкладу возьмем ліст Юрыя Міхановіча, пісаны ў 1672 годзе да Васіля Хранстовіча: *«Мне вельце милостивы а ласкавы пане, пане Василю Хронстовичу, здоровья и помысности от Бога верне вашея милости зычу яко собе самому».* Пасля зместу ліста. *«Затым ся я ласце твоей поручаю, негодны слуга слуг Вашых Юрый Миханович».*

Цікавую пробку тытулавання паміж блізкімі сваякамі дае ліст Анны Ляўданскай (Раўвічанкі), пісаны да яе роднага брата Раўвіча ў 1753 годзе. Пачатак ліста: *«Мне вельце милостивы*

*Пане и любы брате»*. Заканчаецца ліст: *«Вашей милости пана зычливая сестра и покорная слуга Анна Ляўданская»*.

Ліст Карыбута-Дашкевіча з 1660 года да братавай Марыны (Абухавічанкі) гэтак тытулаваны: *«Мне вельце милостивая и шанобливости годная братовая, здоровья и радости зычу»*. Закончаны ліст: «*Вашей милости, братанец и до послуг готовы пахолок Дмитрей Корибут-Дашкевич, судья земски»*.

*[1924]*

## СМЕРДЫ

Варажскія заваяванні на ўсходняй славяншчыне замацаваліся прыняццем хрысціянства. Візантыйскія абсалютыстычныя формы і аўрэоля пашырыцеляў хрысціянства на славянскім усходзе ператварылі простых заваёўнікаў у апосталаў хрысціянства. На ўсходняй славяншчыне да хрышчэння ведама была «варажская» і «нямецкая» вера, якую прыносілі з сабой варагі з заходу; новае хрысціянства ўсходняга абраду заслыло тут пад найменнем «веры рускай», г. зн. той веры, якую прынялі і шырылі русы. Гэту «рускую веру» прышчаплялі варагі галоўна вярхом заваяванага ўсходнеславянскага грамадзянства, ператвараючы яго з мясцовых племянных старшын у «русаў». Усё, што было хрысціянскім, было варажскім, было «рускім». Усё, што было мясцовым (славянскім), сталася паганскім, нячыстым, смярдзючым, пагарджаным. Сялянства для гэтых «рускіх» вярхоў, якія тварылі ўладу разам з варагамі, было да XIV ст. смердамі. Пад іменнем «русін», «рускі» разумеліся князі, баяры, духавенства, купцы, а пад іменнем «смерды» — шырокія народныя масы. Імя «смерд» да XIV ст. замяняла імя «селянін» усюды, дзе распасцягалася ўлада дынастыі русаў. І толькі пасля замены гэтай дынастыі іншымі дынастыямі мясцовае жыхарства пачынае бараніцца ад крыўднага эпітэта «смерд» праз суды. Такую судовую справу за называнне «смердам» прыводзіць Даніловіч (U skarbcu. Том II, 287), другая падобная справа ведама з львоўскіх актаў 1440 і 1443 гг. (Akta grodzkie i ziemskie, XIV).

У свой чарод, са зменай дынастыі або адыходу якой зямлі пад другое панаванне, найме «русь», «русін» пачынае зыходзіць да значэння селяніна. Гэтак у Бельскім прывілею 1501 г. слова «русін» азначае «селянін, мужык», а слова «паляк» раўназначна — «земянін, памешчык». Для прыкладу прыводзім выпіскі з гэтага прывілею: «Кды бы некоторый с земян был

обвинен през русина; естли бы некоторый русин позвал поляка; русинове земян нагабали; русином на ся жалуючим».

*[1924]*

## ПРАМОВА Ў ЖЭНЕВЕ

Панурыя часы агіднага рабства сялян у сваіх паноў мінулі. Цяпер паадзіночных людзей не выводзяць як статак на рынкі і не выстаўляюць на продаж.

Але і цяпер, у нашы часы, існуюць перажыткі старога рабства. У нашы часы існуюць народы імперыялістычныя, якія маюць пад сабой, пад сваім панаваннем, народы, імі падбітыя. Гэтыя народы займаюць у імперыялістычных дзяржавах месца даўных рабоў.

Іх імперыялістычныя народы адны ў адных купляюць і прадаюць, заваёвываюць і дзеляць.

Іх можна грабіць, біць, заводзіць на іх роднай зямлі якія здумаюцца заваёўніку парадкі, сваю мову ва ўрадах і школе, забіраць з іх зямлі прыродныя іх багацтвы, дабро, дабытак, працу і кроў іхніх сыноў у радах чужацкіх войск за чужыя паняволеным народам справы.

У гэткім цяжкім і крыўдным палажэнні да апошняй сусветнай вайны была і Літва. Але Літва, таксама як Латвія, Эсція і Фінляндыя, а такжа як Чэхія і Ірландыя, вызвалілася з пут няволі.

Цяпер у Літве сам літоўскі народ з'яўляецца гаспадаром усяго краю. Літоўская мова з'яўляецца мовай дзяржаўнай, усіх абавязуючай. У школах літоўскіх цяпер ніхто літвінам не накідае чужой мовы, ніхто не забірае літоўскаму селяніну яго зямлі, не насылае чужацкіх каланістаў. Наадварот, землі памешчыцкія і быўшыя казённыя літоўскі Сойм пастанавіў раздаваць літоўскім сялянам.

Зямля ж Беларуская, якая ў гістарычным мінулым станавіла адну сільную дзяржаву з Літвой, не здолела ў часе гэтай вайны вызваліцца з няволі. І мы бачым, як там чужынцы гаспадаруюць.

Рыжскім мірам, заключаным у 1920 гаду паміж Расіяй і Польшчай, Беларусь гэтыя дзве дзяржавы, Польшча і Расія, разарвалі надвае, падзялілі паміж сабой жывы беларускі народ.

І расійцы, і палякі абходзяцца з беларускім народам так, як калісь памешчыкі абходзіліся са сваімі сялянамі-прыгоннікамі.

І там і тут беларусы прымушаны працаваць не для сябе, а для чужынцаў. І там і тут не свая, а чужая воля пануе над беларускім народам і над усёй беларускай зямлёй.

Палякі высякаюць беларускія адвечныя пушчы і грошы за лес беларускі бяруць сабе.

Палякі забіраюць лепшыя беларускія землі і раздаюць прыблудам, якіх надсылаюць з Польшчы.

Палякі абіраюць беларускі народ цяжкімі падаткамі, данінамі і паборамі ды акцызамі.

Палякі наслалі на Беларусь сваё чыноўніцтва, паліцыю і войска, якіх павінен карміць паняволены беларускі народ.

Палякі ўсіх тых, хто не маўчаў на польскія крыўды і здзекі, пасадзілі ў турмы, і іх налічаюць тысячамі.

Палякі рукамі сваёй паліцыі б'юць і катуюць беларусаў, ды такімі спосабамі, аб якіх ужо даўно былі забыўшыся людзі на свеце.

Палякі завялі на беларускай зямлі чужую беларусам польскую мову ва ўсіх урадах і ў школах.

Гэтак паступаюць палякі з беларусамі, якіх занялі пад сваю абладу, пад сваё панаванне.

А як паступаюць бальшавікі з тымі беларусамі, якія асталіся пад Расіяй?

Яны ўтварылі Савецкую Беларускую Рэспубліку і крычаць на ўвесь свет, што гэтым далі беларускаму народу волю.

А ці гэта так? Не!

У савецкай Расіі «незалежная» Сацыялістычная Беларуская Рэспубліка не мае ні сваіх уласных грошы, ні свайго беларускага войска, ні сваёй асобнай беларускай пошты, ні сваіх чыгунак, ні сваіх прадстаўніцтваў за граніцай. Якая ж незалежнасць, калі грошы ў руках у маскалёў, войска ў маскальскіх руках, чыгунка і пошта ў іх і зносіны з заграніцай у іх.

Савецкая незалежнасць дадзена беларусам у Расіі без войска, без пошты, без дарог, без зносін з заграніцай і без грошы.

Гэтай куртатай «незалежнасцю» ў дадатак кіруе не ўвесь народ, а толькі адна камуністычная партыя, якую аплочвае Масква і якая за гэта верна Маскве служыць, абдураючы свой народ ды прадаючы яго ў маскальскую няволю.

Камуністы, як і палякі, высякаюць беларускія пушчы і прадаюць за граніцу, а грошы забіраюць у маскоўскую казну.

Камуністы, як і палякі, трымаюць у Беларусі сваіх маскалёў-чыноўнікаў.

Камуністы па дварах, даўней панскіх, панасаджалі розных прыблудаў і не даюць зямлі беларускаму селяніну.

Камуністы не горш палякаў абіраюць беларускага селяніна падаткамі і паборамі, пакідаючы селяніна галодным.

Камуністы, як і палякі, за працу для свайго беларускага народа і за праўду саджаюць людзей у турмы і астрогі, б'юць і расстрэльваюць.

Камуністы, урэшце, і ва ўрадах і ў школах падтрымліваюць чужую беларусам расейскую мову.

Гэты кароткі агляд палажэння беларусаў пад Польшчай і пад Масквой паказуе, што ні там ні тут не мае беларус свабоды, што і там і тут ён знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Каторая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка. І саламенны і раменны хамут муляе шыю.

Мы бачым, як перад нашымі вачыма вызваляюцца адны за аднымі прыгнечаныя і паняволеныя народы, як яны скідаюць з сябе пачародна пераржавелыя путы палітычнай і культурнай няволі.

Адны ўжо сягоння вольны і свабодны ў сваіх дзяржавах, другіх гэта свабода чакае заўтра. Усясветная вайна памагла ўцелаісціць свае дзяржаўныя ідэалы ўжо многім еўрапейскім народам, але яшчэ немалы лік другіх еўрапейскіх народаў стыне ў путах дажываючага свой век імперыялізму.

Да ліку гэтых апошніх належыць Беларускі народ. Усясветная катастрофа не атрасла пут няволі з Беларусі. Наадварот, польскі і расейскі імперыялізмы перакавалі на яе целе ланцугі няволі, парэзалі яе цела надвае, і кожны на сваёй часці шалее па-свойму.

У часці Беларусі, што апынулася пад Польшчай, вядзецца ніколі не чуванае ў гісторыі забойства цэлага народа другім народам, забойства арганізаванае, свядомае, планавае.

Зямлю беларускага народа, аблітую крывёй, потам і слязамі, усвячоную попеламі соцень пакаленняў, зямлю, на якой беларусы жывуць як запамятае гісторыя, палякі вырываюць з рук беларусаў і садзяць сваіх каланістаў з Пазнаншчыны, Мазуршчыны, Вялікай і Малой Польшчы.

Сталеццямі гадаваныя непраходныя беларускія пушчы, незлічонае багацце, аздоба і паэзія беларускага краю, падае пад сякерамі польскага наезніка і бяспланава і паспешна нішчыцца і вывозіцца за граніцу, абагачаючы польскі скарб.

Беларускі народ, які выдаў спаміж сябе гэтулькі геніяльных імён, які мае на цэлае паўтысячалецце старэйшую літаратуру за польскую, пазбаўлены пад польскай акупацыяй магчымасці вучыцца ў сваёй роднай мове.

Беларускі народ, які поплеч з палякамі ў час агульнага ліхалецця праліваў кроў за вызваленне раздзертай Польшчы ў часе ўсіх паўстанняў, цяпер атрымаў ад Польшчы за гэта адплату тым, што яна нялюдска раздзерла Беларусь

і перапоўніла турмы свае тысячамі беларусаў, якія вінны толькі ў тым, што паднялі руку сваю супроць польскай тыраніі.

Словам, пад Польшчай Беларусь аграблена, зняверана і тоне ў моры крыві і слёз.

Другая палавіна Беларусі апынулася ў старых, нанова пераладжаных, маскальскіх аковах.

Мазаіка розных народнасцяў, склееная беспашчаднай тыраніяй усходнеазіяцкага тыпу, цэлыя сталецці трымала на сваіх плячах будынак расійскага імперыялізму. З упадкам царату расійскі імперыялізм атрымалі ў спадку камуністы, якія, аднак, уступаючы напору жывога жыцця, агалосілі Сувязь Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У тэорыі выходзіць, што паводле гэтага акта атрымала з рук камуністаў незалежнасць і Савецкая Беларусь. Але на практыцы гэта савецкая «незалежнасць» толькі баламуцтва. Савецкая «незалежная» Беларусь, нават як яна цяпер выглядае ў пашыраным выглядзе, гэта толькі часць беларускіх зямель, выдзеленая ў земскае самаўпраўленне.

Савецкая Беларусь не мае свайго беларускага войска, не мае сваёй беларускай манеты, не мае сваіх асобных граніц ад усёй Расіі, не мае сваёй беларускай школы. Менскі універсітэт, Горацкі сельскагаспадарскі інстытут і другія школы абслужываюцца маскалямі або абмаскаленымі і іншымі элементамі. Навука ў сярэдніх і вышэйшых школах выкладаецца па-расійску, лекцыі друкуюцца па-расійску, справаздачы даюцца па-расійску.

Так званае Менскае дзяржаўнае выдавецтва друкуе з грошы, збіраных з беларускага сялянства, у 10 разоў больш кніг па-расійску і на некалькі разоў больш друкуе кніг па-жыдоўску і па-польску, чым па-беларуску.

Камуністычная гаспадарка не менш за палякаў вынішчае краёвыя беларускія пушчы, сплаўляючы лес Дзвіной, Днямпром і Прыпяццю. Беларускі селянін у савецкай «незалежнай» Беларусі з году на год бяднее. Так, таксама як і пад Польшчай, вядзецца каланізацыя чужымі элементамі беларускай зямлі.

Словам, савецкая незалежнасць не мае пад сабой рэальных астой, не мае перад сабой перспектыў у будучыне. Пры далейшым ходзе такога палажэння, якое цяпер там ёсць, беларусаў чакае дэнацыяналізацыя, толькі ў іншым, чым пад Польшчай, сосе: у сосе камуністычным.

Беларускаму народу няма вызвалення ні праз Варшаву, ні праз Маскву. І праз Маскву, і праз Варшаву на Беларусь ідзе руіна і знішчэнне.

Толькі ў сувязі з братнімі дэмакратычнымі сялянскімі народамі Літвы, Украіны і другімі можа Беларусь дайсці свайго вызвалення, можа рэалізаваць сваю дзяржаўную незалежнасць.

Літоўска-Беларускае таварыства, ставячы сваёй мэтай працу дзяржаўнага вызвалення Беларусі, кліча:

Беларускі народ мае права на дзяржаўную незалежнасць. Карані гэтай незалежнасці жывы ў беларускім народзе, аб чым сведчыць культура і гісторыя Беларусі.

Беларусь, разарваная Рыжскім мірам і падзеленая паміж Польшчай і Расіяй, павінна быць аб'яднана ў адзін суцэльны дзяржаўны арганізм.

Справу рэалізацыі беларускай дзяржаўнасці павінна актыўна падтрымліваць літоўскае грамадзянства і грамадзянствы суседніх сялянскіх народаў, пашыраючы гэту ідэю ў сваім грамадзянстве і даючы падтрымку беларусам у міжнародных палітычных установах.

Літва, якая большасць сваёй гісторыі пражыла з беларускім народам, павінна падаць беларусам руку помачы ў іхнім цяперашнім змаганні. У вольнай Беларусі Літва, як і ў гістарычнай мінуўшчыне, будзе мець прыязную дзяржаву, з якой лучаць нас і гісторыя, і эканоміка, і аднастайны сялянскі склад жыхарства.

Дык няхай жыве незалежная сялянская дэмакратычная Беларусь, няхай жыве брацкае збліжэнне беларускага і літоўскага народаў.

Скінуць з сябе ўсякі хамут, усякае ярмо, усякую няволю, стацца вольным і незалежным, вось павінна быць імкненне кожнага беларуса.

Быць вольным — прыроднае і людскае права кожнага чалавека і кожнага народа. За гэтае права быць вольным змагаецца не адзін беларускі народ: многа народаў яшчэ знаходзяцца ў такім жа палажэнні, як беларусы, і змагаюцца за сваю волю і долю, за права быць гаспадарамі ў сваёй зямлі. Слава змагаром за лепшую, вольную будучыну сваіх народаў. Чэсць усім, хто змагаецца супроць няпраўды і няволі.

Беларуска-Літоўскае таварыства бярэ на сябе цяжкае заданне прыйсці ў помач паняволенаму беларускаму народу шуканнем шляхоў да выхаду з гэтай няволі, у якой ён сягоння знаходзіцца.

Беларуска-Літоўскае таварыства стаўляе сабе мэтай працаваць дзеля адбудавання незалежнай Крывіцкай (Беларускай) дзяржавы ў яе этнаграфічных межах.

Беларуска-Літоўскае таварыства будзе гуртаваць каля сябе ўсіх тых беларусаў і літвіноў, якія стаяць за поўную незалеж-

насць гэтых абодвух народаў і іх узаемнае згоднае і прыязнае сужывецтва.

Беларуска-Літоўскае таварыства будзе выступаць усюды, дзе акажацца патрэба, у абарону свабоды і незалежнасці гэтых двох народаў супроць усякіх іх крыўднікаў.

Няхай жыве незалежная Беларусь у яе этнаграфічных межах.

Няхай жыве незалежная Літва ў яе этнаграфічных межах.

Няхай жыве брацкая еднасць Беларускага і Літоўскага Народаў.

*[1924]*

## ПРАДМОВА ДА «ПАДРУЧНАГА РАСІЙСКА-КРЫЎСКАГА (БЕЛАРУСКАГА) СЛОЎНІКА»

Слова — гэта не ўмоўны знак для выражэння мыслі, але мастацкі абраз, вызваны найжывейшымі пачуваннямі, якія прырода і жыццё выклікалі ў першабытным чалавеку. Яно знаходзіцца ў цесным звязку з народным бытам, яго светаглядам, гісторыяй, звычаямі і абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсць вялікай нацыянальнай легендай і скарбніцай, святой спадчынай, каторая пераходзіць з пакалення ў пакаленне, з дзядоў на ўнукаў. Увесь светагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове. Кожнае слова было легендай-пагудкай, мітам, было поўнае зместу і паэзіі: бо міт асновываўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове. Слова ёсць творчасцю ўсяго народа, формы слова шліфаваліся многімі пакаленнямі і сталеццямі, пакуль сталіся тым, чым яны сягоння ёсць.

Гэтую цэльнасць і гармонію народнага слова парушыла чужая граматнасць і чужыя панаванні над народам. Прычым граматнасць наагул ужывае слова толькі як знадаббя для перадачы мыслі, злашча прыйшоўшая да нас хрысціянская граматнасць, якая свядома старалася зацерці змест народных слоў чужыма словамі, запазычанымі ад другіх народаў, для выражэння новых хрысціянскіх паняццяў, або словамі, перакладзенымі з чужых моў, уложаныя ў якія паняцці не мелі ўжо нічога супольнага з народным светаглядам.

Мовай хрысціянскай царквы і граматнасці сталася ў нас мова балгарская. Гэта было выгодна для духавенства, якое старалася зацерці ўсякую памяць у народзе аб яго даўным дахрысціянскім жыцці, аб яго папярэднім «паганскім», знача нячыстым, света-

глядзе. А гэты «нячысты» светагляд прабіваўся з кожнага слова народнага, згэтуль той раздзел паміж мовай народнай і кніжнай.

Дзяржаўная ўлада і царква з яе «святой граматнасцю ішла рука ў руку, узаемна падпіраючыся.

Узгадаванае на візантыйскім дэспатызме хрысціянства акружала пануючых блескам, пануючыя, наўзаем, акружалі духавенства дабрабытам. Чужая народу мова царквы сталася мовай і ўраду. І толькі калі ў саміх пануючых класах была ўтрачана звязь мовы са старымі «нячыстымі» традыцыямі, пачынае народны элемент пранікаць у кнігу, якая ў першых пачатках была толькі рэлігійнага зместу. Вось чым тлумачыцца той страшэнны кансерватызм царквы і сляпое трыманне ёю чужой мовы. Але ў даўнія часы гэты кансерватызм меў, прынамні, апраўданне ў боязні, што народ можа звярнуцца да старых паняццяў, цяперашні ж пад гэтым узглядам кансерватызм царквы гаворыць толькі адно, што яна з'яўляецца слугой адзінасільных гэтага свету.

Гэткім чынам, мова граматнасці, у самых першых пачатках, сарвала ў нас лучнасць з мовай народнай. Тысячалетняе панаванне царкоўнай славяншчыны, вытваранай на грунце балгарскай мовы і прасычанай візантыйскімі паняццямі, палажыла глыбокі след. Яна асобную мову крыўскага племя зблізіла з мовамі іншых усходнеславянскіх плямён. Асімілятарскі тысячалетні ўплыў балгаршчыны значна аддаліў нашу мову ад яе першапачатковых форм і занячысціў няскладнымі, чужымі духу і традыцыям нашага народа словамі.

Другім, чародным, наслаеннем у нашай мове ёсць уплывы гоцка-нямецкія, якія прыйшлі да нас яшчэ ў дахрысціянскія часы шляхам заваяванняў славянскіх плямён варагамі. Арганізаваная імі дзяржаўная гоцкая ўлада накінула народу шмат чаго з вайсковай і дзяржаўна-кіравецкай тэрміналогіі (полк—folk, князь—kёnig і г. д.). У пазнейшыя часы ішлі нямецкія словы да нас праз таргоўцаў — немцаў, якія вялі таргоўлю па Дзвіне, Дняпры і Прыпяці. Праз Польшчу ішлі словы чэшскія, лацінскія, а пазней французскія. Праз Масковію пранікалі татарскія, фінскія і нованямецкія словы.

Наша гістарычная літаратурная мова, на якой пісаліся кнігі і дакументы XV–XVII стст., з'яўляючыся сапраўды мовай той, якой гаварылі нашы вышэйшыя класы, носіць на сабе азнакі ўсіх гэтых уплываў, памяшаных з мовай народнай. Жыла яна датуль, пакуль існаваў у нас свой інтэлігенцкі клас, але калі наша баярства і арыстакратыя сарвала з народам і, адкінуўшыся ад свайго народа, здэнацыялізавалася, то й мова іх занікла. У XIX ст. народ

у нас гаварыў сваёй, пракавечнай «простай», не інтэлігенцкай мовай, а інтэлігенцыя разбілася на два абозы: адны пайшлі на служэнне Маскве, другія — Варшаве.

Наша старая мова, вытвараная духавенствам і пануючымі класамі, незразумела народу таксама, як незразумела народу мова расійская ці польская. Гэна старая мова ніколі ўжо не ўваскрэсне, як не ўваскрэснуць тыя пакаленні, якія традыцыі яе будавання ўзялі з сабой у магілы. Яна выяўляе цяпер толькі нязмерна цікавы аб'ект для нашых моваведаў, якія могуць з яе яшчэ многае адкапаць, што ўтрачана народам, бо, сцісла беручы, гэта ёсць адна з нашых гутарак, ужо адумершая.

Трэба сказаць, што ў цяперашнія часы пагражае нам тая ж небяспека, як і ў гістарычнай мінуўшчыне: наша інтэлігенцыя, па прыкладу расійцаў і палякаў, а найболей расійцаў, ахвотна перапаўняе адраджаючуюся крыўскую літаратуру чужаземскімі словамі. Калі здарыцца ў нашай гісторыі такое ж адарванне інтэлігенцыі ад народа, як то было, то гэта занячышчаная мова ізноў астанецца толькі цікавым помнікам гістарычнай мінуўшчыны, але не зможа стацца патужным правадніком культуры, якім яна павінна быць. Мова, перапоўненая чужаземскімі словамі, з'яўляецца ізалятарам культуры ад народных мас.

У старадаўныя часы няволі народных мас так і думалі, што граматнасць і культура не павінны быць удзелам народных нізоў. Яшчэ ў 1860-х гадах у Расіі былі людзі, якія падтрымлівалі погляд, што «кнігі пішуцца не для мужыкоў» (Галавацкі)[1].

Дык цяпер, калі адраджаецца сама народная маса, нельга павадырам гэтай масы паўтараць старыя памылкі. Адроджаная наша мова павінна стацца добрым праваднікам культуры, а гэткай яна зможа быць толькі тады, калі ў ёй будзе найменш чужых слоў, калі кожнае паняцце будзе перакладзена згодна псіхіцы нашай мовы, калі формы слоў і будова сказаў будуць адпавядаць законам гармоніі, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў.

Мова — гэта аблічча душы народа, і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым. Мы не павінны ісці следам палякаў, якіх аўтары (Навачынскі) могуць пісаць «старапольскія» аповесці, ужываючы на сто чужых слоў адно польскае.

Маючы на ўвазе вышэйсказанае, я ў гэтай малой сваёй працы стараўся даць, паводле сіл сваіх, тлумачэнне чужаземскіх слоў на родныя паняцці. Але мова наша занячышчалася сотнямі гадоў, дык і праца па ачыстцы яе не можа быць зроблена высілкамі

адзіночнага чалавека — над гэтым павінны доўгія дзесяцілецці працаваць вучоныя аб'яднанні і ўстановы.

Наша мова тады толькі здолее развіцца, калі патрапіць выявіць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасць, а гэтым самым дакажа рацыю свайго існавання, і калі патрапіць абараніцца ад асімілюючага ўплыву суседніх грамадных народаў: расійцаў, палякаў, украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кожнае чужое слова, занесенае ў мову, асімілюе, злівае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высцерагацца ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але існуюць у здаровай нашай народнай стыхіі.

На доследы нашай мовы многімі вучонымі паложана шмат працы, але аднабока. Прычыны гэтаму дваякія: па-першае, у навуцы дагэтуль пануе руціна і боязнь новай мыслі, а такжа многа асвячоных часам забабонаў, супроць якіх ніхто не важыцца падняць рукі; па-другое, даследчыкамі нашай мовы дагэтуль былі людзі чужыя або свае, пайшоўшыя на ўслугі чужым. Дзеля гэтага немаль усе доследы над нашай мовай маюць у аснове сваёй фальшывы выхад, што мова крыўская з'яўляецца нейкім злепкам, не маючым сваёй індывідуальнасці, і, прыступаючы з гэткай мыслю да доследаў яе, шукалі ў ёй не рысаў яе ўласнай асобнасці, а, наадварот, сходнасці з вядомымі ім мовамі, найчасцей расійскай ці польскай. Згэтуль фальшывы, і, што горш, свядома фальшывы, вывад, што мова крыўская (беларуская) з'яўляецца галінай толькі нейкага прататыпу. А затым, свядомы ці несвядомы, даваўся аргумент у рукі палітыкі, у рукі пануючых над намі нацыянальнасцяў. Дык адраджонаму нашаму моваведу, які прыступае да пазнання сваёй мовы, трэба дужа крытычна прымаць тыя вывады, якія падсоўваюць у сваіх працах вучоныя нашых суседзяў з Усходу і Захаду.

Значэнне асімілявання суседняй мовы даўно зразумелі расійцы і палякі, якія аберуч чэрпалі і дагэтуль чэрпаюць з нашай мовы лексічны матэрыял. Прыкладамі могуць служыць Słownik języka polskiego Ліндага[2] і расійскі акадэмічны «сло-варь», у які цалкам унесены слоўнік Насовіча. Аднак народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацце слоў, зваротаў і висловаў, цалкам арыгінальных і ў дадатку нікім дагэтуль не заграбленых, што без вялікіх трудоў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалкам самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы або і нашы, ды ўжо асіміляваныя чужынцамі. Патрэбны сілы, і то многія, ды свае ўласныя сілы, не толькі да

збірання моваведнага матэрыялу, але такжа да ўдзячнай працы над яе лексічным і граматычным развіццём, над пазнаннем законаў гармоніі крыўскага (беларускага) слова.

У надзеі, што новыя сілы з нашай моладзі, якая вучыцца ў краю і за граніцай, зазначаць сябе працай над роднай мовай, я пастараўся замацаваць на паперы тое, што мне ўдалося сабраць за час маёй працы на ніве нашага адраджэння. На жаль, пададзены тут матэрыял я не мог даць з падробнымі вывадамі яго паходжання, як гэта вымагаецца навукай. Прычына тая, што, калі я пачаў запісываць «цікавыя» словы, я не меў на мэце карыстацца гэнымі запісямі ў друку: запісываў іх для сябе самога, а мне асабіста цікава было слова само па сабе, і дзеля гэтага я не адмячаў месца запісі (калі гэта было з народных вусн) ці кнігі, з якой узяў слова (калі слова ўзята было з друкаваных песень, казак і інш.). Ад 1902 году да сёлетняга ў мяне сабралася вялікая колькасць запісаў, якіх я не здолеў яшчэ ўсіх выкарыстаць, пішучы гэты слоўнік, таму, раз, што ўсіх матэрыялаў гэтых не меў цяпер пад рукамі, а па-другое, што выкарыстанне ўсяго матэрыялу вымагала бы апрацоўкі шмат большай кнігі, а на гэта не пазвалялі ні жыццёвыя, ні матэрыяльныя варункі.

Выпушчаючы ў свет гэты слоўнік, я цікаваў галоўным чынам практычную мэту і даў «Расійска-крыўскі слоўнік» дзеля таго, што, мне думаецца, карыстацца ім будуць больш тыя, якія добра ведаюць мову расійскую, але слаба сваю — крыўскую, бо кожны наш інтэлігент вучыўся расійскай мовы ў школах, а сваю найчасцей знае толькі знаслыху.

Назваў я гэты слоўнік «Расійска-крыўскім», бо, як гісторыя сведчыць, нашае сапраўднае племяннае і нацыянальнае найменне ёсць крывічы. Змены імён народаў цесна звязаны з гістарычнымі рэвалюцыямі, перажыванымі народамі. У нашым гістарычным жыцці на працягу тысячалецця было некалькі такіх рэвалюцый, якія складаюць перыяды нашай гісторыі.

На зарані гістарычных часоў наш народ выступае як сарганізаванае цэлае нацыянальнае і палітычнае пад найменнем крывічы. Але ўжо ў X стагоддзі адбываецца вялікага гістарычнага значэння рэвалюцыя: замена старой праславянскай веры новай верай — хрысціянскай. Хрысціянства шырылі панаваўшыя над падбітымі славянскімі плямёнамі варагі-русь. І вось у перыяд ад прыняцця хрысціянства да запанавання новай, літоўскай, дынастыі наступае замяшанне ў паняццях: народ крывічы, якім яго ўсе кругом называюць, хочучы адзначыць сваю прыналежнасць да хрысціянства ўсходняга абрадку, мянуе сябе — па веры і

па тыпу перайшоўшай да нас з Візантыі і Балгарыі, праз варагаў, культуры, — русамі, руссю. Гэты перыяд ёсць крыўска-рускі, і трывае ён ад X да XIII ст.

Другі перыяд наступае са зменай старой крыўска-рускай дынастыі, якую замяшчае дынастыя літоўская, м[ожа] б[ыць], у XIII ст. З упадкам дынастыі пачынае сыходзіць найменне крывічы ў значэнні дзяржаўным: яго заступае найменне літва. Дзяржава Альгерда[3], як і Жыгімонта Аўгуста, была адналітнай Літвой, а толькі ў гэтай дзяржаве быў вельмі значны лік грамадзян, якія трымаліся веры, зашчэпленай ім русамі, і дзеля гэтага яны па веры называлі сябе: русь, русіны. Калі літоўская дынастыя прыняла каталіцтва, найменне русь злучае ўсіх вызнаўцаў грэцкага абрадку і абымае ўсе землі, дзе жылі вызнаўцы гэтай веры, ад Карпат да Акі. У гэтым другім перыядзе, які трываў немаль да канца XVIII ст., мы фігуравалі пад найменнем літва-русь. Дзяржаўна — літва, па веравызнан- ню — русь. Па гэтай старой памяці ў палуднёвых і ўсходніх паветах, дзе наш народ стыкаўся з такімі ж праваслаўнымі ці уніятамі, як ён сам, — дагэтуль народ наш называе сябе літвінамі (прыкл., у Чарнігаўшчыне, у ўсх. Магілёўшчыне і Смаленшчыне).

Трэці перыяд, які пачаўся ад уніі з Польшчай у 1386 годзе і быў перарваны падзелам Польшчы, кіраваўся да ператварэння нашага народа ў палякаў. На нашае шчасце, «народам» лічылася ў тыя часы толькі шляхта, дык і гэты гістарычны працэс меў уплыў не на ўвесь народ, а толькі адзіна шляхецкі стан, які, пераходзячы праз каталіцтва, прымаў лаціна-польскую культуру. Гэты перыяд у гісторыі нашага баярства — якое добрымі патрыётамі літоўскімі (у значэнні дзяржаўным), а па культуры і веры мела сябе за палякаў, — адзначыўся раздзелам народных мас з яго гістарычнымі вярхамі і слушна можа быць названы літоўска-польскім.

Прыходзіць урэшце расійскае панаванне, і наступае чацвёрты перыяд — расійска-беларускі. З прыходам расійскай улады ўцісканае пад Польшчай праваслаўнае духавенства пагалоўна перакідаецца ў маскоўскі абоз, парываючы ўсякую звязь з народам, за духавенствам ідзе праваслаўная шляхта, якая яшчэ была застаўшыся ад разгрому пад Польшчай. Падае працавіта створаная Польшчай унія. І ў выніку ад на- рода адпадае рэшта грамадскіх вярхоў, тонучы ў расійскай велікадзяржаўнасці і называючы сябе без усякіх засцярог «русскими», праз два «с». Гэты перыяд замацаваў яшчэ адно найменне — беларусы.

Гэтак вярхі нашага нацыянальнага дрэва, перыяд за перыядам, засыхалі і адпадалі ад народнага пня.

Ці яны аджывуць і прырастуць нанова, трудна згадаць. Хутчэй за ўсё што не. Пераход іх прадзедаў у чужы абоз варункаваўся, пераважна, не ідэалістычнымі, а чыста матэрыяльнымі матывамі, дык мала надзеі на тое, каб унукі выракліся з занятага іхнімі бацькамі і прадзедамі палажэння сярод чужынцаў і вярнуліся да свайго народа несці разам з ім ланцугі няволі і нядолі.

Цяперашняе нацыянальнае адраджэнне нашае пачалося не са старых абсохшых галін, а з каранёў народных.

Пачалося і будуецца не дынастыяй, не рэлігіяй, не шляхтай, а самім крыўскім народам.

І дзеля гэтага, шануючы перажытую гісторыю, не выракаючыся культурных здабыткаў, прыдбаных у нашу нацыянальную скарбніцу пад найменнем «русь», «літва» ці іншым якім, мы, хочучы быць самаістым славянскім народам, выносім з гісторыі нашай і з нашага народа на свет прастарое племяннное і нацыянальнае сваё найменне — крывічы.

Мы крывічы па крыві, па роду-племені, але засяляем землі балотныя і лясістыя, дзеля гэтага, каторыя з нашага племя жылі на дрыгве-балоце, па гэтай азнацы звалі іх дрыгвічамі, а каторыя жылі ў лясах-дрэвах — зваліся драўлянамі, каторыя жылі на горках — зваліся гаранамі. Адна галіна крывічоў, пад кірункам радавых старшын Радзіма і Вяткі, перасялілася з захаду на ўсход, з ляшскага пагранічча ў парэчча Сожа і тут размножылася. Дзеля гэтага і драўляне, і дрыгвічы, і гаране, і радзімічы, і вяцічы — адно крыўскае племя, адзін, як даўней казалі, язык.

Мы крывічы, а не Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная, мы асобны славянскі народ, не правінцыянальная чыясь адмена.

Мы крывічы, славянскае асобнае племя, са сваёй асобнай мовай, гісторыяй, народным характарам, звычаямі і абычаямі; племя, якое тысячу з лішнім лет засяляе сваю крывічан- скую зямлю.

Мы крывічы, гэта знача, што мы па доўгім, цяжкім сне прабуджаемся вольнымі душой, як вольнымі пачувалі сябе нашы прашчуры на вечах старэтных.

Наша мінуўшчына, гэта блуканне па раздарожжах і муках, а мы цяпер ізноў пры крыніцах гаючае і жывучае вады, пры сваім народзе крывічанскім і разам з ім адбудовываемо вольную Крывію!

Калісь манголы заваявалі Кітай і на той знак, што кітайцы сталіся рабамі, накінулі ім абавязак насіць косы. З тых

часоў мінула немаль тры тысячы гадоў, кітайцы даўно ўжо высвабадзіліся з мангольскай няволі, але косы, знак мангольскага рабства, і сягоння носяць. Не будзем жа мы падобны кітайцам! Адкіньма ад сябе з пагардай усякія патлы гістарычнай залежнасці, асабліва калі гэта залежнасць, як таўро ганьбы, кладзецца на нашае нацыянальнае імя.

Гэткія былі мае думкі, калі я клаў загаловак «крыўскі» на гэту кніжыцу. Пытанне гэта вялікай гістарычнай вагі, якое, на маю думку, рашыць: ці суджана нам быць нацыяй, ці не, яно ляжыць на сумленні павадыроў нашага адраджэння і імі павінна быць вырашана. Я, з горсткай аднадумцаў, зважыўшы ўсе даныя, паставілі гэтае пытанне на кон, хай цяпер абмяркуюць усе тыя, хто арэ і скародзіць крыўскія адлогі.

За тым кнігу гэту дабрароднай зычлівасці чытачоў паручаю.

***1924***

## КАНКАРДАТ

10 лютага г.г. у Рыме быў падпісаны канкардат між Польшчай і Ватыканам. Пры вяршэнні гэтай умовы Ватыкан выступае як прадстаўнік усясветнай хрысціянскай рыма-каталіцкай царквы, Польшча — як валадарка зямель, уходзячых у цяперашнія яе межы. Ад імені Ватыкана ўмову падпісаў кардынал Гаспары, папежскі сакратар, ад імені Польшчы — вядомы вшэхполяк Ст. Грабскі. Дзеля таго, што ў склад цяперашняй Польшчы ўходзяць і заходнекрыўскія землі, то п. Грабскі гаварыў з Ватыканам і ад беларускіх (крыўскіх) зямель і аднаго мільёну каталікоўбеларусаў. А Ватыкан не толькі не спытаў п. Грабскага, ці мае ён на гэта ўпаважнення ад беларусаў-каталікоў, але «забыўся» спытаць, ці мае сама Польшча маральнае права загартаць чужыя землі і на загорнутых воўчым правам землях вынішчаць няпольскія народнасці?! Забыўся Ватыкан аб гэтым спытаць, бо п. Грабскі прывёз некалькі мільёнаў лір, якія Польшча высмактала з поту і крыві паняволеных ёю народнасцяў. Гэтыя, ліпкія ад крыві і поту грошы Ватыкан схаваў у «апостальскі» скарб і пачаў тварыць з Польшчай угоду, заткнуўшы вушы на стогны катаваных у польскай турме каталікоў. І вось апостальскі пасад пастанаўляе:

1) Кожнай нядзелі і на 3 траўня ва ўсіх каталіцкіх касцёлах будуць ксяндзы маліцца за Польшчу і за яе прэзідэнта. Будуць

маліцца за Польшчу, якая судзіць і расстрэльвае бязвінных людзей, у тым ліку і каталікоў. Будуць маліцца за Польшчу, якая рукамі свае паліцыі заганяе іголкі пад пазногці пры допытах, якая пячэ жывым людзям цела і ламае косці, якая забараняе вучыцца і маліцца беларусам у іх роднай мове, якая насылае ў нашу зямлю ўзброеных каланістаў.

Ксяндзы каталіцкія будуць маліцца штонядзелю і кожны год 3 траўня, каб Бог памагаў Польшчы ў яе злачынах.

2) Біскупы каталіцкія павінны злажыць прысягу на вернасць Польскай дзяржаве гэткімі словамі: «Перад Богам і на Святое Евангелле прысягаю і абяцаю, як належыцца біскупу, верным быць Рэчы Паспалітай Польскай. Прысягаю і абяцаю, што з поўнай лаяльнасцю буду шанаваць урад, устаноўлены канстытуцыяй, і што *зраблю, каб яго шанавала маё духавенства*. Прысягаю і абяцаю, акром таго, што не буду прымаць удзелу ў ніякім згаворы, ані не буду пры нарадах, якія бы маглі прынесці шкоду Польскай дзяржаве або грамадскаму парадку, і *не дазволю майму духавенству прымаць удзел у гэткіх пачынаннях. Дбаючы аб дабро і карысць Дзяржавы*, буду старацца аб тое, каб адвярнуць ад яе ўсякія небяспекі, аб якіх я ведаў бы, што ёй пагражаюць».

Знача, апостальскі пасад аддаў каталіцкіх біскупаў на ўслугі Польскай дзяржаве, пазволіў навязаць біскупам функцыі жандараў, якія павінны слядзіць за добранадзейнасцю каталіцкага духавенства ў Польшчы. Каторы біскуп не будзе добрым жандарам, — таго, знача, выкінуць.

Далей даведваемося, што біскупаў можа Ватыкан назначыць толькі са згоды прэзідэнта Польшчы і толькі добранадзейных для Польшчы (§ 11), што ніводзін ксёндз не можа абняць парафіі без згоды польскага ўрада, каб не дапусціць элементаў, якія маглі бы працаваць не для закування народа ў кайданы польскай няволі (§ 19).

Супроць гэткай агіднай змовы В. Ластоўскі злажыў асабіста ў Рыме на рукі кардынала Гаспары мемарандум-пратэст гэткага зместу:

«Беларусы, або, як старыя кронікі і сам сябе народ называе — крывічы, ёсць асобнае ўсходнеславянскае племя, якое мае сваю аддзельную мову, асобны ўклад жыцця, звычаі і абычаі.

Засяляюць беларусы (крывічы) парэччы Прыпяці, Бярэзіны, верхнія часці Нёмана, Дзвіны і Дняпра з гарадамі: Полацак, Віцебск, Смаленск, Магілёў, Менск, Горадна, Беласток і на тэрыторыі Вільні стыкаюцца з літвінамі.

Агульная лічэбнасць беларусаў (крывічоў) на вышэйназванай тэрыторыі, паводле аблічэння Расійскай Акадэміі навук («Карта Беларускага племя» праф. Карскага), даходзіць 12 мільёнаў душ. З гэтага ліку беларусаў прыблізна 1/3 часць належыць да рымакаталіцкага абраду (каля 4 000 000) і 3/4 належыць да ўсходнага абраду. Акром беларусаў на азначаным абшары жыве да 4-х мільёнаў іншых нацыянальнасцяў: жыдоў — 1 600 000 (10 %), палякаў — да 800 000 (5 %), расійцаў — 800 000 (5 %) і ўсякіх другіх —800 000 (5 %).

Беларусы (крывічы) у час прыняцця хрысціянства (980–990) станавілі незалежную дзяржаўную адзінку пад уладай вялікіх князёў полацкіх. У XIII ст. беларусы і літвіны, злучыўшыся, утварылі сільную дзяржаву — т. зв. Вялікае Княжства Літоўскае. У XIV ст. беларусы і літвіны заключылі з Польшчай персанальную унію, а ў XVI ст. персанальна-парламентарную унію, з захаваннем у кожнай дзяржаве — як у Польшчы, так і ў В[ялікім] К[нястве] Літоўскім — свайго асобнага скарбу, войска і мытных граніц. Гэткі стан пратрываў да канца XVIII ст., калі разам з Рэчпаспалітай Польскай спыніла сваё палітычнае існаванне і Вялікае Княжства Літоўска-Беларускае. Пасля ўпадку свае дзяржаўнасці, беларускія і літоўскія землі трапілі ў склад Расійскай імперыі, але да 1848 года станавілі асобныя правінцыі, якія кіраваліся сваімі законамі (Статут Вял. Кн. Літоўскага). Калі паў у Расіі царызм, Беларусь пачулася вызваленай і, апіраючыся на свае незалежніцкія традыцыі і імкненні, а так жа на волю народа, актам 25/11–1918 г. парвала палітычную сувязь з Расіяй і апавесціла сябе незалежнай дэмакратычнай Рэспублікай у этнаграфічных межах. Былі выбраны прадпарламент і ўрад Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Маладая Беларуская Рэспубліка не здолела абараніць сваіх зямель ад падвойнага націску камуністычнай Расіі з усходу і Польшчы з захаду і сталася арэнай польска-расійскай вайны ў 1919 годзе. Расія і Польшча § 1 Рыжскага мірнага трактату, прызнаўшы незалежнасць Беларусі, тэрыторыю яе падзялілі паміж сабой. Польшча захапіла Заходнюю Беларусь з гарадамі: Гродна, Навагрудак, Беласток, Брэст і Пінск і 3 000 000 насялення. Расія затрымала пад сабой Усходную Беларусь з гарадамі: Полацак, Віцебск, Смаленск, Гомель, Магілёў, Менск і звыш 9 000 000 душ насялення.

Уступаючы жаданню жыхарства, Расія ўтварыла на ўсходняй тэрыторыі Беларусі незалежную Савецкую Беларускую Рэспубліку са сталіцай у Менску.

Заходняя Беларусь, якая трапіла пад Польшчу, сталася арэнай дзікага націску польскага нацыяналізму. Палякі залілі беларускі край сваім войскам, паліцыяй і чыноўніцтвам, навезенымі з Польшчы. Каб прыдаць беларускаму краю характар польскасці, Польшча пачала засяляць край польскімі каланістамі, пазбаўляючы землі пракавечнага жыхара гэтага краю, беларускага селяніна. Каб задушыць і знішчыць беларусаў, Польшча закрывае беларускія школы, не дапушчае беларускай мовы ў мясцовых урадах, судах і касцельным ужытку. Словам, Польшча стварыла на беларускай зямлі для беларусаў такія варункі, пры якіх немагчымым ёсць існаванне народа.

Спаміж усіх спосабаў вынішчання беларускай нацыі, стасаваных Польшчай, найагіднейшым і найбольш абураючым людскoе сумленне з'яўляецца спосаб паланізацыі беларусаў праз каталіцкі касцёл, які на тэрыторыі Беларусі, пры помачы цяперашняй дзяржаўнай польскай улады, апынуўся цалкам у руках польскага духавенства, згрупаванага каля польскіх нацыянальных арганізацый і партый. Амбона каталіцкага касцёла на захопленай палякамі беларускай зямлі сталася палітычнай трыбунай, з якой польскія ксяндзы стараюцца апраўдаць бяспраўе польскага ўрада, чыненыя над мясцовай беларускай люднасцю, сталася агітатарскай моўніцай за польскасць і паланізацыю. Канфесіянал польскіх ксяндзоў служыць да агітацыі і да палітычнай разведкі. Знаныя факты, калі, як варунак адпушчэння грахоў, польскія ксяндзы загадуюць навучыцца беларусу польскай мовы або быць прыхільным польскаму панаванню над краем. Граніцы між польскім каталіцкім духоўнікам і польскім жандарам зацерліся. Да якой меры даходзіць польскі шавінізм паміж духоўнымі палякамі, сведчыць гэткі факт: кс. пасол Мацяевіч, візітуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, пагражаў вучням: «Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі».

Нічога дзіўнага, што, жывучы ў атмасферы ўціску і бяспраўя, беларускі народ час ад часу парываецца за зброю, прабуючы скінуць з сябе ненавідную польскую ўладу.

Пры гэткіх варунках палітычнага жыцця беларусаў пад польскай акупацыяй стаўся заключаны канкардат між Польшчай і Апостальскім пасадам без ведама беларускага народа. Гэты канкардат, замест спадзяванай абароны Апостальскім пасадам слабых і пакрыўджаных, аддае гэтых слабых цалкам у рукі іх

жорсткіх катаў і гістарычных ворагаў, благаслаўляючы бяспраўе і гвалт польска-савецкага мірнага трактата, які прыдзяліў часць беларускай тэрыторыі да Польшчы. Гэткі падзел, дакананы на жывым целе беларускага народа, канкардат пацвярджае, робячы віленскую архібіскупію адной з польскіх касцельных правінцый.

У дадатку, хоць паводле канкардату архібіскупа і біскупаў назначае Ап. пасад, але польскі ўрад можа адкланіць непажаданую кандыдатуру, г. зн., што ў рэшце рэшт аб асобах касцельных дастойнікаў у беларуска-літоўскую правінцыю будзе дэцыдаваць польскі ўрад, які будзе прапушчаць толькі кандыдатуры палякаў.

§ 12 канкардату забавязуе архібіскупа і біскупаў даваць прысягу не толькі ў лаяльнасці Польскай дзяржаве, але і ў актыўнай ёй помачы, г. зн., што касцельныя дастойнікі на заваяваных Польшчай землях павінны ісці не з народам, а супроць народа і яго незалежніцка-адраджэнчых ідэалаў, памагаць Польскай дзяржаве закоўваць у кайданы польскай няволі народы, падбітыя Польшчай. Урэшце гэты параграф і прысяга забавязуюць біскупаў, каб яны пільнавалі палітычнай добранадзейнасці свайго парафіяльнага духавенства, што навязуе зверхнікам касцёла функцыі палітычнай паліцыі.

§ 19 канкардату чыніць назначэнне парохаў залежным ад апініі міністра ўнутраных спраў Польскай дзяржавы, а знача, фактычная раздача парафіяльных бенефіцый аддаецца ў рукі польскага ўрада і будзе заплатай тым духоўным асобам, якія адзначацца на полі паланізацыі і вынішчання мясцовай люднасці, і суліць аддаленне з парафій ксяндзоў-непалякаў, як элемент, які, падзяляючы нядолю свайго народа, спачувае вызваленню яго з-пад польскага ярма.

§ 23 канкардату аддае ў рукі канферэнцыі польскіх біскупаў права ўстанаўляць, дзе якая мова павінна ўжывацца ў дадатковым набажэнстве і навуцы рэлігіі. Гэты пункт адбірае ўсякую надзею ў беларусаў вырваць з рук палякаў каталіцкі касцёл, адрадзіць яго і зблізіць з народам. Забарону ўжываць беларускую мову ў каталіцкіх касцёлах выдаў цар Мікалай I у 1839 г. Замест беларускай мовы ў каталіцкіх касцёлах была ўведзена мова польская, малазразумелая народу. Беларуская мова з яе граматнасцю славянскімі літарамі з’яўлялася на ўсходзе сімвалам і мастом еднасці цэркваў. Расійскі царызм дзеля гэтага паліў старанна беларускія богаслужэбныя кнігі і праследаваў мову. Гэтак дзякуючы гвалту расійскага царызму і ў інтарэсах раздзялення паміж усходнім і заходнім абрадкамі была заведзена расійскім

урадам у каталіцкіх касцёлах польская мова, а ў праваслаўных цэрквах — расійская мова.

Гэта польская мова ў касцёлах на Беларусі з'яўляецца цяпер фальшывым апраўданнем польскіх прэтэнзій да панавання над беларускімі землямі. Паварот беларускай мовы да каталіцкага касцёла — гэта ўдар па польскім імперыялізме, і дзеля гэтага ніколі ніякая канферэнцыя, зложаная з палякаў, не адважыцца парушыць указ цара Мікалая I аб забароне беларускай мовы ў каталіцкім касцёле. З другой жа стараны, беларускі народ ніколі не пагодзіцца з Польскім панаваннем у беларускім краю. Дзіўнае і незразумелае для нас апіранне Апостальскім пасадам на Усходзе спраў царквы, называючай сябе ўсясветнай, на такую эфемерыду, як Польская дзяржава, перагляд усходніх і заходніх граніц якой з'яўляецца чародным заданнем еўрапейскай палітыкі. Параграф канкардату аб мове ў навучанні веры і дадатковым багаслужэнні суліць беларускаму народу самую горкую несправядлівасць, бо аддае суд у рукі палітычных і племянных праціўнікаў.

А дзеля гэтага ад імені беларускіх нацыянальных арганізацый заношу перад Апостальскім пасадам самы рашучы пратэст:

1) супроць абяртання каталіцкай духоўнай улады на беларускай тэрыторыі, часова паняволенай Польшчай, у палітычную польскую агентуру, што вынікае ў § 12 і 19 канкардату, заключанага з Польшчай;

2) супроць аддачы ў рукі канферэнцый польскіх біскупаў права станавіць аб тым, якая мова павінна быць устаноўлена для беларусаў на беларускай зямлі ў выкладзе рэлігіі і дадатковым набажэнстве.

***1925***

## АБ НАЗОВАХ «КРЫВІЯ» І «БЕЛАРУСЬ»

Імя Крывія, як назоў тэрыторыі, занятай племем крывічоў, выступае разам з першымі пісанымі гістарычнымі помнікамі на ўсходняй славяншчыне. Знае крывічоў і іх тэрыторыю рускі Пачатны летапіс, які, апавядаючы аб тым, як род Рурыкаў заснаваў сваё княжэнне ў палянаў, зазначае пры гэтым, што побач з падбітымі палянамі іншыя плямёны былі яшчэ незалежнымі, мелі свае княжэнні: «в Деревлях свое, а Дреговичи свое, а Словене свое в Новегороде, а другое на Полоте еже есть Полочане; от их же Кривичи, иже седят на верх Волги и на верх Днепра, их же град Смоленск [град сей от них создан (Пераяслаўскі

спісак)]: туде бо седят кривичи; таже Север от них» (Спіскі: Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Нікан[аўскі], Васкр[асенскі],Тверскі, Сафійскі, Наўгародскі і інш.).

Найменне «крывічы» было вядомым і нямецкім гісторыкам. Гэтак, кронікар Дусбург[1] (Dusburg, capit. 315) пад 1314 годам піша: «Frater Henricus Marschalcus… venit ad terram Crivitae, et civitatem illam, guae parva Nogardiadicitur cepit». Гэта знача: «Брат Генрык Маршалак… прыйшоў у зямлю Крывіція і места яе, каторае Новагародкам завецца, здабыў».

Імя крывічы ведама было і ў Італіі: у жыццяпісе св. Параскевіі (Paraxedis), князёўны полацкай, пісаным па-лацінску, полацкая князёўна названа «Regina Krivitae» — каралеўна крывічоў (Kazanie na Pogrzeb Maryanny Korsakywnej. Люблін, 1687. Б. II, 49).

Усе выдатнейшыя вучоныя, згодна гістарычным даным, тэрыторыю крывічоў абазначаюць па верхнім Нёмане, па Дзвіне, Дняпры і верхняй Волзе. У ліку крыўскіх гарадоў называюць: Смаленск, Ізборск, Полацак, Менск, Новагародак.

Ізборск і Смаленск вельмі рана, у X стаг., былі падбіты вайсковымі дружынамі нарманаў, якія слылі ў нас пад імязовам «русь», узятым з фінскай мовы. Чужынцы-заваёўнікі імя «русь» пачалі ўжываць дзеля акрэслення падуладнасці падбітых плямён, пераносячы гэтае імя і на падбітыя крыўскія землі. Асабліва ж пашырылася ў нас імя «русь», калі пачалі заводзіць хрысціянства, якое на ўсходнеславянскіх землях у X—XI стст. было верай пануючых сфер і гарадскога жыхарства, а знача — у пераважнасці верай тых самых варагаў-русі і верхаводзячых у рэлігійных справах грэкаў. «Русь» было імем не толькі новабудаванай варагамі дзяржавы, але і назовам новай хрысціянскай веры ў адрозненне ад славянскага паганства. І вось усё, што не ўкладалася ў рамкі хрысціянства, як яго разумелі візантыйцы (і варагі-русь), лічылася адрынутым, «бесаўскім». Усякае выражэнне дахрысціянскага верання, безумоўна, асуджалася і праследавалася, як чартоўскае… Пад гэтае паняцце (чартоўскага, процілеглага хрысціянству і варажскай над славянамі ўладзе) падтасоўвалася і праяўленне народнасці (гэта знача, — мова мясцовых плямён, іх звычаі, абычаі і нацыянальныя імёны). Словам, у варагаў-русі прынцып народнасці быў падменены прынцыпам праваслаўя і варажскай улады, а адно і другое выражалася ў імені «русь». Також даволі рана праз хрысціянства, якое par excelence было верай рускай, і праз пануючую напаўкрыўскую, напаўваражскую (Рагнеда—

крывічанка, Валадзімер—вараг) дынастыю гэтае імя «русь» пачало прыліпаць і да крывічоў, не падбітых варагамі (полацкіх).

Калі ў XIII ст. крыўскія землі апынуліся пад панаваннем літоўскай дынастыі, нашы прашчуры імязовы «літва», «літвін» прынялі як тэр[мін] для абазначання дзяржаўнай прыналежнасці. Кожны крывіч з роду і племені быў «літвіном» па дзяржаўнай сваёй прыналежнасці і «русін» па веравызнанню.

Так разумелі тэрмін «русь» вялікія князі літоўскія і нашы крыўскія пісьменнікі ўключна з Францішом Скарынам. Так, в. кн. Казімір у акце 1440 года падзяляе сваіх падданых: «ляхь, літвін, витблянин, русин (кіеўшчына) или с иных наших земль». З гэтага бачым, што толькі адна Кіеўшчына, як быўшы цэнтр і гняздо варагаў-русі, насіла назоў «русь» у палітычна-тэрытарыяльным значэнні. Праглядаючы акты і дзяржаўныя дакументы б. Вял. Кн. Літоўскага, раз-пораз сустрачаем гэткія акрэсленні: «Шляхта литовского и руского народа» ў значэнні каталікі і праваслаўныя, або «панове и шляхта обоего закону и веры хрестиянское: римского закону—литва и гречес- кого — русь» (Первольф. Славяне. Т. III. Ч. II).

Географ і гісторык В. Кн. Літоўскага, Гвагнін, італьянец, які жыў у канцы XVI ст., гаворачы аб Вільні, кажа: «…у гэтым горадзе святынь рымскай і рускай веры, мураваных і драўляных, маецца каля 40; такжа мітрапаліт рускі, у царкве рускай вялікай, прысвячонай Прасвятой Дзеве, якую яны называюць Прачыстай, мае сваю сталіцу. А ва ўсім Княстве Літоўскім сем рускіх уладык: полацкі, львоўскі, валадзімерскі, пінскі, луцкі і кіеўскі». («Kronika» надрукавана па-лацінску ў 1578 годзе, а ў перакладзе на польскую мову ў 1611 г.)

З першапачатнага назову «русь», пад уплывам візантыцкага канцылярскага стылю, вытварыліся назовы «Русь Белая, Чорная, Вялікая і Малая» (глядзі стаццю Первольфа ў Archiv fur Slav. Philologie «Аб назовах Русь (Россия) Вялікая, Малая, Белая»).

Назоў «Белая Русь» найраней выступае ў прускіх немцаў як тэрмін геаграфічны, але пад гэтым геаграфічным назовам яны разумелі не крыўскія землі, а землі, распаложаныя на ўсход ад Белавозера. На адной з першых друкаваных карт наогул і першай друкаванай карце Нямеччыны ў асобнасці, апрацаванай кардыналам Мікалаем Кузанам[2] у 1460 годзе і адбітай у 1491 годзе, паказаны: Polonia, Prussia, Samogitia, Livonia, Littuania, Podolia, Russia (Галіччына) і Alba Russia sive Moscovia (Белая Русія, або Масковія). Гэтакім чынам, у канцы XIII і пачатку XIV ст. назоў «Белая Русь» немцы лічылі паралельным назовам для

абазначання Масковіі. На некаторых картах XIV ст. назоў «Белая Русь» аднесена яшчэ далей на поўнач, на адну шырыню з Халмагорамі; гэткае палажэнне мае «Белая Русь», прыкладам, на карце Масковіі італьянскага географа Якуба Гастальдзі 1548 года, дзе мы бачым на далёкай поўначы Russia bianka (Белая Русь), а на поўдні з правай стараны Дняпра — Russia Rossa (Чырвоная Русь). (Гл.: Курс белоруссоведения: Лекции, читанныя в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 года. М., 1918–1920. Б. 95–96. Стацця праф. Анучына.) У XVII і XVIII стст. Белая Русь саўсім немаль зыходзіць з геаграфічных карт. А гэта вось чаму.

Масковія пасля слаўнай перамогі над татарамі на Куліковым полі (1380 г.) замест наймення «Чорная Русь» (нявольная) пачала сябе называць «Белай Русьсю»* ў значэнні вызваленай з-пад татарскага ярма. Гэты назоў праўдападобна за ёй і астаўся бы назаўсёды, каб не другая важная падзея ў жыцці Масковіі. Такой важнай падзеяй было сужэнства маскоўскага в. князя Івана III з грэцкай царэўнай Аленай[3].

Да заваявання туркамі Візантыйскай імперыі грэцкае праваслаўе мела апору ў візантыцкіх імператарах. Пасля ж заваявання туркамі Візантыі адзіным незалежным праваслаўным манархам астаўся цар маскоўскі. Жаніцьба з грэцкай царэўнай як быццам ставіла яго ў палажэнне спадкаберцы візантыцкіх імператараў. Так, прынамні, глядзела на гэта маскоўскае і часцю грэцкае духавенства, што дало свае вынікі. Іван III прымае тытул цара (у дакументах пісаўся нават «цесарь») і прысвайвае сабе візантыцкі герб двухгаловага арла. А каб апраўдаць гэты амбітны назоў, грэкі падсоўваюць Маскве мысль гістарычнага яе пасланніцтва ў аб'яднанні ўсіх усходнеславянскіх аднаверцаў пад сваёй уладай, у чым Царгародскі патрыярхат абяцае сваю дапамогу «Трэцяму Рыму». З гэтай мэтай усю «русь» (па веры) падзяляюць на царкоўныя правінцыі, у выніку чаго паяўляецца ў

---

* Первольф (Славяне. Т. III. Ч. II. Б. 188) так кажа: «Название «Белая Русь» форма книжная; оно сначала означало Русь Московскую (не Литовскую, не Польскую); так и называлась она, напр., у прусских крестоносцев, у разных книжников средней Европы, в Польше (примером, у архиеп. Яна Ласкаго, 1514 г.) да и в самой Москве; но позже, со второй половины XVI ст., «Белая Русь» — это земли литовско-русские по Двине, Березине, Сожу и верх. Днепру, около Мстиславля, Могилева, Рши (Орши), Свислочи, Режицы, Мозыря, Бобруйска; около 4 волостей «русских» в отличие от 4 волостей литовских — около Новогрудка, Слонима, Гродно, Минска».

пачатках XVI ст. на свет канкрэтная царкоўна-адміністратыўная тэрміналогія: Русь Вялікая (Масковія), Русь Малая (Украіна) і Русь Белая (крыўскія землі, якія ўходзілі ў склад В. Кн. Літоўскага).

Гэту царкоўна-адміністратыўную тэрміналогію ахвотна прымае (пакуль што — прыватна) толькі маскоўскі ўрад, абазначаючы тэрмінам «Белая Русь» крыўскія землі толькі да Дняпра, а пасля паходу Івана Грознага на Полацак, — пашыраючы гэты назоў да Дзвіны і Бярэзіны. Ужо Іван IV даводзіў: «Вся руская земля наша вотчына». Знача, ужо ў канцы XVI ст. замысл хітрых грэкаў увайшоў у пераконанне маскоўскіх цароў. Пры гэтым Масква пачала называць крыўскую пісьменную мову «белорускай», і гэты назоў яна мела толькі ў Масковіі і нідзе больш (гл.: Первольф. Славяне. Т. III. Ч. II. Б. 168). У нас у той час яна называлася «рускай», бо літары (славянскія), якімі выражалася крыўская мова на пісьме, былі прыналежнасцю «рускай» царквы. Усё гэтае імязоўніцтва ведама было толькі Маскве, да другіх краёў даходзіла яно туманнай легендай.

Гэтак Гвагнін так піша: «Руская зямля, якую здавён Раксаланіяй называюць, ляжыць ад усходу сонца пры Белым возеры, пры рацэ Танаіс (Дон), якая Еўропу ад Азіі аддзяляе; на захад — да граніц Валахіі і Малдаўскай зямлі; з поўдня гранічыць з горамі Татрамі. А ёсць траякая: адна Белая — каля Кіева, Мозыра, Мсціслаўля, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска, Северскай зямлі, якая здавён да В. Кн. Літоўскага прыналежыць; Чорная — у Маскоўскай зямлі, каля Белавозера і там усюды да Азіі: Чырвоная — пры горах, якія Татрамі называюць… « (Kroniki Sarmacii Europ. Бал. 323).

Падобна Гвагніну, «Чорнай Руссю» называе яшчэ Масковію Стрыйкоўскі. Сымон Старавольскі (у «Geografii Polskiej», выданай у 1656 годзе па-лаціне ў Wolfenbüttl) тлумачыць: «Русь… паложаная за Донам і нáчамі Дняпра здавён-даўна празываецца Чорная Русь, а пазней яе пачалі зазвычай называць Масковіяй. Царства гэтае ад горада і ракі Масквы атрымала назоў, а перш называлася Азіяцкая Сармацыя, а Дняпроўская Русь — Еўрапейская Сармацыя, а сама Польшча Вандаліяй называлася».

Усе гэтыя гісторыкі жылі ўжо ў часы, калі Масковія была вызвалена з-пад татарскай няволі, але яны памяталі аб яе ранейшым паярэмленні і дзеля гэтага зазначалі: «Даўней называлася Чорнай Руссю, а цяпер Масковіяй», яўна блутаючы пры гэтым разнародныя тэрміны: царкоўна-адміністратыўны тэрмін (Белая Русь), народна-гістарычны (Чорная Русь) і палітычны (Масковія).

Дый не дзіва, што чужыя збіваліся, калі збіваліся ў гэтых назовах і самі народы, якім імязовы гэныя былі гісторыкамі прыпісваны.

Затое добра разбіраліся ў гэтым маскоўскія «собиратели Руси»: яны разумелі, што Маскве трэба аберуч трымацца імені «русь» і што ўсе ўсходнеславянскія землі, дзе жывуць праваслаўныя, падлягаючыя зверхнасці маскоўскіх патрыярхаў, трэба хрысціць афарбоўкамі і памерамі гэтага імені для палітычнай экспансіі.

Першы раз старакрыўская мова была назвала «беларускай» у кнізе «Kazanie św. Cyrylla patryarchy Jorozolimskiego» (1596), у прадмове да якой аўтар яе, Сцяпан Зізаній, кажа, што выдаў ён тое ж самае і ў мове «białoruskiej». Калі прыняць пад увагу, што абодва браты Зізаніі-Кукелі (трава кукаль па-грэцку — зізані) былі як змагары за праваслаўе цесна звязаны з Маскоўскім патрыярхатам*, то будзе ясна, скуль гэты тэрмін трапіў першы раз у польскую кніжку. Па-за гэтым адзіночным прыпадкам, у краёвай пісьменнасці не сустрачаецца ў такім азначэнні «Белая Русь» да другой палавіны XVII ст. Лаўрын Зізаній[4] у 1596 годзе старакрыўскую мову называе «літоўскай» («Катехізис, по-литовски — оглашение»), гэтаксама называе яе і Памва Бярында[5] ў сваім слоўніку 1653 года («Петел: Ческі і Рускі, когут. Волынски, певень. Литовски — петух», бал. 133).

Тэрмін «Белая Русь» пачынае ўходзіць у жыццё пасля таго толькі, калі цар Аляксей Міхайлавіч (1645–1676), заваяваўшы немаль усю Літву, да Коўны і Берасця ўключна, прыбірае тытул «Царя и самодержца всея Великия, Малыя и Белыя Руси». Андрусаўскім мірам 1667 г. былі далучаны да Масковіі ўсходнекрыўскія землі — Смаленшчына і Севершчына. Гэта быў першы падзел крыўскіх зямель. Як пры ўсякім падзеле суцэльнага народнага арганізма, так і ў гэтым здарэнні пайшлі перабежчыкі. Нашых перабежчыкаў у Масковіі сустрачалі вельмі прыхільна, бо яны былі, па-першае, культурным элементам, якога Масковіі не хапала, а па-другое, былі праваднікамі «сабірацельскай» палітыкі Масковіі. З гэтага часу назоў «Белая Русь» (усё яшчэ як тэрмін царкоўна-адміністратыўны) пачынае пранікаць і на захад ад лініі Андрусаўскай угоды[6].

У 1772–1796 гадах усходнекрыўскія землі былі далучаны да Расійскай імперыі. Царыца Кацярына любіла называць навабытыя землі «от Польши возвращенными», але ўзварот гэты

---

* Брат Сцяпана, Лаўрын Зізаній напісаў для Масквы катэхізм, прагледзеўшы які, маскоўскі патрыярх Філарэт надрукаваў у Маскве ў 1627 г. (гл. Сопиков. Опыт Росс. библиографии. СПб., 1813. Б. 124).

расійцы разумелі ў той спосаб, што Полацак, Менск, Магілёў і др. гарады становяць спадак па патомках Валадзіміра, прадстаўніцай якіх быццам была царыца Кацярына. Апіраючыся на царкоўна-адміністратыўны назоў, царыца Кацярына актам, выданым 6 лютага 1774 года, першы раз у гісторыі надала крыўскім землям дзяржаўна-адміністратыўны назоў Белай Расіі («некоторыя провинции, общеназываемыя Белой Россией»).

У кацярынінскай «Белой России» было ўстаноўлена Беларускае генерал-губернатарства і для даследавання нованабытага краю — навуковая ўстанова «Белорусское Вольно-экономическое общество» ў Віцебску. Беларускім праваслаўным біскупам быў назначаны вядомы Юрый Каніскі[7], беларускім уніяцкім архібіскупам — Іраклій Лісоўскі, а такжа была заснавана новая каталіцкая беларуская архібіскупія ў Магілёве, з архібіскупам Богуш-Сестржанцэвічам[8] на чале.

Гэткім чынам у канцы XVIII ст. з'явілася на свет не існаваўшая датуль дзяржаўна- адміністратыўная адзінка — Беларусь у складзе Расійскай імперыі.

Пасля першага падзелу Польшчы ў 1772 годзе ва ўсёй Еўропе ўзрасло зацікаўленне як гісторыяй Польшчы, так і гісторыяй крыўскіх зямель, далучаных ад яе да Расіі пад імем Літвы. Самы грунтоўны дослед даў у канцы XVIII ст. англійскі вучоны гісторык Ватсан*, які на аснове філалогіі і гісторыі давёў, што славянская часць Літвы няправільна называецца «Літвой» ці «Руссю», а што істотным імем славянскай народнасці, засяляўшай Літву, ёсць імя «крывічы».

Аб'ектыўныя довады Ватсана і праца Шафарыка[9] мелі ўплыў на расійскага гісторыка Карамзіна[10] і на гісторыка Літвы Нарбута. За Карамзіным і Нарбутам пайшлі немаль усе расійскія і польскія гісторыкі першай палавіны XIX ст. (да 1860-х гадоў).

Аднак як Карамзін, так і Нарбут высказаліся даволі неакрэслена, дзеля гэтага да 60-х гадоў XIX ст. адміністратыўная адзінка «Белая Россия» і афіцыяльна лічылася ў расійцаў «Літвой», а заходная часць — нават «Польшей».

Дзеля заслуг езуітаў, якія прычыніліся да таго, што крыўскія землі былі далучаны да Расіі без закалотаў і пратэстаў, — Кацярына пакінула шырокія правы памешчыкам, якія, як адзіная

* Гл.: O sławianach i ich pobracimcach. Część I, obejmująca rozprawy o języku Samskryckim, tudzież o literaturze Indian, przez W. S. Majewskiego. Варшава, 1816. А такжа «Teka Wileńska». 1857, № 1. Бал. 225.

інтэлігенцыя ў краю, з каторай рэкрутавалася і чыноўніцтва, ад 1772 да 1830 года вытвараюць «беларускую» пісьменнасць. Уся гэта «беларуская» пісьменнасць была друкавана ў чыстай польскай мове, а толькі па тэрытарыяльнай прыналежнасці аўтараў і па месцу выхаду кніг названа «беларускай». Гэткім чынам у ўтвораную царыцай Кацярынай «Беларускую правінцыю» палякі й езуіты ўлілі польскі змест, гэта ім было лёгка зрабіць, бо над шырокімі народнымі масамі крыўскага сялянства Расія аддала ўладу ў рукі памешчыкаў-палякаў, а апошнія прадстаўлялі край перад дзяржавай.

Калі ў 1831 годзе выбухла польскае паўстанне, то расійскі ўрад пабачыў, што Беларусь з’яўляецца аб’ектам польскіх прэтэнзій. Ні палякі, ні расійцы не лічыліся з аграбленым і абязволеным крыўскім народам, які знаходзіўся ў прыгоннай залежнасці. Ні адным, ні другім не прыходзіла ў галаву прызнаць за гэтым «простым» народам хоць цень самаістасці. Аб Беларусі ставілася толькі пытанне ў плашчыні — Польшча гэта ці Расія? Палякі даводзілі, што мова «тутэйшага» народа ёсць правінцыянальная адмена польскай мовы, расійцы ж наадварот, што гэта — правінцыянальная адмена «русскаго языка». Палякі ў гэтай спрэчцы мелі моцны аргумент — вытвараную імі «беларускую пісьменнасць», чаго ў расійцаў яшчэ не было.

У кожным здарэнні пасля 1831 года стаў для расійцаў ачавістай бессэнсоўнасцю назоў «Беларусь» з яго польскім зместам, — і цар Мікалай перамяноўвае «от Польши присоединенныя провинции» ў «Западную Россию».

Але ў «рускасці» крыўскіх зямель расійскі ўрад не меў пэўнасці. Вельмі характэрны выпадак апавядае Доўнар-Запольскі[11] (Исследования и статьи. Кіеў, 1909. Т. І. Б. 337): «У 1835 годзе вядомы гісторык Устралаў вылажыў обер-пракурору святарнейшага сінода Пратасаву і міністру народнай асветы Увараву, што Літоўскае княства — такжа Русь. Пратасаў, для якога гэта было важна «дзеля палітычных меркаванняў», і Увараў прыйшлі ад гэтага «ў захват» (выражаючы яго ў французскай мове), яны пастанавілі «тотчас же» далажыць аб гэтым цару».

Пасля гэтага спрытнага «адкрыцця» па нейкім часе была распачата праца па даследаванню «Западно-русского» краю. Праца гэта была даручана тром найпаважнейшым навукова-дзяржаўным установам: Расійскаму Геаграфічнаму таварыству, Статыстычнаму камітэту і Расійскаму Генеральнаму штабу. Першым прыступіла да працы Расійскае Геаграфічнае таварыства, якое вырабіла падробную праграму даследавання краю і

разаслала яе ўсім урадавым установам для выканання. Сабраныя матэрыялы былі апублікаваны ў «Этнаграфічных зборніках» гэтага таварыства (1853–1864 гг.) пад рэдакцыяй Кавеліна. У першым зборніку, у стацці самога Кавеліна, крыўская мова названа «тамошней». У трэцім зборніку знаходзім стаццю «Заметки о западной части Гродненской губернии», у якой надрукаваны слоўнік «Белорусско-кривичанскаго языка» (б. 193–201) і сабранне «Крывічанскіх песен» (б. 201–276). У 1857 годзе выйшла з друку першая гісторыя Беларусі Турчыновіча (Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен, СПБ., 1857). Турчыновіч побач з назовам «беларусы» ўжывае назоў «крывічы» нават у агалоўках часцей свае кнігі, прыкл., «Книга третия. Литва покоряет Кривския земли». Крыху раней, у 1855 годзе, паяўляецца праца генерал-маёра Бэз-Карніловіча[12]«Историческия сведения о примечательнейших местах в Белоруссии», дзе, між іншым, саўсім слушна кажа: «Народ кривичанский занимал всю Витебскую губернию, южную часть Псковской, северо-западную часть Смоленской и северную половину губерний Могилевской и Минской, к чему неоспоримым доказательством служит самое наречие белорусскаго языка, до сих пор оставшееся в разговорном, хотя обруселом языке, употребляемом жителями тех мест».

Побач Геаграфічнага таварыства працаваў Дэпартамент Генеральнага штаба, які ў 1857, 1858 і 1859 гадах рассылае апрацаваныя ў папярэднія гады асобныя інструкцыі і праграмы для даследавання нашага краю. У 1861 годзе выдана было Штабам апісанне Віленскай губерні, якое напісаў Корэва (Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генеральнаго Штаба. Виленская губерния. Составил генеральнаго штаба капитан А. Корева. СПб., 1861. VIII, IV; 804 балоны). У гэтай саліднай кнізе аўтар так характарызуе жыхарства Віленшчыны: «Славяне, населяющие Виленскую губернию, кроме выходцев из Великороссии, великороссиян, разделяются на белоруссов, черноруссов и кривичей» (бал. 290). Для характарыстыкі пераважаючай мовы ў Віленшчыне аўтар падае адрыўкі «из песен славян», якіх называе «племенем кривичанским». Усе прыведзеныя песні даюць пробкі крыўскай (беларускай) мовы.

Другім выданнем Генеральнага штаба было апісанне Гарадзенскай губерні (Материалы для географии и статистики России, собранныя офицерами Генеральнаго Штаба. Гродненская губерния. Составил член Имп. Рос. Геогр. О-ва генеральнаго штаба подполковник П.Бобровский»[13]. СПб., 1863. У дзвюх часцях: I-я XXII+866 б.; 2-я VIII+1074 балоны). Хоць пад уплывам

ужо абрусіцельнай палітыкі расійскага ўрада ён запэўняе, што Гарадзеншчына была і ёсць «русская», але пры гэтым тлумачыць, што беларусы ёсць патомкамі крывічоў (б. 622–623).

Статыстычны камітэт распачаў сваю работу па даследаванню нашага краю ў 1835 годзе (услед за «адкрыццём» Устралава) і вёў яе ў прадоўжанні 1840-х гадоў. Урэшце, пад рэдакцыяй М. Лябёдкіна выдрукаваны былі вынікі працы Камітэта пад агалоўкам «О племенном составе народонаселения Западнаго Края Российской империи» (у «Записках Геогр. О-ва», 1861, кн. III). Паводле гэтай афіцыяльнай статыстыкі ў 1830–1860-х гадах 26 106 душ яшчэ лічыла сябе крывічамі.

Пад уплывам паўстання 1861 года[14] стаўся гвалтоўны паварот: у Маскве і Петраградзе раптам загаварылі аб прадвечнай рускасці крыўскага краю і адначасна аб абрусенні яго. «У ўсіх на вуснах было слова абрусенне… «западно-рускаго края», — іранізуе расійскі вучоны Пыпін[15]. Побач з бязлітасным нішчаннем польшчыны на крыўскіх землях Расія энергічна выступіла і супроць першых праблескаў нацыянальнага адраджэння крыўскага і ўкраінскага народаў. Пыпін так аб гэтым апавядае («Белорусская этнография»): «Няведама, па якому сігналу пачаліся гэтыя нападкі, але яны выйшлі з усякай меры прыстойнасці і пісьменніцкай годнасці. Смерць Шаўчэнкі[16], у каторым пры ўсёй непрыхільнасці да характару яго твораў, нельга было не прызнаць выдатнага паэты, утрата якога выклікала многа гарачага спачуцця і ўспамінаў паміж яго пабратымцаў, —для «Вестника» (Вестник Северо-Западной России. 1862–1863. Т. IV, апрель IV, б. 32–42) паслужыла прычынай да стацці сапраўды агіднай («гнусной»): гэта быў цэлы паток лаянкі, і галоўнай прычынай усіх недастаткаў Шаўчэнкі аказывалася тое, што ён быў не «благородного» паходжання. Мысль аб выданні кніг для народнага чытання на ўкраінскай мове, якую выкладаў Кастамараў[17] у «Основе», сустрэчана была градам абвінавачань, як мысль шкодная і ледзь не здрадная. Тут ужо было сказана, што мысль аб кнігах на ўкраінскай мове ідзе «не ад Бога» (дык?), а хутка пасля і ў другіх стаццях было вытлумачана, што ўкраінафільства ёсць акурат галіна польскай інтрыгі — славэтная тэма, якая пасля многа разоў паўтаралася і шчасліва дажыла, са сваімі вынікамі, да нашых дзён».

Пад рубрыку «польскай інтрыгі» было падведзена і крыўскае адраджэнне. Пацверджанае доследамі многіх расійскіх вучоных і такіх грунтоўных навукова-дзяржаўных устаноў, як Географическое общество, Статистический комитет і Генеральный штаб, —

існаванне наймення «крывічы» для абазначэння нашага народа і краю было асуджана, адкінута і прыпісана польскай інтрызе*. У гэтым паходзе супроць найменняў «крывічы» і «ўкраінцы» прымала ўдзел усё расійскае грамадзянства, як лібералы, так і чорнарэакцыйныя кругі: усе, з славянафіламі на чале, згаджаліся і напіралі на абрусенне крыўскіх зямель. Замест найменняў «крывічы» і «ўкраінцы» расійская прэса і ўвесь дзяржаўны апарат прапагавалі найменні «белоруссы» і «малоруссы», якія павінны былі абазначаць толькі этнаграфічную адмену «адзінага расійскага народа». Прычым гэтыя тэрміны не былі пашыраны на займаныя «белоруссами» і «малоруссами» тэрыторыі: для апошніх былі прыняты «раз назаўсёды і беспаваротна» тэрміны «Северо-Западный» і «Юго-Западный край».

Аднак трэба было і для сябе і для заграніцы абаснаваць, на што апіраецца назоў «белоруссы». Зрабіць гэтае абаснаванне ўзяўся прускі немец, які быў на расійскай службе, — Экерт. Гэты апошні прыйшоў да выснаўку, што нішто так выразна і праўдна не вызначае граніцы паміж народнасцю «рускай» і «польскай», як веравызнанне. Гэткім чынам у «Западной России» ўсе тыя, якія вызнаюць праваслаўную веру, павінны лічыцца рускімі, а тыя, хто вызнаюць каталіцтва, — палякамі (у прадмове, напісанай Экертам да «Атласа народонаселения Западно-Русскаго края по вероисповеданиям». СПб., 1861). Пры гэтым Экерт, разлічаючы на народную цемнату, кажа: «Чым ніжэй ступеня асветы, на якой стаяць народы, параўнаныя паміж сабой з нацыянальнай стараны, тым важней і больш рашуча значэнне веравызнання, як спосабу разгранічэння народнасцяў» (б. 10). А ўрэшце канчае Экерт свае меркаванні гэткай мудрай мыслю: «Калі беларусы і не называюць сябе гэтым імем, то яны гавораць па-беларуску, а знача, чуюць і думаюць «по-русски».

Запачаткаванае маскоўскімі дзеячамі 1860-х гадоў абрусіцельства крыўскіх зямель агульнымі і аднадушнымі высілкамі расійскай публіцыстыкі, навукі, школьніцтва і адміністрацыі было замацована на працягу наступных 60-ці гадоў: назоў «крывічы» быў выціснуты з жыцця і немаль з пісьменнасці. Вытварана была расійскімі вучонымі тэорыя аб «общеруссах», малодшай галіной якіх сталіся «белоруссы».

---

* Цяпер расійская рэакцыя найменні «крывіч», «Крывія» таксама тлумачыць польскай інтрыгай, прыдаўшы ёй назоў «крыўскай акцыі».

Імя «крывічы» зрэдку толькі і нясмела паяўляецца сярод крыўскіх адраджэнцаў-паэтаў: Марцінкевіча[18], Каганца[19], Купалы, К. Буйло[20], Бядулі[21], Ластоўскага, Езавітава[22] і некаторых паэтаў з малодшага пакалення.

З павыжшага агляду мы павінны зрабіць вось які вывад: усе старыя народы, якія маюць за сабой тысячалетнюю гісторыю, носяць па некалькі імёнаў, каторыя адбіваюць яго гістарычную долю. Прыкладам, народы нямецкага племя справеку былі ведамы лацінцам пад найменнем германцаў. У славянаў яны называліся немцамі, у французаў — алеманамі, а ў літвіноў — vokieèiai, а самі сябе яны называюць розна, залежна ад гістарычнай мінуўшчыны паасобных галін нямецкага племя, як то: готы, швабы, саксы, а пасля наогул усе — deutsche. Хто ж пры здаровым розуме будзе цвердзіць, што германцы, немцы, алеманы і дойтшы не адзін і той жа народ ад самага свайго пачатку?

Гэтаксама народы чудскага, або фінскага, племені самі сябе называюць суомі (suomi), суомаляйсет (suomalaiset), немцы ж іх называюць фінамі, славяне — чуддзю.

Эстонцы самі сябе завуць дваяка: suomelased і esti; у латышоў яны — ігауні (iggauni), у чухонцаў — віроляйсэт (wirolaiset).

Скандынаўцы — у сябе свеоны (sweoni), а ў чухонцаў, фінаў і эстаў — руоці (ruoci). Жыхары Даніі называюць сябе донамі, а ў фінаў яны называюцца ютамі.

Народы кельтыцкага племя ў сябе называюцца галамі, геламі (gaeli), а ў немцаў — wälsche, у славянаў — влахі, валохі.

Маскалі самі сябе называюць рускімі, а ў нас і ў украінцаў яны — маскалі, у чухонцаў — веннелясэд (wennelassed).

Палякі ў сябе — поляцы (polacy), у нас — палякі, а даўней у нас і ў украінцаў называлі іх — ляхі, у літвіноў яны — lenkai.

Таксама і наш народ у сваёй тысячалетняй гісторыі насіў тры імені: крывічы, літвіны, русь. Разбіраючы гэтыя тры імені па іх гістарычнаму значэнню, згодна ўсім даным, толькі першае імя ёсць імем нашым уласным, самім народам сабе дадзеным (крывічы — родныя сабе па крыві, сваякі), а другія два былі нам накінуты са стараны.

Сягоння, калі народ сіліцца адрадзіцца ад самых каранёў сваіх і шукае старанна кожнага ценю свае індывідуальнасці (у мове, у абычаях, у мастацтве і пісьменнасці), важна прыпомніць яму яго ўласнае імя, у дадатку — імя, каторае гаворыць аб лепшых днях жыцця нашага народа, з яго вольнымі вечамі і слаўнымі змаганнямі за сваю незалежнасць. Важна самым іменем народа зазначыць, што ён — не фарбаваная адмена чыейсь індывідуальнасці, а

сам па сабе індывідуальнасць. Гэта не значыць, што мы павінны выракацца назоваў «Беларусь, беларусы», дый гэта не ў нашай моцы, бо і апошнія замацаваны за намі 100-летняй гісторыяй, цэлай гарой пісьменнасці, і ўрэшце, так называлі і будуць называць нас маскалі і нашы ж памаскаленыя «землякі», якім так дорага гістарычнае ярмо і звязаная з ім няволя, што не здужаюць здабыцца на вольную думку.

Звыш усяго сказанага трэба дадаць, што апошнімі часамі за граніцай намножылася асаблівага кірунку «беларусаў», якія, прыналежачы да абозу чорнай расійскай рэакцыі, даволі ахвотна называюць сябе «белымі русамі», прыдаючы гэтаму імю значэнне, процілеглае «чырвоным» русам. Гэткая ігра словам «белы рус» замацоўвае ў вачах заграні́чнікаў за нашым адраджэннем апінію чорнай рэакцыі, апінію, вельмі шкодную нам і нічога супольнага з нашым адраджэннем не маючую.

Часцю з рэакцыйных крыніц, а часцю на грунце зменавехаўства людзей, па складу душы свае чорных, якія свежа перамаляваліся ў «чырвоных», падняўся гвалт супраць імён «Крывія, крывічы». Свежыя адэпты «чырвонасці» з роспаччу хапаюцца за белы фігавы лісток «общерусскости», як за апошні ратунак ад паглынаючай іх чырвонасці. З гэтага абозу пасыпаліся аргументы ад Ілавайскага[23], нясмачныя «перасцярогі», лаянка і г. пад.

Адкідаючы без адповедзі гэныя выступленні, на адну рысу з тых нападак мы павінны звярнуць увагу. Не маючы аргументаў, каб запярэчыць ачавістай праўдзе, што імя «крывічы» ёсць стары і ўласны назоў нашага народа і краю, які мае не толькі роўнае права на існаванне з іншымі навейшымі і са стараны накінутымі нам назовамі, але больш таго, як назоў самаістны, можа павясці крывічоў да акрэслення свае нацыянальнай істоты, без наменклатурнай залежнасці ад «общерусскости», — праціўны абоз падсоўвае нашым ворагам мысль разбівання крыўскага адраджэння пры помачы племяннога дзялення адзінага і суцэльнага крыўскага народа. Метад гэты ў свой час пробавала тасаваць да ўкраінцаў царская Расія, памыкаючыся замест адзінага ўкраінскага руху вытвараць мясцовы сепаратызм — кацярынаслаўскі, харкаўскі, кіеўскі, валынскі, кубанскі. Гэтага метаду хапаюцца цяпер элементы, якія ўціснуліся ў наш адраджэнчы рух, але для якіх рух гэты чужы. Яны разважаюць самі ў сабе так: калі гэта мае быць самаісты народ, а не набела фарбаваная русь, то хай жа ён разаб’ецца на дробныя сепаратныя адзінкі і згіне. Дзеля гэтага крычаць нашы фарбаваныя русы аб дрыгвічах, драўлянах, радзімічах і інш., стаўляючы іх побач з агульнанацыянальным імем «крывічы». Так на саламонавым

судзе фальшывая маці вымагала расцяць жывое дзіцё надвае, каб толькі яно не дасталося праўдзівай маці.

Калі ворагі нашага адраджэння стараюцца адарваць ад нас Палессе пад імем драўлян, то з гэтай прычыны няма што цешыцца. Пробы такія былі, ёсць і будуць, але дагэтуль такім спробам з адраджэнчага абозу яшчэ ніхто не патураў. Прыпісванне грам. Ластоўскаму жадання разбіць крыўскі адраджэнчы рух ёсць брыдкая выхадка. Жаданне паставіць на годную вышыню імя «крывічы» лагічна выплывае з разумення адраджэнча-нацыянальнага руху, які павінен апірацца на гістарычную мінуўшчыну і самаістную індывідуальнасць нашага народа, а не на расійскія русіфікатарскія традыцыі. Усякая абарона русіфікатарскіх традыцый, хоць бы з адраджэнчага абозу, з'яўляецца рэакцыяй, якая ў дадатку чапляецца за палітыку царскай улады, хіба ў тайнай надзеі на ўзварот той улады. Збіваючы крывічоў на ролю правінцыянальнай адмены «агульнарускага» пня, нашы пазаднікі гэтым самым пазбаўляюць наш народ яго самаістай гісторыі, яго асобнай культуры і ў будучым — дзяржаўнага адраджэння. Бо якое ж апраўданне могуць мець у вачах усяго свету на асобную самаістную культуру і на асобнае дзяржаўнае існаванне русы ад русаў (белыя ад вялікіх)?!

Нашае адраджэнне ад самых сваіх пачаткаў (ад Марцінкевіча, Багушэвіча і Купалы) было «крыўскай прапагандай», бо імкнулася раскрыць самаістыя сілы і рысы нашай духовасці, нашай гісторыі, словам, — нашай народнай істоты ў мінуўшчыне і будучыне. Крыўскае адраджэнне ад сваіх першых пачаткаў мае на мэце *злучыць* разбіты гістарычнымі падзеямі вялікі і слаўны крыўскі народ духова і фізычна, а не разбіць яго. Прыняць той ці іншы назоў для абазначэння сябе залежыць ад нас саміх, а не ад тых ці іншых чужынцаў.

Будучыню перад сабой мае толькі той народ, каторы мае ясна выражаныя індывідуальныя рысы, а не рысы, якія з'яўляюцца адбіццём чужой індывідуальнасці ў мове, у гісторыі, у творчасці і сваім нацыянальным імені. Гэта будзе не індывідуальнасць, а паводле акрэслення Бяссонава — «промежуток и недоумок». Як «беларусы» мы — толькі адбіццё агульнарускай індывідуальнасці, нейкі «промежуток и недоумок», але як «крывічы» — мы асобны індывідуум, асобнае славянскае племя са сваёй багатай мінуўшчынай, сваёй асобнай мовай, тэрыторыяй і духовай творчасцю.

Здаровая логіка гісторыі, інтарэсы і традыцыі нашага адраджэння кажуць: Крывія, Русь (Беларусь), Літва — імёны, пад якімі мы ведамы ў гісторыі, але з гэтых імёнаў толькі першыя—

крывічы — нашае ўласнае імя. Дык не выракаючыся пражытых у мінуўшчыне імён, не маем права выракацца імені, пад якім выступілі мы на гістарычную арэну, імені, якое акрэслівае нашу нацыянальную індывідуальнасць і з'яўляецца запарукай самаістасці ў будучыне.

Хай сабе палітычныя інтрыганы, заскорбшыя ў паняццях колішняга расійскага царызму і маскоўскага «собирательства», крычаць і пеняцца, — гэта звычайна: так сустракала рэакцыя ўсе вялікія праўды, — мы ж цвёрда перакананы, што лепшыя, перадавыя сілы з намі, што адраджэнне нашае пойдзе і далей шляхам вызвалення, а знача, — не ўнікнёна да свае індывідуалізацыі пад імем «крывічы».

*[1925]*

## У. ПІЧЭТА. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

### Частка першая

Нястача навукова апрацаванай гісторыі Крывіі (Беларусі) даткліва адчуваецца ў нашай маладой пісьменнасці. Хадзілі чуткі, што такую гісторыю апрацоўвае вядомы сваімі доследамі крыўскай мінуўшчыны праф. Доўнар-Запольскі. Мы не ведаем, якога зместу мае быць гісторыя Доўнар-Запольскага, але можам з пэўнасцю сказаць, што нечакана выйшаўшая з друку «Гісторыя Беларусі» праф. Пічэты не запоўніць быўшай у нашай пісьменнасці пусткі. Гэту канспектыўную сваю работу праф. Пічэта выканаў, ні на адзін момант не спыніўшыся на істотнай гісторыі нашага народа і краю. Гісторыя праф. Пічэты гэта — апавяданне аб мінуўшчыне крыўскага (беларускага) народа, расказанае ў сціслым звязку з гісторыяй Кіева і Масквы ў духу «общерусскости». Да ацэны гістарычных падзей аўтар падыходзіць не са стараны інтарэсаў крыўскага (беларускага) народа, а са стараны надуманай і не маючай падстаў у мінуўшчыне тэорыі аб «адзінай Русі».

Пачатак варага-рускай улады ў нашай гісторыі трэба разглядаць таксама, як у расійскай гісторыі разглядаецца татарская навала. Імя напаўлегендарнага Рурыка павінна пераймаць чытачоў такой самай гразой, як і імя Батыя, бо паняволенне ўсходняга славянства пад уладу варагаў нічым не розніцца ў сваёй істоце ад іншых вядомых у гісторыі чужацкіх нападаў.

Трохсотлетняя абарона полацкіх крывічоў, гэта наш геройскі перыяд. «Крыважэрнасць і лютасць» павінна быць прыпісана не Усяславу полацкаму, а, наадварот, — вараж- скім ватагам, якія, абаснаваўшыся ў Ноўгарадзе і Кіеве, стараліся пазбавіць свабоды адзінае, яшчэ змагаўшаеся з імі, усходнеславянскае племя крывічоў. Постаць князя Усяслава полацкага, геройскага змагара за незалежнасць, у нашай гісторыі павінна займець такое ж самае месца, як у гісторыі Русі — постаць Аляксандра Неўскага.

З гісторыі Смаленскай, Северскай і Тураўскай зямель на першым месцы павінны быць пастаўлены тыя высілкі, якія крывічы клалі, каб звольніцца ад кіеўскага абсалютызму і яго дынастыі, а не тое, як рвалі і дзялілі нашу зямлю нашчадкі русаў. У кніжцы ж праф. Пічэты апошняе саўсім засланяе першае: ён уладу русаў на крыўскіх землях легалізуе…

Апісуючы дынастычныя змаганні Яраславічаў, Расціславічаў і др., праф. Пічэта ні словам не абмовіўся аб тым, што, акром targowых шляхоў, змаганне крывічоў з русамі было, па-першае, абаронай ад чужацкай навалы, а па-другое — у гэтых змаганнях важыліся дзве сістэмы дзяржаўнага кіравецтва: з адной стараны (са стараны крывічоў) клаліся высілкі на абарону глыбока дэмакратычнага славянскага народапраўства, а з другой стараны (са стараны русі-варагаў) несены быў нам, побач з палітычнай няволяй, нармандскі феадалізм, пераніцаваны пад уплывам хрысціянства ў візантыцкі абсалютызм, за якім ішло рабства народных мас.

У аддзеле «Беларусь у складзе В. Кн. Літоўскага» аўтар паўтарае перадпатопныя басні, адкінутыя навейшай гістарычнай крытыкай. Басні гэтыя знамяніта падпіраюць другую, паложаную ў аснову гісторыі Пічэты, старую ману аб існаванні ў прошлым «агульнарускасці». Бо што прасцей: была Русь, гэту Русь заваявалі часцю Літва, часцю татары, пазней высілкамі Масквы была яна ізноў злучана ў адно «пракавечнае цэлае». Знача — радуйцеся і весяліцеся, рабы вялікай Расіі!

Праф. Пічэта ведае, што ў істоце-то яно было не так. Агульнарускай на ўсходняй славяншчыне была толькі дынастыя і царква, а паасобныя землі станавілі аддзельныя палітычныя і нацыянальныя комплексы, са сваімі асобнымі цэнтрамі, інтарэсамі, народнай мовай, звычаямі і абычаямі, — і гэтае племяннное дзяленне зламала, па доўгім змаганню, сілу і адзінства дынастыі русаў. Не ўзяўшы ўсяго гэтага пад увагу, аўтар не мог выясніць ні генезы літоўскай дзяржаўнасці, ні месца ў гэтай дзяржаўнасці

крыўскага народа, — і яму прыйшлося здаволіцца збітымі і нічога не вартымі паўтарэннямі з Карамзіна і Ілавайскага.

Аўтар прамоўчвае такжа адну з цікавейшых балон нашай гісторыі — аб каланізацыі крывічамі поўначы, усходу і поўдня. Ён не расказаў таго, як крыўская каланізацыя ішла спярша на поўнач да Ноўгарада, як абаснавалася там і што яе адарвала ад метраполіі, калі і наскалькі адарвала. Прамаўчаў такжа аб нашай крыўскай каланізацыі на ўсход, аб яе дынамічнай сіле, каторая, ператравіўшы ў сабе фінскіх тубыльцаў і ўбраўшы значную дозу мангольскага элемента, вытварыла ўрэшце новую маскоўскую народнасць, якая, будучы па мове славянскай, па крыві асталася фіна-татарскай. Як гэты крыўска-фіна-татарскі кангламерат прысваіваў і прысвоіў сабе назову «русь», нішчыў пры помачы татараў незалежныя ўсходнеславянскія княствы і ўрэшце разбіў — не сілай, а інтрыгамі — незалежнае В. Кн. Літоўска-Крыўскае. Як пасля пад «братняй» маскоўскай апекай крыўскі народ стаўся «белымі русамі», малодшай галіной «велікарускага племя».

Нам у нашай гісторыі, у час адраджэння народа, патрэбна аб'ектыўнае абаснаванне яго кроўнага права на самаістасць, а не апраўданне чужацкага панавання над намі.

Гісторыя праф. Пічэты — гэта ёсць пераказ правінцыянальнай (областной) гісторыі з пункту гледжання расійскага самадзяржаўніцтва. Новага гэта кніжка нічога ў нашу пісьменнасць не ўносіць. Яна ёсць перафразоўкай на крыўскую мову ідэй карамзіных і ілавайскіх для апраўдання маскоўскага панавання над нашым народам.

Прачытаўшы надрукаванае на агорцы імя праф. Пічэты, рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, мы спадзяваліся знайсці ў кніжцы іншы змест. Думалі, што аўтар хоць бы са ўзгляду на сваё высокае становішча ў Беларусі, калі не з іншых меркаванняў, дасць хоць цень, хоць намёк *нашай крыўскай* гісторыі ў сваёй брашуры.Тым часам сустрэліся мы з нічым не маскаваным «собирательством». Пасля гэтага нам зразумела і іншае, дагэтуль незразумелае, з дзейнасці «Беларускага» універсітэта, які свае публікацыі друкуе мовай Масквы, а не Менска.

*[1925]*

# У. ІГНАТОЎСКІ. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX І Ў ПАЧАТКУ XX СТАЛЕЦЦЯ

*Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта*

Гісторыя Беларусі (Крывіі) праф. Ігнатоўскага з'яўляецца спробай апрацаваць нашу гісторыю XIX ст. Прычым аўтар лішне многа ўдзяляе ўвагі справам расійска-польскіх стасункаў і на асноведзі гэтых палітычных падзей вырысоўвае палажэнне нашага народа. Праўда, сялянства ў часе прыгоншчыны не адыгрывала значнай палітычнай ролі, але сялянства было адзіным прадстаўніком нашай нацыі, якая не мела ў сабе іншых грамадскіх станаў. Дзеля гэтага спісанне крыўд, захадаў расійскай і польскай стараны абаснаваць праўнасць панавання над крыўскім народам і яго тэрыторыяй ды адношанне да гэтага ўсяго самога народа — аб'екта, за які ідзе спрэчка і змаганне — павінна было бы заняць больш месца ў кнізе.

Недастаткам кнігі з'яўляецца лішне шырокае карыстанне польскімі гістарычнымі матэрыяламі, якія, асабліва ў апісанні палітычных падзей, збіваюць аўтара.

Але віна тут не гэтулькі самога аўтара, у якога ёсць увесь час імкненне даць ацэну гістарычных падзей XIX ст. з пункту гледжання нашых народных інтарэсаў, колькі віна ў нераспрацаванасці самога пытання. Наша гісторапісь знаходзіцца яшчэ ў зародку, і няма не толькі распрацаваных архіўных матэрыялаў з пункту нашага ўласнага погляду, але найгорш, што яшчэ гэты погляд не выраблены. Хоць ён ужо ў працы праф. Ігнатоўскага «Гісторыя літаратуры» як бы намячаецца: гэта — імкненне проціставіць наш народ як гістарычны індывідуум у стасунку да акружаючых яго падзей і ўплываў. Выдзяленне народнай індывідуальнасці ёсць істотнае заданне ўсякай гісторапісі і адзіны крытэрый для ацэны прац, якія апісуюць нашу мінуўшчыну. Прыкладаючы апошні крытэрый да ацэны працы праф. Ігнатоўскага, мы павінны сказаць, што пры ўсёй яго добрай волі з задання свайго ён пераможцам не выйшаў, асабліва ў апісанні падзей XX стагоддзя.

Павінны зазначыць такжа, што ўжыванне жаргонных слоў у навуковай пісьменнасці не падходзіць да яе. Гэтак, слова «унія» чамусьці ў праф. Ігнатоўскага надрукавана «вунія». Ідучы гэтым шляхам, трэба хіба пісаць «алепстрыка», «ляндар»,»цяцялісты» і г.д.

*[1925]*

## АБ «СЛАВЯНСТВЕ» МАСКАЛЁЎ

Каланізацыя ўсходняй часці вялікай усходнееўрапейскай раўніны — гэта адна з самых велічэзных гістарычных падзей ва ўсёй светавой гісторыі. На жаль, расійская навука чамусьці скромна абыходзіць гэту вялікую падзею. Прычына, чаму расійская гісторыя або замоўчвае гэтае здарэнне, або паспешна абыходзіць яго, упамінаючы некалькімі кінутымі мімаходам словамі, ясная. Уся маскоўская славянафільская тэорыя распадаецца ў нішто, калі праўдзіва асвятліць каланізацыю цяперашняй Масковіі (Вялікарасіі). Дзеля гэтага тым большая павіннасць крыўскай навукі пры кожным здарэнні паказваць, кажучы словамі вялікага гісторыка Ранке, «на тое, што было».

У часы Карла Вялікага[1] (канец VIII і пачатак IX ст.) уся цяперашняя Вялікарасія (Маскоўшчына) скрозь была заселена фіна-мангольскімі плямёнамі. У гэтым часе мясцовасць, дзе цяпер стаіць «матушка Москва», была таксама велікарускай, або славянскай, як у 1700 годзе тая мясцовасць, дзе цяпер Ленінград (Петраград).

Часы Карла Вялікага — гэта рэакцыя на вялікае перасяленне народаў, якое адбывалася чатырыста годаў перад ім у кірунку еўрапейскага поўдня і захаду. Цяпер (у VIII і IX стст.) адбываецца перасоўванне народаў у паваротным кірунку — на ўсход і паўночна-ўсход. Гальскія плямёны адпіхаюць нямецкае племя франкаў і займаюць іх землі, адначасна з тэрыторыяй прымаючы новае імя — французы. Немцы выцясняюць славянаў з балтыцкага памор’я, а такжа прусакаў з балтыцкага ўзбярэжжа паміж Віслай і Нёмнам, славяне націскаюць на фінаў і манголаў.

Немцы, пры помачы нямецкай мовы і каталіцкай царкоўнай арганізацыі, спярша ўзалежняюць ад сябе, а пазней абнямечваюць славянскія плямёны паміж Лабай (Эльбай) і Віслай. Аславяніўшыяся ў крывічоў і палянаў (украінцаў) варагі пры помачы набранай вольніцы ў крывічоў і палянаў, пад прэтэкстам хрышчэння заваёўваюць фінаў і манголаў, навязваючы ім адначасна славянскую літургію і славянскую мову ў адміністрацыі, славянізуюць фіна-мангольскія плямёны на берагах Акі, Волгі, Камы, Пячоры, Паўночнай Дзвіны і Дону.

Нягледзя на націск адміністрацыі, школы і царквы, маскоўскаму ўраду за тысячу гадоў не ўдалося яшчэ саўсім «аславяніць» тамтэйшае мясцовае жыхарства. Нават афіцыяльная народная перапіс 1897 г. прызнае, што ў «истинно-русских» губернях, прылягаючых да «матушки Москвы», маецца дагэтуль «коренное не русское население». У губернях Цвярской аказваюцца цэлыя

воласці, заселеныя карэламі! «Истинно русская» Ніжагародская губерня акром «велікарусаў» заселена яшчэ мардвой, чарамісамі і татарамі! У Пензенскай губерні маюцца разлеглыя мясцовасці, заселеныя мардвой, мяшчэрай і татарамі! У Тамбоўскай губерні афіцыяльная статыстыка прызнае «коренное» насяленне, зложанае з велікарусаў, мардвы і татараў! Толькі ў Маскоўскай губерні, калі верыць афіцыяльнай статыстыцы, «туземное инородческое население» знікла бясследна, г. зн. прыняло з велікарускай мовай і праваслаўем велікарускі выгляд, астаючыся па крыві фіна-манголамі.

Што цяперашняя «Велікарусія» не славянскі край, аб гэтым сведчыць не толькі неславянскі тып велікарусаў (пастаўце поплеч менчука з пензенцам і параўнайце: дзве саўсім іншыя расы людзей!), але і неславянскія імёны рэк і азёр. Нават «матушка Волга» носіць не славянскае, а фіна-мангольскае імя!

Цікаўнае параўнанне: прусакі, гэта мешаніна немцаў, прусакаў (літвіноў) і славянаў, выдаюць сябе за «истинно немцаў» і крычаць аб сваім нямецкім прызванні.

Велікарусы, гэта мешаніна варагаў, крывічоў, украінцаў на $^{999}/_{1000}$ фінаў і татараў, выдаюць сябе за «истинно славян» і крычаць аб сваім славянскім прызванні (параўнай пажаданне Пушкіна[2], каб усе славянскія руччы зліліся ў рускім (маскальскім) моры).

*[1926]*

## ТОДАР ДАСТАЕЎСКІ І АДАМ МІЦКЕВІЧ — СЫНЫ КРЫВІЦКАГА НАРОДНАГА ГЕНІЯ

Вялікі псіхолаг, які глыбока заглянуў у страшную бязодню людской душы, Тодар Дастаеўскі пісаў расійскай мовай свае векапомныя творы, ergo[1] ён расійскі пісьменнік. Так кажа гісторыя расійскай пісьменнасці і ўся Заходняя Еўропа, не, больш таго, увесь культурны свет прызнае Дастаеўскага расійцам.

Вялікі славянскі паэт, які стаяў непамерна вышэй нават ад Пушкіна, Адам Міцкевіч, пісаў свае дзіўныя паэтычныя абразы польскай мовай, eo ipso[2] ён польскі паэт. Так кажуць з гордасцю польскія патрыёты, вучоныя і ўся Заходняя Еўропа, не, больш таго, увесь культурны свет прызнае Адама Міцкевіча вялікім польскім паэтам.

Наш век — гэта век самага ярага нацыяналізму. І пры гэтым нацыяналізму, які шукае і знаходзіць сваё выражэнне ў апа-

феозе нацыянальнай мовы. Гэта ёсць характэрная асобнасць нацыяналізму нашых дзён.

Даволі перагарнуць, хоць спаверхнасна, усясветную гісторыю ад самай глыбокай старасвеччыны да часу нашых дзядоў або нават бацькоў, каб пераканацца ў гэтым. Нацыянальнае пачуццё, ведама, існавала заўсёды, але злучаць два паняцці, мову і нацыю, у адно — у нацыянальнасць — гэта стала звыклым толькі ў апошніх чатырох або пяці дзесяцілеццях.

У старой, сярэдняй, новай і нават навейшай, гісторыі можна знайсці сколькі хочучы прыкладаў, якія сведчаць нам, што да нашых дзён мова ўсюды і заўсёды была адзіна знадаббем для нацыянальных мэт. Толькі ў наш век нацыянальная мова становіцца нацыянальнай мэтай*. І сягоння апафеозу мовы мы бачым не толькі ў Лондане, Парыжы, Берліне, Маскве, але і ў Празе, Коўне, Рэвелі, Рызе і, здаецца, нават у Менску. Калі мы ў апошнім здарэнні памыляемся, то тым горш для крывічоў.

Мы сказалі вышэй, што да нашых часоў мова служыла знадаббем для нацыянальных мэт, гэта пацвярджае нам гісторыя.

Аляксандр Македонскі[3] стварыў, праўда, толькі часовую ўсясветную грэцкую імперыю. Але дзякуючы яго паходам і заваяванням, грэцкая мова становіцца мовай усясветнай, г. зн. самай распашыранай у тагачасным культурным свеце. І от бабілонскія, палестынскія, егіпецкія, сірыйскія, рымскія нацыяналісты карыстаюцца ўсясветнай грэцкай мовай, як знадаббем дзеля распашырэння сваіх бабілонскіх, палестынскіх, егіпскіх, сірыйскіх, рымскіх нацыянальных мэт. Яны пішуць свае творы грэцкай мовай, але астаюцца, ведама, па перакананню бабілонцамі, палестынцамі (жыдамі), егіпцянамі, сірыйцамі, рымлянамі.

Бабілонскі гісторык Борэзос (Boresos) піша сваю бабілонскую гісторыю «Babyloniaca» па-грэцку. Але нікому не прыйдзе ў галаву назваць Борэзоса грэцкім пісьменнікам, а яго кнігу «Babyloniaca» залічыць да грэцкай пісьменнасці.

---

* *Увага рэдакцыі.* Гэта саўсім зразумела, бо ў даўныя часы дзяржавы прадстаўлялі не народы, а дынастыі, народ быў знадаббем толькі для дынастычных мэт. Цяпер жа выходзяць на гістарычную арэну самі народы, і, натуральна, са сваімі ўласнымі мовамі. Старасвеччына лічыла сваіх цароў багамі (пазней божымі памазаннікамі), дык ведама, што гэты людзі не простага паходжання стараліся розніцца ўсім, што толькі было ім даступным, ад простага народа, над якім панавалі. Гэтае жаданне выдзеліцца з масы простага народа было да нядаўна і ў нас прычынай да пераймання чужых моў.

Егіпецкі шавініст-гісторык Манэтос (Manethos) піша грэцкай мовай гісторыю Егіпта «Aegyptiaca». Гэта трохтамовая праца належыць, ведама, да егіпецкай пісьменнасці, а не да грэчаскай, а сам Манэтос — гэта егіпецкі, а не грэцкі пісьменнік.

У III і II стст. да Н. Х. жыды ствараюць цэлую жыдоўска-нацыянальную пісьменнасць у грэцкай мове. Гэта жыдоўская пісьменнасць — у прозе і вершах — цікуе адну мэту: выхваляннe жыдоўскага народа і яго дзяржавы ў Палестыне. Гэта выслаўлянне жыдоўскага нацыяналізму вядзецца так адкрыта і ў такой вызываючай форме, што выклікае са стараны грэкаў цэлы рад кніг у антысеміцкім духу. Каму прыйдзе ў галаву залічыць гэтых жыдоўскіх пісьменнікаў да грэкаў толькі таму, што яны пісалі грэцкай мовай? Хто будзе такі лацьваверны, каб залічыць іх пісанні не да жыдоўскай, а да грэцкай пісьменнасці?

Рымскія нацыянальныя гісторыкі Fabius Pictor[4], Cincius[5], Acilius[6], Albinus меней-болей у тым часе, калі ў Палестыне жыды пішуць па-грэцку, яны ў Рыме пішуць свае нацыянальна- рымскія гісторыі такжа па-грэцку. Кожная літара іхніх твораў тхне рымскім нацыяналізмам. Усе гэты рымляне не грэцкія пісьменнікі, а іх Annales[7] — гэта рымская, а не грэцкая пісьменнасць.

Але ось мінае некалькі стагоддзяў. Спярша памалу, блізка незаўважна, пасля ўсё барджэй пачынае падаць значэнне грэцкай мовы ў культурным свеце. Месца грэцкай міжнароднай мовы пачынае цяпер займаць мова лацінская. Распад рым- скай светавой дзяржавы і заваяванне часцей яе германскімі плямёнамі не толькі не абніжае пазіцыі лацінскай мовы як міжнароднай, а, наадварот, яшчэ ўзмацняе яе. Германскія заваёўнікі без ніякага адпору карыстаюцца мовай падбітых лацінцаў. Асабліва готы і франкі прызнаюць лацінскую мову канечна патрэбнай для ўсякага культурнага развіцця. Готы і франкі ствараюць цэлую пісьменнасць на лацінскай мове, але гэта пісьменнасць ёсць нямецкая, а не рымская.

Але во зыходзяць апошнія астаткі Рымскай імперыі. У Італіі з мешаніны рымлянаў, лангабардаў, вандалаў, нарманаў і арабаў утвараецца новая народнасць — італьянская. Нараджаецца італьянская мова і італьянская пісьменнасць. А ў самой Нямеччыне панаванне лаціны далей прадаўжаецца. Вучоныя і паэты, мужчыны і жанчыны, мніхі і мнішкі, імператары і мяшчане, усе яны пішуць большай часцю не на нямецкай мове, а на лацінскай. У часе панавання дынастыі Атонаў і Швабаў утвараецца бага-

тая нямецкая пісьменнасць… у лацінскай мове. Гэта — перлы нямецкай паэзіі, а не лацінскай.

Урэшце і сярэднія вякі прыбліжаюцца к канцу і панаванню лаціны. Лютэр[8], калі не астаточную, то, у кожным здарэнні, сільную стаўляе таму. Трыццацілетняя вайна паднімае значэнне французскай мовы[9], якая становіцца прыдворнай у Нямеччыне, Аўстрыі, Швецыі, Даніі, Польшчы, а крыху пазней і ў Расіі.

Фрыдрых Вялікі[10] піша, гаворыць і нават думае толькі ў французскай мове. Яго гістарычныя працы і яго вершы пісаны не мовай Гётэ, а мовай Вальтэра. Але гэта акалічнасць не можа ніводнага разумнага чалавека прымусіць лічыць Фрыдрыха Вялікага французскім, а не нямецкім пісьменнікам, а яго самую цікавую працу «Анты-Макіявелі» залічыць у французскую, а не ў нямецкую пісьменнасць.

У часы нашых бацькоў пачалося чэшскае нацыянальнае адраджэнне. Вялікі чэх Палацкі[11], аднак, напісаў сваю слаўную гісторыю Чэхіі ў мове нямецкай. Ва ўсёй Еўропе не знойдзецца, аднак, ніводнага чалавека, каторы гатоў будзе назваць Палацкага нямецкім пісьменнікам, а яго слаўную «Geschichte Bohmens» залічыць у нямецкую пісьменнасць.

Немаль ва ўсіх культурных мовах існуе прыказка: «Тон творыць музыку». Mutatis mutandis[12] можам сказаць: нацыянальнасць паэты і пісьменніка не ўстанаўляецца мовай, якой ён пісаў.

Тодар Дастаеўскі — шляхціц Менскага павета па дзядах і прадзедах і сын доктара, які жыў у Маскве ў часы Мікалая I, у тыя часы, калі «рускасць» і «праваслаўе» былі да такой меры сінонімамі, што нават 100 000 латышоў у Ліфляндзіі, калі ўсякімі няпраўдамі ўдалося іх перавярнуць з лютэранства ў праваслаўе, залічылі «русскими», то Тодар Дастаеўскі мог пісаць толькі парасійску, а не другой якой мовай.

Адам Міцкевіч, сын шляхціца Навагародскага павета, і навагародскага адваката часоў Аляксандра I[13] і Мікалая I, ці мог пісаць ён якой-колечы другой мовай, акром польскай і часцю французскай?

Няхай расійская пісьменнасць пышаецца Дастаеўскім, няхай польскае вока загараецца агнём, калі называецца імя Адама Міцкевіча, — крыўскі народ ведае, што абодва яны цела ад цела і кроў ад крыві яго, і абодвух — і Дастаеўскага і Міцкевіча — залічае да свайго алімпу. Слава Тодара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча — гэта слава крыўскага нацыянальнага генія.

*[1926]*

## ШТО СПРЫЯЕ РАЗРОСТУ І ЎПАДКУ НАРОДАЎ І ДЗЯРЖАЎ

Гісторыя — гэта вялікі магільнік і калыбка дзяржаў і народаў. Не толькі ў стараветнай, але і ў навейшай гісторыі мы можам бачыць многа прыкладаў, як малыя, саўсім нязначныя княствы выраслі ў аграмадныя дзяржавы і, наадварот, вялікія і сільныя дзяржавы малелі, рассыпаліся, а ўрэшце саўсім сыходзілі з гістарычнай арэны. Разважаючы над доляй дзяржаў і народаў, само сабой вынікае пытанне: якія прычыны спрыяюць іх разросту і што спрычыняецца да іх упадку? Чаму, прыкладам, маленькая Літва ў свой час разраслася ў аграмадную дзяржаву, межы якой сягалі Балтыцкага і Чорнага мора ўдоўжкі, Тыльзіту і Каломны пад Масквой ушыркі. Чаму некалькі сот гадоў праіснаваўшы, яна ўтраціла жыццёвыя сокі, пачала занепадаць і ўрэшце перастала існаваць як дзяржава? Скуль чэрпала буйныя жыццёвыя сокі Маскоўскае захудалае княства, што з бегам часу сталася Расійскай імперыяй, якая займае шостую часць зямельнай сушы? Гэтаксама чамусьці маленькая Прусія вырастае ў нямецкую імперыю. У стараветнай гісторыі падобных прыкладаў можна налічыць шмат болей: Егіпет, Персія, Рым, Юдзея і мн. другіх.

Праглядаючы гісторыі народаў, найперш кідаецца ў вочы тое, што дзяржавы ўтвараюць толькі народы з ярка выражанымі індывідуальнымі рысамі або ярка акрэсленымі імкненнямі. Не было ў гісторыі прыпадку, каб утварыў трывалую дзяржаву народ, каторы па сваёй істоце з’яўляецца нечым пераходным, неакрэсленым, у каторага няма выразных рысак, якія адрозніваюць яго ад другіх, падобных яму народаў. Ярка зарысаваная індывідуальнасць народа — гэта першы і найважнейшы варунак, патрэбны да яго існавання і разросту. Гэта індывідуальнасць народа можа выражацца ў яго асобнай расе, рэлігіі, мове, гістарычных традыцыях, урэшце — у яго народным імені. Народы, каторыя не абладаюць, выключна для сябе, ніводнай з павышшых рысаў і не маюць у сабе тэндэнцыі вытварыць якую-колечы з іх, не маюць перад гісторыяй апраўдання на сваё існаванне. Рана-позна яны прымушаны сысці з гістарычнай арэны, уступаючы месца другім, якія абладаюць ярчэйшымі асобнасцямі.

Утварэнне трывалай дзяржавы і яе разрост варункуецца іншымі прычынамі: для ўтварэння дзяржавы народу трэба мець пачуццё свайго гістарычнага пасланніцтва, будзь то ў постаці пашырэння якога веравызнання, якой агульналюдскай ці нацыянальнай ідэі, будзь то ў форме вялікага высілку ў змаганні

з стыхійнымі пагрозамі або абароны людскіх грамад перад вялікімі небяспекамі. Маленькая дзяржаўная адзінка вырастае ў аграмадную і сільную дзяржаву, калі ў яе маецца вылучна ёй прыналежная гістарычная місія, якую яна выконуе ў часе. Выканаўшы сваю гістарычную місію, дзяржава, калі не стаўляе сабе іншай гістарычнай місіі, пачынае памалу занепадаць і зыходзіць з гістарычнай арэны. Гэтак было з В[ялікім] Кн[яствам] Літоўскім. Яго гістарычная місія, каторая высунула гэту дзяржаву на гістарычную відаўню, была ў змаганні з татарскай навалай. На гэтым змаганні Літоўская дзяржава расла і крэпла, але калі татарская моц была зломлена, то ў Літвы не аказалася ў запасе новага пасланніцтва, якое-бы пабуджала да чыну яе грамадзян, і яна, не маючы да правядзення ў гісторыі сваёй уласнай мэты — ні палітычнай, ні рэлігійнай, — павінна была падпасць пад чужыя палітычныя і рэлігійныя ўплывы і сысці з балон гісторыі.

Маскоўскае княства разраслося дзякуючы таму, што яно ўзяло на сябе выключнае прадстаўніцтва грэцкага абрадку на ўсходняй славяншчыне і прапаганду грэцкага праваслаўя паміж фінскімі, татарскімі і другімі народамі еўрапейскага ўсходу і Сібіры. «Руская» вера была галоўнай спружынай, якая паслужыла да ўтварэння Расійскай імперыі. Акамеўшае ў служэнні маскоўскаму абсалютызму праваслаўе ў XIX ст. пачало ўжо траціць сваю сілу, і, разам з ім, расійская дзяржава пад канец гэтага стагоддзя яўна стала кланіцца да ўпадку. Вайна і рэвалюцыя крэпка скалынулі гмах Расійскай дзяржавы, але камунізм уліў у яе заміраўшыя жылы новыя імкненні. Ці гэты лек акажацца скутэчным, нам сягоння трудна судзіць.

Але якое ж месца ў гісторыі прызначана нам, крывічам? А найперш, ці маецца ў нас апраўданне на індывідуальнае існаванне ў гісторыі?

Перш чым даць адповедзь на гэтыя пытанні, мы павінны выясніць, якія маюцца ў нас індывідуальныя рысы, на аснове каторых можна наш народ лічыць асобным гістарычным індывідуумам.

Справы нашы, на першы погляд, выяўляюцца не найлепей. Мы не маем, падобна жыдам, сваёй асобнай рэлігіі, якая б нас аддзяляла ад другіх блізкіх і далёкіх нам народаў. Больш таго, акром рэлігійнай залежнасці ад цэнтраў іх у нас існуе падзел народа на праваслаўных і каталікоў. За гэтым падзелам ідуць да нас культурныя і палітычныя ўплывы, якія вяжуць нас з прадстаўніцай грэцкага праваслаўя Масквой і прадстаўніцай рымскага каталіцтва Варшавай. Рэлігійнай індывідуальнасці ў нас няма, а яшчэ гор-

шае — няма волі знайсці сабе рэлігійную індывідуальнасць. Няма нават такога шукання, якое бачым мы ў бліжэйшых нашых пабратымаў-украінцаў, каторыя на нашых вачах твораць уласную нацыянальную царкву, пераносячы грэцкае праваслаўе на свой нацыянальны грунт. Насаджанне, чужымі рукамі і ў чужых інтарэсах, сярод нашых грамадзян уніяцтва носіць чыста спекулятыўны характар і не можа сыграць для нас ролі нацыянальнай.

Значна лепей стаіць справа з мовай. Наша мова паміж усходнеславянскімі — расійскай, польскай, украінскай — абладае сваімі асобнымі рысамі і характарам. Праўда, гэтыя рысы значна зацёрты даўгалетнімі суседскімі — не столькі ўплывамі на нас, колькі — запазычкамі ў нас. Але ўсё ж такі наша мова, з яе блізка тысячалетняй гісторыяй, багатай і мала даследаванай этнаграфіяй, з'яўляецца адной з галоўнейшых астой нашай нацыянальнай індывідуальнасці. Заданнем нашай маладой навукі і прыгожай пісьменнасці ёсць праца над ачысткай гэтай мовы і паглыбленнем яе індывідуальных рысаў. На жаль, пры цяперашнім паднявольным палажэнні нашага народа і яго падзеле справа гэта не лёгкая. Тым больш што ў нас саміх яшчэ замала волі да шукання і знаходжання сваёй індывідуальнасці ў родным слове. А тым часам ад гэтай волі цалкам залежыць будучыня нашай мовы: калі мы будзем перапаўняць свой слоўнік словамі, запазычанымі ад суседзяў, — мы ўтрацім з часам нават тыя індывідуальныя рысы, якімі цяпер абладаем, і наадварот, калі мы будзем унікаць суседскіх слоў і зваротаў, а галоўнае, слоў, паражарганаваных з суседніх моў, і заступаць іх па магчымасці яркімі, сваімі ўласнымі словамі, узятымі з вуснаў народа або са старой пісьменнасці, то перамога будзе на нашай старане: мы не толькі абаронім, але і паглыбім індывідуальнасць сваёй мовы.

Аднак галоўнай астояй нашай індывідуальнасці і крыніцай нашага гістарычнага прызвання ёсць нашы гістарычныя традыцыі. Адноўленне нашых гістарычных традыцый у нацыянальнай свядомасці дасць нам адразу ярка выражаную індывідуальнасць сярод народаў, якія нас акружаюць. Крывічанскае племя распадаецца на тры галіны: літоўскую (якая калісь ухадзіла ў склад В. Кн. Літоўскага), ноўгарадска-пскоўскую і северскую. Галоўныя традыцыі ўсіх трох гэтых галін крывічоў — іх народапраўства, якое выражалася даўней у вечавым укладзе, і дэцэнтралізацыя, якая вынікае з пашаны да асобы. Нашы гістарычныя традыцыі не маюць нічога супольнага ні з маскоўскім азіяцкім абсалютызмам, ні з польскім анархістычным шляхецтвам. Мы павінны

навязаць ізноў парваную ніць нашых гістарычных традыцый і на іх будаваць нашы гістарычныя заданні.

Вялікае значэнне ў гісторыі і ў жыцці народаў мае іх нацыянальнае імя. Імя народа або яго злівае і змешвае з другімі, або яго аддзяляе ад другіх. У шуканні сваёй індывідуальнасці мы павінны мець волю спыніцца на тым спаміж нашых гістарычных імён, каторае найбольш поўна і праўдна акрэсляе нас як народ. Дзеля гэтага не можа нас здаволіць імя беларусы. «Беларусы» — гэта пераходная ступень, часць цэлага рускага, якое, як нам ведама, абымае кангламерат народнасцяў самых разнаякіх рас і плямён ад Балтыкі да Уладзівастоку. У гэтай безбярэжнай мазайцы мы як беларусы будземо толькі нязначным, безіндывідуальным камешкам, празначанне якога будзе стушавацца ў цэлым. Другое нашае гістарычнае імя — літва — не абымала цэласці, а толькі адну, заходную галіну нашага племя, гэта самае можна сказаць аб наўгародцах, пскоўцах і северанах. Адзіна імя крывічы абымае ўсе галіны нашага племя, і яно даволі выразіста адцяняе нашу індывідуальнасць у гістарычнай мінуўшчыне. Дзеля гэтага, не выракаючыся іншых гістарычных і правінцыянальных нашых імён, мы павінны крэпка трымацца імені крывічы як адзінага імені, якое прыналежыць вылучна толькі нашаму народу.

Урэшце, раз народ мае даволі індывідуальных рысаў, каб гісторыя апраўдала яго існаванне, то народ гэты мае права такжа на сваю дзяржаўнасць. Але існаванне дзяржавы толькі тады апраўдваецца гісторыяй, калі гэта дзяржава выконвае якое-колечы гістарычнае пасланніцтва.

Якое ж нашае пасланніцтва, каторае мы павінны выканаць перад чалавецтвам?

Пачнем ад найбліжэйшых нашых заданняў. Найперш, на нашай павіннасці ляжыць аб'яднаць, разарваныя ў мінулым, часці нашага народа ў адно цэлае. Гэта датыча не толькі свежа крывавячай раны, дакананай расійска-польскай угодай у Рызе, але такжа звязання ў адно цэлае ўсяго балтыцкага славянства, усіх трох галін крывічанскага племя. Наша, заходняя, галіна крывічоў павінна ўзяць на сябе гэтае вялікае гістарычнае пасланніцтва ў стасунку да сваіх пабратымаў — паўночнай і северскай галінаў. Акром гэтага ўнутранага пасланніцтва на нас ляжыць яшчэ пасланніцтва агульналюдскае: крывічанская славяншчына ў цэлым павінна даць чалавецтву новыя культурныя цэннасці. Даўно было заўважана ўжо расійскімі вучонымі, што на ўсім абшары Расійскай імперыі толькі ў ноўгарадска-пскоўскім і беларускім краю існуе саўсім асобнае, саўсім самаістае і індывідуальнае

будаўніцтва. Але важней за індывідуальнае будаўніцтва ёсць індывідуальны ўклад жыцця, індывідуальная псіхіка ў падходзе да сацыяльнага будаўніцтва, абапертая на індывідуалізме.

Нашае заданне ў гісторыі —дэцэнтралізм і народапраўства, якія дадуць новыя цэннасці, несучы вызваленне чалавецтву, якое задыхаецца ў путах стадна-цэнтралістычнага абсалютызму, таксама і дэмакратычных, як у манархістычных і сацыялістычных сучасных нам дзяржавах.

Мы павінны знайсці самых сябе ў кожнай дзедзіне духовай і матэрыяльнай творчасці, у сацыяльным укладзе, у рэлігіі і мастацтве. І на гэты шуканні прабіў ужо вялікі час.

Гора тым, хто перад абліччам вялікага гістарычнага моманту, які ідзе ўжо, стане з пустымі рукамі, або — ні зімны, ні гарачы.

*[1926]*

## УНІЯ

Адну з найбольш трагічных балон нашай мінуўшчыны займае рэлігійная унія, заключаная паміж вызнаўцамі лацінскага і грэцкага абрадку на Берасцейскім саборы ў 1595 годзе[1]. Нягледзя на аграмадную пісьменнасць, якую выклікала павыжшая падзея, дагэтуль яшчэ няма працы, каторая бы аб’ектыўна, з пункту інтарэсаў нашага народа яе асвятляла. Аб уніі дагэтуль вялася пераважна палеміка гістарычна-дагматычнага зместу, якая нічога не выясняе і нікога не пераконвае. Палемісты маскоўскага абозу, амаўляючы унію, выступаюць у ролі абаронцаў старога благачэсця, праследаванага каталікамі-палякамі, і наадварот, палемісты лаціна-польскага абозу выступаюць у ролі прапагатараў заходняй культуры і яе носьбітаў на «барбарскім» усходзе. Адна і другая старана прамаўчвае пры гэтым істотныя палітычныя інтарэсы, на асноведзі якіх разыгрывалася гэта наша трагедыя.

### І. Грунт, з якога вырасла думка аб уніі

Разарванае надвое ў IX — XI стагоддзях усясветнае хрысціянства заўсёды імкнулася да аб’яднання. Гэтаму аб’яднанню перашкаджалі старыя палітычныя парахункі паміж Візантыяй і Рымам. Дагматычныя разыходжанні былі прыдуманы толькі на апраўданне падзелу. Але адасобленасць усходняй і заходняй царквы — чым далей, тым большая — вытварала розніцы,

і, разам з гэтым, штораз трудней было ім прымірыцца, тым больш што ў меру таго, як слабела Візантыя, раслі вымогі Рыма на галоўнае і адзінае прадстаўніцтва ўсяго хрысціянства на свеце. Аднак паміж Усходам і Захадам бывалі моманты збліжэння, якія ізноў чарадаваліся разыходжаннямі. Гэты справы збліжэнняў і разыходжанняў выклікалі жывы інтарэс у цэнтрах, але чым далей ад цэнтраў — Візантыі і Рыма, — тым актуальнасць гэтых спраў была меншай. Гэтак на крыўскіх землях рэдкія адзінкі ўяўлялі сабе істоту рэлігійнага падзелу і вынікаўшых з гэтага супярэчнасцяў. Што адны трымаліся ўсходняга абраду, а другія — заходняга, тут, у нас, гэта вынікала не з дагматычных, а з традыцыйна-гістарычных і мясцовых палітычных і абычаёва культурных варункаў. Бывалі здарэнні, што архібіскупаў на праваслаўную архібіскапію назначаў папеж[2] (Грыгорый Балгарын — 1458 г.) і назначэнне яго пацвярджаў канстанцінопальскі патрыярх, і наадварот, высвячаны патрыярхам архібіскуп пасылае пасольства да папежа (пасольства да папежа Сік- ста IV)[3]. Гэтыя пасольствы і назначэнні для кансерватыўных нізоў нічога не гаварылі і не мелі ніякага практычнага выніку. Нават тыя з магнатаў, якія прымалі не унію (якая нічога не змяняла), але чысты лацінскі абрадак, паколькі жылі ў краю, то абычаёва-культурна і палітычна аставаліся па дзяржаўнай прыналежнасці літвінамі, а па культурнай — крывічамі.

Змену ў гэтае палажэнне ўнесла рэфармацыя, якая, як гураган, закружыла па краю каля 1530–1540-х гадоў, змятаючы з аблічча зямлі таксама праваслаўе, як і каталіцтва. Перад агульнай небяспекай саўсім натуральна было вынікнуць мыслі аб супольнай абароне. Мысль гэта расла, крэпла і ўрэшце знайшла свой выраз у акце Берасцейскага сіноду 1595 года.

## II. Палітычная асноведзь, на якой павінна была развівацца унія

На крыўскіх і ўкраінскіх землях хрысціянства шырылася разам з заваяваннямі іх варагамі-руссю. Хрысціянства было верай заваёўнікаў, верай русаў, — рускай верай. Пад гэтай назовай «рускай веры» ўмацавалася хрысціянства на ўсёй усходняй славяншчыне. Аднак адзінства «рускага» веравызнання і варага-рурыкавічаўскай дынастыі не сцёрла на ўсходняй славяншчыне племянных падзелаў. Пракавечны падзел на балтыцкае і пантыйскае славянства астаўся ў поўнай сіле. Акром гэтага, пачала ўзрастаць трэцяя, усходняя, група каля Масквы.

К XVI ст. Масква станавіла ўжо даволі крэпкую асобную дзяржаву. Значная часць, ледзь не большая, крыўскіх зямель станавіла Вялікае Княства Літоўскае, да якога належала Украіна (Русь), а Галіччына ўходзіла ў склад Польшчы. На ўсім гэтым абшары панавала «руская» вера, што не выключала падзелу на тры нацыянальныя групы:

*I. Літва ,* у склад якой уходзілі ваяводствы: Віленскае, Троцкае, Менскае, Мсціслаўскае, Навагародскае, Полацкае, Віцебскае і Берасцейскае.

*II. Русь*, ваяводствы: Луцкае, Кіеўскае і Падольскае, якія былі (як заваяваная ў XIV ст. Літвой правінцыя) далучаны да Літвы, а ваяводствы: Львоўскае, Холмскае і Бэлзскае знаходзіліся як правінцыі ў складзе Польшчы.

*III. Масква.* Скланяючыся сімпатыямі ў бок Літвы, але падпадаючы пад штораз большы ўплыў Масквы, трымаліся яшчэ да паловы XVI ст. рэспублікі Вялікага Ноўгарада і Пскова.

Стасункі паміж Літвой і Руссю (Украінай) былі не ўнармаванымі. Русь, удзячная Літве за вызваленне з-пад татарскага ярма і шукаючы абароны ад татарскіх нападаў, не забывала сваёй колішняй славы і галовенства на ўсходняй славяншчыне. Русь мірылася са сваім палажэннем падбітай правінцыі ў складзе Літоўскай дзяржавы, але не лічыла гэтае палажэнне для сябе нармальным. Княжыя рускія роды, патомкі Рурыкавічаў, былі носьбітамі незалежніцка-дзяржаўных ідэй Русі. У меру таго, як слаб націск татараў на Русь і павелічалася залежнасць Літвы ад Польшчы, незалежніцкія імкненні ў рускіх магнатаў узмагаліся. Пры кожным немаль аднаўленні дзяржаўнай уніі паміж Польшчай і Літвой, у рускіх магнатаў ажывала надзея, што Русь, раздзеленую паміж Літвой і Польшчай, удасца злучыць у адно цэлае і ўвайсці ёй у склад фэдэральнай Рэчы Паспалітай ужо не як руская правінцыя, а як руская дзяржава, як трэці народ, раўнапраўны з Літвой і Польшчай. На з'ішчанне гэтых імкненняў меліся ў Русі надзеі на Люблінскім сойме 1569 г., у кожным здарэнні пасіўнасць Русі, калі кароль яе даровываў Польшчы, прымушае думаць, што адбывалася гэта даравізна не без паразумення з Руссю. На пераходзе з-пад улады Літвы пад уладу Польшчы Русь выігрывала злучэнне ўсіх сваіх зямель пад адной уладай. Урэшце дзяржаўная унія 1569 года была заключана паміж двума толькі народа- мі — Літвой і Польшчай. Далучэнне Русі да Польшчы хоць аслабіла Літву, але не палепшыла палажэння самой Русі. Наадварот, новае яе палажэнне ў складзе ўжо Польшчы яшчэ больш падрывала аўтарытэт і заводзіла большую палітычную залежнасць, дзякую-

чы распашырэнню на Русь польскай адміністрацыі і права. Русь пачала хапацца цяпер за абарону прывычнага ёй літоўскага ладу і права, пачала штораз выразней займаці становішча апазіцыі. Пры гэткім палітычным палажэнні застала Літву і Русь у 1590-х гадах мысль аб рэлігійнай уніі. Спярша Русь супроць уніі не выступала. Князь Астрожскі асабіста выпрацоўваў пункты, на якіх можна было бы заключыць унію з Рымам. Але, знёсшыся з Масквой, Валахіяй і Канстанцінопалем, у яго засвіталі новыя ідэі, вынікам якіх была ўстроена ім і яго аднадумцамі апазіцыя на Берасцейскім сінодзе, аб каторую разбілася не толькі справа самой рэлігійнай уніі, але такжа Літоўская дзяржава, і, у часе казацкіх воен, падарвана была моц усёй Рэчы Паспалітай. Русь паставіла стаўку на апазіцыю.

### III. Палажэнне «рускай» царквы ў Літве і Русі ў канцы XVI ст. і што прысьпяшыла заключэнне уніі

Ад часаў Ягайлы і Вітаўта, г. зн. ад часу дзяржаўнага зблiжэння з Польшчай, дзяржаўнай рэлігіяй лічылася ў Літве каталіцтва, якое вызнаваў сам кароль і некаторыя князі і магнаты В. Кн. Літоўскага. Прапаганда каталіцтва вялася праз дзяржаўнае правадаўства, якое надавала каталіком розныя прывілеі і адначасна агранічала ў правах праваслаўных, а такжа цераз розныя чыста рэлігійныя ўстановы. Але, нягледзя на ўсё гэта, поступ каталіцтва быў саўсім нязначны, бо строгія агранічэнні праваслаўных, апісаныя ў прывілеях, калі пераходзілі да жыццёвай практыкі, аставаліся немаль мёртвай літарай у краю, дзе абсалютная праваслаўная большасць трымала ў сваіх руках уладу. Затое ўсе агранічэнні праваслаўя, мінаючы праваслаўных магнатаў і баярства, пачоўна адбіваліся на праваслаўным духавенстве, а галоўна — яно было адсунута ад дзяржаўнага кіравецтва і публічных спраў. «Руская» вера ў Літве XV і XVI стст. была верай не дзяржаўнай, а прыватнай, адлучанай ад дзяржавы, прызначанай на знішчанне, месца якой павінна было заступіць каталіцтва. З гэтага вынікалі сімпатыі праваслаўнага духавенства да аднавернай Масквы, дзе праваслаўе было верай дзяржаўнай, асабліва ўзмагліся гэты сімпатыі пасля 1505 года, калі вялікі князь маскоўскі Ва- сіль III, ажаніўшыся з Софіяй Палеолаг[4], прыбраў сабе тытул цара ўсёй Русі, а знача, галавы ўсіх народаў, якія вызнавалі «рускую» веру. У меру таго, як крэпла Масква і горшымі станавіліся варункі праваслаўнага абрадку ў Літве, рэлігійны аўтарытэт Масквы ўзрастаў у вачах тутэйшага «рускага» духавенства. Гэткім чынам веравызнаўчы

прынцып уносіў рэлігійна-палітычныя арыенціры сярод духавенства В. Кн. Літоўскага: лацінскае духавенства аглядалася на Польшчу, праваслаўнае — на Маскву. У гэтым крылася вялікая дзяржаўная небяспечнасць, і дзяржаўныя мужы В. Кн. Літоўскага шукалі выхаду з стварыўшагася палажэння. І вось калі ў Заходняй Еўропе патужна паўстаў рэфармацкі рух, ламаючы каталіцтва, то за гэту ідэю хапіліся і нашы магнаты. Мікалай Радзівіл Чорны[5] прапагандаваў у В. Кн. Літоўскім кальвінізм. За ім хлынулі другія магнаты і шляхта. Рэфармацкі рух шырока разліўся па краю. Пераходзілі ў рэфармацыю не толькі свецкія, але і духоўныя асобы абодвух абрадкаў. Здавалася, ратунак ад рэлігійнага падзелу быў знойдзены. Але за рэлігійна-рэвалюцыйным уздоймам прыйшла рэакцыя. І сыны адпаўшых ад праваслаўя бацькоў не вярталі ўжо назад у старое благачэсце, але пераходзілі ў каталіцтва, «польскую» веру, прымаючы адначасна і заходнееўрапейскую лацінскую культуру ў польскай шаце. Адступніцтва прыняло заграджаючыя памеры сярод магнатаў і шляхты. Як рэакцыя супроць рэфармацыі і як ратунак для «рускай» царквы была высунута унія, якая павінна была стацца асобнай, самаістай царквой. Мысль аб уніі была выкалыхана ў сталіцы В. Кн. Літоўскага — Вільні, была ініцыятывай літоўскай стараны.

## IV. Падвойнасць царкоўнай улады ў «рускай» царкве ў канцы XVI ст.

Пад напорам рэфармацыі, дзеля абароны старога благачэсця, у другой палавіне XVI ст. пачалі тварыцца рэлігійна-свецкія арганізацыі пад назовам брацтваў. Брацтвы гэты адыгралі аграмадную ролю ў культурна-рэлігійным жыцці нашага краю як актыўная сіла, якая выступіла на змаганне за веру. Да брацтваў былі прыцягнуты ўсе сілы, якія яшчэ не адпалі ад усходнага абрадку: магнаты, шляхта, мяшчане, а нават сяляне. Каб дзяржаўная ўлада не магла звязваць брацтваў, пастаноўлена было абяспечыць іх патрыяршымі стаўрапігіяльнымі прывілеямі[6]. Аб'язджаючы ў 1582 годзе В. Кн. Літоўскае, патрыярх Ярэма[7] надзяліў многія брацтвы стаўрапігіямі. Паўсталі стаўрапігіяльныя брацтвы ў Вільні, Віцебску, Полацку, Магілёве, Пінску, Оршы, Берасці. Стаўрапігіі былі выняты з-пад улады мясцовых біскупаў і ўзалежнены беспасярэдна ад самога патрыярха. Вельмі хутка стаўрапігіі пачуліся прадстаўнікамі патрыяршай улады на месцах і не толькі не прызнавалі над сабой улады сваіх біскупаў, але

нават прысвоілі сабе права суда над імі не толькі ў справах іх паступкаў, але нават і ў справах веры. Ужо ў 1590-х гадах паміж стаўрапігіямі і біскупамі завязаўся антаганізм. Гэткім чынам, у канцы XVI ст. у «рускай» царкве была ўжо падвойная ўлада — духоўная і свецкая.

## V. Пакрыжаванне палітычных планаў на Берасцейскім сінодзе 1595 года.

На Берасцейскім сінодзе сціналіся паміж сабой розныя палітычныя інтарэсы: Рым, Польшча, Літва, Русь, Масковія і Канстанцінопальскі патрыярхат. Інтарэсы Рыма часцю зыходзіліся з інтарэсамі Польшчы: Рым імкнуўся пашырыць свае ўплывы на славянскі ўсход, уцягаючы ў сваю арбіту наразе вызнаўцаў усходняга абрадку, якія знаходзіліся ў межах Рэчы Паспалітай, — Польшча, пры помачы пашырэння уніі, імкнулася да больш цеснага аб’яднання Літвы і Русі. Але ў практычных вывадах палітыка Польшчы і Рыма разыходзілася. У той час, калі для Рыма ўсе вызнаўцы ўсходняга абрадку здаваліся быць адналітнай рускай масай, прынамні ў граніцах Рэчы Паспалітай, то для Польшчы, якая лепш разбіралася ў мясцовых справах, ведама было, што Літва і Русь прадстаўлялі асобныя інтарэсы. Ігра на гэтай процілегласці інтарэсаў дзяліла Русь і Літву, аслабляючы абедзвюх і даючы перавагу Польшчы. Дзеля гэтага польская палітыка, дапамагаючы да злучэння абрадкаў, адначасна падпірала рускую апазіцыю. Для Рыма, пасля рэлігійнага аб’яднання, наданне роўных правоў «рускай» народнасці выяўлялася актам простай справядлівасці, актам пажаданым. Для Польшчы, наадварот, раўнапраўства прадстаўлялася вялікай уступкай, у дадатку уступкай небяспечнай, бо яна вяла Літву і Русь не да поўнага зліцця ў адзін польскі народ, аб’яднаны адным рэлігійным, у даным здарэнні рыма-каталіцкім абрадкам, а да ўтварэння асобнай самаістай царквы, якая ў выніку злівала бы цясней Літву і Русь у асобны народ са сваёй асобнай абраднасцю, граматнасцю, іерархіяй і гістарычнымі традыцыямі. Словам, у выпадку поўнага раўнапраўства абедзвюх цэркваў і духоўнай іерархіі, Польшча баялася распаду Рэчы Паспалітай на яе галоўныя складовыя часці. Дзеля гэтага ў абяцаннях, даваных літоўска-рускім праваслаўным біскупам, авансаваўся асабіста толькі караль і некаторыя вышэйшыя дастойнікі, але не соймы, на якія справу раўнапраўства ўсходняга абрадку не ставілі пад пратэкстам яе нібыта сакрэтнасці. Палякі ў даным здарэнні былі

большымі каталікамі, чым сам папа і яго палітыка, бо ў той час, калі папа і Рым дабіваліся толькі аб'яднання абодвух абрадкаў пад сваёй уладай з захаваннем усіх асобнасцяў усходняга абрадку, то палякі глядзелі на унію толькі як на спосаб да палітычнага аслаблення Літвы і Русі, як на пераходную стадыю да зліцця абодвух народаў у польскім каталіцтве.

Асобную пазіцыю ў справе уніі займала Русь (Украіна). Пераход Русі (Украіны) пасля Люблінскай уніі пад уладу Польшчы не толькі не палепшыў, але значна пагоршыў яе палітычнае палажэнне, а тым часам Масква і Канстанцінопаль — першая ў надзеі распашырэння сваіх уплываў, другі ў мэтах захавання пры сабе адрыванай у лацінства абшырнай правін- цыі — падтрымлівалі ў патужных родах рускіх (украінскіх) князёў амбітныя імкненні да дзяржаўнага вызвалення, якое павінна было наступіць пры помачы праваслаўнага ўсходу, а галоўным чынам Масквы, пры варунку, калі Русь захавае рэлігійную еднасць з усходам. Ад 1590-га да 1595 года гэты думкі саўсім даспелі ў кіруючых сферах праваслаўнага ўсходу, і быў гатовы ўжо, у агульных зарысах, план пуступання ў стасунку да заключанай уніі: Русь павінна была заняць рэзка апазіцыйнае становішча, апорай гэтай апазіцыі павінны былі стацца для Русі залежныя ад канстанцінопальскага патрыярхату стаўрапігіяльныя брацтвы, якія меліся на тэрыторыі Русі і Літвы, а такжа раздоры паміж паасобнымі біскупамі і мітрапалітам (мелі на ўвазе львоўскага біскупа Балабана[8], якога пры заключэнні уніі уніяты на Берасцейскім сінодзе хацелі пазбавіць біскупскай годнасці за яго неканачічныя паступкі). План быў правільны, і Берасцейскі сінод разбіўся не толькі на два абозы, але нават на два сіноды, з каторых кожны вынес праціўнаму пракляцце. У выніку «руская» царква ў межах Рэчы Паспалітай распалася надвае: на прыслухаючую папежу і прыслухаючую канстанцінопальскаму патрыярху. Прадстаўніцай першай была пераважна Літва, прадстаўніцай другой — Русь.

## VI. Духоўная уніяцкая іерархія і яе, у выніку уніі, палітычнае палажэнне

Тытул кіеўскага мітрапаліта ўжо даўным-даўно быў далучаны да навагародскай архібіскупіі з архібіскупскай рэзідэнцыяй не ў Кіеве, а ў Вільні. Пасля заключэння уніі кіеўскі мітрапаліт па даўнаму пражываў у Вільні, яму прыслухалі віленска-кіеўска-навагародская мітраполія, дзве архібіскупіі, Полацкая і Смаленская, і біскупствы: берасцейска-валадзімерскае, турава-

пінскае, бэлзка-холмскае, астрожска-луцкае, галіцка-львоўскае, самборска-перамышльскае, усяго разам 9 епархій. З гэтага ліку на Берасцейскім сінодзе перайшлі на старану праваслаўных два біскупы: львоўскі Гедэон Балабан і астрожска-луцкі — Міхайла Капысценскі. Перайшлі не з матываў рэлігійных, а з палітычных, бо Балабан быў напачатку адным з першых ініцыятараў уніі, не быў праціўны ёй такжа і Капысценскі. Магчыма, што гэта справа была бы сама сабой ліквідавана і гісторыя пайшла бы роўным торам, але на помач праваслаўнай апазіцыі прыйшла польская палітыка. Перад заключэннем уніі ўрачыстымі каралеўскімі прывілеямі было забяспечана аб'яднанаму з Рымам «грэцкаму» духавенству і свецкім людзём гэтага абрадку поўнае роўнаўпраўненне з духавенствам і грамадзянствам лацінскім, каталіцкім. Уніяцкія біскупы нараўне з лацінскімі павінны былі заняць месцы ў сенаце. Тым часам пасля заключэння уніі, ссылаючыся на нязгоду ў лоне «рускай» царквы, палякі «рускіх» біскупаў не пусцілі ў сенат і правоў іх не пашырылі. Не памаглі неаднакротныя папежскія булы да караля і польскага лацінскага біскупату з вымаганнем раўнапраўства уніяцкаму духавенству. У выніку гэта несправядлівасць адразу паніжыла ў вачах грамадзянства уніяцкіх біскупаў, і ў душы саміх біскупаў пакінула страшную горыч. Палажэнне іх было запраўды крытычным. З аднаго стараны, будучы размысна адкінутымі ад грамадскіх правоў, забяспечаных ім прывілеямі, а з другой стараны, націсканыя праз праваслаўных і рэфарматаў, яны не мелі змогі належна бараніць сваіх правоў. Выключэнне уніяцкіх біскупаў з сенату было паніжэннем не толькі уніяцкай царквы, а галоўна, паніжэннем літоўскай народнасці. Праваслаўная апазіцыя, іграючы на завілай тагачаснай тэрміналогіі, у якой мяшаліся паняцці рэлігійныя з нацыянальнымі і дзяржаўнымі, пад кніжна-веравызнаўчы тэрмін «русь» (якім ён быў дагэтуль у Літве) падкладала нацыянальнае паняцце «русь» (якім гэты тэрмін быў на Украіне) і гэтым разбівала нацыянальную еднасць у Літве, перацягаючы на сваю старану значныя сілы самой Літвы, якія залічалі сябе да «рускай» веры. Пазбаўленае правоў уніяцкае духавенства не мела магчымасці проціставіць «рускай» справе і абрадку выразна зарысаваную сваю літоўскую справу і абрадак. Літва асталася, дзякуючы гэтаму, дзяржавай без уласнай рэлігіі. Ужо ў першай чвэрці XVII ст., за якіх 15–20 гадоў пасля заключэння уніі, боруцца на рэлігійным грунце паміж сабой толькі дзве сілы: польская справа і руская справа, веравызнаўчай справы літоўскай ужо няма, яна зыходзіць на палажэнне другараднага аргумента лаціна-каталіцкай і руска-праваслаўнай справы. Ру-

скае праваслаўе захапіла ў свае рукі прадстаўніцтва «рускай» народнасці ў Рэчы Паспалітай. Палітычная паніклівасць лаціна-польскага духавенства, усільна лацінізуючы і паланізуючы шляхту, цешылася, што Літва зыходзіць з палітычнай арэны. Каб да рэшты дабіць уніяцкі абрадак у вачах літоўскай нацыі, а знача, злацінізаванай шляхты, польскія біскупы неаднакрот звярталіся ў Рым, каб папеж уніяцкіх біскупаў аддаў пад уладу каталіцкіх біскупаў, а знача, змяніў уніяцкія біскупіі на суфраганіі лацінскіх біскупстваў. Старанні гэты не атрымалі санкцыі Рыма, але сеялі раздор паміж абрадкам лацінскім і уніяцкім ды давалі зброю ў рукі праціўнікаў уніі супроць уніяцтва. Гэтак, дзякуючы вераломству, прайграўшы справу, унія з веры нацыянальнай, якой яна магла і павінна была быць у Літве, станавілася мала-памалу верай «мужыцкай».

## VII. Унутраная арганізацыя уніяцкай царквы

Зара пасля падпісання акту уніі, пад кіравецтвам езуіта, прыступлена было да рэарганізацыі ўнутранага царкоўнага ладу. Галоўным чынам увага рэфарматараў была звернута на манастырскае духавенства. Установлены быў у 1604 г. ордэн васільянаў, статут якога быў немаль позняй копіяй статуту ордэну езуітаў. Пры кожным васільянскім манастыры ўстаноўлена была школа. На ўтрыманне школ было перапісана большасць манастырскіх і другіх духоўных фундацый з вялікім ушчэрбкам для дабрабыту свецкага духавенства і нават уніяцкіх біскупскіх катэдраў. Васільяне ў сваіх школах, не горш пастаўленых за езуіцкія, навучалі галоўным чынам дзяцей багатай шляхты.

Свецкае уніяцкае духавенства не мела доступу ў гэты школы дзеля іх дарагоўлі. Зрэшты, васільяне сумысна не дапушчалі ў свае школы дзяцей свецкага духавенства. Лацінскія гісторыкі тлумачаць гэта жаданнем васільянаў утрымаць у сваіх руках вышэйшыя духоўныя дастойнасці, але, здаецца, па-за гэтым крыліся іншыя меркаванні, якія мелі на мэце павольную лацінізацыю уніі. У кожным здарэнні, біскупы бывалі толькі з ліку васільянаў. Гэта васільяне-біскупы ўсюды пратэгавалі членаў свайго ордэну: усе ўрады афіцыяльскія, кансісторскія, а нават благачынскія абсаджаліся васільянамі. Толькі самыя бездаходныя парафіі аставаліся ў руках свецкага уніяцкага духавенства, і стасунак васільянаў да свецкага духавенства быў пагардлівы і зняважлівы, як да людзей простых і цёмных, якіх яны самі ж трымалі сумысля ў гэтай цемнаце.

З усяго гэтага, з адной стараны, паміж біскупствамі і васільянамі, а з другой стараны, паміж васільянамі і свецкім духавенствам вырастала няпрыязнь і недавер’е. Нехаць гэта недавер’е свецкага духавенства да васільянаў і да біскупаў, якія выходзілі спаміж тых жа васільянаў, узмагалася яшчэ тым, што васільяне на вольныя вакансіі ў свае манастыры, дзеля недастачы асвечаных людзей спаміж уніятаў, прымалі лацiннікаў, з якіх складалася блізка палавіна ордэну.

Ізноў жа для свецкага уніяцкага духавенства не было спецыяльных школ. Адзінай установай у краю, дзе уніяцкае духавенства магло атрымаць асвету з рук езуітаў, была віленская бурса, заложаная папежам Грыгорыем XIII[9] у 1585 годзе, дзякуючы старанням Пасевіна. У гэтай бурсе, разлічанай на 20 вучняў, магло вучыцца 4 манахаў і 16 свецкіх клерыкаў, але і гэта бурса прымала лацiннікаў. Патрэбу асветы для свецкага уніяцкага духавенства ўсе прызнавалі, але чамусьці гэта справа за некалькі сот гадоў ніяк з месца не зрушылася.

Гэтак дзеля «незалежных» прычын не прыйшла да скутку духоўная семінарыя, спраектаваная на Кобрынскім сінодзе ў 1626 годзе, якая мелася быць адкрытай у Менску з прыватных складак. Не ўтрымалася нават семінарыя, спраектаваная на 6 вучняў, у Валадзімеры ў 1720 годзе. Нейкія зайздросныя сілы чутка пільнавалі, каб уніяцкае свецкае духавенства не мела асветы. У выніку сыны уніяцкіх святароў, навучыўшыся ад сваіх бацькоў адзіна чытаць трэбнікі, атрымлівалі пасвяту і месцы вясковых парохаў.

Нават біскупы не вымагалі ад кандыдата на уніяцкага пароха больш як умення чытаць і знання збольшага катэхізму. (Synod. prov. Ruthenorum habita Zamosciae, titulus II i XV). Вынікам браку краёвых духоўных школ было, што сыны вясковага уніяцкага духавенства, шукаючы асветы, ішлі за Днепр у Кіеў і Пераяслаў, у Валахію і Малдавію а нават у Маскву. Там іх навучалі не толькі граматы і царкоўных абрадаў, але, галоўна, уцягалі ў рады актыўных працаўнікоў у змаганні за «рускую справу». Адны з іх атрымлівалі святарскую пасвяту там жа на месцы, іншыя, вярнуўшыся дамоў, з рук сваіх біскупаў, але адны і другія, пры ўсеагульнай безграматнасці, лёгка ўстраіваліся на духоўныя пасады.

Расійскія пісьменнікі тэндэнцыйна асвятляюць палажэнне праваслаўнага і уніяцкага духавенства ў Літве і Русі ў часе іх звязку з Рэччу Паспалітай польскай. Палажэнне праваслаўнай царквы прадстаўляецца больш цяжкім, чым палажэнне царквы

уніяцкай. Аб'ектывізм вымагае зазначыць, што пры бяспраўным палажэнні абодвух цэркваў, усё ж палажэнне уніяцкай царквы было значна горшае. Матэрыяльнае і маральнае палажэнне свецкага уніяцкага духавенства было невымоўна цяжкое. Кожны памешчык, на каторага зямлі стаяла царква, лічыўся яе поўным і бескантрольным гаспадаром-»колятарам» (апекуном). Езуіта Пятро Скарга так апавядае аб палажэнні свецкага уніяцкага духавенства: «Кожны шляхціц, які мае папа, кіруе ім як хоча, часам загадуе яму ісці на работу, і ў некаторых (спаміж шляхты) бывае такая бязбожная смеласць, што яго пакарае і выб'е, калі ў чым не паслухае». Іначай кажучы, колятар мог заганяць святара на прыгон і да ўсякіх дворных работ. Аддадзенае на самаволю шляхты, не маючы нідзе абароны, уніяцкае свецкае духавенства было як бы вынята з-пад права. Дробная шляхта (у XVII і XVIII стагоддзях ужо немаль пагалоўна акаталічаная), а такжа спраўцы магнацкіх ключоў здзекаваліся і прыгняталі уніяцкага пароха, які з сацыяльнай стараны немаль саўсім не розніўся ад кожнага іншага селяніна. Бралі вялікія аплаты за абняцце духоўнай пасады, ганялі на работы і з падводамі, аддавалі ўрэшце на вызыск жыдоў-арандатараў. Паводле тагачаснага звычаю двары аддавалі жыдам манаполь на прадажу ўсякіх тавараў. Не ў дворнага арандатара нельга было нікому нічога купляць, а знача, і такжа уніяцкаму пароху, нават жыта малоць трэба было ў дворнага арандатара, а месцамі ў склад арэнды ўходзіла і царква з яе даходамі ад духоўных трэб. Калі парох часам ціхачом, праз ашчаднасць, купіў сабе дзе жыўнасці і жыд-арандатар гэта дазнаў, то акружаў дом пароха, ператрасаў усё, забіраў «нелегальшчыну» і загадваў плаціць сабе кару. Акром гэтага, бедны гэты парох павінен быў штогодна выплачваць дзесяціну сваім біскупам, спаміж каторых бывалі не раз безлітасныя здзірцы, якія, праз сваіх прыдворных казакаў, выбіралі ў пароха не дзесяціну, а палавіну і нават больш усіх яго дастаткаў.

Хоць на аснове канстытуцыі уніяцкі парох, таксама як і праваслаўны, пасля высвячэння станавіўся вольным чалавекам, як ён сам, так і сыны яго, але на практыцы, акром аднаго, зазвычай старшага, сына, які павінен быў заступіць духоўнае месца свайго бацькі, папоўскіх сыноў колятары лічылі за прыгоннікаў і вымагалі ад іх спаўняння прыгонных работ, а ў выпадку непаслушнасці каралі і секлі розгамі. Гэтае «абычаёвае права» было замацавана Канстытуцыяй 1764 года ў гэткім выглядзе: «Паповічы, якія да 15 года жыцця не паступілі ў школы або ў навуку рамясла, павінны адбываць прыгон».

Няма дзіва, што пры такіх варунках, жывучы з заўсёдным пачуццём крыўд у душы, вясковае уніяцкае духавенства сквапна кідалася на кожную агітацыю, без розніцы, ці яна паходзіла ад украінскага казацтва, ці ад Масковіі, і было найлепшым праваднікам антыдзяржаўных думак. Затаёная горкая крыўда шукала спосабаў ратунку, а нават помсты.

## VIII. Палажэнне праваслаўя і маскоўскія на яго ўплывы

Палажэнне праваслаўнай апазіцыі было шмат лепшым. У граніцах Рэчы Паспалітай яно мела нямала абаронцаў як у сенаце, так і на соймах; па-за граніцамі Рэчы Паспалітай ім апекаваўся і яго падтрымліваў увесь праваслаўны ўсход, а галоўна, Масковія, якая з гэтага падтрымання старалася выцягаць і выцягала бягучыя палітычныя карысці, а такжа ставіла заданне сабраць пад сябе ўсе праваслаўныя землі ў будучыне.

Калі выбухлі казацкія бунты, Масква адкрыта ўжо распасцягае над казакамі сваю пратэкцыю, бярэ пад абарону сваіх аднаверцаў. «Апека» гэта ў выніку закончылася ў 1667 годзе Андрусаўскай угодай, пасля якой абшырныя ўкраінскія землі за Дняпром, а галоўнае, Кіеў з пяцімільным абшарам на заходнім беразе Дняпра, а такжа Чарнігаўшчына і Смаленшчына адышлі пад Масковію. З гэтага часу Масковія пачынае сістэматычную працу над збіраннем «сваёй дзедзіны». Для агітацыі за Масковію былі ўстроены дзве пляцоўкі з перабежчыкаў: у Кіеве для Украіны, і ў Ноўгарад-Северску для крыўскіх зямель, якія ўходзілі ў склад Літвы. Грымалтоўскім трактатам, зацверджаным у 1710 годзе, пратэктарат маскоўскі над праваслаўнымі ў Літве і Русі набраў сілы права: пункт 9 гэтага трактату аддаваў сем праваслаўных біскупій (адноўленых пасля 1705 года) пад зверхнасць Свяцейшага сінода, устаноўленага царом Пятром I у 1700 годзе. Сам цар Пётр прыбраў тытул апекуна «грэцкай» веры на ўсім свеце. Цяпер з рук Масковіі ставяцца кандыдаты ў праваслаўныя біскупы ў Літве і Русі. Узнаўляецца палітычная агітацыя за Масковію, вынікам якой сыплюцца ў Петраград жальбы праваслаўных на ўціскі і здзекі, а прадстаўнікі Масковіі ў Рэчы Паспалітай прымаюць на сябе заступніцтва за аднаверцаў перад каралём і ўрадам. Гэтак справа праваслаўная і «руская» становіцца мала-памалу справай маскоўскай.

## IX. Уніяцкая царква ў XVIII ст.

Нягледзя на бяспраўнае палажэнне уніяцкай царквы, уніяцтва ў Літве ўсё ж такі шырылася. На Русі (Украіне) пад апекай казацтва расло і шырылася рэфармаванае праваслаўе. Затое шляхта масамі пераходзіла ў каталіцтва, так што да пачатку XVIII ст. немаль саўсім знікае з аблічча зямлі шляхта уніяцкага абрадку. Уніяцтва ў гэтым сталецці становіцца выключна мужыцкай верай. Даўняя польская прыказка: «Ruska wiara — chłopska wiara» (руская вера — мужыцкая вера) сталася жывой праўдай. Унутраны распад грамадзянства ў Літве давяршыўся к пачатку XVIII ст.: падзел на станы адпавядаў ужо веравызнаўчаму падзелу. Верай шляхты было каталіцтва, казацкая вера — праваслаўе, а мужыцкая — уніяцтва. Праваслаўе ў межах Літвы трымалася яшчэ сярод мяшчанства, але на ўсім абшары мела не больш 50 парафій з некалькімі манастырамі і адну, магілёўскую, біскупію з 20 000 верных. Рэзкі паварот у карысць праваслаўя стаўся дзякуючы перамаршу маскоўскіх войск праз тэрыторыю Літвы.

У 1705 годзе, пасля ўгоды Пятра I з каралём Аўгустам Другім, заключанай супроць шведскага караля Карла XII, цар Пётр, увайшоўшы ў граніцы Літвы, распачаў фармальны тэрор супроць уніятаў. У Віцебску нішчыў ён уніяцкія абразы і кнігі. У Полацку, увайшоўшы пад п’яную руку ў Сафійскі сабор, каля алтара ўдарыў па абліччы васільяніна Заянчкоўскага, паваліў яго на зямлю, біў палкай па галаве, урэшце шабляй паабрэзаў нос і вушы, а пасля загадаў вынесці з царквы і павесіць. Другога васільяніна, Кізікоўскага, пракалоўшы шабляй, загадаў звязаць і занесці да сябе ў кватэру, дзе цэлую ноч мучыў яго так, што на світанні Кізікоўскі памёр. Царская світа, патураючы цару, пасекла шаблямі святара Якуба Крышэвіча і васільяніна Язэпа Андукевіча. Целы замучаных уніятаў загадаў цар спаліць і попел кінуць у Дзвіну. Рэшту васільянскіх манахаў пасадзіў у турму, манастыр і царкву аграбіў і замяніў на вайсковы магазын. Праваслаўным жа, духоўным і свецкім, аказваў Пётр асаблівую пашану і надзяляў іх царскімі падаркамі.

Паход Пятра праз Літву, яго трыўмфальны паварот пасля Палтаўскай бітвы і пушчаныя па царскім шляху агенты Сваццейшага сінода зварухнулі ўвагу народа на «рускую веру», якую ў тыя часы называлі сяляне проста «царскай верай». У часе пераходу войск Пятра было зложана цару ў рукі 433 просьбы уніяцкіх цэркваў аб прыняцці іх у праваслаўе. Цар іх ласкава прыняў.

Па смерці Пятра яго палітыку ў стасунку да уніятаў вяла далей царыца Кацярына, пры помачы магілёўскага біскупа Юрага Каніскага, перакананага староніка Масковіі і сябры Свяцейшага Пецярбургскага сінода. З Пецярбурга пасыпаліся ў Літву «падмогі» праваслаўным біскупам, манастырам і свецкаму духавенству. Біскупам Сінод назначыў па 5900 рублёў гадавой пенсіі, біскупу Садкоўскаму на падарожу ў Кіеў, для высвячэння, асігнаваў Сінод 3000 руб., на заснаванне духоўнай праваслаўнай семінарыі ў Слуцку — 2000 рублёў, на будоўлю сабору ў Слуцку — 25 000 руб. і г. д. Падобныя аргументы аказаліся вельмі перакануючымі, і за тры гады (ад 1784 да 1787) лік праваслаўных цэркваў немаль падвоіўся. У выніку гэтай усіленай апекі наступілі падзелы Рэчы Паспалітай, і, двума наваротамі, землі Вял. Кн. Літоўскага апынуліся ў межах Расійскай імперыі. Царкоўная палітыка Расійскай імперыі аплацілася з навязкай.

Пасля далучання крыўскіх зямель да Расійскай імперыі былі назначаны тры місіі для прапаведвання «рускай» веры: у Слуцку, Полацку і Менску. Місіянеры раз’язджалі пад аслонай войска, і калі дзе натыкаліся на адпор духавенства ці народа, то духоўнікаў арыштоўвалі і ссылалі ў глыб Расіі і Сібір, а сялян проста секлі розгамі. Дзякуючы гэткім пераконуючым аргументам, цемнаце і бяспраўнаму палажэнню духавенства і народа, навяртанне ішло спраўна: ад 1793 да 1795 года перапісалася ў праваслаўе 1 622 167 душ уніятаў; з 5000 уніяцкіх цэркваў і 28 манастыроў асталося пры уніі толькі 200 цэркваў і 19 манастыроў.

Цары Павел[10] і Аляксандр I, стараючыся выказаць свой лібералізм, аказвалі падтрымку рыма-каталікам і шляхце. Каталіцкаму духавенству пазволена было навяртаць уніятаў на лацінскі абрадак. Патварыліся лацінскія місіі, і магілёўскі біскуп Богуш-Сестржэнцэвіч прыняў на лацінскі абрадак за 10 гадоў больш 200 000 уніятаў.

Унію рвалі направа і налева, а зверху дабівалі яе яшчэ васільяне, якія ад пачатку XVII ст. грабілі землі свецкага духавенства, залічаючы іх на манастырскую ўласнасць. У канцы XVIII ст. на 2000 свецкіх парохаў, якія абслужывалі 1476 цэркваў, мелася ўсяго 36 дзесяцін (63 маргі) зямлі, 162 000 руб. капіталу, у той час калі на 800 манахаў-васільянаў прыпадала 20 000 мужскіх душ падданых (каля 100 000 дзесяцін зямлі) і 700 000 руб. капіталу акром даходаў са школ.

Мы не будзем апісваць ліквідацыі уніі пры Мікалаі I і нішчанне рэштак яе ў пазнейшыя часы, заўважым толькі, што не

менш крыўскаму народу каштавала крыві і слёз яе ліквідацыя, як і ўстаноўленне: у першым і другім здарэнні народны кансерватызм быў ламаны роўна дзікімі спосабамі.

## X. Вывады

Унія давяла да разбіцця Літоўскую дзяржаву і, коштам яе, да разросту Маскоўскага царства ў Расійскую імперыю. Унія як абрадак, сярэдні паміж скрысталізаванымі праваслаўем і каталіцтвам, магла стацца нацыянальным абрадкам толькі тады, калі б была абрадкам дзяржаўным, са сваёй уласнай іерархіяй, народнай мовай у літургіі і пры варунку прыналежання да яе ўсіх клас грамадзянства.

Трагедыя, званая уніяцтвам, якую народ наш перажыў у гістарычнай мінуўшчыне, даводзіць, што «промежутки и недоумки» мала маюць шансаў на тое, каб заваяваць сабе месца на існаванне, і што, як у кожнай іншай рысе народнага характару, наш народ павінен яшчэ самаакрэсліцца з рэлігійнай стараны. Як бы мы ні адносіліся да рэлігійнага пытання, але яно іграла і будзе яшчэ доўгі час іграць адну з першых роляй у народным жыцці. Дзеля гэтага, калі не хочам, каб чужынцы камандавалі духовасцю нашага народа, павінны мы шукаць і знайсці спосабы і формы да самаістага развязання рэлігійнага пытання. Патрэбна ўтварэнне такой формы хрысціянскай царкоўнай арганізацыі, якая бы, не аглядаючыся ні на ўсход, ні на захад, стаяла на грунце нашых нацыянальных інтарэсаў.

*[1926]*

## БЕЛАРУСКІЯ (КРЫЎСКІЯ) ДРУКІ Ў ТЫЛЬЗІЦЕ

Едучы, у пачатку гэтага года, поездам праз Нямеччыну, пазнаёміўся я з Марцінам Янкусам[1], старым літоўскім дзеячам прускай Літвы і адным з першых літоўскіх друкароў. Пан Марцін Янкус расказаў мне вельмі цікавую гісторыю аб беларускіх (крыўскіх) друках у Тыльзіце.

Вясной 1892 года перайшоў без дакументаў расійска-нямецкую граніцу малады чалавек (гадоў 23–25), які назваў сябе Антонам Абрамовічам[2] і звярнуўся да літвіноў у справе наладжання друку беларускіх брашур у Тыльзіце. Выдавецтва было хутка наладжана за кошты, якія надышлі Абрамовічу з Менска. У друкарні (цяпер яшчэ існуючай) Шэнка былі надрукаваны 3–4 першыя брашуры лацінскімі літарамі. У ліку надрукаваных брашур у Шэнка быў лемантар і яшчэ нейкія дзве брашуры, агалоўкаў каторых п. М.Янкус цяпер не памятае[3].

Пасля п. Абрамовіч перанёс сваю работу ў друкарню п. Янкуса, дзе надрукаваў тры кніжачкі, з якіх п. М. Янкус памятае два агалоўкі: «Ян Скіба», апавяданне, і «Дзядзька Антон», такжа апавяданне. Брашуры былі перапраўлены нелегальнай дарогай цераз расійска-нямецкую граніцу і пазней перасланы паштовымі пасылкамі ў Менск. Пасля гэтага п. Абрамовіч выехаў у Швейцарыю[4].

Я ў прадоўжанні маёй працы ні разу не сустрэў ніводнай з гэтых брашур[5]. Знаю, што яны такжа нікому няведамы з нашых бібліёграфаў. Тым часам выхад іх з друку не падлягае запярэчанню, бо маюцца жывыя і навочныя сведкі. Павінны жыць яшчэ людзі (бо ж гэта нядаўныя часы), каторыя былі ініцыятарамі гэтага выдавецтва. Дзеля гэтага прашу беларускія часопісі апублікаваць гэту ведамку[6] з просьбай, каб адгукнуліся тыя, хто бліжэй ведае гэту цікавую справу.

*[1926]*

# ДОЙЛІД

Насовіч гэтае слова збывае вельмі каротка: «Дойлид, плотник (слово, редко употребляемое)». Праф. Карскі[1] (Белор[усы]. Т. 1. Б. 129) слова «дойлід» адносіць да запазычаных у літвіноў, ён піша: «Дойлід — зодчий, строитель: «кузнец и дойлида», «мастер дойлид», «дойлидска дела» (Ф. Скорина, Владимиров[2], 300); сустрачаецца «дойлид» і ў актах XVI ст. (гл. Акты, выд. Вілен. кам., XVIII); часам гэтае слова можна пачуць і цяпер, прыкл., у песні, запісанай у Сеннінск[ім] пав. Магілёў- скай губ. (Шэйн: Матер. 1. 1, 164): «Там и три далиды церкву рубили». Як гэта ўжо адзначана многімі (Брукнер[3], 23; Вальтэр[4], Mitteil., IV, 53; Владимиров), гэтае слова — літ. «dajlide».

Да прыведзеных праф. Карскім запісаў, дзе фігуруе слова «дойлід», трэба дадаць яшчэ зборнік Рамуальда Зянькевіча[5]: «Piosnki gminne ludu Pińskiego» (Коўна, 1856), а такжа заўважыць, што яно дагэтуль ужываецца ў жывой крыўскай народнай мове. Слова «дойлід» асацыязуецца ў народзе са сталярскай прыладай — далатом, якое месцамі вымаўляюць «дайлато». Далатом выбіваюць у дрэве «далубы», г. зн. углыблення да змацоўкі звязаў у будынках. У сталярстве далубамі называюць урэзы ў канцах звязаваных дошчак. Словам «далубаць» абазначаюць працэс выбівання далатом углыбленняў у дрэве, выкалыпвання (зраўняй польск. dłubać).

З вышэйпрыведзеных прыкладаў відаць, што ў нашай мове ад словачыну «далубаць»— калыпаць, прыбор да выдалубвання ўглыбленняў атрымаў назову «далато», «дайлато», а майстар, які выбіваў «далубы», назначаў месца іх і спосаб звязвання часцей будынку, а такжа далубаў аздобы для будоўлі, атрымаў назоў — «дойлід». Гэта будзе будаўнік і мастак далата.

*[1926]*

## ЭПІТЭТ СМЕРЦІ «КАСТУСЯ»

Кожны даследчык міфалогіі павінен лічыцца з тым, што імёны міфічных асоб з'яўляюцца акрэсленнямі-эпітэтамі і што кожная міфічная постаць мела іх па некалькі. Гэта пацвярджае нам індуская міфалогія, якая захавала ў сваёй прадаўнай пісьменнасці многія эпітэты міфічных постацей. Прыкладам, Індра (па-нашаму — Пярун) мае некалькі дзесяткаў эпітэтаў, каторыя акрэсляюць яго сілу, мужства, ласкавасць да людзей, будзіцеля прыроды, валадара маланак і інш.

Падобна гэтаму міфічная істота, якая ўвасабляла постаць смерці і нябыту, у крыўскім фальклоры дахавала некалькі эпітэтаў, якія характарызуюць яе даволі ўсестаронна. Да гэткіх належаць Баба Юга, або проста Югася (прыносіць зіму і завеі, рас.: вьюги), Мара, Смерць (валадарка мораку, цемні, нябыту) і, урэшце, Кастуся (якая не мае цела, а толькі адны косці; зраўняй прыказку — Баба Юга, Касцяная нага). Кожны з гэтых эпітэтаў акружаны ў народным фальклоры цэлым цыклам легенд-міфаў або забабонаў, якія падробна і ўсестароннe характарызуюць міфічную постаць смерці. Падобна як страшному Лесавіку народ надаў, з боязні, каб не ўкваліць яго, эпітэт Дабрахот, гэтак і да эпітэта смерці Кастуся дадаюць яшчэ з боязні другое акрэсленне яе — Ласкавая: «Ласкавая Кастуся». Вера ў тое, што названая сваім уласным імем міфічная істота можа мсціцца, прымушала першабытнага чалавека ўласныя імёны заступаць эпітэтамі. Дзякуючы веры ў сілу слова і ў сілу высказанага імені, жыды цяпер не ведаюць, як вымаўляецца імя Бога, хоць напісанне яго ведаюць. Адонай*, Іегова — гэта не імёны, а толькі эпітэты. Эпітэты, замест імён, вельмі распашыраны ў нашым фальклоры не толькі ў стасунку да смерці ці Лесавіка, але такжа і да другіх істот. Прыкладам, наш селянін імя агонь заступае эпітэтамі: святло, цяпло, багач, багацце (жар). Іскру называе знічка (параўнай — Зніч, названне святога агню). Чорта называе той, гэны, нячысцік. Нават чыннасць награвання дрывамі печы не гаворым мы «паліць у печы», але «тапіць» (быццам кідаць агонь у ваду), «цепліць», хоць ужо не верым, што ад вымаўленага слова «паліць» можа запаліцца хата.

З другой жа стараны, эпітэт, надаваны смерці нашым народам «Ласкавая — Кастуся», характарызуе глыбока філасафічны пагляд нашага народа на смерць, каторая прымаецца ў некаторых здарэннях не як страх і зло, а як вышэйшая ласкавасць. Каб

---

* Эпітэт — Адонай, сходны з імёнамі: Адоніс, Одын і Доннэр (Пярун). Адонай на Сінайскай гарэ паказаўся Майсею ў громе і маланках.

дайсці да гэткай характарыстыкі смерці, на гэта трэба быць народам з дужа старой культурай і з вельмі яркімі перажываннямі ў мінуўшчыне, якімі і сапраўды могуць пахваліцца адзіна крывічы на славянскім усходзе.

*[1926]*

## НАВЯЗІ І КУДМЯНІ

Да сягонняшняга дня можна заўважыць у нашых вяскоўцаў, мужчын і жанок, шнурочак, абвязаны каля цэўкі рукі або на назе каля шчыкалаткі. Гэта навязі, ці, як іх у царкоўнай і гістарычнай пісьменнасці называюць, наўзы. Аб славэтным полацкім князю-чараўніку Усяславе апавядаюць, што пры нараджэнні варажбіты загадалі бацькам налажыць на яго нейкія наўзы, каторыя і насіў ён праз усё сваё жыццё на галаве. Знача, вера ў навязі ў нас прадаўная. Навязі навязуюць цяпер або ад сурокаў, або зарочныя.

Сурочныя навязі абараняюць, паводле народнага верання, ад благога вока і ад суроку, знача, благога моманту, гэта ёсць такога моманту, у каторы кожнае пажаданне можа споўніцца. Карэнь у гэтым слове *рок* — час — і прыстаўка *су*, якая абазначае збег часаў, зыход, стык або ў даным здарэнні падвойны стык: пажадання і моманту, у каторы ўсякае пажаданне выпаўняецца. Дзеля таго ж, што кожны чалавек мае сваіх ворагаў, то заўсёды знаходзіцца пад небяспекай якога-колечы благога пажадання, праклёну, пад сваім адрасам, і таму асцярожлівы чалавек павінен насіць ахаронную навязь, гэткая ёсць ідэя сурочных навязяў.

Зарочныя навязі навязуюцца дзеля задуманай мэты або ад хваробы. Прыкладам, жнеі навязуюць «навязі» ад расшырэння жыл, якое часта атрымліваецца ад перапрацавання ў часе жніва ў цэўцы рукі, або ад надмернай хадзьбы — у нагах. Навязуюць навязі і ад усякіх іншых хвароб, прыпісываных сурокам. Але найцікавейшыя навязі, робленыя з якой-колечы прызарочанай самому сабе пастановай. Гэткая навязь носіцца на левай руцэ да моманту, пакуль не будзе дасягнута мэта.

Кудмень — гэта якая-колечы дробная рэч, прыкладам, пацерка, гладкая, як колечы аформленая костачка, камяшок, завушніца, медалік, крыжык, пярсцёнак, наогул, рэч, у якую вераць, што яна прыносіць шчасце таму, каторы мае яе пры сабе. Кудмяні носяць у сакрэце ад другіх, бо думаюць, што з раскрыццём сакрэту кудмень траціць сваю сілу. Мне ведамы прыклад, калі бацька, уміраючы, перадаў сыну такі кудменьчык, каторы пераходзіў

у іх родзе з пакалення ў пакаленне, гэта была круглая жоўтая металічная бляшачка з атворынай усярэдзіне і з арнаментам у форме недагнутых лацінскіх літар S, які ішоў ад сярэдзіны да краёў абапал бляшкі.

Як навязі, так і кудмяні прыпісуецца насіць на голым целе, прыкладна, на руцэ, назе ці шыі, а з апавядання аб князю Усяславе мы ведаем, што навязі бывалі ношаны і на галаве.

Маральнае значэнне зарочных навязяў вельмі вялікае. Чалавек, які даў сабе на што зарок, дзякуючы навязі ўтрымлівае ў памяці сваю пастанову і імкнецца, каб яе выканаць. Магчыма такжа, што і навязі, робленыя ад хвароб, іграюць ролю самагіпнозы.

*[1926]*

## КАРЭНЬ «ГАЛ» І ВЫВОДНЫЯ АД ЯГО СЛОВЫ І ПАНЯЦЦІ Ў КРЫЎСКАЙ МОВЕ

ГАЛ, голае месца сярод лесу; *прагаліна* — ліна, плеш, месца ў лесе, праз якое прасвечаецца даль; *прога*, не загароджанае месца ў плоце для ўезду.

ГАЛЫ, зад, акругласці на задку: «Задраўшы ногі, паказуе свае галы». «На галах не паедзеш» (Насовіч).

ГАЛОТА, людзі голыя, галышы; *галцяй*, басота, бадзяка (рас.: бродяга); *гален*ь, здзерты венік; галутвенік, вечны галыш.

ГАЛЬ, хцівасць, пажадлівасць чужога; *галіць*, пабуджаць у кім лачнасць, пажадлівасць; *галіцца*, квапіцца (рас.: зариться), парывацца ў пагоні за нечым. «Пагаліўся на чужое дабро». «Галіцца і сам не ведае на што» (Насовіч); *спагальны*, паквапны; *загальны*, які выклікае пажадлівасць, кваплівасць, хцівасць: «Загальная зямелька». «Загальны інтэрас, купля», знача, такія, што вызываюць галенне, галь, паквапнасць; *узгаліцца* (Насовіч: вгалицьца) — запаліцца хцівасцю; *спагаля*, з поквапу, з хцівасці, з парыву; *загал*, паквапнаць.

ГАЛУЗЫ, зайздросныя, завідныя вочы; *галузаваць*, глядзець завідна і непрыязна; непрыязна аглядаць, крытыкаваць (іграць) вачыма; вырабляцца, дурэючы; злосна насміхацца; *галуза*, шкоднік, завідлівец.

АГАЛЬНЫ, нахрапны і непрыязны; *агіляцца*, унікаць працы, гультаіць: «Не час дрэмаці ні агіляцца, але за жніва трэба ўжо брацца» (Стары Улас. «Год беларуса»).

АГАЛЦЕЛЫ, памяшаны, дурны; хто ўтраціў прытомнасць, свядомасць сваіх чынаў.

ГАЛЕКАЦЬ, крычаць; *галакаць*, гаварыць крыкліва.

ГАЛАМЕНЬ, пень дрэва, ад каранёў да першых сукоў (рас.: ствол); *галіна*, само дрэва ў яго кароне.

*[1926]*

## КАРЭНЬ «КОРС», «КОРХ», ВЫВОДНЫЯ АД ЯГО СЛОВЫ І ПАНЯЦЦІ Ў КРЫЎСКАЙ МОВЕ

КОРХ. Паводле Насовіча (Словарь. Б. 247): 1) Кулак. «Не жалея карха, даў яму харашэнька». 2) Удар кулаком: «Дай яму карха». «Надаваў кархоў, будзець з яго». 3) Мера ў кулак, прыгаршня: «Пяць кархоў адмерыць».

Выводныя: *каршок*, зменшанае слова ад «корх»; *корхаць*, біць кулаком, *корхацца*, біцца, таўчыся кулакамі, *кархануць*, *корханне*; *карчаг* — карэнь; *карчажжо*, карэння; *каршэнь* — карк, месца, на каторым каршаць, корхаюць кархом; *карховы*, мерай з кулак.

Да павыжшага тлумачэння Насовіча трэба дадаць: *каршок, каршак*, мера на чатыры пальцы шырынёй; у локці лічаць шэсць каршкоў, кархоў.

Первабытны чалавек упадабляў сябе самога да дрэва, згэтуль падобнасць слоў да акрэслення часцей чалавечага цела і часцей дрэва. Прыкладам: *кара* і *скура, галіна* і *голень, ладыга* і *лыдка, пальцы* і *палкі, пята* і *пень, какаты* (суччa) і *кокці*, *сын* і *сук*, чэшскае — holka (дачка, дзяўчына) і *галіна* на дрэве, *корх* і *корч* — і гэтаму падобнае. Словам, у выабражэнні первабытнага чалавека сагнутая або сціснутая далонь здавалася быць падобнай да скрутаў каранёў у дрэве, якім яно трымаецца, учапіўшыся за зямлю.

Ад пачатнага «корх» у нашай мове маецца цэлая сям’я выводных слоў. Да гэткіх належаць:

СКОРСНУЦЬ, сціснуць рукі, вусны, сагнуць або сплясці, сціскаючы, пальцы.

РАЗКЯРСТАЦЬ, растапырыць пальцы, выпрастаць далонь; расставіць ногі; разняць рукі да абоймаў; разагнуць расшчэплены канец палкі віламі.

КЯРСТАЦЬ, *кяртаць, кярсаць*, дзерці цэлае надвае, раздзіраць кіпцюрамі. Прыкладам, лучыну лушчаць, лыкі лутаюць, але карэнні да пляцення карзін *кяртаюць, кярсаюць*, а накяртаны матэрыял называюць *скярсой, к(а)ярсой*.

КЯРЭЧЫЦЬ, корчыць ногі; *раскярэчыць*, расставіць уроскідзь ногі, як у карчы карані; *скукярэчыцца*, скорчыцца; *разкятурка*, месца вілаватага раздзелу; *кукіш*, скорчаная вядомым спосабам рука; *карачкі*, хадзіць ракам, на чатырох.

АСКІРАЦЦА, *выскірацца*, ашчырацца, зн. усміхацца; як быццам рабіць шчэлку з губы. Нікіфароўскі падае сказ з Віцебшчыны аб бяззубай дзіцячай усмешцы — «скелачкі шчыліць»; зраўняй з той жа Віцебшчыны (і Смаленшчыны) слова «шчылікун» — насмешнік, эпітэт чорта.

КАРАСНУЦЦА, *корснуцца*, хапіцца рукой, «кархой», за штоколечы, дакрануцца да чаго; *караскацца*, чапляцца, хапацца за што, *прыкараскацца*, прычапіцца, *адкараскацца*, адчапіцца.

КЕРЗАЦЬ, плясці лапці, ка(я)рзіны, па-маскоўску: строчить; *наскерзь*, наскась пераплятаючы, спосаб плясці што з лыка, скярсы ці валакна; *кавярзні*, не падпляtаныя лапці; *кавярза*, плёткі, выкручванне і перакрыўлянне праўды, блутанне фактаў, інтрыга; *карса, корска*, папярэчны рад лыка пры пляценні лапцяў, тое, што маскалі называюць строка, строчка.

КОРСТКІ, сцягаючы, шчыплючы на смак.

КОРСТ, труна ў форме карыта з векам; праўдападобна, назоў гэты мае ў аснове паняцце капання, падобна як грабсці, грабаць і паграбаць, пограб.

***1926***

## РАЧНОЕ ІМЯЗОЎНІЦТВА

Рака Дзвіна, працякаючы большую часць свайго бегу праз крывічанскія землі і будучы доўгія часы галоўным торговым шляхам нашай зямлі, мае шмат цікавага імязоўніцтва, вытваранага нашым народам. Ніжэйпададзеныя назовы запісаны ў 1894 годзе А. Цымборскім у Дзісне, ад корніка Пятра Рудака. Арыгінал запісаў — цяпер уласнасць рэдакцыі «Крывіч».

РУЧВО, самае глыбокае цячэнне ракі (рас.: фарватер).

ПЛЕС, шырокае, ціхае ручво ракі без закрутаў (рас.: широкий фарватер).

ТУРЭЦ, звужанае ручво са шпаркім цячэннем вады.

РУБА, каменная перагародка ўпоперак ракі ўступамі або абрывам (рас.: пороги).

ГРЫВА, падводная або адбярэжная пясчаная мель (рас.: коса).

ЗАБОРА, перагародка ракі, зложаная з невялікіх камянёў, якія выступаюць з вады.

МЕЛЬСТЫНЬ, плоскае, роўнае, пясчанае, неглыбокае дно.

ЖОСЬ, мельстынь, зложаная з дробных камянёў (жост, або жорст: рас.: хрящ).

ВЯРЖА, ВЕРАЖЛЯ, шпаркае цячэнне паверх скрытых пад вадой камянёў.

ЗАКРУТ, загіб ракі падковай або дугой.

НЕРД, падмытая вадой пад бераг яма; цячэнне вады пад берагам.

ВІР, закручаючаяся лейкая вада над глыбокай ямай.

ПРАБОР, ПРАБОРА, вузкае ручво паміж дзвюма мельстынямі.

ПОПЛАЎ, бераг ракі, які вясной бывае заліваны вадой.

РЫГА, рукаў ракі («Сухая рыга», рукаў, які акружае востраў Дален, каля Якобштада).

РУМ, месца звозкі і складу тавараў перад адпраўкай іх вадой.

БАЛВАНЕЦ, абвал цэлай масай высокага берагу ў ручво ракі.

КАЛТА, КАЛТАВІНА, яма ў дне ракі.

РАЗТОКА, месца, у якім разліваецца рака ўшыркі, выходзячы з цесных берагоў.

ЗАТОКА, месца, дзе рака ўглыбляецца ў сушу, заліў.

СУТОКА, месца, дзе зліваюцца, «стачваюцца» воды дзвюх рэк.

ПРЫТОКА, меншая рэчка, якая ўліваецца ў большую раку.

УЙСЬЦЯ, УСЬЦЯ, канец ракі перад месцам, дзе яна ўліваецца ў другія, большыя воды, вышэй сутокаў.

ВОЛМА, упадзіна, заглыбленне ў дне ракі ніжэй рубы.

ГОЛМ (праўдападобна, заменена пачатнае славянскае *х* у *г*), высокі бераг гарбом або капяжом.

ПІСАНІК, камень з надпісамі.

КЛЫГА, месца, дзе клыгоча вада, пераліваючыся цераз перашкоды.

ЯЗ, перагарода ўпоперак ракі для лавення рыбы.

*[1926]*

## ПАТРЫЯТЫЧНЫ МАЛІТВЕННІК

*Выданне гэктаграфаванае, без азначання часу і месяца друку*

Наша патрыятычна-агітацыйная пісьменнасць у параўнанні з гэтага роду пісьменнасцю другіх, суседніх нам народаў, вельмі малая, дзеля гэтага трэба вітаць кожную спробу ў гэтым кірунку, асабліва калі яна мае на мэце чыстыя крыніцы, г. зн. суверэннасць крывічанскага (беларускага) народа на крывічанскіх землях. Амаўляная брашура адпавядае вышэй пастаўленым вымогам у поўнай меры. У дадатку з'яўляецца цікавай спробай перафразоўкі штодзённых малітваў на патрыятычны лад, што для чытача з народа з'яўляецца пацягаючым аргументам. Гэткага роду спробы патрыятычнай агітацыі — не навіна. У свой час гэткага роду пісьменнасць працвітала ў палякаў (у апрацоўцы А. Міцкевіча), былі вельмі папулярны патрыятычныя малітвы і катэхізмы ў ірландцаў. Амаўленая намі брашура з'яўляецца саўсім арыгінальнай перафразоўкай малітваў. Дзеля таго, што гектаграфаванае выданне зазвычай агранічаецца некалькімі дзесяткамі адзінцоў, а сама брашура цікавая і ў поўная меры вартая шырокага распашырання, то мы, для азнаямлення шырэйшых кругоў, у большасці яе перадрукоўваем.

«У імя крыўскага (беларускага) народа, за яго славу, шчасце і свабоду. Станься.

Ойча наш, каторы ёсць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно і цяжка паярэмленай. Хай не адымаюць чужынцы хлеб штодзённы ад вусн нашых дзяцей. Адпусці грахі нашым продкам, каторыя не ўмелі абараніць сваёй і свайго патомства свабоды. Не ўводзь нас у пакусу ўлегласці тым, што паярэмілі нас, але збаў нас ад чужацкай апекі. Станься.

Вітай, Крывічанская зямелька, потам і крывёй нашаю палітая, праўда з Табою. Благаслаўлена Ты паміж усімі краінамі свету, і благаслаўлен плод лона Твайго, Крывіч. Святая зямелька, Маці наша! Табе ў ахвяру складаем мы ўсе сілы свае цяпер і ў момант смерці нашай.

Веру ў Бацькаўшчыну нашу Крывію (Беларусь) і ў Народ наш, сына яе адзінага, каторы на свет прыйшоў свабодным, радзіўся з волі нікім не паярэмленай. Замучаны быў маскалямі і палякамі, загнаны ў прыгонную няволю, памёр як дзяржаўны народ, цяпер падзелены на часці. Але хутка ўваскрэсне з мёртвых, узойдзе на пасад свабоды і будзе, магутны, паводле заслуг судзіць сваіх ворагаў і крыўдзіцеляў. Веру ў творчасць Духа

народнага, у лучнасць нашых сіл грамадскіх, у аб'яднанне ўсіх крывічанскіх зямель у адну свабодную дзяржаву і ў шчаснасць векавечную. Станься.

Слава Крывічанскаму Народу ва ўсіх яго гістарычных імёнах — Крывіі, Літвы, Беларусі, — як была справеку, так цяпер і на векі вечныя. Станься.

Святая свабода, выражаная дзяржаўнай самаістасцю Крывічанскага Народа, ты наша пацяшыцелька і надзея, адзіная Мэта і Праўда наша, прыйдзі, усяліся ў нас і ачысці нас ад усякага рабства і збаў нас ад няволі. Станься».

### Дзесяць загадаў народных

«Я, Крывічанскі народ, замучаны, распяты і падзелены, клічу да цябе:

1. Не спадзявайся, што хто-колечы з чужакоў высваба- дзіць мяне з няволі.
2. Ніякага самаўрада не называй яшчэ незалежнасцю.
3. Памятай выслаўляць дзень, каторы дасць нам поўнае вызваленне.
4. Паважай тых, каторыя змагаюцца за маю лепшую будучыну.
5. Не забівай на славе тых, каторыя працуюць для мяне.
6. Не злучай сябе звязкамі жанімства з чужынцамі.
7. Не вер чужынцам.
8. Не траць веры ў народную справу.
9. Не перасаджай чужых культур на грунт свой народны.
10. Ні мовы чужой, ні паэзіі, ні грамадскіх форм, ні звычаяў, ні абычаяў, нічога, што не вырасла з народнага духу, акром тэхнічнай веды, якая з'яўляецца выразам агульначалавецкага генія.

Любі народ і край свой Крывічанскі ўсім сэрцам, усёй душой, усімі мыслямі, думкамі і подумкамі сваімі!

Любі свабоду і змагайся за свабоду, як за ўласнае жыццё і шчасце!

Напачатку была Свабода, і Свабода была ў руках Народа, і Народ быў свабодны. Свабода была напачатку ў руках Народа. Праз Народ усё сталася, і без яго нічога не сталася. Народ быў незалежны, а свабода і незалежнасць былі радасцю людзей. І памяць аб утрачанай намі свабодзе свеціць нам у паняволенні нашым, і няволя не пагасіла ў нас жадання свабоды.

*[1926]*

# ПРАДМОВА ДА «ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ (КРЫЎСКАЙ) КНІГІ»

Няма больш занядбанай дзедзіны ў светавой пісьменнасці, як гісторыя паняволеных народаў. Вышэйсказанае асабліва кідаецца ў вочы, калі ўзяць якую-колечы галіну нашай, крыўскай, гісторыі. То знача, гісторыі народа, каторы, не так яшчэ даўно, жыў сваім самаістым палітычным і культурным жыццём. Супярэчнасць між сведчаннем гістарычных помнікаў і асвятленнем іх сучаснай пісьменнасцю — проста паражаючая. Беручы ў рукі гістарычную кнігу часовых нашых пераможцаў, не ведама чаму больш дзівіцца, ці іх бескрытычнасці, ці іх паражаючай умеласці тэндэнцыйна выкарыстоўваць аб'ектыўныя сведчанні гісторыі.

І сапраўды, сколькі трэба бескрытычнасці або надуманай волі, каб, прыкладам, з паважнай мінай чалавек, з імем гісторыка, мог гаварыць аб русі як аб нацыі, засяляючай усходнееўрапейскую раўніну! Усякаму ведама, што пад імем русь калісь, у IX стагоддзі, прыйшла на ўсходнеславянскія землі нармандская вольніца не славянскага, а нармандска-нямецкага племя. Гэта нармандска-нямецкая вольніца дала розназоўным і рознамоўным усходнеславянскім плямёнам пануючую дынастыю, эвентуальна — вярхі грамадзянства, якія растварыліся ў славянскім моры і ўрэшце даўным-даўно сышлі з гістарычнай арэны. Яшчэ большую бескрытычнасць выказуе гісторапіс, трактуючы генезу і істоту літоўскага перыяду нашай мінуўшчыны. Тут ужо такое награмаджанне ачавістых нісянеціц, што найсвятлейшыя галовы, замест рассвятляць пануючую цемру, самі пагразаюць у бязвыхадных лабірынтах супярэчнасцяў, награмаджаючы новыя загаты на шляху надыходзячай патомнасці. А літоўскі сфінкс сваёй паражаючай масай гістарычных фактаў і матэрыялаў высіцца па-над кніжнымі і архіўнымі людзьмі роўна неразгаданы і неясны на балонах кронік XVI, як і ў найвыдатнейшых працах гісторыкаў XX стагоддзя.

Прычына ў тым, што найранейшыя летапісы дахавалі нам неістотную гісторыю, а палітычныя трактаты, ілюстраваныя сякімі-такімі жывымі падзеямі на апраўданне гістарычных злачынаў і гвалтаў, дакананых над вольнымі народамі тымі або іншымі дынастыямі і палітычнымі цэнтрамі. Гісторыя дагэтуль была служкай палітыкі пануючых дынастый і дзяржаў. Довадаў на вышэйсказанае — мільёны, не толькі з даўніх, але з навейшых і найнавейшых часоў. Прыкладам, у гэтай кнізе, на 636 балоне, мы сумысля змесцілі адзін з такіх «гістарычных сведчань»,

гэта ёсць медаль, адбіты царыцай Кацярынай II на прылучэнне крыўскіх зямель да Масковіі (пераназванай у 1725 годзе ў Расійскую імперыю). На медалі красуецца вымоўны і самапэўны надпіс: «Отторженная возвратих» (адарванае вярнула). Крытычнае вока, спазірнуўшы на гэты медаль, загарыцца гневам абурэння: бо як свет-светам ніколі крыўскія землі перад тым не належалі да Масковіі! А знача, надпіс аб звароце адарванага — няпраўда! Але на апраўданне няпраўды імперыя паклікала сваю крывапрасяжную сведку — «гісторыю» пануючай нацыі, і яна, не заікнуўшыся і не пачырванеўшы, прысведчыла цэлай масай дынастычных басень і фальшаваных дакументаў праўдзівасць сказанага і далей прысвядчала, на працягу цэлага сталецця, несчысленым лікам вусн і друкаў!

Ясна, што пры гэтакай гісторапісі, у якіх сто гадоў паняволеныя народы аказваліся не толькі, саўсім праўна, абяспраўленымі, але і пазбаўленымі сваёй слаўнай мінуўшчыны. Шчаслівыя пераможцы лепшыя балоны гісторыі паняволенага брата ўпісвалі ў сваю гісторыю. І колішні патульны сусед ці нават васал, прыбраўшыся ў здзерты з плеч заняпаўшага пурпур, станавіўся «пурпурародным»…

Гэтак, нядаўна яшчэ, мы чыталі ў школьных падручніках, прызначаных для адукацыі моладзі 120-мільённай Расіі: «Беларусы — самая малодшая галіна рускага народа». «Беларусы загнаныя і панурыя («унылые»), малаздольныя да культурнага развіцця, але добрыя землякопы». «Беларусы пісьменнасці сваёй не вытварылі» і г.д. і г. п.

І родзіцца пытанне, што гэта: не маючая граніц бескрытычнасць ці несумленнасць, якая, дзеля сваіх мэт, не перабірае ў спосабах? Але ўзгадаванае на падобных «праўдах» шырокае грамадзянства дагэтуль шчыра пераконана, што: «Беларусы пісьменнасці не вытварылі».

Тым часам, каб не наша старая пісьменнасць, не было бы ў Расіі Пушкіна. На нашых помніках развівалася і шліфавалася цяперашняя расійская мова, так непадобная да мовы колішняй Масковіі. На нашай мове ўзрастала адраджэнне Польшчы ў XV і XVI і сыцілася ў часе заняпаду яе дзяржаўнасці ў XIX ст. Дзеля гэтага патрэбен грунтоўны крытычны перагляд усёй гістарычнай пісьменнасці, створанай нашымі пераможцамі аб нас.

Мэта гэтай кнігі, стаўленая аўтарам пры яе апрацаванні, была паказаць, што пісьменнасць крыўскага народа па сваёй даўнасці сягае X стагоддзя, а па багацтву помнікаў займае першае месца на ўсходняй славяншчыне. І дзеля гэтага не толькі

заслугоўвае, але абавязуе сваім зместам быць уведзенай у курс кожнай катэдры славянаведання, асабліва ў курс кожнай катэдры ўсходнеславянскага моваведання і пісьменнасці.

Праца гэта ёсць першая спроба даць, па магчымасці, усестаронняе паняцце аб старакрыўскай (беларускай) пісьменнасці, само сабой, не прэтэндуючы на поўнае пералічэнне ўсіх захаваўшыхся да нашых часоў пісаных крыўскай мовай помнікаў. Бо на поўнае пералічэнне трэ было бы многа тон падобных кніг, як гэта. Прыкладам, дакументы Метрыкі В[ялікага] Кн[яства] Літоўскага сабраны ў 556 тоўстых тамах; Віленскі Цэнтральны архіў змяшчае аж некалькі мільёнаў дакументаў. Акром гэтага, вялікі лік дакументаў маецца ў Віцебскім Цэнтральным архіве, у старасховах Менска, Смаленска, Ноўгарад-Северска і па ўсіх музеях і архівах Расіі, пачынаючы ад Масквы і Петраграда і канчаючы Кіевам, Адэсай, Казанню, Тыфлісам і нават Томскам. Не менш багаты старакрыўскімі пісанымі помнікамі музеі і архівы Польшчы — Кракаў, Люблін, Варшава, Познань і інш. У дадатку дагэтуль маецца многа дакументаў і рукапісных кніг у прыватных сабраннях і ў фамільных архівах тутэйшых памешчыкаў, а нават у дробнай шляхты ды ў сельскага духавенства.

Пералічаючы помнікі нашай пісьменнасці, мы ўзялі пад увагу толькі абшар, заключаны паміж Нёманам, Вяльёй, а Дняпром, Прыпяццю, а Дзвіной, але ў нашу пісьменнасць трэ-ба ўключыць яшчэ Северскія землі* і землі Пскова і Вялікага Ноўгарада**. Адзінства культуры ў пісаных помніках, у малярстве, будаўніцтве і грамадскім укладзе праяўляецца на ўсім абшары ад Новагародка Наднёманскага да Новагародка-Северскага і Вялікага Ноўгарада, «туде бо живяху крывічы», як выражаецца летапісец.

Многія моманты ў развіцці нашай пісьменнасці прыходзілася трактаваць пабежна або і саўсім абыходзіць, з той прычыны, што распрацоўка нашай пісьменнасці была роблена дагэтуль толькі чужымі і пад няправым вуглом погляду: крыўская пісьменнасць

---

* «Крывічы... былі прабацькамі цяперашніх беларусаў. ...У найбліжэйшым з імі сваяцтве знаходзіліся дрыгвічы, якія жылі паміж Прыпяццю і Бярэзінай. Гэта была асобная галіна тых жа крывічоў, адзначаная асобным імем у залежнасці ад прыроднай уласцівасці занятай імі тэрыторыі («дрыгва»— балота, «трясина»). ...У цесным сваяцтве з крывічамі былі радзімічы, якія жылі на Сожы» (праф. М. Н. Любавский. Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918).

** Крывічы з сістэмы Дняпра выйшлі на поўнач, на начы рэк Волгі і Зах. Дзвіны, а іх галіна славене занялі сістэму возера Ільменя (акад. С. Ф. Платонов. Учебник русской истории. Прага, 1924).

трактавалася не як праява самабытнай культуры крывічоў, а як галіна уроенай расійскім цэнтралізмам агульна-расійскай культуры. Дзеля гэтага перад гісторыкам крыўскай пісьменнасці, які не хоча паўтараць старыя памылкі, на кожным кроку паўстаюць труднасці, каторыя можна будзе асіліць толькі з развіццём нашай уласнай гісторапісі. Зрэшты, у нас дахавалася аграмадная маса юрыдычных дакументаў, але, у параўнанні, толькі нязначныя абломкі кніжнага багацця, бо рукапісы бязжаласна нішчаны былі ў часе нашых рэлігійных закалотаў, якія панавалі ад XVI ст. немаль да нашых часаў, а такжа ў часе частых воен і рэвалюцый. Дзякуючы гэтаму з ланцуга бурных і багатых у пісьменныя помнікі перыядаў — як пашырэнне каталіцтва пры першых Ягелонах, пашырэнне секты жыдоўствуючых і рэфармацкі рух — дахаваліся нязначныя абрыўкі, якія можна рэстутаваць толькі пры натужнай працы сталых краёвых вучоных установаў, якіх не было дагэтуль.

Пры апрацаванні гэтай кнігі перад аўтарам паўставала пытанне, як угрупаваць сабраны матэрыял. Калі агранічыцца абшарам быўшага В[ялікага] Кн[яства] Літоўскага, то намячаюцца выразна зарысаваныя тры перыяды: 1. Крыўска-славянскі да XIII ст., 2. Літоўскі да палавіны XVII ст. і 3. Літоўска-рускі. Але прымаючы пад увагу, што адкіданне пісьменнасці ноўгарадска-пскоўскай і ноўгарад-северскай не вытрымлівае крытыкі, а да згрупавання яе меліся не дапераможання труднасці, бо кнігу здарылася апрацоўваць на эміграцыі, не толькі не маючы доступу да арыгінальных помнікаў, але нават пры вялікай нястачы найбольш патрэбнай літаратуры, — прыйшлося выбраць храналагічны парадак як найлягчэйшы да арыентавання ў забытках нашай старой пісьменнасці і агранічыцца пісьменнасцю толькі адной галіны крыўскага племя. Поўная гісторыя павінна ўключаць помнікі Пскова, Ноўгарада і Северскай зямлі.

Паскольку пазвалялі маючыеся пад рукамі матэрыялы, аўтар стараўся даць хоць кароценькія выпіскі з кніг і дакументаў не толькі для ілюстрацыі мовы помніка, але і ў надзеі, што гэткім спосабам удасца звярнуць увагу чытаючага грамадзянства на неадзоўную патрэбу ўвесці ў курс нашых сярэдніх школ выклад старакрыўскай пісьменнасці і граматыкі, каб звязаць новачасную пісьменнасць са старымі традыцыямі і здабыткамі ў дзедзіне духовасці.

Для заакцэнтавання таго, што старая наша пісьменнасць і сучасная народная мова адна з другой выплываюць, дадзены ў канцы кнігі слоўнік помнікаў старакрыўскай мовы, бо яшчэ

нядаўна можна было сустрэць у друку «вучоныя» трактаты аб тым, што мова актаў В[ялікага] Кн[яства] Літоўскага і народная беларуская (крыўская) мова з'яўляюцца дзвюма рознымі мовамі. Закід саўсім няслушны, бо наша старая мова да мовы народнай займае палажэнне гістарычнага дыялекту, падобна як у расійцаў мова часоў Пятра і Кацярыны да сучаснай літаратурнай расійскай мовы, ці як у палякаў мова Рэя да мовы Славацкага і Выспянскага, або, адна і другая, у параўнанні з іх народнымі дыялектамі. Розніца атрымаецца ў нас нават меншая, чым у прыведзеных здарэннях, у расійцаў і палякаў.

У надзеі, што кніга мая, паміма многіх яе недастаткаў, прынясе карысць нашай адраджаючайся пісьменнасці, хоць бы пабуджаючы другіх да працавітых доследаў на полі нашай мінуўшчыны, асабліва пісьменнасці, працу гэту дабрароднай зычлівасці чытачоў паручаю.

***1926***

## 1. У РЭДАКЦЫЮ «НАШАЙ НІВЫ»

*[22 траўня 1908 г.]*

Уважаючы на недастатак нашага краёвага пісьма і пракунаўшыся, што такое дужа патрэбна дзеля прасветы краю і людцаў і дзеля ўлаўчэння пісання, — маем з ліпня месяца, сёлета, выдаваць зборнікі пісьма краёвага, найбольш творы нашых краёвых пісароў. Дзеля таго запрашаем усіх, хто да гэтага прылучыцца гатоў, прысылаць свае вытвары слова для зборнікаў. Зборнікі маюць быць научныя — літэрацкія — гістарычныя — статыстычныя. Усякія цэнныя для якой-небудзь карысці вытвары будуць роўна прыдатны для зборнікоў як пісаныя рускімі, так і польскімі літарамі, не ўважаючы на пракунанні ні стан пісароў. Дужа надарыліся б пісанні даўнейшыя, даўнейшых пісароў або цяперашніх ды ўжо старых па веку. Просім прысылаць. Зборнікі выхадзіць будуць так часта, як на тое сабярэцца вытвараў шмат, прымерам штачвэрць года, або штомесяц, або і часцей; формай вялікай чацвёрткі, страніц каля 100, цаной капеек 50. Пісьмы, вытвары і грошы высылаць у Рыгу. Мельнічная вуліца, дом № 125, кв. 6, В. Ластоўскаму.

*Выдаўцы: Э.Будзька, В.Ластоўскі.*

## 2. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[1916]*

Пане Антоне!

Пасылаючы гэту стаццю на Ваш прагляд, павінен Вам звярнуць увагу на маю думку, а яна такая: у змаганні з польскім і маскоўскім засіллем у нашым краі ядыная дарога наша правільная — гэта радыкальная народная праграма. Ідучы гэтай дарогай, мы найхутчэй дойдзем да сваёй мэты, а гэта дзеля таго, што ў нас, як у Індзіях, каставае ўстройства, і апёршыся на адной касце, касце беларускай-мужыцкай, мы можам стварыць сілу. Ведама, прыйдзецца горкай шмат праўды пры гэтым сказаць, але тым лепей, тым скарэй прабудзіцца пачуццё сваёй каставай (каторая і без таго моцна ў народзе) асобнасці.

Усякая ж угодавая палітыка, нават Власаўская, каторая ўжо, дзякаваць Богу, з Беларусі робіць усяго толькі «край с пяццю нацыямі», вядзе ўсю беларускую работу да ганебнага ўпадку. Каб работа развівалася, патрэбны фанатыкі святой справы, а не млявыя ўгодаўцы, каторыя за вераб'я на страсе родную Бацькаўшчыну гатовы прадаць «пяці нацыям».

Каротка кажучы, пры цяперашняй агітацыі проці нас я бачу адзін выхад: каставую праграму ва ўсёй яе шыраце, ні ўкрываючы, ні замаўчываючы нічога.

*Ваш В. Ласт.*

## 3. НЕВЯДОМЫМ АСОБАМ

*7 траўня 1920 г.*

Таварышы!

Настаў у нашым дзяржаўным будаўніцтве вельмі важны і адпаведны момант: мы знаходзімся напярэдадні прызнання нашай дзяржаўнасці Антантай і Расеяй. Дзеля гэтага патрэбна адзінства фронту ўсіх партый, стаячых на незалежнасці Беларусі. Разумеецца, акром тых, якія гэту незалежнасць гатовы праводзіць пры помачы тых ці іншых акупантаў. Патрэбна паддзержка ўрада партыямі.

Антанта хоча зрабіць тарговыя ўмовы з Беларускай Народнай Рэспублікай на прадажу ёй і закупку ў яе тавараў. Дзеля гэтага трэба, каб як можна хутчэй выехала таргова дэлегацыя, зложаная з прадстаўнікоў ад нашых цэнтральных кааператыўных установ

у ліку 3 чалавек для праезду ў Парыж. Дакументы для іх у Рызе і будуць выданы ім пасля зацверджання дэлегацыі нашым урадам.

Прызнанне незалежнасці Расеяй таксама на добрых торах. Псуе тое, што пайшлі нашы некаторыя ўразброд і высказаліся ў сэнсе, што яны не прызнаюць урада. Гэтым нам бальшавікі колюць вочы, але прынцыпу яны не адкідаюць і за нас чапляюцца. Перагаворы з Чычэрыным вядуцца: 1/ аб прызнанні незалежнасці і 2/ аб ачысцы Расеяй этнаграфічна-беларускай тэрыторыі. Яны большыя за нас нацыяналісты і заяўляюць (стацця Троцкага ў «Известиях»), што Смаленск — велікарасейская тэрыторыя. Усё ж такі прызнанне афіцыйнае павінна хутка наступіць.

Тутэйшых сяброў настрой проці змены названня партыі і таго, каб сыходзіць з нацыянальнага на інтэрнацыянальны грунт. Праграму партыі ніхто не аспарывае. Дайце як можна болей вестак аб паўстаннях і наогул падробныя інфармацыі і матэрыялы.

Выезд дэлегацыі павінен адбыцца ў строгім сакрэце, бо іх могуць не выпусціць палякі і ўрэшце папсаваць нам работу па прызнанню незалежнасці. Ад кааператываў павінны выехаць беларусы, бо справа мільённая і нам няма што багаціць тых, хто проці нашай дзяржаўнасці. Падробныя інфармацыі ў Д-га Кляўдуша[1].

Мацуйцеся, трымайцеся — хутка нашаму гору канец будзе.

Затым да пабачання на незалежнай Бацькаўшчыне.

Паклоны.

*Ваш В. Ластоўскі.*

Няхай выязджае Бялевіч.

## 4. МІХАІЛУ ЗВАРЫКУ[1]

***25 кастрычніка 1921 г.***

Яго Дастойнасці
Грамадзяніну Міхаілу Язэпавічу Зварыку
ў Нью-Йорку

Я атрымаў ліст ад грамадзяніна Бубешка[2] з паведамленнем, што мой ліст з просьбай аб дапамозе на культурна-прасветную працу ў Беларусі ім перададзен па назначэнню ў Руска-славянскае таварыства. У тым жа лісце ён, паведамляючы аб сваім выездзе на Далейшы Усход, кажа, што ў часе яго нябытнасці можна знасіцца з Вамі. Дзеля гэтага выбачайце, што турбую нашымі справамі, але палажэнне ў нас на Бацькаўшчыне так цяжкое, асабліва цяжкое

палажэнне нашай школьнай справы за недастаткам кніг. Калі ніякім спосабам нельга дастаць ад нашай амерыканскай калоніі падмогі на грамадзянскія ўстановы, каб яны маглі працаваць, то ці не маглі бы Вы знайсці людзей, якія захацелі бы ўлажыць у выдавецтва беларускіх кніг грошы дзеля заработку. Кніга беларуская цяпер мае вялікі попыт. Выдавецтва з вялікім капіталам мае вялікія шансы на працвятанне, разумеецца, даход пачне даваць яно не з першага, а з 5 — 6 года. Адзін толькі варунак — асоба ці пайшчыкі такога прадпрыемства павінны быць беларусы. А гэта таму, што інтэрас пэўны і нашы грамадскія ўстановы не хочуць, каб на нашай кнізе рабілі сабе маёнткі чужынцы. Можна было бы злажыць акцыйнае «Таварыства беларускай кнігі». Асабліва падхадзячы гэта інтэрас для тых беларусоў, якія з капіталам хочуць вярнуцца на Бацькаўшчыну. Нам вядомы выпадкі, што, вярнуўшыся з Амерыкі, людзі, нават з вялікім капіталам, так няўмела пакіравалі грашамі, што ў некалькі гадоў асталіся з пустымі рукамі і толькі збагацілі розных прайдох. Уложаныя ж грошы ў выдавецтва давалі бы ім пастаянны і саўсім пэўны, у дадатку стасункова высокі працэнт. Найтанней кнігі друкаваць у нас у краю, урад (праўленне) таварыства павінна было бы абаснавацца дзе-небудзь у Літве ці Латвіі, каб блізка было да Бацькаўшчыны і каб тавар мог ляжаць у бяспечнасці.

Мы даўно не мелі з Амерыкі лістоў і не ведаем, што робіцца нашымі беларусамі. Што робіць прэс-бюро. Вестак ад яго мы даўно не мелі.

У нас адбылася ў Празе Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя[3], вынесеныя рэзалюцыі пасылаю[4] разам з гэтым лістом.

Астаюся з вялікай пашанай.

## 5. МАРЫІ ІВАНОЎСКАЙ-ЛАСТОЎСКАЙ[1]

*2 жніўня 1922 г.*

Дарагая Марыюсь.

Што да перададзенага Стасям праекта ўтрымлівання ў Парогах[2] для дзяўчат корэпетытара, я лічу гэты праект непажаданым і шкодным, от з якіх прычын:

1. Корэпетытар-літвін будзе дорага каштаваць: плаціць трэба будзе, а за вынікі гарантый ніякіх, як, зрэшты, заўсёды бывае з «дамовай навукай»;

2. Немінуча замест навукі вывяжуцца аморы, прыйдзецца грошы плаціць не за навуку, а за «забавы».

Дзеля гэтага няхай Ганка[3] прыязджае ў Коўну. Калі хоча вучыцца, тут можна вучыцца, а не хоча вучыцца — то трэба працаваць, дык прыстрою дзе-небудзь да працы. На зіму ў Парогах без ніякага заняцця пакідаць яе не можна. Стаську[4] найлепей аддаць у Векшні[5] калі не ў першую, дык хоць у прыгатоўчую клясу.

Дык у палавіне гэтага месяца чакаю Ганку ў Коўне, бо ўжо ў верасні пачынаюцца навукі.

Выходзіць усё ж такі, што з Ганкі хвалёнай векшненскай працавітасці нічога не выйшла: экзаменаў за 4 клас не выдзержала. Я думаю, найлепей было бы яе прыстроіць на фельчарскія курсы. Скончыўшы курсы, калі будзе вучыцца, а гэта знача не гультаіць, а працаваць, — можа паступіць у універсітэт і быць доктарам. У кожным разе і фельчарыцай без хлеба сядзець не будзе. Галоўнае і найважнейшае, каб мела Ганка акрэсленую працу, не кісла на вёсцы і не развівала істэрыі. Дык чакаю тэрміновай адповедзі. Цалую.

*Вацлаў.*

## 6. В. АНДЭРСАНУ

*[1924]*

Многоуважаемый г-н Профессор.

Приношу Вам искреннюю благодарность за любезное сообщение о прошеных мною книгах. Я, в дополнение до моего письма к Вам, заручился гарантией здешнего университета, и просьба от него уже последовала к Вам в Дерпт. К числу книг, которые будут высланы, я попрошу присовокупить и Каратаева. Хронологическая роспись слав. книгам напеч. кирил. буквами (СПб., 1861). Касательно Миловидова — моя выписка указывает на «Чтение в Имп. Общ. Ист. и Древн. Росс.».

Мною уже сделан ритмический перевод на кривский (белорусский) язык присланной Вами эстонской песни «Батрак на небе»[1]; как только будет готов набор, — вышлю Вам корректурный оттиск. Меня весьма заинтересовала эстонская народная поэзия, и я был бы очень обязан Вам, гр-н Профессор, если бы Вы предоставили мне еще несколько отрывков, подобных присланному, я бы их все перевел и напечатал. Желательно было бы получить отрывки, которые не были печатаны на русском языке.

Про «Яся и неверную Марыську», кроме указанных Вами, записей не знаю. Мы, кривичы, слишком поздно взялись за свое возрождение, сами еще не собирали и не печатали своего фольклора, а то, что напечатано русскими, страшно исковерканное в угоду политической тенденции, стремившейся доказать, что мы не являемся самостоятельными ни в области языка, ни этнологии. Тенденция эта настолько бросается в глаза, что, мне думается, русския создавали единственно документы, оправдывающие теорию «общерусскости», не заботясь о правде. Поэтому пользоваться этими записями можно только с оговоркой искаженности языка.

В настоящее время мы стараемся освободиться от нелепого термина белорусы, который однако глыбоко вкоренился в массах, стремясь заступить его термином кривичи, про примеру украинцев, эволюционировавших из малороссов. Для этой цели весьма ценно собрать как можно больше аргументов в пользу названия «кривичи», а также сообщений о том, что не все наши соседи считают нас руссами (как мне известно, к числу таких принадлежат и эстонцы) и что мы по своему происхождению более связаны с народами Прибалтики, за которыми мы следовали во времена переселения народов, а следовательно, впитывали в себя оставшиеся западно-финские и литовские элементы, чем с москалями, которые являются нашей колонизацией на восток, растворившиеся в монгольской и восточно-финской стихии. Словом, доказать рядом исследований и заметок, что мы, будучи близкими по языку москалям (ославянившимся монголам), антропологически и этнологически представляем совершенно особный тип.

Мы были бы весьма обязаны тому из эстонских ученых, который бы взялся написать для «Кривича» заметку о названии кривичей у эстонцев.

Для нас весьма важно вырвать наш народ из-под русского гипноза, указать ему другие ценности и пути национальной жизни, обратить внимание на необходимость более тесного сближения с прибалтийскими нашими соседями. В настоящее время, пока мы не имеем своей государственности, приходится об этом говорить теоретически, но шаг за шагом мы подвигаемся вперед по пути к независимости, и мы ее обретем. Посеянные же теперь в этом смысле семена могут дать в будущем весьма крепкие всходы, из которых, при доброй воле и сумме труда, возможно, удастся создать Балтийскую федерацию, полезным членом которой будет кривский народ. По моему убеждению, только такое федеративное

государство, от Полесья и Днепра до Финского залива, сумеет защитить себя от угрозы поглощения Москвой. Лелея идеал, приходится делать подготовительную работу — «дзерці шчырэц» («вспахивать целину»). Для такой первоначальной вспашки служит наш журнал. Весьма желательно найти среди эстонцев приверженцев и работников на этой целине. В поисках их я обращаюсь к Вам, г-н Профессор, в надежде найти у Вас сочувствие вышеизложенной идее.

С искренним (и глубоким) уважением

*В. Ластоўскі.*

## 7. ІЛАРЫЁНУ СВЯНЦІЦКАМУ[1]

*[1924]*

Высокапаважаны Пане Д-ру Свянціцкі.

Апіраючыся яшчэ на віленскае наша бачанне, пазваляю сабе Вас патурбаваць сваімі клопатамі. Да працы, якую я гатую да друку, мне патрэбны знімкі са старых кніг, друкаваных на Беларусі, а найменна:

1. З кнігі Буднага «Оправдание грешного человека» страніцу, дзе лепшы выгляд і мова.

2. Страніцу з Заблудаўскага Евангелія 1569 [г.], дзе маецца мова не славянская, а руская.

3. Знімак з катэхізму 1585 году першая загалоўная страніца.

4. Страніцу з «Лекарство на оспалый умысл» 1607 [г.].

5. Страніцу з «Гармония, альбо Согласие веры…» 1608 [г.].

6. З «История, альбо Правдивое выписаниъе ст. Иоанна Дамаскина…» 1637 [г.].

7[2]. З друкаў Куцеінскіх 4 — 5 лепшых заставак і знімкаў цэлых страніц тых кніг, якія друкаваны, як маскалі завуць, «на зап[адно]-русском наречии».

8. Некалькі заставак з магілёўскіх друкаў.

9. Л. Зізанія «Лексис». Вільня, 1596 [г.]; загалоўная карта і страніца з сярэдзіны.

10. Знімак з слоўніка Памвы Бярынды, друк[аваным] у Куцейне. 1655 г.

Ваша бібліятэка славіцца багатым сабраннем старадрукаў; думаю, што некаторыя з гэтых кніг у Вас знойдуцца ў арыгіналах, а рэшта маю надзею ўпрасіць Вас, Пане Доктару, адшукаць у

розных выдавецтвах. Праца, якую я хачу распачаць гэтага лета, будзе мець нагаловам «Гісторыя беларускай кнігі», спроба беларускай бібліяграфіі. Дзеля гэтага я ўжо цяпер прыгатавую клішэ і буду в[ельмі] ўдзячан, калі Вы, пане Доктару, здолееце прыйсці мне з помаччу ў найхутчэйшым часе.

## 8. І. ІОНІНАСУ

*29 студзеня 1925 г.*

Вельміпаважаны пане Іонінас.

Ваш ліст з выказам згоды на закупку паперы для друкарні на скарбовы кошт атрымаў. Пункт аб адлічанні з кожнага рахунку [кошту. *Закр.*] вартасці паперы дасць друкар асобным лістом.

Але перад здачай кнігі ў друк я прасіў бы Вас акрэсліць мой аўтарскі ганарар за кнігу. Я хацеў бы, каб мая праца была ацэнена згодна ўстаноўленаму тарыфу для літоўскіх навуковых кніг, г. зн. 20% аўтарскіх з прадажнай цаны паводле камерцыйнай расцэнкі.

Акром таго, прасіў бы даць мне ў помач двух карэктараў: Барысевіча і Матача, якія, саўсім слушна, просяць назначыць ім даплату за гэту працу, якая займе ім іх свабодны вячорны час. Я думаю, [слушна. *Закр.*] даволі было бы дадаць за карэктуру кожнаму з іх месячна па 100 літаў.

Ці ў бягучым 1925 гаду я магу разлічаць на субсідыю для далейшага выдання «Крывіча»? На выпадак, калі ў гэтым гаду не спынена субсідыя, то прасіў бы, дзеля таго, што кошт друку ў гэтым гаду [падаражэў. *Закр.*] падняўся на 20%, падвысіць субсідыю да 5000 літаў на нумар у 120 балонак.

Затым прыміце запэўненне праўдзівай [да Вас. *Закр.*] пашаны.

*В.Ластоўскі.*

## 9. І. ІОНІНАСУ

***[1925]***

Вельміпаважаны пане Іонінас.

Згодна ўчарашняй нашай размове даю ніжэйпісаныя аргументы ў карысць слушнасці аплаты ганарару за «Гісторыю крыўскай (беларускай) кнігі».

1. Рукапіс, які абымае да 2000 пісаных страніц, паўстаў дзякуючы даўгалетняй працы па збіранню матэрыялаў і мазольнай працы па парадкаванню яго ў тыя часы, калі я не займеў яшчэ службовага палажэння пры выдавецтве Міністэрства беларускіх спраў у Літве.

2. Мной паложаны [так сказаць. *Закр.*] жывы ўласны грош на пакупку патрэбнай літаратуры.

3. Калі я абымаў выдавецтва пры Міністэрстве беларускіх спраў у Літве, Вамі было, між іншым, зазначана, што аўтарскі ганарар будзе выплачывацца [па існуючаму тарыфу. *Закр.*].

4. Міністэрства асветы выплачывае ганарар за друкаваныя працы, без узгляду на тое, ці аўтар займае, ці не займае службовага становішча.

Я быў сягоння ў п. міністра закардонных спраў, між іншым, і ў гэтай справе. Пан міністр знаходзіць, што справа спыняецца аб форму, у якой бы можна было здаволіць маю просьбу, і я пэўны, што Вы гэту форму знойдзеце, а дзеля гэтага не бачу з маёй стараны прычын, дзеля якіх няможна было б здаваць у друк кнігі.

Што да прыплаты Б. Барысевічу за карэктуру, то, уважна разабраўшыся ў нашым месячным бюджэце, я знаходжу, што яму можна было бы месячна даваць 60 літаў (пенсіі 1810, арэнда 70, электрычнасць 20, часопіс 13, канц. расходы 10, пачт. расх. 10, а ўсяго 1933, ці інакш з 2000 астаецца 67 літаў).

## 10. І. ІОНІНАСУ

*[1925]*

Вельміпаважаны пане Іонінас.

Згодна Вашаму [вымаганню. *Закр.*] зычэнню аб рукапісу «Гісторыі крыўскай (беларускай) кнігі» падаю [мае весткі. *Закр.*] ніжэйпісанае:

1. Рукапіс, які абымае 2000 пісаных страніц, паўстаў дзякуючы даўгалетняму збіранню матэрыялаў і мазольнай працы.
2. Акром накладу працы я меў выдаткі грашовыя на літаратуру.
3. Калі я абымаў выдавецтва пры Міністэрстве беларускіх спраў, Вамі было зазначана, што «хоць пенсія невялікая, але папоўніцца ганарарамі за апрацаваныя кнігі».
4. Калі Вы [Пане Іонінас. *Закр.*] выплачывалі ганарар за пераклады (Івану Цвікевічу за 102 пісаных страніцы «Анатоміі» заплочана 500 літаў), то арыгінальны твор тым больш заслужывае аплаты паложанай на яго працы.

Разумеецца, калі Вы прыйшлі да пераконання, што «беларуская справа цяпер неактуальная» ці мо што «лепей перанесці выдавецтва ў Вільню», то [Вашае. *Закр.*] зацісканне магчымасці працаваць зразумела: непатрэбных людзей [трэба. *Закр.*] ставяць у такія варункі, каб чулі, што іх трымаюць не за працу, а з ласкі. Гэткае маё ўражанне з апошніх часоў, пачынаючы ад ігры з ліквідацыяй банды Цвікевіча, справай кватэры і [урэшце пытаннем аб ганарары. Усімі апошнімі падзеямі. *Закр.*] падзеямі апошніх дзён, якімі я пастаўлен у такія варункі, што павінен адмовіцца ад дарагой мне працы.

Прыміце запэўненне ў праўдзівай пашане.

*В.Ластоўскі.*

## 11. І. ІОНІНАСУ

***[1925]***

Вельміпаважаны пане Іонінас.

Блізка два гады таму назад, калі я адмовіўся пад націскам Цвікевіча і яго банды пайсці на «ізаляцыю Літвы ад уплыву на беларускую справу», я спадзяваўся, што, ачысціўшы беларускую справу ад шкодных ёй элементаў, можна будзе вузлы еднасці паміж двума братнімі народамі, пражыўшымі доўгія сталецці сваёй гісторыі разам, цясней зацiснуць. Справа запаведалася вельмі добра: у краі былі чысленныя прыхільнікі беларуска-літоўскага яднання. Трэба было толькі ў палітыцы «ізалявання Літвы», навеянай з Усходу, процiставіць рэальную працу. І гэта рэальная праца гэтаксама добра запавядалася: праз мае рукі некалькіх першых месяцаў ішла падмога віленскім беларускім арганізацыям, па 150 даляраў у месяц, і ў Коўне распачалася праца выдавецтва школьных кніг і «Крывіча»; група Цвікевіча мела быць зліквідавана ў Літве.

Але далей пайшло не лепш, а горш.

Хутка, бо ў пачатку 1924 года, была спынена праз мяне падмога віленскім беларускім арганізацыям. Грошы пайшлі праз іншы шлях і выдаваліся на месцы ў роўнай меры як ворагам, так і прыхільнікам, уходзячым у склад К-та. З маіх рук была выбіта магчымасць уплываць на віленскія беларускія арганізацыі.

Група Цвікевіча, яўна варожая і знаходзячаяся пад камандай [Усходніх уплываў. *Закр.*] варожых сіл, замест быць ліквідаванай, знайшла ў Літве грунт да двухгадовага падрывання літоўска-беларускіх узаемаадносін, б'ючы [ў першы чарод. *Закр.*] ўвесь час па мне як выразіцелю т. зв. «літоўскай арыентацыі». Нічым не гамаваная дэмагогія гэтай групы падзеленай на тры франты: Ковенскі [Цвікевіч, Галавінскі, Вальковіч, Захарчыха. *Закр.*], Пражскі [Крачэўскі, Захарка, Заяц, Прокулевіч. *Закр.*] і Менскі (Карабач, Казячы, Міхалевіч і інш.), звіўшы сабе галоўнае гняздо ў Коўне, біла па Літве і літоўска-беларускіх узаемаадносінах, не знаходзячы ніякіх перашкод для сваёй работы са стараны Літвы. У выніку атрымаўся пераход рэвалюцыйных элементаў у краі на старану камунізму, які кідаў у гэтым часе на Віленшчыну і людзей, і літаратуру, і сродкі.

Калі я паднімаў перад Вамі пытанне аб патрэбе весці палітычную работу — атрымліваў адповедзь, што я павінен

агранічыцца толькі работай культурнай, якая адзіна ўходзіць у закрэс Міністэрства беларускіх спраў у Літве.

Урэшце, калі факты жыцця прымусілі згадзіцца [Вас. *Закр.*] на мой праект утварыць Літоўска-беларускае таварыства, якое бы дало ключы, запіраючыя дзяржаўна-палітычную канцэпцыю для беларускай стараны, высунутую літоўскай грамадскай апініяй, то гэта справа не магла пасунуцца далей апрацавання статута такога таварыства, бо з літоўскай стараны не знайшлося групы, якая хацела бы і мела бы што сказаць беларусам у гэты момант.

І вось (абсэнтэізм. *Закр.*) гэта паўздзежлівасць ад актыўнай палітыкі ў беларускай справе, а з другой стараны часцю літоўскага грамадзянства падтрымлівання групы Цвікевіча, а часцю групы Ластоўскага, рабіла і робіць ураджанне, што ў беларускай справе Літва адзіна арыентуецца на «Divide et impera», так прынамсі ў рэшце рэшт фармулявалі стан літоўска-беларускіх адносін [у апошнія часы. *Закр.*] у Віленшчыне.

Два гады таму я ўзяў цяжкое заданне з верай, што [мне не прыйдзецца аднаму. *Закр.*] чым далей, тым к лепшаму пойдзе ў Літве беларуская справа, на жаль, сталася наадварот, сталася не па прычыне беларускай.

Два гады на мяне сыплюцца каменні з боку кампаніі Цвікевіча. Жыву ў літаральна турэмных варунках, абляганы штодзённымі прыкрасцямі з боку разухваленай выслухіваннем у Міністэрстве яе плётак гаспадыні дома, з другога боку, сталымі нападкамі кампаніі Цвікевіча, якая засела палавіну маёй кватэры, сціснуўшы мяне ў адным пакойчыку. Не маючы маральнай падмогі ў гэтым змаганні за будзь што будзь абарону Літвы са стараны Літвы і ўрэшце [трактаваны як абуза. *Закр.*] трактаванне апошнімі часамі мяне асабіста і маёй працы каштоўнай як абузы, утрымліванай з ласкі, змушае мяне з болем у сэрцы адысці ад справы, якую я з такой верай і з накладам вялікай энергіі распачаў два гады таму назад.

Учарашняя наша з Вамі размова мяне толькі ўзмацніла ў маім перакананні, так гавораць толькі з людзьмі непатрэбнымі…

Затым прыміце запэўненне ў праўдзівай пашане.

*В.Ластоўскі.*

## 12. АДАМУ БАГДАНОВІЧУ

***5 траўня 1934 г.***

Многоуважаемый Адам Егорович!

Словно светлый луч заглянул в мою убогую трущобку — таково впечатление от Вашего, полного кипучей мыслью письма. Спасибо за него и за Вашу отзывчивость. Так приятно, так славно побеседовать о предметах небуденной жизни, заглянуть в праисторию.

Живу я с женой, прихварывая и покрякивая. Она Вас помнит и просит передать от нее Вам сердечный привет.

Работаю в Научной библиотеке при Сар[атовском] гос. ун-те, заведующим Отделом редких, ценных и рукописных книг. Работа меня удовлетворяет, но на заработок 200 р. прожить трудно.

В последнее время я в своем отделе, описывая бумаги, нашел письмо Пушкина к Геккерену, от 26.1.1837 г., т.е. высланное адресату перед самой дуэлью. Список (копия) или черновик, но вероятнее последнее, совершенно до сих пор неизвестный. Кроме того, папку, надписанную рукой известного пушкиниста И.А. Шляпкина: «Из бумаг Анненкова. Цензурные урезки сочинений А.С. Пушкина». В папке — 3 листа писчей бумаги, записанные карандашом, — начало сценического сочинения, действующие лица Роза, Англичанин, Пиколини. Очевидно, также Пушкинский неизвестный автограф.

Это событие стало причиной того, что я не имел время вслед после получения Вашего письма написать Вам.

Ваше письмо я в свое время получил и был Вам очень благодарен за него.

Осип Леонтьевич[1] месяца два тому назад получил вольную и весьма этим доволен. Работает теперь на почтамте. Мы с ним Вас часто вспоминаем, тепло и в самых дружественных выражениях.

Как мне понятно Ваше стремление на место своего детства! Очевидно, потребность дохнуть воздухом юности находится в нашей крови. По крайней мере, у меня эта потребность переходит чуть ли не в болезненную форму. Но я не могу даже мечтать об этом.

Нет, Адам Егорович, 72 года не предельный возраст. Статистика нас учит, что нормальный человеческий возраст 100–120 лет. В настоящее время живут отдельные индивидуумы, насчитывающие 160 лет. В возрасте 100–120 лет многие налагали на себя еще узы Гименея и были счастливыми отцами здорового

потомства. Во время моих экспедиций на Полесье, в с. Азаричи[2] Мозырск. окр., я лично видел работоспособного крестьянина, которому было 120 лет. Женился он около 1920 г. на молодой вдове. Значит, в сравнении со статистической нормой, мы с Вами еще чуть ли не юноши, а по крайней мере, люди зрелого возраста и ума. Именно теперь только и пора работать. Вольтер дал лучшие свои произведения в 80 лет[3]. Гёте начал свою поэтическую карьеру в 60 лет[4]. Когда однажды спросили 130-летнего обывателя Валенсии, думает ли он о смерти, последний удивился: «А зачем мне думать! Я никогда в жизни не думал о смерти, а только о жизни». И он своим ответом открыл секрет своего долголетия. Именно надо всегда думать о жизни. Тот, кто думает о смерти, сам убивает себя, внедряя в свое сознание ядовитые ее семена и питая их своими мрачными мыслями, которые становятся ее кормовой базой. Прочь мрачные мысли о смерти! Выше знамя наших поколений, умеющих творить и бороться за свою красивую жизнь. Я сказал — красивую красотой той созидательной умственной жизни, которая отличает подлинную человеческую жизнь от жизни праздной. Будем же мы достойными представителями своих поколений.

Теперь о себе. Я в продолжение 1928–1930 гг. упорно копил этнографические материалы[5], столкнувшись с живой средой. На обработку собранного у меня в ту пору не было времени. Теперь за эти годы, порассмотрев накопленное, нахожу, что мною собраны настоящие сокровища. И вот мне тоже хочется оставить свой след в жизни, но я решил эту задачу по-иному — жить 120 лет для того, чтобы приобретенное знание и опыт передать потомкам в возможно совершеннейшем виде. Пусть судьба издевается, но старый литовский дуб[6] порода крепкая.

Мне хочется выдвинуть наш эпос, создав род Калевалы, хочется раскрыть содержание белорусских «грам», на которые я натолкнулся во время своих скитаний, и нахожу, что это одна из наиболее выдающихся моих находок. Грамы — это коротенькие мифологического (языческого) содержания песенки. Прототипы былин, еще не сошедшие с неба на землю и не прикрытые ни церковной ризой, ни княжеской мишурой, как в былинах. Хочется указать на многое, что избегло внимания этнографов и что бытует и дает ценнейший материал для не менее ценных выводов, у меня набралось много этого, и я время от времени буду делиться с Вами моими сокровищами.

В Вашей работе, которую Вы присылали в БАН, помниться мне, была цитата из древнего писателя (какого, не помню) о висящих садах и железных постройках в северных странах. Я же в

1930 г. своими глазами, путешествуя по р. Беседи[7], видел висящие сады и железные постройки. Сказкой веет, но это быль, мною зафиксированная на фотопластинках. Не об тех же самых садах была речь у цитированного Вами древнего писателя? Сады эти на вкопанных в землю толстых стол- бах — сельские «рассадники». Весной на них сеют рассаду, а летом табак и другие растения, высящиеся и свисающие. Из плит же болотного железняка там строят избы. Вот Вам железные жилища и висящие сады.

И мне кажется, что тысячелетия тому назад, когда — от Урала до Пиренеев — простиралась дремучая пуща с редкими полянками, заселенными людьми, когда всякого зверя было неизмеримо более, чем людей, только такой вид земледелия был возможен. Именно в садах, поднятых значительно над землею, на наносной земле, распростертой по деревянному настилу.

В нашем крае до сих пор бытует два типа построек: круглые (как можно теперь видеть в окрестностях Слуцка) и четырехугольные. Круглые восходят к кочевой юрте. Четырехугольные выходят к «домовкам», сооруженным на деревьях. Современники висящих садов селились сами на деревьях. Позднейшие клетки на подклетиях, избы на подызбицах — это не что иное, как рудименты домовки, сооруженной на стволах деревьев. Соловей-разбойник живет на 7, 9, 12 дубах. Прусская хроника повествует о замке, сооруженном крестоносцами на стволе одного грандиозного дуба…

Впрочем, изучение орнамента и построек неутешительно для славянского сердца. Поскольку в постройках живы еще рудименты кочевой финской юрты, то в области орнаментики всецело господствует финский прототип, как и в антропологии. Белорусские «шчэлепы» (скулы) ничего общего не имеют с славянством, как и — в преимущественном большинст- ве — его топографическая номенклатура. Но тут непонят- ное — фольклор наносный, славянский, язык — славянский. Из этой путаницы не могу найти выхода. Пособите.

О большем, существенном, поговорим после.

Теперь еще об одном. О том, что и Вам близко. В Рогачевском уезде есть, как и везде, евни, в евнях печи. Но печи эти в ямах, а ямы называют «мачула». Загнет же, которым в евни расжигают дрова, тут называют «мокiш». Когда же, по неосторожности, подожгут гумно, говорят «гумно змокла». Бывают случаи, когда «мокнут» и целые села. Рогачевский «мокiш» созвучен с летописной Мокошью, т.е. огнем, которому так упорно долго молились под овином и который был злым «поядающим» овинным огнем.

[19] *«Адвечная песня»* — асобнае выданне аднайменнай драматычнай паэмы Я. Купалы, якое выйшла ў 1910 г. у выдавецтве А. Грыневіча.

[20] *«Шляхам жыцця»* — трэці паэтычны зборнік Я. Купалы, надрукаваны выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» (СПб., 1913).

[21] *«Паўлінка»* — першае выданне аднайменнай камедыі Я. Купалы, надрукаванае выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» (СПб., 1913).

[22] *Янкоўскі Юрый* (1887–1941) — польскі паэт і журналіст, аўтар першых у Польшчы футурыстычных вершаў.

## ПАЭЗІЯ

Раздзел склалі паэтычныя творы і «вершы прозаю», надрукаваныя на старонках беларускай перыёдыкі пачатку 20-х гг. (пераважна на старонках часопіса «Крывіч»), а таксама драматычны абразок «Адзінокі».

Вершы В. Ластоўскага апроч сваіх першапублікацый больш нідзе і ні разу не перавыдаваліся. Невядомых паэтычных рукапісаў, аўтографаў, якія не друкаваліся і па тых ці іншых прычынах засталіся ляжаць дзесь у рэдакцыйных папках, не выяўлена, што схіляе да меркавання пра неабходнасць далейшага іх пошуку.

Усе вершы датуюцца годам публікацыі і асобна не агаворваюцца.

## *ВЕРШЫ*

### *«Наперад, змагарна наперад!..» (с.199)*

Друкуецца паводле час. «Беларускі сцяг», 1922, № 1. С. 18, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

### *«Благаслаўлён сын...» (с.200)*

Друкуецца паводле час. «Беларускі сцяг», 1922, № 2–3. С. 29, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

### *Конадні (Вясной; На Радуніцу; На Каложы ў Горадні; Дума на Полацкім замчышчы; «Формаў трупехлых я вораг дасконны...» (с.201–203))*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», 1923, № 1. С. 2–4, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі*; вершы змешчаны пад агульнай назвай нізкі *«З цыкла «Конадні»*.

### *Рэйнскі вадапад; Кёльнскі сабор; У Альпах; Сабор св. Марка ў Венецыі; Генуэзскі рынак (с.204–207)*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», 1923, № 2. С. 1–6, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

[1] *Валва* — хваля.

[2] *Княя* (польск. knieja) — пушча, глушэча, неруш.

[3] *Смыч* (польск. smycz — шворка) — тут у сэнсе: паляўнічы сабака.

[4] *Факторыя* (англ. factory) — гандлёвая кантора і пасяленне замежных купцоў у каланіяльных краінах.

[5] *Корсунскія купцы* — крымскія купцы (Корсунь — старажытная назва грэцкага места Херсанеса ў Крыме).

[6] *...Gott gross прыме dank* (ням.) — вялікі Бог прыме падзяку.

### *«Паэт, ты вольнага Пегаса...» (с.209)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1923, № 3. С. 1, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

### *На смаленскіх сценах; Чытаючы Гамера; На оды Гарацыя; На чужыне;Песня а князю Вітаўце (с.210–212)*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», 1923, № 4. С. 1–4, дзе апублікаваны ўпершыню, без подпісу.

Варыянт «Песні а князю Вітаўце» ўпершыню прыводзіўся В. Ластоўскім у ягонай кнізе-чытанцы: Pieršaja Èytanka (гл. у раздзеле «Апавяданні і абразкі»).

### *У гадаўшчыну люблінскай ганьбы; Пакутнік; Зорнік; З Мікеланжэла (с.213–215)*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», 1923, № 5. С. 1–4, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

### *На Каляды (с.216)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1923, № 6. С. 1, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

### *Пішы...; О, Крыўская зямля...; Да .....; Чала я не хіліў прад сілай (с.216–220)*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», 1924, № 1. С. 1–4, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

[1] *Да .....* — у асобніку камплекта «Крывіча», які паходзіць з асабістага кнігазбору кс. Адама Станкевіча і які цяпер з'яўляецца ўласнасцю даследчыка В.Чамярыцкага (укладальнік выказвае ўдзячнасць уладальніку за магчымасць карыстання гэтым камплектам), над шматкроп'ем алоўкам хтосьці надпісаў: *«Грыба»*. Трэба думаць, маецца на ўвазе Тамаш Грыб (1895–1938) — беларускі палітычны і культурны дзеяч.

## ВЕРШЫ Ў ПРОЗЕ

### *Баяну; Чырвонец; У час аблогі; Падарожнік; На хрэсьбінах (с.221–222)*

Друкуюцца паводле час. «Крывіч», № 12 (ліп. 1926–сак. 1927). С. 1–2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт* і аб'яднаны пад загалоўкам *«Паэзія прозай».*

[1] *Баболя Андрэй* (?–1657) — ксёндз-езуіт, прапаведнік, місіянер; паходзіў з старажытнага роду герба Ляліва з мястэчка Страхоцін каля

Санока (Польшча). Прыняў пакутніцкую смерць у палескім Янаве ад казацкіх здзекаў пад час Хмяльніччыны. Лічыцца апекуном і заступнікам Беларусі-Літвы.

[2] *Спіж* (польск. spiż) — бронза.

## *ДРАМАТЫЧНЫ АБРАЗОК*

### *Адзінокі (с.224)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1923, № 6. С. 2–4, дзе апублікаваны ўпершыню без подпісу, услед за публікацыяй верша «На Каляды», падпісанай *В.Ластоўскі*; датуецца годам публікацыі.

[1] *Ліцытаваць* (польск. licytacja — аўкцыён, публічны торг) — ацэньваць, прадаваць.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА І КРЫТЫКА

У раздзеле сабрана далёка не ўсё, што выйшла з-пад пяра Ластоўскага-крытыка. Укладальнік выбраў найбольш яркія, праблемныя і палемічныя старонкі Ластоўскага-публіцыста. На жаль, выбар часам абумоўліваўся і далёка не поўным пералікам перыядычных выданняў, дзе друкаваўся В. Ластоўскі і якія ў бібліятэчных сховішчах Беларусі адсутнічаюць.

Усе публікацыі ў раздзеле датуюцца пераважна годам апублікавання і асобна не агаворваюцца.

### *[З нашага жыцця] (с.231)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1909, 8 кастр., № 41, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Власт. Загаловак рэдакцыйны; пад такой назвай у «Нашай ніве» вялася рубрыка, дзе змешчана цэлая нізка артыкулаў. Пачатак паклаў Сяргей Палуян у № 35–36.

### *Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў (с.232)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, 8, 15 крас., № 15, 16–17, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *Шэйн Павел* (1826–1900) — беларускі фалькларыст і этнограф.

### *Памяці Сяргея Палуяна (с.237)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, 29 крас., № 18, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

### *Беларускі вечар у Полацку (с.239)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1910, № 40. 30 верас., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Власт.

[1] *«Модны шляхцюк»* — вадэвіль Каруся Каганца (псеўданім Казіміра Кастравіцкага, 1868–1918).

[2] *Буйніцкі Ігнат* (1861–1917) — акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч.

[3] *«Па рэвізіі»* — камедыя Марка Крапіўніцкага (1840–1910), украінскага драматурга, акцёра, рэжысёра, кампазітара, заснавальніка украінскага прафесійнага тэатра.

*Прадмова да «Кароткай гісторыі Беларусі» (с.241)*

Друкуецца паводле першавыдання (Вільня, 1910), дзе апублікавана ўпершыню. Гэта першы ў гісторыі Беларусі XX ст. «падручнік», напісаны для беларусаў і па-беларуску. Выданне выйшла кірыліцай і лацінкай. Кірылічнае перавыданне здзейснена ў 1992 г.

*Пятрок з Крошына (с.242)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 28 ліп., № 30, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *Пятрок* — маецца на ўвазе Паўлюк Багрым (1812 – каля 1891), беларускі паэт.

[2] *... ў кніжцы «*Powieść mojego czasu*», выданай у Познані ў 1858 гаду праз невядомага аўтара...* — аўтарам кнігі ўспамінаў «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (Лондан, 1854; Познань, 1858) быў пісьменнік-мемуарыст, адвакат Ігнат Яцкоўскі (?–1873), які паходзіў з Наваградка.

[3] *Магнушэўскі Войцах* (?–1828)— з 1810 г. каталіцкі святар у Крошыне; ягоную парафіяльную школку пры касцёле наведваў Павел Багрым.

[4] *Навасільцаў Мікалай Мікалаевіч* (1761–1836) — сенатар, царскі саноўнік, якога ўлады ставілі на вышэйшыя адміністрацыйныя пасады; з 1826 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі.

[5] *Пелікан Вацлаў* (Венцаслаў Венцаслававіч, 1790–1873), доктар медыцыны, у 1826–1832 гг. рэктар Віленскага універсітэта.

*Як паступаць, каб дзеці, вырасшы, шанавалі сваіх бацькоў і былі ім апорай на старасць (с.245)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 28 ліп., № 30, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

*З паездкі на сельскагаспадарскую выстаўку ў Быхаў (с.247)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 22 верас., № 37–38, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

*Аб патрэбе стылю ў жыцці народа (с.249)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 13 кастр., № 41, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

У Біябібліяграфічным слоўніку недакладна пададзена, што артыкул друкаваўся ў № 40–41 за 6 і 13 кастр.

[1] *...украінскі пісьменнік В. Копыр...* — звестак пра гэтага пісьменніка ва ўкраінскіх энцыклапедыях не выяўлена.

### *Перапіска ў беларускай мове (с.252)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 8 сак., № 10, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Власт. У Біябібліяграфічным слоўніку артыкул зафіксаваны пад рэдакцыйным загалоўкам «З нашага жыцця». Падзагаловак, ці ўласна загаловак Ластоўскага — «Перапіска ў беларускай мове».

### *Земскія суды (с.253)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 22 сак., № 12–13, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.* у раздзеле «З нашай мінуўшчыны».

### *Гульня ў «беларусы» (с.255)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 26 крас., № 17, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

[1] *...»хрысьцілі казакі з тутэйшых ды ў палякі»...* — перафраза з вядомага верша Ф. Багушэвіча (1840–1900) «Хрэсьбіны Мацюка».

[2] *...часы ксяндза Сенчыкоўскага, калі «восстановляли русское дело»...* — Сенчыкоўскі Францыск Фердынанд (1837–1907), каталіцкі святар, пэўны час быў мінскім дэканам, вызначаўся русіфікатарскай палітыкай каталіцкага касцёла. Яму прысвечана асобнае даследаванне: Жиркевич А. В. Из-за русского языка (Биография каноника Сенчиковского: В 2-х ч.). Вильна, 1911. Ч. 2. В изгнании. 1911. Минская старина. Труды Минского церковного историко-археологического комитета. Вып. III.

[3] *...пры школьнай перапісі 1911 года...* — перапіс школ усіх узроўняў, праведзены Міністэрствам народнай адукацыі 18 студзеня 1911 г. для высвятлення школьнай статыстыкі і з мэтай адлюстраваць стан школьнай адукацыі пасля рэвалюцыйных падзей 1905 г. На правядзенне перапісу меліся і палітычныя матывы: прасачыць грамадска-палітычныя змены ў краіне пасля абвяшчэння свабоды веравызнанняў, свабоды слова (якія нацыянальныя мовы на ўскраінах імперыі атрымалі найбольшае развіццё) і г. д. Гл.: Однодневная перепись начальных школ империи произведенная 18 января 1911 г. Вып. 8. Виленский учебный округ, 1914.

### *Копныя суды (с.256)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 14 чэрв., № 24, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

[1] *Міцкевіч Адам* (1798–1855) — польскі паэт, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху; паходзіў, як вядома, з Наваградчыны.

### *Станы у старой Беларусі (с.258)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 5 ліп, № 27, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

[1] *Калісь мы яшчэ вернемся да больш абшырнага разгляду...* — падрабязней гэтыя старонкі нашай мінуўшчыны раскрыты В. Ластоўскім у ягоных «Нарысах беларускай гісторыі» (назва умоўная). Сярод іх станам у старой Беларусі прысвечаны нарысы «Баяры», «Пасаднікі і цівуны», «Дваране гродскія, або гарадскія», «Баяры (путныя і панцырныя)», «Улада землеўласнікаў», «Чорныя людзі», «Сяляне, або Цяглыя людзі», «Уласнасць зямельная» (машынапіс захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Летувы: сігнатура F. 21–249).

### *З падарожы па Гродзеншчыне (с.259)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 9 жн., № 32, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Власт.

### *Людвік Кандратовіч (с.261)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 6 верас., № 36, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Власт.

[1] *18 верасня прыходзіцца 50-летняя гадаўшчына са дня смерці...* — дакладней, са дня пахавання; У.Сыракомля памёр 15 верасня 1862 г., пахаваны ў Вільні на могілках Роса.

[2] *...ў вёсцы Смолькаве, Мінскай губерні, Бабруйскага павета...* — цяпер вёска Смольгава ў Любанскім р-не.

[3] *Бацька Кандратовіча* — Аляксандр Каятан Кандратовіч сапраўды меў адукацыю каморніка, але на казённую службу не пайшоў, а стаў працаваць арандатарам шматлікіх маёнткаў князёў Радзівілаў.

[4] *...вучыўся ў Навагрудку ў кляштары...* — атрымаўшы хатнюю адукацыю, У.Сыракомля з 1833 г. вучыўся ў Нясвіжскай павятовай школе пры Дамініканскім кляштары. Пасля яе закрыцця ў лістападзе 1835 г. давучваўся ў Навагрудку (1835–1837).

[5] *...Ажаніўшыся...* — У. Сыракомля ажаніўся ў красавіку 1844 г. з Паўлінай Мітрашэўскай.

[6] *Шведскі паэт Рунеберг, каторы радзіўся ў Фінляндыі...* — Рунеберг Ёган Людвік (1804–1877), фіна-шведскі паэт, пісаў на шведскай мове.

[7] *Барташэвіч Юльян* (1821–1870) — гісторык і публіцыст, актыўны даследчык, чые працы грунтаваліся на багатым архіўным матэрыяле.

[8] *Тарноўскі Станіслаў* (1837–1917) — польскі гісторык літаратуры, крытык.

[9] *Часць рукапісаў беларускіх твораў Кандратовіча мае п. Каратынскі ў Варшаве...* — маецца на ўвазе Бруна Каратынскі, сын беларуска-польскага паэта і журналіста Вінцэся Каратынскага (1831–1891); яго бацька пэўны час быў асабістым сакратаром Сыракомлі. У 1912 г. рэдакцыя «Нашай нівы» звярнулася да Бруна, просячы прысласць беларускія творы В. Каратынскага і У. Сыракомлі для публікацыі (Казбярук У. На беларускай мове пісаныя... // ЛіМ, 1976, 15 кастр.).

[10] *Абуховіч Альгерд* (1840–1898) — беларускі паэт XIX ст.

[11] *Абуховіч пасылаў свае беларускія вершы ~ у пісьме да Кандратовіча ён пісаў...* — у беларускім літаратуразнаўстве вядома, што Абуховіч пасылаў свае творы не Сыракомлю, а Ф. Багушэвічу. На чым грунтуецца дадзеная выснова Ластоўскага — першая публічная згадка пра гэтыя літаратарскія кантакты, — невядома. Паказальна, што ў дзень пахавання У. Сыракомлі, 18 верасня 1862 г., Абуховіч наведаў Вільню «і, відаць, праводзіў любімага песняра роднага краю ў апошні шлях» (У. Мархель. Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. Мн., 1990. С. 97).

### *Раздзелы і сваркі (с.263)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1912, 24 кастр., № 41, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В-т.* У Біябібліяграфічным слоўніку артыкул не ўлічаны.

[1] *Сапега Леў* (1557–1633) —дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага; з 1581 — пісар, з 1585 — падканцлер, з 1589 — канцлер вялікі ВКЛ; узначальваў соймавую камісію па стварэнні Статута Вялікага Княства Літоўскага.

[2] *Польшча слынець лацінаю...* — пачатак крылатага вершаванага дзесяцірадкоўя беларускага паэта першай паловы XVII Яна Казіміра Пашкевіча, біяграфічных звестак аб якім не захавалася. В. Ластоўскі падаў верш у сваім вольным паэтычным пераказе.

### *Ці-ткі мы сапраўды цямней за ўсіх (с.264)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, 31 мая, № 22, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака.*

### *Сплачвайце доўг (с.266)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, 5 ліп., № 26–27, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака.*

Гэтым артыкулам В. Ластоўскі распачаў першую ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства XX ст. шырокую літаратурную дыскусію, у якой удзельнічаў Я. Купала (?) «Чаму плача песня наша?» пад псеўд. *Адзін з Парнаснікаў* (Наша ніва, 1913, 26 ліп., № 30), Л. Гмырак «Яшчэ аб сплачыванню доўгу» (Наша ніва, № 33, 10 жн.), М. Гарэцкі (Развагі і думкі // Велікодная пісанка на 1914 год. Вільня, 1913. С. 39–40).

### *Да ўбогіх духам (с.269)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, 19 ліп., № 29, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака.*

### *Памажыце! (с.270)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1913, 12, 19 верас., № 37–38, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт.*

[1] *Вярыга-Дарэўскі Арцём* (1816–1884) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, пісаў пад псеўданімам *Беларуская Дуда*. Пераважная большасць з ягонай недрукаванай творчай спадчыны да нас не дайшла, у

тым ліку і пераклад на беларускую мову паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод». Твор «Братам Літвінам» дакладней будзе назваць не паэмай, а вершаванай імправізацыяй пісьменніка, занатаванай ім у сваім слынным «Альбоме» і больш вядомай у айчынным літаратуразнаўстве пад загалоўкам «Літвінам, запісаўшымся ў мой альбом, на пажагнанне» (водгук на літаратурныя віленскія сустрэчы 1858 г.).

[2] *Якуб Т…кі* — вядомы ўсяго адзін верш, упісаны пад такім крыптанімам у «Альбоме» Вярыгі-Дарэўскага 13 лістап. 1858 г. у Магілёве. Да сённяшняга часу беларускімі літаратуразнаўцамі крыптанім не раскрыты.

[3] *Ялегі Пранціш Вуль* — В. Ластоўскі меў рацыю: гэта — псеўданім Элегія Францішка Карафа-Корбута (1835 — пасля 1880), беларускага паэта XIX ст.; ягоны верш «К Дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка» «Наша ніва» апублікавала 9 лістап. 1912 г.

[4] *Караткевіч Мікалай* — біяграфічных звестак не захавалася; свой адзіны вядомы верш «Беларускі дудару Радасна таму гаспадару…» упісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага 4 лістап. 1858 г. у Мінску. Паводле сведчанняў Уладзіслава Міцкевіча, сына А. Міцкевіча, які наведаў Мінск у 1861 г., Мікалай Караткевіч быў адным з актыўных мясцовых грамадскіх дзеячаў (Mickiewicz W. Pamiętniki. Kraków*, 1927. T. 2. S. 53–54*).

[5] *Рыпінскі Аляксандр* (1811–1900?) — беларускі і польскі паэт, фалькларыст, кнігавыдавец, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., пасля разгрому якога на доўгі час асталяваўся ў Францыі, дзе ў 1840 г. на падставе ўласных лекцый выдаў асобнай кнігай фалькларыстычна-этнаграфічнае даследаванне «Białoruś. Kilka słów o poezji tego prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewach, tańcach etc.»; аўтар адной з першых беларускіх балад «Нячысцік» (Лондан, 1853).

[6] *Ляскоўскі Юльян* (1826 – пасля 1888) — беларускі і польскі пісьменнік, журналіст, выступаў у друку пад псеўданімамі Бандурыст Карабіч, Ю. Карабіч, Марцін Мізэра. У падрадковым перакладзе верш Ляскоўскага гучыць так:

Да нас, да нас, шаноўныя спадары,
З уласнай мовай, бо яна ваша,
Бо чужы водгук, ніколі там не чутны,
З магіл бацькоў нас спалохае,
І апусцеюць нашыя курганы.

Словы замененыя ў нейкія грымасы,
У нейкае пад носам дзіўнае мармытанне,
Якое, даруй нам Божа, нібы злое насланнё,
Нібы вавілонская вежа, будаваная тлумам.
Пры тутэйшых, што нарадзіліся на гэтай зямлі,

Пры людзе простым, перад малодшымі брацціямі,
І чалавек чалавека зразумець не ўмее…

[7] *На друкаваным экземпляры «*Biał. Bandurzysty*» напісана: «*Majoj žanie*»…* — беларускім даследчыкам асобнік гэтага выдання з аўтографам невядомы.

[8] *Хвэлька з Рукшэніц* — псеўданім Фелікса Тапчэўскага (каля 1838–1892), беларускага паэта XIX ст.; нарадзіўся ў фальварку Будзішча (на мяжы Лепельскага павета), працаваў валасным пісарам у мястэчку Ула (цяпер Бешанковіцкі р-н), нейкі час жыў у маёнтку Красны Стаў каля г. Веліжа Віцебскай губ. (цяпер Смаленская вобл.). Творы Ф. Тапчэўскага захаваліся выключна дзякуючы рукапіснай «Хрэстаматыі» Б. Эпімах-Шыпілы.

[9] *Чачот Ян* (1796–1847) — беларускі і польскі паэт-фалькларыст, выдаў шэсць фальклорных зборнікаў «вясковых песенак» (Вільня, 1837–1846).

[10] *Кіркор Адам* (1818–1886) — этнограф, археолаг, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык, сакратар Археалагічнай камісіі ў Вільні, у 1859 г. заснаваў у Вільні ўласную друкарню, дзе выдаваў навуковыя і мастацкія зборнікі.

[11] *…Жыццеапісанне яго і партрэты выданы па-беларуску Рамуальдам Зямкевічам…* — маецца на ўвазе кніга беларускага калекцыянера, бібліёграфа і гісторыка літаратуры Рамуальда Зямкевіча (1881–1943 ці 1944) «Адам Ганоры Кіркор: Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадавіну смерці» (Вільня, 1911); кніга выйшла кірыліцай і лацінкай.

[12] *Нядзведскі Ксаверый* — пра асобу К. Нядзведскага, а таксама складзеную ім «каля 1854 года» граматыку беларускай мовы сучаснае айчыннае мовазнаўства звестак не мае.

[13] *Сразнеўскі Ізмаіл Іванавіч* (1812–1880) — рускі філолаг-славіст, акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук.

[14] *Шэмет-Палачанскі Ян* (1826–1905) — беларускі паэт, з твораў якога нічога не захавалася; вядомы толькі загалоўкі некаторых паэм «Даўгінаўскі пагром», «Вяселле ў Беляка», «Барысаў камень», «Ашмянская рэзь», вершы «Да братоў у пакоях», «За чаркай», «На дзяды» і інш. Біяграфічных звестак таксама амаль не захавалася. На думку даследчыка Г. Кісялёва — магчыма, ім быў Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі, які нарадзіўся 24 чэрв. 1827 г. у засценку Утак Свянцянскага павета, а ў 1855 г. жыў у Рудніках на Валожыншчыне (Кісялёў Г. Шэмет-Палачанскі Ян // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. Мн., 1995. Т. 6. С. 443).

[15] *Гурыновіч Адам* (1869–1894) — беларускі паэт, фалькларыст, рэвалюцыянер; на самай справе пад час вучобы ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце належаў да нелегальнага студэнцкага «Гуртка

моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай» (1889); беларуская газета «Гоман» выдавалася ў Пецярбургу на гектографе значна раней, у 1884 г.

[16] *Егалкоўскі* — асоба ў беларускім літаратуразнаўстве невядомая.

[17] *Апанас Кісель* (г. нар. і смерці невядомыя) — беларускі пісьменнік сярэдзіны XIX ст., аўтар брашуры «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела», выдадзенай ананімна ў 1861 г. у Магілёве паводле распараджэння губернатара.

### *Родная мова (с.273)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 7 лют., № 6, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака*.

### *Бяздомныя (с.275)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 21 лют., № 8, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака*.

### *Па сваім шляху! (с.277)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 27 лют., № 9, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака*. У Біябібліяграфічным слоўніку загаловак пададзены без клічніка.

### *350-летняя гадаўшчына друку ў Маскоўшчыне (с.279)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 20 сак., № 11–12, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

[1] *Макарый* (1481/1482–1563) — маскоўскі мітрапаліт (з 1542 г.); нягледзячы на асветніцкую дзейнасць, актыўна садзейнічаў замацаванню ўлады Івана IV (Грознага), пад яго ўплывам Іван IV прыняў тытул цара, натхняў Расію на казанскія паходы, ідэалагічна абгрунтоўваў неабходнасць замацавання расійскага самадзяржаўя.

[2] *Іван Фёдараў і Пётр, каторага празывалі Мсціслаўцам…* — Фёдараў Іван (1510–1583), рускі асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне; Пётр Мсціславец (г. нар. і смерці невядомыя), ягоны паплечнік, адзін з беларускіх першадрукароў, гравёр; паходзіў з Мсціслава.

[3] *Фіёль (Fiol) Швайпольт* (? – каля 1525) — славянскі першадрукар, у 1491 г. надрукаваў у Кракаве кірылічным шрыфтам першыя славянскія кнігі «Октаіх» і «Часослов».

[4] *…маскоўскія друкары…* — на думку некаторых сучасных даследчыкаў, беларускае паходжанне мае не толькі П. Мсціславец, але таксама і І.Фёдараў (зыходзячы з геральдычнай трактоўкі ягонага друкарскага знака).

[5] *…знайшлі ў Заблудаве (Гродз[енскай] губ.) у гетмана Хадкевіча і тут залажылі «Учительное евангелие» 1569…* — друкарня ў мястэчку Заблудаве існавала ў 1568–1570 гг. на сродкі гетмана Вялікага Княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча (?–1572), які запрасіў да сябе І.Фёдарава і

П.Мсціслаўца. Менавіта асветніцкай дзейнасцю «маскоўскіх друкароў» і праславілася Заблудава.

[6] *Астрожскі Канстанцін Іванавіч* (каля 1460 – 1530) — князь, з 1497 г. гетман Вялікага Княства Літоўскага, з 1511 г. кашталян віленскі, з 1522 г. ваявода троцкі. Ёсць падставы лічыць, што К.Астрожскі дапамагаў Скарыне ў друкарскай дзейнасці.

[7] *Астрожская біблія* — першае поўнае друкаванае выданне царкоўнаславянскай Бібліі, падрыхтаванай сябрамі астрожскага культурна-асветніцкага гуртка і выдадзенай І. Фёдаравым у 1581 г.

[8] *Фёдар Аляксеевіч* (1661–1682) — рускі цар (1676–1682), здзейсніў шэраг рэформ: агульны перапіс насельніцтва, падворны падатак.

[9] *Сімяон Полацкі* (Пятроўскі-Сітняновіч Самуіл Гаўрылавіч, 1629–1680) — беларускі і рускі паэт, драматург, асветнік.

[10] *Пётр І* (1672–1725) —рускі цар з 1682 г., імператар з 1721.

### *10-летні юбілей літоўскага друку (с.280)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 1 мая, № 17, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт.*

### *«Васількі» (с.282)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 26 чэрв., № 25, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

Гэта — рэцэнзія на кнігу Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага) «Васількі». Вільня, 1914.

[1] *У аглядзе беларускай пісьменнасці ~ М. Б—віч характарызуе...* — размова ідзе пра артыкул М. Багдановіча «За тры гады», упершыню апублікаваны ў «Каляднай пісанцы». 1913; артыкул меў падзагаловак: «Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911–1913 гг.».

[2] *Шчадрын* — Міхаіл Яўграфавіч Салтыкоў-Шчадрын (1826–1889), рускі пісьменнік-сатырык, рэвалюцыйны дэмакрат.

[3] *Горкі* — Максім Горкі (Пешкаў Аляксей Максімавіч, 1868–1936), рускі пісьменнік.

[4] *Леманскі Ян* (1866–1933) — польскі паэт, адзін з супрацоўнікаў «Хімеры» Мірыяма-Пшасмыцкага, вызначаўся арыгільным сатырычным талентам.

### *Хлебаробства на Беларусі ў даўнія часы (с.284)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 25 верас., № 38, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*. Публікацыя заканчвалася паметкай: «Далей будзе», але працяг у «Нашай ніве» апублікаваны не быў.

[1] *...у летапісца Аляксандра Гвагніна, у яго Кроніцы ў кнізе ІІІ...* — Гваніні Аляксандр (1534–1614), польскі гісторык, служыў ротмістрам у войску Вялікага Княства Літоўскага, пэўны час быў камендантам Віцебска; выдаў «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» на лацінскай (1578, 1581) і польскай (1611) мовах, тэкст якой шмат у чым запазы-

чаны з «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» Мацея Стрыйкоўскага.

[2] *...каля свят Пятра і Паўла...* — свята прыпадае на 29 чэрвеня паводле каталіцкага календара.

[3] *Морг* — уваходзіў у дзяржаўную сістэму мер Вялікага Княства Літоўскага і складаў 0,71 га.

[4] *Капа* — старадаўняя адзінка лічэння з лікавым вымярэннем 60.

[5] *Бочка* — мера сыпкіх рэчываў, вадкасці і інш. у старадаўняй Беларусі, велічыня яе ў розных мясцінах была неаднолькавая («бочка меры Виленское, Минское»), залежала ад рознага характару вымярэння («бочка мерная, ратушная, дворная»). Прыкладна 406 літраў.

[6] *Бона Сфорца* (1484–1557) — каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта I Старога (з 1518), значна павялічыла зямельныя ўладанні дынастыі Ягелонаў, вызначалася асветніцкай дзейнасцю, увяла новыя формы землекарыстання.

[7] *Салянка* — першапачаткова як адзінка вымярэння прывазной солі («бочка солянка»), складала 1/4–1/8 бочкі звычайнай. Паводле гістарычных даследаванняў «бочка уставная (малая или солянка) = 4 корцам краковским = 2 шанкам = 102 литрам» (Похилевич Д. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI— XVIII вв., Львоў, 1957. Дадат. II; Скурат К. У. Даўнія беларускія меры. С. 52).

### *М. Гарэцкі. Рунь (с.286)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 2 кастр., № 39, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

Рэцэнзія на кнігу М. Гарэцкага «Рунь». Вільня, 1914.

### *Тарас Гушча. Родныя з'явы (с.288)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 16 кастр., № 41, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

Рэцэнзія на кнігу Якуба Коласа «Родныя з'явы». Вільня, 1914.

[1] *Ваал* — у такой форме ўвайшло ў еўрапейскую культуру імя Баала (паходзіць ад першапачатковага агульнасеміцкага Балу ў значэнні спадар, гаспадар), хананейскага ідала, якому будавалі капішчы для пакланення на Блізкім Усходзе (Ханаан); потым на іх месцах былі збудаваны ахвярнікі для Ягве (Бога); *палон вавілонскі*, у які трапіў народ ізраільскі ў 586–538 гг. да н. э.

[2] *Скарбаў, у табе скрытых, не зліча аж той, «хто зоры злічыў!»* — гл. каментарый да апавядання «Хрыстос нарадзіўся!».

[3] *Стэфанік Васіль* (1871–1936) —украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, майстар рэалістычнай сацыяльна-псіхалагічнай навелы.

[4] *Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860–1904) —рускі пісьменнік.

### *З-пад праху вякоў (с.291)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 12 снеж., № 49, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

### *Каляды (с.293)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1914, 25 снеж., № 51–52, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

[1] *Заглада* (польск. zagłada) — пагібель, знішчэнне.

### *Якога мы роду-племені (с.294)*

Друкуецца паводле час. «Лучынка», 1914, С. 11–13, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Власт*.

За публікацыяй пададзена заўвага: *«Хто б хацеў абшырней аб усім сказаным тут даведацца, то няхай чытае такія кніжкі:*

*Е. Ф. Карский. Белорусы. Т. I. Вильна, 1904 г.*

*В. Е. Данилевич. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV ст.*

*М. Довнар-Запольский. Очерки истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII ст.*

*Н. П. Барсов. География начальной (Несторовой) летописи. Варшава, 1885 г.*

*А. Спицын. Расселение древнерусских племен по археологическим данным Ж[урнала] м[инистерства] н[ародного] п[росвещения] 1889 г.*

*А. Погодин. Из истории славянских передвижений.*

*Шафарик. Славянские древности.*

*Филарет. Святый великомученик Дмитрий Солунский и Солунские славяне: Чтения Общества Истор. и Древностей Росс. 1848 г.».*

### *Да чытачоў газеты «Гоман» (с.296)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 15 лют., № 1, дзе апублікаваны ўпершыню; нататка рэдакцыйная, без подпісу.

### *1491–1916 (с.297)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 15 лют., № 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. W. £.

[1] *...у канцы 80-х гадоў у Мінску кружок беларускіх студэнтаў і інтэлігентаў выдаваў патайную часопісь па-беларуску пад названнем «Гоман»...* — маецца на ўвазе гектаграфічны «Гоман», помнік рэвалюцыйнай, грамадска-палітычнай думкі парэформеннай Беларусі, які выдаваўся ў Пецярбургу групай беларускіх студэнтаў, выйшлі два нумары: першы — на пачатку 1884 г., другі—15 лістапада 1884 г.

[2] *«Наша доля»* — першае легальнае перыядычнае выданне XX ст. на беларускай мове, выходзіла з верасня да снежня 1906 г. і была забаронена царскай цэнзурай; газета мела грамадска-палітычны і літаратурны характар.

[3] *«Маладая Беларусь»* — літаратурна-мастацкі альманах, выдаваўся ў Пецярбургу ў 1912–1913 гг.

[4] *«Саха»* — беларускі сельскагаспадарчы часопіс, выдаваўся з красавіка 1912 г. да кастрычніка 1913 г. у Вільні, пазней у Мінску (да 1915 г.), потым зноў выданне было адноўлена ў Вільні (1927–1931).

[5] *У 1912 гаду адкрылася беларуская каталіцкая газета «*Biełarus» *у Вільні…* — на самай справе штотыднёвая грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і рэлігійна-асветніцкая каталіцкая газета «Беларус» пачала выдавацца ў Вільні з 13/26 студз. 1913 г., выходзіла да лета 1915 г.

[6] *«Лучынка»* — літаратурны і навукова-папулярны ілюстраваны часопіс для беларускай моладзі, выдаваўся ў Мінску ў 1914 г. Выйшла 6 нумароў, рэдактар-выдавец часопіса А. Уласаў, літаратурны і фактычны рэдактар Цётка.

[7] *«Раніца»* — часопіс беларускай студэнцкай моладзі, адзіны нумар якога выйшаў у Пецярбургу ў чэрвені 1914 г. Пасля «Раніцы» пецярбургскія студэнты ў 1915 г. спрабавалі выдаваць часопіс «Сябра», які не выйшаў з-за цэнзурных умоў ваеннага часу.

### *Памяці Справядлівага (с.299)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 15 лют., № 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Сваяк. Прыналежнасць гэтага псеўданіма В. Ластоўскаму грунтуецца на падставе далейшых публікацый, уключаных самім В. Ластоўскім у аўтарскі «Беларускі каляндар «Сваяк» на 1919 год». Выд. В. Ластоўскага. Вільня. Друк. М. Кухты. С. 52–55; гл. таксама: Шалькевіч В. Ля вытокаў: Пра першы артыкул на беларускай мове, прысвечаны К. Каліноўскаму // ЛіМ, 1990, 12 кастр.

[1] *Герцэн Аляксандр Іванавіч* (1812–1870) — рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, філосаф, пісьменнік, публіцыст.

[2] *…за асвабаджэнне Літвы…* — у наступнай публікацыі («Беларускі каляндар «Сваяк» на 1919 год») — за асвабаджэнне Беларусі.

[3] Rząd Narodowy — варшаўскі цэнтр кіраўніцтва паўстаннем 1863–1864 гг.

[4] *Урублеўскі Валерый* (1836–1908) — беларускі рэвалюцыянер, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.; жыў на эміграцыі, генерал Парыжскай камуны.

[5] *Сангін Станіслаў* — асоба малавядомая, служыў «питейно-акцизным надзирателем» у Саколцы, дзе часта бываў К. Каліноўскі (Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С. 139).

[6] *Ражанскі Фелікс* (? – пасля 1903) — беларускі паэт, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху; працаваў каморнікам на Гарадзеншчыне.

[7] *…часопісь «Мужыцкая праўда», каторай выйшла 6 нумароў…* — на самай справе выйшла 7 нумароў газеты.

### *Прычыны заняпаду беларускага адраджэння ў XIX ст. (с.301)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 3 сак., № 6, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *... забаронена было афіцыйным указам цара Мікалая I* — Мікалай I (1796–1855), расійскі імператар (1825–1855), эпоха кіравання якога вызначалася крывавай расправай з вызваленчым рухам на ўскраінах Расіі (здушэнне паўстання пад кіраўніцтвам Шаміля), у тым ліку ўзмоцненай русіфікацыяй «Заходняга краю», з мэтай чаго 21 чэрвеня 1840 г. выдадзены ўказ, якім забаранялася ўжываць тэрмін «Беларусь» для азначэння «новадалучаных абшараў», а праз 4 дні, 25 чэрвеня 1840, — указ «О распространении действия Российского гражданского законодательства на весь Западный край, отмене действия Литовского Статута…»

[2] *Ніжэй друкуецца стацця нябожчыка С. Палуяна…* — далей ідзе артыкул С. Палуяна «А. Рыпінскі», які ў аднатомнае выданне творчай спадчыны маладога крытыка «Лісты ў будучыню» (Мн., 1986; укладальнікі Т. Кабржыцкая і В. Рагойша) не ўвайшоў.

### *Ганчарскія вырабы (с.303)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 10 сак., № 8, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. В—… у газетнай рубрыцы *«З антыкварскіх запісак».*

[1] *Ганчары-артысты* — ганчары-мастакі.

[2] *Рафаэль Санці* (1483–1520) — італьянскі жывапісец і архітэктар.

[3] *Здабыццё Троі* — так званая Траянская вайна — адна з цэнтральных падзей у грэцкай міфалогіі. Паселішча Троя (больш вядомае ў старажытнасці пад назвай Іліён) узнікла ў канцы IV тысячагоддзя да н. Х. на вельмі важным стратэгічным шляху з Міжземнага ў Чорнае мора; канчаткова разбурана ў выніку шматлікіх войнаў траянцаў з ахейцамі ў сярэдзіне XIII ст. да н. э.

[4] *Робіа* (Robbia) — сям'я італьянскіх скульптараў, прадстаўнікоў Ранняга Адраджэння ў Фларэнцыі. Упершыню прымянілі ў скульптуры тэхніку маёлікі. Лука дэля Робіа (1399 ці 1400–1482) — галава сям'і.

[5] *Палісі* (Palissy) Бернар (каля 1510–1589 ці 1590) — французскі мастак-keраміст і прыродазнавец.

[6] *Генрык II* (1518–1559) — французскі кароль з 1547 г.

[7] *Дэльфо* — мястэчка ў правінцыі на поўдні Галандыі, паміж Гаагай і Ратэрдамам, слыннае сваімі керамічнымі вырабамі.

[8] *Карэцкая фабрыка* — назва ад мястэчка Карэц на Валыні, дзе ў 1784 г. уладальнік кн. Юзаф Чартарыйскі заснаваў фаянсавую ганчарню; выраблялася зазвычай белага колеру, славілася сваёй арыгінальнасцю, роспісамі пакрытымі шафіравай эмаллю.

[9] *У нас, на Беларусі і ў Літве, славіліся вырабы ~ гародніцкія…* — на Беларусі мелі славу: *гараднянская кераміка* з вёскі Гарадная (цяпер Столінскі р-н), дзе ў 1920–1930-я г. налічвалася каля 500 сем'яў-ганчароў; вядомы з XV стагоддзя; *гарадоцкая кераміка* (чырвона-гліняная паліваная і непаліваная) з мястэчка Гарадок (цяпер Маладзечанскі р-н), дзе найбольшага развіцця ганчарны промысел дасягнуў у XIX — пачатку XX ст.; аднайменная гарадоцкая кераміка з

вёскі Гарадок (Глускага р-на). Невядома, якую дакладна меў на ўвазе В. Ластоўскі.

### *Шляхам творчасці (с.304)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, 14 сак., № 9, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *Кірыла Тураўскі* (каля 1130 – каля 1182) — славуты старажытнабеларускі пісьменнік і прапаведнік, царкоўны дзеяч, майстар прамоўніцкай прозы; паходзіў з Турава.

[2] *Клімент Смаляціч* (Клім, ? – пасля 1164) — вядомы пісьменнік і філосаф XII ст., паходзіў са Смаленска; у 1147 г. саборам мясцовых епіскапаў асвечаны на пасаду кіеўскага мітрапаліта.

[3] *Сарбеўскі Мацей Казімір* (1595–1640) — новалацінскі паэт, тэарэтык літаратуры, філосаф.

[4] *Ажэшка Эліза* (1841–1910) — польская пісьменніца, паходзіла з Беларусі.

[5] *Крашэўскі Юзаф Ігнацы* (1812–1887) — польскі пісьменнік, гісторык, мастак, грамадскі дзеяч, паходзіў з Беларусі.

### *Уступны артыкул да № 1 часопіса «Крывічанін» (с.306)*

Друкуецца паводле час. Kryvièanin: Biełaruski palitycna-literaturny miesiaènik. Redaktar-wydawiec W. £astoùski. Wilnia, Zawalnaja, 7. № 1. Kastryènik 1918 h. 1 hod, дзе апублікаваны ўпершыню. Артыкул уступны, без подпісу. Гэты нумар стаўся першым і адзіным.

[1] *Эканамічныя засобы* (польск. zasób) — эканамічныя рэсурсы.

[2] *Sine qua non* (лац.) — абавязковая ўмова.

### *Нацыянальнае пытанне (с.307)*

Друкуецца паводле час. «Крывічанін», 1918, № 1. С. 3–5, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам W. £astoùski. (часопіс друкаваўся лацінкай).

[1] *Лаўроў Пётр Лаўравіч* (1823–1900) —рускі філосаф і сацыёлаг, ідэолаг рэвалюцыйнага народніцтва.

[2] *Шпрынгер* — (Spranger) Шпрангер Эдуард (1882–1963), нямецкі філосаф, псіхолаг, педагог. У сваёй асноўнай працы («Формы жыцця», 1914) развіваў ідэі цэласнай (структурнай) псіхалогіі.

[3] *Градоўскі Аляксандр Дзмітрыевіч* (1841–1889) — рускі юрыст, гісторык права, прафесар Пецярбургскага універсітэта.

### *Усяго па каліву (с.310)*

Аб'яднаныя пад такой нізкай запісы *«Гедымінаўскі воўк», «Назова Беларусі па-жыдоўску», «Непасціглая камбінацыя»* друкуюцца паводле час. «Крывічанін», 1918, № 1. С. 28–29, дзе апублікаваны як рэдактарскі матэрыял, без подпісу; датуюцца годам публікацыі.

[1] *Гедымін* (каля 1275–1341) — вялікі князь ВКЛ (1316–1341); у часы ягонага княжэння фактычна завяршыўся працэс аб'яднання беларускіх земляў.

### *Беларусь пад Расеяй (с.311)*

Друкуецца паводле выд. «Беларускі каляндар «Сваяк» на 1919 год». Выдавецтва В. Ластоўскага. Вільня. Друкарня М. Кухты (с.58–60), дзе апублікаваны ўпершыню; без подпісу.

[1] *Кацярына II Аляксееўна* (Софія Фрэдэрыка Аўгуста Ангальт-Цэрбская, 1729–1796) — расійская імператрыца (з 1762 г.). Пры яе праўленні адбыліся тры падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх беларускія землі былі прымусова далучаны да Расійскай імперыі.

[2] *Сямашка Іосіф* (1799–1868) — царкоўны дзеяч, актыўна спрыяў скасванню грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы на Беларусі.

[3] *Два польскія паўстанні 1833 і 1861 гг....* — В. Ластоўскі недакладны. Відавочна, меліся на ўвазе нацыянальна-вызваленчыя паўстанні 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Недакладнасць і ў тым, што абодва яны названы выключна польскімі.

[4] *Аляксандр II* (1818–1881) — рускі імператар (1855–1881), пачатак праўлення якога адзначыўся пэўнымі ліберальнымі ўступкамі народу ў параўнанні з эпохай Мікалая І.

### *Нашы цэннасці (с.313)*

Друкуецца паводле выд. «Беларускі каляндар «Сваяк» на 1919 год». Выдавецтва В. Ластоўскага. Вільня. Друкарня М. Кухты (с. 61–63), дзе апублікаваны ўпершыню; без подпісу.

[1] *Спенсер Герберт* (1820–1903) — англійскі філосаф, сацыёлаг, псіхолаг, адзін з заснавальнікаў пазітывізму.

[2] *Тэйлар* — магчыма, маецца на ўвазе Тэйлар Фрыдэрык (1856–1915), амерыканскі інжынер-вынаходнік, які распрацаваў прынцыпы арганізацыі працы на падставе навуковых падыходаў.

[3] *Каўцкі Карл* (1854–1938) — адзін з тэарэтыкаў германскай сацыял-дэмакратычнай партыі і заснавальнікаў рэвізіянізму.

[4] *Бокль Генры Томас* (1821–1862) — англійскі гісторык і сацыёлаг-пазітывіст, крытычна ставіўся да тэалагічнай трактоўкі гісторыі; галоўным фактарам гістарычнага развіцця лічыў разумовы прагрэс.

[5] *Зомбарт Вернер* (1863–1941) — нямецкі эканаміст, адзін з ідэолагаў германскага імперыялізму.

### *Прадмова да № 1 часопіса «Крывіч» (с.316)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1923, № 1. С. 1–2, дзе апублікаваны ўпершыню як зварот рэдактараў-выдаўцоў. Беларускі часопіс «Крывіч» («Месячнік літаратуры, культуры і грамадскага жыцця») пачаў выходзіць у Коўне, тагачаснай сталіцы Летувіскай рэспублікі, у чэрвені 1923 г. «пад рэдакцыяй В. Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага». Часопіс выдаваўся да 1927 г., выйшла 12 нумароў.

*Да шукання крыніц народнай творчасці (с.317)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1923, № 3. С. 44–48, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Пагашчанін*.

[1] *…аж з-пад Бабінавіч (Магілёўск. губ.)…* — зараз вёска ў Лёзненскім р-не Віцебскай вобл., на заходнім беразе Бабінавіцкага возера.

*Паленне кніг на Беларусі (с.322)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 1 (7). С. 59–62, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыптанімам *В—СТ*. Гэты і наступныя 3 артыкулы ў Біябібліяграфічным слоўніку не пазначаны.

На дадзеную публікацыю з'явіўся водгук: Смаленец А. Да стацці В-ста «Аб паленні кніг на Беларусі» (Крывіч, 1924, № 2. С. 31–33).

[1] *Нарбут Тэадор* (1784–1864) — беларускі і польскі гісторык і археолаг, аўтар капітальнай «Гісторыі літоўскага народа» (1835–1841. Т. 1–9).

[2] *Замкавыя галябарднікі* — замкавыя стражнікі, узброеныя старажытнай зброяй — сякерай на доўгім дрэўку, якое заканчвалася кап'ём (франц. hallebarde з араб. алебарда).

[3] *Інстыгатар* (гіст.) — судовы абвінаваўца.

[4] *Reverendissime* (лац.) — зварот да святара і наогул да асоб духоўных (з лац. найвялебнейшы).

[5] *Pater* (лац.) — ойча.

[6] *Illustrissimus* (лац.) — найяснейшы.

[7] *Экзарцыст* — святар, які выганяў д'яблаў, нячысцікаў.

[8] *Bustum* (лац.) — стос, пласт; пахавальнае вогнішча, зніч; магіла; рэшткі.

[9] *Spectatores* (лац.) — гледачы.

[10] *In flagorem* (лац.) — жар.

[11] *Ex oposito* (лац.) — з супрацьлеглага боку.

[12] *Certistissima veritas etc.* (лац.) — найдакладнейшая праўда.

[13] *Суфраган* — найчасцей у значэнні «біскуп суфраган»; так называюць кожнага дыяцэзіяльнага біскупа ў адносінах да свайго мітрапаліта як кіраўніка ўсёй правінцыі, абшару.

[14] *Mente captus* (лац.) — літаральна: крануты з розуму, звар'яцелы.

[15] *Igne probatur aurum!* (лац.) — агнём выпрабоўваецца золата (фразеалагізм).

[16] *Pavor panicus* (лац.) — панічны страх.

*Новы падзел Беларусі (с.326)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 1 (7). С. 87–88, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л-скі.*

*Рухомыя друкарні на Беларусі і Украіне (с.328)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 1 (7). С. 94, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *С. Т.*

[1] *Транквіліён-Стаўравецкі Кірыла* (?–1646) — украінскі пісьменнік-палеміст, прапаведнік, выдавец кніг.

*Кальвінскія зборы на Беларусі (с.329)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 1 (7). С. 94, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *О. У.*

*Новагародская аўтакефальная мітраполія (с.329)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 23–27, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л-СКІ*; у Біябібліяграфічным слоўніку крыптанім недакладны: *Л-скі В.*

[1] *Андронік Старшы* — Андронік II Старэйшы (Палеолаг, 1260–1332), візантыйскі імператар (1282–1328).

[2] *Іван I Данілавіч Каліта* (?–1340) — князь маскоўскі (з 1325 г.), вялікі князь уладзімірскі (1328–1340); сабраў вялікія багацці. Праводзіў асцярожную палітыку ў адносінах да Залатой Арды, пачаў аб’яднанне рускіх зямель вакол Масквы.

[3] *...выбірае сабе ў мітрапаліты Грыгора Цамблака ~ які катэдру сваю пераносіць у Вільню...* — Грыгорый Цамблак (каля 1365 – каля 1419), балгарскі пісьменнік, царкоўны дзеяч, нейкі час жыў і працаваў у Малдавіі і Сербіі. У 1414 г. на саборы праваслаўных епіскапаў у Наваградку вылучаны на пасаду мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага (але не зацверджаны), з 1415 г. — мітрапаліт кіеўскі; каля 1416 г. перанёс цэнтр мітраполіі з Кіева ў Вільню.

[4] *Лаўрышаўскае евангелле* — беларускі рукапісны помнік 1-й паловы XIV ст. Евангелле напісана для Лаўрышаўскага манастыра (цяпер у Наваградскім р-не), утрымлівае кананічны тэкст 4 евангельскіх кніг Новага запавету.

[5] *...Лаўрышаўскім манастыры, заснаваным Лаўрынам, сынам Гедыміна...* — паводле іншых гістарычных крыніц, заснавальнікам Лаўрышаўскага манастыра лічыцца сын Міндоўга, князь наваградскі Войшалк (1223–1268); каля 1254 г. ён заключыў мір з Данілам Галіцкім, аддаў ягонаму сыну Раману Галіцкаму валоданне Наваградскай зямлёю, а сам пастрыгся ў манахі Паланінскага манастыра. Каля 1258 г. вярнуўся ў Новагародак і пасяліўся ў заснаваным ім Лаўрышаўскім манастыры.

*Крыўскі варыянт быліны аб Іллі Мурамцы (с.334)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 27–31, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *Кміта-Чарнабыльскі Філон* (1530–1587) — ваенна-палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, староста аршанскі (1567–1587). Пакінуў арыгінальны помнік старажытнабеларускага эпісталярнага жанру — каля 30 лістоў (першы з іх датаваны 1573 г.), у тым ліку і да Астафея Валовіча (?–1587).

*Віленская грэка-лаціна-руская акадэмія (с.339)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 33–37, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

[1] *...перамогі над Масквой пад Оршай у 1513 годзе...* — В. Ластоўскі недакладны: Аршанская бітва, як вядома, адбылася 8 верасня 1514 г., калі аб'яднанае 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай на чале з гетманам К. Астрожскім разбіла 80-тысячнае войска Маскоўскай дзяржавы.

[2] *У 1538 годзе в. кн. Жыгімонт...* — вялікім князем літоўскім і каралём Польшчы ў той час (1506–1548) быў Жыгімонт І Стары (1467–1548), але яшчэ пры жыцці, у 1522 г., Жыгімонт Стары прызначыў вялікім князем Вялікага Княства Літоўскага свайго двухгадовага сына (Жыгімонта ІІ) Аўгуста (1520–1572); Аўгуст стаў паўнапраўным вялікім князем літоўскім у 1544 г., пасля шлюбу з Лізаветай (?–1545), дачкой імператара Фердынанда, на каралеўскі трон Польшчы ўступіў толькі пасля смерці бацькі, у 1548 г. Сын Жыгімонта Старога і каралевы Боны Жыгімонт ІІ Аўгуст быў апошнім нашчадкам дынастыі Ягелонаў.

[3] *Баторый Сцяпан* (Стафан, 1533–1586) — сямігродскі ваявода ў Трансільваніі (1571–1575), у снежні 1575 г. абраны, а ў траўні 1576 г. каранаваны на трон Рэчы Паспалітай.

[4] *Жыгімонт ІІІ Ваза* (1566–1632) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы (1587–1632), кароль Швецыі (1592–1599).

[5] *Сцянан Кукель* (Зізаній) — Стафан Зізаній (Тустаноўскі) (г. нар. і смерці невядомыя), беларускі пісьменнік-палеміст XVI — пач. XVII ст., выкладаў у віленскіх брацкіх школах у 1593–1599 гг.

[6] *Лукарыс Кірыл* (1572–1638) — канстанцінопальскі патрыярх. Вучыўся ў Грэцкай калегіі ў Венецыі і Падуанскім універсітэце. У якасці экзарха канстанцінопальскага патрыярха прымаў удзел у працы Брэсцкага сабора 1596 г. У 1627 г. заснаваў у Канстанцінопалі друкарню; падтрымліваў антыуніяцкі рух на Беларусі і Украіне.

[7] *Сматрыцкі Мялецій* (свецкае імя Максім Герасімовіч; 1577–1633) — беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч. Скончыў філасофскі факультэт Віленскай езуіцкай акадэміі, да 1616 г. працаваў у школе віленскага Святадухаўскага брацтва.

[8] *Карповіч Лявонцій* (свецкае імя Лонгін, Логін; 1580–1620) — беларускі пісьменнік-публіцыст, педагог, царкоўны дзеяч; з 1613 г. архімандрыт Свята-Духаўскага манастыра, узначальваў навучальную і выдавецкую дзейнасць праваслаўнага брацтва ў Вільні і Еўі, быў рэктарам брацкай школы.

[9] *Харламповіч Канстанцін* (1870–1932) — гісторык, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук, родам з Бярозаўскага р-на; В. Ластоўскі мае на ўвазе ягоную манаграфію «Западно-русские православные. школы XVI и начала XVII века». (Казань, 1898).

[10] *Первольф Іосіф Іосіфавіч* (1841–1892) — гісторык-славіст, аўтар шматлікіх даследаванняў, у тым ліку «Славяне, іх узаемныя адносіны і сувязі» (Варшава, 1888. Т. 2; 1893. Т. 3, ч. 2).

[11] Wiszniewski, «Hist. Lit. Polsk.» — маецца на ўвазе выданне «Гісторыя польскай літаратуры» ў 10-ці тамах, выдадзенае ў 1840–1857 гг. Аўтар Міхал Вішнеўскі (1794–1865).

### *Пачайнская друкарня (с.342)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 105, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Т. О.*

### *Аб лесаўчыках (с.342)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 105–106, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *У. С.*

### *Крыўскі (беларускі) старадаўні лістоўны стыль (с.345)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 106–107, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *К. І.*

### *Смерды (с.346)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 107–108, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Ц. Л.*

### *Прамова ў Жэневе (с.347)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі (БДАМЛіМ), ф. 3, воп. 1, адз. зах. 257, арк. 1–8 у папцы: *«Дакументы V Асамблеі Лігі Нацый, якая адбылася ў Жэневе ў верасні 1924 г.; выступленні В.Ю.Ластоўскага, бюлетэні, дэкларацыі».*

Упершыню ў публікацыі Я. Янушкевіча: Незалежнік: Дакументы і людзі // Спадчына. 1993. N 5. С. 42–47.

### *Прадмова да «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» (с.352)*

Друкуецца паводле першавыдання, дзе апублікаваны ўпершыню. Коўна, 1924.

[1] *Галавацкі Якаў* (1814–1888) — украінскі мовазнаўца, фальклcraft, паэт.

[2] *Ліндэ Самуэль Багуміл* (1771–1847) — польскі лексікограф, пэўны час дырэктар публічнай бібліятэкі пры Варшаўскім універсітэце, аўтар капітальнага «Слоўніка польскай мовы» ў 6-ці тамах (1807–1914).

[3] *Альгерд* (каля 1296–1377) — вялікі князь ВКЛ (1345–1377), сын Гедыміна.

### *Канкардат (с.359)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1925, № 9 (1). С. 94–98, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі, Старшыня Сувязі*

*нацыянальна-дзяржаўнага вызвалення Беларусі, быўшы Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.* Дата: *Рым. 7/IV–1925 г.*

*Аб назовах «Крывія» і «Беларусь» (с.364)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1925, № 10 (2). С. 36–46, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Ю.Сулімірскі.*

[1] *Кронікар Дусбург* — Пётра Дузбурскі, крыжацкі храніст XIV, вядомы сваім творам «Хроніка Прускай зямлі», у якім падае шмат звестак з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

[2] *...апрацаванай кардыналам Мікалаем Кузанам...* — Мікалай Кузанскі (Крэбс; празваны Мікалай з Кузы згодна месца нараджэння: вёска Куза ля м. Трыр, Cusanus, 1401–1464) — сярэднявечны духоўнік-тэолаг; па загадзе рымскай курыі працаваў у Канстанцінопалі над пытаннем уніі з грэкамі, пазней, з 1441 г., у Германіі — над пытаннямі рэформы вышэйшага духоўнага клеру. Там жа склаў першую геаграфічную карту Германіі. Як астраном, картограф і філосаф сваімі поглядамі апярэджваў эпоху, у якой жыў (адкрыў рух Зямлі вакол сваёй восі, спарадкаваў першую карту Сярэдняй Еўропы).

[3] *...князя Івана ІІІ з грэцкай царэўнай Аленай...* — Іван ІІІ Васільевіч (1440–1505), вялікі князь маскоўскі (з 1462 г.), другой жонкай яго стала Зоя Палеолаг.

[4] *Зізаній Лаўрэн* (Тустаноўскі, ?–1634) — беларускі педагог, царкоўны дзеяч, перакладчык; В. Ластоўскі згадвае ягоны «Катэхізіс», напісаны па заданню патрыярха Філарэта і прывезены Л. Зізаніем у 1626 г. у Маскву, дзе выдадзены ў 1627 г. у перапрацаваным выглядзе (пазней перавыдаваўся ў Гародні ў 1783, 1787, 1788 гг.).

[5] *Бярында Памва* (?–1632) — дзеяч усходнеславянскай культуры, лексікограф, друкар, гравёр, паэт, перакладчык. Самы значны ягоны твор, над якім П. Бярында працаваў звыш 30 гадоў, — «Лексікон славенарускі і імён тлумачэнне» — упершыню з'явіўся ў 1627 г.; В. Ластоўскі згадвае другое, пасмяротнае выданне «Лексікона» 1653 г., якое выйшла ў Куцейне, каля Оршы, пад рэдакцыяй ігумена Куцеінскага Богаяўленскага манастыра, аднаго з заснавальнікаў Куцеінскай друкарні і яе кіраўніка (з сярэдзіны 1630-х гг.) Іаіля Труцэвіча (?–1654).

[6] *Андрусаўскі мір 1667 г.* — Андрусаўскае перамір'е паміж Рускай дзяржавай і Рэччу Паспалітай, якім закончылася працяглая вайна 1654–1667 гг. Падпісана ў м. Андрусава (Андросава), на мяжы Смаленскага і Мсціслаўскага паветаў.

[7] *Юрый Каніскі* (Георгій, 1717–1795) — украінскі і беларускі пісьменнік, царкоўна-палітычны і культурны дзеяч XVIII ст., скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1743), рэктарам якой прызначаны ў 1751 г.; беларускім праваслаўным біскупам у Магілёве Г. Каніскі быў выбраны ў 1755 г.

[8] *Богуш-Сестранцэвіч Станіслаў* (1731–1826) — пісьменнік і вучоны-славіст, сябра Расійскай акадэміі навук, з 1813 г. старшыня (прэзідэнт) Вольнага эканамічнага таварыства ў Пецярбургу. З 1773 г. кіраўнік беларускай каталіцкай епархіі, узначаліў каталіцкую царкву ў Расіі. З 1782 г. прызначаны магілёўскім біскупам, дзе арганізаваў мясцовую друкарню і выдаў сваю гісторыка-краязнаўчую працу «Аб Заходняй Расіі».

[9] *Шафарык (*Šafaøik*) Павел Ёсеф* (1795–1861) — дзеяч чэшскага і славацкага нацыянальнага руху, вучоны-славіст.

[10] *Карамзін Мікалай Міхайлавіч* (1766–1826) — рускі пісьменнік і гісторык.

[11] *Доўнар-Запольскі Мітрафан* (каля 1867 – 1934) — гісторык, эканаміст, этнограф, заснавальнік бел. нацыянальнай гістарыяграфіі.

[12] *Бэз-Карніловіч Міхаіл Восіпавіч* (1796–1862)— беларускі гісторык, краязнавец і этнограф, вайсковы тапограф і статыстык. Поўная назва ягонага даследавання, прыгаданага В. Ластоўскім, — «Историческия сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся» (СПб., 1855).

[13] *Баброўскі Павел* (1832–1905) — гісторык і этнограф, вайсковец; узначальваў ваенна-юрыдычную акадэмію (з 1875 г.), супрацоўнік Рускага геаграфічнага таварыства, для якога напісаў нямала даследаванняў па гісторыі беларускіх земляў.

[14] *Пад уплывам паўстання 1861 года…* — памылкова: мелася на ўвазе паўстанне 1863–1864 гг. у Беларусі, Літве і Польшчы.

[15] *Пыпін Аляксандр Мікалаевіч* (1833–1904) — рускі літаратуразнавец, этнограф, аўтар капітальных даследаванняў «Гісторыя славянскіх літаратур» (разам з У. Спасовічам, 1879–1881, т. 1–2), «Гісторыя рускай літаратуры» (1911–1914, т. 1–4). В. Ластоўскі тут выкарыстоўвае 4-томную пыпінскую «Гісторыю рускай этнаграфіі» (1890–1892), дзе ў апошнім томе расейскім даследчыкам упершыню ахарактарызаваны і абагульнены важнейшыя працы па беларускай этнаграфіі і фальклору.

[16] *Шаўчэнка Тарас* (1814–1861) — украінскі паэт, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат.

[17] *Кастамараў Мікалай Іванавіч* (1817–1885) — рускі і ўкраінскі гісторык, этнограф, пісьменнік.

[18] *Марцінкевіч* — маецца на ўвазе Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт (1808–1884), класік беларускай літаратуры.

[19] *Каганец Карусь* (1868–1918) — псеўданім Казіміра Кастравіцкага, беларускага пісьменніка і мастака.

[20] *Буйло Канстанцыя* (1893–1986) — псеўданім Канстанцыі Калечыц, беларускай паэткі.

[21] *Бядуля Змітрок* — адзін з псеўданімаў Самуіла Плаўніка (1886–1941), беларускага пісьменніка.

[22] *Езавітаў Кастусь* (1893–1946) — дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, публіцыст, перакладчык, гісторык, педагог.

[23] *Ілавайскі Дзмітрый Іванавіч* (1832–1920) — рускі гісторык дваранска-манархічнага кірунку, выдаў «Историю России» ў 5-ці тамах; у 2-м томе «Московско-литовский период, или Собиратели Руси» (1884) сабраў немалы фактычны матэрыял, пераважна кампіляцыйнага характару, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

### *У. Пічэта. Гісторыя Беларусі (с.378)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1925, № 10 (2). С.120–122, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Ю. В-ка.*

### *У. Ігнатоўскі. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця (с.381)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1925, № 10 (2). С. 122, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *В. Л.*

### *Аб «славянстве» маскалёў (с.382)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 78–79, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Veritatis.

[1] *Карл Вялікі* (742–814) — франкскі кароль (з 768 г.), імператар (800–814). Вёў заваёўніцкія войны супраць лангабардаў, саксаў, арабаў, заходніх славян.

[2] *Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799–1837) — рускі пісьменнік, пачынальнік новай рускай літаратуры.

### *Тодар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч — сыны крывіцкага народнага генія (с.383)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 79–81, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Peregrinus*.

[1] *Ergo* (лац.) — такім чынам, выходзіць, значыць.

[2] *Eo ipso* (лац.) — тым самым.

[3] *Аляксандр Македонскі* (356–323 да н. э.) — дзяржаўны дзеяч старажытнага свету, палкаводзец.

[4] *Fabius Pictor* (Фабій Піктар) — удзельнік Гальскай (225 да н. э.) і ІІ Пунічнай войнаў, аўтар першага тэксту па гісторыі Рыма (на грэцкай мове).

[5] *Cincius* (Цынцій, пачатак ІІ ст. да н. э.) — аўтар летапісу на грэцкай мове.

[6] *Acilius* (Ацылій, сярэдзіна ІІ ст. да н. э.) — аўтар гісторыі Рыма на грэцкай мове.

[7] *Annales* (лац.) —летапіс, хроніка; аналы (гісторыя мінулых падзей).

[8] *Лютэр Марцін* (1483–1546) — дзеяч нямецкай рэфармацыі.

[9] *Трыццацілетняя вайна паднімае значэнне французскай мовы…* — вайна 1618–1648 гг. паміж нямецкімі князямі-пратэстантамі, з аднаго боку, і каталіцкімі князямі ды імператарам — з другога; паступова пе-

ратварылася з унутрыгерманскай у агульнаеўрапейскую, дзе вылучаліся два лагеры: габсбургскі блок (Габсбургі, каталіцкія князі Германіі) і антыгабсбургская кааліцыя (пратэстанцкія князі, Данія, Швецыя, Францыя і інш.).

[10] *Фрыдрык Вялікі* — Фрыдрых Вялікі (1712–1786), прускі кароль (з 1772 г.), аўтар «Анты-Макіявелі» (1739).

[11] *Палацкі Францішак* (1798–1876) — чэшскі гісторык, філосаф, дзеяч нацыянальнага руху; найбольш вядома ягоная капітальная праца «*Geschichte* von Böhmen» (Гісторыя Чэхіі У 5 т. Прага, 1836–1867).

[12] *Mutatis mutandis* (лац.) — змяніўшы тое, што неабходна змяніць (унёсшы неабходныя змены).

[13] *Аляксандр I* (1777–1825) — расійскі імператар.

### *Што спрые разросту і ўпадку народаў і дзяржаў (с.387)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 84–87.дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *Юры Верашчака.*

### *Унія (с.391)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 88–97, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *ЛАСТ.*

[1] *...на Берасцейскім саборы ў 1595 годзе* — на самай справе Берасцейская унія (аб’яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на землях Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага) адбылася ў кастрычніку 1596 г.

[2] *Бывалі здарэнні, што архібіскупаў на праваслаўную архібіскапію назначаў папеж...* — у 1458 г. у Ватыкане адбылася змена найвышэйшай улады: ад 1455 г. да жніўня 1458 папам рымскім быў Калікст III (свецкае імя Альфонс Борджыя), якога змяніў Пій II; хто прысвячаў на праваслаўную архібіскупію Грыгорыя Балгарына — не высветлена.

[3] *Сікст IV* — рымскі папа (1471–1484), сапраўднае імя Францішак дэ ля Равэры, паходзіў з Лігурыі, мясціны на поўначы Італіі.

[4] *... Васіль III, ажаніўшыся з Софіяй Палеолаг...* — тут В. Ластоўскі недакладны: Васіль III (1479–1533), вялікі князь маскоўскі (з 1505 г.), быў сынам Івана III Васілевіча і С. Палеолаг; Палеолаг Зоя (?–1503) — пляменніца апошняга візантыйскага імператара Канстанціна XI, у лістападзе 1472 г. стала другой жонкай вялікага князя Івана III Васільевіча; імя Софія атрымала ў Расіі.

[5] *Радзівіл Мікалай* (Чорны, 1515–1565) — князь Рымскай імперыі на Альцы і Нясвіжы (з 1547 г.), ваявода віленскі (1551–1565); будучы лютэранінам, у 1555 г. перайшоў у кальвінізм, займаўся прапагандай гэтай рэлігіі (у 1563 г. выдаў на свой кошт Біблію ў Брэсце); пры ім Нясвіж стаў цэнтрам кальвінізму.

[6] *Стаўрапігіяльныя прывілеі* — надзяленне пэўнай незалежнасцю, аўтаноміяй; стаўрапігія — манастыр, незалежны ад мясцовай епархіяльнай улады і падначалены непасрэдна патрыярху або сіноду (ад грэцк. стаўрапігія — узнясенне крыжа).

[7] *Патрыярх Ярэма* — біяграфічных звестак не выяўлена.

[8] *Балабан Гедэон* (1530–1657) — сын львоўскага біскупа Арсенія, які таксама стаў біскупам (да прыняцця манаства насіў імя Грыгорый).

[9] *Грыгорый XIII* (сапраўднае імя Hugon Buoncompagno — Гуго Бyонкампаньо, 1502–1585) — рымскі папа з 1572 г.

[10] *Павел I* (1754–1801) — расійскі імператар (1796–1801).

### *Беларускія друкі ў Тыльзіце (с.406)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 106, дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам *В. Ластоўскі.*

[1] *Янкус Марцін* (1858–1946) — літоўскі грамадскі дзеяч, рэдактар і выдавец, удзельнік барацьбы літоўскага народа супраць германізацыі Летувы і за яе нацыянальнае вызваленне; жыў у Клайпедскім краі (да 1920 г. у складзе Усходняй Прусіі), дзе меў уласную друкарню (у Рагніце і Тыльзіце).

[2] *...малады чалавек (гадоў 23–25), які назваў сябе Антонам Абрамовічам...* — рэальная асоба. Маецца на ўвазе Марыян Станіслаў Абрамовіч (1871–1925), рэвалюцыянер, дзеяч культуры Польшчы і Беларусі; пад час вучобы ў Маскоўскім універсітэце ўзначальваў гурток сацыялістычнага кірунку ў маскоўскім польскім коле.

[3] *...3–4 першыя брашуры лацінскімі літарамі ~ агалоўкаў каторых п. М. Янкус цяпер не памятае...* — дакладна вядома назва толькі адной брашуры: «Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем…» (на тытульным лісце дзеля канспірацыйных меркаванняў месцам выдання пазначана Вільня).

[4] *Пасля гэтага п. Абрамовіч выехаў у Швейцарыю...* — на самай справе ў тым жа 1892 г. М. Абрамовіча арыштавалі ў Варшаве за распаўсюджванне рэвалюцыйных пракламацый; ён быў прыгавораны да 3 гадоў турмы і 6 гадоў ссылкі, пасля адбыцця якой жыў у Пецярбургу, з 1908 г. у Варшаве.

[5] *...ні разу не сустрэў ніводнай з гэтых брашур...*— цяпер вядома, што «Дзядзька Антон» — перакладны твор беларускай літаратуры XIX ст. — паўстаў на падставе польскай агітацыйнай брашуры «Бацька Шыман», якая ў сваю чаргу з’яўляецца перапрацоўкай рускай публіцыстычнай пракламацыі А. Іванова (В. Варзара) «Хітрая механіка» (Цюрых, 1874). (Скалабан В. Працяг гісторыі з «Дзядзькам Антонам» // Полымя, 1988, № 2).

[6] *...прашу беларускія часопісі апублікаваць гэту ведамку...* — апроч першапублікацыі ў «Крывічы» вядомы толькі перадрук у газ. «Голас Беларуса», 1926, 14 ліп.

### *Дойлід (с.407)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 106–107, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Л. А.* У Біябібліяграфічным слоўніку гэты і наступныя 6 артыкулаў не ўлічаны.

[1] *Карскі Яўхім* (1861–1931) — філолага-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства.

[2] *Уладзіміраў Пётр Уладзіміравіч* (1854–1902) — рускі гісторык літаратуры, славіст, спецыяліст па старажытнарускай славеснасці. Абараніў доктарскую: «Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык» (СПб., 1888), на якую і спасылаецца В. Ластоўскі.

[3] *Брукнер (*Brükner*) Аляксандр* (1856–1939) —польскі філолаг-славіст, гісторык культуры.

[4] *Вальтэр Эдуард* (1856–1941) — гісторык, этнограф, філолаг, бібліёграф, даследчык балтыйскіх і славянскіх культур.

[5] *Зянькевіч Рамуальд* (1811–1868) — беларускі фальклярыст, этнограф; на самай справе зборнік «Народныя песенькі пінскага люду», дзе змешчана 219 беларускіх народных песень, запісаных над Пінай, Прыпяццю і Цной, выйшаў у Коўне ў 1851 г.; у 1856 г. Р. Зянькевіч выдаў у Вільні зборнік «Рыфмаваныя спробы».

### *Эпітэт смерці «Кастуся» (с.408)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 107, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. *С. Т.*

### *Навязі і кудмяні (с.409)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 107–108, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *О. У.*

### *Карэнь «гал» і выводныя ад яго словы і паняцці ў крыўскай мове (с.410)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 109–110, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Л. А.*

### *Карэнь «корс», «корх», выводныя ад яго словы і паняцці ў крыўскай мове (с.411)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 110, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *У. Л.*

### *Рачное імязоўніцтва (с.412)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 111, дзе апублікаваны ўпершыню без подпісу.

### *Патрыятычны малітвеннік (с.414)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч», 1926, № 11 (1). С. 117–118, дзе апублікаваны ўпершыню без подпісу.

*Прадмова да «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі (с.416)*

Друкуецца паводле першавыдання, дзе апублікаваны ўпершыню з падзагалоўкам: Спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя. Коўна, 1926.

## ЛІСТЫ

Эпісталярная спадчына В. Ластоўскага надзвычай багатая, разнастайная і да канца яшчэ не вывучаная, не сабраная. Гэты раздзел склалі лісты, пераважна друкаваныя ва ўрыўках. Тут яны пададзены цалкам, без купюр, у храналагічным парадку. Аўтарскія даты аднатыпна пастаўлены ў пачатак лістоў.

*1. У рэдакцыю «Нашай нівы» (с.423)*

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1908, 22 траўня, № 11, дзе апублікаваны ўпершыню.

*2. Антону Луцкевічу (с.424)*

Друкуецца паводле аўтографа (Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Летувы, F. 21–251, арк. 1). Датуецца 1916 г. на падставе недрукаванага арт. В. Ластоўскага «На Лазанскім з'ездзе» (тамсама, арк. 2–2 адв.), да якога прыкладзены гэты ліст.

Упершыню ў арт. Я. Янушкевіча: Ён быў занадта небяспечны, каб бальшавікі маглі пакінуць яго жывым // Свабода, 1993, 1–15 кастр., № 11.

*3. Невядомым асобам (с.424)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа (Дзяржаўны архіў Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 45, арк. 25.). Адрасат нявысветлены.

1 Д-га Кляўдуша — маецца на ўвазе К. Дуж-Душэўскі (1891–1959) — палітычны і грамадскі дзеяч, паплечнік В. Ластоўскага.

*4. Міхаілу Зварыку (с.425)*

Друкуецца паводле машынапіснай копіі (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 4–4 адв.). Тэкст без подпісу, але далей (арк. 5–6) ідзе чарнавы аўтограф ліста з праўкамі В. Ластоўскага. Апошнія ўлічаны пры падрыхтоўцы публікацыі.

Упершыню ў арт. Я. Янушкевіча: Даўно не мелі з Амэрыкі лістоў…: Вацлаў Ластоўскі і беларуская эміграцыя і ЗША // Голас Радзімы, 1993, 19 жн.

[1] *Зварыка Міхаіл* — грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі ў Амерыцы ў 1920-я гг., асоба невядомая.

[2] *Бубешка Сцяпан* (1874–1928) — адзін з найстарэйшых свядомых беларускіх эмігрантаў, ураджэнец Гродзеншчыны (мястэчка Лунна Мастоўскага р-на), прыехаў у Амерыку ў 1890 г.

[3] *Беларуская Нацыянальна-палітычная канферэнцыя* — Першая Усебеларуская канферэнцыя, якая адбылася ў Празе ў верасні 1921 г. і мела мэтаю каардынацыю дзейнасці розных беларускіх палітычных партый і рухаў.

[4] *... вынесеныя рэзалюцыі пасылаю ...* — машынапісныя копіі рэзалюцый захоўваюцца ў архіве В. Ластоўскага асобнай папкай (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 21): 1) Рэзалюцыя аб Дзяржаўным будаўніцтве; 2) Рэзалюцыя па Віленскаму пытанню; 3) Рэзалюцыя аб эканамічным палажэнні Беларусі; 4) Рэзалюцыя аб слуцкім паўстанні; 5) Рэзалюцыя аб Рыжскім трактаце; 6) Палажэнне беларускага народа пад акупацыяй; 7) Рэзалюцыя проціў жыдоўскіх пагромаў; 8) Рэзалюцыя аб чыннасці Балаховіча; 9) Рэзалюцыя аб чыннасці Савінкава; 10) Рэзалюцыя культурна-прасветнай секцыі; 11) Рэзалюцыя секцыі дапамогі ахвярам вайны і галадаючым.

### *5. Марыі Іваноўскай-Ластоўскай (с.426)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 43, арк. 53). Ліст напісаны лацінкай.

[1] *Парогі* (Парагяй) — мястэчка на поўначы Летувы, адкуль паходзіла Марыя Іваноўская (Іванаўскайтэ), першая жонка В. Ластоўскага.

[2] *Ганка* — старэйшая дачка В. Ластоўскага.

[3] *Стаська* — малодшая дачка В. Ластоўскага.

[4] *Векшні* (Векшняй) —мястэчка ў Акмянскім р-не Летувы.

### *6. В. Андэрсану (с.427)*

Друкуецца паводле чарнавога аўтографа (БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 256, арк. 22 адв. —23); датуецца 1924 г.

Упершыню ліст цытаваўся (ва ўрыўках) у кн. Я. Янушкевіча: Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі (Мн., 1995. С. 42). У архіве В. Ластоўскага захаваўся і ліст эстонскага прафесара В. Андэрсана адносна перакладаў на беларускую мову, напісаны з Дэрпта (Эстонія) 10 снеж. 1924 г. (БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 256, арк. 56–57.).

[1] *"Батрак на небе»* — тэкст гэты пад загалоўкам «Найміт на небе» надрукаваны быў у час. «Крывіч», 1924, № 2 (8). С. 14–16 у арт.: Праф. В.Андэрсан. Прыклады эстонскай народнай творчасці (з падрадковай заўвагай: *Пераклад В. Л.*).

### *7 Іларыёну Свянціцкаму (с.429)*

Друкуецца паводле чарнавога аўтографа (БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 156, арк. 18–18 адв.); датуецца 1924 г.

Упершыню ліст цытаваўся (ва ўрыўках) у арт. Я. Янушкевіча: Неадменны сакратар Адраджэння, альбо эсэ пра Вацлава Ластоўскага (Полымя. 1994, № 5, С. 162–163).

[1] *Свянціцкі Іларыён* (1876–1956) — украінскі філолаг-славіст, мастацтвазнаўца, арганізатар і дырэктар (1905–1952) Львоўскага Нацыянальнага музея (Музей украінскага мастацтва), у беларускай экспазіцыі якога сабраў багата арыгінальных матэрыялаў (12 кніг Бібліі Ф. Скарыны, беларускія старадрукі); аўтар нарыса па гісторыі новай беларускай літаратуры «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908).

[2] Тут у пераліку кніг адбыўся збой: В. Ластоўскі двойчы памылкова паставіў № 6.

*8. І. Іонінасу (с.430)*

Друкуецца паводле аўтографа (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 226).

Упершыню ўрыўкі лістоў В. Ластоўскага да дырэктара Міністэрства закардонных спраў Летувіскай Тарыбы І. Іонінаса прыводзіліся ў публікацыі Я.Янушкевіча «Неадменны сакратар Адраджэння» (раздзел з кнігі-эсэ) // ЛіМ, 1993, 5 лістап.

*9. І. Іонінасу (с.431)*

Друкуецца паводле чарнавога аўтографа (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 222); датуецца 1925 г.

*10. І. Іонінасу (с.432)*

Друкуецца паводле чарнавога аўтографа (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 224); датуецца 1925 г.

*11. І. Іонінасу (с.433)*

Друкуецца паводле чарнавога аўтографа (ДА Летувы, ф. 582, воп. 1, адз. зах. 48, арк. 229–233); датуецца 1925 г.

*12. Адаму Багдановічу (с.435)*

Упершыню лісты В. Ластоўскага да А.Багдановіча друкаваліся ў арт. Я. Янушкевіча: Моя Родина во мне…: Письма Вацлава Ластовского Адаму Богдановичу // Нёман. 1993. № 12. С. 111–116.

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

[1] *Осип Леонтьевич…* — маецца на ўвазе Язэп Дыла (1880–1973), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, больш вядомы пад псеўданімамі Назар Бываеўскі, Тодар Кулеша.

[2] *…с. Азаричи Мозырск. окр.* — зараз мястэчка ў Калінкавіцкім р-не Гомельскай вобл.

[3] *Вольтер дал лучшие свои произведения в 80 лет…* — В. Ластоўскі «абстарыў» творчы ўзлёт вялікага французскага пісьменніка і мысляра (1694–1778), які прыпадае на 1750–1760 гг., калі былі напісаны філасофскія аповесці «Кандзід, альбо Аптымізм», «Прастак», трагедыі «Танкрэд», «Алімпія», «Скіфы».

[4] *Гёте начал свою поэтическую карьеру в 60 лет…* — Іаган Вольфган Гётэ (1749–1832) свае раннія паэтычныя творы стварыў у 1767–1769 гг., гэта значыць, ва ўзросце 18–20 гадоў. Ластоўскі, відаць, меў на ўвазе Гётэ як аўтара несмяротнай трагедыі «Фаўст», першая частка якой была выдадзена ў 1808 г.

[5] *Я в продолжение 1928–1930 гг. упорно копил этнографические материалы…* — пераехаўшы ўвесну 1927 г. з Коўны ў Менск, Ластоўскі

займаў пасады дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея, загадваў кафедрай этнаграфіі ІБК і БАН, здзейсніў шматлікія экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі.

[6] *...старый литовский дуб...* — як бачым, тэрмінам «Літва» для азначэння Беларусі, распаўсюджаным у мінулыя стагоддзі, Ластоўскі карыстаўся і ў 30-я гг. нашага стагоддзя.

[7] *Беседь* — рака, левы прыток Сожа, свой пачатак бярэ на Смаленшчыне, цячэ ў Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай абласцях.

[8] *Хронограф* (грэц. хронас — час і графо — пішу) — помнік старажытнай пісьменнасці, які падае гістарычную хроніку якой-небудзь краіны.

### *13. Адаму Багдановічу (с.439)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

[1] *...не сохранилось ли у Вас каких-нибудь автографов М.Горького...* — з Максімам Горкім А. Багдановіч быў у сяброўскіх і сваяцкіх адносінах, перапісваўся з ім.

### *14. Адаму Багдановічу (с.441)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

[1] *Вы недавно закончили громаднейший труд...* — верагодна, маецца на ўвазе двухтомная манаграфія «Язык земли. Образование водо-речных имен и производных от них», над якой А. Багдановіч працаваў больш дзесяці гадоў.

[2] *Ваши «Очерки»...* — маецца на ўвазе праца А. Багдановіча «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (Гродно, 1895).

[3] *...записи в изданиях Шейна...* — у зборніках «Белорусские народные песни, с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями», «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края». П. Шэйн выкарыстаў запісы шырокай сеткі карэспандэнтаў, у ліку якіх быў і А. Багдановіч.

[4] *Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч* (1845–1910) — беларускі этнограф і фальклnetwork.

[5] *Сержпутоўскі Аляксандр Казіміравіч* (1864–1940) — беларускі этнограф і фалькларыст.

[6] *...празднование Богача...* — Багач (Багатнік, Багатуха), старажытнае земляробчае свята ў гонар сканчэння жніва. З пашырэннем хрысціянства Багач стаў прымяркоўвацца да святкавання нараджэння Маці Божай (8 верасня ст. ст.).

## ДАДАТАК

### *Аўтабіяграфічная анкета-нататка (с.443)*

У раздзел увайшлі матэрыялы з дакументальнага зборніка «Вацлаў Ластоўскі: жыццё і грамадская дзейнасць», падрыхтаванага ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС).

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа (Архіў Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, ф. 67, воп. 1, адз. зах. 28, арк. 164); датуецца 1928 г., перад зацверджаннем В. Ластоўскага правадзейным членам Беларускай Акадэміі навук.

[1] На самай справе асобнай кніжкай «Кароткая гісторыя Беларусі» выйшла ў Вільні ў 1910 г.

[2] На самай справе «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» выйшаў у Коўне ў 1924 г.

[3] Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя. Коўна, 1926.

[4]Арыгінальны загаловак кнігі: Летописецъ Великого Кн(я)зтва Литовъско(го) и Жомоитъского: (Паводле спіска гр. Рачынскага). Выданне В.Ластоўскага коштам Беларускага Цэнтра ў Літве. Коўна, 1925.

### *Хросная метрыка Вацлава Ластоўскага (с.443)*

Друкуецца паводле аўтографа (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1781, воп. 37. адз. зах. 37, арк. 28 адв.—29).

Да апошняга часу ўсе айчынныя і замежныя энцыклапедычныя даведнікі падавалі аднолькава недакладную дату нараджэння — 20.10 (1.11) 1883 і месца нараджэння: засценак Калеснікі ў сучасным Мёрскім р-не. Цяпер дакументальна даведзена, што родны кут Ластоўскага — былы засценак Калеснікаў Задарожскай парафіі Дзісенскага пав. Віленскай губ.; да 1982 г. хутар у Плiскім сельсавеце, дзе 27 кастрычніка (8 лістапада) 1883 г. нарадзіўся будучы вучоны. (Хмяльніцкая Л. Новыя звесткі да біяграфіі Вацлава Ластоўскага // Голас Радзімы, 1994, 6 студз.; Янушкевіч Я. Фальварак Калеснікаў паміж Мнютай і Аутай: Да пытання пра месца нараджэння В. Ластоўскага // ЛіМ, 1994, 21 кастр.).

### *З ліста Гальяша Леўчыка Івану Луцкевічу (с.444)*

Друкуецца паводле выдання: Гальяш Леўчык. Доля і хлеб. (Мн., 1980). С. 113. Ліст з Варшавы 4/17 ліпеня 1911 г.

### *Ліст Янкі Купалы (с.444)*

Друкуецца паводле аўтографа (Літаратурны музей Янкі Купалы, ф. Э[пісталярны], воп. II р[аздел] 1, адз. зах. 3, № 1 інв. № 371-а).

Уяўляе сабой паштовую картку, на якой Купалавай рукою пазначаны месца, дата адпраўлення (СПб. 2/3 13 г.) і адрас: *Его Высокородію Вацлаву Юстиновичу Ластовскому, г. Вильно, Завальная, 7, ред. «Наша ніва».*

Упершыню ў арт. Я. Янушкевіча: На пачатку вечнасці // ЛіМ, 1997, 25 ліп.

### *Адам Саладух. Вацлаў Ластоўскі (с.445)*

Друкуецца паводле выдання «Przegląd Wileński». 1937, № 1. С. 1–2, дзе апублікаваны ўпершыню. Пераклад з польскай ўкладальніка.

[1] *Адам Саладух* — Талочка Уладзіслаў (1887–1942), ксёндз, рэлігійны дзеяч, які напісаў гэты заўчасны некралог, схаваўшыся пад адным з сваіх псеўданімаў (інф. Я. Саламевіча).

[2] *Застаюся пад свежым уражаннем весткі пра смерць…* — некралог апярэдзіў трагічную вестку на год: В. Ластоўскі быў расстраляны 23.01.1938 г.

### *Заява следчаму грам. Карнееву зняволенага Ластоўскага В.Ю. (с.448)*

Друкуецца паводле аўтографа з матэрыялаў Саратаўскага КГБ. Адзін з апошніх дакументаў-аўтографаў В. Ластоўскага. Падпісваючы яго, вязень нібы заставаўся ў жахлівым самнамбулічным сне, што доўжыўся пакутліва доўга: замест «1 октября 1937 года» Ластоўскі паставіў «1931».

Упершыню ў арт. М. Ількевіча: 38 гадзін «канвеернага» допыту: Новыя факты з апошніх гадоў жыцця В. Ластоўскага // Свабода. 1994. № 37, 4–11 кастр. С. 6.

# ЗМЕСТ

## *Легенды, казкі, прыпавесці*



## *Успаміны*

# ПАЭЗІЯ

## *Вершы*



## *Вершы ў прозе*

## *Драматычны абразок*



## ПУБЛІЦЫСТЫКА І КРЫТЫКА

## ЛІСТЫ



## ДАДАТАК

**Ластоўскі В.**

Л26 Выбраныя творы: /Уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1997. 500 с. [4] л. іл.

ISBN 985-6318-13-0

У магутнай кагорце беларускіх адраджэнцаў постаць Вацлава ЛАСТОЎСКАГА (1883–1938) адна з самых незвычайных.

Прем'ер-міністр БНР, даследчык гісторыі і культуры Беларусі, дасведчаны вучоны, аўтар «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка», «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», В. Ластоўскі быў выдатным публіцыстам, самабытным празаікам, арыгінальным паэтам і перакладчыкам. Заўчасна пайшоў з жыцця, стаўшы ахвярай бальшавіцкага тэрору.

Аднатомнік упершыню знаёміць чытача з лепшай часцінай багатай на плён літаратурнай спадчыны В. Ластоўскага.

Гэта — трэці па ліку том «Беларускага кнігазбору». Да яго выйшлі аднатомнікі Яна Чачота і Максіма Багдановіча.

**Б 8820600000 ББК 84(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкая выданне

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

Выбраныя творы

Рэдактары Р. І. Барадулін, Н. А. Давыдзенка
Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд.
Тэхнічны рэдактар А. С. Сабалеўская, Л. В. Суцягіна.
Кам'ютарны набор Я. Я. Янушкевіча. Вёрстка А. А. Глекава.

Падпісана да друку 30.07.1997

Фармат 84x108 1/32. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетная друк. Ум. друк. арк. 16+0,42 укл. Ум. фарб. адб. 26,46.
Тыраж 6000 асобнікаў. Зак. № 1563.

Міжнародный фонд «Беларускі кнігазбор»
220034. Мінск, вул.Фрунзе 5. Ліцензія ЛВ №1143 ад 20.06.1995г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79